№6 (79)
/лістапад-снежань/ 2015

Дзе

дзеяслоў

ЗМЕСТ

Ніл Гілевіч



...Наша зона – Балацянка.
Мы тут, мы – гаспадары!
Нам слугуюць, нас баяцца
Гэтай зоны жыхары...

# Сходка нячысцікаў

***Паэма XVI-га стагоддзя***

*На сучасны беларускамоўны лад перарабіў*
*і склаў "Слова да чытача" Ніл Гілевіч*

***СЛОВА ДА ЧЫТАЧА***

***Замест прадмовы***

Што ты, брат, такі панылы?
Звесіў глюгу і маўчыш?
Белы свет табе нямілы?
Шмат няўдач і страціў чынш?

Ці застаўся без работы,
Без заробку на штодзень?
Ці душу грызуць згрызоты,
Што на ўзлёт няма надзей?

Ёсць – і праца, і заробак.
Маеш смак. І добра спіш.
І парадак у вантробах.
Дык чаго ж тады ты скіс?

Ах!.. Ну, браце! Ну, ніколі
Не падумаў бы. Дальбог,
З-за чаго на вольнай волі
Ты прычэзнуў і знямог.

Аж, выходзіць, з той прычыны,
Што, хоць плач, хоць енч-пішчы,
Надта многа мерцвячыны
Пруць у кніжачкі пісцы.

Акілзаюць думку-догму –
І шрайбуюць на пуды.
А карысці? Мухі дохнуць
Ад атрутнай іх нуды!

І таму – як кажа Хаім,
Мой дапытлівы сусед:
“Што мы маем? Што мы маем,
Каб належна выйсці ў свет?

Што пакажаш? Доўгі шнобель,
Каб здзівіць і казырнуць?
Дык і што? За шнобель “нобель”
Нам у Швецыі дадуць?”

Рэч у тым, таварыш Хаім,
Як сказаў калісьці хтось, –
Мы і самі кепска знаем,
Што мы маем, што ў нас ёсць.

Мы не ўсё яшчэ адкрылі,
Што ў далёкія гады
Словам праведным стварылі
Нашы прадзеды-дзяды.

Хоць бы гэта вось паэма,
Ці як сёння кажуць, тэкст.
Пяць вякоў пралежаў нема
Унікальны сказ-гратэск!

А яшчэ, таварыш Хаім,
Ёсць і горшая бяда:
Многа самі мы знішчаем
І не плачам: не шкада!

Самі! Самі! Нешта спалім,
Нешта выкінем, як хлам,
І яшчэ сябе пахвалім:
Больш утульна стала нам!

Ну а колькі, братка Хаім,
Бы глузды не маюць скрэп,
Мы свайго чужым спіхаем –
Як у печ з лапаты хлеб!

Вось вам! Радуйцеся! Ешце!
Мы абыдземся і так!..
Ну, але скажу нарэшце,
Як адчуў я лёсу знак.

У адным з архіваў Польшчы
(У якім – пакуль сакрэт)
Мне наўрэўся, як дар Божы,
Неадкрыты наш паэт.

Я асвойтаў кніжак многа
З нашых даўнішніх часоў,
А не вычытаў нічога
Пра Юстына з Ліцвіноў.

Ну, калі ўжо ён наўрэўся
Менавіта мне – дык я
Натуральна й загарэўся:
Значыць – місія мая!

Я зрабіць павінен гэта –
Чытачам уцеху даць:
Старамоўны твор паэта
Мовай сённяшняй падаць.

Захаваўшы усё, канешна,
Што й тады было ў цане,
Што было Юстыну смешна
У паганскай даўніне.

А чаму ў сваёй паэме
Пасяліў ён не людзей –
Продкаў нашанскага племя,
А нячысцікаў-чарцей?

Каб чыталі як забаўку,
Ён прыдумаў хітры ход,
Быццам піша казку-байку,
А не праўду пра народ.

Гэтай хітрасцю і сёння
Карыстаюцца пісцы,
Каб абачліва-рэзонна
Небяспеку абысці.

*2015*

## Юстын з Ліцвіноў

### СХОДКА НЯЧЫСЦІКАЎ

У гнілой дзічы, на твані,
Чэрці ўселіся гуртом –
Перад оберам па званні
Грозным цмокам Кадуком.

На чарговую нараду
Іх сабраў галоўны чорт,
Каб, з надбаўкай да акладу,
Надаваць і ў хвост, і ў горб.

Ён абвёў чарцей вачыма
(А ў паглядзе – люты гнеў!)
І, адкашляўшыся чынна, –
“Пачынаем! – прагрымеў. –

Сёння я вас, паласатых,
І належна паскублю,
І па чыну, па пасадах,
Пераставачкі зраблю.

Вы – адрынутыя небам.
Я – прыгрэў вас, прытуліў.
Даў у лапы бохан хлеба
І пасадай надзяліў.

Да мяне вы што тут елі?
Церабілі шчаўе ў смак?
А на курава што мелі?
Толькі сушаны каўцяк!

Ну а сёння? Хай хто зманіць,
Што я выдаў горшы сорт.
Гэткіх "Мальбара" не смаліць
Ні адзін на свеце чорт!

Дзе ж аддача ваша, чэрці,
За спажытае дабро?
Я не бачу шчырай хэнці
Браць "тутэйшых" за рабро.

Наша зона – Балацянка.
Мы тут, мы – гаспадары!
Нам слугуюць, нас баяцца
Гэтай зоны жыхары.

Ды скажыце аткравенна,
Без ухмылак і грымас:
А ці ўсе слугуюць верна?
А ці ўсе баяцца нас?

Ёсць злачынная кагорта,
Кожны выхапень якой
Хоча быць хітрэй за чорта,
Каб і харч мець, і спакой.

Быць хітрэй за нас, хвастатых?
Но ведзь ета жа абсурд!
Дык чаму ж мы больш заўзята
Не драпежым гэны гурт?

Ваабшчэ вы вочань плоха
Службу правіце ў мяне.
Кожны дзеіць, як прайдоха:
Чэсць і гонар – не ў цане.

Я ўчарась быў у пустыні,
У Люцыпара, і там
Запытаўся: як быць з тымі.
Хто нячэсна служыць нам?

“У дрыгву! – сказаў Люцыпар. –
У дрыгву па галаву!
Калі розум цалкам выпер –
Хвост у зубы – і ў дрыгву!”

Дык чаму ж вы б’еце лынды?
Гулі ладзіце ва ўсю?
А тым часам людзі-злыдні
Прэч нас гоняць адусюль.

А свядомыя занадта
Балацянцы гавараць:
“Мы так чуемся выдатна,
Што на ўсіх чарцей начхаць!”

Чулі? Ім начхаць, нікчэмцам,
На вялікі ўвесь наш род!
Грэх цярпець такое чэрцям,
Як вады набраўшы ў рот!

Калі ў пекле самы прыпар
І ў катлах кіпіць смала –
Так угневаўся Люцыпар,
Аж праслаў ка мне пасла.

Тэрмінова патрабуе
Папаўнення грэшных душ.
Ну і што яму скажу я?
Што знямогся? Стаў нядуж?

Але ж гэткага адвеку
Не было, каб чорт Кадук
Стаў, падобна чалавеку,
Як гароху ссохлы струк.

Грозны цар мяне прымусіў
Меры жорсткія прыняць.
Хош не хош, а я вазьмуся
З вас работу спаганяць.

Дамавік! Ты служак маеш –
Крыксаў, Плаксаў – не злічыць.
Дык чаму ж не пасылаеш
На малых дзяцей начніц?

Пачаму твае красоткі
Не казычуць іх насмерць?
Правіць дзела трэба ўсё-ткі
Усур'ёз, а не на смех.

Тожа самае і Стрыга –
Разлянілася зусім.
А бывала вунь як спрытна
Дзелам правіла сваім:

Здараўчанае малое
У радзільніцы ўкрадзе,
А ўзамен яго другое –
Нездаровае – кладзе.

Вадзянік! Табе далжон я
Прад'явіць асобы шчот:
Пачаму ў нашай зоне
Мала топіцца народ?

Бачыў сам: твае русалкі
Забаўляюцца адно,
А купальшчыкаў усякіх
Не заманьваюць на дно.

Што ж ты мне за памагаты?
Я – Кадук ці не Кадук?
Пачаму ж мае загады
Выпаўняеш – ліш бы з рук?..

Баламуцень! Шмат прэтэнзій
Да цябе таксама ёсць.
Я табе даў сто ліцэнзій
Муту гнаць – паўсюль і скрозь!

Ну, а ты? Ляжыш, як труцень
У вуллі са згоды пчол.
Так не выйдзе, Баламуцень,
Калі ты прыродны чорт!

Адкажы мне: пачаму ты
У лясах, лугах, палях
Гэтак мала гоніш муты
Па крынічных ручаях?

Ведзь адтуль – з крыніц бяздонных,
Што няспынна б'юць і б'юць,
Нашы ворагі здароўе,
Сілу-моц сабе бяруць.

Ну а ты, хітрун Балотнік?
Дзе твая работа? Дзе?
Што паважнічаць ахвотнік,
Гэта знана грамадзе.

Начапіў сабе гірлянды
Багавіння, жаб, смаўжоў,
А на службе – сімулянт ты:
Павярнуўся – і пайшоў.

Жыцень! Я табе даверыў
Самы важны хлебны пост.
Ты ад шчасця зубы шчэрыў
І трымаў трубою хвост.

Абяцаў-суліў ізлішкі
З кожнай нівы і грады.
Дзе ж падзвіжкі? Дзе падзвіжкі?
Растуды тваю туды!

Ты, Лясун, лайдак хітрушчы,
Не пільнуеш лес ані.
Скора ўжо ад нашай пушчы
Застануцца толькі пні.

Ну дык вось маё рашэнне:
Годзе ў лесе лынды біць.
Пойдзеш, чорт, на паніжэнне:
Будзеш Хлеўнікам рабіць.

"Ну і што за стыд, што Хлеўнік? –
Прашаптаў сабе Лясун. –
Ліш бы ў жонкі не нахлебнік!
Ліш бы добры быў нясун!"

Ну, а Хлеўніку ўжо годзе
Дыхаць гноем – і таму
Надаю, пры вашай згодзе,
Званне Лазніка яму!

Лазню топяць штосуботу,
Дык, схаваўшыся ў куток,
Хай там цешыцца ў ахвоту
З голых бабаў і дзявок.

А цяпер як дапаўненне
Да парадку дня хачу
Вам зрабіць паведамленне, –
Досыць важнае, лічу.

Інфармую ўсіх прысутных:
К нам прыбіўся блудны чорт.
Па прафесіі – паскуднік.
Просіць нас узяць на ўчот.

Ёсць пытанне, – як-то кажуць,
Для пазнакі ў пратакол:
Ты – якей: што сроць у кашу,
Ці – што сцыць у малако?

– Той, што ў кашу... – Дык атлічна!
Брава, брава, навічок!
Чулі? Можа таямніча
Навурволіць у гаршчок!

Хто там рэкнуў, што нібыта
Дужа вонямі смярдзіць?
Ну і пусь! У нашых бітвах
Хто смярдзіць – той пабядзіць!

Закрываючы нараду,
Мушу йшчэ пра тых сказаць,
Хто імкнецца нашу ўладу
Абяссіліць, падарваць.

Пра так званых "добрых духаў" –
Гэных чысценькіх, святых;
Каб народ тут іх не слухаў –
Трэба ўзяцца нам за іх.

Каляду, Купалку, Лёлю,
Ладу, Бордзю, Белуна
Трэба сцапаць – і ў няволю,
Па кадык у вонь багна!

Чэрці мы – ці цямці-лямці?
Колькі ж можна іх цярпець?
Колькі будуць балацянцы
Ім хвалу на ўзгорках пець?

Ну няўжэлі вам не ясна,
Як нам быць і што рабіць?
Паўсямесна і ўсячасна
Трэба біць іх, біць і біць!

Вось і ўсё. На гэтым кропка.
І ніякіх больш размоў!
Наш дэвіз – наказ ад продкаў:
Болей справы – меней слоў.

Наша сходка – не кірмаш.
На работу – шагам... арш!

*2000, 2015*



Уладзімер Арлоў



...іншая форма душы
не ратуе ад смерці,
а прыцягвае яе...

# Танцы над горадам

***Аповесць***

*О déjà vu*
*у свеце гэтым цесным!*
*о тайніцы*
*ў фіранках ветрам гнаных...*

**1**

Гэтая гісторыя пачалася вельмі даўно, калі я быў яшчэ неўміручы. Зрэшты, як і ўсе навокал: сябры, бацькі, настаўнікі. Калі смерць існавала, то – недзе на іншай планеце.

**2**

Успамін надзвычай выразны і востры – шматколерны, з жывымі гукамі і пахамі.

Я прачынаюся – нібыта выныраю з утульнай зялёнае

глыбіні – і не магу ўцяміць, чаму я, цалкам апрануты, сяджу на лавачцы ў нашым двары. Навокал цёплая травеньская ноч і – неверагодная цішыня, што пахне расквітнелым белым бэзам. Мама трасе мяне за плечы, ейныя вусны варушацца, ды я нічога не чую, усё адбываецца, як у нямым кіно. І раптам, быццам з вушэй выліваецца вада, пакрысе вяртаецца слых. У зарасніку бэзу шамаціць ветрык, здалёк азываецца цягнік...

У цішыню ўрываецца мамін голас. *Сынок, сыночак, куды ты сабраўся?* – скрозь слёзы паўтарае мама. Яна ўжо не трасе мяне, а гладзіць па галаве. Мама ў сваім улюбёным бэзавым швэдры. Побач у сіняй начной піжаме – тата.

Мяне вядуць за руку дадому. Я сам распранаюся і кладуся ў ложак. Тата перацягвае з бацькоўскае спальні раскладны зялёны фатэль, на якім сцеле сабе пасцель мама. Яна больш не плача і не пытаецца, куды я сабраўся, але, каб і пыталася, гэта не мела б ніякага сэнсу. Я нікуды не збіраўся і ані не разумею, як выйшаў з кватэры і апынуўся на лавачцы. Аднак мне зусім нястрашна. Начное здарэнне нагадвае казку з зачараванымі героямі, што могуць знячэўку заснуць і расплюшчыць вочы праз цэлы год або легчы ў ложак у беднай хаціне, каб ачуцца раніцой у каралеўскім палацы.

Хтосьці ўва мне не пагаджаецца: верыць у казкі шасцікласніку пазнавата. Пад падушкаю ляжаць амаль дачытаныя “Марсіянскія хронікі” Рэя Брэдберы, і я ўсцешана параўноўваю сябе з таямнічым хлопчыкам, які ўначы стукаецца ў дзверы зямных каланістаў.

У вокны просіцца світанак. Ківач старадаўняга насценнага гадзінніка адлічвае апошнія хвіліны перад пятай гадзінаю. Нават не адлічвае, а асцярожна адразае іх двума круглымі лёзамі ад невідочнай крышталёвай прасторы часу, і яны, хвіліны, падаюць на паркет з ціхуткім меладычным звонам, што здольны пачуць адно я.

**3**

Назаўтра прыгоды працягваліся.

Усяго праз некалькі дзён травень дзівосным чынам пераходзіў у бясконцыя пакуль летнія вакацыі, і мне ўкрай трэба было паспець выправіць чацвёрку па гісторыі – справа гонару, бо мама, праўда ў іншай школе, выкладала менавіта гэты прадмет. Тата ўсё разумеў, але забраў мяне з урокаў, і мы на яго службовай пракурорскай “Волзе” паехалі да “спецыяліста”. Калі машына не спынілася каля дзіцячай паліклінікі, а павярнула да будынку са старасвецкай чырвонае цэглы, дзе на Верхнім замку месціўся “дарослы” шпіталь, я проста ўспеніўся самапавагаю і нагадаў самому сабе кубак, у які мама налівала мне на сняданак гарачае малако.

Мама чакала пры белых дзвярах з габрэйскім прозвішчам на блакітнай таблічцы. Бацькі непахісна верылі, што найлепшыя дактары, прынамсі, у нашым горадзе – габрэі.

“Спецыяліст” запрасіў спачатку аднаго мяне. Ён застаўся ў памяці найперш акулярамі і чамусьці зусім не нагадваў вясёлых, чарнявых і рудых суседзяў-габрэяў з таго раёна прыватнай забудовы, адкуль мы нядаўна пераехалі ў чатырохпавярховы дом, збудаваны пасля вайны палоннымі немцамі. Дом з высокімі столямі і такімі ж высокімі цяжкімі дзвярыма, з парадным уваходам і шырокімі лесвіцамі ды прасторнымі кватэрнымі пляцоўкамі, дзе цудоўна гулялася ў «хованкі» і можна было цэлы вечар

удала ратавацца ад “вадзілы” – гаротніка, якому выпала доля з завязанымі вачыма паляваць на астатніх.

Гаворка пра «хованкі» зайшла невыпадкова: доктар цікавіўся маімі ўлюбёнымі гульнямі і, пачуўшы пра «хованкі», адразу страпянуўся і ўзяўся штосьці занатоўваць. Яму карцела даведацца, у які час мы гуляем, ці ёсць сярод нас дзяўчаткі і ці даспадобы мне быць тым самым “вадзілам” з завязанымі вачыма. Гулялі мы пераважна ўвечары, дзяўчатак хапала, а соўгацца па пад’ездзе з растапыранымі рукамі і прыслухоўвацца да нечага стоенага дыхання, каб маланкаю кінуцца ў той бок, мне ніколі не падабалася. Пра ўсё гэта я сумленна і паведаміў доктару. Таго мой адказ відавочна расчараваў і, пашкрабаўшы пальцам скронь, ён вырашыў высветліць, ці часта мне сняцца сны і ці добра я памятаю прыснёнае.

Гэты допыт хутка надакучыў, і я вырашыў шыфравацца, адказваючы як мага карацей. Пагатоў, размова скіроўвалася на рэчы, якія належалі да таямніцаў. Нават сябру Артуру ці папросту Арціку з трынаццатай кватэры я не прызнаваўся, што кружляю ў сне вакол вежаў Сафійскага сабора, а бывае, наадварот, спускаюся вельмі нізка і разам з чайкамі імкліва пралятаю над дзвінскаю плынню. Аднойчы мне пашанцавала выхапіць з вады акунька, якога я, аднак, не праглынуў, а выпусціў назад у родную стыхію, прычым, прачнуўшыся, так і не ўзгадаў, як злавіў рыбку – птушынай дзюбаю або чалавечай рукой.

Доктар пачуў, што сны ягоны пацыент бачыць надзіва рэдка і нічога з іх не памятае. А мо ўсё ж нешта ўзгадаецца, бо тое вельмі важна? Добра, сказаў я і на хаду прыдумаў, што ездзіў у сне на жырафе, а потым, ператварыўшыся ў мядзведзя, зрабіў засаду ў маліннiку, каб дачакацца, пакуль дзяўчаткі назбіраюць поўныя кошыкі.

Гаспадар кабінета прыўзняў акуляры і, уважліва гледзячы мне ў вочы, папрасіў працягваць. І тут я, сам не ведаю чаму, мусіць, патрапіўшы пад гіпноз ягонага позірку, прызнаўся, што бачыў у сне аднакласніцу Сіму. *І як яна табе снілася?* – унікліва запытаў доктар. *Голай*, – шчыра адказаў я. Ён заззяў і падняў угору ўказальны палец. Здалося, тое самае зрабілі і два барадатыя партрэты на сценах. *А іншыя голыя... дзяўчаткі табе сняцца?* Бліснула здагадка: ён хацеў запытацца і пра дарослых жанчын, аднак не ўдакладніў, і я з чыстым сумленнем мог прамаўчаць пра сон, дзе гуляў у футбол з голай настаўніцай біялогіі.

Акуляры цікавіла таксама, якія кнігі я люблю чытаць. Адказ быў імгненна гатовы: падручнікі для сёмага класа. Доктар зноў утаропіўся ў мае вочы. Што я чытаў учора перад сном? Гэтым разам з гіпнозам у яго не атрымалася. Падручнік па геаграфіі, абвясціў я, увайшоўшы ў змову з Рэем Брэдберы.

Назваўшы мяне “маладым чалавекам”, доктар папрасіў пачакаць у калідоры і запусціў у кабінет бацькоў. Мама няшчыльна зачыніла дзверы і, як пішуць у кніжках, я ператварыўся ў слых.

Пачуць удалося вобмаль. Спярша ў маміным выкананні я выслухаў добра знаёмую гісторыю. Я-маленькі не баяўся цемры, смела заходзіў у цёмны пакой, зачыняўся і доўга глядзеў на неба. З’явіўшыся пасля астранамічных назіранняў перад бацькамі, я – бо толькі нядаўна загаварыў – быў лаканічным: *Я і месяц!* Калі месяца не было, справаздача мела два варыянты: *Я і зоркі!* або – *Я і неба!*

Потым я разабраў, што доктар пацікавіўся, ці не хварэю я на нейкую

хваробу на літару "э". *Крый Божа! Крый Божа!* – спалохана адгукнулася мама. Яны размаўлялі даволі доўга, і да майго слыху данеслася некалькі разоў паўторанае слова – *перарасце*. Было зразумела, каго яно датычыла, але перарастаць самога сябе чамусьці не хацелася.

### 4

Візіт у "дарослы" шпіталь меў два наступствы: па-першае, перад сном мяне пачалі карміць блакітнай саладкаваю пігулкай, а па-другое, адбыліся перастаноўкі ў нашай трохпакаёўцы на другім паверсе. Раней я спаў у пакоі, дзверы ў які вялі адразу з вітальні. Цяпер мой ложак перавандраваў у спальню да бацькоў, дзе можна было апынуцца, пакінуўшы за сабой так званую "залу" з канапай, двума фатэлямі ды чорна-белым тэлевізарам, бо каляровыя ў гэтых шыротах тады проста не сустракаліся. У выніку пературбацыяў "зала" сталася адначасова і бацькоўскай спальняй.

Такім чынам, я быў ўзяты пад пільны нагляд, але на перастаноўках перамены не скончыліся. Вакно ў маёй новай рэзідэнцыі адчынялася ўсяго на далонь, а далей яму перашкаджалі дзве заглушкі з прышрубаваных да рамы старых дзвярных ручак. Трэцяя заглушка блакавала фортку. *Гэта камера?* – спакойна, як і належала ў такім выпадку сыну пракурора, запытаўся я. Тата паклаў мне руку на голаў: *Пра такую камеру мараць усе на свеце злачынцы.* Гэта рэкамендацыя доктара дзеля маёй бяспекі. І – зусім ненадоўга. Я амаль дарослы і павінен зразумець.

І сапраўды, каб зразумець, што адбываецца, я пражыў ужо дастаткова. Рэч не ў міжволі падслуханай мамінай тэлефоннай размове: *...у нашым родзе не было... калі не дапаможа, доктар прапануе гіпноз... не ведаю з вёскай...* Апанаваны самымі супярэчлівымі пачуццямі, я не сумняваўся, што апынуўся ў ліку лунацікаў.

З вядомага мне раней вынікала, што ў поўню лунацікі выходзяць на дахі і любяць ісці па самым краі. Артурава бабуля расказвала нам, як вельмі даўно, за царскім часам, лунацік перайшоў па парэнчах мост цераз Дзвіну. *Ты ўсё пераблытала,* – сказаў Арцік, – *не лунацік, а акрабат і не Дзвіну, а – Ніягарскі вадаспад у Амерыцы.* Мы зарагаталі, а бабуля пакрыўдзілася. Чамусьці выглядала, што такія неймаверныя падзеі насамрэч могуць адбывацца адно дзесьці за акіянам, а не ў ціхім прыдзвінскім горадзе, дзе толькі летась з'явіўся першы святлафор.

### 5

Аднаўляючы ў памяці сваё абуджэнне на лавачцы пад бэзам, я, хоць забіце, не мог узгадаць, каб на небе была поўня або наогул месяц. З урокаў прыродазнаўства ў чацвёртым класе я засвоіў, што калі серп зямнога спадарожніка выглядае, як літара "С", – месяц сыходзіць, або, іншымі словамі, знаходзіцца ў апошняй квадры, а калі, правёўшы ад адной "дзюбкі" да другой простую лінію і працягнуўшы яе ўніз, вы атрымаеце літару "Р", – месяц расце. Што ж дзеялася ў тую ноч? І тут, як казалі ў нас у двары, хтосьці даў мне шчаўбана: каляндар! На кухні вісеў адрыўны каляндар, які, апрача ўсяго іншага, паведамляў і квадры месяца!

На шчасце, мама не зрывала з календара лісткі, бо пры канцы года выбірала надрукаваныя на адгортах кулінарныя рэцэпты, і я без прабле-

маў знайшоў дзень з “бэзавай” ноччу. Чорны кружок у правым ніжнім куце старонкі неабвержна сведчыў, што месяц на неба тады не выходзіў, значыць, быў западозраны беспадстаўна. Хоць, магчыма, і не зусім, бо ён усё ж быў прысутны сярод зорак, але – павярнуўшыся да Зямлі неасветленым бокам.

Лісток ніякіх карысных парадаў не ўтрымліваў, а таму я без згрызотаў сумлення адарваў яго і схаваў у шуфлядку стала, пры якім рабіў хатнія заданні, – праўдзівей, не стала, а засцеленай салатавым абрусікам мамінай нажной швачнай машынкі “Veritas”, якая ўслед за ложкам пераехала ў маю новую спальню. У той самай шуфлядцы таіўся мой дзённік, не школьны, а асабісты – пачаты з Новага года агульны сшытак у смарагдавай вокладцы. Акурат дзякуючы гэтаму дзённіку, які я давёў да восені, мне і ўдаецца цяпер узнаўляць некаторыя падзеі й нюансы.

Напрыклад, паход у бібліятэку.

## 6

Патрэбны цяжкі жоўты том «Дзіцячай энцыклапедыі» называўся «Чалавек». Такіх сур’ёзных кніг у школьнай бібліятэцы дадому не выдавалі, аднак мне як заслужанаму чытачу зрабілі да заўтрашняй раніцы выключэнне.

Уладкаваўшыся за швачнай машынкай і раз-пораз націскаючы ад хвалявання на шырокі понаж, я высветліў: артыкула пра лунацізм няма, але не паспеў засмуціцца, бо раздзел, прысвечаны сну, разгарнуўся акурат на малюнку, які ўмомант заваражыў.

Па гзымсе старадаўняга трохпавярховага будынка на чорным тле ночы спакойна ішоў мужчына ў паліто і цыліндры, а ўнізе, на вузкай брукаванцы, панаваў пярэпалах: пасажыры двух экіпажаў разам з мінакамі, закінуўшы галовы, у жаху сачылі за лунацікам. Пра тое, што гэта быў менавіта ён, сведчыў подпіс: «лунацік не ўсведамляе небяспекі і таму не адчувае страху перад вышынёй».

На той жа старонцы я праглынуў некалькі дзясяткаў радкоў, якія апавядалі, што лунацізм – рэдкае парушэнне сну, калі чалавек, не прачынаючыся, устае з пасцелі, блукае па доме або падымаецца на дах і дэманструе неверагодны спрыт у руках.

Пасля гэтага ён вяртаецца ў ложак і ўранні нічога не памятае. Насуперак пашыранаму меркаванню, таямнічы ўплыў месяца тут ні пры чым, бо лунацікі выходзяць на прагулянкі і ў бязмесяцавыя ночы, і падчас дзённага сну, а таму ў навуцы апісаная з’ява называецца самнамбулізмам. Энцыклапедыя раіла ні ў якім разе не палохаць лунаціка, не будзіць яго, а пастарацца асцярожна адвесці назад у ложак. Бацькі таго відавочна не ведалі, але доктар іх, пэўна, ужо адукаваў.

Я адарваўся ад кнігі і перавёў дыханне. За вакном апусціўся вечар, і на небе заззяла зорка Венера. Заставалася даведацца, што начныя блуканні залежаць ад успышак узбуджэння ў асобных частках заснулага мозгу і могуць быць прыкметаю развіцця эпілепсіі. Вось тая хвароба на «э», пра якую пытаўся доктар!

Што такое эпілепсія, наш клас добра ведаў дзякуючы рыжаму Яшу, якога гэтая хвароба схапіла сёлета на кантрольнай па алгебры. Уявіць сябе на ягоным месцы ані не хацелася, а таму я з велізарнай палёгкаю прачытаў: самнамбулізм паддаецца лекаванню! Успамін пра Яшаў прыпадак

не даваў спакою, і на дадатак да блакітных пігулак я на хаду вынайшаў новы сродак лекавання: перад сном буду прывязваць вяровачкай левую руку да білца ложка.

На сон я пачытаў і пра летаргію. Знакаміты расейскі фізіёлаг Паўлаў назіраў хворага, што праспаў дваццаць гадоў. На малюнку дзяўчына, якую везлі на катафалку ў труне, уздымала ейнае вечка, разганяючы пахавальную працэсію. Энцыклапедыя суцяшала, што сучасная навука такія выпадкі выключае. Яшчэ больш супакоіла і нават развесяліла фраза з артыкула пра сны: чалавек усю ноч праспаў, а ўранні распавядае, як кагадзе хадзіў на паляванне з людзьмі свайго племені. Хацелася б мне прысніць маё племя.

## 7

Між тым чацвёрка па гісторыі была выпраўлена, і, прагрукатаўшы навальніцаю, прыйшоў чэрвень. Такой парой мяне штогод адпраўлялі на лета ў бабуліну вёску. Але дзень прамінаў за днём, а я па-ранейшаму глытаў нанач блакітную пігулку, прывязваўся да ложка вяровачкай і засынаў з новай кніжкаю фантастыкі.

Там, на далёкай планеце, расло дзівоснае дрэва, вяршаліна якога гублялася ў захмар'і. Прыхадні з Зямлі, узброеныя магутнымі піламі, уздымаліся па дрэве-волаце, каб спілоўваць галіны, здабываючы каштоўную драўніну. Аднак іхняя дзейнасць не заставалася беспакаранай. Дрэва баранілі тубылкі-дрыяды. Мне снілася, што мы з Артурам далучыліся да іх і жылі ў дуплах на вышыні кіламетра. Там, у густой лістоце, мы чакалі чарговага зямляніна, каб бязлітасна скінуць яго разам з крукамі, вяроўкамі ды піламі ў зялёную бездань. Зрэшты, на такі выпадак шкоднікі мелі парашуты.

Падзяліцца сном ужо не было з кім: мой паплечнік з'ехаў з бацькамі на мора. Заставаўся дзённік, які захаваў звесткі, што назаўтра пасля нашай гераічнай абароны ад зямлянаў тата абвясціў: курс прапісаных мне пігулак сканчваецца і ў пятніцу ягоны кіроўца адвязе мяне ў вёску.

Дарогаю, апавядае дзённік, я згадваў, як некалі, малы, быў перакананы, што – калі пры канцы жніўня ад'язджаў назад у горад – жыццё ў вёсцы замірала: бабуля і цётка з маімі стрыечнымі сястрычкамі застывалі пры весніцах, тое самае адбывалася з каровамі на пашы пры лесе, да новага лета заціхалі гракі на старой бярэзіне. Усё спынялася, пакуль маё новае з'яўленне пры канцы вясны зноў не запускала таемны механізм усеагульнага руху. Як даўно тое дзеялася! Я быў на парозе дарослага жыцця і лекаваўся ад цалкам дарослай хваробы – уваччу стаяў чалавек у цыліндры, што імкліва крочыў па даху.

Мама сказала, гэтым летам давядзецца выконваць пэўныя правілы: спаць буду, дзе і раней, у другім пакоі бабулінай хаты, а вось начаваць на свежым сене ў адрыне будзе забаронена, і зразумела – чаму. Мама вырашыла развіць думку ў жартоўным накірунку: я магу сесці ўначы на станцыі ў цягнік і апынуцца, напрыклад, у Адэсе. І што ім з татам тады рабіць? Перспектыва выйсці з цягніка ў Адэсе выглядала зваблівай, ды я, намацваючы ў кішэні сваю начную вяровачку, пагадзіўся: лепей усё ж выправіцца туды разам з бацькамі, што было абяцана пасля сёмага класа.

Ад'язджаючы ў нядзелю, мама дала наказ: абавязкова піць сырадой, прычым не толькі па раніцах, але ў абед і ўвечары. У вайну яна хварэла на запаленне лёгкіх і, паводле яе глыбокага перакананння, засталася жыць

выключна дзякуючы сырадою, бо кароўку ўдавалася хаваць і ад немцаў, і ад партызанаў. Вера ў цудадзейныя ўласцівасці малака не пакідала маму ніколі. *Свежае паветра і малако. Вернешся здаровенькі.*

Мама не памылілася. Вяровачка мяне ні разу не разбудзіла. Я вярнуўся ў свой пакой справа ад вітальні, і вокны ў ім адчыняліся наросцеж.

## 8

Ад тых прыгодаў прамінула чатыры зімы і тры леты.

Вясна апошняга школьнага года засталася ў памяці ранняй і ласкаваю. Я пачуваўся зусім самастойным: па-даросламу, як у нас тады казалі, сустракаўся з прыгажуняю Лорай з паралельнага класа, рыхтаваўся да выпускных экзаменаў і збіраўся стаць студэнтам гістарычнага факультэта ў сталіцы.

Лора жыла з маці, якая часта працавала ў начную змену. У такія дні я вяртаўся дадому пад раніцу, асцярожна адмыкаў дзверы і шчасліва выцягваўся на ложку пад выразанымі з польскіх часопісаў партрэтамі Джона Ленана і Міка Джагера. Мае неверагодна адчувальныя, як нядаўна высветлілася, смочкі нават ад дотыку прасціны зноў запальвалі жаданне, дамаўляючыся з якім я і правальваўся ў кароткі сон.

Фігурыстая, з воблакам медных валасоў і агатавымі вачыма, Лора сталася і каханкаю, і сяброўкай. У другой іпастасі яна замяніла Артура, што пасля восьмага класа паступіў у мараходку і прыслаў на памяць пра дзіцячае сяброўства дзве паштоўкі з балтыйскімі краявідамі, якія разам з іншымі рэліквіямі знайшлі сабе месца ў шуфлядцы маёй роднай швачнай машынкі, як і раней засцеленай салатавым настольнікам.

Неяк увечары я вырашыў зрабіць у гэтай маленькай кунсткамеры рэвізію. Апрача Арцікавых паштовак пакруціў у руках манету з партрэтам яшчэ незнаёмага манарха на аверсе і конным рыцарам на рэверсе, потым старую блешню са шпуляй лёскі і свой першы гадзіннік, што даўно стаміўся вымяраць час. Цёпла адгукнулася ў душы важкая ад пяску бляшанка з-пад гуталіну, з якой я паспяхова гуляў на асфальце ў «класікі». У глыбіні вузкай шуфлядкі сумаваў альбом з маркамі, а пад ім зелянеў агульны сшытак майго даўняга дзённіка.

Сэрца злёгку падскочыла: няўжо гэта я выводзіў такія роўныя радкі з круглявымі літарамі, не падкрэсліваючы, як цяпер, «ш» і не пішучы друкаванае «т»? Вока выхоплівала фрагменты па-дзіцячы наіўных сказаў з акуратна выпраўленымі зверху памылкамі. Мільганула думка пагартаць знойдзены помнік пісьменства разам з Лораю, але ў дзённіку сустракаліся імёны іншых дзяўчатак...

Сярод старонак вытыркалася закладка – пажоўклы лісток календара, што прымусіў кроў пабегчы па жылах хутчэй. «Учора тата і мама вазілі мяне да «спецыяліста». Магчыма, я – лунацік. Ды мне не страшна, таму што я смелы і люблю фантастыку». Цёплымі хвалямі бэзавага паху вярталася мінулае. Маміны слёзы і тата ў піжаме на начным двары... Узняты ўгору палец доктара... Вакно, куды можна было прасунуць адно руку... Вяровачка на руцэ... Я міжволі ўсміхнуўся: шкада, што ўсё скончылася, так і не разгарнуўшыся ў сюжэт з прагулянкамі па дахах, знаёмствамі з тамтэйшымі катамі й коткамі, пярэпалахам начных мінакоў...

Але сюжэт толькі пачынаў закручвацца.

## 9

У няпісанай гарадской тапаніміі тая спаруда над Дзвіной мела дзве назвы: Гатэль і База. Сваёй загадкавасцю і метафізікай – улюбёнае слоўца нашага настаўніка астраноміі – мне значна больш падабаўся Гатэль. Гатэль, дзе ніхто не жыве... Тут было разгарненне для фантазіі.

Некалі ў тым будынку меліся адкрыць спартовую базу з гатэлем для весляроў і яхтсменаў. З тае прычыны спаруда сапраўды нагадвала карабель: супроць рачной плыні быў павернуты ветразь з арматуры і цёмнага, амаль чорнага шкла, пад якім намагаўся трымацца на плаву бетонны галіён з палубамі-паверхамі. Мы з Арцікам спрабавалі называць гэты «карабель» Лятучым Галандцам, ды пастанавілі адмовіцца ад рамантычнага найменя. Лятучай лёгкасці там і не начавала: цяжкі шасціпавярховы бетонны кубік меў яшчэ і нізкую груваcткую карму. Будоўлю закінулі гады чатыры таму. Ветразь зеўраў шматлікімі квадратамі з выбітым – ці то звонку, ці то знутры – шклом, а зашкліць вокны самому Гатэлю так і не паспелі.

Калісьці там адбылася жахлівая падзея: загінулі хлопец і дзяўчына. Адны лічылі, што яны выпадкова сарваліся з высачыні, другія – што скончылі жыццё самагубствам, трэція сцвярджалі, нібыта з гатэльнага даху іх хтосьці скінуў. Следства, казаў тата, скончылася нічым. Што б тады ні здарылася, але ўдзень Гатэль, які чакаў лепшых часін за пакінутым будаўнікамі высокім плотам, нязменна выклікаў у душы лёгкую трывогу, што, праўда, не палохала, а, наадварот, вабіла. Мы з Артурам некалькі разоў даследвалі тыя мясціны, і кожная такая выправа пакідала адчуванне дотыку да таямніцы.

Вакол пацямнелага ад дажджоў дашчанага плота буяў бур'ян і гусцелі астраўкі вербалозу. Утравелая дарога падводзіла да забітай крыж-накрыж брамы і, ператварыўшыся ў сцежку, паварочвала направа. Сцежка пакрысе рабілася больш зарослай, аднак знаходзіла сілы абабегчы ўсю згароду і, амаль зніцеўшы, вярнуцца да брамы. Калі, абдзіраючы рукі і ногі, мы пералазілі плот з боку ракі, то апыналіся ў тыле колішняй будаўнічай пляцоўкі, дзе ацалеў лапік поплава з высокай травой і дываном красак – смолак, зязюльчыных слёзак, званочкаў, піжмы, белага і жоўтага донніку, мышынага гарошку... – за веданне ўсіх гэтых назваў я ўдзячны сваёй бабулі.

Вядома, у тых рызыкоўных вылазках мы з Арцікам спрабавалі патрапіць і ў сам Гатэль. Але ўсе пяць ягоных дзвярэй заўсёды стаялі замкнёныя, а з замочных адтулінаў тырчэла пакулле. Ніхто не ведаў, што магло чакаць за тымі дзвярыма, і надыходзіў момант, калі ўзнікала адчуванне, быццам нехта спрабуе адчыніць дзверы і з таго боку. Тады мы, не згаворваючыся, адступалі да плота і адно за ім адважваліся кінуць праз шчыліну позірк назад. Усе ўваходы па-ранейшаму былі зачыненыя, ды, здавалася, адтуль за намі таксама хтосьці назірае.

## 10

Я ведаў, гэта не сон і абсалютна ўсё памятаў і разумеў, хоць усведамленне таго, што дзеецца, прыходзіла з пэўным адставаннем, паступова праяўляючыся на экране свядомасці. Апынуўшыся на двары, я ўспамінаў, як ціхутка зачыняў дзверы і спускаўся па лесвіцы. Прамінуўшы арку і ступіўшы на вулічны ходнік, «бачыў», як пераходжу начны двор. Пакінуўшы за спінай даўно зачынены касцёл і павярнуўшы на закінутую

дарогу да Гатэля, я запознена сустракаўся позіркам са святымі Пётрам і Паўлам, якія аздаблялі франтон, але не маглі нікога багаславіць, бо ў кожнага хтосьці рупліва адбіў правую руку.

Сам паварот за мураванай касцельнай агароджаю «даганяў» мяне ўжо на закінутай дарозе, што ад часу нашых з Артурам адважных экспедыцый зарасла не толькі травою, а сям-там і хмызняком. Аднак прамежкі паміж маімі дзеяннямі ды іхняй «трансляцыяй» хутка скарачаліся. За плотам яны канчаткова знікалі, і я, можна сказаць, супадаў з самім сабой.

Плот пераадольваўся там, дзе і калісьці, а падцягвацца і пералазіць цераз яго не было патрэбы: праз колькі крокаў ад выспы вербалозу, падобнай здалёк на велізарнага вожыка, шырокая дошка трымалася ўсяго на адным верхнім цвіку і лёгка адыходзіла ўбок. Адтуль ледзь прыкметная сцяжынка – дакладней, намёк на яе – наўпрост вяла да саміх непрыкметных гатэльных дзвярэй. Яны, як і астатнія, былі на замку, ды адчыняліся і зачыняліся звычайным цвіком з расплясканай галоўкай. Яго дастаткова было павольна павярнуць тры, а часам і два разы. Кожны меў уласны такі ключ, прычым я не мог прыгадаць, ад каго і калі яго атрымаў.

Дзверы, найверагодней, павінны былі служыць чорным ходам, які праз дзясятак прыступак выводзіў у шырокую прастору першага паверха, дзе, відаць, меркавалася зрабіць рэстарацыю або канферэнц-залу. Два бетонныя маршы і сорак восем засыпаных бітым шклом і тынкам прыступак вялі на другі паверх. Потым лесвічныя пралёты рабіліся карацейшыя, і паміж паверхамі заставалася па трыццаць прыступак, што аўтаматычна адлічваліся ў паўзмроку. На кожным паверсе на два бакі разыходзіліся кароткія цёмныя калідоры з прахонамі для дзвярэй гатэльных нумароў. Аднаго разу тарганулася жаданне прайсці па калідоры. Я зрабіў колькі крокаў, але прыцемак наперадзе адразу згусціўся, папярэджваючы, што мне туды не трэба.

Мне трэба было на шосты паверх, адкуль заставаліся апошнія прыступкі да выйсця ў зорнае неба.

## 11

Мы ішлі па адным і ніколі не сустракаліся, бо кожны меў свой маршрут, ды часам, ужо на закінутай дарозе да Гатэля, я мог знячэўку ўбачыць наперадзе невысокую, вузкаплечую і трохі нехлямяжую постаць Настаўніка, які рухаўся, здавалася, нейкімі рыўкамі – то павольна, то паскараючы крок. За ім, крыху воддаль, нязменна ішла Гімнастка. Маленькая, танклявая, але налітая сілай, яна, наадварот, крочыла рытмічна і лёгка, так, быццам пад ступачкамі ў яе былі схаваныя спружынкі, што падкідвалі цела над зямлёй. Юная зорка спартыўнай гімнастыкі, як называла яе гарадская газета, вучылася ў восьмым класе суседняй школы. Я запамятаваў, дый не хацеў узгадваць ейнага імя, бо яно магло парушыць загадкавы баланс таго, што з намі адбывалася.

Наогул у тыя імгненні не думалася ні пра яе зорнасць, ні пра нехлямяжасць Настаўніка. Мяне апаноўвала невыказная радасць: я – не самотны, мы ідзем, мы – разам, мы падымемся па прыступках і выйдзем на дах, дзе сустрэнем астатніх. Магчыма, азірнуўшыся, я мог бы ўбачыць яшчэ кагосьці з нашага маленькага брацтва, аднак ніколі не рабіў гэтага: хапала і той радасці, што перадавала сваю вібрацыю кожнай часцінцы маёй істоты.

Мы збіраліся ў розным парадку, але Залацістая і Котка кожнага разу ўжо былі там. Яны ж і заставаліся апошнімі – нібыта й жылі на даху або недзе ў нетрах Гатэля, хоць такая версія мне не надта падабалася. Залацістая зазвычай сядзела на краі люка, у які звісалі яе босыя ногі, а Котка вітала нас, збягаючы насустрач па прыступках да шостага паверха, затым паважна, быццам паказваючы дарогу, ішла наперадзе да лесвіцы ў неба, перад якою прасілася на рукі, каб цёплым вуркатлівым камячком аддана прытуліцца да грудзей. Найпазней з'яўлялася Кіяскёрка – як неўзабаве стала вядома, яна ішла з няблізкага Зарэчча.

З прыходам кожнага пачуццё еднасці мацнела. Заўсёды шчаслівыя адно ідыёты, але ж чалавеку выпадаюць шчаслівыя хвіліны, гадзіны, дні. Той час на даху ўкрай поўніўся шчасцем.

Чакаючы, пакуль усе будуць у зборы, Гімнастка, здаралася, успамінала, што яна – гімнастка: выходзіла на сярэдзіну даха ды, палохаючы ластавак, якія гэтаксама лічылі дах сваім, пачынала круціць сальта за сальтам, лёгка пералятаючы вентыляцыйныя калодзежы і часам відочна пакідаючы межы нашага прастакутніка, ды ў апошні момант паспяваючы згрупавацца і мякка прызямліцца на самюткі край. Чамусьці ні я, ні, думаю, ніхто іншы не адчуваў страху за яе, толькі Котка пасля такіх рызыкоўных вылетаў падыходзіла і церлася аб ногі з рэльефнымі цяглiцамі – можа, дзякуючы за пабачаную віхуру скачкоў, а можа – за тое, што Гімнастка вырашыла застацца тут, з намі.

## 12

Цяпер ведаю, я не проста належаў да меншасці, якая, абуджаючыся, памятае свае дзеянні, але і сярод меншасці быў анамаліяй, бо выразна бачыў ці, прынамсі, меў перакананне: мне на яве дадзена бачыць усё адбытае. Поўнай упэўненасці ў мяне няма, бо па дарозе дадому зноў пачыналіся затрымкі ва ўспрыманні рэчаіснасці і тое, як я адмыкаў дзверы і рабіў з вітальні тры крокі да свайго пакоя, праяўлялася ўжо тады, калі я нацягваў на сябе коўдру.

Аднак існавалі і невытлумачальныя прагалы. Напрыклад, немагчыма ўспомніць, як пераадольвалася адлегласць ад пляцоўкі паміж чацвёртым і пятым паверхамі Гатэля і пляцоўкаю шостага. Наяўнасць паміж гэтымі пляцоўкамі двух маршаў і трыццаці прыступак я сцвярджаю ўсяго паводле аналогіі.

З памяці амаль сцерлася і тое, у што мы былі апранутыя. Амаль – бо здалёк усё ж свеціцца нечы «чмяліны», у чорную і залацістую палоскі, швэдрык, пад якім нагадваюць пра сябе жаночыя грудзі.

Затое аблiччы кожнага з нашага брацтва – перада мною, усё роўна як гэта дзеялася ўчора, хоць яны, абліччы, і падсвечаныя праз далечыню гадоў маім сённяшнім успрыманнем.

Настаўнік не можа пахваліцца ростам, але ўвесь якісьці светлы, і таму выдае вышэйшым. Малады і адкрыты, нязменна чыста выгалены і крыху здзіўлены твар. На лоб спадае густая пасма ячменных валасоў, ды ёй не ўдаецца схаваць вялікай радзімай плямы, што нечым падобная да зоркі. Вочы за акулярамі ў тонкай апраўе глыбокія і сур'ёзныя і разам з тым – безабаронныя.

Смуглявая, каравокая Гімнастка з тонкай таліяй і кароткай каштанавай

касой. У яе ўсё невялікае і зграбнае – вушкі, задзірлівы нос, пальчыкі на выштукаваных руках, бездакорныя ступачкі...

У Залацістай не толькі кучаравыя валасы гэтага колеру, ейнае цела – абрыкосавае і злёгку свеціцца. Потым звяртаеш увагу на месяцападобны твар з зялёнымі вачыма пад доўгімі, як крылцы матылька, вейкамі. Яна трымае правае плячо крыху вышэй за левае, ногі не зусім дасканалыя, але затое – неверагодна прыгожыя рукі з доўгімі пальцамі і раптоўна тонкімі запясцямі! Уся гэтая вонкавая несуладнасць выглядае па-асабліваму гарманічна. (Тады я не ведаў, аднак адчуваў, што «прыгажосць» не ёсць прыгажосцю, а недасканаласць можа быць прыкметаю якраз дасканаласці.) Аблічча Залацістай цудоўна дапаўняе няўлоўнасць яе гадоў: ёй можна даць дваццаць пяць, а праз хвіліну – удвая болей. Яна проста не мае ўзросту.

Кіяскёрка – самая рослая з нас, ці не на паўгалавы вышэйшая чым я, з навальнічнаю хмараю чорных з сінім адлівам валасоў і вузкім авалам твару, які цяжка назваць прывабным, ды сітуацыю ратуюць вялікія вочы, што – у залежнасці ад асвятлення – мяняюць колер ад аксамітава-чорных да валошкавых і раз-пораз успыхваюць бурштынавымі агеньчыкамі. Яе доўгія стройныя ногі пераходзяць у высокія клубы і адначасова нібыта дасягаюць і спакуслівых грудзей, трымаючы іх на жывой зваблівай кансолі. Я, зрэшты, як і сёння, не адмыслоўца ў вызначэнні жаночага веку, але Кіяскёрка здаецца ўдвая старэйшай за мяне.

Не магу нічога сказаць пра галасы, бо мы ніколі не размаўлялі: нам ставала моўкнасці, кожны, як і я сам, відаць, кіраваўся тут унутранай забаронаю, парушыўшы якую мы рызыкавалі б разбурыць нашае брацтва. Праз гэта я не ведаў і імёнаў, апрача, вядома, імя і голасу Настаўніка – вы ўжо ведаеце, ён выкладаў у нас астраномію і любіў уштукаваць у расповед пра сузор'і і планеты сваю ўлюбёную «метафізіку». Але я быў пэўны: у яго ёсць іншае імя.

І – Котка.

Яна не належала да экзатычнай пароды – звычайная трохколерная рыска, аднак з невераемна доўгім хвастом, што, закінуты на спінку, даставаў да вушак. Я не памыляюся, бо там, на лесвіцы, браў нашую сяброўку на рукі, і далей мы падымаліся разам. Яна пакусвала мяне за мезенец левай рукі, а правай я пагладжваў яе па асабліва чуйным падчарэўцы. Там у Коткі з правага боку была круглая ружовая плямка без поўсці, усё роўна як хтосьці прыклаў на міг распаленую жалезную пячатку. Ад маіх ласак Котка шчасліва вуркатала, але, калі пальцы краналіся плямкі, мая трапяткая ноша здрыганалася і амаль па-чалавечы ўскрыквала.

Котка была адзінай, хто падаваў голас. У астатнім яна ўспрымалася намі як роўня, хоць не мела ключа ад уваходных дзвярэй. Ды хто ведае...

## 13

Калі не лічыць Залацістай і Коткі, мы прыходзілі ў абутку, але танчылі басанож, і крыты рубероідам з бітумнымі швамі дах дзяліўся з намі назапашанай за дзень цеплынёю.

Канону не існавала, і ўсё адбывалася па-рознаму. Часам мы ўтваралі кола вакол Коткі, ды тая не заставалася на месцы, рухаючыся па ўласнай складанай траекторыі. Котка ніколі не блыталася пад нагамі, яна трымала дыстанцыю і таксама танчыла.

Мы пачыналі разам з музыкай. Спярша ў паветры тонка-тонка звінела невідочная страла, і з гэтым гукам дзесьці ўзлятала рука дырыжора. Музыка была нячутнай вуху, аднак запаўняла сабой усю прастору і цалкам брала ў сваю ўладу. Мелодыі нябесных сфераў... Вызначэнне мне не надта даспадобы, але лепшага знайсці не ўдалося. У маім уяўленні для нас гучалі санаты: імклівыя алегра, задуменна-павольныя андантэ, імпэтныя кантрастныя скерца...

Наш танец немагчыма дакладна апісаць, бо кожны аддаваўся яму па-свойму, ды існавала і тое, што яднала: тут не было старэйшых і малодшых, галоўных і тых, хто мусіў слухацца. Усе – роўныя, і гэта давала непараўнанае пачуццё лёгкасці і свабоды.

Спачатку мы рухаліся маленькім колам у адзін бок, потым, не згаворваючыся, паварочвалі ў іншы. Кола то пашыралася, то, наадварот, сціскалася так, што мы судакраналіся плячыма і рукамі. Кожны такі дотык быў неверагодна прыемны, нагадваючы адчуванне, калі я, малы, кранаў ручкаю маму. Праз нейкі час надыходзіла імгненне, калі мяне і – упэўнены – усіх астатніх працінала пачуццё вусцішнай самоты. Тады мы без усякае каманды бралі адзін аднаго за рукі, і Котка зноў выходзіла ў сярэдзіну.

Раз і назаўсёды зацверджанага парадку ў коле не існавала, мы мяняліся месцамі, і таму я памятаю рукі ўсіх танцораў. Маленькая і цёплая рука Гімнасткі здзіўляла моцнымі кароткімі пальчыкамі, якія я мог асцярожна перабіраць, адчуваючы, як яны адгукаюцца лёгенькім пакалываннем нябачных іголачак. Здаралася, мае ногі сустракаліся з ейнымі такімі ж маленькімі цёплымі ступакамі. Рукі Настаўніка таксама былі цёплыя і моцныя, аднак вялікія ды шурпатыя, а яшчэ – знаёмыя з дзённага жыцця, бо ён, спаткаўшы вучняў школе або нават у горадзе, шторазу вітаўся за руку. Залацістая мела рукі надзіва далікатныя і амаль няўлоўныя, з ядвабнымі падушачкамі на пальцах, вакол якіх віхурыўся ветрык. Кіяскёрка ўражвала шорсткімі рукамі з мазалямі, відаць, не толькі гандлявала газетамі і часопісамі, але, думалася мне, часам садзіла памідоры і кветкі. Ейныя выцягнутыя далоні з доўгімі пальцамі неслі камфортны халадок і любілі злёгку сціскаць чужую руку, прынамсі, маю, ад чаго па ўсім целе разлівалася гарачыня. Тое самае дзеялася, калі ногі сутыкаліся з сухімі лодачкамі яе ступакоў.

Потым мы абдымаліся за плечы, ствараючы зусім вузкае кола, у якім кожны чуў дыханне ўсіх іншых. Вузкія плечы Настаўніка сцвярджалі сябе дужасцю. Гімнастка, здавалася, заўсёды гатовая выслізнуць з-пад твае рукі, ды ніколі не рабіла гэтага. У Кіяскёркі плечы чымсьці нагадвалі ейныя рукі, а ў Залацістай здзіўлялі дзьмухаўцовай эфірнасцю. У такія хвіліны Котка вандравала з плячэй на плечы, часам асцярожна выпускаючы кіпцікі, што, як выглядае, замяняла для яе нашыя абдымкі.

Рукі ніколі не хацелася апускаць, але законы танца былі вышэйшымі. Набліжалася хвіля, у якую мы – без чыйго-небудзь знаку – не спыняючы руху, зноў браліся за рукі і заплюшчвалі вочы. Першы раз уявілася, што такое жаданне наведала адно мяне, ды, употай стрэліўшы позіркам па баках, я пераканаўся: павекі апушчаныя ва ўсіх.

Так мы рухаліся даволі доўга, і гэта была самая небяспечная частка танца, бо дах меў невялікую плошчу. Аднак, калі кола набліжалася да краю, Котка падавала нягучны сігнал, і ўсе на міг завіралі. Аднойчы Настаўніка

аддзяляў ад бездані вузкі раўчук бляшанага вадасцёку. Іншым разам адна ножка Гімнасткі ўжо марна намацвала цвёрдую паверхню. Ніякага пярэпалаху не ўзнікала, і мы пачыналі танчыць, пакрысе аддаляючыся ад магчымасці палёту.

І нарэшце ў бязгучным суладдзі танца надыходзіў момант, калі мы адпускалі рукі і ўскідвалі іх у неба, туды, адкуль на нас глядзелі зоркі.

## 14

Яшчэ працягваліся ўрокі, і ў школьным калідоры я сутыкнуўся з Настаўнікам, што на выцягнутай руцэ нёс разгорнутую мапу зорнага неба. Сэрца шалёна закалацілася, але Настаўнік аказаўся проста настаўнікам астраноміі. Перакінуўшы зорны небасхіл у левую руку, ён, паводле завядзёнкі, праваю павітаўся са мной і рушыў далей. Няўжо гэта не ягоная рука ляжала ў маёй два дні таму? Няўжо гэта не мы пад ціхі посвіст ластаўчыных крылаў уздымалі твары да зорнага сяйва?..

Блакітны шапік, дзе працавала Кіяскёрка, месціўся пад старымі ліпамі каля кінатэатра. У дзявятым класе, у перыяд захаплення спортам, па аўторкавых раніцах я бегаў сюды, каб купіць футбольны тыднёвік, і атрымліваў газету з дзяжурнай ветліваю ўсмешкай з-за шкла. Цяпер, убачыўшы там знаёмы авал твару ў абладзе чорных валасоў, я некалькі разоў прайшоўся вакол кінатэатра і ўрэшце наважыўся павітацца і спытаць тэлепраграму. Рука з доўгімі пальцамі працягнула газету і адлічыла рэшту. У вачах – гэтым разам яны здаліся зялёнымі – не адбілася ні радасці пазнавання, ні іскрынкі цікавасці – нічога.

Злева ад вакенца шапіка вісела таблічка з імёнамі і прозвішчамі Кіяскёркі і ейнай напарніцы. Нескладана было высветліць, якое належыць нашай танцорцы, ды таго хацелася найменш. Я не сумняваўся: напісанае тут імя служыць ёй толькі ўдзень.

## 15

У суботу, гуляючы з Лорай па парку, я ўбачыў на лавачцы каля каруселяў Гімнастку, якая засяроджана ласавалася шакаладным пламбірам. Гімнастка безуважна слізганула па мне вачыма, нібы не яна, а хтосьці іншы пракруціў у пазамінулую ноч на даху цэлы каскад складаных сальта. Заставалася сустрэцца з Залацістай і Коткаю, але, не выключана, яны ў горадзе ніколі не з'яўляліся. Я ўжо казаў, што сёння ведаю пра сваю прыналежнасць да меншасці, якая ўсё памятае. Тады ж падавалася, быццам адрозна ад астатніх з нашага начнога брацтва я проста яшчэ не навучыўся трымацца так, як яны, каб таямніца заставалася непарушнай.

Але ў тыя дні ў мяне ўжо з'явілася іншае імя. Яно прыйшло аднаго разу ў танцы, калі мы абняліся за плечы. Імя пачулася невядома адкуль, і ад неспадзяванкі я спыніўся. Ды кола не магло чакаць, і праз мірг вока я зноў аддаўся ягонаму рытму: новаму імю, якое на розныя лады гучала ўва мне, не запярэчыў ніводны куточак маёй істоты. Такое імя, мог мець, магчыма, і марсіянскі хлопчык, што стукаўся ўначы да зямных перасяленцаў.

Мяне звалі – Эф.

Лора, у якой было ўсяго адно імя, душою юнай жанчыны, відаць, адчу-

вала, што са мною нешта адбываецца. Я аддаляўся, пакуль не адчуваючы ніякай віны, бо Лора заставалася маёй адзінай. Мы не падазравалі, як хутка ўсё зменіцца.

## 16

Аднае начы, мяняючыся месцамі ў коле, я абавязкова апынаўся ў танцы побач з Кіяскёркай, і, калі мы ўсе браліся за рукі, мая рука нецярпліва чакала ейных доўгіх шорсткіх пальцаў з затоеным паміж імі халадком.

Па дарозе дадому я раптам уцяміў, што за касцёлам павярнуў не направа, а налева... Кіяскёрка ішла крокаў за дваццаць наперадзе, і ўслед за ёю я ступіў на бязлюдны стары мост цераз Дзвіну. Падымаўся туман, і мост плыў разам з намі над нябачнай унізе ракой.

На самім мосце туману не было, але, спусціўшыся на тым беразе за маёй праваднічкаю па драўляных прыступках на насыпе, я разгубіўся: наваколле паглынала густая малочная субстанцыя. У наступную хвіліну на дапамогу прыйшла рука, якая ўсцешыла нечаканай грубавата-шорсткай цеплынёй.

Мы ішлі даволі доўга, вуліца пачала падымацца, а туман – адступаць, адкрываючы вачам зарэчны раён з прыватнаю забудовай, садамі і гародамі, дзе жыхары трымалі кароў, а перад Новым годам у дварах смалілі кабанчыкаў. Кіяскёрка выпусціла маю руку і, паказваючы дарогу, зноў ішла за пару дзясяткаў крокаў ад мяне. Яна спынілася пры жалезнай брамцы, за якой у засені маладой травеньскай лістоты стаяла залітая месяцавым святлом мураванка. Брамка засталася адчыненай, і праз дзесяць удараў сэрца я ступіў на брукаваную сцежку.

У цесным калідорчыку гаспадыня раскрыліла мне абдымкі. Як і ў танцах на даху, у спальні з двума вокнамі і доўгім вузкім ложкам мы маўчалі, ды ўзахапы размаўлялі й спявалі рукі, целы, яе грудзі, большыя, чым здаваліся пад адзеннем, смоль ейных валасоў, калі яна апыналася зверху. Тонкую мелодыю вялі і знянацку жарыя, а не чорныя кудзеркі над улоннем.

На белай процілеглай сцяне вісела карціна з незвычайным краявідам – у небе над начной ракою плылі, люструючыся ў вадзяной роўнядзі, адразу дзве налітыя залатым сокам поўні. Трэцяя поўня, пакуль не такая спелая і дасканалая, але найярчэйшая, зазірала ў бліжэйшае да нас вакно. Усе поўні неўпрыкмет увайшлі ў наш рытм і пачалі мяняцца месцамі: тая, за вакном, паравандроўвала на карціну, каб дадаць у пакоі святла, а залатыя, што адбіваліся ў рацэ, зазіралі ў вокны – кожная ў сваё...

Назаўтра ўсё паўтарылася: туман, брамка, вузкі ложак. Чатыры поўні на карціне далучаліся да танцу нястомных целаў. У нейкі момант дзверы спальні бязгучна адчыніліся, і на парозе ўзнікла жаночая постаць. У мігатлівым прыцемку яе немагчыма было разгледзець, і штосьці знаёмае мне, пэўна, толькі прымроілася. Жанчына некалькі імгненняў глядзела на нас, скрыжаваўшы на грудзях рукі, і гэтаксама, без гуку і шолаху, растала за дзвярыма. Наш танец не перапыняўся: Кіяскёрка танчыла спінаю да ўваходу і магла ўбачыць прывідную візітантку адно ў маіх вачах, але я папрасіў іх маўчаць.

З той начы памятаю і высокія тонкія шкляніцы, адкуль мы пілі адзіны напой – ваду, у якой грала, пераліваліся і танчыла, намагаючыся перадаць нам свае тайніцы, месяцавае святло.

## 17

Напачатку ўяўлялася: ночы не ўплываюць на дзённае жыццё, бо дзве гэтыя рэальнасці – паралельныя і не перасякаюцца. Я памыляўся.

Спаткаўшыся праз два дні з Лораю, я пацярпеў жорсткую мужчынскую паразу. Лорыны намаганні натхніць мяне толькі пагаршалі становішча. Яна пайшла на тое, каб аголенай станчыць імправізаваны эратычны танец, пасля чаго мой сорам стаўся адно больш пякучым. Нечакана Лора, праявіўшы жаночую мудрасць, – чым, трэба сказаць, моцна ўразіла – абвясціла, што, маўляў, з кожным хоць раз, але такое абавязкова здараецца.

Мая мужчынская існасць прагнула рэваншу, і па дарозе дадому я адмыслова прайшоў каля кінатэатра. Працавала якраз Кіяскёрка. *Ці застаўся ў вас «Футбол»?* – таймуючы сэрца, запытаўся я. *«Футбол» па аўторках,* – дзяжурна адказала яна, падняўшы фіялетавыя вочы. Я змусіў сябе не адвесці позірку. *Што яшчэ? – Скажыце, а вы жывяце ў Зарэччы?* Ейныя вочы імгненна сталіся гуллівымі: *Малады чалавек, вы, здаецца, хочаце пазнаёміцца са мной бліжэй?* Адвагі хапіла на тое, каб выціснуць з сябе: *Хачу.* Кіяскёрка крыху падумала. *Тады можаш правесці мяне заўтра ўвечары дадому. Прыходзь а восьмай,* – весела прапанавала яна. *Заўтра ўвечары не магу,* – у раптоўнай паніцы адказаў я. *Ну як сабе хочаце...* – Яна зноў перайшла на «вы», а голас набыў адценне паблажлівасці.

Я доўга не мог супакоіцца, хоць адчуваў, што зрабіў абсалютна правільна. Яе раніцы, дні і вечары пасля восьмай няхай належаць каму заўгодна, але ночы, калі мы танчым, будуць толькі маімі.

## 18

Пачаліся выпускныя школьныя экзамены. Дні стаялі ветраныя, з дажджамі й халоднымі начамі, і я засынаў і прачынаўся, не выходзячы з пакоя. Маці ўхваліла мае паводзіны: маўляў, цяпер на першым месцы адзнакі, а Лора – пачакае.

За дзень да апошняга экзамена вярнулася пагода. Радасць ува мне злівалася з хваляваннем. Мы ніколі не танчылі ў непагадзь, аднак і пагодлівы дзень не абавязкова азначаў, што ўначы Котка кінецца да мяне па прыступках, ускочыць на рукі і я пачую тахканне маленькага сэрца.

Але ноч рыхтавала свае падарункі.

Гладзячы Котку, мае пальцы ўпершыню адчулі: яе круглая выпаленая плямка зарастае густым пушком. У адказ на дотык Котка не ўздрыгвала, а ўдзячна муркала.

Праз дзясятак прыступак чакала новая неспадзяванка. Хтосьці шчодра раскідаў па руберойдзе сцяблiны маладога аеру. Чорнае палатно даху маляўніча спярэшчвалі зялёныя мазкі, і гэтая карціна цешыла не толькі вока: у паветры струменіў вытанчаны святочны водар. Я памятаў яго з дзяцінства, калі ў мамінай вёсцы перад Сёмухай прыцярушвалі аерам падлогу. Праўда, там аерны пах змешваўся з іншымі пахамі сялянскае хаты, тут жа ў паветры непадзельна ўладарыў адзін ён.

Кожны з нас радаваўся нечаканцы па-свойму. Залацістая аздобіла стрэлкай аеру кучаравую фрызуру. Кіяскёрка змайстравала сабе зялёныя, з ружовымі квадрацікамі ад карэньчыкаў каралі. Котка ўзяла аеравую шабельку ў зубы і не выпускала яе ні рухаючыся па коле, ні танцуючы пасярод яго, што выглядала асабліва святочна.

Аер, безумоўна, служыў знакам, які нам прапаноўвалася разгадаць або, наадварот, не імкнуцца зазірнуць у таямніцу, а проста чакаць яе разгадкі, атрымліваючы асалоду ад водару, які падчас танца рабіўся мацнейшым, бо нашыя босыя ногі міжволі расціскалі сакавітыя духмяныя сцяблiны.

Іншым знакам, адрасаваным аднаму мне, сталася тое, што я ніводнага разу не адчуў у руцэ ядвабных падушачак Залацістай. Звыклы ў кожным танцы сустракацца з рукамі ўсіх танцораў, я – калі мы мяняліся ў руху месцамі – спрабаваў апынуцца побач з Залацістай, аднак усе манеўры скончаліся безвынікова. Стоячы ў фінале з узнятымі ў неба рукамі, я падумаў: такое несупадзенне пярэчыць самой тэорыі імавернасці, вядома, калі яна тут дзейнічае.

Гэта было не астатняе парушэнне заўсёднай хады начных падзеяў.

Як зазвычай, мы разыходзіліся ў розным парадку, але апошнімі нязменна заставаліся Котка і Залацістая. Першым рушыў да адкінутых дзверцаў люка Настаўнік, за ім, як заўсёды, нырнула туды Гімнастка і, крыху памарудзіўшы, спусцілася Кіяскёрка. Надышла мая чарга, ды каля люка стаяла з Коткаю на руках Залацістая. Значыць, сёння апошнім адыходзіў я. Абвёўшы вачыма чорна-зялёны дах, я ўдыхнуў на развітанне аерны водар.

## 19

Раней я адзначаў дзіўную з'яву: пры пад'ёме на дах пяты паверх кудысьці знікаў: з пляцоўкі паміж чацвёртым і пятым паверхамі ты адразу трапляў на шосты і ўжо чакаў, як насустрач выбяжыць і папросіцца на рукі Котка. Я ніколі не мог узгадаць, як пераадольваў гэтыя трыццаць, або ў дадзеным выпадку зусім іншую колькасць прыступак, нават не паспяваў чарговы раз здзівіцца, як таямнічы ліфт вокамгненна пераносіў мяне на шосты паверх і пакідаў перад кароткай лесвічкаю на дах. Тое самае, але ў адваротным парадку, адбывалася па дарозе назад.

Аднойчы мне прыснілася, што Гатэль, важка зыбаючыся, ідзе начной ракою пад цёмным ветразем, а я ўглядаюся ў начны незварушлівы карабель са стромага берага, лічачы ягоныя палубы. Іх шэсць, і пацеркі каютных вокнаў не палохаюць цемрай, а прытульна свецяцца на ўсіх шасці, у тым ліку, зразумела, і на пятай. Але тое дзеялася ў сне, а на яве выглядала якраз наадварот: і ўдзень, і ўначы на ўсіх шасці лініях паверхаў цягнуліся цёмныя ланцужкі незашклёных вокнаў. Такім чынам, паміж чацвёртым і шостым паверхамі існаваў яшчэ адзін, аднак таямнічае поле, якое яго вартавала, дазваляла толькі маланкава пераадолець гэтую прастору, не даючы дазволу хоць на хвілю там затрымацца.

Вось жа, застаўшыся апошнім у тую «аеравую» ноч на даху, я набраў поўныя лёгкія духмянага паветра, ступіў на першую прыступку лесвіцы і – прачнуўся ў сваім ложку.

## 20

Мама трымала нада мною будзільнік, што падымаў на апошні экзамен. *Зусім вы з тваёй Лорай з рэек з'ехалі,* – прамовіла яна, і я спрасонку рэкнуў: *Пры чым тут Лора?* Дапіваючы ранішняе малако, я не ўспомніў анічога, апрача звыклага хрумсту шкла пад нагамі і знаёмага вядра з немаведама калі скамянелай рошчынай на шостым паверсе.

Усё вярнулася праз сем халодных дажджлівых дзён, у такі самы хмурны мокры вечар. Ужо застаўся ў мінулым выпускны школьны баль, на якім Лора павіншавала мяне з залатым медалём, але падкрэслена вальсавала з аднакласнікам. Месяц таму я вар'яцеў бы ад рэўнасці, трымцеў бы ад жарсці, уяўляючы Лору пад тонкай блакітнаю сукенкай, а цяпер радаваўся такому развіццю падзеяў.

Назаўтра пасля выпускной вечарыны я затэлефанаваў Лоры з прапановаю сустрэцца. Можа, ніколі мы не кахаліся так доўга і апантана, аднак у шаленстве целаў зеленаватай яшчаркаю праслізгвала адчужанасць. Калі мы знясілена выцягнуліся на ложку, Лора раптам паднялася і вымкнула музыку. *Ты не мой. Ідзі. Проста хацела з табой развітацца.*

Я ішоў пад дажджом, не раскрываючы парасона. Прамок да ніткі, ды не адчуваў холаду. Зняў чаравікі і басаނож плюхаў па лужах. Каля перапоўненага фантана на плошчы зачэрпнуў у чаравікі вады і зрабіў сабе душ. Напалохаўшы бацькоў, я пераапрануўся ў сухое, напіўся гарачага малака і пайшоў да сябе ў пакой. Вецер шпурнуў у вакно жменю буйных кропляў, па шыбах пабеглі тонкія струменьчыкі, і скрозь іх я ўбачыў усё, што пачалося пасля вядра з застылай рошчынай.

## 21

Мы з Залацістай плылі ў чыстай вадзе колеру каменю хрызапразу з майго цяперашняга пярсцёнка. Нават не плылі, а луналі па-над густым падводным лесам, вершаліны якога казыталі нам ногі, ды не заміналі рухацца лёгка й імкліва. А можа, гэта былі не дрэвы, што цягнуліся з глыбіні, а рыбы, якія мільгалі пад намі ў насычанай сонцам прытульнай прасторы. Возера прыняло нас аголенымі, адно на безыменным пальцы левай рукі ў Залацістай паблісквaў шырокі срэбны пярсцёнак з зялёным каменем. Гэта надавала заплыву адценне ўрачыстасці, і мне хацелася, каб возера запомніла абрысы нашых целаў, запісала звесткі пра нас у ягоныя хронікі – на донных камянях, на карэнні прыбярэжных дрэваў, выбеленым вадою, што мела сваю жывую плыўную памяць і магла зноўку паклікаць нас у зменлівы хрызапразавы сусвет.

Раз-пораз мы адначасова давалі нырца і, трымаючыся за рукі, праплывалі колькі дзясяткаў метраў пад вадой. Тады доўгія валасы маёй спадарожніцы пачыналі нагадваць расчасаныя плынню «русалчыны косы», якія з дзяцінства заўсёды заварожвалі мяне, толькі гэтыя косы былі не смарагдавыя, а залатыя, кранутыя грабянцом сонечных промняў.

Вада здзіўляла свежасцю й смакам. Яе хацелася пакаштаваць, і мы не ленаваліся рабіць маленькія асцярожныя глыткі. Серабрыстай плотвіцаю бліснула думка: у мінулым або пазамінулым жыцці мы абое былі рыбамі і хвіліны, што перажываюцца зараз, – гэта сустрэча двух нашых ранейшых увасабленняў.

Блізкі ўжо бераг аздаблялі лапікі трыснягу і вясёлыя выспачкі аеру. Мы кіраваліся да пазначанай радком хвояў касы, якая вабіла паскам пясчанае водмелі. Там навісала над вадою, адкідваючы на яе доўгі цень, высокая грацыёзная вольха, што валадарыла над раскошна ўтравелым берагам. Целы наструньваліся, трымцелі ад прагі схавацца ў высокай мяккай траве, даверыцца засені вольхі й выправіцца ў іншае плаванне.

Там, на беразе, яно атрымалася неверагодна імклівым, але асалода ад

гэтага ані не страціла. Рукі, ногі, вусны, ейнае ўлонне дзіўным чынам былі адначасна халаднаватымі й гарачымі. Мы ператварыліся ў рабоў адно аднаго і – уладароў цэлага свету. Потым я нібыта памёр і вярнуўся назад – дарослым і спустошаным, сцішаным, шчаслівым. Я пачуў і ўбачыў, як наваколле жыве сваім адвечным парадкам. Па руцэ бегла порсткая рудая мурашка. Гушкаліся на травінках сапфіравыя і бурштынавыя стрыблі. У гушчары жаласна пішчала злоўленая вужом лясная мышка.

Цела ў Залацістай было проста абсыпанае радзімкамі розных колераў і адценняў – цэлая галактыка. Але я не паспеў пачаць яе вывучэнне, бо Залацістая з уладнай пяшчотаю перавярнула мяне са спіны на жывот. Яе дыханне ставала ўсё бліжэйшым, яго цёплая змейка бегла па маіх плячах, і ў нейкі момант я адчуў на мокрай макаўцы пяшчотныя вусны. Знайшоўшы патрэбную кропку, Залацістая пачала хутка-хутка дзьмуць туды гарачым струмком паветра. Цела зрабілася бязважкім і не маім, што, аднак, не палохала, а захапляла.

Вагомасць і моц вярнуліся целу – разам з усведамленнем яго сваім уласным – ужо тады, як мы зноў плылі поруч. Але нешта зыначылася. З пальца ў Залацістай знік пярсцёнак. Я не мог сказаць ёй пра гэта, бо мы і тут маўчалі, ды мая спадарожніца хуткім рухам левай рукі дала зразумець, што ведае пра страту. Я адно не мог даўмецца: шкадуе яна або не?

І замест адказу ўва мне ціха прагучала: *маё імя – Эфа.*

## 22

Праміне шмат гадоў, і я апынуся, відаць, у самым прыгожым і загадкавым сне свайго жыцця, у сне, шчодра наладаваным сімваламі, алюзіямі й дагэтуль не раскрытымі знакамі.

Пачынаўся ён досыць будзённа і нават з прысмакам анекдатычнасці. Перад адпраўленнем экскурсійнага аўтобусу я пабег у прыбіральню. Зрэшты, завязка атрымалася ўсё ж не зусім звычайнай: аўтобус стаяў пасярод выпаленай камяністай пустэльні, над якой у зіхоткім мроіве плыло бязлітаснае паўднёвае сонца.

Усе кабінкі ў прыбіральні былі крыж-накрыж заклееныя ліпучкай, а намаляваныя на іх стрэлкі паказвалі ўправа на адзіныя чыстыя ад ліпучкі дзверы, за якімі адкрыўся душны калідор кудысьці ўніз. Ісці па ім не хацелася, але іншага выйсця я не меў, бо назад дзверы не адчыніліся. Сотавая сувязь знікла, і, скарыўшыся з тым, што адстану ад сваіх, я рушыў наперад.

Неўзабаве калідор прывёў у падземны горад-лабірынт, а магчыма, нават у цэлую краіну, з вуліцамі-анфіладамі. Сярод іх часам узнікалі пляцы з фантанамі й фінікавымі пальмамі, ад якіх разыходзіліся промні новых вуліц і завулкаў. Некалькі суседніх вуліц насяляў нейкі адзін народ. Найчасцей – габрэі, аб чым сведчылі меноры, шасціканцовыя зоркі і пісьмёны на сценах і нізкай столі. У адных анфіладах жылі светласкурыя ашкеназі, між якіх, мне здалося, я двойчы пазнаў аднакласнікаў, што з’ехалі з бацькамі на зямлю продкаў. Іншыя вуліцы належалі смуглым сэфардам або цёмнатварым кучаравым юдэям-абісінцам. Ад іх адгаліноўваліся ўладанні мараканскіх габрэяў, а за імі ляжаў анклаў марыскаў. З тых кварталаў я зноў трапляў у габрэйскія, ужо адрозніваючы сімволіку і мовы. Хутка прыйшло разуменне: паміж нашай экскурсіяй і тым часам, у якім жыў падземны горад, пралеглі стагоддзі: нават друкаваныя кнігі

трапляліся тут вельмі рэдка, а ўбачаная недзе мікрахвалёўка падалася падманам зроку.

Мясцовыя жыхары сустракалі мяне ў горшым разе абыякава-спакойна, а найчасцей – прыязна, аднак тыя, каго я спрабаваў распытаць пра дарогу назад, ані не збіраліся дапамагчы, прапаноўваючы наўзамен пачостку або начлег. Вандруючы па лабірынце не адзін дзень, я, відаць, паспеў пакаштаваць усе тамтэйшыя прысмакі: свежыя буйныя фінікі, тэйгелах, размаітыя перапечкі і праснакі з мёдам, разынкамі, цынамонам. Адну ноч я спаў на ложку з белымі і халаднаватымі льнянымі прасцінамі, другую – на тонкай бруднай посцілцы, кінутай на каменную падлогу. Трэцяе начы ў багатую спачывальню гаспадыня прывяла юную нявольніцу ў вянку з белых лілеяў.

Між тым, азарт падарожніка хутка запаветрыў, і на змену яму прыйшло вусцішнае падазрэнне, што выцяла як пярун: я асуджаны! Асуджаны да канца дзён блукаць у чужым часе, пад небам, што ўяўляе сабой не больш, як столь, дзе ніколі не шэпчуцца зоркі і не ўзыходзіць здзіўлены месяц, а дзень надыходзіць тады, калі паводле нечага загаду паўсюль загараюцца вымкнутыя нанач свяцільні. Здагадка была нясцерпна-пякучай, і я закрычаў і пабег. Я бег бясконца доўга і, калі знясілеў, убачыў: вуліца заканчваецца глінабітным тупіком. У роспачы я заваліўся на дол і заскавытаў, як бадзяжны сабака.

Наступныя дні я то ішоў, то бег і, адмаўляючыся ад запрашэнняў заначаваць, спаў на голай зямлі. Я згубіў лік дням і заўважыў, што трапляю ў тыя ж месцы, а значыць, рухаюся па коле. Аднаго разу яшчэ раз заўважыў знаёмую мікрахвалёўку, і гэта толькі дадало адчаю. Ад нечалавечай, жывёльнае стомы цела выдавала мёртвым. Агеньчык надзеі патух, і замест яго прыйшла выратавальная думка – назбіраць за пазуху цяжкіх камянёў і спыніць пакуты, кінуўшыся ў глыбокі фантан-вадаліў на падземным пляцы.

Калі груз, што мусіў стаць маёй вечнай кітвагаю, быў амаль сабраны і камяні драпалі запаленую скуру пад кашуляй, павуціна вуліц вывела да вадаліву з высокімі мармуровымі краямі-пялёсткамі. На самым далёкім пялёстку гэтае кветкі, звесіўшы ногі ў ваду, сядзела жанчына, з якою я недзе сустракаўся... з якою я... танчыў!

*Эфа!* – моўчкі паклікаў я, і яна адвяла ад маціцовай гульні вадзяных струменяў месяцападобны твар...

## 23

Нашыя абдымкі доўжыліся пяць удыхаў і выдыхаў мёртвага падземнага паветра. *Трэба спяшацца, праз гадзіну нічога не атрымаецца,* – моўчкі паведаміла яна, загадаўшы паўтараць ейныя дзеянні. *Спачатку – камяні.*

Высыпаўшы з-за пазухі свой груз, я выклаў з меншых камянёў першую літару яе імя, пасля чаго ўслед за ягонай уладальніцай сарваў з пальмы і кінуў у рот два фінікі. Мы сінхронна нырнулі і доўга плылі пад вадою, колер якой праходзіў усе адценні ад маціцы да амаль чорнагага малахіту. Лёгкія ўжо не вытрымлівалі, і мы нарэшце апынуліся на паверхні хуткай падземнай ракі. Плынь падхапіла нас, але адпачынак выпаў нядоўгі: Эфа загадала зноў даваць нырца.

Я плыў, згадваючы хрызапразавае возера, і маліўся, каб гэтая рака адразу ж і назаўсёды сцёрла нашыя целы са сваёй змрочнай прыцемнай

памяці, і калі мы зноўку напоўнілі грудзі паветрам, у небе мігцелі зоркі і ўзыходзіў над краем прыазёрнага лесу малады месяц.

Мы кахаліся там, дзе і ўпершыню, пад вольхаю, і, стаіўшыся ў траве, нас вартавалі лагодныя сытыя вужы, якія раз-пораз прыўздымалі галовы з залатымі "акулярамі". Аб тым, што адбывалася нядаўна, нагадвалі адно фінікавыя костачкі, якія знайшліся за шчакой. Я так і прачнуўся – з выразным фінікавым смакам у роце.

## 24

Танцы працягваліся ўвесь павольны аксамітавы ліпень. Пасля іх я то апынаўся на вузкім ложку Кіяскёркі, то плаваў з Залацістаю Эфай, што так і не знайшла пярсцёнка, а мо і не шукала яго, здзейсніўшы з возерам таемныя заручыны. Загадку таго чаргавання разгадваю дагэтуль. Можа, тады мне паказваліся два бакі, дзве розныя іпастасі кахання? Ці – самога жыцця...

Але ў жніўні пачыналіся ўступныя экзамены ва ўніверсітэт, і я паехаў у сталіцу. Добра памятаю: у апошнюю ноч мы былі з Эфай, і цёплая змейка яе дыхання зноў бегла па плячах, і зусім не пакідала адчування, што пасля кароткага ад'езду ўсё гэта скончыцца.

## 25

Праз два тыдні я вярнуўся пераможцам, ды радасць, што спявала ўва мне, чакала іншага, апроч размоваў з бацькамі і знаёмымі, выйсця. Кожны вечар, разнасцежыўшы вакно, я ўкладваўся ў ложак, які ўпершыню здаўся цесным, і хутка засынаў, каб сярод ночы расчаравана прачнуцца на пакамечанай прасціне і злёгку вільготнай падушцы. Гэта ўспрымалася як трагедыя: хтосьці скраў самае дарагое, што я меў у свае сямнаццаць гадоў. Цяпер я думаю: у тыя два астатнія жнівеньскія тыдні нічога не змянілася, проста я чамусьці, за нейкую правіну страціў здольнасць памятаць.

Птушыныя чароды адляталі ў вырай, а жнівень на срэбных павуцінках адплываў у процілеглым накірунку, насустрач восені. І аднойчы мамін адрыўны каляндар засведчыў: увечары я пакажу правадніку начнога цягніка плацкартны квіток у сталіцу.

## 26

У бліжэйшую нядзелю я, здзівіўшы супрацоўніцу ўніверсітэцкай бібліятэкі, замовіў усё, што мела дачыненне да самнамбулізму, не ўтрымаўшыся пры гэтым – дзеля дэжавю – ад чытанага некалі тома дзіцячай энцыклапедыі.

Навука лічыла хаджэнне ў сне хваравітым станам, калі паводзіны толькі выглядаюць адэкватнымі. Насамрэч самнамбул дзейнічае абсалютна немэтанакіравана або, заўважце, у адпаведнасці са сваім сном. З дзіўным пачуццём я чытаў, што вочы ў самнамбулаў звычайна расплюшчаныя і яны, уявіце сабе, здольныя абыходзіць перашкоды і нават рабіць складаныя ўчынкі. Аднак такія іхнія манеўры ўсё ж не ёсць свядомымі і большасцю пры абуджэнні не ўспамінаюцца.

Калі верыць вучоным, лунацікі могуць выпадаць з вокнаў, прымаючы іх за дзверы. Прычым, самнамбулы бываюць агрэсіўныя, і тады не

пазайздросціш таму, хто спрабуе ім дапамагчы ці трапляецца на шляху. Ну а падарожнічаюць лунацікі нядоўга, не больш за гадзіну, і пры гэтым ходзяць не ўсе, некаторыя – сядзяць або стаяць.

Увязвацца ў завочныя спрэчкі мне не хацелася.

Як выявілася, самнамбулаў прыблізна два адсоткі. У дзяцей такое адхіленне ад нормы сустракаецца досыць часта, ды з гадамі ў большасці выпадкаў мінаецца. У дарослых яно вымагае сур'ёзнай увагі, бо прычынамі могуць быць стрэс, трывога, а часам – эпілепсія. І – адзінота, падумаў я ў тралейбусе, калі на прыпынку зайшла жанчына, здалёк падобная да Залацістай.

## 27

У першую студэнцкую восень я прыехаў у родны горад разам з “бабіным летам”. Аўтобус прыйшоў надвячоркам у суботу, і я ледзьве дачакаўся вечара. У маім пакоі нічога не змянілася, адно побач з партрэтамі Ленана і Джагера мама пачапіла на суровай ільняной нітцы мой прасвідраваны дзеля гэтага ў знаёмага ювеліра школьны медаль і ўзятае ў рамку паштовае паведамленне пра залічэнне ва ўніверсітэт.

Ноч не падаравала нічога, апрача моцнага сну. Сняданак аказаўся да болю знаёмы ад школьных гадоў: збітыя яйкі і гарачае малако з печывам, хоць у сталіцы я паспеў прызвычаіцца да кавы. Бацькі пачулі, што я хачу хутчэй пабачыцца з аднакласнікамі. Ключ ад Гатэля чакаў на дне шуфлядкі швачнай машынкі, якая, магчыма, крыху сумавала па мне.

Ішла дзясятая гадзіна раніцы, у нядзелю горад яшчэ драмаў. У святога Пётры на касцёле адбілі ў дадатак і левую руку, але і ён, і святы Павел, відавочна, пазналі мяне і зразумелі, куды я так рана кіруюся.

Цёмны ветразь з прабоінамі, як і сам бетонны карабель, сустрэлі звычайным, хоць і ненадта звыклым удзень выглядам. На месцы быў і дашчаны плот. Раса на закінутай дарозе не збітая. Наогул не пакідала адчуванне, што трава на ёй ужо даўно нікім не прыгіналася. Шырокая дошка за вербалозам, якая трымалася на верхнім цвіку, нікуды не прапала і лёгка падалася ўбок. За плотам ацалела выспачка лета са святаяннікам, здрыжнічкамі і познімі рамонкамі.

Цвік з расплясканай галоўкай лёгка зайшоў у замочную шчыліну, ды не захацеў паварочвацца. Замок замянілі. Я абышоў Гатэль вакол. Ключ не падыходзіў ні да воднай з астатніх чатырох дзвярэй. *Як у гэтым свеце ўсё крохка*, падумаў не я, а хтосьці іншы, больш сталы.

Вяртаючыся дамоў, я павярнуў да кінатэатра. Ужо даўно хадзілі чуткі, што яго зачыняць на рамонт, і вось цяпер будынак сапраўды абнеслі свежым фанерным плотам. Газетны шапік, дзе працавала Кіяскёрка, знік. Можна было, вядома, зайсці заўтра ў школу і пашукаць Настаўніка, каб хоць позіркам задаць пытанне, якое я пакуль не сфармуляваў у сабе. Можна было паспрабаваць знайсці Гімнастку. Не зрабіўшы ні першага, ні другога, я ўзяў квіток на начны цягнік.

Такім чынам я пакідаў сабе шанец.

## 28

Універсітэт, новыя сябры, бібліятэкі, тэатры надалі жыццю новую сістэму каардынатаў, дзе ранейшыя невідочныя ніці пакрысе рваліся і знікалі ў прасторы і часе.

Мама дакарала за рэдкія прыезды. Але, трэба прызнацца, пасля дзяцінства я не здолеў, ці, можа, проста не паспеў зблізіцца з бацькамі. Ды толькі – хоць у гэтым не хацелася прызнавацца – галоўная прычына непрыездаў палягала ў іншым. Калі я і заяўляўся на дзень-два дадому, то таго, чаго так чакаў, не здаралася.

Бацька развітаўся з гэтым светам, як я быў яшчэ студэнтам. Мама – у памяць пра яе я заўсёды п'ю на сняданак гарачае малако – ненадоўга перажыла тату, хоць і паспела дачакацца і ўнукаў, і дзвюх маіх першых кніжак, і абароны дысертацыі на забароненую дзесяцігоддзямі тэму бясконцых войнаў Вялікага Княства з усходняй суседкай.

## 29

Не пакідаючы родных мясцін, мы жылі ўжо ў іншай краіне, што сталася здзяйсненнем колішніх самых смелых мараў. Я выкладаў у роднай альма-матэр, шмат друкаваўся, вёў гістарычную тэлеперадачу, мяне пачыналі пазнаваць на вуліцы.

Касцёл у нашым горадзе, дзе я пасля мамінай смерці бываў адно ў камандзіроўках, адрэстаўравалі і перадалі вернікам. Да святых на франтоне вярнуліся рукі, а за касцельнай брамай з'явілася масянжовая Дзева Марыя.

Гатэль сапраўды стаўся трохзоркавым гатэлем "Ветразь" з базаю для падрыхтоўкі весляроў і яхтсменаў. Там, дзе гаспадарыў бур'ян і цвілі лугавыя краскі, разлеглася аўтастаянка. Усё гэта яшчэ больш аддаляла падзеі даўніх вясны і лета, што зрэдку нагадвалі пра сябе лёгкім, быццам блакітны дымок цыгарэты, успамінам з жыцця, якое нібыта і не было тваім.

Аднаго разу, атрымаўшы запрашэнне на канферэнцыю ў новым універсітэце, які адчынілі на прыдзвінскай вуліцы ў карпусах колішняй езуіцкай акадэміі, я злавіў сябе на думцы: хацеў бы спыніцца ў "Ветразі", прычым на пятым паверсе, каб нарэшце высветліць, што там знаходзіцца, і ўначы паспрабаваць падняцца на шосты і вышэй. Аднак якраз у дні канферэнцыі гатэль цалкам займалі ўдзельнікі міжнародных спаборніцтваў, і я, нечакана адчуўшы палёгку, адклаў свае планы на будучыню.

Між тым, праз год мяне не запрасілі. Будучыня краіны зрабілася няпэўнай. У вялікай кампаніі калегаў я з белым білетам пазбавіўся працы. Некаторыя калегі з'ехалі – хто за акіян, хто крыху бліжэй. Я застаўся і зарабляў на жыццё гістарычнымі кнігамі, што выходзілі ў ацалелых прыватных выдавецтвах або за мяжой.

Ды гэта ўжо іншыя сюжэты, тэмы для іншых расповядаў. Ёсць гісторыя краіны, гісторыя роду і сям'і, а ёсць твая асабістая гісторыя, і перад вечнасцю нельга сказаць, што першая з гэтых гісторый, прынамсі для цябе самога, важнейшая за апошнюю. Гісторыя краіны, як і твайго роду, будзе доўжыцца і пасля цябе, а твая ўласная скончыцца са з'яўленнем даты, напісанай на помніку ўслед за працяжнікам. І найперш – гісторыя тваёй таямніцы.

Але лёсу было заўгодна, каб яна працягвалася, і за тое я да апошняга танца буду ўдзячны Паэту.

## 30

У мінулым Паэт быў маім добрым прыяцелем. Памятаю, калі ён вяр-

нуўся з вайсковай службы, якую называў катаргай, мы сустрэліся ў агульнага сябра, і Паэт, цвярозы, як слязінка немаўляці, ноч навылёт чытаў нам вершы – улюбёныя і ўласныя. Ягоныя часта гучалі мацней: ім яшчэ не ставала дасканаласці, ды тое кампенсавалася магутнай энергетыкай і выразным пульсам паэтычнай стыхіі. Узрадаваны такім адкрыццём, пад раніцу я заснуў, але Паэт бесцырымонна раскатурхаў мяне і працягваў дэкламацыю.

Імкліва ўвайшоўшы ў літаратуру, ён збіраў на сваіх вечарынах паўнюткія залы. Да яго ў сябры набіваліся міністры. Ён мільгаў на дзяржаўных святах і дыпламатычных прыёмах. З яго малявалі партрэты, пра яго здымалі фільмы. Паэт быў таленавіты і непрадказальны ва ўсім. Ён умеў здзіўляцца і здзіўляць. Неяк, яшчэ ў той краіне, дзе мы нарадзіліся, ён з крыкам “Акупанты!” лёг на сталічным праспекце перад калонай танкаў, што рыхтавалася да параду.

Паэта ведалі ўсе навакольныя жабракі, бо ён падаваў кожнаму, а аднаго, выдаючы за бацьку, кожнага дня карміў абедам у Доме літаратара. Ён працягваў заставацца кумірам сталічных жабракоў, пакуль сам вонкава не ператварыўся ў такую самую істоту. Паэта нельга было ўявіць без нецвярозых скандалаў. Ён пісаў, можа, па адным-два вершы ў год, але яны нараджаліся на мяжы геніяльнасці, як той, пра начлег у вуллі пад крылом у пчалінае маткі...

Хадзілі чуткі, нібыта ён жыве разам з карузлікам, адстаўным цыркавым артыстам. Калі ў дзверы Паэтавай кватэры званілі, карузлік падстаўляў крэсла, каб дастаць да дзвярнога “вочка”, і доўга вывучаў наведніка, ацэньваючы, што з візіту можна мець і ці не аб’явіўся нязваны госць з мэтаю самому нечым разжыцца.

Казалі, у галодныя чорныя дні Паэт супольна з кватарантам праштудыяваў пісьменніцкі даведнік з датамі нараджэння творцаў. Вынікам быццам бы стаўся складзены гэтым дуэтам гадавы каляндар, згодна з якім Паэт у суправаджэнні карузліка пачаў у адпаведныя вечары заяўляцца да калег-літаратараў.

На шчасце, высветлілася, што такі каляндар сапраўды існаваў.

## 31

У адзін з позніх жнівеньскіх вечароў, а дакладней, у вечар таго дня, калі мама даўным-даўно ўпершыню пачула мой голас, я, паводле даўняе завядзёнкі, сядзеў пры пісьмовым стале. За вакном, у шатах старой ліпы раскашавала поўня: кунежылася ў яшчэ не кранутай золатам лістоце, вызірала з-за галінаў і зноў хавалася ў густой цёмна-зялёнай мярэжы.

Жонка і сыны паехалі ў адпачынак, і цішыня кватэры злівалася праз адчыненае вакно з цёплай вусцішшу нашага тады амаль загараднага зацішнага двара. Мае думкі выплывалі ў вакно насустрач поўні, а душа набрыньвала чаканнем. Відаць, кожнаму знаёмае такое адчуванне: вось зараз, няхай не праз імгненне, але не заўтра, а менавіта ў гэты прамежак часу, асаблівасць якога ты фізічна і метафізічна адчуваеш, павінна здарыцца штосьці важнае для цябе.

Пад вокнамі спынілася машына. Ляпнулі дзверы пад’езда – да кодавых замкоў і дамафонаў было яшчэ далекавата – і праз хвіліну нехта далікатна крануў гузік майго званка.

На парозе стаялі Паэт і карузлік. Паэт выглядаў прывідам самога сябе – прыцьмелыя вочы, рэдкія ўскудлачаныя валасы, трохдзённае шчацінне на бледным твары, нясвежая кашуля – аднак ён ствараў геніяльныя вершы, і астатняе было неістотным. Карузлік, наадварот, выдаваў франтам – ахайная фрызура, адпрасаваны брунатны гарнітурчык, пах добрай парфумы. Ён цырымонна пакланіўся: *Вы дазволіце разлічыцца з таксістам?* Я зразумеў: *Колькі?*

Пакуль карузлік спускаўся і вяртаўся, Паэт камечыў мяне ў абдымках. Ягоны кампаньён зухавата ляснуў абцасамі і заявіў, што далучаецца да віншаванняў. *Але дзе шумная застоліца, у якую шафу схаваліся вакханкі?* Я развёў рукамі. Нягледзячы на гэтую клаўнаду, не пакідала адчуванне важнасці перажыванага моманту.

Дзівосным чынам, як трусік з капелюша, у руках карузліка з нічога ўзнік мініяцюрны нататнік, якім па-гаспадарску завалодаў Паэт. Ён страпянуўся, зрабіўся сур'ёзным і, разгарнуўшы патрэбную староначку, абвясціў: *“Поўня”!*

Верш зайшоў у памяць адразу і назаўсёды застаўся ў ёй:

Жыве над кронай дрэва поўня,
начуе ў кроне дрэва птах,
ўглядаюцца сляпыя корні
ў зямную існасць па начах:

вось птах азваўся, як дзіцёнак,
вось знічка цемру апякла –
нібы з рукі упаў пярсцёнак,
калі забылася рука.

Жыве над кронай дрэва поўня,
святлом уросшы у зямлю –
там, дзе яна пусціла корні,
і я зямную мудрасць п'ю.

*Брава! Брава!* – галёкаў, падскокваючы ледзь не на вышыню свайго росту, карузлік, а я, не зводзячы вачэй з поўні, што канчаткова вылузалася з ліпавых галінаў, прыгаломшана маўчаў. Цяжка было зразумець, ці то Паэт звярнуў увагу на сённяшні небасхіл і падрыхтаваў выступ дома, ці напісаў верш ужо ў таксоўцы пад дыктоўку натхнення, ці то яшчэ раней неспасцігальным чынам дакрануўся да маёй таямніцы... Аднак верш прагучаў і зрушыў з месца каменьчык, які пагражаў ператварыцца ў лавіну. *Ганарар для маэстра!* – абвясціў наступны нумар карузлік і, зірнуўшы на гадзіннік, будзённа ўдакладніў: – *Пасля поўначы прымаем натурай.*

Мае запасы выявіліся надзвычай сціплымі: хлеб, кавалак вяндліны ды пляшка падараванага нямецкім калегам шнапсу. У лядоўні знайшлася і амаль поўная пластыкавая бутэлька кетчупу. Агульнымі намаганнямі стол сервіравалі вельмі хутка.

Паэт скруціў з кетчупу накрыўку і пачаў піць яго, робячы вялікія прагныя каўткі. Бутэлька хутка апусцела. Карузлік, што ўважліва сачыў за падзеямі, зноў закрычаў: *Брава*! Паэт узяўся запіваць кетчуп шнапсам. Калі ён адолеў палову пляшкі, карузлік элегантна перахапіў яе і перакуліў рэшту ў сябе.

Адмовіўшыся ад закускі, госці папрасілі адвесці іх на стаянку таксі. Ка-

рузлік не забыўся ветліва пацікавіцца, ці дазволю я ім і цяпер разлічыцца. Перад стаянкай ён узяў нас за рукі і, прарэзліва крыкнуўшы: *Грамадзяне, прапусцім з дзіцёнкам!* – бадзёра рушыў у пачатак чаргі.

Праз некалькі тыдняў Паэта знайшлі дома нежывым. Паводле адной з версіяў, ён страшэнна сумаваў па карузліку, які наняўся на кіназдымкі і кудысьці з’ехаў. Часам мне ўяўляецца, што насамрэч Паэт не памёр, а, ператварыўшыся ў зусім маленечкага карузліка, ціха жыве там, у вуллі, дзе калісьці заначаваў, і трутні сапраўды казычуць яму пяткі.

## 32

Вяртаюся ў тую лагодную жнівеньскую ноч, якая спынілася над горадам, уважліва аглядаючы яго шырока расплюшчаным вокам поўні.

Ідучы ад стаянкі таксі, я адчуваў у душы тэктанічныя зрухі. Тое, што надзейна ўладкавалася на дне, змярцвела, абрасло ракавінкамі недаверу і амаль не згадвалася, а калі зрэдку і вярталася, то выдавала загадкавым сном, прымроеным у далёкія цёплыя ночы, – усё гэта пасля візіту Паэта страпянулася й ажыло.

Мы – танчылі! Браліся за рукі, абдымаліся за плечы, заплюшчвалі вочы... І ноч пахла аерам. І дзве поўні мяняліся месцамі з той, што плыла над Зарэччам. І пярсцёнак... пярсцёнак з яблычна-зялёным хрызапразам ззяў на руцэ ў Залацістай, а потым заручыў яе з возерам...

Але – каб не пазбавіцца веры – востра патрабавалася нітачка, што злучыла б яго, былое, з рэальнасцю. Бо апроч успамінаў, якія ўзялі душу ў аблогу, адкуль я ведаў адзінае выйсце, не было анічога: ні кавалачка тынку з лесвіцаў Гатэля, ні засохлае стрэлкі аеру, ні, пагатоў, здымка кагосьці з нас. Гімнастка не стала зоркаю дарослага спорту, фотапартрэт у гарадской газеце, відаць, так і застаўся апафеозам ейнае славы, аднак і ён, партрэт, не захаваўся.

Думка пра здымкі не пакідала. Дзесьці ляжала выпускное фота нашага класа разам з выкладчыкамі. Я ліхаманкава гартаў стары альбом. Вось! Настаўнік быў сярод нас! Крыху здзіўлены твар, Акуляры ў тонкай аправе. Радзімая пляма на лбе не пакідала сумневаў. Я зноў зрабіўся вучнем, і таямнічы кінамеханік запусціў перада мною на белай сцяне каляровую хроніку.

Сканчваецца першы ўрок астраноміі, на класнай дошцы вісяць мапы зорных паўкуляў, а Настаўнік, тады яшчэ настаўнік, абводзіць нас вачыма: *У каго сфармуляваліся пытанні?* І тады падымае руку Кінг, вядомы ўсёй школе аматар задаваць пытанні выкладчыкам, Кінг, які праславіўся, пацікавіўшыся ў настаўніцы анатоміі й фізіялогіі, калі пачнуцца практычныя заняткі па размнажэнні чалавека. Кінг адважна пытаецца ў “астранома”, ці не метэарыт выпадкова чмокнуў яго ў лоб. І, спалохаўшыся сваёй смеласці, а мо таленавіта ўдаючы спалох, прабачліва дадае: *Ну, такі маленькі метэарыцік.*

*Зорка*, – адказвае настаўнік, дакрануўшыся да радзімай плямы, і, магчыма, не аднаму мне падаецца: яму на лоб напраўду калісьці ўпала і крыху расплылася ад “чмоку” кропля зорнага атраманту. Пакуль мы спрабуем асэнсаваць пачутае, астраном нечакана працягвае: *Таму ў мяне іншая форма душы.* Я выразна чую ягоныя словы, але цяпер думаю, што яны былі прамоўленыя моўчкі.

## 33

Гэта толькі здавалася, быццам старадаўні гадзіннік, што застаўся мне пасля мамінай смерці, звыкла адлічвае час. Насамрэч час павярнуў назад, а ў вызваленую прастору хлынулі ўспаміны, якія вымагалі ўдакладнення каардынатаў майго месцазнаходжання. Я асцярожна перавёў позірк на люстра цёмнага вакна, цалкам гатовы ўбачыць там сямнаццацігадовага юнака, але адтуль пазіраў усё ж я-сучасны, пра што найперш сведчыла барада. Ды навакольная цішыня відавочна перайначылася, і я зразумеў чаму: гадзіннік спыніўся на палове трэцяй.

## 34

З тыльнага боку нашага панельнага пяціпавярховіка ў зарасніках глогу і жоўтай акацыі пачыналася пажарная лесвіца. Яе першую ржавую папярэчыну аддзяляла ад зямлі адлегласць, прыкладна роўная майму росту. Падскочыўшы, я ўхапіўся адразу за трэцюю папярэчку і, нечакана лёгка падцягнуўшыся, праз якія пару хвілін ступіў на плоскі дах, неахайна заліты паўзверх руберойду бітумам.

Дом стаяў тарцом да ракі, усцяж якой ішла асфальтаваная сцежка. На тым беразе цягнуліся цёмныя дамы вёскі, што пакуль супрацьстаяла гарадскому наступу. Абмінуўшы слупкі вентыляцыйных калодзежаў і лясок тэлеантэнаў, я выйшаў якраз на бліжэйшую да набярэжнай частку даху. Нідзе такой парою не было ні душы, толькі вывадак качак плыў па рэчцы, кранутай няяркім святлом ужо нізкае поўні.

Сказаць, што сюды, на дах, гадамі не наведваліся людзі, я не мог. Дзве скрынкі з тонкіх дошчачак яўна не зваліліся з неба, а яшчэ адну хтосьці разабраў, каб запаліць тут цяпельца. Чужое багацце я аднёс бліжэй да антэнаў, і цяпер мне нічога не замінала. Заставалася зняць абутыя на босую нагу красоўкі.

Дах, як і там, далёка і даўно, захоўваў выразны водгук дзённае цеплыні, што дадавала ўпэўненасці. Мая істота мусіла ўспомніць, яе павінен быў "завесці" той непаўторны рытм, які нараджаўся з тонкім спевам нябачнай стралы і першымі акордамі музыкі. Аднак неба маўчала. Я пачаў рухацца па коле ў цішыні, спачатку нясмела, потым больш упэўнена, але нічога не адбывалася. Не даў ніякага выніку і рух з заплюшчанымі вачыма. З кожным новым колам я зняверваўся. Падзеі сённяшняга вечара і ночы падаваліся не больш, чым чарадою забаўных выпадкаў, а мае дзеянні – самападманам. Як быццам пацвярджаючы тое, удалечыні пачуліся галасы.

Я стаяў басанож на халодным руберойдзе і слухаў сэрца. Поўня схавалася, ветрык халадзіў твар, нагадваючы пра недалёкі досвітак. Па набярэжнай ішлі хлопец і дзяўчына. Яны ўбачылі мяне, бо пара спынілася і пачала перамаўляцца. Уваччу паўстаў малюнак з дзіцячай энцыклапедыі, дзе мінакі ў жаху глядзелі на самнамбула, што ішоў па вузкім гзымсе. У душы раптам прачнуўся хлапчук. Дорачы парачцы вострыя адчуванні, я наблізіўся да самага краю верхатуры і ўзняў рукі і твар у неба.

Спусціўшыся з даху, я пайшоў да ракі. Адмыў рукі ад іржы, апаласнуў твар, а потым доўга сядзеў пад ніцай вярбою на беразе. Над ракою плыў Паэтаў верш: *Жыве над кронай дрэва поўня...*

Бралася на досвітак. Але на развітанне тая ноч прыслала з глыбіняў маёй памяці радкі яшчэ аднаго паэта, з якім мы размінуліся ў часе:

Мне вочы вярні, дай святла ім, замглёным,
апаленым поўняй, шалёным, зялёным...

## 35

Удзень, шукаючы люк на дах, я абышоў у сваім доме ўсе пад'езды. Люк знайшоўся ў апошнім, але, як і чакалася, быў зачынены на цяжэзны свірнавы замок. Аднак змацаваныя ім дужкі аказаліся настолькі тонкімі, што адну ўдалося адолець кусачкамі.

Каб захаваць чысціню эксперыменту, позна ўвечары лёг у ложак і... праспаў да раніцы. Тое самае паўтаралася ноч пры ночы. Паслязаўтра вярталіся дзеці з жонкай, і кватэра, дзе атмасфера па-ранейшаму раз-пораз здавалася не такой, як звычайна, магла напоўніцца галасамі і набыць паўсядзённую якасць. Магчыма, я ўжо хацеў гэтага.

## 36

Я ўсвядоміў сябе на лесвіцы паміж чацвёртым і пятым паверхамі. Адрозна ад Гатэля нічога невытлумачальнага тут не прычынілася, і люк выпусціў мяне з пятага паверха на бязлюдны дах. Чародка сонных ластавак знялася з бліжэйшых антэнаў і адляцела далей.

Адно цяпер я заўважыў, што на нагах няма абутку. Дах ужо дыхаў восеньскім халадком, ды на другім коле ступакі сагрэліся і пакідалі рубероўду цёплыя сляды. Ноч была зорнай, але бязмесяцавай, і зарэчная вёска адступіла ў цемрыва. Праз колькі кругоў я апусціў павекі і даволі доўга, час ад часу мяняючы накірунак, рухаўся наўслеп. Потым, не спыняючыся, агледзеўся. Са стрэшак калодзежаў на чужаніцу ўражана і са шкадаваннем пазіралі ластаўкі. Але, наразаючы кола за колам, я не губляў надзеі. І тады, калі падступілася паняверка, паветра ледзь улоўна затрымцела і пачулася ціхуткая песня выпушчанай аднекуль стралы...

Цяпер я нарэшце не проста рухаўся, а – танчыў і ў нейкую хвілю адчуў: трэба зноў замружыцца і развесці рукі. Дакладней, не адчуў – пра гэта паведамілі ластаўкі, што наогул пакінулі дах з лёгкім ветрыкам, які не знік разам з іхнім адлётам. Яшчэ тры колы, сказаў я сабе, яшчэ тры...

І тут – здзейснілася! Кончыкі пальцаў адчулі лёгкае паколванне невідочных танюткіх іголачак. Ад разгубленасці, баючыся падману пачуццяў, я спачатку запаволіў тэмп, потым паскорыў яго, але іголачкі не знікалі, і ў маёй правай руцэ... У маёй правай руцэ з'явіліся кароткія, гладкія й цёплыя пальчыкі, што нельга было зблытаць ні з якімі іншымі. Я трошкі сціснуў іх, і яны выразна азваліся. Тым часам левая рука радасна страпянулася, сустрэўшы незабытую шурпатую руку Настаўніка. Я чакаў, каб аб ногі пацёрлася Котка, ды нашая чацвераногая танцорка не адгукалася.

Мы танчылі ўтраіх, затым я – так, як некалі даўно, на Гатэлі, калі мы мяняліся месцамі – па-ранейшаму з заплюшчанымі вачыма асцярожна вызваліў рукі, зрабіў крок наперад і развярнуўся. Мае раскрыленыя рукі чакалі дзвюх новых сустрэч, аднак дзівосы скончыліся. Нас заставалася трое: рука Настаўніка шурпаціла маю правую руку, а ручка Гімнасткі лашчыла левую.

Надышоў момант, у які музыка калісьці загадвала нам у танцы абняцца

за плечы, але я баяўся адпускаць іхнія рукі, каб не страціць тое вернутае адчуванне суладнасці, і мы танчылі да пошуму ластаўчыных крылаў, які абвясціў, што ўсё сканчваецца. Спачатку прысутнасць дарагіх мне рук пачала слабець і ператварылася ў лёгкі эфірны дотык, які, у сваю чаргу, стаўся паколваннем у кончыках пальцаў. Не чакаючы, пакуль ён знікне, я спыніўся і ўзняў рукі ў неба.

## 37

Прачнуўшыся і згатаваўшы сабе заўсёдную, чорную, быццам дзёгаць, кенійскую гарбату, якую можна піць толькі з малаком, я паспрабаваў асэнсаваць падзеі мінулае ночы.

Чаму нас танчыла ўсяго трое? Няўжо гэта азначае, што астатніх няма на свеце? Я не гатовы быў пагадзіцца, што няма нават Коткі, хоць ёй, паводле чалавечых мерак, і было б далёка за сто гадоў. Не хацелася думаць, колькі цяпер астатнім танцоркам з нашага брацтва, ды выглядала, іхні век, калі не прычынілася чаго благога, не павінен быў скончыцца, і мы ўсе маглі б, як і даўней, дарыць адно аднаму непараўнальную ні з чым радасць. Радасць, якую нам дадзена адчуваць не таму, што мы яе заслужылі, а – дзеля таго, каб ведаць: на свеце існуе, апрача нечалавечай самоты, і ўсеабдымная чалавечая еднасць, няхай вас усяго пяцёра і Котка.

Усе – і Кіяскёрка, і Залацістая Эфа, і нават Котка – павінны вярнуцца, пагатоў я ўжо меў канал сувязі з часам, у які мы, прынамсі некаторыя з нас, яшчэ пачуваліся неўміручымі.

## 38

У наступнае лета мы пачалі танчыць на беразе вадасховішча, на даху закінутай будыніны, якая нечым нагадвала Гатэль. Вакол яе таксама цягнуўся плот, але адарваных дошак ён меў значна болей, чым ацалелых, і ў ліпені праз іх было відаць, як па той бок малінавымі “шышкамі” зацвітае скрыпень.

Мы зноў дзялілі дах з ластаўкамі і, калі не лічыць іх, некалькі гадоў нас, танцораў, так і заставалася трое. Пачуццё нейкай віны перад астатнімі трыма паспела загаіцца. Знікненне Эфы з Кіяскёркаю і Коткай так і засталося без тлумачэння. Бывала, уяўлялася, што там, у нашым горадзе, на адлегласці начнога цягніка, яны, як і мы, у тыя самыя ночы выходзяць на дах і танчаць, бяруць Котку на рукі і плечы, а, калі гучыць фінал санаты, іх рукі ўзлятаюць да птушак і зор. І, магчыма, яны гэтаксама думаюць пра тое, што прычынілася з намі, і ўрэшце робяць выснову: усё надзіва проста: яны засталіся, а мы з’ехалі, але калі-небудзь вернемся...

А затым падзеі набылі нечаканае і страшнае развіццё.

## 39

Аднае начы мая рука сустрэла ў прасторы толькі руку Настаўніка. Другая, шукаючы Гімнастку, злучылася з яшчэ адной шурпатай даланёю.

Гартаючы назаўтра ў інтэрнэце навіны, я здрыгануўся ад загалоўка – “Апошні палёт гімнасткі”. У спальным сталічным мікрараёне скончыла жыццё самагубствам выкладчыца фізкультуры, якая раней займалася спартыўнай гімнастыкай. Жанчына, распавядалі суседзі, ураждала дзівацтвамі:

хтосьці бачыў яе ўначы на даху, хтосьці прыгадаў, як яна круціла там, на верхатуры, сальта. Фотаздымка загіблай на сайце не было, ды не заставалася сумневу: гаворка пра Гімнастку. Я бясконца пракручваў у памяці ейныя сальта над Гатэлем, калі гімнастка вылятала за край чорнага квадрата, аднак неверагодным чынам, зрабіўшы ў паветры фантастычны разварот, лёгка апускалася на моцныя зграбныя ножкі.

Верыць у самагубства пакутліва не хацелася. Колькі разоў я ездзіў на метро да яе дома, адрас якога знайшоў на стужцы навінаў, хадзіў навакольнымі сцежкамі, шукаў, але так і не знайшоў выйсця на дах. Амаль упэўнены, што тое самае рабіў і Настаўнік.

## 40

Настаўнік загінуў падчас восеньскага расстрэлу дэманстрацыі, што пасля выбараў павярнула з праспекта да прэзідэнцкага палаца. Ён трапіў у лік забітых снайперамі, якія стралялі па першых шэрагах. Вінтоўкі былі з глушыльнікамі, і напачатку ніхто на зразумеў, што адбываецца: людзі падаюць, а стрэлаў не чуваць. Потым мы кінуліся бегчы, і ў цісканіне смерць сустрэлі яшчэ трое дэманстрантаў.

Замежныя тэлеканалы буйным планам паказалі твары ўсіх застрэленых снайперамі: дзесяці мужчынаў і трох дзяўчат-сябровак. Памыліцца я не мог: светлы, крыху здзіўлены твар з сівізною, якая толькі падкрэслівала пляму ад пацалунка зоркі. Побач з ёю і ўвайшла куля.

Я выкадраваў і павялічыў ягонае аблічча з выпускнога школьнага здымка, і цяпер Настаўнік пазірае на мяне з кніжнай паліцы. Сталася так, што з-за фота выглядае карэньчык “Марсіянскіх хронік”.

Мы з Настаўнікам ведаем: іншая форма душы не ратуе ад смерці, а, наадварот, прыцягвае яе.

## 41

Пасля той трагедыі здарыўся цуд – вярнулася Эфа.

Ейная ядвабная, амаль няўлоўная рука легла ў маю ў першую ж цёплую травеньскую ноч. Рукі лашчыліся, нібы дзве страшэнна засумавалыя ад доўгага расстання істоты.

Яны не маглі нацешыцца адна адной і не хацелі развітвацца й тады, калі танец набліжаўся да канца, і мы пачыналі чуць, як ластаўкі стрыгуць паветра.

Шчасце доўжылася ўсяго тры начы. Я зноўку застаўся адзін і доўга не мог пазбыцца адчування ўсё меншай сваёй прыналежнасці да звыклага жыцця. Здаралася, я ўяўляў, што Залацістая Эфа – у тым падземным горадзе-лабірынце, адкуль яна павінна ўратаваць іншага закінутага ў чужы час і чужую прастору вандроўніка, , які блукае пад нізкай столлю бяззорнага неба. Можа, там некалі наканавана яшчэ раз апынуцца і мне – каб плысці поруч з Эфай і прачнуцца з фінікавым прысмакам, а мо нават і з костачкай за шчакой.

## 42

Мая таямніца дагэтуль са мною.

З надыходам траўня душа ўжо прадчувае набліжэнне начэй, калі мае

босыя ногі адчуюць шурпатую, як рука Настаўніка, паверхню даха, і я аддамся рытму танца, і знаёмыя ластаўкі, а з імі і ўсе зямныя гукі аціхнуць, і тады я заплюшчу вочы і раскіну рукі...

Я танчу ў промнях месяцавага святла, калі поўня ўрастае ў зямлю сваімі каранямі, і ў зорныя ночы, што сумуюць без месяца або адпачываюць ад яго. Танчу ў памяць пра юнацтва, пра нашае брацтва, якое будзе жыць, пакуль танчыць хоць адзін з нас.

Танчу ў памяць пра кожнага.

У памяць пра Настаўніка і ягоную іншую форму душы, што знайшла прытулак сярод зорак, адна з якіх калісьці пацалавала яго. У памяць пра Гімнастку, што робіць бясконцае сальта ў вечнасці. У памяць пра Кіяскёрку і яе дом з дзвюма поўнямі на карціне. У памяць пра нашую ласкавую Котку і мае здагадкі, кім яна насамрэч была. У памяць пра Залацістую Эфу, ейны пярсцёнак і наструненых вужоў у высокай траве. У памяць пра надзею на вяртанне яе ядвабных падушачак, якія апякуць руку шчасцем.

І бываюць ночы, калі я напраўду адчуваю: кожны з іх таксама танчыць недзе ў недасяжнай прасторы з такімі ж думкамі й адчуваннямі, што і я, а потым замірае, ускінуўшы рукі.

І бываюць ночы, калі я прысвячаю свой танец усім тым, хто зараз танчыць на дахах у іншых гарадах гэтага і таго свету.

Я танчу ў памяць пра Паэта, які аднойчы прачытаў мне верш і даказаў: паэзія здольная ўплываць на жыццё. І ў памяць пра карузліка, нават калі ён жывы, хоць я чуў, што ён памёр ад тугі па Паэту.

Я танчу ў памяць пра сябе, бо прыйдзе ноч, калі я пачну пашыраць кола свайго танца, пакуль яно не кранецца бездані і дах зноў будзе паўнаўладна належаць толькі ластаўкам, якія пачнуць забываць чалавека, што калісьці без дазволу ступіў на іх тэрыторыю, хоць і з павагаю зняў абутак.

Магчыма, у тую ноч дах тонка запахне аерам, і ногі спачатку будуць асцярожна, каб не паслізнуцца, ступаць па ягоных свежых халаднаватых сцяблінах.

Магчыма...

Але пакуль... Пакуль – я танчу!

*25 жніўня 2015 г.*



Леанід Дранько-Майсюк



...Калі ўжо свет нямілы –
Бяжы тады ад гора
Да мужавай магілы
Або да сына ў горад....

# Паязджане

***Дзве паэмы***

### *ПРАКЛЁН*

*...Падходзіць варажыць цыганка...*
М. Багдановіч, “Праклятце вагітнай”, 1912 г.

“Твае схаваны грошы
На востраве балотным,
А востраў той і гожы,
І ціхі, і самотны.

І да яго няпроста
Дайсці, як і даехаць –
За пушчаю той востраў,
За пугачовым смехам.

І за мядзведжым рыкам,
І гнечаю[1] нямілай...
За курганом вялікім,
Высокаю магілай.

За добраю валокай
Даўжэзнага папару
І за ракой шырокай,
І за глыбокім ярам...

Скажу я без падэсці,
Падману і сваволі –
Ты да яго далезці
Не здолееш ніколі!

Тваe прапалі грошы,
Згубілі дух камодны
На востраве тым гожым
І ціхім, і самотным...

Аднак жа, Любка, дбаю
Табе зрабіць падмогу,
Бо добры спосаб маю,
Як паказаць дарогу...” –

Прамовіла-сказала
Цыганка маладая
І папрасіла сала...
А ты?
Як бура тая:

“Сем коз набалбатала,
Сем воз[2] нагаварыла
І просіш, каб я сала
Кус добры адваліла?!

Мае схаваны грошы?!
Я грошай век не мела!
Якія грошы-вошы?!
Пайшла адсюль, чавэла!” –

І выпхнула за дзверы
Вандроўную цыганку...

[1] Гнеча – глухая, непраходная мясціна.
[2] Нагаварыць сем коз-воз (*давыд-гарадоцкае*) – сказаць шмат пустога, непатрэбнага.

Павук – на шыбцы шэры –
Схаваўся за фіранку.

Талеркі зазвінелі,
Балея затраслася,
Ліс і ліса з балеі
Віно смакталі ласа.

"Адкуль віно ў балеі?
І ліс адкуль з лісою?
Як пацукі ў алеі –
Гідоціна з гідою!

Нагнала да халеры
Брыды ад злога духу
За тое, што за дзверы
Прагнала балбатуху!" –

Ты з хаты за адрыну...
Страх на паўнеба вырас!
Павук сплёў павуціну
І з-пад фіранкі вылез.

Пачаў па-над карнізам
Цвяліцца-весяліцца,
І шчэрылася з лісам
На павука лісіца.

І ў тыя шчэры з бэлек
Ад крэйдавай акрасы
Пыл асыпаўся белы
І пацямнелы часам.

І шклела соль на шынцы
Пад марляю рудою,
Як л*а*сіцы[1] на шыбцы
Дасвеццем калядовым.

І ад лісіных мордаў,
І павучынай цвелі
Вада пабегла з вёдраў,
І вёдры апусцелі.

[1] Ласіцы – марозныя ўзоры на шыбах.

Куды сышла вада ўся?
Гаіць апёкі, драпы?!
Гайдаўся-калыхаўся
Павук тысячалапы.

На засланцы адбіўся
Ягоны цень рухавы.
Лісіца з'ядла з лісам
На засланку брахалі.

Віно цурчэла хіжа
З бляшанае крыніцы.
Павук спускаўся ніжай
Смактаць віно з масніцаў...

А ты?
У хату бегма!
Ля печы і ля ўслона
Пясок з анучы белай
Насыпала з паклонам.

Каб як хутчэй ачысціць
Падлогу ад гідоты...
Падкінуў жа нячысцік
Дурной такой работы!

Ад павучынай цвелі
І ад лісіных мордаў
Пясок усё адбеліць,
Пяску ў двары дачорта...

Насыпала ці мала –
Пад самую ікону
І тут жа праспявала
Замову ад праклёну:

"Сыдзіце павукі ўсе
І лісы, і лісіцы,
І страх мой, задушыся
На шкоду чараўніцы.

У багны, у балоты
Цячы, віно, з балеі –
Праз дзверы і вароты
Па трыснягу і глею.

І згінь за нівай голай,
За хвояю смалістай...
І, столя, будзь вясёлай,
І стань, падлога, чыстай!

Вярніся голас родны,
І за любую плату,
Вада, вярніся ў вёдры!
Спакой, вярніся ў хату...”

Аднак жа, Божа мілы,
Не пасвятлела ў хаце –
Пясок той страціў сілу
І белізну растраціў!

І як на тое – словы,
Відаць што, не ўдаліся...
Смяяліся з замовы
Лісіца злая з лісам.

І ўзрос павук шматногі,
Што ў дзверы не ўвапрэш ты –
Ад столі да падлогі
Набрак вінам дарэшты.

(...)

Калі ўжо свет нямілы –
Бяжы тады ад гора
Да мужавай магілы
Або да сына ў горад.

Пакінь за шчылкім плотам
Калодзеж і адрыну,
І пляц у дваццаць сотак,
І пад акном каліну.

І гарадскім палонам
Суцешся, супакойся –
Ні ліфта, ні балкона,
Ні лесвіцы не бойся...

Цыганку ўбачыш тую
На прывакзальнай плошчы,
І сэрца ўзлямантуе:
“Скляла мане навошчо?!”[1]

[1] Скляла мане навошчо (*давыд-гарадоцкае*) – Навошта мяне скляла?!.

І нейкі смех найбольшы
Цябе пратне з налёту:
"Мае схаваны грошы?!
Пакінуты балоту?!

Які ж гэта зладзюга
Украў, што нельга ўкрасці –
Мой чалавек-п'янюга?!
Ці сын?! Мой лёс і шчасце..."

І стомленай без меры
Самотай гарадскою
У сынавай кватэры
Прысніцца і такое:

Качыны пух на клямцы,
Курыны ля падмурка.
Парог аббіты лямцам,
Каб халады не дзьмулі.

Вады патопнай гулы...
І крыга стрыжнявая,
Падмяўшы плот і шулы,
На хату наплывае...

*29 лютага 1985 г., 17 сакавіка 1985 г.,*
*9 кастрычніка 2015 г., пятніца, 16 г. 33 хв.; Менск*

## ***ПАЯЗДЖАНЕ***

*Васілю Дранько-Майсюку – аўтару "Песняра" і "Сатурніянкі"*

*...Падарожныя, што заблудзіліся,*
*заўважыўшы з возера агонь у вакне, радаваліся...*

Ян Баршчэўскі. "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях", 1844 – 1846 гг. (Пераклад з польскай М. Хаўстовіча)

*...Снежным надзячы начлегам,*
*Пасыпае сном і снегам,*
*Лазам лезе ў сэрца, ў вочы,*
*Зазірае патарочай...*

Янка Купала, "Паязджане", 1918 г.

*...Верыма, верым вясёлаю верай,*
*Лёсам даверана нам:*
*Шлях нам – бясконцы, нямеранай мерай,*
*Шлях нам – заказаных брам...*

У. Жылка, "Экспрэс", 1925 г.

***1***

Якая навала
З патрэбы якой
У ноч вас пагнала
Парою такой?!

*Верасень, 2010 г.*

***2***

Снегавая навальніца...
Як з дарогі тут не збіцца...
Не відаць наўкол нічога...
– Дзе дарога?! Дзе дарога?!

Вые бура, вые вецер,
Знік спакой на цэлым свеце...
У душы адна трывога...
Не відаць наўкол нічога...

Ані свечкі, ані зоркі –
Снег заслаў усе пагоркі
І малітвы ўсе да Бога...
У душы адна трывога...

Страху поўнага прыдбаеш,
Як знянацку напаткаеш
Ці ваўкоў, ці д’ябла злога,
Ці малітвы ўсе да Бога...

Добрай весткі анізвання,
Ні ратунку, ні адхлання,
Ні прытулку хоць якога...
Шмат ваўкоў і д’яблаў многа...

Што за дзікая аблога?!
Нам бяда, а ёй нічога...
Шалу ейнага замнога...
Ні прытулку хоць якога...

У такой прыгодзе лютай
Уяўляецца з пакутай
Звон жаданага парога...
– Дзе дарога?! Дзе дарога?!

Божа моцны, Божа любы,
Нас не давядзі да згубы;
Як не зблізку, то здалёку
Свечку запалі ж у змроку!

*8 верасня 2010 г. – 3 кастрычніка 2015 г., субота, 17 г. 39 хв.; Менск*

### *3*

Галубка любая,
Хто цябе ўратуе
Ад холаду лютага?
Хто плач твой пачуе?

Пачуюць нашы хаты
І халепа-халепа –
І большае спагады
Ужо табе не трэба.

Галубка бедная,
Душа матулі
Над родным берагам
Цябе атуліць.

*Верасень, 2010 г.*

### *4*

Птушкі забылі пра гнёзды,
Пчолы забылі пра вуллі...
Людзі на торжышчы млосным
Праўду ў падман апранулі;

Кінулі родную хату,
Кінулі роднае поле
І за маленькую плату
Самі здаліся ў няволю.

Чорнае бачна на белым,
Белае бачна на чорным...
Млён ужо закасцянелы...
Круцяцца снежныя жорны...

Людзям бракуе лагоды,
Людзям бракуе развагі;
Пэўна, ужо назаўсёды
Страцілі рэшткі адвагі;

Страцілі песню жывую,
Людскую мову і веру...
Жальбу адкрыеш такую
Хіба што дзікаму зверу?!

Неверагоднай аблудзе
Неверагодна адданы –
Бездараж выбралі людзі...
Бездараж – боль несціханы...

*19 верасня 2014 г. – 4 кастрычніка 2015 г., нядзеля, 15 г. 37 хв.; Менск.*

*5*

Спявай, чарадзейны арган –
Суладдзе пяшчоты і гневу.
Ніякі раптоўны ўраган
Твайго не заглушыць напеву.

Цалуй беларускае дно
І мох, і кару, і карэнне –
Пакуль не памерла яно
У гэта, што маем, імгненне.

Няхай у тваім чараўстве,
Нябачнай, ды чутнай карціне
Упэўненасць тая жыве,
Якая душу не пакіне.

Якая стварае спакой,
Дае адчуванне прасторы,
І чуюцца людзі з якой
Шчаслівымі нават і ў горы...

Амаль з амярцвелай душой
Імчацца то ўнізе, то ўверсе
І мараць аб ласцы чужой,
Гарэлцы і добрым начлезе...

Спявай, чарадзейны арган,
Намецена снегу без меры...
Калі не хаціна – будан
Адчыніць няхай свае дзверы.

*20 верасня 2010 г. – 4 кастрычніка 2015 г., нядзеля, 11 г. 58 хв.; Менск.*

***6***

Д’ябла чорную ганітву
Не збаяліся мы, не...
Нашу Бог пачуў малітву –
Свечка ззяе на акне!

Мы ўжо выедзем з цямноты,
Коні стомлена хрыпяць...
Вось дарога, вось вароты,
Трэба стукаць, там не спяць!

Гэй, пачуй нас, гаспадару,
І пусці нас на начлег,
За такую за ахвяру
Будзем дзякаваць мы век!

Доўга ездзілі мы кругам,
Нас ганяла з краю ў край...
Дзе ты, сонная прыслуга,
Дзверы, браму адчыняй!

*9 верасня 2010 г.*

Алесь Кажадуб



...што б ні казалі фарысеі,

а чарка з селядцом была важнаю справай...

# Далёка ад радзімы

***Байкі пра пісьменнікаў***

## Папера для сала

Вядомы ў свой час пісьменнік Піліп Пестрак быў аўтарам прыжыццёвага збору твораў у чатырох тамах. У кожным з тамоў было не менш за пяцьсот старонак, і таму рукапісы патрабавалі вялікіх намаганняў. Іх трэба было не толькі напісаць ручкай на паперы, але і надрукаваць на машынцы, прачытаць, зноў перадрукаваць, яшчэ раз прачытаць – і тады толькі несці ў выдавецтва.

Але вось праца над чарговым рукапісам чатырохтомніка – раманам «Сустрэнемся на барыкадах» – была скончаная. Пісьменнік паклаў яе ў папку, завязаў тасёмкамі і накіраваўся туды, куды кожны аўтар выпраўляецца з заміраннем у сэрцы. Выдавецтва не проста было храмам літаратуры, – яно карміла, і нават вельмі няблага. Аўтар

раманаў па тым часе быў вельмі забяспечаны і вельмі паважаны чалавек, у пэўнай ступені генерал. А аўтар тэтралогіі цягнуў на маршала.

На шляху ад дома пісьменніка да выдавецтва знаходзілася адзінаццаць піўных. Некаторыя гаварылі – дванаццаць, але гэта не мяняе справы. Піўныя ў тыя часы таксама былі сур'ёзныя. Да ста грамаў гарэлкі ў іх абавязкова дадаваліся бутэрброды, а буфетчыцы сваіх кліентаў ведалі ў твар.

Накіроўваючыся ў выдавецтва, пісьменнік не мог не зайсці ў піўную і не пахваліцца таўшчэзным рукапісам.

– Гады працы! – ляпаў ён даланёю па папцы. – Крывёю і потам даводзіцца зарабляць на хлеб.

Наведвальнікі з павагаю слухалі маршала. У кожнай з піўных ён сустракаў знаёмых, літаратурную і калялітаратурную брацію, пісьменнік шчодра частаваў некаторых з іх, і здарылася так, што да выдавецтва ў той дзень ён не дайшоў.

Прачнуўшыся раніцаю з цяжкай галавою, пісьменнік жахнуўся – рукапісу рамана ў хаце не было. Плашч, чаравікі, нават пусты кашалёк былі на месцы, а папка знікла. Ён успомніў, што нехта дапамагаў яму дайсці да хаты, але рысы твару таго цалкам сцерліся. Гэта была катастрофа. Раман захаваўся толькі ў чарнавіках, раскіданых па ўсіх пакоях кватэры, і на ўзнаўленне яго патрабавалася паўгода, не меней.

– Як, як я мог яго згубіць? – бедаваў пісьменнік. – Цяжкая папка, не менш трох, а то і пяці кілаграмаў! І хто той нягоднік, які насмеліўся вырваць бясцэнны рукапіс з аслабелых рук?

Ён зноў накіраваўся ў паход па піўных, але вынікі былі няўцешныя.

Буфетчыцы памяталі, колькі грамаў ён замаўляў і якімі бутэрбродамі закусваў, аднак пра рукапіс нічога не маглі сказаць. Здаецца, быў, але таварыш пісьменнік забіраў яго з сабой.

– У авосьцы? – удакладняў пісьменнік.

– Так, у авосьцы, разам з бутэлькай гарэлкі і булкаю.

Вось гэта і было самае страшнае. Злачынец, канечне, паквапіўся не на папку. Бутэлька гарэлкі з булкаю! За іх маглі і забіць, пры пэўных абставінах, вядома.

Піліп Сямёнавіч у другі раз пачаў пісаць раман. Ён сам дыктаваў машыністцы тэкст, праклінаючы злодзеяў і ўласны почырк, як высветлілася, зусім не ідэальны. Праца была цяжкая, але да Новага года ўсё было скончана. Акуратны рукапіс зноў радаваў вочы аб'ёмам і вагою. Піліп Сямёнавіч занёс яго ў выдавецтва, стараючыся нават не глядзець у бок піўных. Адтуль, між іншым, прыемна патыхала.

Адразу з выдавецтва пісьменнік накіраваўся на Камароўку. Было ўжо трыццатага снежня, а ў хаце скончылася сала. Хіба можна ўявіць сабе калядны стол у сям'і вядомага беларускага пісьменніка без тонка наскрыленага сала з любовінкаю? Нельга. На стале магла адсутнічаць любая закуска, той жа селядзец пад шубаю, напрыклад, толькі не сала. Прычым сала на рынку Піліп Сямёнавіч заўсёды выбіраў сам.

На Камароўцы панавала перадnavaгодняя мітусня. Пахла вэнджаным кумпяком, кіслай капустай, яблыкамі. Піліп Сямёнавіч доўга хадзіў па радах прыцэньваючыся. Некалькі разоў каштаваў сальца. У аднаго мужыка яно было ў самы раз: мяккае, з двума прожылкамі мяса, у меру прыпраўленае часныком.

– Загортвай вось гэты шматок, – паказаў Пiлiп Сямёнавiч, – i гэты. На колькi парсюк пацягнуў?

– Пудоў на дзесяць.

– Бульбаю карміў?

– Камбікормам.

Мужык дастаў з-пад прылаўка некалькi лiстоў паперы i пачаў загортваць сала. Пiлiп Сямёнавiч насцярожыўся. Сэрца ёкнула. Ад паперы патыхнула чымсьцi да болю знаёмым.

– А ну, пакажы... – пацягнуў ён да сябе паперу.

Гэта быў ягоны раман. Нават не чытаючы, пiсьменнiк пазнаў радкi. Кепска прадрукаваная лiтара «у», трохi крыва стаiць «i».

– Вось i сустрэлiся, – выдыхнуў Пiлiп Сямёнавiч. – На барыкадах...

– А што такое? – спалохана азiрнуўся па баках мужык.

– Дзе ўзяў паперу?

– Дык, гэта, на вакзале знайшоў. Пад лаўкай ляжала. Добрая папера. З аднаго боку запэцканая, а другая палова чыстая. Яй-богу, тоўстая папера, дасюль нiхто не скардзiўся...

Мужык перажагнаўся.

– А я i не кажу, што дрэнная, – сказаў Пiлiп Сямёнавiч. – У пiсьменнiцкай краме купляў. Шмат засталося?

– Ды не, – дастаў з-пад прылаўка некалькi лiстоў мужык, – амаль усю зрасходаваў. Скрозь яе сала не праступае.

Праз некалькi год Пiлiп Пестрак стаў лаўрэатам лiтаратурнай прэмii iмя Якуба Коласа, але за iншы раман.

Вiдаць, «сустрэча на барыкадах» усё ж адыграла сваю ролю.

## Шклянка Паўлюка

У сярэдзiне сямiдзясятых гадоў я працаваў у рэдакцыi лiтаратурна-драматычных праграм тэлебачання, якая месцiлася на Камунiстычнай вулiцы амаль насупраць музея I з’езда РСДРП. Месца было выдатнае ва ўсiх адносiнах: цiхае, утульнае, а самае галоўнае – далекавата ад вачэй начальства. Само начальства сядзела на Чырвонай вулiцы побач з Домам радыё i бачыла нас толькi на агульнастудыйных лятучках па панядзелках.

Але найбольшай заганай лiтдрамаўцаў была ўсё ж мова. Амаль усе супрацоўнiкi рэдакцыi гаварылi па-беларуску не толькi на працы, але i дома. I патрабавалi гэтага ад сваiх дзяцей.

Аднойчы я пазванiў дахаты адказнаму сакратару рэдакцыi Юзiку Скурко, якi захварэў i сядзеў на бальнiчным.

Трубку ўзяў пяцiгадовы сын Юзiка Сяржук.

– Дзе бацька? – спытаў я.

– Бацька з дзядзькам сядзяць на кухнi, – адказала дзiця, – п’юць гарэлку i закусваюць селядцом.

Гэтая фраза ўразiла мяне. Яна была вартая таго, каб яе запiсалi ў аналы. Па-першае, яна была прамоўленая на чысцюткай беларускай мове. Па-другое, яна была лапiдарная, як лацiнскi афарызм. I па-трэцяе, у ёй вызначыўся менталiтэт беларуса ва ўсёй яго глыбiнi.

Я асцярожна паклаў трубку. Не замiнаць жа людзям, занятым важнаю справай. Што б нi казалi фарысеi, а чарка з селядцом была важнаю справай.

Амаль усе мае калегі па рэдакцыі былі радыстамі, дакладней, радыйнікамі. У тыя часы журналісты дзяліліся на тры катэгорыі: газетчыкі, тэлевізійнікі і радыйнікі.

Я вучыўся на філфаку і ўсіх гэтых тонкасцяў не ведаў.

– Ну, як жа, – растлумачыў мне Алесь Гаўрон, які вучыўся на журфаку паралельна са мной. – Тыя, хто ўмеў пісаць, ішлі ў газетчыкі. Хто не ўмеў, але вучыўся з тройкі на чацвёрку, падаваліся на тэлебачанне. Ну, а астатнія на радыё.

– Двоечнікі?

– Хутчэй, небаракі. Там жа нічога не трэба ўмець. Уключыў дыктафон і пішы.

Я змоўчаў. Дыктафон тады мне ў рукі яшчэ не трапляў, і я не ведаў, што такое ўключаць і пісаць.

Што б там ні казалі адзін пра аднаго журналісты, а мае радысты былі харошыя хлопцы.

– Пайшлі з намі на могілкі, – прапанаваў аднойчы Юзік Скурко.

– Куды? – здзівіўся я.

– У госці да Паўлюка Труса.

Я ведаў, што Паўлюк Трус быў паэт, які пражыў усяго дваццаць пяць гадоў. Ягоны верш «Падаюць сняжынкі» ў школе вучылі на памяць, і насамрэч, гэта быў выдатны верш.

– А дзе ён пахаваны?

– На Вайсковых могілках.

Гэта было недалёка ад нашае рэдакцыі, і я пайшоў з Юзікам і Лявонам Маліноўскім.

«Заадно і Купалу пакланюся», – падумаў я.

Галоўнай славутасцю Вайсковых могілак быў, канечне, помнік на магіле Янкі Купалы.

Па дарозе мы зайшлі ў краму і купілі бутэльку гарэлкі і тры плаўленыя сыркі.

– Трэба памянуць, – сказаў Лявон, злавіўшы мой позірк. – Без гэтага нельга.

На могілках хлопцы арыентаваліся, як на сваім агародзе. Павярнулі раз, другі, адхінулі голле хмызоў – і мы апынуліся перад сціплым каменем, на якім было выбіта: «Паўлюк Трус. 1904 – 1929».

– Вось і шклянка.

Юзік узяў з помніка гранёную шклянку, хукнуў у яе і абцёр аб рукаў пінжака.

Хлопцы налілі па поўнай шклянцы і па чарзе залпам выпілі. Я сваю долю агораў за тры разы.

– Навучыцца, – сказаў Лявон. – Паўлюк, мо, таксама не ўмеў.

– Каб умеў, яго б ніякі тыфус не ўзяў, – пагадзіўся з ім Юзік. – Тады, праўда, гэтак не пілі, як цяпер.

– Адкуль ты ведаеш? – скасавурыўся на яго Лявон.

– Дзед расказваў. Працавалі ад цямна да цямна, якая гарэлка?

– Дык ён жа паэт.

– Ты што думаеш: пакуль сяляне аралі, паэты пілі?

– А Ясенін?

– Ясеніну таксама трэба было за сталом сядзець.

Юзік махнуў рукой, паказваючы, як Ясенін сядзеў за сталом і пісаў,

і зачапіў рукой шклянку, што стаяла на помніку. Шклянка стукнулая аб падмурак і разляцелася на дробныя друзачкі.

«Вось табе і дыяменты-росы», – мільганула ў галаве.

– Добра, хоць пустая была, – сказаў Лявон.

– З чаго цяпер будуць піць хлопцы? – зірнуў на яго Юзік.

– Якія хлопцы? – здзівіўся я.

– Ты што думаеш, мы адныя сюды ходзім? – уздыхнуў Юзік. – Уся творчая інтэлігенцыя Мінску.

– Ну, мо, не ўся, – таксама ўздыхнуў Лявон. – Пісакам з «Вячоркі» зусім блізка.

– Нядаўна з Міхасём Стральцовым выпівалі, – сказаў Юзік. – Вы тут прыбярыцеся, а я пайшоў у краму.

– Навошта? – зноў здзівіўся я.

– Куплю шклянку, – паглядзеў на мяне, як на немаўля, Скурко. – Сяброў без шклянкі не пакідаюць.

Ён знік у хмызах.

Мы з Лявонам сабралі друзачкі шкла і загарнулі ў газету.

– Пайшлі да Купалы, – прапанаваў я.

– Ідзі, – сказаў Лявон, – я тут пасяджу.

Як я цяпер разумею, ён пасаромеўся ісці да Купалы пасля таго, як пабыў у Паўлюка. Розныя постаці, розныя помнікі над іхнімі магіламі. Паўлюк Трус для Лявона з Юзікам быў сваім хлопцам. А на помнік Купалу шклянку не паставіш.

Юзік вярнуўся дзесьці праз гадзіну.

– Ледзь знайшоў, – сказаў ён, дастаючы з кішэні бутэльку.

– Гарэлку? – спытаў я.

– Шклянку, – дастаў з другое кішэні гранёную шклянку Юзік. – Гарэлку дзе хочаш купіш, а шклянку толькі ў спецыяльным магазіне. Ды і то не ў кожным.

– Малянкоўскіх шклянак скора зусім не будзе, – сказаў Лявон.

Ён як у ваду глядзеў. З развалам СССР гранёныя шклянкі з паяском бясследна зніклі.

Але тады, у сярэдзіне сямідзясятых, усё было зроблена як мае быць: у краме купілі бутэльку, а на помнік Паўлюку паставілі шклянку.

## Генерал Бялевіч

Паэта Антона Бялевіча добра ведалі ў Беларусі: удзельнік партызансказа руху, аўтар шматлікіх паэтычных кніжак. У яго, дарэчы, ёсць верш пра тое, як разам з Піліпам Пестракам паэт пабываў у вёсцы Канапелькі. Ён заканчваўся словамі: «Я – паэму напішу, ён – раман напіша!» Напісалі.

Як кожны сапраўдны паэт, Антон Пятровіч любіў застоллі з маладымі паэтамі, калі можна і сябе паказаць, і іншых павучыць. Гарэлка хутка выпівалася, у кішэнях, як той казаў, як вымецена, і Бялевіч гучна аб'яўляў:

– Гайда да генералаў!

– Навошта? – здзіўлялася моладзь.

– Пазычым на бутэльку.

Ён браў за праважатага каго-небудзь з маладых паэтаў і накіроўваўся ў штаб.

– Генерал Бялевіч! – кідаў ён на хаду паставому – Гэты са мной.

Іншы раз фокус удаваўся, і Бялевіч пазычаў у знаёмага генерала траяк, а то і дзясятку.

– Як ён сюды трапіў? – прабіраў пиставога генерал.

– Падобны... – апраўдваўся той.

Аднойчы «генерал Бялевіч» напярэдадні Новага года прыйшоў чытаць вершы на тэлебачанне. Эфір быў «жывы». У тыя часы гэта практыкавалася: паэта саджалі за стол, уключалі камеру, і ён барабаніў вершы па паперцы. Адзін рубель восем капеек за радок – аўчына была вартая вырабу.

Антон Пятровіч усеўся за сталом, на камеры запаліўся агеньчык, і ён пачаў: «Мы прыйшлі ў палескі край з Пестраком Піліпам...»

Памочніца рэжысёра, у абавязкі якой уваходзіла змена заставак на трынозе, з палёгкай уздыхнула і пайшла курыць. У яе было вольных пятнаццаць хвілін. Каб дым не ішоў у студыю, яна асцярожна прачыніла цяжкія двайныя дзверы. Па студыі праляцеў парыў скразняку, і ўсе паперкі, што ляжалі перад паэтам, здзьмула са стала, у ягоных руках застаўся толькі адзін лісток.

Верш скончыўся. У студыі запанавала цішыня. Бялевіч няўцямна паглядзеў на пусты стол. На памяць ён не ведаў ні сваіх вершаў, ні чужых. Тэлеаператар затросся ад бязгучнага рогату. Гукарэжысёру зрабілася кепска. Паэт уздыхнуў і палез пад стол. У кадры зрэдзь з'яўляліся то галава, то плячо, то рука с лістком паперы. Стос паперчын на стале паціху рос.

– Пераходзьце на нейтральную застаўку! – стагнаў рэжысёр.

Але памрэжка курыла, і памяняць застаўку не было каму.

Нарэшце ў кадр марудна запоўз паэт. Ягоны твар быў чырвоны, валасы дыбарам, на кончыку носа трымцела кропелька поту. Дрыгатлівай рукою ён узяў ліст паперы і прачытаў: «Пад акном адна ты не сядзі і да мяне, харошая, прыйдзі...»

Паэт змоўк. У такой крытычнай сітуацыі яму не даводзілася бываць нават у партызанскім атрадзе.

– Зблытаўся, – збянтэжана паглядзеў ён у камеру. – Пайду дахаты.

– Ой, мамачкі... – прашаптала памрэжка, якая ўжо вярнулася на сваё месца, абаперлася рукой на трыногу, і тая з грукатам абрынулася на падлогу.

Гукарэжысёр адключыла гук у студыі.

Гэта была апошняя «жывая» перадача Беларускага тэлебачання.

## Убачыць Парыж – і памерці

Мяне прынялі ў Саюз пісьменнікаў, і я пачаў захаджваць у новы Дом літаратара ў Мінску. Мне падабаліся прасторныя холы, сакратарскія кабінеты і асабліва буфет, у якім каньяк, гарэлка і бутэрброды прадаваліся без рэстараннай нацэнкі.

У бары я часцей за ўсё выпіваў з супрацоўнікам Літфонду Сталяровым. Ён не быў пісьменнікам, але добра разбіраўся ў літаратуры.

– Ведаеш, якая самая вялікая загана ў тутэйшых пісьменнікаў? – спытаў ён, кульнуўшы чарку.

– Не, – пахітаў я галавой.

– П'юць ды не закусваюць!

Мы з ім закусвалі.

– А я на гістарычную радзіму сабраўся, – уздыхнуў Сталяроў.

– Куды? – здзівіўся я.

– У Ізраіль.

– Ты ж Сталяроў, – яшчэ больш здзівіўся я.

– Сталяровым я зрабіўся нядаўна, усяго сто гадоў таму. Дзеда перад Першай сусветнай прызвалі ў царскую армію. «Прозвішча?» – пытаецца пісар. – «Хаім Лейба Модаль», – адказвае дзед. – «Чым займаешся?» – чухае патыліцу пісар. – «Сталярнічаю». – «Сталяроў», – піша пісар. Тады з гэтым было проста.

– Ды і зараз нічога складанага, – згадзіўся я. – Сёння Габерман, заўтра Алексін.

– Не блытай божы дар з яечняю! – строга паківаў пальцам у мяне перад носам Сталяроў. – А лепш закусвай.

Аднойчы я зазірнуў у прыёмную першага сакратара праўлення. Сакратаркі на месцы не было.

– Заходзь! – паказаўся ў дзвярах гаспадар кабінета. – От ты мне якраз і патрэбны.

Я паціснуў плячыма і зайшоў у кабінет. Там быў наведвальнік.

– Вось, знаёмся, – прадставіў яму мяне першы сакратар. – Новы член нашага Саюза. Прабач, мне з ім трэба пагаварыць.

Наведвальнік крадком зірнуў на мяне, але з месца не скрануўся. Гаспадар узяў са стала нейкую паперу і пачаў углядацца ў яе. Мне зрабілася ніякавата.

– Ну, дык што, Іван? – нарэшце загаварыў наведвальнік. – Дасі кватэру ці не дасі?

– Макар! – плаксівым голасам сказаў гаспадар. – Я ж табе ў мінулым годзе чатырохпакаёвую даваў!

– Тады мы з дачкой з’язджаліся. А цяпер я разводжуся. Няхай падавіцца. Я згодны на двухпакаёвую.

– А што мне пісьменнікі скажуць? У іх таксама дочкі. І разводзяцца праз аднаго. У яго вунь зусім кватэры няма, – паказаў на мяне сакратар. – Не магу ж я даваць усім адразу. Пачакай трохі.

– Ды я на гэтую ведзьму глядзець не магу! – плюнуў на палас наведвальнік. – Я табе так скажу, Іван, не дасі кватэру – пайду на самы верх.

– Не палохай, я і ёсць самы верх. Будзе магчымасць – выдзелім. Заяву ў жыллёвую камісію напісаў?

– Недзе тут... – пачаў корпацца ў кішэнях пісьменнік.

– Вось напішы заяву і занясі.

Наведвальнік устаў і паволі выйшаў з кабінета.

– Расплюваліся! – зацёр нагой плявок на дыване сакратар. – Ідуць і ідуць – то кватэру, то машыну, то дачка замуж пайшла. Я што – з кішэні дастаю гэтыя кватэры?

Я далікатна змоўчаў. Першы сакратар нашага Саюза быў старшынёй Вярхоўнага Савета рэспублікі і мог дастаць з кішэні што заўгодна. Зазваніў адзін з пяці тэлефонных апаратаў на стале.

– Масква! – беспамылкова вызначыў гаспадар і падняў трубку. – Я. Дэлегацыя ў Парыж у канцы года? Праз тыдзень? Не, не паеду, у Парыжы я нядаўна быў. Ды не, ніхто з нашых не паедзе. Ага, тэлефануй, калі што.

Ён паклаў трубку.

– Дык што ў цябе? – паглядзеў ён на мяне.

– Вы хацелі пра нешта пагаварыць са мной.

– Пагаварыць? Ну, так. Пішы, хлопец, апавяданні. І аповесці пішы.

Пасталееш – сядзеш за раман. Я вось адразу з рамана пачаў, сямсот старонак! У Парыж трэба ехаць – а не магу, пішу новы раман. Так што ідзі працуй. А Парыж – цьху! Выедзенага яйка не варты.

І я з ім пагадзіўся. Ніякі Парыж мне тады не быў патрэбны. Зрэшты, як і цяпер.

А кватэру я праз паўгода атрымаў. Застойны час...

## Далёка ад радзімы

У літаратурна-драматычнай рэдакцыі Беларускага тэлебачання я працаваў у другой палове семідзясятых. Гэта, канечне, быў застойны час, аднак і тады адбывалася сёе-тое цікавае. Аднойчы ў буфет Дзяржтэлерадыё, які быў запоўнены натоўпам памочнікаў рэжысёра, адміністратараў, гукарэжысёраў і розных рэдактараў, увайшлі акцёры Вахтангаўскага тэатра. У тыя дні ён гастраляваў у Мінску. Усе яны былі ў адметных гарнітурах і гальштуках. Першым ішоў, натуральна, Міхаіл Ульянаў. За ім шпацыравалі Мікалай Грыцэнка, Вячаслаў Шалевіч, Васілій Ланавой. Завяршаў шэсце, што таксама было зусім натуральна, Юрый Якаўлеў. У буфеце зрабілася ціха.

– Мамачкі! – піскнула памрэжка Светачка, што сядзела побач са мной, і ўпусціла з рук нож, а за ім і відэлец.

Я пару тыдняў назад усю ноч распісваў «пульку» з таганскімі хлопцамі Высоцкім, Залатухіным і Смехавым, і таму зрабіў выгляд, што вахтангаўцаў не заўважаю. А тыя, у свой чарод, не заўважылі чаргу і прайшлі адразу да барменшы Людмілы, якая падцягнула жывот і крыху адтапырыла азадак, трэба сказаць, немаленькі. У чарзе ніхто не абазваўся ні гукам.

– Гляньце, а тут наліваюць! – сказаў Якаўлеў голасам Івана Васільевіча, які мяняе прафесію, і прагучала гэта зусім па-царску.

– Адставіць! – не павярнуўшы галавы, сказаў Ульянаў. – Па кубку кавы і бутэрбродзе. Увечары, між іншым, спектакль.

Голас у яго таксама быў што трэба.

– Якія мужчыны!.. – прастагнала за маёй спінаю адна з тэлевізійных дам.

Светачка і гэтага прастагнаць не магла. У яе трэсліся рукі, дрыжала падбароддзе і імкліва набрыньвалі вільгаццю вочы.

«А ты што млееш? – падумаў я. – Даўно пара ісці замуж за якога-небудзь тэхніка або асвятляльніка».

Акцёры выпілі каву за барнай стойкаю і пайшлі ў студыю.

А я паехаў у Дом літаратара запісваць творчы вечар пісьменніка Алеся Рыбака.

– Пісьменнік, канечне, не першага рада, – сказаў Валянцін Цімафеевіч, мой галоўны рэдактар, – але пазванілі з ЦК. Да нядаўняга часу працаваў у Крамлі, перакладаў на беларускую мову ўказы і пастановы.

– Навошта? – спытаўся я.

– Што «навошта»?

– Каму беларуская мова ў Крамлі патрэбна?

– Не твайго розуму справа! – зрабіўся барвовы Валянцін Цімафеевіч. Ён яшчэ не забыўся пра вымову, якую яму ўляпілі з-за мяне.

Я сядзеў у рэдакцыі, калі зазваніў адзін з тэлефонаў. Я падняў трубку.

– Хто там? – рыкнула трубка.

– А там хто? – пацікавіўся я.

Канечне, я пазнаў голас намесніка старшыні Дзяржтэлерадыё. Трубка зайшлася гнеўнымі кароткімі гудкамі.

Ва ўсёй гэтай гісторыі мяне здзівіла, што вымову аб'явілі не мне, а галоўнаму рэдактару. Відаць, выносіць пакаранне зброду накшталт мяне для начальства было ніжэй ягонай годнасці.

– Затое ў іх заробак нашмат большы, – сказаў я, калі мы абмяркоўвалі гэты факт у курылцы.

– А цябе ў наступны раз выганяць, – сказаў Васіль Шымко.

Ён быў сваяк Валянціна Цімафеевіча. Я на Васіля не пакрыўдзіўся.

Дык вось, мне было даручана запісаць творчы вечар Алеся Рыбака, і я безадгаворачна падпарадкаваўся.

– Рыбак не твой сваяк? – на ўсякі выпадак спытаўся я Васіля, з якім сутыкнуўся на выхадзе са студыі.

– Пайшоў ты! – зазлаваў той.

Да сямі гадзін вечара зала Дома літаратара практычна запоўнілася. Напрыканцы семідзясятых пісьменнікі карысталіся павагаю. Ды і ў кожнага з іх было поўна сваякоў і знаёмых. Я сядзеў у першым радзе. Гэта была адна з нямногіх прывілеяў прафесіі тэлевізійнага рэдактара – быць на вачах.

Алесь Рыбак выйшаў на сцэну. Быў ён невысокі, але вельмі паважны. Узяўшыся рукой за падбароддзе, пісьменнік некалькі разоў прайшоўся з аднаго боку сцэны ў другі. Увесь ягоны выгляд паказваў, наколькі пачэсная, цяжкая і адказная пісьменніцкая ноша. Нарэшце ён спыніўся перад мікрафонам.

– Вельмі доўгі час, – пачаў Рыбак, – я жыў далёка ад радзімы. Я працаваў у Крамлі.

Зала выбухнула апладысментамі.

– Лепш за пісьменнікаў гавораць толькі генералы, – сказаў рэжысёр Слава, калі я ў перапынку падышоў ды яго. – Даўно я не плакаў ад рогату.

– Я таксама пісьменнік, – чамусьці пакрыўдзіўся я.

– Але не з Крамля. Пішы, дарагі, раптам атрымаецца.

На жаль, нічога падобнага ў мяне не атрымалася.

## На дачу да Караткевіча

Так сталася, што Уладзіміра Караткевіча, аўтара «Дзікага палявання караля Стаха», «Чорнага замка Альшанскага» і «Зямлі пад белымі крыламі» пры жыцці лепш ведалі ў Берліне, Варшаве і Празе, чым у Маскве. Я на свае вочы бачыў у «Литературной газете» артыкул пра вядомага польскага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча.

На Беларусі ён часцей за ўсё друкаваўся ў часопісе «Маладосць», у якім я ў канцы сямідзясятых працаваў у аддзеле нарыса і публіцыстыкі.

Аднойчы Уладзімір Сямёнавіч прыйшоў да нас з новым нарысам. Мы тут жа наладзілі застолле. Нягледзячы на тое, што рэдакцыя часопіса знаходзілася ў будынку ЦК камсамола, мы дазвалялі сабе выпіць чарку-другую з аўтарамі, тым больш такімі, як Караткевіч. Інструктары-цэкамольцы нас люта за гэта ненавідзелі, але зрабіць нічога не маглі. Творцам многае дазвалялася нават пры Сталіне.

Махнула крылом адна бутэлька, за ёй другая. Нечакана ў наш пакой

увайшоў галоўны рэдактар часопіса Генадзь Бураўкін. Звычайна галоўныя пазбягалі застолляў з радавымі супрацоўнікамі, але тут усё-ткі Караткевіч.

– А да мяне завітаў пісьменнік з Літвы, – сказаў Генадзь Мікалаевіч. – Галоўны рэдактар часопіса «Яўніма гратас».

– І яму нальем, – дастаў я з партфеля трэцюю бутэльку.

Літоўскі пісьменнік, такі ж самавіты, як і Бураўкін, ніколькі не ганарыўся. Наадварот, ён сказаў доўгую і напышлівую прамову пра тое, што лічыць за шчасце чокнуцца са славутым пісьменнікам Караткевічам. Бураўкін расчуліўся, схадзіў у свой кабінет і дастаў з сейфа штоф «Белавежскай».

– А паехалі да мяне на дачу! – падняўся ва ўвесь свой немалы рост Караткевіч. – Нядаўна тры літры старадарожскай самагонкі прывезлі. Закусім мядзведжай лапаю.

Грамада ў захапленні загула. Пабываць на дачы Караткевіча было мараю кожнага з нас. Пра мядзведжую лапу таксама ўсе чыталі ў «Дзікім паляванні караля Стаха».

Бураўкін выклікаў з гаража ЦК службовую «Волгу».

– У адной усе не змесцімся, – сказаў я.

Галоўны кіўнуў, пайшоў у свой кабінет і пазваніў па «вяртушцы».

– Першы сакратар сваю машыну дае, – сказаў ён, вярнуўшыся.

Мы выйшлі з будынка ЦК і пагрузіліся ў бліскучыя белыя «Волгі». На вуліцы змяркалася, але нікога з нас гэта не хвалявала.

– Каля «гастранома» спынімся, – даў мне дваццацьпятку Генадзь Мікалаевіч. – Купіш дзве бутэлькі, мінералку, хлеб і батон каўбасы.

Я ўсё зрабіў так, як ён загадаў. У магазінных чэргах ніхто не наракаў. Мусіць, у іх ведалі, што я закупляюся для пісьменніка Караткевіча і ягоных гасцей.

Я ехаў у машыне рэдактара. Побач сядзелі Караткевіч і літовец. Астатнія пісьменнікі ехалі за намі ў машыне першага сакратара.

Уладзімір Сямёнавіч зацягнуў песню пра сярэднявечную гулянку. У ёй расказвалася, што багатаму дзядзьку не трэба хадзіць туды, дзе п'е галота. «Не хадзі ты, дзядзька багаты, дзе басота п'е. Адзін за рукі, другі за ногі, трэці б'е ў каршэнь...»

– Каршэнь – гэта патыліца, – растлумачыў я літоўцу.

– Я-а... – ашаломлена працягнуў той.

– А куды мы едзем? – раптам перастаў спяваць Караткевіч.

– Да цябе на дачу, – сказаў з пярэдняга сядзення рэдактар.

– Хіба ты не ведаеш, што ў мяне няма дачы? – нахіліўся да яго Караткевіч.

Я і рэдактар утаропіліся адзін на аднаго вытарашчанымі вачыма. Якраз учора мы з ім гаварылі пра меркаванага аўтара ананімнай паэмы «Сказ пра Лысую гару». У ёй гаворка ішла пра пісьменніцкія дачы. Я разам з многімі іншымі лічылі, што аўтарам з'яўляецца Караткевіч. Надта ж добра паэма напісаная.

– Але ў яго няма дачы, – сказаў Бураўкін, калі я скончыў свае разглагольстваванні. – Каб так напісаць, трэба там жыць.

Я вымушаны быў з ім пагадзіцца.

І вось мы едзем на дачу да Караткевіча.

– Ну, вы даяцё! – рагатнуў кіроўца Толя.

Між іншым, ён лепш за іншых ведаў, хто з пісьменнікаў мае дачу, а хто не.

– Толя, – пакратаў яго за плячо Караткевіч, – убачыш зручнае месца і спыняйся.

– Ды што тут убачыш пасярод ночы! – хітнуў галавой той.

Але спыніўся тым не менш ён вельмі ўдала. Побач з дарогай самотны дуб, пад дубам поўна сучча. Мы з Гаўронам хутка нацягалі ламачча і расклалі вогнішча. У святле фараў дзвюх машын яно глядзелася вельмі маляўніча.

– Хлопцы! – падняў шклянку з «Белавежскай» Караткевіч. – Хіба на дачы гэтак вып’еш?

Ніхто з ім не спрачаўся. Гэта сапраўды было адно з лепшых застолляў у маім жыцці.

## Паліцаі ў цюбецейках

Янка Брыль на Беларусі быў такі ж славуты пісьменнік, як і Караткевіч. Трэба сказаць, яны і знешне адпавядалі адзін аднаму. Нягледзячы на два метры росту і масіўны склад цела, Іван Антонавіч быў пранікнёны, нават шчымлівы лірык. І ў гумары разбіраўся. Ягоныя досціпы з аповесці «Ніжнія Байдуны» адразу разышліся на цытаты. Наогул, мушу сказаць, Галіяфаў у беларускай літаратуры хапала. Акрамя Брыля, ростам вылучаліся Кандрат Крапіва, Іван Мележ, Іван Навуменка, Ніл Гілевіч. Максім Танк таксама быў немаленькі.

Я сам належаў да маларослага падраздзялення беларускай літаратуры. На жаль, класікаў сярод нас было мала – Іван Шамякін, Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка.

Але, нягледзячы на ўсю маю нягегласць, менавіта Брыль падтрымаў мяне пры ўступленні ў Саюз пісьменнікаў.

– У яго апавяданне пра старую добрае, – сказаў Брыль на абмеркаванні. – А той, хто ўмее напісаць старую, аб чым заўгодны напіша.

Камісія пагадзілася з гэтым.

Аднойчы ў госці да беларускіх пісьменнікаў прыехала дэлегацыя ўкраінскіх. У тыя часы гэта была звычайная рэч – ездзіць у госці адзін да аднаго. Украінцам паказалі славутасці сталіцы, затым пасадзілі ў аўтобус і павезлі на Нарач. Яно таксама было славутасцю, праўда, той, што дасталася дарма.

У аўтобусе я апынуўся побач з Брылём.

– Бачыце вунь таго? – паказаў ён на кіраўніка ўкраінскай дэлегацыі, які гучней за іншых спяваў украінскую народную песню.

Трэба сказаць, Іван Антонавіч нават да маладых і дробных паплечнікаў па пяру заўсёды звяртаўся на «вы». Нездарма гаварылі, што Брыль дасюль адчувае сябе польскім афіцэрам, які трапіў у палон да бальшавікоў. Хаця на самой справе ў польскай арміі ён быў капралам.

– Бачу, – сказаў я.

– Гэта Платон Воронько. Мы яго завём Цюбецейкай.

– Чаму? – спытаўся я.

– На Днях савецкай літаратуры, якія праходзілі ў Ташкенце, усім пісьменнікам-гасцям выдавалі халаты і цюбецейкі. Выклікалі па спісе на сцэну і выдавалі. Як на складзе. А Платону не далі.

– Чаму? – зноў спытаўся я.

– Забыліся. Альбо яго проста не аказалася ў спісе. Украінцы абурылі-

ся і напісалі ў прэзідыум запіску аб ушчамленні іхніх правоў. Гаспадары таксама ўперліся: колькі чалавек у спісе, столькі халатаў.

– І цюбецеек, – дадаў я.

– Менавіта, – кіўнуў Іван Антонавіч. – Але ж гэта скандал! Тады старшыня прэзідыума, а гэта таварыш з ЦК, можа, сам Рашыдаў, падыходзіць да мікрафона, бярэ запіску і чытае: «Па просьбе ўкраінскай дэлегацыі Платон Варанько – адын цюбяцейк». Украінцы яшчэ больш пакрыўдзіліся.

Украінская народная песня скончылася, і беларусы зацягнулі сваю народную – «За туманам нічога не відна».

– Цэ наша пісня! – ускочыў са свайго месца Варанько. – Усі вашыя пісні нашыя!

– Канечне! – таксама падняўся з сядзення Брыль. – У нас і паліцаяў сваіх не было, усе вашыя.

Дзіўна, але ўкраінская дэлегацыя на гэтыя словы не пакрыўдзілася...

Між іншым, цяпер паліцаі і ў Расіі рэабілітаваныя. Відаць, адбылося гэта таму, што пісьменнікі перасталі ездзіць адзін да аднаго ў госці. Ды і пісьменнікі, шчыра скажу, ужо не тыя. Як па творчасці, так і па росце. Вось як было ў ранейшыя часы: адзін пісьменнік – адын цюбяцейк.

## Інтэрв'ю

Я ўжо дажыў да таго ўзросту, калі і пра сябе можна расказаць байку.

Я працаваў у «Литературной газете», вёў расійска-беларускі дадатак «Лад» і іншы раз наведваўся ў Мінск. Гэтым разам я прыехаў на кніжны кірмаш, які штогод праводзіцца ў лютым.

На стэндзе Пастаяннага Камітэта Саюзнай дзяржавы, дзе ляжала «Литературка» з «Ладам», людзей было няшмат, і я пайшоў аглядаць іншыя стэнды. На іх зрэдзь сустракаліся знаёмыя, не ўсе яшчэ павыміралі. Хаця моладзі, канечне, наўкруг было значна больш, чым былых паплечнікаў.

– Можна ў вас узяць інтэрв'ю? – падскочыла да мяне ўвішная дзяўчына з мікрафонам у руцэ. – Для першага рэспубліканскага канала?

– Чаму ж нельга, – спыніўся я. – Сам калісьці на тэлебачанні працаваў.

Аператар навёў на мяне камеру, дзяўчына разматала мікрафонны шнур, каб не замінаў рухі. Адчувалася, праца тэлевізійнай вядучай была ёй даспадобы.

«У мае часы тэледзівы былі ніколькі не горшыя», – з адценнем лёгкай рэўнасці падумаў я.

– Прадстаўцеся, калі ласка, – сунула мне ў нос мікрафон вядучая.

– Алесь Кажадуб, пісьменнік, – сказаў я, кашлянуўшы.

Дзяўчына раптам адхіснулася ад мяне, мікрафон выпаў з яе рук. Яна нахілілася, каб яго падняць, і заблыталася ў провадзе.

– Стоп! – сказаў аператар. – Пачынаем спачатку.

– А вы жывы?.. – з жахам спыталася дзяўчына, выпрастаўшыся.

– Канечне, – сказаў я.

Мне таксама зрабілася ніякавата. Няўжо па Мінску разляцелася чутка, што я ўжо там?..

– Я па вашай аповесці «Лесавік» абараняла дыплом, – дрыготкім голасам сказала дзяўчына, – і думала, што вы ўжо даўно памерлі...

Ну, так, для гэтага юнага стварэння з доўгімі ножкамі і поўнымі грудзьмі,

якія добра бачыліся ў выразе кофтачкі, я быў стары. Але не настолькі, каб лічыцца нябожчыкам.

– Не, мілая, жывы, – сварліва сказаў я. – А вы акрамя «Лесавіка» яшчэ што-небудзь маё чыталі?

– Не, – апусціла яна галаву.

– Вунь на тым стэндзе, – паказаў я пальцам, – праз пару гадзін будзе праходзіць прэзентацыя маёй пятнаццатай кнігі. Называецца «Эліксір жыцця». Вы ж хочаце жыць вечна?

– Што? – зноў падняла на мяне вочы дзяўчына.

– У юнацтве пра гэта не задумваюцца, – уздыхнуўшы, сказаў я, – але гадоў праз дзесяць у вашую прыгожанькую галаву прыйдзе думка, што някепска было б уведаць сакрэт эліксіра жыцця. А ў маёй кнізе пра гэта напісана. Але асабіста вам думаць пра гэта яшчэ рана.

– Далібог, я прыйду! – Дзяўчына закрыла рукою выраз на кофтачцы. – Калі ласка, прабачце мне!

– Прабачаю, – кіўнуў я.

– А інтэрв'ю? – запярэчыў аператар.

– Наступным разам, – сказаў я. – Шкада, вам дысертацыю абараняць не трэба. Добрая была б тэма – «Эліксір жыцця ў творах Алеся Кажадуба».



Анатоль Зэкаў



..Дзень беларускага пісьменства.
Аркестр гатовы. Эй, маэстра!
Давай жа мову памянём!..

# Залівае дождж цябе, Айчына...

## *КРАПІЎНА, 1514*

*Позірк праз 500 гадоў*

Не выкрасліць з гісторыі былое
і дух ваярскі не адрынуць.
І праз вякі стаю на полі бою,
дзе б мог, каб жыў тады, загінуць.

А можа, у баі тым вераснёўскім,
што тут крывавіў, каля Оршы,
і я з тваёй дружынай, князь Астрожскі,
дажыў да хвілі б пераможнай,

і мо пад сцягам бел-чырвона-белым
з той бітвы б выйшаў, не загінуў,
і мог пачуць бы, як наўсцяж грымела
зямная слава пра ліцвінаў.

Сягоння час далёкі той згадаю
я
   і Астрожскага ваярства –
і сэрца да краёў перапаўняе
ліцвінскі дух былога княства

і гонар за сыноў Айчыны,
якіх вёў Канстанцін Астрожскі
да перамогі ў полі ля Крапіўна,
сягоння знакамітай вёскі.

* * *

Залівае дождж цябе, Айчына,
пад завеямі калееш.
І хоць я тваім завуся сынам,
затуліць цябе не ўмею.
Не магу суняць твае трывогі,
і, перад табою вінны,
хіба і малю штодзённа Бога:
"Зберажы маю Айчыну!"

* * *

Не трэба любіць Радзіму,
любіць – і пра тое трубіць,
нібыта ў яе ты адзіны
і ёй без цябе ўжо не жыць.

Не трэба высокіх прызнанняў
Радзіме ў любові на грош.
Ад гэтага лепш ёй не стане,
не будзе й без гэтага горш.

Не трэба абрушваць, як лаву,
прызнанні.
                    Ты моўчкі любі,
любі і рабі сваю справу,
хоць што для Радзімы рабі.

Не трэба любіць Радзіму,
любіць – і пра тое трубіць,
бо ты ж на зямлі не адзіны,
хто здольны Радзіму любіць.

## *ДЗЕНЬ БЕЛАРУСКАГА ПІСЬМЕНСТВА*

Дзень беларускага пісьменства.
Загаварылі, загулі...
І мову, чутую з маленства,
як на паказ, вунь прывялі.

Маўляў, глядзіце ўсе і чуйце,
як мы шануем свой “язык”,
і ўжо дарма не лямантуйце,
паўсюдна не ўздымайце крык,

што быццам бы знікае мова
і што ўжо вельмі рэдка дзе
сваё, а не чужое слова
мы ў нашай чуем грамадзе.

А гэты Дзень – не паказальны?
Не знікла мова, мова ёсць!
Вунь і на сцэне на цэнтральнай
яна – як самы лепшы госць.

І гэта так, сказаць па праўдзе:
тут мова – госць, не гаспадар.
І ў чынавенства па загадзе
адкрыўся раптам моўны дар.

На дзень адкрыўся мо, не болей,
а потым з вокрыкам: “Стаяць!”
загоніць мову у няволю
ізноў чыноўніцкая раць.

З эфіру вытрасе і з прэсы,
каб не знайсці і днём з агнём...
Дзень беларускага пісьменства.
Аркестр гатовы. Эй, маэстра!
Давай жа мову памянём!

* * *

У Рыгора Барадуліна
слова роднае, матуліна,
нібы дрэва, караніцца,
лісцянее, галініцца
на атожылкаў
мо з тысячу
(іх сячы – не высекчы).

Скача слова,
не нацешыцца...
Нібы стог,
верш словам вершыцца.

* * *

Дасціпны ўсё ж народ,
і досціп той нязводны:
“Дзе кветкі, там і мёд.
Няма без кветак мёду”.

Не дзеля пахвалы
бяру народ у сведкі,
бо, зрэшты, без пчалы
не меданосяць кветкі.

### *ЛІСТ У КАНБЕРУ*

Алена Віктараўна Говар,
Ваш голас з аўстралійскае Канберы
і чалавека лекуе, і звера,
нібы бабуліна замова.

Вы – як пасол наш на чужыне
жыццё звязалі з пошукам нястомным
тых продкаў, пра якіх не помніць –
ёсць найвялікшая правіна.

А нашых ног там шмат ступала!
І я, Алена Віктараўна, веру,
што стане ўсім нам блізкая Канбера,
як ім Аўстралія ўся стала.

* * *

Я набліжаюся да Бога,
бы за руку дзіця, сябе вяду.
Абраў даўжэйшую дарогу
і самую павольную хаду.

Іду не год, не два, не дзесяць,
а з нараджэння самага туды,
дзе, нібы слуп, стаю на месцы,
хаду спыніўшы раптам на гады.

Бяжыць бясконцая дарога
і навявае столькі розных дум...
Я набліжаюся да Бога,
хоць і зусім не знаю, ці дайду.

* * *

Прачнуўся рана. Снедаю.
Дзень пачынаецца. Аднак,
як жыць далей, не ведаю,
хоць ведаю: жыву не так.

Мне б, можа, крыху збочыць, а
я звеку па прамой лячу.
Жыць не магу – як хочацца,
а як магу – так не хачу.

Жыву, грашу і каюся,
сум заліваючы віном,
і ўсё яшчэ збіраюся
пачаць жыццё сваё наноў.

### ПРЫГАРАДНЫЯ ЧАЙКІ

У росным лузе залачае.
Пад сонцам ясным
дзень – як міг.
Ён удвая святлей ад чаек
і ад рамонкаў лугавых.

О, бель рамонкаў,
чаек белых!
Балюча слепіць вочы бель.
І выплывае горад белы,
нібыта белы карабель.

А чайкі рэжуць вецер звонкі,
то ўніз кідаюцца з нябёс,
нібы варожаць на рамонках,
пра свой варожаць, чайчын лёс.

Глядзяць на горад непакорна,
ды ўсё ж сціскае ў чаек дух.
На луг насоўваецца горад
і неўпрыкмет займае луг.

І чайкі носяцца ў адчаі
над лугам чайчыных няўдач.

І невыносна слухаць чаек,
балюча слухаць іхні плач.

Я разумею сёння чаек,
крылом іх плач мяне кране...
А горад чаек прыручае,
як прыручаў калісь мяне.

* * *

Свае грахі нясу на споведзь
і думаю пры тым штоміг,
як да драбніц усе прыпомніць
і не забыць ніводзін з іх.

Я ж ведаю, каб мне прызнацца
ва ўсіх сваіх грахах,
на дзвюх руках не хопіць пальцаў
і, можа, нават на нагах...

* * *

Я хачу, каб было ўсё дарэчы,
а яно недарэчы заўсёды,
і ад суму ніколькі не лечыць,
і з плячэй не знімае турботы,

А яно ўсё не так і не гэтак,
і бывае, што вылезе бокам,
і на беды нанізвае беды,
то апусціць, то ўзніме высока.

Я кручуся, бы ў коле вавёрка,
ды адно ўжо, як тут ні круціся,
то, як спрынтар, бягу стомятроўку,
то, як стайер, бягу дзесяць тысяч.

Што збылося, а што не збылося
ў мітуслівых штодзённых турботах.
Я хачу, каб дарэчы было ўсё,
а яно недарэчы заўсёды.

## НА СВЯЦЕ "ПІСЬМЯНКОЎ ЛУГ"

Звіні, Касцюкоўшчына, спеўна
радком паэтычным і песняй,

каб стала навокал сугрэўна,
нібыта на прызбе ў прадвесне.

Хай пчолы раззвоняць па лузе,
які Пісьмянковым назвалі,
што сёння не месца тут скрусе,
хоць скрушна па тых,
хто не з намі,

хоць скрушна, што луг без Алеся
у красках квітнее маёвых,
ды сёння і вершы, і песні –
як рэквіем па Пісьмянкову.

* * *

Калі дзе ў гаманкім застоллі
за горла песню нехта браў,
нат на падпітку я ніколі
з усімі разам не спяваў.

Мне наступіў мядзведзь на вуха,
таму і слыху – ні на грош.
Я не спяваў.
Я толькі слухаў.
Душа цішком спявала ўсё ж.

## ДУША І ЦЕЛА

*Памяці Міхася Расолькі*

Душа ад цела адляцела,
за небакраем знікла.
Ці ўжо душы абрыдла цела,
ці стала ў ім нязвыкла?

Куды душа памкне ад цела:
у боскі рай ці ў пекла?
А цела быццам і хацела –
хутчэй душа б уцекла.

Згрызоты зніклі,
зніклі болі –
яно аж пасвятлела.
Душа прасілася на волю.
Вальней жа стала целу.

* * *

Запаляць грубку ў зацем –
агонь заскача па паленцах...
Да грубкі прытулюся ў хаце –
і гэтак слодычна на сэрцы.
Няхай за вокнамі завея,
і вецер, нібы воўк, скуголіць,
а я ад цеплыні аж млею...
Здаецца, што нічога болей
не трэба мне на свеце гэтым –
адно б гарэла грубка ў хаце,
як цёплы напамін пра лета,
як цёплы напамін пра маці...

* * *

Хто сказаў,
што быццам
гарадскія мы,
калі вёска сніцца
ў белізне зімы?

Снежна ці адліжна –
гэта не сакрэт:
санны след і лыжны –
нібы лёсу след.

Раніцай марознай
дзень пачаў адлік.
След той выбег з вёскі –
ў горадзе ён знік.

* * *

Не даюць заснуць машыны,
іх матораў дзікі роў
заглушае спеў птушыны,
заглушае шэпт вятроў.
Заглушае – выцясняе
ўсё прыроднае з душы.
Ну а што, як не спазнаю
болей ранішняй цішы;
салавей не ўсцешыць вуха,
не кране жывой душы;
а планета будзе слухаць
аднастайны гул машын?

* * *

Час сплывае па вадзе –
на ваду гляджу я.
Нехта ж дзённікі вядзе,
дні свае нітуе,

каб затым гадоў праз сто
прачытаў нашчадак,
што рабіў і бачыў што,
знаўся з кім са знатных,

што было, чаго хацеў –
кожны дзень уважыў!

У жыцці б ён так пацеў,
як пацеў, пісаўшы.

* * *

Снег падае і растае,
ледзь толькі дакранецца пляца.
Вось так, на жаль, і дні мае
сцякаюць, як вада між пальцаў.

Здаецца, толькі што былі
з аблíччам маладым, як помню,
і ўдалеч за сабой вялі,
як уначы, бывала, поўня.

Ды знікла поўня,
снег растаў,
і толькі я стаю на пляцы.
Ўбок ступіш – хлюпае вада,
сцякае, як жыццё, між пальцаў.

проза

Вячаслаў Лапцік



...у ягоных вачах іграла хітрая асалода, быццам толькі адкрыў другую Амерыку, пра якую ніхто не ведае, абагнаў таго Калумба і чакае прадстаўлення на "Нобелеўку"...

# Рэдактар

***Апавяданне***

Востры кадык тузануўся на ягоным горле, паплыў уверх і там засеў:

– Толькі папрашу, сэр, ніякай палітыкі! Каб нічога ў нас не праскочыла...

– Якая тут можа быць палітыка, ты што, Валодзя? – няўцямна паціскаў я плячыма. – Гэта ж аповесць, называецца "Баброва хатка" і пішу пра звера.

Кадык апусціўся ўніз і спыніўся:

– Разумею, але ж у наш час розныя пракручваюць правакацыі.

Мне цяжка было дапетрыць, да чаго той зводзіць.

Валодзя Ганеў працаваў рэдактарам аддзела прозы ў літаратурным часопісе, пры сустрэчах не раз запрашаў мяне падвезці яму пару апавяданняў: "Ты ж, мой сябрук, нешта сачыняеш, але зусім мала друкуешся. Падкінь тое-сёе, нешта прагонім праз наша выданне"...

Мы не бачыліся гады два, ён яўна схуднеў і асунуўся, прыгарбеў, і ўгодлівая сутуласць клерка-служакі з’явілася ў фігуры. Быццам часта даводзіцца стаяць навыцяжку перад начальствам і выслухоўваць папрокі, а тое яго не шкадуе і ўвальвае на поўную катушку.

Я сядзеў ад яго праз стол, паклаўшы свой расшпілены партфель сабе на калені, а ён маўчаў і ўважліва чытаў мой рукапіс.

– Ну ты даеш, гэта ж патыхае яўнай палітыкай! – ягоны кадык ажыў і захадзіў, знайшоўшы знаёмы шлях, тузануўся вышэй і трошкі асеў, і рэдактар працытаваў: “Лістота пагрозліва зашумела, і навокал пацямнела, быццам у прадчуванні блізкай навальніцы”. – Ягоны абгрызены зверху чырвоны аловак вярнуўся назад, поркнуўся ў старонку і зноў наравіста, быццам малады конь з возам на палявых ухабінах, замітусіўся па гэтым сказе.

– А што тут благое?

Рэдактар прыўзняў галаву, і я сапраўды заўважыў, што ён у разгубленасці і баіцца сюжэту прынесенай аповесці, таму вочы нервова забегалі, а мочка правага вуха знізу пачырванела. Хутчэй за ўсё ад напружанасці і неадольнай цягі паглыбіцца ў чытанае і не прапусціць “крамолу”: – Няўжо сам не адчуваеш? “Лістота пагрозліва зашумела...”

Пасля агрызак спісанага алоўка выбраў новы абзац і праехаўся па ім, з пачатку ў канец і назад, рэзка прытармазіў, прыпадняўся ў паветры і на пару секунд застыў у развагах, ірвануўся наперад і набраў задні курс – зноўку пачаў аббягаць гэтае месца. Зачытаў уголас тое, што яго цяпер насцярожыла, толькі я не зразумеў, для мяне ці для сябе: “Насупіўся стары бор і пагрозліва зашумелі дрэвы”.

Аб’едзены кароткі аловак торгаўся паміж слоў і мітусіўся, быццам загнаны паляўнічымі заяц, які ўжо не бачыць выратавання, тармазіў і рваўся наперад, у роздуме спыняўся і вяртаўся да пачатку.

Мой даўнішні дружбак вывеў на палях клічнік:

– Пахне палітыкай!

Пасля ягоны стары інструмент працы ў руках быццам трошкі адчуў сябе байчэй і хутчэй папёрся, затым уміг насцярожваўся, таму запаволіўся, тыкаючыся спісанай дзюбкай, як п’яны носам. Затым стоп – мярцвеў, і тады да мяне прыходзіла думка: “Зноў, сабака, прычэпіцца! Хранова!”

Аловак застываў, а рэдактар чытаў: “Смуткам павявала ад закінутага папару, якога доўгія гады не зачапіў ніводзін плуг”.

Я зноў пачаў яму тлумачыць, што напісаў звычайную аповесць. З даволі простай фабулай. На ўскрайку лесу ціха і спакойна жыў адзін стары бабёр, і гэта доўжылася да таго часу, пакуль жывапісны куточак роднай зямлі нейкім чынам не захапіў нейкі бізнесмен, які тут жа ўзводзіць вялікі сучасны гмах. Вось калі звярок адчуў – нічога добрага цяпер чакаць не прыходзіцца. Паназіраўшы ўпотайкі за істотамі на дзвюх нагах з круглымі чурбанамі на плячах замест галоў, ён у іх адразу ж расчараваўся, бо прыкмеціў, якія яны жорсткія і нядобрыя, карыслівыя і прагныя. І затраўлены звярок, не вытрымаўшы здзеку пачвар, пачынае з імі змагацца.

Рэдактар мне глядзеў у вочы, але я бачыў, што ён дрэнна слухае і толькі думае пра тое, як бы не прапусціць нейкую “крамолу” і на гэтым не пагарэць. Адчайны страх спавіў яму мазгі і боязь страціць пасаду зрабіла з яго нейкага пустога творчага шпунціка, яўна замяніўшы творцу на выслужаку.

“Дурнаватыя паслугачы бізнесмена ў бліскучых гумовіках у бегатні па грыбы павыбівалі гліністыя сцежкі”.

Кароценькі аловак стомлена ўзлёгся на мой рукапіс, праўда, пры гэтым на палях з’явіўся адзін вялізны пытальнік з няроўна аселай галавой, нібы ў хворага лебедзя, які прызадумаў сканаць ад нядобрай хваробы ці пачварнай атруты, заглынутай у страўнік разам з кінутым людзьмі белым батонам, а Валодзя зняможана адкінуўся на спінку крэсла, і тады прыгарбеласць быццам трошкі згладзілася:

– Ты мяне стаміў сваім тэкстам, трэба акуратна вылізваць усе пілюлі...

– Так думаеш?

– О-хо-хо... Зараз не можа быць у нас дурнаватых паслугачоў, а ты іх паказваеш...

– Упэўнены?

– Каб не ведаў, то не казаў бы... А ты запар вешаеш кляймо на ўсіх, хто бездакорна і шчыра служыць уладам. Глядзі, развіваю сваю думку далей, запамінай. Калі яны так часта насіліся па грыбы – значыць, сам гаспадар ім мала плаціў баксаў, а нашыя бізнесмены такімі скупердзяямі быць не могуць. Усёк? У нас цяпер бедных быць не па-він-на! Усёк? Слухай далей. Нядобрая думка прадчуваецца і ў гэтым тваім выразе: – “Бабёр моцна хацеў есці, таму, слухаючы, як у жываце кішкі іграюць марш, запоўз на сваю хацінку, улёгся зверху і гаротна задумаўся пра жыццё на гэтай зямлі”. Новы свой пракол усёк?

Валодзя зрабіў паўзу, нічога не гаварыў і я. Кабінет аддзела прозы гідліва смуродзіў застаялымі пацуковымі экскрэментамі, вільгаццю і цяжкой затхласцю. Савецкія шпалеры шасцідзясятых гадоў мінулага стагоддзя моцна выцвілі і пажоўклі, на іх з цяжкасцю можна разабраць ірваныя кружкі з хвалістымі лініямі, напамінаючыя бутоны ад нейкіх кветак, можа нават ружаў, і цёмныя, скіданыя абы дзе, палкі. Але ж тут хоць лопні, а немагчыма ўявіць, што там за кветкі і што за малюнак на сцяне. Магчыма, фарсанулі савецка-бальшавіцкія сюрэалісты, але ж быць не можа, каб у Беларусі тыя з’явіліся і так смела сябе праявілі, бо за падобныя выбрыкі тут бы ім проста паадрывалі б рукі...

Валодзя гадоў пяць назад ірваўся на гэтую пасаду з апошніх сілаў, баючыся, каб яе не прапанавалі каму-небудзь іншаму. Але ж фінціў і нікому не хацеў прызнацца, таму трымаў марку прадстаўніка шчырага нацыянальнага адраджэння, як гэта стала модным, заяўляючы налева і направа сваім сябрам і знаёмым, быццам туды і не ступіў бы і нагой, але ж ідзе працаваць толькі ў імя развіцця нацыянальнай літаратуры. Маўляў, яна без яго не зможа жыць і нармальна развівацца, бо ёй надыйдзе поўны каюк. Выстаўляючы сябе такім дзіваком, які на сто працэнтаў верыць, што зараз надыходзіць новая светалая эра развіцця беларускай літаратуры, тыраж часопісаў і кніг дагоняць мінімум да дзесяці тысяч экземпляраў, бо іх прымусяць выпісваць усе бібліятэкі краіны.

Разважлівыя творцы падобныя запэўніванні не надта слухалі, бачачы, што адбываецца навокал, стараючыся прыпыніць дурнаватыя мары і надзеі, але істоты з каманды крыкуноў не надта саступалі: “Наша беларуская літаратура набудзе шырокі размах і ўсе нацыянальныя выданні зажывуць у поўнай раскошы!”

Абшарпаныя тры сталы ў кабінеце загадчыка аддзела прозы з даўно аблезлым і патрэсканым лакам дыхалі інтэр’ерам пяцідзясятых гадоў

мінулага стагоддзя – такія сёння ўжо не знойдзеш і на сметніцы. Як па спецзаказе, усе яны знізу мелі толькі па тры скрыўленыя ножкі, бо чацвёртыя, бачна, паламаліся і павылятталі, іх ніхто не шукаў і яны так і пагубляліся. Скасабочаныя шуфлядкі без ручак, таму да канца не зачыняліся, і адтуль свяціліся ворахі спісаных, нікому не патрэбных "твораў".

Пажоўклыя падшыўкі старых газет зваленыя ў кутку на стары стол у адну кучу; ствааралася такое ўражанне, нібы яны дзясяткі гадоў нікому не патрэбныя так і ляжалі на адкрытым сонцы, ніхто іх ніколі не браў у рукі і не гартаў.

Сапраўды, тухла смуродзіла мышамі, якія хутчэй за ўсё гуртам апраўлялі свае фізіялагічныя патрэбы і ніколі не выбіралі іншае месца, не ціснулі ў куток, далей ад чалавечага вока. Тут іх гадамі не чапалі, не ганялі, бо на нармальную атруту не хапала ні грошай, ні жадання падобным займацца.

Я адчуваў, як унутры мяне пачынае кіпець хваля абурэння, нават гідоты да гэтага творчага выслужакі: "Чаго ты чапляешся да кожнага слова і с...ыш у порткі! – цягнула сказаць яму прама ў пустыя вочы. – Сядзіш, с...аны творца, у такой замызганай галечы, быццам тыя савецкія будаўнікі камунізму ў трыццатыя гады, а з сябе нешта корчыш і трасешся, каб з-пад задніцы не выслізнула крэсла!"

Ягоны напалову спісаны аловак з крывой дзюбкай зноў засяпяшаўся па старонцы, прабег і вярнуўся назад. На палях аркуша з'явіліся два клічнікі, адзін роўны, як вывучаны салдат на парадзе, а другі крывы, быццам стары вясковы дзед, які жыве толькі на адну пенсію і ні ад кога не мае дапамогі.

– Вось ты загнуў: "Бабёр жыў у чаканні хуткіх перамен, бо нуднае жыццё надта здоўжылася і ўжо не хапала сіл цярпець".

– Ёсць такое.

– Але ж тут напісанае можна зразумець па-іншаму, заўважыўшы прыхаваную думку. Дапусцім, адсочваю тут яўную фантасмагорыю, і тады фантазія мая паглыбляецца. І што можна выцягнуць наверх? Га-а? Усёк?

– Не.

– Бабёр – гэта нібы жывы чалавек. Усёк? Значыць, чалавеку ўжо не хапала сіл цярпець і на ўсё глядзець, што навокал творыцца. Жыццё яму абрыдла, бо надта цяжка, фэрштэйн? Калі ён існуе і чакае новых перамен – значыць, чакае прыходу новай улады. Каб гэту ху...вую, а разам з ёй сотні тысяч напладзіўшыхся карупцыянераў і кучы абселых у краіне хабарнікаў, якія прытуліліся да цёплых грудзей уладнікаў, пахерыць і разагнаць, бо яна яму апастылела. Мала прыкрытая чыстая палітыка. Усёк?

– Ну, Валодзя, ты і загнуў! Але ж сам бачыш, што вакол творыцца.

– Я не загнуў, мой мілы! Гэта ты так разагнаўся, што ў мяне ў вачах цямнее. Сёння ўсе мы, у тым ліку і творцы, павінны быць пільнымі і ўважлівымі і не дазваляць варожай ідэалогіі гуляць па старонках нашых выданняў, пранікаць у рэальнае жыццё, бухторыць масы і тонкай павуцінай спавіваць нашу свядомасць, бо тады, калі ім такое ўдасца дабіцца, нашай краіне наступіць хана. Усёк?

Мой даўні прыяцель найграна кінуў на стол у канец ступлены аловак, бо, бачна, займацца дзюбкай і яе вастрыць не меў аніякага жадання, узяў з-пад каляндарыка доўгую пластмасавую ручку і паехаў далей.

Раптам сказаў зусім коратка: "Стоп!", – але я не разабраў, ці мне, ці сабе, затым тоўстай лініяй узяў у выцягнутую чорную рамку некралогу пару маіх сказаў – уражанне такое, быццам я напісаў смутковік з прычыны

смерці аднаго раба зямнога, а вось на патрэбную чорную рамку прызабыўся, а пасля ўголас заявіў яўна мне:

– Чытаю тваё: “Пагрызеныя знізу старыя дрэвы часта ламаліся і падалі ў затоку, пасля так і ляжалі доўгія гады, трухнелі і гнілі, пакуль бурлівая веснавая паводка іх не трушчыла на кавалкі і не несла туды, да возера”. Тут усё правільна, я, дапусцім, цябе разумею. Але ж ці ўсе так паставяцца да прачытанага? Калі зазірнуць глыбей, то ты, мой дружа, ставіш пад пытанне ўсю работу мінпрыроды. Больш таго, закладваеш думку, быццам нашыя эколагі нічаму не варты і не займаюцца сваёй справай. Дамазгаваў? Дзяржслужачыя атрымоўваюць вялікія грошы, не параўнальныя з заробкамі простага люду, сядзяць на нашых шыях, а пасля рвуць сабе агромністыя пенсіі. Іх работа? Часта хрэнам грушы акалачваць, усёк?

Гледзячы на ягонае правае вуха, я заўважыў, што ад перанагрузкі і вялікіх энергетычных затрат у арганізме чырвань паднялася вышэй ад мочкі і накаліла яго барвовым колерам. Быццам толькі аблілі кіпучым варам з гарбатніка і яшчэ не далі астыць. Давялося мне здзівіцца, чаму барвовы колер не апаясаў ягонае другое вуха, левае, бо тое заставалася белым, нават занадта светлым, нібы месцілася на галаве іншага чалавека, нават светлым быў самы ніжні кончык мочкі. Яно што, можа абяскровілася і там толькі адна скура без ніводнай жылкі?

– Валодзя, толькі суровая праўда жыцця трымае нашую творчасць на актуальнай плыні, – я глядзеў на яго і думаў, як жыццё і рабская псіхалогія мяняюць чалавека, робячы ягоную паставу то ганарлівай і піжоністай, то клеркавай і халуйскай. – Калі творам мастацтва не дастае праўды і шчырасці, тады не знойдзеш у іх і сапраўднага жыцця, а толькі голую штучнасць, якая дабівае літаратуру! Згодзен? Жаданне абмінуць вострыя вуглы бокам нараджаюць штучныя абставіны, а тыя выводзяць хлуслівыя сюжэты і недарэчныя непраўдападобныя характары. Раструшчыш фабулу – і нічога нармалёвага не выйдзе.

Ягонае левае вуха нарэшце трошкі ўспыхнула, быццам хто абліў лёгкім маркоўным сокам:

– Ведаеш, не вучы вучонага, а з’еш г..на таўчонага. Чуў?

Я хацеў заўважыць, што і кэгэ варанай кілбасы “Руская” па семдзесят тысяч за кэгэ не лепей за гэта таўчонае г..., але стрымаўся.

“Які ты тупы пень! – цягнула сказаць яму прама ў твар. – Шукаеш мух не там, дзе яны ёсць. Вось чаму ў цябе нават і вушы не нармальныя і хворыя, гэта ад лішніх перажыткаў і страху. Прычым тут экалогія, хрэн мамкін, я ж нават не кранаю яе і пальцам”.

Тут рэдактар неяк ухмыльнуўся, быццам яму раптам прыйшла ў галаву надта цікавая думка, і вырашыў прыпаднесці адзін пацешны анекдот, і заявіў, што падобны замаскіраваны ход даўно знаёмы савецкім уважлівым цэнзарам, былому Галоўліту, і называецца “данесці чытачу кампрамат на ўлады прыхаваным тонкім намёкам”.

Глядзеў на мяне, а ў ягоных вачах іграла хітрая асалода, быццам толькі адкрыў другую Амерыку, пра якую ніхто не ведае, абагнаў таго Калумба і чакае прадстаўлення на “Нобелеўку”:

– Так, ты пра эколагаў быццам не пішаш, іх не лажаеш, але ж заўваж, калі нашыя бабры маркоцяцца і грызуць дрэвы, то яны без сумніву галадаюць. А калі жывыя зверкі хочуць есці, хрумстаюць дрэвы і ламаюць

зубы, а харчам іх ніхто не забяспечвае, значыць, дзяржаве да лямпачкі іхняе існаванне, – ад задавальнення Валодзя аж прыцмокнуў языком і пластмасавай ручкай паказытаў самую мочку правага вуха. – Тут ты выносіш на суд грамадскасці яўныя пралікі нашых экалагічных службаў і аматараў прыроды. Такіх каштоўных звяркоў трэба карміць, за імі варта сачыць, а ежу, што яны абажаюць, тую самую рыбку ці марскую капусту, неабходна падвозіць на калёсах ці трактарах, бо машыны да балотаў не дабяруцца, забуксуюць і пасля іх не выцягнеш.

Я хацеў рэзка запярэчыць, маўляў, гэтых звяркоў сёння столькі развялося, што ад іх не адбіцца, і мясцовы люд ледзь не галосіць, бо ўладальнікі балот і затокшырока разбудаваліся вакол вёсачак, перакрылі рэчкі і канавы і мяняюць плыні вады. Цягаць ім добрую рыбу? Во-во, яшчэ адна ідыёцкая ідэя, толькі засталося яе падкінуць уладнікам: смачнай таннай рыбай трэба спачатку накарміць нашых людзей, а пасля думаць пра сямействы баброў. А то грамадства зусім зашорылася ў сваіх праблемах і ледзь не вар'яцее: пра здаровы генетычны фонд нацыі і катастрафічную дэмаграфічную сітуацыю ў краіне ніхто нават і не гаворыць, як не заўважаюць праблему ў наступе радыяцыі на нашы рэгіёны ды мізэрную працягласць жыцця чалавека на беларускай зямлі, а вось раптам ухапіліся за любоў і захаванне бяздомных сабак і катоў.

Гледзячы ў ягоныя вочы, перапоўненыя недаверам і ўедлівасцю, нясцерпным жаданнем яшчэ вылавіць "палітыку" ў маёй аповесці, мне цяжка было зразумець: падобнае дурноцце яму перадалося па спадчыне і сядзела ад матчыных пялёнак альбо загналі яго ў мазгі з адной перасохшай рытвінай няпростыя жыццёвыя абставіны. Скажам так, на свет Боскі з'явіўся быццам і не балбесам, лобная часта мозга была не такой гладкай і ў рытвінах ды звілінах там месцілася нейкі працэнт нейронаў, але ж само жыццё перавыхавала і перарабіла. Жаданне хоць лопнуць ды выслужыцца дзеля кар'еры і таму не прапусціць усялякую "крамолу" ў мастацкіх творах, прытым вызначаць яе з нюхам судмедэкспарта, што расследуе самае цяжкае крымінальнае злачынства. Ягоныя мазгі сёння ачарствелі ад пастаяннага недаверу да празаічных твораў і іхніх аўтараў і ён напічкаўся вялікай верай у сваю догму: "Дасканала правярай усіх запар і не давярай ніводнаму слову і думцы, бо вакол кішаць адныя правакатары і палітычныя спрытнягі!"

Мой даўні знаёмы пачаў разважаць катэгорыямі дыялектычнага матэрыялізму. Вакол усё павязана, і калі галадамор у звяроў, то не хапае харчу і ў людзей. А чалавек галадае таму, што яму зусім мала даюць грошай на рабоце, а пенсіянерам плацяць мізэрную пенсію: "Ты пачаў з бабра, а неўпрыкмет перакінуўся на чалавека і дзяржаву!" Ён зноў падкрэсліў, што ў мяне тут прыхаваная палітыка, хоць я наўпрост не разважаю, але ж прыпадношу завуалявана.

Тады ўважлівы ўдушыцель палітыкі ў мастацкіх творах яўна ўстрывожыўся, жадаючы мяне пераканаць у тым, чаго не было, і тады я заўважыў, што ад напружання чырванее і ягонае левае вуха, не цэлае, а толькі палавіна, з самага нізу. Валодзя перагарнуў некалькі аркушаў, пасля вярнуўся назад і затармазіўся на другой старонцы, заўважыўшы, быццам загаварыўся са мною і ледзь не прапусціў важнае месца.

На палях паставіў два пытальнікі з няроўна сагнутымі галоўкамі і надта доўгімі шыйкамі:

– Слухай уважліва, чытаю твой опус: “За метраў трыста ад яго старэнькай хацінкі некалі месцілася рэспубліканская юнацкая база па веславанні на байдарках і каноэ, пакуль гэты багаты ёлуп не выкупіў і не заняў зямлю. Маладых спартсменаў, мілых хлопчыкаў і дзяўчынак паразганялі ў момант, прыдумаўшы нейкую прычыну, ледзь не накаркаўшы, быццам возера высыхае і яго неабходна зберагчы для будучых пакаленняў, месца абнеслі высокім-высокім, вышынёй у тры метры, плотам, а ў будках па вуглах адабранай дзялянкі рассадзілі амбалаў з карабінамі ў руках і пісталетамі па баках на тоўстых дзягах”. – Рэдактар трошкі задумаўся, напэўна, прыкідваючы, чытаць далей ці не, а пасля цмокнуў губамі: “Сочачы за гэтымі вандаламі на дзвюх нагах і замацаванай круглай галавой на плячах з пустымі вачыма, стары бабёр часта дзівіўся іх абыякавасці да зямлі-карміцелькі”.

Я не зводзіў вачэй з вялікага пытальніка на палях старонкі:

– Дык чаго ты прыстаў?

– Павявае палітыкай, мой мілы! У Беларусі сёння, не сакрэт, шмат асоб лупатых і багатых, а ты іх малюеш ёлупамі. Уяўляеш, якую яны падымуць бучу і як ашчэрацца, прачытаўшы падобнае! Ад лаянкі здрыганецца зямля, адвакаты багацеяў з заявамі і living рознымі паперамі папруцца па розных інстанцыях і мяне з табой зацягаюць па судах! Дык нашто іх чапаць, хай жывуць з Богам! Гэта, як кажуць, не для прэсы: яны ў нас сапраўды атабарыліся, у іх улада і сіла, але ж ты нічога не зменіш. Толькі пра маю думку нікому ніводнага слова, а то пагарым удваіх. Усёк?

Спакойна зазначыўшы, каб ён лавіў сваю крамолу і надалей, я згроб свой рукапіс пад паху і нават не засунуў у партфель, бо хутчэй спяшаўся пакінуць кабінет з мышыным смуродам і рэдактарам аддзела насупраць сябе. Праўда, тут Валодзя нібы вінавата схамянуўся:

– Падвозь яшчэ што-небудзь, у цябе, адчуваю, маюцца злабадзённыя тэмы, нешта адбярэм...

Віталь Рыжкоў



...са стратай веры –

праз стратасферу...

# Удары ў хвіліну

## *АНКЛАЎ*

***(95 bpm[1])***

Унутраны горад – як верш
з адзінай метафарай: пляскаты й просты.
Па ім у імжы вострай лёгка прайсці ад мяжы да мяжы –
абы было з кім.
Яго архітэктар сам, відаць, і не думаў, як тут будзе жыць:
ён ставіў мост у разліку, што рака сама прабяжыць пад мостам.

У самым цэнтры – каменная постаць, як костка ў горле горада,
і раз на год з гонарам, альбо без гонару,
тут праводзяць парады паразаў і перамог.
Бывала дзіўна й сорамна,
калі падчас правядзення іх мог
прысутнічаць хтосьці –

[1] BPM (*beats per minute*) – паказнік, які вызначае хуткасць выканання ці прайгравання кампазіцыі. Большасць з прадстаўленых тэкстаў, чаго хаваць, пісаліся з мэтай агучвання ўслых (*заўв. аўт.*).

зазвычай на іх адзінока маршыруюць коскі
і вельмі рэдка бываюць госці.

Сумна й бязлюдна на цэнтральнай плошчы,
пад якой, невядома навошта,
па трубе цячэ памяць падземнай ракой.
Архітэктар так і не здолеў прыдумаць, што рабіць з ёй.

Для выпадковых людзей без імён –
квартал з ільготным жытлом,
тут рыпяць старыя арэлі з ветрам ва ўнісон, і хіліць у сон:
стваральнік працаваў тут у сезон
дажджоў, і ён зрабіў спальным гэты раён.

На сцяне надпісы неразборлівым почыркам,
і на гэтыя вуліцы збочваць зусім не хочацца,
бо невядома, чыя тут вотчына.
Тут гарэлі будынкі, і пад заваламі яшчэ нехта варочаецца,
хай ідзе туды хто заўгодна, апроч мяне, я проста заплюшчу вочы

і пачакаю, пакуль усё скончыцца. Я невідочны.
Няўжо гэта сюды мы крочылі? Эй, давай паварочваем
і проста пакінем ноч над імі. Можа, і будзе тут іначай аднойчы,
але пакуль занадта змрочна – давай пройдземся моўчкі.

Хадзем далей уздоўж цяністых алей,
дзе гнёзды звілі сівыя Сівілы і з усёй сілы
ўслухоўваюцца ў цішыню,
але нічога не чуюць і дасылаюць жыхарам начныя жахі з ню,
якія я, дарэчы, таксама сню.

Ведаеш, часам тут не так ужо й змрочна, часам тут
нават больш ці менш.
Ёсць правіла, якое, як жыццё, не зменіш,
калі падсвядома для існавання ты абярэш
месца, дзе павольней за ўсё пастарэеш, а можа і не памрэш.
Аднойчы я пасялюся ў верш.

У самым цэнтры каналізацыйны сток, куды ўвесь час нетаропка
ўслед за паводкай, сцякае горад, увесь анклаў,
з дарогамі і высоткамі,
з насельнікамі і архітэктарам-недаробкам,
каб зрабіцца ўсім, што навокал, і аднойчы ператварыцца ў кропку.

## ДЗЕВЯНОСТЫЯ

***(85 bpm)***

Выносім транспарт: на мясцовасці зноўку арэлі,
і трэ разруліць з варожаю бандай чарговыя каніцелі,
бо паводле ўсіх паняткаў яны паводзяцца па беспрадзеле,
яны ўвогуле абарзелі! Ствалы пры целе – і мы паляцелі.

Ну, дык што за праблемы, непаважаныя пасажыры?
Вашых дзёрзкіх старэйшых пад хатнія пасадзілі
яшчэ з мінулай сутычкі, калі за нашыя гаражы вы
заходзілі, і няясна, чужыя, што вы там зноўку забылі!?

Эй, хто цяпер тут з вас за галоўнага па тэрыторыі,
адказвай нармальна, чаго ты гэтак затараторыў-та?
Ты не бачыў гора? Дык табе будзе гора!
Калі штосьці няясна, яшчэ раз усё абазначым, паўторым.

Таму што вось я – а хто такі ўвогуле ён?!
Як чэмпіён, павырашаўшы пытанні, нібы цунамі,
думаеш з понтам зарвацца назад да сябе на раён,
каб за справы зацерці з мясцовымі пацанамі –

тыпу, што ў вас, братва, на раёне-та новага?
Бачылі, які побач у нас увогуле дзеецца цырк?

Але аблом – у спіцах чатырохкалёснага ровара,
як на зло, заблыталіся дзьмухаўцы.

## МІМА

***(95 bpm)***

У дваццаць – ты ўвесь такі апупенны, моцны духам,
унутраны стрыжань,
у трыццаць – вопыт з душком, балотная жыжа, пупковая грыжа.
Сябры абіралі твой бок, каб проста пасля перабегчы на іншы,
цяпер усе ў курсе навокал, хто тут з усіх «самы рыжы».

Нібыта й сам ва ўсім вінаваты – клубок не разблытаць
да гэтай пары.
Я ведаю: ўсім насамрэч глыбока пляваць на гэта з гары.
І самому напраўду абрыд увесь гэты крык і адвечны надрыў –
і полымем сінім усё б гары, але Фенікс паліць сябе знутры.

А што тут у вас? Гэтак жа душна ад крывадушша –
патрэбны «кандзёр»?
А я тут у белым увесь стаю –
ні даць ні ўзяць, Д’артаньян, мушкецёр.

Ціпа мацёры паэт, здатны хіба на такое ныццё
і псеўдаінтэлектуальны гон – толькі пад прыкрыццём.

Я спрабую прагнаць гэты мозгу ацёк, на мараў адзёр
перахварэў, зразумеў: тут вайна,
бяры што хацеў ды ўцякай, марадзёр.
Ад плётак і цёрак уцёк... Азірнуўся, а тут не зямное жыццё –
гэта я ў пекле і я пераблытаў кацёл.

Але не будзе «рэспаўну» – будуць адно зруйнаваныя планы
спраўна мазгі раз’ядаць і плаўна будуць выкручваць страўнік.
Жыццё ты праспаў і вось прачнуўся ў гэтую аднастайнасць,
удача была, але ты не ў стане быў расшпіліць ёй станік.

Але я нармальна, мама, няма аніякіх ваганняў у зданяў,
мішн кампліт, віншаванні, ты з поспехам праваліў заданне.
Чорт тады з вамі! І што б вам там пасля пра мяне ні казалі,
я проста тут канспектую жыццё – бог прымае экзамен.

## *СТРАТАСФЕРА*

***(80 bpm)***

Не чалавек, а той самы трыснёг –
у нязграбным скафандры самога сябе,
нібы васьміног, які па сабе пакінуў атрамант і збег,
прычым – у тыя глухія куты сусвету, дзе між усім і нічым
проста ляці і маўчы, бо немагчыма абраць толькі адну з прычын

гэтых уцёкаў праз перагрузкі тым, кім ты насамрэч не ёсць,
куды да бацькоў цябе бусел прынёс і дзе надалей, да жалю, не лёс.
І вось ад цэнтру светабудовы, наўпрост да нары кратовай –
усё гатова, паказнікі ў норме, давай нырца праз яе наскрозь!

Ад лепразорыю вернікаў – назад праз зоры да церняў.
Туды, дзе новае сонца – загляне ў нашу бясконцасць.
Са стратай веры – праз стратасферу,
значна вышэй, чым ляціць душа,
і вышэй за паветраны шар,
у які ты калісьці наіўна паверыў, лашара!

Праз цемру й пустэчу этэру, праз неразуменне і нервы,
і звальваць напэўна раней было трэба – ты, грэбаны геній,
рэчы пакуй! Пакуль, родны кут, пакуль, не дом і не вуліца!
З дапушчальнай вагі толькі некалькі унцыяў –
на абяцанні вярнуцца.

Але з іншага боку, калі заняцца самым простым аналізам,
усе каго мы так прасілі застацца,
ніводнага разу яшчэ не вярталіся.
Магчыма, яны і ляцяць назад
у гэтых сваіх герметычных капсулах,
але хто б там з іх нам што ні казаў,
яны ніколі яшчэ не вярталіся.

* * *

Пабудзь з сабою колькі гадзін,
уключы музыку і паглядзі,
як рассоўвае хмары напалоханы маладзік.

(*«Калі ласка, сыдзі»*.)

Згадай пра тое, што я тады сказаў,
і як паўза павісала.
Проста – не паласа.

(*«Сыдзі, калі ласка, сам»*.)

Так бывае – часова знікае азарт,
але не знікае ўсё, што па-за

(*«Я прашу: сыдзі...*)

па-за гэтым усім, дзе ніхто не адзін,
проста дыханне перавядзі.

(*...і не вяртайся назад»*.)

### КАЛЫХАНКА
***(120 bpm)***

Калісьці даўно – год з восем таму будзе, напэўна, –
са мной былі людзі, якія ў мяне верылі.
Калі не ў мяне, дык прынамсі ў маю пісаніну:
прасілі стварыць калыханкі дачцэ і сыну.

Прасілі нетэрмінова, але – ці асілю замову?
Заўсёды бракуе словаў так нясвоечасова.
Маўляў, ты, як Ванга ці Сціві Ўандэр, пішы ўсляпую!
А ў мяне дагэтуль – ні «баю-баю» ні «люлі-люлі».

Жыццё мне робіць знакі – і яны не мяккія.
Паэт я невялікі – такі сабе Нязнайка.
Мне Горад Сонца нават і не бачна з гэтай ямкі,
дык што чакаць на «дзякуй» ад гэтай п’янай п’яўкі?

Сябеназіраю звонку – «нон-фікшн» у «слоў-моўшане».
Такое ўсё няважнае – у прынцыпе як і ў кожнага.
Гаманец спустошаны, узрост патрабуе большага...
Так, шчасце – не ў грошах. І таму – трывожнае.

На сустрэчы выпускнікоў шоу праблемаў жыцця:
хтосьці сківіцы сцяў, хтосьці белы ўздымае сцяг...
Вядома, пад свой трыццон мы думаем пра працяг –
Дзімон адпусціў «мамон», у Іры расце дзіця.

### ***ГУЛЬНЯ СВЯТЛА***

***(94 bpm)***

Тут затока святла. Тут у пыльны пакой праз акно зацякае святло.
Не магу назбіраць, каб як след —
каб дакладна хапіла на ўсё жыццё.
Што мы ёсць, і куды мы ляцім
і чым насамрэч гэта зрэшты было,
калі ў юнацтве ўва мне самім упершыню засвяцілася пачуццё?

Я не ведаў, як быць, як пра гэта казаць. Было новым усё,
што я бачыў раней.
Свет у новым святле памяняў канчаткова колер,
і, каб распавесці, я біўся аб тэкст, біўся аб змест, але так і не ўсёк,
што мой шлях памылковы — я ў чарговы раз вынаходзіў ровар

і засвойваў нанава мову, прыглядаўся зноўку да кожнага слова.
І не мог апісаць, і не мог распавесці
пра ўсё, што мне адкрыла святло.
Тады і з’яўляўся страх — angst — той, які не даступны жывёлам,
што мяне, як і большасць, у гэтым усім
таксама чакае не плён, а аблом.

Я тады маладушна ўсё кінуў і ўцёк,
даў дзёру туды, што завецца жыццём,
пабег ад нездатнасці ў забыццё,
дзе цярпліва чакала мяне адкрыццё:
усё, што наўкола, — той самы тунэль,
ува ўсіх тут аднолькавы план –
як бы выпаўзці з цемры —
мне трэба з усімі таксама паўзці да святла.

Хвост віхляе сабакам, а я ўсё хаджу вакол ды каля,
і, нібы паліцай з кіно, заладзіў адвечнае «я, я».
Жыццё без цябе не ідзе,
і нельга адкласці як-небудзь яго на пасля,
яно як ручай: само па сябе рана ці позна праб’е шлях

і павалачэ глею прычэп, смецця прычэп, і выставіць чэк
за ўсё, да чаго ты не меў дачынення.
«Лёс» — ты гэта так нарачэш.
У немагчымасці выказаць гэта, апусціш рукі, разбіты ўшчэнт,
і тут знянацку — атрымаецца раз! А потым — яшчэ і яшчэ!

Я падумаў тады, што ўсё: нарэшце можна ўздыхнуць з палёгкай.
Але ўяўны ўлоў пасля як на зло апынецца толькі паклёўкай.
Поспех на першых кроках стане расплатай, чарговым урокам,
дзе, як ні банальна, сябры і каханыя —
кропкі болевыя і самыя крохкія.

Цяпер я спакойны, цэльны, сяджу ў гэтым пакоі ў цені,
і, каб тут не было такой цемры, сонца свяtло, як малако, цэдзіць.
Тут дастаць рукой — і цэнтр, дзе стаяць над ракою цэрквы,
але я не з таго прастакоў працэнту, якому такая ў прыкол плацэба.

Ды і ведаю я напраўду подлых, каму ў царкве абсалютна камфортна,
у іх не шкілеты ў шафах, што ты,
у іх там проста парыжскія катакомбы.
Яны роўна трымаюць паходні,
чакаючы на прызямленне Хрыста ў Гародні,
але іх намеры добрыя выклікалі нязменна эфект кобры.

Бясцэнны жыццёвы досвед — і непазбежная змена ў асяроддзях
з пераламленнем святла ў іх,
калі зрок цябе пачынае папросту падводзіць.
Жыццё — гэта лялечны тэатр, батлейка расчараванняў і стратаў,
і аднойчы ўсё ж надыходзіць час збіраць камяні ў сваім агародзе.

А я і кінуў надзею завершыць план, трапіўшы ў гэты эмоцый палон,
дзе злосць спапяліла на тло, дзе нібыта растраціў сваё святло,
ператварыўшыся ў чалавека са шкла, але, так, усё, што было, — было
днём сурка, часавая пятля, дзе ў галоўнай ролі не я, а клон.

Абнаўляліся звязкі ключоў. Столькі год папросту сышло ўпустую.
Лялькавод з тэатру сышоў, лялькі вуду ўтварылі тэатр абсурду —
марыянеткавы свет як спектакль жарсцяў, кахання, здрадаў, пакутаў,
толькі тонкія ніткі святла ад целаў актораў скіроўваліся ў нікуды.

І дакладна, што мы ў сусвеце — для жыцця не найлепшы ўзор.
Дык ці не ёсць мы проста святлом, а чалавек — гэта проста назоў?
Гэты свет, дзе сваркі і звадкі, горыч і боль — толькі найменшае з зол,
а мы проста бясконца ляцім — мы проста «ўсе разам ляцім да зор».



Павел Ляхновіч



...праз колькі гадоў на пытанне:
“Што ты рабіў на флоце?”
кожнаму ваенмору можна будзе
зусім шчыра адказваць: “Ліквідоўваў заўвагі”...

# Суюнбай

***Аповед-згадка***

О, недасяжная простым смяротным мудрасць князёўцароў-генсекаў-прэзідэнтаў і іншых правадыроў! І заўсёды яны, богаабраныя (а як жа!), выдумляюць адно і тое ж! Варта чалавеку вылупіцца на свет з хобацікам там, унізе, як ён ужо ваеннабавязаны. “Свяшчэнны абавязак”! І вязуць небараку з Паміра ў Хібіны, з Чукоцкай паўвыспы на Кольскую, з Берасця ў Магадан. Каб было цяжэй ухіліцца ад абавязку шляхам дзёру да матулі. О, глыбіня і прадбачлівасць!

Я разглядаю папаўненне – у экіпажы не хапае дванаццаці чалавек, а далі толькі аднаго, антрацыт іх маму! Папаўненне, распаранае маршам сярод сопак ад штаба да “зоны” – адгароджанага кавалка берага з плавучымі пірсамі, дзе прытулілася і нашае “жалеза” – чамусьці нагадвае мне карціну “Зноў двойка”. “Чамусьці” – гэта таму,

што я ўжо карціну не памятаю, але гэты азіяцік у шапцы на два памеры большай, у шынялі, нібыта знятым са сталічнага бронзавага Фелікса, са шчылінкамі-вочкамі, чырвонымі шчокамі і вінаватай добразычлівай усмешкай выцягвае з маёй падсвядомасці менавіта гэтую "...двойку".

"Усмешка, здаецца, не такая ўжо і вінаватая... Хутчэй хітрая", – думаю я і пытаю:

– Ты хто па спецыяльнасці, сынку? – "сынку" ўсяго гадоў на сем-восем маладзей за мяне.

Той перастае ўсміхацца, ставіць на палубу рэчавы мяшок, скідвае шапку, цярэ чорны спружыністы вожык над нізкім ілбом і пад рогат матросаў, што стоўпіліся ля рубкі дзяжурнага паглядзець на "духа", заяўляе:

– Я... э-э-э... кыргыз!

– Стырнавы-сігнальшчык ён, ташшч камандзір, – удакладняе памочнік, – Ташмаматаў Суюнбай, з Севераморскай вучэбкі, адукацыя сярэдняя спецыяльная, настаўнік пачатковых класаў.

Зразумела. Памочнік мой – ён адначасова і штурман. Судна нашае больш у базе стаіць, чым мора каламуціць, таму з усіх вакансій найбольш "маслапупы" неабходныя. Эх, трэба было за папаўненнем камандзіра БЧ-5 паслаць! Той бы – хай са скандалам – электрыка ці матарыста б вычапіў. Але позна ўжо... Сам вінаваты.

* * *

На экіпажы жартуюць, што Суюнбай у час службы забыўся на кіргізскую мову, а расейскую так і не засвоіў. Насамрэч з расейскай цяжкавата. На другі дзень пасля з'яўлення яго на экіпажы, пабіўся з калегам, на паўгода старэйшым, з Гаспаранам. Той яго "бл...ддзю нярускай" абазваў. Суюнбай зразумеў толькі, што яго абражаюць, і кінуўся на абарону годнасці. Я пачуў з каюты тупанне ног на верхняй пляцоўцы трапу, падняўся, а там мае стырнавыя тузаюцца. Каюся, прыйшлося ў час "міратворчай аперацыі" даць па патыліцы Гаспарану, бо нават у прысутнасці камандзіра пырхаўся, гарачы армянскі нораў дэманстраваў. І з сэрцам вымаўляў нешта па-свойму, можа, лаяўся. А ў кіргізіка нават у гэтым стрэсавым выпадку не знікла з твару ўсмешка.

Каб не даць развіцца канфлікту і трымаць матроса "на вачах", я прызначыў Суюнбаю дадатковыя абавязкі – зрабіў веставым каюткампаніі.

* * *

– Ташшш камндыр, абэд накрты, – дакладвае Суюнбай, прапускаючы траціну галосных. – На пршае... – тут ён напружваецца, чырванее, хмурыць бровы. Спрабуе ўзгадаць цяжкое слова "боршч". Я цярпліва чакаю. Разглядаю, як барацьба з непаслухмянай памяццю сцірае ягоную заўсёдную ўсмешку. Суюнбай змагаецца-змагаецца, потым робіць левай рукою – правая "ля вуха" – лёгкі ўзмах, які, відаць азначае капітуляцыю, і выракчана выдыхае: – ...суп! На другое... – зноў унутраная барацьба, зноў той самы ўзмах, – сека!

Вось так заўсёды: на першае – суп, на другое – нейкая сека. "Няўжо нельга спытаць у кока і запомніць назву некалькіх страваў – "боршч", "юшка", "катлеты з рыбы", "катлеты з мяса"?" – злую я. – "І што за "сека"?"

У адказ Суюнбай зацята маўчыць.

“Секай”, як потым выявілася, ён называў усе крупяныя гарніры. Відаць, запомніў назву “сечка” – дробныя крупы з сечанай пшаніцы.

* * *

Дзеля паляпшэння харчавання ў экіпажы “працуе” няштатнае фармаванне – трое матросаў ловяць пасля адбою рыбу. З борта або з прычала. Снасць – вялізны болт на тоўстай жылцы ў якасці грузіла, а вышэй паратройка павадкоў з рыбалоўнымі гачкамі. У якасці прынады выкарыстоўваюцца мідзіі, якія тоўстым пластом абляпляюць падводныя часткі нашых плавучых пірсаў. Жылка трымаецца на пальцы. Удар – падсечка, яшчэ ўдар – яшчэ падсечка. Траска, або сайда клюе звычайна як звар’яцелая. За пару гадзінаў тройка налоўлівае трыццаць-сорак кілаграмаў. Потым кок ператварае ўлоў у катлеты, або тэфтэлі. Або так смажыць.

...Пасля “супу” Суюнбай прыносіць на талерцы крыху “секі” і здаравенную, што далонь у злодзея, рыбную катлеціну. М-м! Смачна! Трэба будзе неяк кока адзначыць.

– Суюнбай! У цябе запасной катлеты няма?

– Нэ зрзумэў!?

– Ну, яшчэ катлета ёсць? Дабаўка?

– Дабк... э-э... ёсць!

– Дык давай!

Борздзенька слізгае ў буфетную, праз пару імгненняў выскоквае з новай катлетай у лапцы. Хляпае яе на талерку перада мной: “Смачна есці!” – за суседнім сталом захіхікалі памочнік з механікам. Сапраўды, неяк нешляхетна абслужыў.

– Суюнбай, так падаюць жончынай маме, ды і то, калі яна загасцілася...

– Э-э... нэ зрзумэў!?

– Ну што тут незразумелага?! Ежу трэба падаваць на талерцы, а не ў мурзатай руцэ. І не на ўжыванай талерцы, а на чыстай!

– А-а! Зрзумэў! – з малпіным спрытам выхоплівае з-пад відэльца катлету. Знікае ў праёме дзвярэй. Узнікае. У правай руцэ па-ранейшаму мая катлета, у левай – чыстая талерка. Набліжаецца. “Хляп” на талерку, і мне пад нос: “Смачна есці!” Механік з памочнікам душацца, стрымліваючы смех. Ну што ты будзеш рабіць?

* * *

...На гадзінніку даўно за поўнач, але над сопкамі ляніва сунецца сонца, яно ў гэтых краях улетку не заходзіць. Дурныя крыкі чаек-бургамістраў. Яны вялізныя, мне здаецца – з беларускую хатнюю гусь. Кажуць, адным ударам дзюбы забіваюць пацука. (А і пацукі тут – ого-го!) А яшчэ – глытаюць рыбіну на два кілаграмы, сам бачыў. Рыбіна ўся не змяшчаецца, і птушка плавае з разяўленай дзюбаю, з якой тырчыць рыбін хвост. Ваенморы клічуць іх “бакланамі”. І слоўца гэтае, “баклан”, у прымяненні да чалавека з’яўляецца абразай. Нешта накшталт “пацука” ў цывільным асяродку. Бакланы... Пацукі... Сумна. Карабель на прывязі, а ўсё роўна прыходзіцца сядзець на “жалезе” тыднямі. “Дзе напісана, што ў вас павінен быць выхадны?”

Мне нешта не спіцца, я на юце, разглядаю даўно абрыдлы пейзаж. Ах, як хочацца замест гэтых гранітных сопак, парослых чэзлымі бярозкамі, любавацца хваёвым гаем. А замест шэрай вады ў губе – азёрамі Паазер’я!

Дын-дын-дын – нехта тапоча па жалезнай палубе. Хто гэта бегае сярод "ночы"? З-за кармавой надбудовы выскачыў Суюнбай. З тэрмометрам у руках.

– Ты чаго бегаеш? Чаму не спіш?

– Ташш старшына другой стацці Салаўёў загадаў замераць тэмпературу паветра...

Салаўёў гэта камандзір аддзялення стырнавых-сігнальшчыкаў.

– Тэ-эк... Добра, замераць... А навошта бегаеш?

– Ташш старшына другой стацці загадаў замераць ва ўсіх кропках верхняй палубы!

– Угм... Ну – замераў? А зараз ідзі спаць, Салаўёву даложыш, што я загадаў.

Раніцою, пасля пад'ёму сцяга памочнік выклікае з шыхта Салаўёва і ўручае яму тэрмометр: "А замерай-тка, галуб, тэмпературу паветра. Ды ва ўсіх кропках верхняй палубы, і мосціка". Экіпаж рагоча.

* * *

На "мой параход", які радзіма даверыла камандаваць, даглядаць і берагчы, пасялілі адмірала. Ну не адмірала, а контр-адмірала, бо "адмірал" – гэта тры "павукі" на пагонах, а ў нашага толькі адзін... Прыехаў з Масквы з праверкай нечага там, за ім бегаюць нашы штабныя, і запісваюць заўвагі. Праверыць, заўважыць непарадкі, за іх адпясочаць камдыва, той камандзіраў караблёў, яны – камандзіраў баявых часцей, і гэтак далей... Пасля гэтага ўсе будуць тыя заўвагі ліквідоўваць. Праз колькі гадоў на пытанне: "Што ты рабіў на флоце?" кожнаму ваенмору можна будзе зусім шчыра адказваць: "Ліквідоўваў заўвагі".

Чарговы праверачны дзень скончыўся, і адмірал у кают-кампаніі. На завяршэнне вячэры Суюнбай ставіць перад флатаводцам шклянку гарбаты. У падстаўцы з мельхіёру, у гэткіх падаюць гарбату праваднікі вагонаў. Адмірал самавіта сёрбае, і самавітасць адразу некуды дзяецца – вада для гарбаты толькі што бурна каляхавала ў электрападагравальніку. Гэта такі бліскучы, вялізны, на два вядры, з нержавейкі паралелепіпед, замацаваны ў буфетнай на пераборцы.

– А-а! Веставы! – плюецца гарбатай адмірал. – Тэрарыст! Вораг! Боўдзіла! Што ты мне даў? Гэта ж кіпень! Камандзір! Што – цяжка падрыхтаваць прыстойнага веставога? Веставы! Гэта не гарбата, гэта дыверсія! Хуценька – дупу ў жменю! – мне нармальнай гарбаты. Не гарачай! І не халоднай! Ну, басмач, ангідрыт-т яго!..

Суюнбай кідаецца ў буфетную. Награвальнік булькае і вібрыруе на пераборцы. Дзе яму ўзяць халоднай? Рэакцыя імгненная: вылівае тры шклянкі на стол – ён таксама, як і награвальнік, з нержавейкі, ды яшчэ з бартамі, каб посуд не вылятаў у час гайданкі – потым анучкай прамакае імгненна астылую гарбату, і выкручвае ў шклянку. Раз-два-тры! Шклянка поўная. Выходзіць у кают-кампанію, ставіць перад адміралам. Той недаверліва дзьме, адсёрбвае, і задаволена бурчыць:

– Ну вось... Нармальна... Вас пакуль не адкляпеш...

* * *

Я зразумеў – для чаго ўсім "брацкім народам" СССР "старэйшы

брат” падараваў кірыліцу! (Нават дзіўна, што прыбалты адбілі лацінку, а грузіны з армянамі – сваё. Малайцы – што яшчэ можна сказаць?) А для ўсіх астатніх – кірыліца і толькі кірыліца. І паспрабуй хоць мургнуць супраць!

Разуменню дапамог Суюнбай. Праз два гады службы паехаў Суюнбай да сваіх гораў, у адпачынак. Дзесяць сутак плюс час на дарогу чыгункай. Вярнуўся своечасова, прыехаў на прычал, дачакаўся кацера з дывізіёну, і ў канцы доўгага шляху трапіў у лапы начальніка палітаддзела. А той зрабіў яму там жа на кацеры шмон. Невядома чаго шукаў. А знайшоў паперку з вучнёўскага сшытка, а на ім – незнаёмыя словы знаёмымі літарамі. Настраўся камісар – забегаў вочкамі па радках – і знайшоў! Пару разоў паўтараецца слова “Алла...”

– Што гэта? – строга пытае ў Суюнбая.

– Малітва, ташш каптн другога рангу, бабуля напісала. Чытаць, калі цяжка будзе.

Святая прастата!

Суюнбай не пацярпеў. Калі не лічыць канфіскацыі ідэалагічна варожай паперкі. Затое на кожнай камандзірскай збіранцы начпо на працягу года трасе паперкай і крычыць, што ў мяне на караблі дзейнічае таемная сінагога. Не мячэт, прашу заўважыць, а сінагога! Дэманструе шырыню светапогляду. Мля!..

* * *

Ёшкін мопс! Мы з памочнікам і боцманам стаім на верхнім мосціку, ля грот-мачты, здранцвелыя. Паблізу нока рэя, на вышыні метраў пятнаццаці вісіць Салаўёў. Крэкча. Вісіць на страховачным пасе. Яшчэ пару хвілінаў назад дрыгаўся, спрабаваў рукамі за рэю зачапіцца, а цяпер абвіс, як смаркач. Лічыцца, што вісець у такім стане чалавек можа пятнаццаць хвілінаў. Потым ад ціску на грудную клетку спыняецца сэрца.

– Колькі ён ужо там? – пытаю памочніка. Чаго панесла туды апраметная, высветлю потым, зараз трэба жывым зняць. Але як?

– Хвілін сем... Саслізнуў з рэі, на руках спачатку вісеў, а потым і рукі саслізнулі, і на страхоўцы павіс...

– Боцман! Якія будуць прапановы? Ён хвілінаў праз дзесяць памрэ, калі не зняць.

Боцман, заўжды гарласты, як ерыхонская дудка, блякоча нешта танюсенькім голасам пра боязь вышыні.

Бакавым зрокам бачу нейкі рух на скаб-трапе, на мачце. Ташмаматаў караскаецца, ужо трацціну шляху да рэі пралез. На шыі – бухта кідальнага канца. Без страхоўкі!

– Суюнбай! Ты куды! Назад! Я каму кажу – назад!

Не хапае мне замест адной – дзвюх ахвяраў.

Не слухае, падлюка! Моўчкі лезе далей. Вось ужо ля рэя. Асцярожна садзіцца на яго конна і пакрысе, маленькімі рыўкамі, рухаецца па жалезнай жэрдцы да нока, да пляцоўкі, дзе ўсталяваны датчык вымяральніка ветру. Добра, што сёння штыль, а то ўжо здзьмула б вершніка-высотніка.

Мы ўнізе, затаіўшы дыханне, сочым.

Даехаў да нока. Зняў з шыі кідальны, завязаў пятлю. Спусціў Салаўёву: “На нагу! На нагу надзень!”

Вялай рукой спрабуе дацягнуцца да нагі. Не здолеў, выпусціў. Тады Суюнбай падцягвае пятлю да сябе, павялічвае, раскачвае, ловіць салаўёвую нагу, кіргізкі каўбой! І з чацвёртай спробы злавіў! Зацягнуў туга, перакінуў вольны канец кідальнага праз рэй, скінуў уніз, на мосцік, нам: “Цягніце!”

Мы ўжо зразумелі ягоны план. Утрох учапіліся, пацягнулі, цягнем нагу да рэя. Цяпер Салаўёў вісіць галавою ўніз на тонкім тросе, амаль шнуры. Але пас ужо не перацiскае яму тулава.

– Адшпільвай страховачны! – мы перабіраем кідальны, і зверху да нас спускаецца каштоўны плод, раскірэчаны Салаўёў. Толькі б кідальны вытрымаў!

А Суюнбай чакае, трымаючыся за датчык. А потым, як Салаўёў апынаецца на палубе, заднім ходам паўзе назад, да мачты. Мне ажно сэрца сціскае, далібог за Салаўёва гэтак не сціскала.

– Якой халеры цябе туды панесла? Як ты мог паставіць ДМБ у такую небяспеку? – пытаю, калі ўсе “альпіністы” ўжо на палубе. – Табе ж праз дзень-два!...

Салаўёў моўчкі глядзіць на памочніка, і той разгублена тлумачыць – маўляў, гэта ён загадаў яму зняць няспраўны датчык вымяральніка ветру. “Дээмбовы акорд”.

Паварочваюся да Суюнбая: “Я тут камандзір, ці хрэн камодскага варана? Ты што ж, паганец, загад камандзіра не выконваеш? Чаму не вярнуўся з мачты?” – і абдымаю гэтае вузкавокае чарцяня.

І ком у горле, і слёзы блізка-блізка. Толькі б не ўбачылі...

* * *

Хуткаплынны час! Трыццаць гадоў мінула, як адно імгненне. Ашот Гаспаран, мы з ім зрэдку кантактуем праз інтэрнэт, мэйл скінуў: “Ці памятаеце Суюнбая Ташмаматава, таварыш камандзір? Стырнавы-сігнальшчык. Яшчэ гарсуншчыкам быў. Застрэлілі Суюнбая... Бакіеўцы”.



Маргарыта Тарайкевіч



...я верыў, што ўсё вырашаецца толькі тым,
што вось маё цела, краіна, і вось мой меч...

# Актывіст эпохі Бакумацу

### *ЁСІДА СЁІН*

Зоркі і дзеці мне прабачаць.
Хлопцы, сэнсэй ваш – дзівак-няўдачнік.
У люстры смяротнага пакарання
што тут сказаць, як – «Шукайце самі!»
...Дзіўныя ветразі ў час даверу,
стойкія рэвалюцыянеры...
Ды пераможца свой ордэн новы
даў бы за практыкум дадатковы.

### *АЗІЯЦКІ ФІЛЬМ*

сэнсэй мусіць быць старым і з выгляду кволым
герой прыхаваў майстэрства за вобраз сціплы
дзяўчына не больш за героя баіцца смерці
двубой будзе верным сігналам, што блізка восень

шэры чорны і белы пыл
я ёсць
я
жывы

скажы, што хацеў сказаць, бо трымціць імгненне
нямым прамянём лязо ажыўляе сонца
бо тое не факт, што вуснам не застыць раней, чым
у гарызантальным стане, як ёсць раскажаш

шэры чорны і белы пыл
я ёсць
я
жывы

бо гонар глыбакаводнаму рэжысёру
які захавае класіку ад шаблону
шануючы і традыцыі і адвагу
герой вінаваты сам, што раней не мовіў

шэры чорны і белы пыл
я ёсць
я
жывы

яна не баіцца памерці больш, чым прызнацца
ды толькі ў руцэ спыніла адрэзак часу
кароткі, бо ты не ведаеш ці галоўны
герой ты ў гэтым неспадзяваным фільме

шэры чорны і белы пыл
я ёсць
я
жывы

зніклых імгненняў не падбярэш са сцежкі
тым больш, што па яе пыле твой вораг крочыць
адно застаецца ў меч ператварыўся просты
твой шлях і хто можа ведаць калі абрубяць

шэры чорны і белы пыл
я ёсць
я
жывы

## АКТЫВІСТ ЭПОХІ БАКУМАЦУ

Калі прыплываюць чорныя караблі,
то шчыліны пакрываюць знаёмы свет.
Я не вандраваў па кнігах. Я запаліў
агонь на мяжы, як прывідны запавет.
Бяду і хімеры нёс ачышчальны дым,
кароткі палёт галавы з рашучых плеч.
Я верыў, што ўсё вырашаецца толькі тым,
што вось маё цела, краіна, і вось мой меч.

## ОКІТА СОДЗІ

жыццё па кароткай праграме
фенаменальныя здольнасці
да фехтавання
чырвоныя кветкі
ў чорнай начной вадзе
здаецца што на радзіме
хапае сваіх мярзотнікаў
а я вось чытаю пра Сінсэнгумі

кветкі ўначы
не сустрэнуцца
з цёмнай рачной вадой
і лязо яго не напаткае
чорную котку смерці прадвесніцу
як ні ганіся за ёю скончылася
жыццё а калі б не жорсткасць
мо болей
было бы гэтакіх вершаў
і кветкі з начной вадой
здолелі б
сустрэцца
і трапныя рукі мечніка
злавілі б ката і
прытулілі б
ягонае мяккае цела
да хворых грудзей
і ён мурлыкаў бы
і
ў апошнюю ноч
кветкі з начной вадой
сустрэліся б

### *ФАТАГРАФІЯ*

снег пачынае падаць
павольна
няўмольна
пакрывае
фотаздымак
асядае
на плячах і
хавае
хавае

проста ў зрэнку
чорнае
фотакамеры
паглядзеў бы фатограф
падкарэктаваў патрэбны
вугал зроку
сфатаграфавацца
перад такімі справамі
мабыць варта

асацыяцыі
дзве ў маім іншаземным
сэрцы з Хакайдо
снег
і
Хідзіката

### *РЭСПУБЛІКА ЭДЗО*

Імёны, людскія долі
збіраюцца ў боль імглы,
а ты сабе не дазволіш
ужо развязаць вузлы.
Цягнік ідзе да абрыву,
бо гонар скаваў свой шлях.
Ідзеш ад вясны бурлівай
у вечных спачыць снягах.

* * *

а я ўсё адно цягнуся на поўнач

з абодвух бакоў высакародныя
смелыя людзі

з абодвух бакоў абыякавыя
гульні палітыкі

з абодвух бакоў перадсмяротныя
шчырыя вершы

і падае замак за замкам
на востраве Эдзо

а я прынцыпова іду на поўнач

* * *

Чырвонага многа. Трагедыя робіць трэнд,
паклон Курасаве за рэалістычнасць працы, –
а ў гэных таварышаў здарыцца хэпі-энд;
канечне, я пра Кацуру і Ікумацу.
Чыноўніцай зробіць гейшу яе ваяр
за рызыкі ў жанры «паплечніца-інфарматар» –
дый жэніцца нат. Жыццё – неацэнны дар,
прынамсі, пасля чаргі непазбыўных стратаў.

## СНЕГ АТЛАНТЫДЫ

снег Атлантыды
тварам сівым сустракае
інспектар Фудзіта

паралельна
гарызонта дастаў катану і так
з ветрам вітаўся

інспектар Фудзіта
не пісаў
ані вершаў, ні прозы

самурай
які пераважыў
прычым паспяхова мадэрнізацыю

яшчэ пераважыў
мноства таварышаў і пасля
вайны зрабіўся маўклівым

стаўся легендай
паліцыі Токіа
заслужыў
снег Атлантыды

## ПРАСВЯТЛЕННЕ

толькі сад
толькі храм
толькі
румяны досвітак
срэбра на крохкім лісці
на доле які падмятае
храмавы вартаўнік
стары
Сімада Каі

усё тое што можна выкінуць з галавы
знікае
няма
грамадзянскай вайны
няма
знікнення герояў і самураяў
толькі храм
толькі сад
толькі стары
шпіён Сінсэнгумі Сімада Каі

усміхаецца
стары бяззубы ваяр
калі б хто падваліў знянацку то паспрабаваў
бы як можа адбіцца
мятлой стары фехтавальшчык
ды няма
ні злодзеяў, ні хуліганаў

няма
ані новага ўрада
на які працаваць адмовіўся
ані
мадэрнізацыі
ёсць
дзеці якія шчэ спяць
хутка яны прыбягуць
у сад дзе іх пачастуе
нечым салодкім Сімада Каі

няма
ні паразы ні ворагаў
ёсць
магілы тых ваяроў
што годныя незалежна ад знакаў
ёсць тыя хто выжыў з абодвух бакоў

ёсць
інспектар Фудзіта Горо
у якім праглядаецца Сайто
і ёсць
ён той жа Сімада Каі

толькі сад
толькі храм
толькі штаб
Сінсэнгумі толькі
яны
таварышы-ваяры
час з’яднаўся
навошта
жыць у часе
ён жыве
ў гэтым храме які быў калісьці штабам
у гэтым штабе што не перастаў быць храмам

старасці
смерці
няма
гэта ілюзія
ёсць сінсэн
ёсць
Сінсэнгумі
і ёсць
у скрынцы ягоныя мемуары
і ёсць
заўжды прынцыповы шчаслівы той самы
Сімада Каі

проза

Уладзімір Сіўчыкаў



...у наш глабалізаваны,
адукаваны і кампутарызаваны час,
мабыць, і вароны паразумнелі...

# "Бо гэта кроў мая!"

***З кнігі "Уладзевы гісторыі"***

## Футра

Зімовым вечарам "леглі на дно" і чаркавалі ў сваёй "падводнай лодцы", рэдакцыйным сутарэнні па сталічнай вуліцы Кісялёва, Уладзімір Н., Міхаіл К. ды Павел Я.

Глыбока за поўнач, у самы разгар пасядзелак прыехала на машыне жонка аўтара аповесці "Левы крайні", учыніла скандал і стала цягнуць яго дахаты.

Пачаў той выбачацца перад кампаньёнамі за сваю лепшую палову, а грасмайстар фельетонаў і футбольных аглядаў па-філасофску зазначыў у адказ:

– Лепш бы ты, Міша, замест машыны купіў жонцы такое дарагое футра, у якім яна баялася б адна нават увечары, а не тое што ўначы выйсці на вуліцу!

*26 траўня 1993 года*

## Паэтычнае ўяўленне

Усесаюзныя кніжныя кірмашы праходзілі зазвычай на псеўдаампірнай Выстаўцы дасягненняў народнай гаспадаркі. У адным з іх бралі ўдзел паэт Уладзімір Н. і рэдактар аддзела рэкламы выдавецтва "Мастацкая літаратура" Валерый Ш.

Спыніліся яны аднаго разу, размораныя нязвыклай мегаполісу спёкай перад павільёнам са славутай гіганцкай скульптураю "Рабочы і сялянка" Веры Мухінай на даху. Паэт задраў голаў, пашкроб указальным пальцам макаўку і звярнуўся да свайго рудабародага спадарожніка з наступнай гіпербалай:

– Уяўляеш, Валера, калі ажылі б яны, сталёвыя, пакідалі б свае серп з молатам дый заняліся б любошчамі проста на даху?! Грукат, мусіць, на ўсю Маскву стаяў бы!

*27 траўня 1993 года*

## Секануў, як крапівою

Гандляваў ён даволі спецыфічным таварам. Напэўна, набіраў тое курынае гуана, як дужа пажыўнае ўгнаенне, на Заслаўскай птушкафабрыцы і развозіў яго, расфасаванае ў поліэтыленавыя мяхі, па навакольных садаводчых таварыствах у прычэпе да свайго старэнькага "Масквіча". Кіраваць ім навучыўся толькі ў шэсцьдзесят пяць гадоў і вельмі неахвотна, толькі пры скрайняй патрэбе карыстаўся задняй перадачай. Высокі, хударлявы, з шырокай сівой барадою, ён і вымаўленнем сваім выдаваў на рускага, найхутчэй старавера.

У завулку "Узгор'я-2" ахвотна прыпыніўся ён пагаманіць з гэтаксама гаварлівай пенсіянеркаю, былой дырэктаркай "Кнігарні пісьменніка" Яўгеніяй Бярэйшык. Прызнаўся ёй, што насамрэч расіянін, але настолькі паважае культуру і звычаі новай радзімы, што нават падахвоціўся вывучыць беларускую мову. Пахваліўся таксама, што шмат чаго прачытаў з беларускае літаратуры і нават быў асабіста знаёмы з Алесем Адамовічам, Васілём Быкавым, Барысам Сачанкам... – пералік твораў і імёнаў быў даволі доўгі.

А пасля перайшоў ён на тых, пра каго чытаў альбо чуў, але не паважае.

Першымі ў тым ягоным спісе фігуравалі генерал-парламентар Мікалай Ч. ды неўтаймоўны постсавецкі ідэолаг Эдуард С., а замыкаў ганебную тройцу Яўген К., якога класік характарызаваў у сваіх мемуарах "Доўгая дарога дадому" як віжа і даносчыка, што нахабна мог убіцца нават у сябрыну, куды яго не запрашалі.

Сусед Яўгеніі Аляксандраўны, што меў з ёю сумежны ўчастак і падыйшоў быў, прыслухоўваўся да маналогу гандляра, пры тых ягоных словах рэзка крутануўся і, счырванелы, што альховы корч, патупаў да сваіх будынін.

Яўгенія Аляксандраўна ледзь стрымалася, каб не зарагатаць, а на няўцямны нямы позірк заезджага госця патлумачыла:

– Дык гэта ж мой сусед. Ён і ёсць той самы клышаногі Яўген К., пра якога згадваў у сваіх успамінах Васіль Быкаў!

*31 траўня 2005 года*

## Сасна пры дарозе

Старшы выкладчык кафедры беларускай літаратуры і культуры Людміла Уладзіміраўна К. параіла была выпускніцы Марыне Ш., каб тая дадала чагось асабістага ва ўступную частку дыпломнай работы “Вайна і сучаснасць у творах Івана Навуменкі”.

Ну дык тая і выдала на параду навуковай кіраўнічкі, пляснула як пугаю па вадзе: “Заўсёды, як бачу сасну пры дарозе, дык абавязкова прыгадваю мажную паставу празаіка, апошняга Народнага пісьменніка Беларусі Івана Навуменкі і ягоны раман “Сасна пры дарозе” з аднайменнай трылогіі”.

*21.07.2009, 10.02.2015*

## Будзіцельніца

З тыдзень маці Віктара Сакевіча Вольга Эдуардаўна штораніцы званіла свайму сыну з нявесткаю Ленаю на досвітку, каб тыя не праспалі на працу, бо ведала, што ў іх сапсаваўся будзільнік. Проста жадала добрага дня і клала трубку.

Аднаго ранку, у нядзелю на другім канцы дрота яе апярэдзілі і выказалі ўсё, што пра яе думаюць... зусім незнаёмыя людзі!

Аказалася, што яна пераблытала дзве лічбы месцамі ў тэлефонным нумары навасельцаў і праз тое званіла не сыну з нявесткаю, а абсалютна чужым мінчукам!

*2 красавіка 2010 года*

## Гаротніца

Зноўку вярнулася спёка, а таму ў зале парасчыненыя не толькі форткі, але і балконныя дзверы.

Чувацць, як у двары плача, ажно заходзіцца, дзіця, а маці суцішвае, угаворвае яго.

Прыслухаўся, чаго ж так заліваецца гаротніца, і сам ледзь не праслязіўся... ад смеху, калі разабраў:

– Мама, супакой мяне! Ну, су-па-ко-ой мяне!

*10 жніўня 2010 года*

## Кемлівая варона

Дык крычыце, біце ў звона:
Дурны мужык, як варона! –

пісаў у свой час наш класік, адзін з пачынальнікаў новае беларускае літаратуры Францішак Бенядзікт Багушэвіч. Яму, як мужыцкаму адвакату, лепш было відаць, – мо, і праўда, мужык быў дурны.

Дурнаватая ці проста занадта даверлівая варона расійскага класіка-байкапісца Івана Крылова страчвае кавалачак сыру найперш праз сваё славалюбства.

Але ў наш глабалізаваны, адукаваны і кампутарызаваны час, мабыць, і вароны паразумнелі. Прынамсі, бачыў на свае вочы, як адна з іх, менская, ухапіла дзесьці сухую скібачку хлеба, але, перш чым дзяўбсьці, раз-пораз цярпліва вымочвала яе ў лужыне каля Дома літаратара.

*3 сакавіка 2011 года*

## Шчыры беларус

Ехаў Уладзімір К. па праспекце Пераможцаў, і насупраць Свята-Пакроўскага храма напярэймы ягонаму міні-бусу кінуўся лейтэнант-даішнік з пярэстым чорна-белым жазлом.

Больш за тое, калі спадар Уладзімір прыпаркаваўся ля ўзбочыны, з другога боку аўтамагістралі шыбаваў да яго і міліцыянт у чыне маёра.

“Ну, усё, капцы, – калі ўжо прыбег цэлы маёр, дык будзе, як мінімум, немалы штраф”, – асуджана ўздыхнуў кіроўца.

– І што ж мы парушаем правілы, шаноўны Уладзімір Георгіевіч? – задаў дзяжурнае пытанне службовец, калі прагледзеў пададзеныя яму дакументы. – Ды яшчэ на такой трасе! Вы што ж, не ведаеце, хто тут рэгулярна праязджае?!

– Можа, і праўда, перавысіў я хуткасць на якія дзесяць кіламетраў, – паспрабаваў апраўдвацца парушальнік.

– Якія кіламетры?! – ускінуў бровы маёр. – Вы, Уладзімір Георгіевіч, праехалі перакрыжаванне на чырвонае святло светлафора!

– Не можа быць!

– Будзеце спрачацца?! Лепш скажыце, куды вы гэтак спяшаецеся, калі навокал нават назвы ціхамірныя – Ціхі завулак, праезд Дразды... Ізноў жа – царква, крыніца.

– Ды вось, на заняткі пазнюся...

– На якія такія заняткі? Кім працуеце?

– Дырэктарам ліцэя.

– Якога такога ліцэя?

– Беларускага гуманітарнага ліцэя імя Коласа.

– Дык што, ліцэй у вас носіць імя свайго дырэктара? Жартуеце?! – недаверліва зірнуў даішнік.

– Ды не. Колас – гэта маё сапраўднае прозвішча. А ліцэй носіць імя Якуба Коласа, пісьменніка-класіка, сапраўднае прозвішча якога было Міцкевіч...

– А-а, дык вы дырэктар таго самага, знакамітага, напаўпадпольнага ліцэя?! – прасвятлеў з твару даішнік і нечакана-паважлівым тонам спытаўся: – Ну, і як там ліцэй, спадар Уладзімір? Трымаецца?

З гэтымі словамі маёр, які аказаўся найперш шчырым беларусам, а толькі потым – службоўцам, не толькі вярнуў кіроўцу дакументы, але і аддаў чэсць на знак павагі.

– Гладкае дарогі, спадар Уладзімір!

*15 студзеня 2012 года*

## Гермесава свята

Дзве кампаніі, дзве купкі супрацоўніц Гандлёвага дома “На Нямізе” прыехалі на лецішча да сваёй загадчыцы аддзела касметыкі Ірэны М. адзначыць прафесійнае свята – Дзень работнікаў гандлю. Адны прыехалі ў Зялёнае электрычкаю, а другія – маршрутным мікрааўтобусам.

Аказалася, што не ўзгаднілі, не дамовіліся як след, паспадзяваліся адно на адное, а праз тое не прывезлі з горада ні грамулі спіртнога.

Давялося выпраўляць “ганцоў” у суседні дачны кааператыў, у так званае садовае таварыства “Керамін”, дзе працавала невялічкая манаполька.

Ганцамі, зразумела, выправілі трох самых маладых дзяўчатак.

Таго летняга дня стаяла неймаверная спёка, смажыла, а таму дзяўчаты зрабілі натуральную замову, каб і наталіць смагу на зваротным шляху:

– Тры пляшкі гарэлкі, тры бутэлькі белага віна і тры паўтаралітровікі мінералкі ці якой іншай "запівачкі". І яшчэ тры пластыкавыя кубачкі!

– Дзяўчаткі, чым больш я прадам, тым мне выгадней. Але ці не замнога вам будзе ды яшчэ па такой гарачыні?! – перапытаў зніякавелы гандляр, мажны дзяцюк, які падумаў, што дзяўчаты бяруць усё толькі сабе, на тры маладыя асобы.

*29 ліпеня 2012 года*

## Кампоцік

Былы аднакурснік-філфакавец Васіль Супрун, цёзка знакамітага лінгвіста, прафесара, загадчыка кафедры агульнага і славянскага мовазнаўства, расказваў Уладзю С., што адзін час выкладчыкі дый аспіранты з факультэта прыходзілі па раскладзе з рэйдамі-праверкамі ў "сямёрку" – інтэрнат, што на вуліцы Кастрычніцкая.

Селі раз вячэраць студэнты ў пакоі №13, а мацаванае віно, так званае "чарніла", дзеля канспірацыі злілі з бутэлек-"фаўстаў" у чайнік.

А тут заявіўся да іх дзяжурны, спецыяліст-лексіколаг Яўген К.

– Ну дык што, хлопцы, вячэраеце? – мабыць, унюхаўшы пладоваягаднае, удавана ветліва спытаўся ён. – А што гэта ў вас у чайнічку?

– Кампоцік...

– Нешта засмяжыла, дык наліце і мне шкляначку вашага кампоціку!

Што рабіць – налілі.

Выпіў дзяжурны ў ахвотку дый выгляду не падаў.

– Харошы кампоцік! Наліце-тка яшчэ!

Выжлукціў ён другую, а потым і трэцюю шклянку.

Мабыць, вярнуўся спадар Яўген дахаты вясёлы і з песнямі, мабыць, адмяцеліла яго жонка і сааўтарка ў навуковых даследаваннях і вучэбных дапаможніках па айчынным фальклоры Маргарыта М.

Мабыць, з гэтае прычыны быў спадар Яўген нараніцу не ў гуморы.

Мабыць, таму і заклаў студэнтаў-небаракаў, якія, хоць і змушана, але ж частавалі яго, – напісаў у дэканаце дакладную.

*1 верасня 2012 года*

## Карцёжнікі

Сустрэліся аднаго ранку два літаратары на прыступках падземнага пераходу станцыя метро "Акадэмія навук", што насупраць "Акадэмкнігі" і Дома друку.

– Добры дзень, Генадзь Мікалаевіч! – павітаўся малодшы. – Як жывыздаровы?

– І ты будзь здаровы, суседзе! – бадзёра адказаў перадусім выдатны паэт. – Вось, Валодзя, прыехаў з Крыжоўкі, са свайго лецішча ці, як люблю казаць, са свайго лесішча. А што ў вас тут, у горадзе чуваць, акрамя таго, што дзень добры?

– Ну, ён яшчэ і сонечны, – не разгубіўся Уладзя, – бо сёння адзначаецца Дзень Сонца, найбліжэйшай да Зямлі зоркі, дзякуючы якой існуе нашае зямное жыццё.

– Ну так. Але ж сёння яшчэ і Сусветны дзень вольнага друку, што адзначаецца па рашэнні ЮНЕСКА. Мушу зазначыць табе гэта не толькі як пісьменнік, але і як стары журналіст.

– Я памятаю пра гэта, бо ёсць сябрам Беларускай асацыяцыі журналістаў і нямала папрацаваў у перыёдыцы.

– Тады я разаўю тэму вольнасці як былы дыпламат: сёння адзначаюць Дзень свабоды ў Паўднёва-Афрыканскай рэспубліцы і Дзень незалежнасці ў С’ера-Леоне!

– Ну што вы, Генадзь Мікалаевіч! Былых дыпламатаў не бывае! Але і Дзень Канстытуцыі 3 Мая, нацыянальнае свята нашых суседзяў, мае да свабоды і незалежнасці самае непасрэднае дачыненне.

– Так, у 1791 годзе сейм у Варшаве прыняў першую ў Еўропе і другую ў свеце (пасля амерыканскай) Канстытуцыю – Канстытуцыю Рэчы Паспалітай. Але ж гэта і нашая, беларуская Канстытуцыя – распрацоўвалі яе і змагаліся за яе і нашы суайчыннікі, як, да прыкладу, лідар шляхты Вялікага Княства Літоўскага, маршалак канфедэрацыі ВКЛ князь Казімір Нестар Сапега, пасол Мінскага ваяводства Яцак Антоні Путкамер дый многія іншыя. Але як казаць пра канстытуцыі, дык сёння яшчэ і Дзень паваеннай, 1947 года, канстытуцыі ў Японіі.

– А ці не здаецца вам, Генадзь Мікалаевіч, што дыялог наш нагадвае гульню ў карты?

– У дурня, калі кожны намагаецца пакласці важкі козыр?

– Ды не, хутчэй дзіцячую гульню ў п’яніцу. І калі ўжо мой ход, дык сёння і нацыянальны дзень настаўніка ў Злучаных Штатах!

– Адкуль ты і гэта ведаеш?

– Учора размаўляў па скайпе з дачкою! Мабыць, не адолець вам мяне. Прызнаюся, што зраніцы паспеў прагледзець радыёсвабодаўскую рубрыку “Ужо сёння. 3 траўня”.

– Ну, гэта мы яшчэ пабачым! Я таксама раніцой зазірнуў у каляндар. Сёння дзень нараджэння Голды Меір, пятага прэм’ер-міністра Ізраіля, якая ў дзяцінстве некалькі гадоў жыла ў Пінску ў бабы з дзедам!

– Дык вы ўжо на асобы перайшлі?! Тады я згадаю дзень нараджэнняНіколы Макіявелі, італьянскага мысляра і дзяржаўнага дзеяча.

– Добра, парырую днём нараджэння мілага твайму сэрцу князя Багуслава Радзівіла, вайсковага і дзяржаўнага дзеяча Вялікага Княства.

– Дзякуй! Адказваю дамай, якую ведаю асабіста, – дзень нараджэння Ноны Гапрындашвілі, пятай чэмпіёнкі свету па шахматах.

– А я зноў вазьму бліжэй да Айчыны. Дзень нараджэння нашага суайчынніка Яна Чэрскага, які даследваў Байкал і байкальскі рэгіён.

– Бліжэй да радзімы, мабыць, будзе з адпаведнай датаю заснавальнік беларускага савецкага тэатра Уладзіслаў Галубок.

– А яшчэ бліжэй – пісьменнік Франц Сіўко з маёй Віцебшчыны!

– І Аляксандр Гугнін, літаратар, прафесар Полацкага ўніверсітэта!

– Во, згадаў, пасля кароткай паўзы сказаў паэт, – ягоны цёзка Аляксандр Бенуа, расійскі мастак!

– Адказваю днём нараджэння трэцяга запар Аляксандра, скульптара Бацвінёнка, які, дарэчы, летась вылепіў выдатны, у стылі Ларэнца Берніні, бюст Багуслава Радзівіла. Ну і, каб не стамляць вас, не трымаць на гэтых прыступках, выкладаю казырнага туза – сёння і мой дзень нараджэння!

– Ну, гэта, мабыць, нават не туз, а джокер! Здаюся! – выдыхнуў паэт. – Прымі мае віншаванкі!

Шматвопытны і мудры літаратар фармальна нібыта і прызнаў сваё паражэнне, але не быў бы ён дыпламатам і дзяржаўным дзеячам, каб не пакінуў апошняе слова за сабою:

– Віншую і змаўкаю, бо сёння, аказваецца, яшчэ і незразумелы мне Дзень маўчання. Таму хай будзе ён мне днём добрага пісання і чытання, а табе зычу пачуць сёння шмат прыемных, прыязных і заслужаных слоў!

*3 траўня 2013 года*

## Ex libris

Аднаго дня галоўны рэдактар буйнога выдавецтва Мікалай К. разгарнуў кнігу, якую прынёс на ягоную просьбу з хатняй бібліятэкі малодшы калега Уладзімір С., і не ўстрымаўся ад кплівага каментарыя:

– А я знаю, адкуль вы садралі свой ex libris!

– Дзіва што! Каб вы ды не ведалі – столькі гадоў прапрацавалі ў “Беларускай Савецкай эцыклапедыі”, – зрабіў асаблівы націск на слове “савецкай” Уладзімір. – Не маю патрэбы апраўдвацца, але скажу, што эскіз экслібрыса гэтага распрацаваў на маю замову знаны графік Рыгор Сітніца, які ачольвае цяпер Саюз мастакоў. Ён так і патлумачыў: “Ты выдавец, нашчадак традыцый Францішка Скарыны, таму я і задзейнічаў скарынаўскі матыў “сонца маладзіковае”. А можа, вы, шаноўны Мікалай Мікалаевіч, пахваліцеся сваім, не скрадзеным экслібрысам?

Той толькі разгублена развёў рукамі:

– А ў мяне яго аніколі й не было!

– Ну то зрабіце арыгінальны і непаўторны, а я ўхвалю, парадуюся за вас!

– Навошта вы так?!

– А як жа іначай?

– Ды не крыўдуйце вы на мяне.

– Ага, як ганіць чужое, дык лёгка, а вось зрабіць сваё...

– Я падумаю. Калі не сабе, дык давяду кіраўніцтву. Можа, падахвоцяцца замовіць кніжны знак нашаму выдавецтву.

– А ў мяне гэтых кніжных знакаў не адзін, – прымірэнчым тонам сказаў Уладзімір. – Цяперашні – як мінімум трэці.

– Як гэта?

– Першы, яшчэ студэнтам-мастаком, выразаў сабе на лінолеўме. Другі, у адбітак якога трэба было ўпісваць сваё імя, прывезла з Нямеччыны, з радзімы еўрапейскага кнігадруку, малодшая дачка. А ёсць і адзін абсалютна ўнікальны, бо існуе ў адзінкавым экземпляры...

– Ну-ну, цікава.

– Даўнавата ўжо, калі рабіў гутарку ў штотыднёвік “Літаратура і Мастацтва” з Арленам Кашкурэвічам, мэтр намаляваў мне яго тушшу проста на форзацы кніжкі “Песня пра зубра” Міколы Гусоўскага і падпісаў “А. Кашкурэвіч fecit”.

– А што значыць тое fecit?

– З латыні гэтае слова перакладаецца як “зрабіў”. Гэтак сціпла (не стварыў, а зрабіў!) яшчэ з часоў Сярэднявечча падпісвалі свае творы многія майстры, а ў іх ліку і мастакі. Дарэчы, днямі пабагацеў я на адметнае, калекцыйнае выданне – альбом “Арлен Кашкурэвіч” з серыі “Беларускі

экслібрыс" з 33-ма шэдэўрамі мастака і выдадзены накладам у 99 асобнікаў, 33 з якіх – нумараваныя!

* * *

Праз колькі тыдняў аглядаў Уладзімір паліцы імправізаванай бібліятэкі ў буйным выдавецтве, з якім даўно супрацоўнічаў, і агледзеў на кнігах відавочна новастворваны экслібрыс: лагатып выдавецтва, ягоную назву, вензелі, неадменны надпіс ex libris і недарэчны на гэтых адбітках слоган: "Чытайце болей!"

*15 ліпеня 20014 года*

## Жодзінская мумія

У перыёдыцы паведамлялася, што ў Хакасіі пры рамонце БелАЗа цяжка траўмаваліся трое рабочых. Кіроўца кар'ернага самазвала, аператар-машыніст тэлескапічнага крана-маніпулятара і слесар па рамонце аўтамабіляў дэмантавалі задняе здвоенае кола, а ў выніку рэзкага выхаду паветра з шыны атрымалі цяжкія траўмы і апынуліся ў бальніцы.

Тым часам аўтар манументальнага жывапіснага палатна "Аўтазаводцы" як дыпломнага палатна ў колішнім Тэатральна-мастацкім інстытуце Аляксей М. прыгадаў іншы, куды больш трагічны выпадак.

Неяк надвячоркам адзін "гегемон" на добрым падпітку забурыўся спачываць... у шыне шматтоннага БелАЗа. Шыну тую нараніцу надзьмулі, а кола падважылі да вялікагрузнага аўтамабіля.

Парэшткі небаракі, які нібыта прапаў без вестак, адшукаліся праз некалькі гадоў пры рамонце самазвала ажно пры адным з кар'ераў у Кузбасе!

*25.11.2014, 14.01.2015*

## "Бо гэта кроў мая!"

Доктар сакральнай тэалогіі і доктар філасофіі Ірына Дубянецкая прывезла свайму былому аднакурсніку-філолагу сувенірную бутэлечку чырвонага віна. На кардоннай каробачцы было напісана, што выраблены напой згодна васьмітысячагадовым традыцыям грузінскага вінаробства.

– Бачыш, Уладзя, – крыху іранічна пасміхнулася яна, калі перадавала прэзент, – не было яшчэ Старажытнай Грэцыі, не было Старажытнага Егіпта і Вавілона, а твае грузіны, аказваецца, ужо выраблялі і спажывалі віно!

– Ну, калі найпаважаны Віктар Апанасавіч Казько сцвярджае, што Горная Шорыя, мясціны, дзе падарожнічаў наш суайчыннік Мікалай Пржавальскі і дзе цяпер так званы Кузбас, узгадваецца ў кітайскіх пісьмовых крыніцах шэсць тысяч гадоў таму, дык чаму грузінскаму вінаробству не налічваць восем тысяч гадоў?

Заўваж, старажытныя грэкі распавядалі ў сваіх міфах, як каманда "Арго" са сваім капітанам Язонам здабывала ў закаўказскай Калхідзе залатое руно, а не наадварот.

Такія гатункі вінаў, як "Хванчкара" ды "Кіндзмараулі" і сёння настолькі папулярныя брэнды, што нават калі купіш бутэльку ў Сакартвэла, гэта зусім не значыць, што набыў не падробку, якіх па ўсім свеце разліваецца на сотні тысяч дэкалітраў! Як правіла, існуе трыяда – назва вёскі або

даліны, гатунак вінаграду і адпаведная марка віна з такой самаю назвай. А вінаграду ў пэўнай даліне можна выгадаваць зусім нямнога.

А калі ўжо казаць пра духоўнае ды высокае і вярнуцца да датаў, дык грузіны прынялі хрысціянства ў пятым стагоддзі нашае эры, а мы – толькі напрыканцы дзясятага! Грузіны даўно пераклалі Біблію цалкам, а, як гаварылася на вашым колішнім багаслоўска-духоўным семінары і на круглым стале перакладчыкаў біблейскіх і літургічных тэкстаў, мы ёсць адзіная пісьмовая мова ў сучасным цывілізаваным свеце, да якой дагэтуль, да XXI стагоддзя няма поўнай Бібліі, перакладзенай з арыгіналу на сучасную мову.

Ну і зусім ужо не выпадае параўноўваць грузінскую і нашу нацыянальную самапавагу!

*28 лютага 2015 года*

## Папраўдзе народны, або Фалічны фальклор

Зайшоў аднаго вечара бацька ў пакой да сваёй старэйшай дачкі Алесі, а тая похапкам прыкрыла агульным сшыткам нейкі томік.

– Ану-тка, мілая дачушка, пакажы, што такога цікавага ды скаромнага чытаеш, што прыхоўваеш ад таткі!?

Адзінаццацікласніца мінскай элітарнай матэматычнай школы пасля кароткага вагання падала кніжку, на тытуле якой значылася: “Рыгор Барадулін. Здубавецця” і, нібыта апраўдваючыся, сказала:

– Ды вось, аднакласніцы далі пачытаць усяго на адзін толькі вечар, а потым перадаць іншым...

Бацька выйшаў на колькі хвілін, але неўзабаве вярнуўся са свайго кабінета з такім самым томікам. Зачытаў ён дачцэ аўтарскую дэдыкацыю: “Шаноўным Уладзіміру й Раісе – на марцовы настрой і кугіклівы вынік! Дзядзька Рыгор, 19.XII.99, Менск” і патлумачыў:

– Выдавалі гэтую кніжку-бестсэлер, што “стаіць” на падмурку народнага гумару, мае даўнія знаёмцы, пісьменнікі Яўген Будзінас і Кастусь Тарасаў. Як бачыш, дзядзька Рыгор даўно падпісаў яе мне ды тваёй маме, і ніхто яе не хавае. Чытай і перачытвай, дачушка, рагацё, прыбабунькі дый папеўкі сапраўднага народнага паэта, колькі захочаш і калі захочаш!

*3 сакавіка 2015 года*

## Пузацікі

Раніцою бацька пераапранаўся, каб, што называецца, выйсці ў горад, дый пачуў за спінаю доччын голас:

– Прывітанне, пузацік!

“Нішто сабе! Гэта я пузацік?!” – абурана падумаў ён і зрэагаваў вокамгненна:

– На сябе, даражэнькая, паглядзі ў люстэрка!

І тут жа з кухні пачуў у адказ выбух доччынага і жончынага смеху.

Аказалася, што дачка званіла па мабільным тэлефоне і гулліва-фамільярна вітала сваю сяброўку Аліну Кашанскую, цяжарную на восьмым месяцы.

*2 траўня 2015 года*

Дзмітры Дмітрыеў



...у фантан на Востраве слёз кідаюць купюры –
размоклыя
рознакаляровыя насоўкі
рознай вартасці...

# Памяці герояў космасу

## *КАРНАВАЛЬНЫ ФАНТАН ЖАНА ТЭНГЛІ*

### *Рэшата*

рэшата чэрпае з самых глыбінь:
прапускае праз сябе
глыбіню

### *Павук*

павук настройвае эолаву арфу:
навязлівы матыў чапляе адразу
і ўжо не адпускае ніколі

### *Мятліца*

адбітак неба ў вадзе:

мімалётна праплывае
луска птушак і пер’е рыб

***Тэатральная галава***

шчырасць і бляск у вачох
прафесійнай плачкі
што выстаўлена на вуліцу

***Дрыжыкі***

жук, які лячыць на спіне,
лапкамі перабірае варыянты:
вагацца, хістацца, гойдацца

***Блазан Заўзэр***

блазан, якому на час даверылі карону,
удзячна вітае ўсіх узнятымі дагары рукамі:
усе дзесяць пальцаў круцяцца ля скроні

***Флейтыст***

музыка праз трубачку
на адным дыханні:
падсвядома ўсплывае Гамельн

***Капальнік***

чорны капальнік знайшоў кроплю ў моры:
кругі, што пабеглі па паверхні,
таропка закідвае жменямі вады

***Пырскач***

з поля бітвы
спяшаешся дадому
заправіць вадзяны пісталецік

***Фантан***

шматкроп’е курсівам:
прыгожыя радкі ні аб чым -
адна вада

## ***ПЛЯЖНЫЯ ЖЫВЁЛІНЫ ТЭА ЯНСАНА***

### ***Animaris Umerus***

вецер –
рэліктавы маналог травы

вецер –
статкавы інстынкт лісця

вецер –
драпежнік, што абгрызае горныя храбты

поліэтыленавы пакецік з-пад часу,
які не распадаецца ў навакольным асяроддзі
і за мільярд гадоў

### ***Animaris Geneticus***

хвалі
вылупляюцца з камянёў, што кінутыя ў першасны
булён

хвалі
юрліва наскокваюць адна на адну

хвалі
павольна, але настойліва выпаўзаюць на сушу
з цяжарнымі жыватамі

адкладваюць у пясок камяні
з хвалямі ўнутры

### ***Animaris Rhinoceros***

жывёліна-натоўп:
капыты
без лініяў жыццяў

## ***ПАМЯЦІ ГЕРОЯЎ КОСМАСА***

### ***“Восток-1”***

сперматазоід чалавецтва
са жгуцікам даўжынёй ў сто восем хвілін:
*Зямля заўважна акруглілася*

## *“Apollo-11”*

*one small step* –
аднапавярховая Амерыка
пакінула бутэльку малака на суседскім ганку

*one giant leap* –
саранча
у бурштынавым скафандры

* * *

ён і яна
іх сумесная фатаграфія,
што была зроблена на стужкавы фотаапарат
яшчэ да з’яўлення тэхналогіі *anti-red eye,*
падобная на гульню бейсбольных клубаў
*Rochester RED Wings* ды *Pawtucket RED Sox*
што пачалася 18 красавіка 1981 года
і доўжылася больш за 8 гадзінаў
гульня была перапыненая з нічыйным лікам
толькі раніцай 19-га
*(за гэтую ноч абедзве каманды*
*зрабілі 882 падачы )*
праз два месяцы
сустрэча была даведзена да канца –
*Крылы* зламаліся адразу

## *PUKSTJAZZ: ПРОСТАКУТНІКІ ДЫ КРУЖОЧКІ*

вокладкі альбому, што размаляваныя ўручную
для саматужнага накладу на CD –
яны нібыта купюры,
што былі кінутыя ў фантан на *Востраве слёз*
у Мінску, сталіцы Беларусі –
краіны,
дзе манеты не чаканяць,
і таму
ў фантан на *Востраве слёз* кідаюць купюры –
*размоклыя*
*markdownрознакаляровыя насоўкі*
*рознай вартасці*

Сяргей Календа



...рагатка амерыканскай вытворчасці ў параўнанні з нашымі драўлянымі выглядала як сапраўдная зброя...

# Запалкі

***Апавяданне***

Упершыню Амерыку я ўбачыў здалёк і быў зачараваны ім. Я назіраў, як ён пляваў скрозь зубы на дзесяць метраў (метры лічыліся вялікімі крокамі). Раніца, праз пяць хвілінаў усіх пачнуць запускаць у школу, а вакол Амерыкі – натоўп хлопцаў, ён усміхаецца і плюе, усе назіраюць, а колькі хлопцаў адразу кідаюцца лічыць крокі-метры.

Амерыка быў самым сапраўдным героем школы. Ён насіў кепку “ЗША” з выяваю арла, у яго былі модныя скураныя фенечкі; дзе, хто і як яму іх сплёў, прадаў ці падараваў – невядома; ён хадзіў у школу ў гарнітуры, зусім не падобным да нашых, якія нам набывалі бацькі ў гандлёвым доме “На Нямізе”, і апранаў замежныя прыгожыя красоўкі, за якія яму часта даставалася ад дырэктара.

Ён усім распавядаў, што жыў у Штатах усё жыццё, а цяпер, калі пачалася “перабудова”, бацькі вярнуліся ў Мінск, бо вырашылі, што тут былым алімпійскім чэмпіёнам будзе лягчэй.

Амерыка нас усіх заварожваў сваёй лёгкасцю быць нахабным і прыцягальным, уважлівым да любога аднакласніка і хамам для настаўнікаў. Амерыка мог лёгка пазнаёміцца з дзяўчынаю і мог лёгка закінуць “трульнік” з-за баскетбольнай лініі любым мячом: футбольным, баскетбольным ці валейбольным. Ён мог лёгка пасварыцца з любым мінаком і адразу даць у вока. Нашая школа такіх кадраў ніколі не бачыла, і зразумела, абсалютна ніхто, акрамя саміх бацькоў Амерыкі, не разумеў, навошта яны вярнуліся ў Мінск.

Літаральна кожны дзень Амерыка прыносіў у школу штосьці цікавае.

Шлем гульца ў амерыканскі футбол – і цэлы дзень у калідорах школы толькі і чуваць, як хлопцы носяцца за кім-небудзь, хто ў шлеме... носяцца за ім, а той спрабуе збегчы, альбо спыняецца і разварочваецца, і бяжыць у натоўп, і ператвараецца з хлопца ў шлеме ў шар для боўлінгу, а тыя, хто трапіліся на дарозе, – у кеглі.

Бейсбольная драўляная біта – і ўвесь трэці паверх звініць бітым шклом, бо ў памяшканнях біта з няўмелых і слабых рук школьнікаў выслізгвае і ляціць верталётам у бліжэйшую шыбу, і вось ужо дырэктар вызвоньвае бацькоў.

Рагатка амерыканскай вытворчасці ў параўнанні з нашымі драўлянымі выглядала як сапраўдная зброя...

Скураныя каляровыя шарыкі для жанглявання, напампаваныя пяском, на цэлы дзень ператваралі школу ў свята, кожны вучыўся, як гэта – круціць у руках тры, чатыры альбо пяць мячыкаў. Амерыка, здаецца, мог круціць усе дзесяць.

Распавядаць пра тое, што з цікавостак Амерыка мае дома, альбо што было ў яго ў Айдаха, бессэнсоўна, бо ніводны тэтрыс не стане ў параўнанне на адзін п’едэстал з прыстаўкаю, каляровым тэлевізарам ці сапраўдным, самым сапраўдным крутым “горнікам”.

Аднойчы Амерыка прынёс у школу маленькі жоўты дыктафон. Цэлы дзень ён запісваў размовы і шэпты, пакідаў жоўты пластыкавы простакутнік у самых дзіўных месцах: у настаўніцкай, прыбіральні, распранальні, пад партамі ў дзяўчат. Хлопцы, якія ведалі пра дыктафон, таксама ведалі і пра месца сустрэчаў пасля кожнага ўрока, дзе Амерыка даваў праслухаць запісанае за гадзіну. Божухна, чаго толькі яны не чулі: і тое, як абмяркоўваюць вучняў настаўнікі, і тое, як хтосьці гадзіць і пукае ў прыбіральні, і тое, як дзяўчаты шэптам адна адной распавядаюць пра свае сакрэты, прыгоды і думкі, але вяршыняй Дня Дыктафона стаўся выпадак, калі Амерыка запісаў голас батанічкі, націснуў на колькі кнопак – і ўвесь клас рагатаў ад яе смешнага, скажонага, пісклявага віскату: “Грыбы належаць да царства...” Гэта было сапраўды крута, настолькі, што ў аднаго з аднакласнікаў Амерыкі паехаў дах, самым сапраўдным чынам з’ехаў дах ад дыктафона, бо хлопец, звалі яго Саша, захацеў сабе гэтую прыладу настолькі, што не проста пачаў угаворваць Амерыку даць/абмяняць/прадаць яму дыктафон, але клясціся, што гатовы выканаць усё, што той захоча.

І Амерыка захацеў. Ён сказаў Сашу, каб той на каленях папрасіў яго падарыць яму дыктафон, на каленях на вялікім перапынку паміж першай і другой зменамі, на першым паверсе, каля вахцёрскай, дзе больш за ўсё школьнікаў і настаўнікаў. І Саша пагадзіўся.

Абед. Вялікі перапынак. Стаіць дзесяцікласнік на каленях, перад ім узвышаецца Амерыка, усміхаецца і трымае ў руках жоўты пластыкавы дыктафон з функцыямі змены тэмбру голасу і хуткасці прамаўлення.

– Дарагі Амерыка, падары мне гэты дыктафон, прашу цябе на каленях! – і Саша шморгае носам. – Мне ён патрэбны як самая галоўная рэч у жыцці, я неверагодна жадаю валодаць ім.

Амерыка яшчэ шырэй усміхаецца і аддае дыктафон хлопцу.

Мінуў год, і надышоў час ісці ў адзінаццаты клас... За лета шмат чаго змянілася, і Амерыку я цяпер мог бачыць і назіраць за ім не здалёк, а ў агульных кампаніях падлеткаў-альтэрнатыўшчыкаў.

Нашым любімым месцам сачкавання, курэння і піцця была веранда суседняга закінутага дзіцячага садка... Веранда была размаляваная класічным наборам словаў: *анархія, сука, панкі не памерлі* ды інш. Але нашая адрознівалася ад іншых верандаў у горадзе тым, што мела вялікі надпіс чорнай фарбаю: «АМЕРЫКА УБЛЮДАК». Так мы нашае месца і называлі – "ублюдак".

«Сустрэнемся на ўблюдку», «Пабачымся каля ўблюдка», «Я табе разаб'ю твар на ўблюдку» і г.д.

Амерыка, да таго як стаць "ублюдкам", быў ужо знакамітасцю не толькі таму, што жыў за акіянам (і тое дзякуючы бацькам, якія працавалі ў спартовым камітэце), ён яшчэ мог выкурыць пачак цыгарэтаў за трыццаць хвілінаў. Праўда, аднойчы ён страціў прытомнасць падчас курэння, але пра гэта ніхто не ўзгадваў. Круцей за Амерыку быў толькі Печань, хлопец, які мог выпіць нагбом бутэльку гарэлкі.

Усё было ў нас як мае быць, пакуль Амерыка не пайшоў у секцыю таэквандо (а куды ж яму было пайсці: бацька – прафесійны каратыст, маці – гімнастка). Наведаў наш недапалак літаральна тры заняткі і ў секцыю больш не хадзіў, бо вырашыў, што рукі і ногі ў яго пастаўленыя ўжо. І, каб даказаць гэта, ён пачаў выпендрывацца.

Вось сабраліся мы ўвечары на верандзе, п'ем піва, прыйдзе Амерыка і як ё...не каго бліжэйшага нагой пад дыхала альбо з левай у вуха каму-небудзь заедзе. Такія нечаканкі, мякка кажучы, «не камільфо» ў дваровых кампаніях, але ж хто будзе пярэчыць таэквандзісту, які так прафесійна б'е з нагі!

Амерыка ачмурэў ад сваіх закідонаў, і спыніць яго было ўжо немагчыма...

Тады на верандзе і з'явіўся вялікі тлусты надпіс, які інфармаваў пра тое, у каго ператварыўся новаспечаны баец.

Амерыка так нікога і не адшукаў дзеля помсты, але і не зафарбаваў надпіс, толькі стаў пасля гэтага яшчэ часцей і мацней біцца.

На веранду часам завітваў Юрка, хлопец шчыры, вясёлы. «МАТЭМАТЫК!» – так пра яго казалі мясцовыя, бо Юрка на абласной алімпіядзе заняў першае месца па геаметрыі. Юрка і матэматыкам быў някепскім, і сябрам файным, і піў, колькі ў яго магло змясціцца, а гэта для дваровага хлопца – тое, што трэба.

Аднойчы Амерыка прыйшоў «на ўблюдак», пачаў ізноў біцца з першым, каго сустрэў, і сустрэў ён гэты разам Юрку, які чамусьці не стаў скукожвацца і прасіць не чапаць яго, а выпрастаўся пасля нечаканага ўдару нагой па спіне, павярнуўся, паставіў блок пад левы хук Амерыкі і пацэліў яму ў нос леваю, а потым зверху па галаве кулаком праваю... Амерыка зваліўся з ног, ды так, што давялося адмочваць яго півам.

Пасля гэтага Амерыка перастаў біцца, наведваў нашую веранду ўсё радзей, а потым і ўвогуле знік.

Зоркамі ў нашай школе ў старэйшых класах былі два Лёшы.

Абодва высокія, накачаныя, адзін – бландзін, а другі – брунет.

Лёшы былі не проста зоркамі, яны былі планетамі, вакол якіх круцілася процьма спадарожнікаў, што гатовыя былі націраць ім да бляску абутак. І менавіта каля іх утульна ўладкаваўся Амерыка. Ён не выглядаў сярод пары сяброў трэцім, ён выглядаў хутчэй прыстасаваннем, дадаткам, але дадаткам карысным: тут і грошы, і вядомасць, і адсутнасць страху ды розуму.

Абодва Лёшы працавалі ахоўнікамі ў рэстарацыі, але толькі ў вячэрнія гадзіны, бо ўсё-ткі паводле дакументаў яны былі яшчэ непаўнагадовымі.

Лёшам, акрамя вучобы, усё астатняе давалася проста і лёгка: стометроўка на пяць, алкаголь у краме без пашпарту, каханне з любой дзяўчынай...

Стасункі Лёшы заводзілі хутка, проста і неверагодна крута.

Новая практыкантка па біялогіі стажыруецца ў дзявятых класах – абавязкова адзін з Лёшаў з ёй круціць раман, і не істотна, наколькі яна прывабная, прыгожая і ўвогуле ці падабаецца: у Лёшаў быў такі план – кожная новая практыкантка мусіць трапіць да кагосьці з іх у ложак. Яны рабілі падлікі і намагаліся адзін аднаго перамагчы ў сэкс-эстафеце.

Аднойчы, калі вясна нікому, акрамя "батанаў", не давала моцы высядзець на ўроках і ўсе бадзяліся па раёне каля школы, Лёшы сядзелі ля пад'езду, пілі піва і гучна рагаталі разам з маладой настаўніцай-практыканткай па фізіцы і яе сяброўкай пэтэвэшніцай, а побач стаяў Амерыка, паліў і гучна смяяўся, ён таксама разлічваў на кагосьці з дзяўчат.

З пад'езду выйшаў малады мужчына, гадоў каля трыццаці, і зрабіў кампаніі заўвагу: наплявалі тут, накідалі шалупіння, недапалкаў.

Амерыка, доўга не думаючы, даў маладому чалавеку ў твар.

Той ледзь вырваўся, знік у арцы дома, накіраваўся ў бок крамы.

Мінула каля дзвюх гадзінаў, калі да школы з візгатам шынаў і рыкам матораў пад'ехалі тры "BMW". З машынаў выйшлі мужчыны, якія выглядалі як паўсталыя з расейскага фільма "Брыгада", толькі гэта быў далёка не фільм.

Лёшаў і Амерыку вывелі на задні двор школы, і перад трыма старшакласнікамі, крутымі пацанамі, паўстаў той самы малады мужчына, які зрабіў ім заўвагу.

Збітым мужчынам аказаўся Шэры. Той самы Шэры, якога ніхто ніколі нідзе не бачыў, але ўсе ведалі, што любы гандаль на раёне і наркотыкі ідуць толькі праз яго.

Зразумела, «брыгада» не збіралася на вачах у школьнікаў, настаўнікаў і дырэктара займацца забойствам альбо збіццём непаўналетніх, няхай і такіх здаравенных афэлкаў.

Шэры падышоў спачатку да аднаго Лёшы, дастаў запалкі, запаліў адну, даў у руку хлопцу, папрасіў яе трымаць як мага вышэй перад вачыма, і не дай Божа, каб запалка патухла.

І вось стаяць Лёша-адзін, Лёша-два і Амерыка, кожны трымае па запалцы перад вачыма, а Шэры спрабуе патушыць агонь... але не так і проста патушыць, бо Шэры, замест таго каб дзьмуць, плюе на запалкі, і кожным разам міма, і пляўкі трапляюць у твар хлопцам.

Публічнае прыніжэнне скончылася толькі на дзясятай запалцы, калі абодва Лёшы былі запляваныя і плакалі ды скуголілі, што яны нікога не чапалі і нават не збіраліся чапаць, ва ўсім вінаваты гэты ўблюдак Амерыка, і незразумела было, дзе там іх слёзы, а дзе сліна Шэрага.

Амерыка маўчаў, ён хацеў толькі аднаго – з'ехаць.

дэбют

Валерыя Данілевіч



...Маё жыццё — не жыццё, а прадмова жыцця,
Канатная сцежка ад забыцця
Да першага ўздыху....

# Бойка чорнага з белым

* * *

Маё жыццё такое бяздосведнае і няўмелае
Яшчэ не ходзіць – поўзае на карачках,
Хоча на ручкі – разбэшчана плача.
Маё жыццё – малая жабрачка,
Што на дзядзінцы замшэлым
Клянчыць,
Чакае падачкі.
Маё жыццё – бессэнсоўная стачка:
Бойка чорнага з белым.
Маё жыццё – райскі яблык
Яшчэ не саспелы.

Маё жыццё – збой генетычнай праграмы,
Знічка-імгненне,
Запэцканы сшытак з плямай

Ад тлустай аладкі,
Дзе напісана так мала,
А ў вачах рабаціць ад чырвонай асадкі.
Маё жыццё – хатняе сачыненне,
За ідэю – выдатна, за пісьменнасць – два балы.

Маё жыццё – не жыццё, а прадмова жыцця,
Канатная сцежка ад забыцця
Да першага ўздыху.
Ціха
Ідзе гадзіннік, што на паліцы,
Стрэлкі-цягліцы
Рухаюць час у адваротны бок.
Крок
Аддзяляе мяне ад выхаду
З дэмаверсіі
Я птушаня ў лесе
Наверсе
Ў кроне гарэха,
Дзе шэпча рэха,
Быццам жывая істота:
Скокні, каб навучыцца лётаць

* * *

Кахаць да дрыжыкаў.
Выць ад спакусы
да крыві бязлітасна
грызці вусны.
Чырванець пры сустрэчы
трошкі.
Прачнуцца побач
аднойчы —
у скамечаным ложку.

* * *

Нашыя спрэчкі
Па кроплях
Збіраюцца ў рэчкі
Калатнечы,
Дзе ў жоўці
Аскепкі даверу
І рэшткі талерак,
Што білі ад злосці.

Дзе хвалі точаць
Камень трывання,
І ў кожнага з нас пацеха —
Упарта
Змываць з сябе бруд у ванным,
Бо ад смуроду абразаў
Слязяцца вочы.

Нам разысціся варта,
Бо ты блазан,
Я блазан,
А цырк з'ехаў.

Але мы разам.

Тут без варыянтаў:
Нішто не дапаможа,
Калі не мірыць нават ложак.
Табе б гуляць у шашкі,
Мне ў паддаўкі,
А не шукаць выйсце з ракі
У пляшках
Джын-тоніку
І цюбіках
Антыдэпрэсантаў.

Але мы, дальтонікі,
Збіраем кубік
Рубіка.

* * *

Калі абуджае зранку рогат дзіцячы,
Шукаеш у гэтым сімвал, злазячы з печы,
Бо нехта над златам суткамі чэзне-плача,
А ранак надзённы — чым табе не ўдача?!
Сапраўднае шчасце прыносяць простыя рэчы.

Выходжу на ганак, крочу няспешна ў краму.
Катае са снегу камы чарада хлапчукоў
Каля пакрывелай лядашчай суседскай брамы,
А мне гэта не гульня – таямніца ў храме,
Бо прыкладна так Усявышні ляпіў Адама,
Як лепяць яны звычайных снегавікоў.

А зграбныя дрэвы, вытачаныя ювелірам
З усім уласцівым ім жывым эратызмам,
Павольна ў далёкім верасні зняўшы бялізну,
Цяпер сарамліва хаваюць пад коўдрай галізну
З пухнатага і бязважкага снега-зефіру.

Паціху хутае цемра малую вёску,
Гарэзы цягнуць дадому свае салазкі,
Ім трэба класціся ў ложкі і слухаць казкі,
Бо дзень ставіць кропку. (Дае мне яшчэ падказку,
Што больш не павінна быць аніякіх косак).

Лагодна спявае сваю калыханку завея.
Спакойна. Здаецца, бароніць сам херувім.
На дыбачках бясклапотна ў царства Марфея,
Як быццам цябе і не было —
Зусім.

* * *

Адпалала пакутаў полымя,
Адбалела, сышло, не вернецца.
Толькі сэрца даўно не аголена,
Добры досвед, цяпер – няверніца...

У мінулым часы пякучыя,
бо спыніўся стары лічыльнік.
І пакутваць – надакучыла.
«Уставай!» – заклікае будзільнік!

Не чакаю цябе ў бяссонніцы,
Прагна дыхаю зваблівай воляй,
Больш твой вобраз за мной не гоніцца,
Ад пачуццяў – адно вуголле.

Боль кахання спаліла вогнішча,
Дагарэла дашчэнту ўночы.
Помню толькі нязвыклае прозвішча
І вялікія шэрыя вочы.

* * *

Пакуль ты чытаеш гэты верш нетаропка,
Хтосьці дапісвае свой геніяльны зборнік,
Іншы паліць свой рукапіс, кідае стольнік
І замаўляе чарговую ў бармэна стопку,
Моўчкі хавае свой боль за маланкай худзі
І вырашае, што болей пісаць не будзе.

Хутае нехта дзіцятка сваё ў анучы
І пакідае яго на казённым ганку,
Хукае на далоні (мароз пякучы),
Не азірнуўшыся – прэч, у сваім напрамку,
Больш не ўбачаць яе тут аніколі,
Пазбавілася абузы – цяпер на волі.

Хтосьці ў гэты момант шукае выйсце:
Штучнае апладненне, у царкве лампадка,
Летнюю спёку змяняе пажоўклае лісце.
Безвынікова ўсё – бег па замкнёным коле,
Яна не здаецца – чакае сваё немаўлятка.

Нехта вядзе няроўную бойку з хваробай,
Больніцы і шпіталі – родныя сцены,
Ён кожны дзень як гладыятар з арэны.
Без перапынку спроба ідзе за спробай,
Бо не гатовы сціпла аддаць перамогу.

Хтосьці стаміўся, рэжа ў ванным вены,
Яму не выклічуць "Хуткую дапамогу",
Не выратуюць, не пакладуць у палату,
У запісцы: "Ніхто ў маёй смерці не вінаваты".

Хтосьці свет першародным плачам вітае,
Робіць гучны ўздых, крычыць-смяецца,
Слухае, як грукоча матчына сэрца,
Пакуль кабета з любоўю яго люляе.

А нехта ў жыцці ставіць яркую тлустую кропку
І, развітаўшыся з дзецьмі,
Ідзе на спатканне са смерцю.
Пакуль ты чытаеш верш нетаропка.



# “Экслібрыс”

## *Творы пераможцаў конкурсу маладых літаратараў*

*24 лютага, у дзень, калі Народнаму паэту Беларусі Рыгору Барадуліну споўнілася б 80 гадоў, ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» абвесціў пра пачатак прыёму прац на конкурс «Экслібрыс», які сёлета меў імя класіка і быў прысвечаны вершам і паэтычнаму перакладу. Цягам паўгода на пошту Саюза пісьменнікаў маладыя літаратары дасылалі свае паэтычныя творы. Тэксты на ўмовах ананімнасці разглядала кампетэнтнае журы ў складзе* ***Раісы Баравіковай, Леаніда Дранько-Майсюка, Вольгі Іпатавай, Наталкі Кучмель*** *і* ***Уладзіміра Някляева****. 31 жніўня журы падвяло вынікі і абвясціла фіналістаў і пераможцаў.*

*Такім чынам, у намінацыі «Паэзія» лаўрэатам стала* ***Валерыя Кустава****, у намінацыі «Паэтычны пераклад на беларускую мову» —* ***Алесь Емяльянаў-Шыловіч****.*

*Дыпламанты ў намінацыі «Паэзія»:* ***Яна Мацюшава, Аліса Мініна, Анхела Эспіноса Руіс, Ганна Станіславенка.***

*Дыпламанты ў намінацыі «Паэтычны пераклад»:* ***Яўгенія Асколкава, Ганна Комар, Аляксей Лабоцкі, Арцём Сітнікаў.***

*«Дзеяслоўцы» шчыра віншуюць пераможцаў і фіналістаў «Экслібрыса» і прапануюць увазе чытача іх вершы і пераклады.*

### Валерыя КУСТАВА, 1984 г.н., Мінск

***Вершы з новай кнігі “Калыханка для Бога”***

* * *

Маё ласянё,
мой мужчына,
злізвае соль з далоняў,
узлескавымі плячыма
супакойвае сэрцабіццё.

На голкі веяў наколвае,
мкнучы між хмызоў ды хвояў,
словаў чужых цалункавых
маладое лісцё.

Маё ласянё,
мой мужчына,
з гарынскай слязы вачыма.
Жнівеньскай павуцінай
пасма ў яго валасох.
Столькі моцы спачылай,
столькі юначай сілы
ў лясной крамяной спіне,
што ледзь не сачыцца сок.

Маё ласянё,
мой мужчына,
праводзіць вачыстым паглядам
дзіка, што лычом гострым поўню
скручвае на маладзік.
І бураю аблачынай
плыве па сівым сутонні
маё ласянё,
мой мужчына.
І адступае дзік.

Маё ласянё,
мой мужчына,
знайшоўшы ў снягох пралеску,
выпростваецца плячыста,
нагамі ўрастае ў зямлю,
і трубіць, як аглашэнны,
па-свойму,
па-палеску,
на знак,
што знайшоў прачыстую,
дзікую
ды сваю.

*Студзень 2015*

* * *

Ведаеш,
я сёння бачыла любоў.
Яму было пад дзевяноста,
а ёй – пад восемдзесят.

Розніца ў адзінаццаць,
дванаццаць,
трынаццаць гадоў
толькі раней здавалася розніцай.
Ён прамовіў ёй:
"Мілая,
асцярожна..." –
і падхапіў пад руку,
каб не зачапілася аб *парожку*.
Ён прамовіў гэта моўчкі,
бо ўсе словы ўжо толькі доўжыліся.
І даўно былі на слыху.
Потым ён купіў *марожку* –
адзін калачык на дваіх –
і яны прыселі
і з'елі яго
на *дарожку*.
А пасля – зляцелі,
крохкімі
віцінкамі
адштурхнуўшыся
ад зямлі.

*Родас, Жнівень 2014*

* * *

Чакаеш гэта дурное
цудоўнае лета
паўжыцця.
А яно прыходзіць –
і ўсё не такое,
няправільнае.
Адно ратуе –
калі
ў парыве па-
чуцця,
нехта ён
кажа:
– Хачу пабачыць
зноў
твае мокрыя валасы
раніцай.

*Варшава, ліпень 2014*

* * *

Вершы
пішуць нагамі...

на шляху,
які ёсць Паэзіяй.

*2012*

* * *

Зоры – саспелыя яблыкі,
гронкі белых наліваў –
скачуць па небе,
як д'яблікі,
падаюць да шчаслівых.

Тваё ж трывожнае шчасце
у вечаровых абдымках –
за паўначы да прычасця
дыхай.

Лета сыходзіць дажджамі
і гарадамі чужымі.
Калі ты ў апошнім часе
плакаў начамі,
скажы мне?..

Плывуць туманы з сівінкамі,
як пры тваіх скронях.
З цукровымі журавінкамі
атрута ў знаёмых далонях.

Доўгія ночы, бясконцыя,
бы ў юных мнішак спадніцы.
Зоры
саспелымі сонцамі
падаюць,
падаюць
ніцма...

*Жнівень 2014*

## Алесь ЕМЯЛЬЯНАЎ, 1987 г.н., Мінск

## Эва Ліпска

### ДОМ

Дом мой стаіць без дзвярэй і без вокнаў
часам нават ужо надвячоркам.
Тады я ад ліфта купляю ключ
і праз дом пачынаю вандроўку.

Я ведаю гэтыя станцыі. Год ужо езджу.

На скрэсленым другім паверсе
памёр мудрэц ад лішку мысляў.
Каўнер плашча падняў высока.
На скрэсленым другім паверсе.

Баюся думак. Плаўным рухам
па Геракліце адводжу рукі.

Дом мой плыве без дзвярэй і без вокнаў.
Дом мой плыве да апошняе станцыі.
Ты чакаеш мяне як і год таму.
Дом абваліцца і застануцца
нашы целы
дакладныя, як гекзаметр.

### ІСПЫТ

Конкурсны іспыт на караля
прайшоў выдатна.

Заяўленыя колькі каралёў
і кандыдат на караля.

Каралём стаўся пэўны кароль
які меўся стаць каралём.

Ён атрымаў дадатковыя пункты за паходжанне
спартанскае выхаванне
і ўсмешку
якая бярэ ўсіх за шыю

З гісторыі адказваў
з цудоўным пачуццём маўчання

Абавязковы язык
выявіўся ягоным уласным.

Калі ён размаўляў пра мастацтва
схапіў камісію за жывое.
А аднога з членаў камісіі
схапіў трохі замоцна.

Так
то відаць быў кароль.

Старшыня камісіі
пабег па народ

каб урачыста
уручыць яго каралю.

Народ
быў убраны
ў
скуру.

## Адам Загаеўскі

### ПАМЯЦЬ

Мёртвым прыносім
скарыстаныя рэчы
І кажам ім словы
ў якіх не хапае літар
На магілах саджаем краскі
але вельмі спрытна
нібы выхваляемся
нашым добрым здароўем
А па вяртанні мяркуем
найлепей было б
слаць памерлым пасылкі

### ЦІША

Часам і ў вялікім горадзе
здараецца ціша, і чутно, як па
тратуары, гнаныя ветрам,
рухаюцца леташнія лісточкі
у сваёй бясконцай вандроўцы
да смерці.

## Яўгенія АСКОЛКАВА, 1992 г.н., Мінск

## Джузэпэ Джардзіна

***З кнігі* "Жанчыны майго задыяку". *Здзіўленні, уявы і словы-зладзюжкі***

*Задыяк занадта лідавочны,*
*каб быць нябачным.*
Ліза Марпурго, "Уводзіны
ў астралогію і расшыфроўку задыяка", 1971

### ЖАНЧЫНА-АВЕН

Песціш словы як кветкі,
маўляў, нібы з неба яны,

дзе адгукаецца літар чароўных рэха
голасам моцным тваім,
нібы паветрам па крылах лебедзевых.
Часта палаюць словы,
часта як жалеза
іх плавіш у вогнішчы ты,
спальваючы сэрца жыцця,
мора адценне,
неба чырвонае вечарніцы,
як погляд твой аддадзенае
татэму,
гранітнаму абеліску,
графіты якога прыемным чытаннем цябе займаюць.

Агонь твайго знаку
змадэляваны ў кіпцюрах лалавых,
каб раздзіраць зоркі варожыя,
калі ў начным люстэрку з’яўляюцца.
Недарэчным лічыш пульс свой
іскры зямной.

Не прызнаеш сябе сіняй, марской,
але глытком вады,
замкнёным у ракавінцы,
не ў садзе,
але ў мёртвым пялёстку нарцыса
не ў лесе,
але на лісце філіграні.
З цвёрдым перакананнем, што мора
як сусвет кропель,
сонца іскраў, лес лісця,
сад пялёсткаў, –
у адным колеры счапіліся.

Калі ніхто не раздзірае праўду тваю,
квітнеюць усмешкі; але ж інкаш
у пекле памяці іскрацца зоркі дажджом,
рэжуць жылы макі і не рухаюцца дэльфіны
у шыпшыне каралавых рыфаў.
Ты, яскравая,
трымаеш моцна рыштаванні вясёлкі
і іх жа руйнуеш.

Цвярозая жрыца
неўтаймоўнага крэда,
не ведаеш ты каштоўнасць слабасці.
Наша чалавечая прырода – прагінацца і падаць,
чаму ж жыццё не апяразана пакутамі,

але ж бярлогамі насмешнікаў і хлусаў,
тэатрам ілжэпрарокаў,
фарсам вясёлых жуіраў,
шалёных і баязліўцаў,
тых, хто пераможаны, пераможцамі карануюць.

Усё ж у неспакойнай спіралі
рога, якім Авен пракладвае
няпэўны звілісты шлях
свайго падарожжа, абараняеш
геаметрыю пачуццяў,
парадак учынкаў і слоў,
законы, колазваротам адзначаныя,
месца гончых сузор'яў
і пазалочаную клепсідру Месяца,
каб пракрычаць
на ўвесь свет,
што ведаеш жыццёвы лабірынт
і мапу, створаную
багаслоўем нябесным,
дзе месяц – срэбны прывід,
у сэрцы якога бог закапаў
дзесяць запаветаў сваіх,
каб давесці розных людзей да розуму.

## Ганна КОМАР, 1989 г.н., Мінск

## Чарльз Букоўскі

### *НАЧЛЕЖКА*

ты яшчэ не бачыў жыцця
калі не быў
у начлежцы
дзе гарыць адна
лямпачка
і 56 істотаў
туляцца
на нарах
і ўсе
храпуць
у адзін голас
а некаторыя
храпуць
так
неверагодна

глыбока і
агідна –
цёмныя
смаркатыя
нечалавечыя
хрыпенні
з самога
пекла.

твой мозг
вось-вось выбухне
ад гэтых
гукаў
смерці.

і водары
што
змяшаліся:
даўно
не мытыя шкарпэткі
абасцанае і
абасранае
споднее

і над гэтым усім
павольна цыркулюе
паветра
накшталт таго
што выдзяляюць
адкрытыя
смеццевыя
бакі.

і
целы
ў цемры
тоўстыя і
худыя
і
крывыя

адны
бязногія
бязрукія

другія
безгаловыя

але самае
горшае:
абсалютная
адсутнасць
надзеі

яна ахінае
іх
накрывае іх
абсалютна.

гэтага не
вытрымаць

ты
ўстаеш

выходзіш

ідзеш па
вуліцах

уверх і
ўніз па
тратуарах

мінаеш будынкі

паварочваеш
і
вяртаешся
той
самай
вуліцай

і думаеш

калісьці
ўсе яны
былі
дзецьмі

што здарылася
з
імі?

і што
здарылася

са
мной?

тут так
халодна
і
цёмна.

## СМЕРЦЬ ПАЛІЦЬ МАЕ ЦЫГАРЫ

Прыкінь, я зноў сяджу тут
п'яны
па радыё грае
Чайкоўскі.
Божа, я слухаў яго 47 гадоў
таму
калі быў галодны пісака
і вось зноў ён
а я
цяпер – больш-менш сыты
пісьменнік
а смерць ходзіць
кругамі
па пакоі
паліць мае цыгары
папівае маё
віно
пакуль Чайк пацее над
сваёй Патэтычнай,
гэта было падарожжа,
і мне часам шанцавала, бо
я ведаў, на што
ставіць:

я галадаў за сваё мастацтва, галадаў каб
выйграць 5 грэбаных хвілін, 5 гадзін,
5 дзён –
я проста хацеў
пісаць;
слава і грошы мяне не цікавілі:
я хацеў пісаць,
а яны хацелі, каб я фігачыў за штампавальным
прэсам,
стаяў за канвеерам на заводзе,
хацелі, каб я вашаваў на складзе
ва ўнівермагу.

запомні, кажа мне смерць, калі праходзіць побач:
я ўсё адно цябе дастану
і не важна, хто ты:
пісьменнік, шафёр, сутэнёр, мяснік,
парашутыст – я дастану
цябе...

добра, дзетка, адказваю я.

і вось мы п’ем разам
гадзіна дня паволі перацякае ў
другую і
толькі смерць ведае, калі
але я змахляваў:
я выйграў свае грэбаныя
5 хвілін
і нават
больш.

## ПАЭТЫЧНЫ КОНКУРС

можна дасылаць любую колькасць вершаў
але кожны не даўжэйшы за 10 радкоў.
ніякіх абмежаванняў па стылі ці змесце
хоць мы аддаем перавагу вершам
жыццесцвярджальным.
інтэрвал падвойны
у верхнім левым куце
імя
і адрас.
рэдактары не нясуць адказнасці за
рукапісы
без канверта з маркай.
мы прыкладзем
максімум намаганняў каб
усе працы былі ацэненыя за 90
дзён.
пасля ўважлівай праверкі
апошні выбар будзе зроблены
Элі Мэй Мудзі,
старшынёй журы.
калі ласка, укладзіце ў канверт па $10
за кожны
верш.
пераможца конкурсу
“Залатая ручка
Элі Мэй Мудзі”
атрымае гран-пры

ў памеры
сямідзесяці пяці даляраў
і ганаровую грамату
з аўтографам
Элі Мэй Мудзі.
а 2-е, 3-е і 4-е месцы –
заахвочвальныя дыпломы
з аўтографам
Элі Мэй Мудзі.
рашэнні перагляду
не падлягаюць.
творы пераможцаў з’явяцца
ў веснавым нумары
“Сэрца нябёсаў”.
пераможцы таксама атрымаюць
1 (адзін) асобнік часопіса
разам з
апошнім зборам
паэзіі
Элі Мэй Мудзі
“Там, дзе сканала
зіма”.

## Алесь ЛАБОЦКІ, 1988 г.н., Мінск

## Аляксандр Блок

### *СКІФЫ*

Мільёны – вас. Нас – цьмы, і цьмы, і цьмы.
Ну паспрабуйце, пазмагаецеся з намі!
Так, скіфы – мы! Так, азіяты – мы,
З раскосымі і прагнымі вачамі!

Стагоддзі вашыя для нас – адна гадзіна.
Як тыя паслухмяныя халопы,
Трымалі шчыт мы паміж дзвюх варожых сіл
Манголаў і Еўропы!

Стагоддзямі каваў ваш стары горан
І заглушаў грамы, лавіны.
І дзікай казкай была для вас прорва
І Лісабона, і Месіны!

Ўжо сотні год вы паглядалі на Ўсход
І плавілі, ў нас адабраўшы, перлы.
І здзекліва лічылі толькі тэрмін,
Калі ў чарговы крыжавы паход.!

Вось – час прыйшоў. Б’е крыламі бяда.
Дзень кожны крыўды памнажае.
А прыйдзе дзень – і нават і сляда
Ад вашых Пестумаў не захавае!

Гэй, стары свет! Пакуль шчэ не загінуў ты,
Пакуль шчэ цешышся пакутаю салодкай,
Спыніся, мудры, як зрабіў Эдіп,
Прад Сфінксам з старажытнаю загадкай!

Расея – Сфінкс. У радасці і смутку,
І абліваючыся чорнаю крывёй,
Яна глядзіць, глядзіць, глядзіць усё на цябе
З нянавісцю адразу і з любоўю!...

Так, так любіць, як любіць наша кроў,
Вы ўсе паспелі ўжо забыць!
І дзіўна вам, што ў свеце існуе любоў,
Якая здатная палаючы забіць!

Мы любім усё – халодных лічб запал,
Дарунак бачанняў чароўных,
І востры сэнс – ім знакаміты галл,
І з геніем германскім мы нароўні...

І ўсё нам памятна: парыжскіх вуліц пекла,
Венецыя і яе прахалода,
Цытрынавых гаяў далёкі водар,
Як Кёльна гмахі з дымам рвуцца ў неба...

Нам даспадобы цела – густ яго і колер,
Смяротны, душны цела незабыўны пах...
Ці вінны мы, як ваш шкілет прастрэціць боллю
У цяжкіх і далікатных нашых лапах?

І звыкла нам, за цуглі ўхапіўшы,
Гуллівых коней супыняць,
Крыжы цяжкія тым каням ламаць,
Караць рабынь, пакору пазабыўшых...

Хадзем да нас! Ад жудасцяў вайны
Пакуль прыйсці у мірныя абдымкі можна!
Пакуль не позна – стары меч у ножны,
Таварышы! Мы станем – як браты!

А калі не – няма чаго нам страчваць,
І нам вядома ашуканства!

Вякі за гэты выбар будзе сплачваць
Вашае хворае нашчадства!

Шырока мы па нетрах і лясах,
Перад Еўропаю прыгожай
Расступімся! Мы ўсе павернемся да вас
Сваёю азіяцкай рожай!

Ідзіце ўсё, ідзіце на Ўрал!
Мы тут ачысцім месца бою
Машын сталёвых, дух чый – інтэграл,
З мангольскай дзікаю ардою!

І з часу гэтага мы вам ужо не шчыт,
З імгнення гэтага ў бой не ўступім самі.
Мы паглядзім, як насмерць бой кіпіць,
Сваімі вузкімі вачамі.

Не сунемся, нат калі люты гун
Ў кішэнях трупаў будзе лазіць,
І гарады паліць, і праз царкву ганяць табун,
І мяса братоў белых смажыць!...

Ў апошні раз – апамятайся, стары свет!
На баль братэрскі працы й міру,
Ў апошні раз на баль братэрскі светлы
Склікае варварская ліра!

## Яна МАЦЮШАВА, 1993 г.н., в. Новы Двор (Міншчына)

### *НАМ ПРОСТА НЕ ХАПАЕ ШЧЫРАСЦІ*

Тралейбус. Восеньскія халады.
З базару людзі, кошыкі.
Кандуктар, хлопец малады,
Стаміўшыся, падлічвае грошыкі.
Дзядок. І нешта ў руках.
Частуе яблыкам: “Во вырасціў!”
Падзяка аж да слёз у вачах.
Нам проста не хапае шчырасці...

### *ПЕРШАМУ САПРАЎДНАМУ*

Нарэшце!
Я зірнула ў вакно,
Падняўшы вочы ад яскравага экрана
Майго кампутара, дзе ўсё адно.

Увесь інтэрнэт – вялізная загана.
Увага адцягнулася.
За шклом цямнела.
І вось прыйшла шалёнай прозай
Падманлівая мокрая зіма.
Яна паспела
Да каляндарнага афіцыёзу.
На вуліцу хутчэй!
Няхай да пар яшчэ гадзіны дзве.
А снег ідзе,
І набягае, і я ў абдымках сваіх мар
Пайду ў край, дзе не бываць бядзе.

### *МЁРТВАЙ ВЁСЦЫ*

пустыя вокны
там ні шкла, ні рамы
проста, як мінімалізм
жыцця.
акіну вокам,
нястрымана заб'ецца
тое маленькае ў грудзях
да забыцця.
святое адчуванне
ахоплівае і нясецца
ў палях.
як быццам спачуваннем
напоўніцца нутро.
тут мёртвы дух
і цішыня.

### *ЧЫГУНКА*

Калі я еду на чыгунцы
час спыняецца.
Усё тая ж восень,
што і год назад.
На свеце, кажуць, усё мяняецца,
А я кажу: не ў цягніках.
Усё тыя ж вокны,
шкло празрыстае,
і тыя ж дрэвы за вакном.
Душа адкрытая і чыстая
чырвоным грэецца лістом.

## Аліса МІНІНА, 1993 г.н., Мінск

* * *

Толькі б захацець
Зіхацець.
Толькі не забаяцца
Быць хоку, быць танка
Быць танцам.
Быць лёгкай –
У дваццаць,
Чырвонай – у сорам.
Знайсці сабе хлопца –
Не вочы, а зоры,
Знайсці сабе месца
Не горад – а мора,
Дзе дыхаць глыбока.
А ты нараджаешся
Простым алоўкам,
Звычайнай паперкай,
Ногі ў цыпках.
Ну што за манеры
Ціхенька цыкаць
І хлусіць у вочы?
А ён бярэ цыркуль
І крэсліць, і крочыць,
І баіць напеўна.
А боль такі моцны,
Што нават прыемна,
Што нават не дзіўна...

А ты нараджаешся
чоўнікам з дзіркай.

* * *

Ты такі ўжо дарослы звонку,
Але трэба яшчэ вучыцца,
Як паштоўкі паміж старонак
Зберагчы свае таямніцы.

Ганьбу, каб не вярталася плеццю,
Плёткай чыёйсьці балбатлівай жонкі,
Лекі свае, каб ніхто ў свеце
Не здагадаўся, дзе рвецца тонка.
Узрост – каб рукаліся сытыя твары.
Грошы – ці кроны, ці франкі, ці літы.
Зараз паўшэптам: нікога-нікога
Не далучай да святой малітвы.

Часам бывае і цяжка, і груба –
Шчыліну ў хаце трымай рукою,
Гэта простае правіла, любы!
Кубак пашаны – на кубак спакою.
І не чакай падарункаў лёсу,
А як раптам што зваліцца з неба:
П'яны пішы, рэдагуй цвярозы,
Толькі казаць не трэба!

* * *

Ноч не клеіцца.
Наўпакі – свецiць у вочы.
Трэш шурпатыя ступакі –
Не дзявочыя.
Выдумляеш чаргова план:
Палон і травень.
Чуеш, у кухні бурбоча кран...
Круціць страўнік.
Голаў светлы і залаты.
Толькі рыбкай
З самаробнай маёй вуды
Скочыць рыфма.
Адбівай ужо, не цягні,
Гэты мячык.
Я цяпер усё на зямлі
Растлумачу.
За суседаў залезу плот
У пах вішнёвы
І пісаць магу круглы год
На замовы.
Абадраць на гарбатны дым
Кветкі ліпы.
Нікуды, нікуды, нікуды
Больш не ўліпнуць.

* * *

Ад любові да зайдрасці –
Адзін крок. Бачна звонку:
Пакуль я выдумляю радок,
У цябе ўжо – на старонку.
У цябе ўжо тры тамы –
Табе мала
Вершаваных мемарыялаў,
І ўласных ініцыялаў,
І маны,
Што была пасля.

Ты прыходзіш у сны,
Нібы той гусляр,
Пазіраеш у неба
І на гэтай глебе
Асадкай, як той рыдлёўкай,
Да стомы дня
Мне не дае спакою
Твая паэтычная і не толькі
Вышыня.

* * *

Гэта не сум для песні,
(Ганна праліла алей),
Ты ўжо гэта здзейсніў,
Трэба ісці далей.
Босым выходзіць у раніцу,
Не апускаць стульчак,
У рондалі з ночы варыцца
Сто маіх матыльчат.
Звонку званок інкогніта —
Барытон.
Больш не чакаць аніводнага
У здымны дом.
Як адзіноту знесці мне?
Быць грамчэй.
Бачыць галоўныя меціны
Без вачэй.
Лезці па гэтай лесвіцы
У самы боль.
Культываваць, што месцiцца
У далонь.
Падаць кропелькай стомленай
За каўнер,
Чуць скрозь любыя кіламетры,
Як пяе.

### ВАЛАКАРДЗІМА

Мы ляжым на падлозе,
І нас абдымае водар,
Які лезе ў старыя рамы
Праз кожную дзірку.
Зрабі выгляд, што спіш,
Зрабі гэта з асалодай,
І я кожную ранку
Перакладу ў гадзіну.

Абыякава ці пераклад
Будзе трапны.
Я хачу, каб ён трапіў
У твой панцыр,
А ты зноў кідаеш мяне ля трапа
Канцавой невядомай
Аўтобуснай станцыі.
А мне што, а мне
І не трэба болей,
Як у далонях тваіх
Ціхенька цікаць.
Ад астатняга
І папярэдняга болю
Я лякуюся кроплямі
Валакардзіна.
Мы ляжым на падлозе
І нас абдымае коўдра
І ўсе свае “не” ты даўно
Разжаваў мне.
Зрабі выгляд, што заўтра
Усё будзе добра,
А пасля не вітайся
На скрыжаваннях.

## Арцём СІТНІКАЎ, 1987 г.н., Мінск

## Боб Дылан

### *АДКАЗЫ ЎСЕ ВЕЦЕР ПРЫНЯСЕ*

Колькі дарог чалавеку прайсці,
Каб звацца яму ЧАЛАВЕК?
Колькі шчэ мораў галубцы ляцець,
Каб на беразе зладзіць начлег?
Колькі ракетам патрэбна ляцець,
Каб іх прыпынілі навек?

*Адказы, мой сусед, вецер прынясе*
*Адказы ўсе вецер прынясе.*

Ці зможа гара доўга звацца гарой,
Пакуль не патоне ў вадзе?
Ці зможа пазбаўлены рабства народ
Стаць вольным дазволіць сабе?
Колькі ж ты зможаш круціць галавой,
Глядзець і не бачыць людзей?

*Адказы, мой сусед, вецер прынясе*
*Адказы ўсе вецер прынясе.*

Колькі ўгару трэба вочы ўзнімаць,
Каб убачыць праўду нябёс?
Колькі вушэй мусіць мець чалавек
Каб пачуць гук людскіх горкіх слёз?
Колькі ж павінна загінуць людзей,
Каб ты сцяміў, што смерцяў ўжо досыць?

*Адказы, мой сусед, вецер прынясе*
*Адказы ўсе вецер прынясе.*

### *ДЗЯЎЧЫНА З ПАЎНОЧНАЙ КРАІНЫ*

Калі будзеш ты ў паўночных краёх,
Дзе вятры на ўзбярэжжы збіваюць з ног,
Нагадай пра мяне той, што жыве між снягоў;
Мы аднойчы кахалі адно аднаго.

Калі сцюжа сняжынкі закружыць хутчэй,
Калі рэкі застынуць-заснуць пад ільдом,
Паглядзі, ці мае яна паліто,
Што схавала б яе ад калючых завей.

Паглядзі, ці даўгія яе валасы,
Расплялiся й на грудзі спадаюць з плячэй.
Прашу, паглядзі, ці даўгія яе валасы –
Такой я ўзгадаю яе найлягчэй.

Спадзяюся, й яна мяне помніць яшчэ.
Я нямала маліўся – мо разоў мільён –
У цямрэчы маіх грэшных начэй,
У святле святых маіх дзён.

Калі ж будзеш ты ў паўночных краёх,
Дзе вятры на ўзбярэжжы збіваюць з ног,
Нагадай пра мяне той, што жыве між снягоў –
Мы аднойчы кахалі адно аднаго.

## Барыс Грэбеншчыкоў

### *ДЗЕНЬ РАДАСЦІ*

Калі праца рук нашых
Будзе плённай для нас саміх;

Калі сем выйдуць вонкі,
Каб не бачыць, хто ўвойдзе да іх;
Калі белы конь
Сустрэне сяброўак сваіх –
Тады прыйдзе дзень Радасці.

Калі ядлаўцовая зорка
З'явіцца нам у вагні;
Калі тое, што абвешчана нам,
Прамовяць без слоў камяні;
Калі над чыстай вадою
Месяц пусціць свае прамяні –
Тады прыйдзе дзень Радасці.

Калі ў творах рук Ягоных
Мы пазнаем сябе саміх;
Калі сем пакінуць кола,
бо няма чаго хавацца:
Хутка восьмы ўвойдзе да іх;
Калі белы конь
Зразумее і прыме сяброўак сваіх –
Тады прыйдзе дзень Радасці.

* * *

І цяпер, калі няма чаго чакаць
У начныя маўклівыя дні;
Цёмная вада,
І полымя бясконцай зімы...
Гэта ж, Госпадзе, відушчыя бачаць –
І вось вочы разплюшчваем мы:
Глядзі:
Бог ёсць Святло,
І ў Ім няма цемры ані.
Бог ёсць Святло,
І ў Ім няма цемры ані.

## ДЛЯ МАЁЙ ЗОРКІ

Для маёй зоркі выпаў лёс
Свяціць дзе сонца дагарае.
Мы п'ем віно пад ліхтарамі –
Яна глытае горыч слёз.

Яна, гаротная, гарыць
Дзе быў агонь, дзе дом пустуе.
Ды толькі хлопчык пашкадуе:
"Вунь знічка падае ўгары!"

Для маёй зоркі выпаў лёс
Нястомна ззяць праз аблачыны,
Яна не ведае спачыну: яна
З вачыма, поўнымі нябёс.

Яна прысніць дзівосны сон
Пра дом, які мінула гора.
Але наяве ззяюць зоры
І п’юць гарбату з палыном.

## *ПАМЯЦІ РЫГОРА БАРАДУЛІНА*

***(паводле песні Ігара Талькова “Памяти Виктора Цоя”)***

Паэты не прыходзяць выпадкова,
Яны лятуць з нябёсаў на зямлю.
Жывуць у таямніцы невымоўнай,
У сэрцы захаваўшы чысціню.

Ӯваччу стаіўшы сум, ў сумоўі з Богам.
І душы – вешчуны Яго Святла –
У клопатах жыцця
Вяртаюць нас да Ӯсебыцця,
Што йдзем у цемры, збочыўшы да тла.

Яны прыходзяць споўніць запаветы –
І адыходзяць у Вышэйшы Свет,
Няўцямны, нетутэйшы ў “свеце гэтым” –
Да Сужыцця, дзе ладзіцца Сусвет.

Лякуюць словам душы ўсяго свету,
Калі ў царкве звіняць па іх званы.
Музыкі-гусляры і песняры-паэты
Сыходзяць, не дажыўшы да вясны.

Лясныя птушкі гнёзды ім звіваюць,
А краскі ў полі ім вянкі плятуць...
Ды скончыўшы ствараць,
Ніколі творцы не канаюць:
У вершапеснях ўвечненых жывуць.

Бог ведае: было наканавана
Й яму пайсці ў нязведаны прастор.
Пайшоў ад нас туды –
ў таемнасць нечакана –
Рыфмар вушацкі,
дзядзька наш
Рыгор.

## Ганна СТАНІСЛАВЕНКА, 1992 г.н., Мінск

### *ДЗЯДЗЬКУ РЫГОРУ*

Мілагучная мова
Бязлітасна зрывае
Тонкую скуру
Шнарамі пакрытага
Сумлення.
Душу акрыляе
Нечаканы рытм верша.

Адчайна прыняць я мушу
Мізэрнасць і недасканаласць
Маёй няматчынай мовы.

Але дзядзька Рыгор –
рупар Бога жывога,
Што кліча маліцца
І пацяшае нас
Гукамі міласцівай мовы.

* * *

Абсідыянавым стала
Сэрца яе.
Бліскучы і заманлівы
Цёмна-фіялетавы колер
Не мае болей глыбіні.
Гэта проста шкло.
Кранууся ён – разбілася яно.

Здалёк не бачныя
Дотыкаў на ім адбіткі.
І трэск не чутны быў
За лямантам другіх сардэц.
Але ж рух працягвае яна,
Каб знайсці
мэту жыцця.

* * *

Туга
Таўчэ, змінае, круціць
Цемра
Пужае, вусціць, паглынае
Мана
Ўзнікае ў сэрцы, блакуе словы

Смех
Стварае вобраз, хавае сум вачэй
Каханне
Без водгуку ламае мяне паволі
Любоў
Божая ахоўвае і будуе ў згодзе.

* * *

Пішу
Нібы
Крычу
Пішу
Кажу
Не сплю
Пішу
Маўчаць
Не можна
Пішу
Знайду
Адвагу?
Пішу
Адчай
Збяру
І выкіну з паперай.

## Анхела Эспіноса РУІС, 1993 г.н., Малага (Іспанія)

### *ГЕРНІКА*

Гэта было ў Мадрыдзе, а менавіта
У цэнтры мастацва каралевы Сафіі
(Які мясцовыя жыхары называюць “Сафіду” –
Націск на “у”).
Малы хлопчык напужаўся, калі ўбачыў
Велізарную карціну “Герніка” Пікасо
(Дарэчы, па-гішпанску чытаецца “Пікаса” –
Націск на першым “а”).
Малы спытаў маладую маму:
– Мама, што за карціна?
Мама падышла і зачытала:
– Называецца “Герніка”, даражэнькі. Падабаецца?
Хлопчык абурыўся і адказаў, ледзь стрымліваючы слёзы,
– Не! Брыдкая карціна, цёмная! Я баюся! Чаму яна такая?
Мама пацiснула плячыма,
– Не ведаю, Пікасо заўжды быў дзіўным, сонейка.
І яны пайшлі далей.

Насамрэч, Пікасо намаляваў гэтую карціну
Не каб упрыгожваць буржуазную гасцёўню,
А каб людзі не забывалі пра вайну,
Што ў яго, на шчасце ці на жаль,
Не выйшла.

### ЭРАС

Душа з душою займаюцца каханнем
Паміж зоркамі неба,
Там, дзе яшчэ ў нейкай форме
Існуе вечнасць.
Мае думкі пра цябе вадаспадам
Заваёўваюць маю галаву
Няма іншых рук, акрамя тваіх,
І веру толькі ў тваё імя – эрас.

### ДЛЯ МУЖЧЫНЫ (АНТЫВЕРШ)

Што я паэтка – тое ўсе знаюць,
Што ты мне імпануеш – пэўна, таксама,
А я сабе ламаю тут галоўку, бо
Для мужчыны пісаць верш – сапраўды складана!

Калі б ты быў жанчынаю (дзякуй Богу, што не),
Я магла б вечна апісваць тваю прыгажосць,
То бок, якія вусны поўныя, чырвоныя,
Які какетны носік ды глыбокія вочы,
А так, гэта гучыць трохі недарэчна.
Не тое, што ты брыдкі (ты прывабны мужчына),
Але, ведаеш, складана быць паэткаю,
Нават у нашым стагоддзі.
Карацей, ты мне дужа падабаешся.
Пайду я спаць.
Дабранач!

### ЛІНОР

Чаго табе яшчэ патрэбна,
Мая капрызная Лінор?
Твой муж кахае цябе верна,
Каханкаў маеш ці не сто!
Адзін табе збірае кветкі,
Як набліжаецца вясна,
Другі спявае, піша вершы,
А трэці сэрца табе даў.

Чаго чакаеш ты, гарэза?
Чаго чакаеш ты, Лінор?
Ты так хацела быць прынцэсай,
Цяпер не адчуваеш ног!

### *ІКАР*

Развітаўся Ікар з сонцам,
Да якога ляцеў занадта блізка,
Развітаўся з небам, хмарамі,
Развітаўся нават з жыццём,
Якое аддаў за хвіліну побач з Алімпам.
Ужо набліжаўся да мора, да гібелі,
І падумаў Ікар, які дакрануўся да сонца
Кончыкамі пальцаў,
«Калі б вецер быў добры, я б яшчэ раз узляцеў».

### *ІРОНІЯ*

Нават цяпер смяюся, пажынаючы
Жарты, якія сама я пасеяла,
Бо сарказм, хоць бывае жорсткім,
Заўжды быў мне даспадобы
(І я – жанчына прынцыпаў).
*[Смех у зале]*
Сяджу я ў пачатку лета
З віном на дваіх,
А ты, яшчэ ў лютай вясне,
Якая, як заўсёды, спазнілася,
Таксама, пэўна, абраў сваю атруту.
Жыццё далей ідзе,
Плыве рака, квітнее тубероза,
А зоркі ўсё ў тваіх руках
І далёка, ў мяне ў галаве.
А сумная старэйшая пара
Адпачывае ў гасцях у восені жыцця,
На адной канапе.
Разумеюць яны,
Што зоркі стагоддзі таму памерлі,
І ў іх, і ў мяне (ты слухаеш Black Sabbath)
Гучыць старая польская песня:
“Ni we dwoje, ni bez Ciebie żyć”.
*[Смех у зале]*

Іван Клімянкоў



…усё, што парушае ўсталяванае,
палохае, здаецца злачынствам,
д'ябальскім насланнём…

# Тунель

***Містэрыя***

*Ахвярам і катам камуністычнага рэжыму*

Дзейныя асобы:

РЫНАД – уладар, мужчына год за пяцьдзясят.
ТАНІРА – яго жонка.
ХАРНЭК – іх сын.
МАРЭЯ – мужны тварам, фанатычна адданы Вялікай ідэі і Харнэку.
ГІЁМА – галоўны жрэц.
КЕЙ – сын Харнэка.
СЛУГА.

## Дзея першая

Трывожная ноч. Чорнае неба. На заднім плане агні – зыркія, чырвоныя. Рухаюцца постаці вартавых. На пярэднім плане, на валунах сядзяць Харнэк і Марэя. Харнэк – задуменны, пануры, у кальчузе, сядзіць, абапершыся на дзяржальна мяча. Галава

паніклая, густыя валасы хваліста спадаюць на плечы. Марэя ў шлеме, старанна і засяроджана каменем вострыць меч, насвіствае ваяўнічую мелодыю. Кранае вялікім пальцам вастрыё мяча, задаволена і жорстка ўсміхаецца. Узняўшыся, робіць некалькі ўзмахаў і выпадаў мячом, кідае яго ў ножны.

МАРЭЯ (*нецярпліва*). Калі ўжо развіднее?
ХАРНЭК. Што?
МАРЭЯ. Хутчэй бы дзень.
ХАРНЭК. Хутка. Гадзіны праз тры.
МАРЭЯ. Тры гадзіны! Цэлая вечнасць. Чаму ночы перад бітвай заўсёды неймаверна доўгія?
ХАРНЭК. Як для каго...
МАРЭЯ. Для тых, хто прагне сечы, верыць у перамогу.
ХАРНЭК. Саманадзейнасць – вераломны паплечнік.
МАРЭЯ. Ніякай саманадзейнасці. Гіёма ў аблозе. Яму не вырвацца.
ХАРНЭК. Яго вoi пакляліся стаяць насмерць.
МАРЭЯ (*паціскае плячыма, здзекліва)*. Няхай клянуцца. Ім не ўратавацца.
ХАРНЭК (*з болем*). Палягуць дзясяткі тысяч.
МАРЭЯ. Палягуць... (*бязлітасна*). Іх загіне болей. Намнога болей.
ХАРНЭК (*асуджальна*). Гэта нашы браты, Марэя.
МАРЭЯ. І будуць нішчыць нас гэтак жа люта, што і мы іх. Вайна не ведае роднасці. У яе свае законы.
ХАРНЭК. Свае. Толькі розум адно, а сэрца – другое.
МАРЭЯ. Трэба забыць пра сэрца. Зараз яно што здраднік.
ХАРНЭК. Ты ўсяго толькі вой. Табе не трымаць адказ за кожнага забітага.
МАРЭЯ (*з абурэннем*). Трымаць адказ? Перад кім?
ХАРНЭК. Перад сваім сумленнем. Перад нашчадкамі.
МАРЭЯ. Нашчадкі! Яны вякамі будуць славіць тваё імя...
ХАРНЭК. Магчыма. Дасягнутая мэта засланяе сваю крыважэрнасць. Але сумленне?
МАРЭЯ. Выракайся яго. Як і ўсяго, што шкодзіць Вялікай Мэце..
ХАРНЭК (*узбуджана*). Цяжкае сумніва адольвае мяне.
МАРЭЯ. Сумніва?
ХАРНЭК. Толькі табе прызнаюся. Не можа мэта быць Вялікай, калі вымагае гэткія ахвяры.
МАРЭЯ (*з жахам адхінаецца*). Гэта адступніцтва, Харнэк!
ХАРНЭК. Магчыма. І ўсё ж...
МАРЭЯ. Веліч мэты заўсёды суразмерна ахвярам. Не мне казаць табе пра тое. Ты не маеш права на сумніва.
ХАРНЭК. Гэта толькі мой роздум... Не болей.
МАРЭЯ. Разважаць трэба было тады, калі кляўся маці пракласці тунэль праз Сінюю гару і вывесці народ у Зямлю Шчасліўцаў.
ХАРНЭК (*з горкім смуткам*). Тады я быў зусім дзіцём. Адкуль было ведаць, што стаіць за клятвай, што змушу брата паўстаць на брата, дзяцей на бацькоў? Нянавісць да Гіемы паліла мяне, мроі пра Зямлю Шчасліўцаў муцілі розум. А зараз...
МАРЭЯ (*насцярожана*). Што зараз?
ХАРНЭК. Няма ні гневу, ні нянавісці да Гіемы. Не, не прага ўлады рухае ім. Зусім не гэта...

МАРЭЯ. Што тады?

ХАРНЭК. Калі б ведаць... І душу ўжо не грэюць мроі пра Зямлю Шчасліўцаў. Забітыя і скалечаныя стаяць перад вачыма.

МАРЭЯ (*панура, апусціўшы вочы*). Не ты адзін нясеш гэты боль. Кожны з нас мусіць пераступаць праз сябе. У апошняй бітве адзін на адзін сышоўся з воем Гіёмы. Гэта быў самы цяжкі з паядынкаў, якія выпадалі мне. Не раз я лічыў сябе ўжо забітым. Але ў апошні момант усё ж адбіваў меч ворага. Нібыта нехта іншы рабіў гэта за мяне. І нібы хто іншы нанёс яму ракавы ўдар. Працяты мячом, ён ссунуўся з каня, шлем зваліўся з ягонай галавы. Я ўбачыў збялелы твар і пазнаў пляменніка Гіёмы, сябра майго маленства. Скінуўшы шлем, я ўкленчыў перад ім, прыўзняў ягоную галаву. Ён крывіўся ад болю, кроў цякла з рота, але ён ўсё намагаўся ўсміхнуцца. Вочы ягоныя былі незвычайна ясныя, свяціліся вялікай любоўю. “Добра, што я, а не ты”, – прашаптаў ён і заціх. Навечна. (*Пакутліва трасе галавой.*) І як мне жыць далей? (*Нейкі час маўчыць, схіліўшы галаву, потым рашуча ўздымае яе.*) Аднак, калі б усё паўтарылася, я б не ведаў літасці. Вялікая Мэта не церпіць шкадобы. І тое, што зведаў я, зведаў кожны наш вой.

ХАРНЭК. І ўсё ж бітвы не будзе. Гіёма – празарлівы палкаводзец, ведае, у што яна абыдзецца.

МАРЭЯ. Марныя спадзяванні

ХАРНЭК. Тады ён вар’ят.

МАРЭЯ. Як і кожны, хто зведаў смак улады. Дзеля яе яны ідуць на ўсё.

ХАРНЭК. Толькі не Гіёма. Дзіўна: некалі гэта быў самы палкі апантанец Вялікай Мэты. Ён першы, хто паведаў мне пра Зямлю Шчасліўцаў.

МАРЭЯ. Жыццё ўмее забаўляцца са сваіх дзяцей.

ХАРНЭК. Але каб гэтак... Я часта ўяўляю тыя шчаслівыя хвіліны. Нібы толькі што адбывалася тое. Нават зараз... (*Задуменна апускае галаву.*)

Павольна запальваецца святло. Пакой у замку. Маленькі Харнэк і Гіёма стаяць перад сталом, на якім – макет горада і прылеглай да яго мясцовасці.

ГІЁМА. Гэты горад заступае нам шлях у Зямлю Шчасліўцаў. Ты – палкаводзец. Якім будзе тваё рашэнне?

ХАРНЭК. Захапіць яго. Узяць штурмам.

ГІЁМА. Сцены горада высокія. Абаронцы мужныя, вопытныя. Многія раяць абысці горад і рухацца далей.

ХАРНЭК. Не, не. У горадзе шмат вояў. Яны нападуць ззаду. Абавязкова нападуць.

ГІЁМА. І што тады рабіць?

ХАРНЭК. Аблога! Дачакацца, пакуль у горадзе пачнецца голад. І ён здасца.

ГІЁМА. Якія галоўныя правілы аблогі?

ХАРНЭК. Цярпенне і пільнасць. Няспынна закідваць абложнікаў камянямі, гаручай смалой

ГІЁМА. А калі праз горад працякае рака?

ХАРНЭК. Неабходна пракапаць новае рэчышча, адвесці ваду. Калі рака працякае праз горад – у ім мала калодзежаў. Вады будзе не ставаць, а смага – страшней, чым голад.

ГІЁМА. Малайчына. Мінулы ўрок ты засвоіў выдатна. А сёння мы разгледзім...

Уваходзіць Рынад – высокі, шыракаплечы, з крыху пасівелай галавой, чарнабароды.

ХАРНЭК (*ускоквае, бяжыць да яго*). Татка!
РЫНАД (*падхоплівае яго, прыціскае да грудзей*). Сыне! Ну, расказвай, як ідзе навучанне?
ХАРНЭК. Гіёма сёння хваліў мяне. І заўсёды хваліць.
РЫНАД. Можаш ганарыцца. Гіёма вельмі патрабавальны. Заслужыць яго хвалу няпроста. (*Да Гіёмы.*) Яму ўжо шэсць год. Узрост, у якім вызначаецца характар...
ГІЁМА. Харнэк дасціпны і ўпарты. У яго цвёрдая воля і ясны розум. І галоўнае – чулая душа.
РЫНАД. Рады чуць. Ты ніколі не памыляўся ў людзях. У выпадку чаго – у мяне ёсць надзейны спадкаемца.
ГІЁМА. Будзем спадзявацца на лепшае.
РЫНАД. Гэта вайна, Гіёма.
ГІЁМА. Уратуй цябе Неба.

Рынад апускае Харнэкуа на падлогу, доўга ўзіраецца ў ягоны твар.

РЫНАД (*Харнэку*). Я іду на вайну. Неба пашле нам перамогу, і мы зоймем Зямлю Шчасліўцаў.
ХАРНЭК. Зямля Шчасліўцаў! Я так часта чую пра яе. Якая яна?
РЫНАД. Гіёма паведае. Ён не толькі галоўны жрэц і мой намеснік, але і самы адданы паплечнік у змаганні за Зямлю Шчасліўцаў.
ХАРНЭК. Я люблю Гіёму. Ён усё ведае і цікава пра ўсё гаворыць. У яго вельмі добрыя вочы.
РЫНАД. І гэткае ж добрае сэрца. Слухайся яго ва ўсім. (*Прытуляе яго да сябе.*) Беражы яго, Гіёма.
ГІЁМА. Не трывожся, Рынад.
РЫНАД. Бывай! (*Абдымаюцца.*)
ГІЁМА. Бывай! Вяртайся з перамогай.

Рынад выходзіць. Харнэк плача.

ГІЁМА. Што бачу! Ты плачаш? Мужчынам плакаць нельга. Запомні гэта..
ХАРНЭК. Я не хачу, каб татка ішоў на вайну. Там забіваюць.
ГІЁМА. Смерць абыходзіць абранцаў Неба. Ён верне нам Зямлю Шчасліўцаў.
ХАРНЭК. Мы некалі жылі там?
ГІЁМА. Нашыя далёкія-далёкія продкі. Некалі Воляй Неба яны былі перанесены ў Даліну Камянёў. (*Сядае на канапу, побач уладкоўвае Харнэка.*)
ХАРНЭК. Даліна Камянёў... Якая тужлівая назва! Мне бачыцца бязмежны прасцяг і на ім адны камяні. Вялікія і малыя, рудыя і шэрыя... Як гэта тужліва.
ГІЁМА. Усё так. Яна сапраўды скрозь была ўслана камянямі і прасціралася ад Чорнай гары да Сівога мора. Толькі падножжа гары пакрывалі лясы. Усё астатняе нагадвала каменную пустыню. Людзі збіралі камяні і сцягвалі іх да балоцістай паласы, што пранізвала Даліну ад гары да ўзбярэжжа мора.
ХАРНЭК. Навошта сцягвалі?

ГІЁМА. Даліна была невялікая, а людзей шмат. Ашчаджваўся кожны лапік. Збіраць і зносіць камяні было неймаверна цяжка. Усе працавалі з цямна да цямна. Нават старыя і дзеці. І толькі калі выпадаў снег, прыходзіў спачын. Зіма мінала хутка, затое кожны дзень лічыўся за свята. Людзі танчылі, спявалі, услаўлялі Неба за тое, што жывуць на такой дзівоснай зямлі. Але снег раставаў, і зноў даліна спрэс была пад камянямі. І ўсё пачыналася нанова. Аднак ніхто не наракаў на гэта. Кожны ведаў: за працу і цярпенне наперадзе чакае ўзнагарода – зімовыя святы. Так, дзіця маё, людзі любілі сваю Даліну, і кожны клапаціўся пра кожнага. Бо толькі гэтак можна было адолець наступ камянёў і выжыць. Але аднойчы здарылася незвычайнае...

У тую ноч на моры лютаваў шторм – жахлівы, як ніколі. Над далінай шалела бура, варочала камяні, ламала дрэвы. Пад раніцу непагадзь сціхла, хмары развеяліся. Мора таксама супакоілася. А на яго пясчаным беразе ляжала даўжэзнае тоўстае бервяно, за якое трымаўся непрытомны чалавек. Ён вельмі розніўся ад людзей Даліны: валасы меў не чорныя і жорсткія, а кучаравыя, мяккія, светла-жоўтага колеру. І твар ягоны быў не цёмна-смуглявы, а белы, вельмі прыгожы. Ніхто не спадзяваўся, што чалавек той акрыяе. Але ён выжыў, асвоіў мову Даліны і паведаў, што ён родам з Зямлі Шчасліўцаў. Калі перабрацца праз мора і няўхільна рухацца проста на Усход, то патрапіш туды абавязкова. Ніхто не верыў яму. Кожны ведаў: апроч Сівога мора, Чорнай гары і Даліны Камянёў на свеце няма нічога. І хіба можна ўявіць зямлю без камянёў, дзе ніколі не бывае зімы і дзе збіраюць па тры ўраджаі за год? І што людзі працуюць там зусім мала, больш спачываюць ды весяляцца, і ніхто не мае ні ў чым патрэбы? І што ніколі не бывае там варожасці і сварак? Дзесяць год пражыў той чалавек у Даліне і многаму навучыў яе жыхароў: здабываць з балотнай руды жалеза, вырабляць з яго прылады працы і зброю для палявання, прыдумаў лук, калёсы, паказаў, як з бёрнаў будавць дамы, плесці з раслін невады. Усе яго шанавалі і любілі. Толькі неўзабаве ён засумаваў па радзіме і пачаў будаваць вялікі карабель, каб пераплыць Сівое мора. Дванаццаць чалавек з Даліны дапамагалі яму. Калі работа была завершана, раніцай ён і дванаццаць ягоных паплечнікаў узышлі на карабель і паплылі на ўсход. Больш іх не бачылі. А жыццё ў Даліне вельмі змянілася.

ХАРНЭК. Стала лепшым?

ГІЁМА. Лягчэйшым. На колах камяні звозіліся хутка. Цягнулі іх коні, якіх падказаў прыручваць той чалавек. На лодках з ветразямі добра лавілася рыба. З лукаў удала палявалася на дзічыну. І не матыкамі, а сохамі ўзрыхлялася зямля. Апроч коней прыручалася шмат іншых жывёлаў. Таму ежы было ўволю. З халодных пячор і зямлянак усе перабраліся ў драўляныя дамы. Будаваць іх таксама навучыў ён.

ХАРНЭК. Як гэта добра. Пэўна, усе былі рады?

ГІЁМА. Напачатку. Але мінаў час, людзі багацелі, не стала патрэбы трымацца адно аднаго. Зямлю падзялілі. Неўзабаве ці не ўсе пачалі варагаваць між сабой, чаго ніколі не было дагэтуль.

ХАРНЭК. Варагаваць? Навошта? Праз што?

ГІЁМА. Няроўнасць, зайдрасць і прагнасць усяму прычына. Нехта быў больш рупны, дужэйшы, некаму дасталася лепшая зямля, некаму горшая. З'явіліся багатыя і бедныя. А разам з тым – крыўда і нянавісць. Сусед варагаваў з суседам, брат ішоў на брата, род на род. І гэтак стагоддзі. Людзі

знемагалі ад крыўды, войнаў і нянавісці. І пайшла пагалоска, што Даліна Камянёў выклятая Небам і што прарадзімай людзей Даліны з'яўляецца Зямля Шчасліўцаў. За нейкія правіны Неба пакарала іх продкаў і перанесла сюды. Але цяжкай працай і цярплівасцю нашчадкі выкупілі іх грахі і могуць вяртацца на Зямлю Абяцаную. Неба дало на тое дазвол і знак, прыслаўшы ў Даліну чалавека з Зямлі Шчасліўцаў.

ХАРНЭК. І ўсе паверылі ў тое?

ГІЁМА. На пачатку такіх было ўсяго некалькі. З іх пасміхаліся, як з хворых на розум. Між тым іхніх аднадумцаў усё большала. Тады пасміханні змяніліся на страх.

ХАРНЭК. На страх?

ГІЁМА. Усё, што парушае ўсталяванае, палохае, здаецца злачынствам, д'ябальскім насланнём.

ХАРНЭК. Але на тое была Воля Неба!

ГІЁМА. Неба ніколі адкрыта не гаворыць пра свае задумы і намеры.

ХАРНЭК.Чаму?

ГІЁМА. Чалавечы розум не ў стане адразу асэнсаваць іх. Яны выношваюцца ў свядомасці і душах, як дзіця ва ўлонні маці. І нараджаюцца гэтак жа пакутна. Часта мэта, альбо ідэя, дараваныя людзям Небам дзеля іх карысці, гады, а то і стагоддзі блукае ў пошуках душы, праз якую можна агучыцца, каб потым павесці за сабой тысячы і тысячы. Але гора тым, хто першымі выказваюць волю Неба. Іх высочваюць, кідаюць у вязніцы, катуюць і забіваюць.

ХАРНЭК. Як жорстка, несправядліва!

ГІЁМА. За ўсё трэба плаціць. Гэта непарушны закон Сусвету. За ласку Неба – таксама.

ХАРНЭК. І шмат хто пацярпеў за Зямлю Шчаліўцаў?

ГІЁМА. Вельмі. І невядома, колькі б пацярпела яшчэ, калі б Неба не падало новы знак.

ХАРНЭК. Які, Гіёма?

ГІЁМА. Нехта заўважыў, што паласа з камення, звезенага з палёў, нагадвае велізарную стралу, вастрыё якой скіравана прама на Усход. Гэта адкрыццё палічылі за строгі загад Неба неадкладна вяртацца на Радзіму. І кожным апанавала нястрымнае імкненне чым хутчэй пакінуць Даліну. Ужо ніхто не збіраў камення, не сеяў збожжа. Усе будавалі караблі. І адной раніцай, узняўшы ветразі, жыхары Даліны Камянёў паплылі на Усход. У Даліне не засталося нікога. Без жалю і смутку пазіралі людзі на апусцелую зямлю, на высокую вежу з чорных камянёў, узведзеную на беразе, як памяць аб перажытых там пакутах.

ХАРНЭК. І яны адолелі мора?

ГІЁМА. Не ўсе. Шмат патанула падчас штормаў. А тыя, што дабраліся да другога берага, знайшлі там урадлівыя землі, лясы, багатыя на звяроў, рэкі, поўныя рыбы. Людзі, што жылі за морам, былі ціхамірныя і добрыя. Яны гасцінна сустрэлі прышлых, але тыя ў хуткім часе прагналі іх з зямлі, якую цяпер лічылі сваёй. А хто ўпарціўся, таго забівалі. І самі доўга верылі, што жывуць на Зямлі Шчасліўцаў.

ХАРНЭК. Верылі? Хіба гэта была не яна?

ГІЁМА. На вялікі жаль – не. Бо неўзабаве зноў усчаліся войны, чаго не магло быць на Зямлі Шчасліўцаў. І зноў былі пакінуты абжытыя мясціны, каб перасяліцца на памежную зямлю, якая, пэўна ж, і была

нашай прарадзімай. Толькі тыя, хто жыў там, ужо ведалі, што і іх зганяць альбо знішчаць, і таму мужна баранілі свае дамы. Аднак немагчыма супрацьстаяць волі Неба.

ХАРНЭК (*сумна*). Але і гэта аказалася не яна?

ГІЁМА.Так, не яна. Усё было на гэтай зямлі, каб звацца Зямлёй Шчасліўцаў, аднак зноў звінелі мячы, лілася кроў, зноў здавалася, што памежная зямля тая, пра якую гаварыў пасланец Неба...

ХАРНЭК (*з горкім расчараваннем*). І зноў усё паўтарылася нанова?

ГІЁМА (*скрушна*). Безліч разоў. І доўжыцца стагоддзі. Кожны крок даваўся праз кроў і смерць, але мы няўхільна рухаліся ўперад, на Усход. Нішто не магло стрымаць нас – ні горы, ні акіяны. Безліч людзей загінула на шляху да Вялікай Мэты, да Зямлі Абяцанай.

ХАРНЭК. А можа яе і няма нідзе? Можа, той чалавек усё прыдумаў?

ГІЁМА. Выдумка доўга не жыве. Пасланне Неба неўміручае. Яно абавязова здзейсніцца. Праз дзясяткі стагоддзяў, але здзейсніцца. Сведчанне таму – нашая вера. Яна ніколі не слабела, толькі набірала моц. А зараз яна моцная, як ніколі. Бо Зямля Шчасліўцаў побач.

ХАРНЭК. А можа і гэта не яна, як і ўсе дагэтуль?

ГІЁМА. Яна, дзіця маё, усё супадае з тым, што казаў чалавек Неба. Ніколі там не бывае зімы, там збіраюць па тры ўраджаі штогод. І там ніколі не было міжусобных войнаў. Любоў і згода пануюць між тымі людзьмі. Спрадвеку яна так і завецца – Зямля Шчасліўцаў.

ХАРНЭК. І ніхто не хацеў яе захапіць?

ГІЁМА. Ніхто і ніколі. Усе ведалі: там жывуць бласлаўлёнцы Неба. Кожнага, хто замахнецца на іх, спасцігне жорсткая кара звыш.

ХАРНЭК. Але татка ідзе на іх вайной. Неба пакарае яго?

ГІЁМА. Не. Людзі, што жывуць там, сцераглі зямлю для нас. Па волі Неба.

ХАРНЭК. Тады чаму яны не саступяць яе нам?

ГІЁМА. Пра тое ведае толькі Неба. Будзем спадзявацца, што Яно падкажа ім гэта.

ХАРНЭК. І вайны не будзе?

ГІЁМА. Калі так – не. А калі і будзе, дык не доўгай. Тыя, хто ніколі не ваяваў, не здольныя супрацьстаяць загартаваным у няспынных бітвах воям.

Гасне святло. На пярэднім плане – Харнэк і Марэя.

ХАРНЭК. Але прадказанні Гіёмы не збыліся. Вайна была кровапралітнай і доўжылася не адзін год.

МАРЭЯ. Калі ўвесь народ уздымаецца на абарону Айчыны, нават жанчыны і дзеці, яго нельга перамагчы.

ХАРНЭК. І ўсё ж мы перамаглі. Нам дапамагала Неба.

МАРЭЯ. І тое, што вояў у нас было болей, чым усіх жыхароў Зямлі Шчасліўцаў. Мне часта бачыцца апошняя бітва. Іх заставалася зусім мала. Шэраг за шэрагам клаліся яны пад нашымі мячамі, але не адступалі. Ім не было куды адступаць, мы адціснулі іх да краю бездані. Яны стаялі плячо да пляча – воі, жанчыны, дзеці і старыя, усе, хто ацалеў у гэтай вайне. Ужо сцямнела, і Рынад загадаў прыпыніць бітву. Якіх дзвесце крокаў раздзялялі нашыя шэрагі ад іхніх. Густая цемра ахутвала зямлю. Раптам край бездані асвятліўся яркім полымем. Кожны, хто стаяў там, трымаў

запаленую паходню. Загучаў малітоўны спеў – велічны і журботны. Ён мацнеў і мацнеў. Мы ў здранцвенні слухалі яго, і душы нашыя поўніліся цяжкай самотай, прадчуваннем змрочнага, непазбежнага. Нечакана ўсе яны павярнуліся тварам да бездані і шэраг за шэрагам пачалі знікаць у ёй. Гэта было жудаснае і чароўнае відовішча, вогненны вадаспад. Хутка край бездані апусцеў. І толькі адзін стары – высокі, сівы, як лунь, з сівой да каленяў барадой – стаяў там і пільна глядзеў на Гіёму. То быў іхні галоўны святар. Ісамена. Ён рукой павабіў Гіёму да сябе. Твар старога ў святле паходні быў сінявата-белы, велічна-строгі. Выраз сумнага шкадавання ляжаў на ім. І гэтак жа скрушна гядзелі на нас ягоныя вочы, быццам не іхні народ загінуў увесь, да апошняга, а мы былі асуджаныя на немінучую пагібель. Гіёма падыйшоў. Стары пачаў нешта гаварыць яму. Што – ніхто не ведае дагэтуль. Мы толькі бачылі твар Гіёмы, скукожаны пакутай і гневам, пачулі ягоны выкрык: “Ты ілжэш, вар’ят!” У адказ той шкадобна паківаў галавой, ступіў назад. Над абрывам мільгануў і знік агеньчык паходні, і ўсё паглынула цемра.

Доўга нашыя шыхты стаялі нерухома, уражаныя бачаным. А пасля ўсімі авалодала нястрымная радасць і весялосць. Шмат дзён святкавалася перамога.

МАРЭЯ (*панура*). Але шчасце было нядоўгім. Неўзабаве зноў усчаліся міжусобныя войны, палілася кроў.

ХАРНЭК. Ізноў узнік сумніў, што гэта сапраўдная прарадзіма...

ХАРНЭК І пайшлі чуткі, што яна за Блакітнай гарой.

МАРЭЯ. Бо так яно і ёсць.

ХАРНЭК (*як не чуе*). І сумніў перарос у перакананасць.

МАРЭЯ. Гэта покліч прарадзімы і голас Неба.

ХАРНЭК. Тады Рынад загадаў пасылаць гаралазаў на другі бок гары. Але ніводзін з іх не вярнуўся.

МАРЭЯ. І не маглі вярнуцца. Гара неадольная.

ХАРНЭК. Гэта і навяло на думку прабіць праз яе тунель. Штодзень ішлі да Рынада пасланцы ад народа з такой прапановай

МАРЭЯ. І ён урэшце даў на тое згоду. Усе радаваліся і ўслаўлялі Рынада.

ХАРНЭК. Усе, апроч Гіёмы.

МАРЭЯ. Праз тое і ўсчаўся між імі разлад.

ХАРНЭК. Я быў пры тым...

Той жа пакой у замку. Рынад сядзіць у крэсле змрочны, задумёны. Харнэк малюе на мальберце Блакітную гару. Уваходзіць Гіёма.

ГІЁМА. Вітаю цябе, Рынад.

РЫНАД (*узнімаецца*). Вітаю цябе, Гіёма. Даўно не быў у мяне.

ГІЁМА. Я хварэў.

РЫНАД. І хвароба яшчэ не адступілася? Аднак я мусіў паклікаць цябе.

ГІЁМА. Значыць, на тое ёсць прычыны.

РЫНАД. Ёсць, Гіёма. Мы пасылалі шмат гаралазаў на той бок гары і ніводзін з іх не вярнуўся. Як думаеш – чаму?

ГІЁМА. Прычына адна – гара неадольная.

РЫНАД. Пэўна так. І пасылаць гаралазаў бессэнсоўна. Застаецца адно – абысці яе.

ГІЁМА. Гэта немагчыма. Сумежныя народы не дазволяць.

РЫНАД. Не дазволяць? Хіба яны не заступалі нам дарогу на Усход? І што з таго?

ГІЁМА. Нас вёў Лёс. Усе расступаліся, альбо цярпелі паразы. Наперад ведалі: наканаванае Небам непераможна. Аднак ніхто не дазволіць нам збочыць. Народы згуртуюцца супраць нас.

РЫНАД. Тады застаецца адно – прабіць праз гару тунель. Народ жыве гэтай задумай, прагне яе здзяйснення.

Гіёма маўчыць, апусціўшы вочы. Рынад доўга і пільна ўзіраецца ў яго.

РЫНАД. Ты вельмі змяніўся ў апошні час.

ГІЁМА. Прычынай таму хвароба.

РЫНАД. Я не пра тое, Гіёма.

ГІЁМА. Тады пра што, Рынад?

РЫНАД. Раней ты быў самым палкім маім аднадумцам і паплечнікам. Я верыў у цябе непахісна. Цяпер той веры няма.

ГІЁМА. Горка, калі так...

РЫНАД. І на тое ёсць падставы.

ГІЁМА. Якія, Рынад?

РЫНАД (*вагаецца, потым рашуча*). Ты адступнік, Гіёма.

ГІЁМА (*здрыгануўшыся*). Адступнік?

РЫНАД. Ты здрадзіў Вялікай Мэце. А значыць – і народу.

ГІЁМА (*з пакутай*). Здрадзіў народу? У чым?

РЫНАД. Зямля Шчасліўцаў за гарой – гэта неаспрэчна. Адолець ці абысці гару немагчыма. Адзінае выйсце – тунель А ты прылюдна называеш гэта згубным вар'яцтвам.

ГІЁМА. Яно напраўду так.

РЫНАД. Ты забыўся, што тунель – твая ідэя.

ГІЁМА. Я памыляўся, недаравальна памыляўся. Само Неба супраць тунеля.

РЫНАД. Неба супраць тунеля? Ты ўпэўнены?

ГІЁМА. Я чуў яго голас.

РЫНАД. Ведаю. "Нельга брацца за тунель, пакуль на вяршыні гары не растане снег". Твае словы?

ГІЁМА. Словы Неба. Аслушэнства прынясе шмат бедаў і ахвяр.

РЫНАД. Ахвяры... Хіба мала іх было да гэтага?

ГІЁМА. Тады гэта было непазбежна і неабходна. Цяпер кожны загінулы будзе на тваім сумленні.

РЫНАД. Але снег на вяршыні не растане ніколі.

ГІЁМА. Гэта ведае толькі Неба.

РЫНАД. Калі б гэту бяссэнсіцу нёс хтосьці іншы, я б жорстка пакараў яго. Як ашуканца і зламысніка. Ты не здольны крывіць душой. Я веру, што табе чуўся голас Неба, але гэта галюцынацыя, не болей. Я ўсё табе дарую. І малю: стань такім, як раней – палкім апантанцам Вялікай Мэты. Мне не стае цябе, Гіёма.

ГІЁМА. Яшчэ раз заклінаю слухацца Неба. Зямля, якая дасталася нам, цудоўная. Лепшай не бачылі ні мы, ні нашыя продкі.

РЫНАД. Ты адводзіш вочы, Гіёма, бо не зусім шчыры. Так, усё тут ёсць, каб жыць шчасліва. Але няма ладу і згоды. Руйнуюцца гарады і паселішчы, ліецца кроў, брат паўстае на брата.

ГІЁМА. Гэта вялікая бяда.

РЫНАД. Гэта не бяда – пакаранне. За тое, што забыліся пра нам наканаванае.

ГІЁМА (*нібы не чуе*). Няма ладу і згоды... Брат забівае брата. Але гэта нішто ў параўнанні з навалай, якая зрынецца на нас. Тунель асудзіць людзей на непасільную працу, пакуты і нястачу. Загінуць тысчы і тысячы .

РЫНАД. А колькі ўжо загінула? Хто падлічыць?

ГІЁМА. Так распарадзілася Неба.Цяпер жа...

РЫНАД (*гняўліва*). Ты пamуціўся розумам, Гіёма. Ты разлюбіў свой народ. Больш таго – узненавідзеў. Толькі марна завіхаешся. Нішто не спыніць мяне. І папярэджваю – не бунтуй людзей, не сей у іх душах знявер. І маё цярпенне мае мяжу.

ГІЁМА. Я зраблю ўсё, каб спыніць твае згубныя дзеі. У імя народа, дзеля яго ўратавання.

РЫНАД (*змрочна і сурова*). Ты сам вынес сабе прысуд. Заўтра ў поўдзень людзі збяруцца ля падножжа гары. Сотні тысяч. Ты ўбачыш радасць на іх тварах і шчасце ў іхніх вачах. Ты пачуеш звон майго сімвалічнага ўдару па гары. І адразу пакінеш краіну. Назаўсёды.

ГІЁМА (*схіляе галаву*). Твая воля, Рынад.

РЫНАД (*скрушна*). У мяне няма іншага выйсця. Не думаў, што ўсё так станецца. Не мог уявіць.

ГІЁМА. Я таксама. І гора маё няўцешнае. Дазволь ісці.

РЫНАД (*панура, адвярнуўшыся*). Ідзі.

Сонечны дзень. У глыбіні сцэны зіхаціць заснежаная вяршыня гары. Ля яе падножжа – мора людзей. Гучаць трубы, б'юць бубны. Гул галасоў, воклічы: "Быць тунелю! Слава Рынаду! Жыве Зямля Шчасліўцаў!" Каля самай гары з ломам у руках стаіць Рынад у святочным белым адзенні. Воддаль ад гары, на высокім камені стаіць Гіёма. Твар ягоны журботна-змірэнчы. Непадалёку, на другім камені – Таніра і Харнэк .

ГІЁМА. Брацці! Я прыйшоў развітацца з вамі. Развітацца назаўсёды.

ГАЛАСЫ. Развітацца? Назаўсёды? Ты пакідаеш нас? Чаму? Што здарылася?

ГІЁМА. Рынад загадаў мне пакінуць краіну.

ГАЛАСЫ. Не можа быць! Не верым. Вы нераздельныя! Скажы, Рынад.

РЫНАД. Гіёма кажа праўду.

ГАЛАСЫ. Чаму? За што? Што ўчыніў Гіёма?

РЫНАД. Спытайце ў Гіёма. Няхай сам паведае пра тое.

ГАЛАСЫ. Гавары, Гіёма. Слухаем цябе. Гавары!

ГІЁМА. Тунель нельга прабіваць. Гэта накліча непапраўную бяду на ўсіх нас, на кожнага.

ГАЛАСЫ (*здзіўленыя, абураныя*). Што? Ён супраць тунеля? Гэта здрада. Ён адступнік!

ГІЁМА. Я слухаюся голасу Неба. Праз мяне яно дае вам наказ: нельга брацца за тунель, пакуль на вяршыні гары не растане снег.

Чуваць гул абурэння, выкрыкі: "Што? Гэта здрада! Снег не растане ніколі. Ён – вораг! Вар'ят! Смерць Гіёму!"

ГІЁМА. Я не вар'ят і не вораг. Я перказваю волю Неба. Яно жахліва пакарае аслушэнцаў. Заклінаю Небам – адумайцеся!

ГАЛАСЫ. Ашуканец! Хлус! Праклён табе! Прэч яго! Смерць Гёму! Смерць!

РЫНАД. Ты чуеш, Гёма? Не я – народ праганяе цябе. Гэта кара за адступніцтва.

Уздымае лом, каб зрабіць удар па гары.

ГІЁМА. Спыніся, Рынад! Неба не даруе.

РЫНАД. Тунелю быць!

Б'е ломам па гары – раз, другі. Гёма высока ўздымае рукі. Зверху чуецца глухі, злавесны гул. Ён нарастае і мацнее з кожным імгненнем. Дрыжыць зямля. Каменная лавіна нясецца па схіле гары. На нейкі час усё паглынае цемра. У ёй чуецца гул лавіны, крыкі, енк. Зноў святлее. Свеціць ярка сонца. Падножжа гары засыпана камянямі. Камень, на якім стаіць Гёма, ледзь віднеецца з завала. Чуюцца стогны параненых, роспачныя ўскрыкі, рыданні. Да Гіемы ідуць і паўзуць людзі. Кленчаць перад ім.

ГАЛАСЫ. Святы! Правідца! Даруй нам! Вядзі нас! Уладар над намі!

ГІЁМА (*доўга маўчыць, сурова азірае ўкленчаных*). Не ў мяне прасіце літасці, у Неба. Я папярэджваў.

ГАЛАСЫ. Рынад вінаваты. Ён ачмурыў нас. Увёў у зман. Смерць Рынаду!

ГІЁМА. Неба само пакарала яго. Як і тысячы аслушэнцаў.

ГАЛАСЫ. Засталіся ягоны сын і жонка. Забіць Таніру! Забіць Харнэка! Ахвяра Небу! За грахі!

ГІЁМА. Неба не прыме яе. На іх няма віны. Няправедны суд – недаравальны грэх. І згодна закону Харнэк зараз – наш уладар.

ГАЛАСЫ. Не трэба Харнэка! Уладар Гёма! Мы молім! (*Працягваюць да яго рукі.*) Уладар! Уладар!

ХАРНЭК (*вырываецца з рук маці*). Я – ваш уладар! Я – адзіны, хто мае быць ім.

ТАНІРА (*туліць яго да сябе*). Маўчы. Яны выракліся нас. Яны прагнуць нашай смерці.

ХАРНЭК. Гёма ўразуміць іх, адгаворыць. Яны адумаюцца.

ТАНТРА (*узводзіць вочы да неба*). Неба! Заступіся за сына майго!

Гёма на вачах мяняецца. Заўсёды крыху гарбаваты, ён выпрамляецца. Змірэнчы, уседаравальны выраз твару мяняецца на сурова-ўладарны, жорсткі. Позірк робіцца халодным, пранізлівым. Аднак у голасе чуецца пакорлівасць. Ён прыўзнімае руку даланёю ўперад, просіць цішыні. Усе змаўкаюць.

ГІЁМА. Брацці! Дзеці мае! Маё прызначэнне і мой свяшчэнны абавязак, дадзеныя мне разам з жыццём – беззаветнае служэнне Небу. Я павінен цурацца ўсяго, што замінае гэтаму. Нават дробная доля ўскладзенай на сябе ўлады не дасць быць спаўна адданым служэнню Небу. Уладарыць народам – цяжка і адказна. Мой розум і сэрца працівяцца гэтаму. Але я мушу скарыцца вашаму жаданню. Дзеля вас, дзеля вашага ўратавання.

ХАРНЭК (*крычыць*). Здраднік! Ашуканец!

ГІЁМА (*нібы не чуе*). Але вы зараз прынясеце мне непарушную клятву. На векі вякоў.

ГАЛАСЫ. Якую, Гёма? Гавары! Мы згодныя. Чым клясціся? У чым?

ГІЁМА. У тым, што ніхто ніколі не ўзгадае пра тунель. Ніводным словам.

ГАЛАСЫ. Клянемся, Гёма! Клянемся! Уладар намі. Святы! Святы!

ГІЁМА. Небам кляніцеся. Дзецьмі.
ГАЛАСЫ. Клянемся Небам! Дзецьмі! Бацькам! Нашчадкамі нашчадкаў!
ГІЁМА. Клятвапарушнікам – лютая смерць.
ГАЛАСЫ. Смерць! Смерць клятвапарушнікам. Лютая! Ганебная смерць!
ГІЁМА. Таніру і Харнэка затачыць у вежу. Навечна.
ГАЛАСЫ. У вежу! Затачыць Навечна! Смерць ім! Смерць!
ГІЁМА. А цяпер памолімся Небу, каб паслала нам мір і згоду, любоў і шанаванне.
ГАЛАСЫ. Мір і згоду! Любоў і шанаванне! (*Моляцца.*)

Пакой у вежы – вялікі, прасторны. За сталом Харнэк і Таніра.

ТАНІРА Ужо тры гады, як мы ў няволі.
ХАРНЭК. Тры гады, як загінуў бацька.
ТАНІРА. Тры гады ўладарыць Гіёма.
ХАРНЭК. Тысяча дзевяноста пяць дзён і начэй.
ТАНІРА Ты лічыш дні?
ХАРНЭК. Нават хвіліны. І кожная – даўжэй за год. Я задыхаюся тут. Няўжо сапраўды мы не выйдзем адсюль ніколі? Не ўбачым дрэў, травы, не пачуем спеву птушак? Часам мне здаецца, што нічога гэтага няма. Нічога, апроч сценаў. І так будзе заўсёды. Да скону.
ТАНІРА. Неба літасцівае...
ХАРНЭК. Толькі не да нас. Яно дачасна забрала ў мяне бацьку, у цябе мужа. Яно дазволіла Гіёму затачыць нас у камяніцу, захапіць трон, які належыць аднаму мне.
ТАНІРА. Не нам судзіць Неба. Неспазнаныя яго шляхі і намеры. Пакуты нашыя – кара за грахі
ХАРНЭК. За грахі... У чым мы правініліся?
ТАНІРА. Няма людзей без грэху.
ХАРНЭК. Апроч Гіёмы?
ТАНІРА. Усяму свой час.
ХАРНЭК. Хочацца верыць. І ўсё ж, чаму ён так жорстка абышоўся з намі?
ТАНІРА. Ты несправядлівы. Ён ўратаваў нас ад звар’яцелага натоўпу, ад жудаснай смерці.
ХАРНЭК. А гібець тут – хіба жыццё? Лепш смерць.
ТАНІРА. Не кажы так. Нельга губляць надзею. Адчай – найцяжэйшы грэх. Спадзявайся на Неба – усё ў яго руках.
ХАРНЭК. Усё ў руках Гіёмы. Ён згноіць нас у гэтых мурах. Чаму ён не адпусціць нас, не выгане з краіны?
ТАНІРА. Гіёма разумны і прадбачлівы. Ён ведае: рана ці позна ў яго з’явяцца супраціўцы. І ты будзеш іхнім сцягам. Яны адшукаюць цябе, дзе б ты ні быў.
ХАРНЭК. Ён мог без шкоды для сябе пазбавіцца нас. Аддаць на расправу ашалеламу натоўпу.
ТАНІРА. Мог.
ХАРНЭК. І ніхто б не папракнуў яго ў самазванстве.
ТАНІРА. Ніхто.
ХАРНЭК. Чаму ён не скарыстаў такі шанец?
ТАНІРА. Я шмат разважаю пра гэта. І не знайшла адказу.

Уваходзіць наглядчык, узростам гадоў за дваццаць. Моўчкі ставіць на стол стравы, віно і выходзіць. Харнэк з нянавісцю глядзіць яму ўслед.

ХАРНЭК. За тры гады – ніводнай душы, апроч гэтай пачвары. Я не ведаю нават: у яго адрэзаны язык, альбо забаронена гаварыць?

ТАНІРА. Магчыма і тое, і другое.

ХАРНЭК. У яго няма сэрца. Ён нібы нас не бачыць. Кожны раз, калі ён заходзіць, мне хочацца накінуцца на яго, задушыць.

ТАНІРА. За што? Ён усяго толькі служка.

ХАРНЭК. Ведаю. Але нават у прывіда больш чалавека, чым у яго.

ТАНІРА. Умей стрымліваць сябе. Гэта першае, што неабходна ўладару. Як і розум, і здароўе.

ХАРНЭК. О, я дужы. Ты ж бачыш – штодзень я раблю практыкаванні. Я магу гадзіну хадзіць на руках, рабіць кульбіты ў паветры. А як я фехтую! Глядзі. (*Бярэ дзіцячы меч. Робіць маланкавыя ўзмахі, выпады.*)

ТАНІРА. Так, сыне. Ты дужэеш дзень у дзень. Гэта добра. Сіла спатрэбіцца. Гіёма старэе, і я не веру, што Неба пакінула цябе. Будзем жыць і спадзявацца. Ты прывядзеш народ у Зямлю Шчасліўцаў.

ХАРНЭК. Гэта будзе лепшым помнікам бацьку.

ТАНІРА. І ўсім, хто загінуў у імя Вялікай Мэты. Памолімся, каб здзейснілася нашая мара. *(Кленчаць, моляцца.)*

Прайшло пяць год. Хворая Таніра ляжыць у ложку. Яна памірае. Харнэк стаіць перад ёй на каленях, прыціскае яе руку да вуснаў.

ТАНІРА. Вось і скончыліся мае пакуты, сынок. Хутка я буду з Рынадам.

ХАРНЭК. Ты ачуняеш мама. Табе нездаровіцца і толькі.

ТАНІРА. Не, сынок. Я адчуваю, як стыне кроў, ледзянеюць ногі. Смерць не палохае. Яна з'яднае мяне з Рындам. За цябе баліць душа... Застанешся адзін. Цяжка будзе табе...

ХАРНЭК. Цяжка? Але чаму? Чаму так думаеш, мама?

ТАНІРА Людзі твайго складу абраныя на вялікія справы. А значыць – і на вялікія пакуты. Ты ўжо зведаў нянавісць людзей, дзеля якіх твой бацька і ты гатовыя былі на ўсё.

ХАРНЭК. Я і зараз гатовы на ўсё дзеля свайго народа.

ТАНІРА. Ведаю.

ХАРНЭК. Я адолею нягоды. Я забудуся на крыўду.

ТАНІРА. Не толькі на крыўду. Трэба забыцца і пра сябе. Вялікая Мэта павінна быць для цябе ўсім, вышэй за ўсё.

ХАРНЭК. Я праб'ю тунель. О, калі б можна было вырвацца з гэтых муроў!..

ТАНІРА. Ты вырвешся. Вялікая Мэта тоіць у сабе несакрушальную моц. Калі Мэце нехта патрэбны, яна зруйнуе ўсе перашкоды.

ХАРНЭК. І першае – адпомшчу Гіёме. За бацьку, за цябе.

ТАНІРА. Не трэба помсты. Памятай – галоўнае тунель. Я пераканана: Гіёма шчыра верыць у карысць таго, што чыніць.

ХАРНЭК. За восемь год ён ні разу не наведаў нас.

ТАНІРА. Пэўна, у яго ёсць на тое свае прычыны.

ХАРНЭК. Адна прычына – самазванцу сорамна глядзець у вочы ўладарам ад Неба. Сустрэцца з намі – лішні раз напомніць сабе, хто ён.

ТАНІРА. Гіёма абыходзіцца з намі, як і належыць вязням нашага звання. Нам падаюць лепшыя стравы, пакоі нашы прыбраныя, утульныя.

ХАРНЭК. Велікадушнасць к*а*та. Не, я ніколі не дарую яму, што ты паміраеш у затачэнні.

ТАНІРА. Я ведаю цябе, тваю душу. Яна не здольная на злое. Таму не стану прасіць цябе быць міласэрным, калі настане ТВОЙ ЧАС. Думай пра адно: як правесці людзей у Зямлю Шчасліўцаў.

ХАРНЭК. Я зраблю гэта. Клянуся!

ТАНІРА. Блаславаляю цябе на вялікі подзвіг. Помні запавет. Не адступіся... Я бачу Рынада... Ён кліча мяне... Рынад!

(*Памірае.*)

ХАРНЭК. Мама! Не пакідай мяне! (*Схіляе галаву над яе целам, заходзіцца ў няўцешным рыданні.*)

Уваходзіць Гіёма. У ягоных вачах слёзы. Доўга моўчкі і нерухома стаіць перад ложкам, не адрывае позірку ад твару памерлай. Кладзе руку на плячо Хрнэка.

ГІЁМА. Я падзяляю тваё гора, Харнэк. Ведай – яно і маё.

ХАРНЭК (*узнімае галаву, рэзка скідае з пляча ягоную руку*). Гіёма?

ГІЁМА. Я прыйшоў, каб быць побач у горкую для цябе часіну.

ХАРНЭК. Што? Твой здзек не мае меры. Што табе трэба ад мяне?

ГІЁМА. Я ўжо казаў. Павер, гэта шчыра, ад сэрца.

ХАРНЭК. У цябе няма сэрца. Праз цябе яна памерла ў няволі. (*Уражаны, утаропіўся на Гіёму.*) Я ведаю, чаму ты зараз тут. Прыйшоў парадавацца, што памерла жонка сапраўднага ўладара. Цяпер для цябе ўсё прасцей. Застаецца знішчыць яе сына, і ты будзеш заспакоены. Ніхто не папракне цябе ў самазванстве, не будзе патрабаваць узвесці на трон законнага ўладара. Як ты ўчынеш гэта ліхадзейства? Падашлеш забойцаў? Падсыплеш атруты?

ГІЁМА. Я не крывадушнічаю, Харнэк. Гора маё непамернае. Я любіў Рынада, як брата, і бязмежна паважаў Таніру – найгоднейшую з жанчын.

ХАРНЭК. І гэта не стала замінай, каб кінуць нас у вязніцу. І ні разу за восем год не наведаць яе, хаця б дзеля таго, каб павініцца ў сваёй падлюжнасці. Альбо сказаць жывой тое, што гаворыш мёртвай. І паведаць – у чым нашая віна.

ГІЁМА. Вашай віны няма, але ёсць Лёс. Мы яго закладнікі, ахвяры і пакорлівыя служкі. Я не мог прыйсці да вас, бо не меў мужнасці глядзець вам у вочы.

ХАРНЭК. Ты гаворыш так, нібыта ў цябе яшчэ ёсць сумленне.

ГІЁМА. Ёсць, Харнэк. Але я ўсяго толькі сляпы выканаўца волі Лёсу. І яшчэ – з гэтай хвіліны ты вольны.

ХАРНЭК (*бязмерна ўражаны*). Вольны?

ГІЁМА. Больш за тое – зоймеш належнае табе месца ўладара.

ХАРНЭК. Уладара?

ГІЁМА. Пры адной умове – ты ніколі не падыдзеш да Сіняй гары, ніколі не згадаеш пра тунель. Пакляніся ў тым перад целам сваёй маці.

ХАРНЭК (*са змрочнай саркастычнасцю*). Ты спазніўся, Гіёма. Я ўжо даў ёй клятву пракласці яго. Хіба смерць і няволя могуць спыніць мяне...

ГІЁМА (*у глыбокім адчаі*). Здарылася тое, чаго я баяўся болей за ўсё. О, Лёс, які ты жорсткі! Бывай, Харнэк! Ты ніколі не выйдзеш адсюль.

Але ведай, я люблю цябе як сына. І кожны дзень буду маліцца за цябе і плакаць па табе. Як маліўся і плакаў дагэтуль.

Выходзіць зняможаны, схіліўшы галаву.

Прайшло тры гады. Харнэк стаіць перад партрэтам маці. У ягоных руках нож.

ХАРНЭК. Тры гады, як ты пакінула мяне. Сем гадоў жахлівай адзіноты. Гіёма не дазволіў мне быць на тваім пахаванні. Не дазваляе наведаць тваю магілу. Мне ніколі не пабачыць яе, ніколі не вырвацца з камяніцы. Надзея згасае, мярцвее душа. Адзінае выйсце – смерць. Яна супакоіць душу, суніме яе боль. (*Прыкладвае вастрыё нажа да грудзей.*)

Уваходзіць ахоўнік, моўчкі стаіць, слухае.

Але тунель... Мая клятва... Я не магу памерці. Я абяцаў. (*Нож падае на падлогу.*) Але і жыць невыносна... Што мне рабіць? Навучы, падкажы, мама.

МАРЭЯ. Прабіваць тунель. (*Харнэк уздрыгвае, пільна глядзіць на партрэт, потым азіраецца, заўважае ахоўніка.*)

ХАРНЭК (*недаверліва*). Ты сказаў гэта?

МАРЭЯ. Я

ХАРНЭК. Ты здольны гаварыць? Я думаў, ты нямы.

МАРЭЯ. Тунель будзе прабіты. Ты споўніш наканаванае Небам. Стрымаеш клятву.

ХАРНЭК (*збянтэжана*). Хто ты?

МАРЭЯ. Твой аднадумец і адданы слуга.

ХАРНЭК. У мяне ёсць аднадумцы?

МАРЭЯ. Іх шмат. І нашыя шыхты шчыльнеюць штодня.

ХАРНЭК. А забарона Гіёмы? Гнеў Неба?

МАРЭЯ. Думаць не забароніш. І гневу Неба не было. Быў звычайны землятрус, супадзенне. Гіёма ўдала скарыстаў гэта. Дзеля таго, каб стаць уладаром, кінуць вас у вязніцу..

ХАРНЭК. Але ён прапаноўваў мне ўладу, калі адмоўлюся прабіваць тунель.

МАРЭЯ. Ён ведаў наперад, што ты не адмовішся. І тым самым умацаваў сваё ўладарства. Ідзем.

ХАРНЭК. Куды?

МАРЭЯ. На волю.

ХАРНЭК. А варта?

МАРЭЯ. Вартавыя спяць. Спяшайся, уладар.

ХАРНЭК. Я не ўладар табе. Цяпер мы браты.

МАРЭЯ. Найвялікшы гонар для мяне. За варотамі нас чакаюць коні і адданыя табе людзі. Напачатку мы будзем хавацца ў лясах. Прыдзе час, і нас будзе цэлае войска.

ХАРНЭК. О, калі б так!

МАРЭЯ. Не трэба сумніва, Харнэк.

ХАРНЭК. У мяне яго ўжо няма. Мы пераможам. Ніхто не ўратуе Гіёму. (*Паварочваецца да партрэта маці.*) Збываюцца твае прадказанні...

МАРЭЯ. Трэба спяшацца. Хутка змена варты.

ХАРНЭК. Так, трэба спяшацца. (*Да партрэта маці.*) Бывай, мама. (*Да

*Марэі.*) Ідзем. Выходзяць. Нейкі час пакой пустуе. Потым у расчыненыя дзверы ўваходзіць Гіёма.

ГІЁМА (*разгублена*). Нікога. І варта спіць. А дзе Марэя? І ён?! (*Яшчэ раз хутка азіраецца, роспачна ўздымае рукі.*) О, неба! Няўжо на тое воля Твая?

Стаіць у здранцвенні з узнятымі рукамі. Святло паволі патухае, зноў на пярэднім плане Харнэк і Марэя.

МАРЭЯ. Ты ўсё ўспомніў, Харнэк?

ХАРНЭК. Усё, Марэя. Я не маю права на сумнівы і шкадобу.

ХАРНЭК. Нарэшце світае. Які шчаслівы дзень наперадзе.

ХАРНЭК. І жудасны. Колькі пральецца крыві, паляжа людзей. Прыняць бітву для Гіёмы – згуба. Ніякай надзеі. Яны прыціснутыя да гары, іх мала...

МАРЭЯ. Ты памыляешся. У яго ёсць шанец.

ХАРНЭК. Які?

МАРЭЯ. Забіць цябе. Тваю смерць ён скарыстае як ЗНАК і ВОЛЮ НЕБА. І людзі зноў пяройдуць на яго бок.

ХАРНЭК. У бітве над кожным кружыць груган смерці.

МАРЭЯ. Твой абавязак застацца жывым. Туды, дзе ты, Гіёма кіне лепшыя харугвы. Кожная страла будзе цэліць у цябе, кожная дзіда будзе шукаць твайго цела.

ХАРНЭК. Што ты прапануеш?

МАРЭЯ. Не быць у першых шэрагах. Тваё месца на кургане. Адтуль усё відаць, адтуль зручна кіраваць бітвай.

ХАРНЭК. І трапіць у шэраг баязліўцаў?

МАРЭЯ. Усім вядома твая адвага. Але зараз ты не маеш права на рызыку. Галоўнае, каб перад бітвай воі ўбачылі ранейшага ўладара – рашучага і непахіснага. Твая вера і рашучасць перальецца ў іх сэрцы.

ХАРНЭК. Так і будзе. Падавай сігнал рыхтавацца да бітвы. Неба, памажы нам!.. (*Глядзіць на пунсовы дыск сонца, які выплывае з-за небасхілу.*) Сонца... Якое чырвонае. Быццам набрыняла крывёй. Не, не – крыві не будзе. Гіёма адумаецца. Ён чулы, разумны, не павядзе людзей на непазбежную пагібель, на бяссэнсавае знішчэнне. (*Уздымае рукі.*) Неба! Праясні яго розум.

Срэбна і пагрозліва заліваецца труба.

## Дзея другая

Харнэк, скрыжаваўшы рукі, панура ходзіць каля валуноў, на якіх ноччу сядзеў з Марэем. Твар напружаны, змрочны. Марэя і некалькі вояў прыводзяць Гіёму. Харнэк апускае рукі са сцятымі кулакамі, доўга, пранізліва ўзіраецца ў твар Гіёмы.

ХАРНЭК. Сорак тысяч забітых. І ты – іх забойца. Як знясеш гэта, Гіёма?

ГІЁМА. Як зносіў сотні тысяч палеглых у гэтай вайне.

ХАРНЭК. Якую распачаў я? Ты гэта хочаш сказаць?

ГІЁМА. Тут больш маёй віны.

ХАРНЭК. Шкадуеш, што ў свой час не прыбраў мяне?

ГІЁМА. Усё адбываецца, як адбываецца...

ХАРНЭК. Ты ўзносішся над самім сабой. Свае злачынствы спрабуеш зваліць на Лёс?

ГІЁМА (*адмоўна круціць галавой*). Злачынстваў не было. Быў толькі Лёс.

ХАРНЭК. Я лічыў цябе мужным і высакародным, Гіёма. І мудрым. Горка, што гэтак памыляўся. Лёс прымусіў цябе кінуць нас з маці ў вязніцу, весці вайну супраць Небам прызначанага ўладара. А сёння па яго волі ты паслаў на непазбежную і бессэнсоўную смерць дзясяткі тысяч сваіх суайчыннікаў.

ГІЁМА. Мне цяжка тое гаварыць, але яны гінулі ад рук тваіх вояў. Як і твае ад іхніх. Мы абодва вартыя жалю. Неадольныя сілы здзяйсняюць над намі і праз нас свае задумы.

ХАРНЭК. Зайдросная выкрутлівасць. На цябе непадобна. Хаця, на што не пойдзеш, каб пазбегнуць кары.

ГІЁМА. Я пакараны ўжо. Ніякае іншае пакаранне мяне не страшыць. Няхай міне цябе мая доля.

ХАРНЭК. Ты хочаш расчуліць, альбо запалохаць мяне?

ГІЁМА. Я да ўсяго гатовы. Што можна ў мяне адняць? Толькі жыццё. Яно для мяне – даўно пакута. Смерць суніме боль душы, даруе ёй спакой.

ХАРНЭК. Смерць – мізэрная плата за твае злачынствы. Ты будзеш жыць. Жыць у вежы, дзе трымаў мяне і маці. Ты будзеш чуць, як прабіваецца тунель. Кожны адваяваны ў Сіняй гары крок будзе дакорам твайму сумленню. Калі яно яшчэ засталося ў цябе.

ГІЁМА. Заклінаю – адумайся! Ты ідзеш супраць Неба.

ХАРНЭК. Не прыкрывайся Небам. Яго наказ – шукаць Зямлю Шчасліўцаў. Спыніцца, калі яна так блізка?

ГІЁМА. Ты шчаслівы, Харнэк. Няхай Неба доўжыць гэтае шчасце. Я стары, кожны дзень можа стаць маім апошнім. Калі надарыцца такое, ведай: даражэй за цябе ў мяне няма нічога на гэтым свеце.

ХАРНЭК. Дарэмна непакоішся, Гіёма. Ты ні ў чым не будзеш мець нястачы. Лепшыя лекары будуць клапаціцца пра тваё здароўе. Дзеля таго, каб ты ўбачыў, як мы ступім на Зямлю Шчасліўцаў і спаўна ўсвядоміў жахлівасць сваіх злачынстваў.

Пакой у палацы. Харнэк сядзіць у крэсле, стомлены, пасівелы. Але твар яго свеціцца па-маладому, у вачах рашучасць. Уваходзіць Марэя.

МАРЭЯ. Яшчэ адзін крок адабраны ў гары.

ХАРНЭК. Вельмі добра. Сёння асаблівы дзень, Марэя. Дзве тысячы крокаў. Гэта палова шляху.

МАРЭЯ. Яшчэ пяць год, і мы адолеем гару. Пяць год цяжкай небяспечнай працы.

ХАРНЭК. Так, небяспечнай. Колькі людзей загінула за гэты час.

МАРЭЯ (*праз сілу, панура*). Тысячы тысяч. (*Твар яго праясняецца, гаворка робіцца ўзнёслай.*) Але ніколі народ наш не быў такім шчаслівым. Ад дзіцяці да старога – ўсе перапоўнены шчасцем. Ніхто не наракае на цяжкасці і ахвяры. Натхнёнасць і ўзнёсласць пануюць у душах. І ў кожным доме на сцяне малюнак з выявай Зямлі Шчасліўцаў.

ХАРНЭК. Не ведаў гэтага. Хто намаляваў яе?

МАРЭЯ. Малююць усе. І кожны па-свойму.

ХАРНЭК (*летуценна ўсміхаецца*). Ты памыляешся, Марэя. Мы ступім на Зямлю Шчасліўцаў раней, чым праз пяць гадоў. Нашмат раней. Першыя крокі заўсёды найцяжэйшыя. Зараз у нас ёсць вопыт, ёсць новыя

прылады. Гэта паскорыць работу. Але самае галоўнае – блізкасць мэты. Яна прыцягвае, як магніт. І чым танчэй будзе сцяна, што аддзяляе нас ад Зямлі Шчасліўцаў, тым мацней будзе прыцяжэнне. Хіба не заўважаеш, як з кожным днём мацнеюць удары праходчыкаў? Паглядзі на іх постаці: яны проста ўтаропленыя ўперад. І ўжо не крок праходзяць яны за дзень, а ледзь не паўтара. Тры гады – і мы мы адолеем гару. І я штодзень малю Неба, каб Гіёма дажыў да таго. Тады ў яго не будзе крывадушнага спасылання на Неба, праз якое ён марыў мяне і маці ў няволі. Я нічога яму не скажу. Толькі пагляджу ў вочы і адпушчу. На суд уласнаму сумленню. Як ён там?

МАРЭЯ. За ім патрэбна сачыць і сачыць. Ён не хавае надзеі ўцячы. Абяцае пасаду намесніка таму, хто ў тым дапаможа.Калі захопіць уладу...

ХАРНЭК. Яго намаганні зусім не мройныя. З тысячы, з дзесяці тысяч нехта можа спакусіцца. Будзь пільным, Марэя.

МАРЭЯ. Пра тое не турбуйся. Ахова надзейная. Кожны тыдзень вартавых мяняюць на новых.

ХАРНЭК. Ты правільна робіш. Сумніва жыве побач з верай. У кожнай душы. Яно, як пошасць, імгненна перакінецца на іншых. Гіёма гэта добра ведае і спрабуе скарыстаць.

МАРЭЯ. Яму не ўдасца.

ХАРНЭК. Веру. Дарэчы, заўтра я выпраўляюся на паляванне. І як заўсёды, перадаю ўладу табе.

МАРЭЯ. І як заўсёды, ідзеш паляваць адзін?

ХАРНЭК. Адзінота лякуе душы ўладарам. Дазваляе хоць на час пазбавіцца цяжару ўлады.

МАРЭЯ. Але на гэты раз вазьмі некага з сабой. У мяне нядобрыя прадчуванні.

ХАРНЭК. Дарма. Я веру: Неба бароніць мяне. І таму спакойны.

Той жа пакой. У ім Марэя і набліжаныя Харнэка. Усе ўстрывожаныя, разгубленыя.

МАРЭЯ. Ужо тыдзень, як Харнэк пайшоў на паляванне.

ПЕРШЫ НАБЛІЖАНЫ. А меўся быць праз тры дні.

ДРУГІ НАБЛІЖАНЫ. У крайнім выпадку больш за тры дні ён ніколі не бавіўся ў лесе.

ТРЭЦІ НАБЛІЖАНЫ. Гэта не падстава для...

ПЕРШЫ. Для чаго?

ТРЭЦІ. Для непакою. У лесе ён што ў сваім палацы.

ДРУГІ. Але ён адзін. У лесе можа здарыцца ўсякае. Нельга было адпускаць яго аднаго. (*З дакорам глядзіць на Марэю.*)

ТРЭЦІ. Безпадстаўны страх. З такімі, як Харнэк, нічога благога не надараецца. Яны пад аховай Неба.

ПЕРШЫ. Тады чаму яго ўсё няма?

ТРЭЦІ (*няўпэўнена*). Захапіўся паляваннем. Альбо вырашыў больш адпачыць ад спраў. Альбо...

ПЕРШЫ. Хопіць прыкідвацца. Нешта здарылася...

ДРУГІ. Неба, злітуйся!

МАРЭЯ (*роспачна*). Навошта я адпусціў яго аднаго?!

ДРУГІ. Гэта яго прыхамаць. Ён і слухаць не хацеў, каб ісці з некім.

МАРЭЯ. Чаму я не распачаў пошукі чатыры дні таму?..

ТРЭЦІ. Не трэба адчаю. Будзем спадзявацца на лепшае. Неба ўратуе яго. Харнэк адзіны, хто ведае, як адолець гару.

ПЕРШЫ. Так. Ён адзіны, хто ўмее абмінаць неадольныя перашкоды, рабіць разлікі і зноў выводзіць тунель на патрэбны напрамак.

ТРЭЦІ. Для ўсіх гэта нечуванае дзіва. Я ўявіць не магу, як можна вызначыць дакладна напрамак у чэраве гары.

ДРУГІ. Харнэк найразумнейшы з людзей. Такога матэматыка, астранома і геадэзіста яшчэ не было на зямлі.

ТРЭЦІ. Гэта дар Неба. Дзеля таго, каб правесці нас на Зямлю Шчасліўцаў.

МАРЭЯ. Калі ён загінуў, нам ніколі не ўбачыць яе.

ДРУГІ. У Харнэка ёсць вучні. Ён рыхтуе іх сабе на змену. На ўсякі выпадак.

МАРЭЯ. У іх яшчэ няма належных ведаў, вопыту. Яны не здольныя самастойна весці тунель. (*Уздымае ў адчаі рукі.*) Неба, уратуй яго! Злітуйся над намі!

Усе таксама ўздымаюць рукі. Чуваць воклічы: "Неба! Уратуй Харнэка! Не пакінь нас. Злітуйся, Неба!"

Звонку чуецца радасны гул галасоў, радасныя воклічы: "Харнэк! Вярнуўся! Жывы! Хвала Небу!"

Уваходзіць Харнэк, схуднелы, стомлены, у брудным паляўнічым касцюме. Усе кідаюцца да яго. Галасы. "Вярнуўся! О, Неба! Жывы!"

ХАРНЭК (*нібыта здзіўлены*). Жывы. А што магло здарыцца?

ГАЛАСЫ. Мы так хваляваліся... Увесь народ... Збіраліся на пошукі...

ХАРНЭК. Дарэмна непакоіліся. Я паляваў крыху болей звычайнага. Мне было добра, як ніколі.

МАРЭЯ. Але пра гэта ведаў толькі ты.

ПЕРШЫ НАБЛІЖАНЫ. Усе думалі пра горшае.

ДРУГІ НАБЛІЖАНЫ. І ўсё ж паляваць аднаму – вялікая рызыка.

МАРЭЯ. Табе нельга рызыкаваць сабой, Харнэк.

ХАРНЭК. Праўда твая, Марэя. Надалей буду берагчыся. Але ўсё добра, што добра. Вось толькі стаміўся неймаверна. (*Апускаецца ў крэсла, прыкрывае далонню твар.*)

МАРЭЯ (*аднаму з прысутных*). Напаліць лазню! Неадкладна!

ХАРНЭК (*сцепануўшыся*). Лазня? Гэта добра. Тое, што мне трэба. А пакуль – віна. Я паміраю ад смагі. (*Прагна выпівае кубак віна, ставіць на стол.*) А зараз пакіньце мяне... Марэя, ты застанься.

Усе, апроч Марэі, выходзяць.

ХАРНЭК. Прывядзі сюды Гіёму.

МАРЭЯ. Гіёму?

ХАРНЭК. І каб ніхто не ведаў пра гэта.

МАРЭЯ (*збянтэжана*). Як загадаеш. Ці не прасцей наведаць яго?

ХАРНЭК. Магчыма... Але я стомлены. Мне неадкладна трэба бачыць яго.

МАРЭЯ. Як патлумачыць яму?

ХАРНЭК. Нічога не трэба тлумачыць. Ідзі.

Марэя выходзіць. Харнэк нейкі час сядзіць, апусціўшы рукі, потым ускоквае, нервова ходзіць па пакоі, зноў сядае, пра нешта напружана думае, сціскае галаву. Малітоўна складвае далоні, уздымае твар.

ХАРНЭК. Неба, за што?! Навошта?

Чуваць крокі. Харнэк робіць спакойны, непранікнёны твар, выпростваецца. Варта ўводзіць Гіёму. Харнэк пільна ўзіраецца ў ягоны твар. Варта выходзіць. Харнэк указвае на крэсла насупраць.

ХАРНЭК. Сядай, Гіёма.
ГІЁМА. Дзякуй. (*Сядае.*)
ХАРНЭК. Даўно не бачыліся.
ГІЁМА. Пяць год.
ХАРНЭК. Ты вельмі пастарэў.
ГІЁМА. Час не мае літасці. Да цябе таксама.
ХАРНЭК. Але позірк твой рашучы і няскораны.
ГІЁМА. Спадзяванні мацуюць мой дух.
ХАРНЭК. Спадзяванні на што?
ГІЁМА. Што некалі выйду на волю.
ХАРНЭК. І забароніш тунель?
ГІЁМА. Чаго б ні каштавала.
ХАРНЭК. Разлікі на маю заўчасную смерць?
ГІЁМА. Кожную раніцу малю пра тое Неба. І кожны вечар узношу яму хвалу за тое, што ты жывы.
ХАРНЭК. Гаворыш загадкамі. Як разумець цябе?
ГІЁМА. Так і разумей.
ХАРНЭК. Цябе не здзіўляе, што я пажадаў гэтай сустрэчы?
ГІЁМА. Трывожыць. Здарылася штосьці надзвычайнае?
ХАРНЭК (*унурана*). Здарылася, Гіёма....
ГІЁМА (*амаль сцвярджае*). Нешта з тунелем? Што там – абвал? Марудна ідуць работы? Трэба на некага ўскласці віну за тое, што ўсё ідзе не так, як хочацца?
ХАРНЭК (*няпэўна*). Магчыма...
ГІЁМА. Што ж, рашэнне разумнае. Мяне спаляць? Адсякуць галаву?
ХАРНЭК. Для гэтага патрэбны падставы, бясспрэчныя доказы віны.
ГІЁМА (*з сумнай іроніяй*). Іх знойдуць. Людзям не патрэбны доказы. Патрэбны ахвяры.
ХАРНЭК (*устае, у одуме ходзіць па пакоі*). На жаль, усё не так, Гіёма. Няма ні зняверу, ні стомы. Народ прасякнуты імкненнем прабіцца да Зямлі Шчасліўцаў. І сам шчаслівы, як ніколі. Хаця, праўда твая, усё ідзе не так, як хацелася і хочацца. Даводзіцца часта мяняць напрамкі, часта здараюцца катастрофы, гінуць людзі. Але няўдачы і перашкоды надаюць упартасці, мацуюць дух. Усе прасякнуты непахіснай верай і светлымі спадзяваннямі.
ГІЁМА. Калі мяркуецца скончыць работу?
ХАРНЭК. Гады праз чатыры, а мо і раней.
ГІЁМА (*пакутна*). Усяго?
ХАРНЭК (*узіраецца ў яго*). Ты нечым засмучаны?
ГІЁМА. О, калі б ты ведаў...
ХАРНЭК. Ты пра што, Гіёма?
ГІЁМА. Так... Не звяртай увагі. Ты стомлены і ў брудным адзенні. Разам з іншымі прабіваеш гару?
ХАРНЭК. Не, Гіёма. Я толькі што з палявання. Пяць дзён блукаў па Маркотным лесе.

ГІЁМА (*занепакоена*). Пяць дзён? Па Маркотным лесе?

ХАРНЭК. Я заблудзіўся і ўжо страціў надзею выбрацца. На шчасце, у непралазных нетрах натрапіў на хаціну. (*Пільна ўглядаецца ў твар Гіёмы.*) На вялікае шчасце... Астатняе табе вядома. (*Твар Гіёмы пакутна крывіцца, як ад невыноснага болю, пальцы сціскаюцца ў кулакі.*)

ГІЁМА. Праклятая літасць! Яна не для дзяржаўных мужоў. Як мог я... Яшчэ чатыры гады ты быў бы шчаслівым. І ўвесь народ... А магчыма, і заўсёды шчаслівым... Жыццё непрадказальнае. (*Падыходзіць да Харнэка, туліць яго да грудзей.*) Мой бедны хлопчык... Мой бедны хлопчык...

ХАРНЭК (*роспачна*). Чаму ты не перамог у той жахлівай вайне? Чаму не падаслаў забойцу, калі я быў вязнем?

ГІЁМА. І ты б ніколі не спазнаў пакуты, што зносіш зараз.

ХАРНЭК (*адхіляецца, уражана глядзіць на Гіёму*). Якую ты церпіш столькі год?! Ты і Нуба?

ГІЁМА. І Нуба. Ён адзіны, хто вярнуўся з таго боку гары. Я знайшоў яго непрытомнага каля яе падножжа. Таксама ў час палявання. Радасць маю можна было параўнаць толькі з горам, якое абрынулася на мяне, як толькі ён ачуняў. Нуба паведаў, што бачыў за гарою...

ХАРНЭК. Зямлю, усланую камянямі, кусты і балоты.

ГІЁМА. Стралу, выкладзенную з камянёў ад гары да мора.

ХАРНЭК. Вежу з чорнага граніту. І шмат шкілетаў гаралазаў каля яе, з кінжаламі ў грудзях, Там, дзе некалі было сэрца.

ГІЁМА. Няшчасныя. Ім не было чым жыць.

ХАРНЭК. І дзеля чаго жыць. Яны зразумелі, што апынуліся ў Даліне Камянёў. Такое нельга знесці. Смерць была для іх паратункам.

ГІЁМА. І тыя, што былі з Нубам, абралі яе. Апроч Нубы і Лагуты. Ім наказалі вярнуцца і паведаць пра тое, што бачылі.

ХАРНЭК. Лагута загінуў.

ГІЁМА. Так. Дайшоў толькі Нуба. Мне трэба было... І ніхто б тады не ўведаў ні пра яго, ні пра тое, што за гарою. Я не змог. Узяў толькі клятву ніколі не паказвацца людзям. І мы разышліся. Я спадзяваўся, што назаўсёды.

ХАРНЭК. Цяпер назаўсёды. Я заставаў яго пры смерці. Ён то непрытомнеў, то зноў ачуньваў. Калі трызніў, гаварыў пра Даліну Камянёў, праклінаў сябе, што вярнуўся адтуль. Я заплюшчыў яму вочы і пахаваў.

ГІЁМА (*уздымае рукі*). Прымі Неба яго душу.

ХАРНЭК (*пільна глядзіць на Гіёму*). Чаму ты не паведаў Рынаду пра Нубу? Не было б братазабойчай вайны, ахвяр. Не загінуў бы Рынад.

ГІЁМА (*скрушна*). Ён бы не паверыў. Ні мне, ні Нубу. І яму ніхто б не паверыў. Бо Мэта зрабілася вышэй за розум. Сталася сэнсам жыцця кожнага, самім жыццём. Стагоддзі яна ўладарыць намі, стагоддзі мы натхнёна ідзем на яе покліч. Яна неўміручая. Растаптаная і зганьбаваная, яна адраджаецца нанова, неверагоднае робіць сапраўдным. Як патлумачыць, што ты і жменька тваіх паплечнікаў адолелі мяне, магутнага ўладара? І тое, што я не дазволіў звар'яцеламу натоўпу расправіцца з табой і тваёй маці? Хаця і ведаў, што прыйдзецца жорстка паплаціцца за літасць?

ХАРНЭК. Але Зямля Шчаслівўцаў усяго толькі прывіднасць, наша скажонае ўяўленне. Тады і сама Мэта...

ГІЁМА. Не нам вызначаць. Яна, як і жыццё, толькі на кароткі час была існасцю на пакручастым шляху...

ХАРНЭК. Шляху да чаго?

ГІЁМА. Што неспасціжна чалавечаму розуму, што хаваецца ў бясконцасці і вымагае толькі руху. Рух і вера – аснова ўсяго. Дасягнутая мэта – згуба, выклікае спустошанасць і роспач, робіць бяссэнсавым і недарэчным зямное існаванне і ўсяго, што за ім схавана.

ХАРНЭК. Ці не таму, што і само Быццё, Сусвет – прывіднасць і бессэнсоўнасць?

ГІЁМА. Гэта нараканне нашага абмежаванага розуму. Ён падточвае Веру ў Найвышэйшы Сэнс, які немагчыма ні спазнаць, ні ўсвядоміць... Мы прамянялі Яе на зямныя даброты, што няздольныя задаволіць стомленыя розумам душы. Пра тое сказаў мне святар Ісамена перад тым, як зрынуцца ў бездань.

ХАРНЭК. А лавіна з гары? Як можна было прадбачыць?

ГІЁМА. На гары былі адданыя мне людзі. Яны ўчынілі сыход лавіны.

ХАРНЭК І загінулі, як і тысячы тых, што былі ўнізе...

ГІЁМА. У мяне не было выйсця.

ХАРНЭК. Не было...

Нейкі час стаяць моўчкі, апусціўшы галовы.

ХАРНЭК. Што мне цяпер рабіць, Гіёма? Я ўжо не змагу пасылаць людзей на змаганне з гарой, кідаць ёй у ахвяру тысячы і тысячы жыццяў.

ГІЁМА. А што дасі ім наўзамен? Пакуль прабіваецца тунель, народ будзе пачуваць сябе шчаслівым. Не зважаючы ні на што.

ХАРНЭК. І тым жахлівей будзе адчай, калі ўбачаць Даліну Камянёў.

ГІЁМА. Ты ўпэўнены, што гэта некалі будзе?

ХАРНЭК. Несумненна. Праз чатыры гады.

ГІЁМА (*загадкава*). Хто ведае... Магчыма, ты памыляешся. Зрабіў недакладныя разлікі. І не чатыры, а тысяча год спатрэбіцца, каб скончыць тунель.

ХАРНЭК. Тысяча год?

ГІЁМА. А можа і болей.

ХАРНЭК. Словы твае, што трызненне хворага.

ГІЁМА (*нібы не чуе яго*). Усё залежыць ад цябе, Харнэк.

ХАРНЭК. Я гатовы аддаць жыццё!

ГІЁМА. Аддаць жыццё... Гэта не ахвяра – гэта ўзнагарода ў параўнанні з тым, што выпадзе на тваю долю.

ХАРНЭК. Нават дзеля аднаго з маіх сабрацццяў я згодны на пякельныя пакуты.

ГІЁМА. Тады падрыхтуйся да страшнага, Харнэк. (*Нейкі час маўчыць, вагаецца.*) Найвялікшай пакутай у затачэнні для мяне была бездапаможнасць. Бачыць, што кожны дзень набліжае твой народ да катастрофы і ты не можаш ўратаваць яго, хаця і ведаеш як – гэта невыносна. Я зрабіў недаравальную памылку, давёўшы людзям, што пракладваць тунель можна толькі тады, калі на вяршыні растане снег. Бяздзейснасць выклікае ў душах непазбежны пратэст і бунт. Асабліва калі яны імкнуцца да шчасця. Шчасця, якога не існуе ў прыродзе. Яно – прывіднасць. Існы толькі рух, імкненне да яго. Мы не ведалі спачыну ў пагоні за Зямлёй Шчасліўцаў і былі шчаслівымі. Але на зямлі ўсё мае пачатак і завяршэнне. Гэта бяда не мінула і нас. Хвала Небу: яно ўсё прадугледзела. Апошнія падзеі былі скіраваны на тое, што зараз адбываецца – уратаванне нашага народа. Яно

абрала цябе збаўцам і ахвярай. З гэтай хвілі ты мусіш адрачыся ад самога сябе, ад сумлення і годнасці, літасці і шкадобы. Калі спатрэбіцца, злое будзеш выдаваць за добрае, хлусню – за непарушную ісціну, злачыннае – за праведнасць. І наадварот...

ХАРНЭК. Такое караецца Небам.

ГІЁМА. Абраныя Небам не маюць грэху.

ХАРНЭК. Але некалі ўсё выкрыецца.

ГІЁМА. Зноў усё залежыць ад цябе. І ад твайго паслядоўніка. Толькі адзін чалавек мае права ведаць пра падман і самаахвярна служыць яму.

ХАРНЭК. Служыць падману, а не народу?

ГІЁМА. Калі падман паратунак, ён і ёсць ісціна.

ХАРНЭК. Я гатовы да ўсяго.

ГІЁМА. Тады слухай. І будзь мужным.

Цямнее. Відаць, толькі твар Гіёмы і Харнэка. Твар Харнэка паступова скажае грымаса нясцерпнай пакуты. Ён адхінаецца ад Гіёмы.

ХАРНЭК. Не! Толькі не гэта!

ГІЁМА. Ты абяцаў, Харнэк...

ХАРНЭК. Такое – не для чалавека.

ГІЁМА. Я папярэджваў. Цяпер ты не проста чалавек. Ты – ахвяра. Любоў да сабрацця ў надасць табе сілы. Яшчэ не ўсё. Цяжар, які ўсклаў ты на сябе, будзе перадавацца тваім нашчадкам з пакалення ў пакаленне. Як спадчына.

ХАРНЭК. Гэта жахлівей, чым праклён.

ГІЁМА. Трэба змірыцца з непазбежным.

ХАРНЭК. Я змірыўся. Цяпер ты вольны, Гіёма.

ГІЁМА (*адмоўна круціць галавой*). Я – вязень і злачынца. Ім павінен і заставацца. Але мне патрэбна адна ноч волі.

ХАРНЭК. Толькі ноч?

ГІЁМА. Але ўсё павінна быць падобным да ўцёкаў.

ХАРНЭК. Дзеля чаго?

ГІЁМА. Каб споўніць мне прызначанае.

ХАРНЭК. Што прызначанае?

ГІЁМА. Уведаеш пасля. Колькі вучняў у школе тунельшчыкаў?

ХАРНЭК. Дзесяць.

ГІЁМА. Хто з іх самы здольны?

ХАРНЭК. Мой сын Кей.

ГІЁМА. Твой сын... Я ніколі не бачыў яго. Які ён?

ХАРНЭК. Ён – гэта я. І тварам, і душой.

ГІЁМА. І тварам, і душой. Гэта добра... А цяпер загадай адвесці мяне ў вежу.

ХАРНЭК. Навошта? Падумай...

ГІЁМА (*нібы не чуе*). Памятай, мне патрэбна адна ноч. І каб было падобна да ўцёкаў.

ХАРНЭК. Усё будзе так. (*Кліча.*) Ахова!

Уваходзіць Марэя і ахоўнікі.

ХАРНЭК. Адвядзіце яго ў вежу. Узмацніце варту. Не спускайце з яго вачэй.

МАРЭЯ. Будзь супакойны, Харнэк. (*Да Гіёмы.*) Ідзем. (*Выходзяць.*)

Той жа пакой. Нікога. Уваходзіць Марэя, вельмі ўзбуджаны, паспешліва азіраецца, кліча.

МАРЭЯ. Харнэк! Дзе Харнэк?!

З бакавых дзвярэй выходзіць слуга.

СЛУГА. Прашу цябе – цішэй. Уладар спіць.
МАРЭЯ. Разбудзі. І хутчэй!
СЛУГА. Нельга. Ён толькі-толькі заснуў.
МАРЭЯ. Будзі. Ты што – не чуеш?
СЛУГА. Злітуйся з яго. Ён не спаў трое сутак Не мог заснуць.
ХАРНЭК. Будзі неадкладна. Страшная вестка.
СЛУГА (*занепакоена*). Страшная вестка? О, Неба! Зараз. Я зараз...

Паспешна выходзіць у тыя ж дзверы. Марэя нервова ходзіць узад-уперад, нецярпяліва пазірае на дверы, у якія выйшаў слуга. Праз нейкі час выходзіць Харнэка – у ботах, без курткі, яшчэ сонны.

ХАРНЭК (*пяшчотна ўсміхаецца*). Марэя! Хіба ўжо раніца? Ведаеш, у мяне прапаў сон. Тры ночы не заплюшчваў вачэй. А ўчора як праваліўся. Нават не распрануўся, спаў у ботах. (*Узіраецца ў твар Марэі.*) Ты ўстрывожаны? Дрэнныя весткі?
МАРЭЯ. Бяда, уладар!
ХАРНЭК. Бяда? Нешта з тунелем?
МАРЭЯ. Усе твае вучні мёртвыя.
ХАРНЭК. Вучні школы тунельшчыкаў?
МАРЭЯ. Так.
ХАРНЭК. Усе мёртвыя?!
МАРЭЯ. Апроч Кея. Лязо кінжала прайшло каля сэрца, але не кранула яго. Доктар запэўніў, што ён выжыве.
ХАРНЭК. Іх закалолі кінжалам?
МАРЭЯ. Сонных.
ХАРНЭК. Забойцаў схапілі?
МАРЭЯ. Так.
ХАРНЕК. Хто яны?
МАРЭЯ. Гіёма.
ХАРНЭК. Гіёма?! Ён зняволены, пад вартай.
МАРЭЯ. Варта спіць. Нехта падсыпаў зелле.
ХАРНЭК. Дзе яго злавілі?
МАРЭЯ. Ён нікуды не ўцякаў. Сядзеў і плакаў над забітымі. У руцэ акрываўлены кінжал.
ХАРНЭК. Дзе ён цяпер?
МАРЭЯ. Каля палаца. Пад моцнай аховай. Сабралася шмат народа. Усе прагнуць самасуду.
ХАРНЭК. Прывядзіце яго сюды.

Марэя выходзіць. Харнэк стаіць, бязвольна апусціўшы рукі.

ХАРНЭК. Сядзеў і плакаў над забітымі... Сядзеў і плакаў... Няшчасны... (*Уздрыгвае ўсім целам, твар крывіцца, як ад плачу.*)

Ахова ўводзіць Гіёму.

ХАРНЭК. Пакіньце нас.

Усе, апроч Гіёмы, выходзяць. Харнэк паволі падыходзіць да яго, пранікнёна глядзіць у вочы.

ХАРНЭК. Навошта?
ГІЁМА. Каб не давялося гэта рабіць табе. Рана ці позна.
ХАРНЭК (*з пакутай*). Я так і зразумеў. Цяпер ты не толькі вораг свайму народу. Таўро дзетазабойцы навечна выпалена на тваім імені.
ГІЁМА. Затое на табе няма іх крыві.
ХАРНЭК. Ты памыляешся. Мы хаўруснікі. Я наладзіў твае ўцёкі.
ГІЁМА. Пра тое ніхто не ўведае.
ХАРНЭК. Апроч мяне. Як вытрымаць гэта?
ГІЁМА. Пакуты, што чакаюць цябе, выкупяць віну і суцішаць боль.
ХАРНЭК. Мой сын жывы. Ты пашкадаваў яго? Тым самым і мяне?
ГІЁМА. Табе патрэбен спадкаемца. Ён возьме ў спадчыну твой лёс і твае пакуты.
ХАРНЭК. Гэта мне не вынесці.
ГІЁМА. Іншага не дадзена. Што наважаны рабіць са мной?
ХАРНЭК. Адправішся ў вежу. Цяпер табе будзе не так маркотна. Мы – адно цэлае.
ГІЁМА. Такое немагчыма. Гнеў і нянавісць людзей непамерныя. Яны прагнуць кары. Неадкладнай і жудаснай.
ХАРНЭК. Ніхто не пойдзе супраць маёй волі.
ГІЁМА. Ніхто. Але ў душу кожнага закрадзецца расчараванне і пратэст. І пахіснеца вера ў цябе. Гэта страшней за ўсё. Ты павінен быць для іх непагрэшным, як само Неба.
ХАРНЭК. Што тады рабіць?
ГІЁМА. Аддаць мяне смерці. Самай лютай.
ХАРНЭК. Спаліць на вогнішчы? Я ніколі не пайду на такое. Ты будзеш жыць. Улада мая бязмежная.
ГІЁМА. Не, Харнэк. Мы не ўладары. Мы паднявольныя. Ты вынесеш прысуд. Прылюдна абвесціш мяне людажэрам, пачварай, якая ненавідзіць свой народ. Споўненая помста супакойвае душы і надае сілы. (*Абдымае Харнэка.*) Бывай,мой хлопчык! І не зводзь сябе дакорамі. Для мяне ты, што сын.
ХАРНЭК. Бывай, Гіёма. (*Стаіць, закрыўшы вочы даланёю.*)

Гасне, ізноў запальваецца святло. Харнэк сядзіць у тым жа крэсле, адкінуўшыся на спінку, выпрастаўшы ногі. Твар стомлены, спустошаны і непранікнёна велічны. Адчуваецца, што велічнасць штучная, усяго толькі маска. Валасы белыя, як снег.
Уваходзіць Марэя. Таксама ссівелы, але бадзёры, рухавы. Твар свеціцца радасцю. Пры яго з’яўленні Харнэк уздымаецца, выпрамляе плечы, уладарная рашучасць набягае на твар.

ХАРНЭК. Марэя! Ты прынёс прыемную навіну? Я гэта бачу па тваім твары.
МАРЭЯ. На жаль, навіна сумная. У тунелі зноў адбыўся выбух газаў.
ХАРНЭК (*з пакутай*). І зноў ахвяры? Іх шмат?
МАРЭЯ. Вельмі. Усе, што знаходзіліся ў тунелі, загінулі.

ХАРНЭК (*з болем*). Колькі ж іх загінула з самага пачатку?

МАРЭЯ. Ніхто не ведае. Іх не лічаць, як ты і загадаў.

ХАРНЭК (*панура*). Загадаў. Так лепш...

МАРЭЯ. Але гіне вельмі шмат...

ХАРНЭК. І ў імя чаго? (*Спахопліваецца.*) Дзеля шчасця нашчадкаў. Вялікая Мэта вымагае вялікіх ахвяр. Так, Марэя?

МАРЭЯ. Несумненна.

ХАРНЭК. Гэта я гатовы паўтараць і паўтараць...

МАРЭЯ. Як паўтарае кожны. І чым цяжэй даецца гара, тым мацней нашая ўпартасць і вера. Жаданне прабіцца да Зямлі Шчасліўцаў неадольнае.

ХАРНЭК. Я абяцаў прабіцца праз гару за чатыры гады. Прайшло дваццаць. Гэта можа спарадзіць у некага зняверу. Такія ёсць?

МАРЭЯ. І ёсць, і няма.

ХАРНЭК. Гэта як?

МАРЭЯ. Варта некаму ўсумніцца і ён адразу гіне.

ХАРНЭК. Гіне? Як? Якім чынам?

МАРЭЯ. Такіх забіваюць камянямі, альбо кідаюць у вар'ятні. Як шаленцаў.

ХАРНЭК. І такіх многа?

МАРЭЯ. Адзінкі.

ХАРНЭК (*пільна ўзіраецца ў твар Марэі*). У цябе такі выгляд, нібыта мы адолелі гару. Тваe вочы праменяць радасць, свецяцца шчасцем.

МАРЭЯ (*уздыхае глыбока і вольна*). Так, Харнэк. Я невыказна рады. І шчаслівы. Але гэта і твая радасць. Як і твой смутак.

ХАРНЭК. Мой смутак? Выказвайся ясней, Марэя.

МАРЭЯ. Тунель вядзецца не ў тым напрамку. Ён прабіваецца ўздоўж гары. Згодна з разлікамі, шаснаццаць год таму мы павінны быць на Зямлі Шчасліўцаў.

ХАРНЭК (*з болем і жахам*). Што?! Згодна з разлікамі? Чыіх?

МАРЭЯ. Твайго сына, Кея. Ён не раз усё праверыў. Твая памылка відавочная. Сумніва няма. Але пра гэта ніхто не будзе ведаць, каб не пахіснулася вера ў цябе, бо ты для ўсіх што і Неба. Калі змяніць напрамак, праз два гады мы будзем па той бок гары.

ХАРНЭК (*уздымае рукі*). О, Неба! (*Спахопліваецца.*) Колькі марнай працы, колькі марных ахвяраў!

МАРЭЯ. Суцешся, Харнэк. Цёмныя сілы спакон вякоў засланяюць людзям дарогу да шчасця. Яны памуцілі твой розум, змусілі памыліцца. Кей разгадаў і зруйнаваў іх злынамеры.

ХАРНЭК. Кей... А чаму не прыйшоў ён?

МАРЭЯ. Каб не бачыць твайго смутку. Ён так любіць цябе. Гэта шчасце – мець такога сына.

ХАРНЭК. Смутак мой няўцешны. Але і радасць невыказная. Праз два гады мы дасягнем Мэты.

МАРЭЯ. Абавязкова.

ХАРНЭК. І зробім народ шчаслівым.

МАРЭЯ. Гэта так, уладар.

ХАРНЭК. Уладар? (*Падыходзіць да стала, налівае ў кубкі віно і падыходзіць да Марэі.*) Вып'ем за Зямлю Шчасліўцаў, Марэя. І за тое, што ў мяне такі брат.

МАРЭЯ. І за цябе, Харнэк... (*Выпіваюць.*) Як хочацца дажыць да таго дня.

ХАРНЭК (*збянтэжана*). Што? (*Абнадзейна.*) Ён блізка. Цяпер, калі вядома памылка...

МАРЭЯ. Непрадказальны лёс чалавечы. Кожны пачаты дзень можа быць апошнім. Але нават калі не давядзецца дажыць, я памру шчаслівым. І ўсё маё жыццё – суцэльнае шчасце.

ХАРНЭК. Як я зайдрошчу табе, брат.

МАРЭЯ. Зайдросціш? Ты? Той, хто больш за ўсіх аддаваў сябе Вялікай Мэце, народу? Чыё імя будзе жыць вечна ў сэрцах і памяці нашчадкаў? Ты будзеш прыкладам. Табе будуць пакланяцца, як пакланяюцца толькі Небу. (*Злёгку хістаецца.*) Аднак я вельмі стаміўся. Зусім не трымаюць ногі. Не дзіва – такая радасць...

ХАРНЭК. І такая ўзрушанасць. Прысядзь у крэсла, спачні.

МАРЭЯ (*садзіцца ў крэсла*). Як лёгка і на душы, і ў целе. Мне здаецца, я лунаю ў паветры... І хочацца спаць. (*Заплюшчвае вочы, нерухомее.*)

ХАРНЭК. Святая душа.

Нейкі час глядзіць на Марэю, потым страпянаецца. Яго нытвар робіцца жорсткім і рашучым. Звоніць. Уваходзіць слуга.

ХАРНЭК. Пакліч да мяне Кея. (*Слуга выходзіць. Праз нейкі час уваходзіць Кей.*) Як пачуваешся, Кей?

КЕЙ. Добра, бацька. Вельмі добра.

ХАРНЭК. Ты нібыта збянтэжаны? Ад чаго, Кей?

КЕЙ. Я думаў ты ведаеш. Марэя...

ХАРНЭК (*ківае галавой*). Так, ён усе расказаў мне. (*Паказвае на Марэю, які сядзіць у крэсле, паклаўшы на падлакотнік рукі і галаву.*) Спіць. Такая навіна знясіліць каго заўгодна. Ты таксама ўсхваляваны. Цябе вярэдзіць марна патрачаны час, марная праца і марныя ахвяры? Хіба не так, Кей?

КЕЙ. Не толькі. Я ведаю, што зараз у цябе на душы.

ХАРНЭК. Цяжка і маркотна. Усё гэта на маім сумленні...

КЕЙ. Не зводзь сябе гэтак, бацька. Ніхто не застрахаваны ад памылак.

ХАРНЭК. Не, Кей. Памылкі не было. Я свядома змяніў напрамак тунеля.

КЕЙ (*з жахам*). Свядома? Я не ачуўся?

ХАРНЭК. Гэта праўда.

КЕЙ. Я не веру. Навошта чэрніш сябе, бацька? Навошта?

ХАРНЭК. Тое, што зараз пачуеш, назаўседы пазбавіць тваю душу спакою, ператворыць у пекла жыццё. Да скону дзён. Ты згодны пайсці на такое?

КЕЙ. Як скажаш ты.

ХАРНЭК. Гэта вырашаць толькі табе.

КЕЙ. Скажы адно: у імя чаго?

ХАРНЭК. У імя народа.

КЕЙ (*уздымае ўгору твар*). Я гатовы да ўсяго.

ХАРНЭК (*паказве на крэсла насупраць*). Сядай і ўмацуй сваё сэрца...

Прыцемненасць. Ліхаманкавае мільгаценне чырвонага, жоўтага святла, кароткія паўзы поўнай цемры. Кей слухае, сціскае галаву рукамі.

Зноў роўнае святло. Харнэк сядзіць з непранікнёным, скамянелым тварам. Кей, абапёршыся локцямі ў калені, хавае ў далонях твар. Потым уздымае вочы на бацьку.

КЕЙ (*з пакутай і жальбай*). Ты трываеш такое столькі год?

ХАРНЭК. З гэтай хвіліны пакуты мае падвояцца. Твой боль дадасца да іх. Я адкладваў гэта як можна надалей. Збіраўся паведаць табе ўсё ў апошнюю сваю хвіліну. Ты сам прыспешыў непазбежнае. Табе давядзецца прыняць гэту жахлівую спадчыну. Ніхто іншы не павінен ведаць, што ведаем ты і я.

КЕЙ. Ты забыўся пра Марэю. Ён не пагодзіцца. Ён не паверыць у гэта.

ХАРНЭК. Марэі больш няма.

КЕЙ. Няма? Ён тут. (*Паказвае на Марэю.*) Спіць.

ХАРНЭК. І не прачнецца ніколі.

КЕЙ. Не прачнецца?..

ХАРНЭК. Я падліў у віно атруты.

КЕЙ (*неймаверна ўражаны, з скажоным ад болю тварам*). Няўжо ты ўсумніўся ў ім? Ён быў так адданы Вялікай Мэце, так любіў свой народ.

ХАРНЭК (*паволі круціць галавой*). Марэя здолеў бы ўтойваць праўду ад іншых. Але якім коштам? А так ён памёр, прасякнуты верай. Сваёй адданасцю Вялікай Мэце і сваім братам. Ён заслугоўвае гэта.

КЕЙ. Заслугоўвае. (*Укленчвае перад крэслам, у якім сядзіць Марэя.*) Бывай, Марэя...

ХАРНЭК (*таксама становіцца на калені*). Бывай, Марэя. І да хуткай сустрэчы...

Гасне святло. Віхура featuring рознакаляровых промняў, пераважна чырвоных. Гучыць музыка – то ўрачыстая, то сумна-пахавальная, то мужная і суровая, прарываюцца матывы “Інтэрнацыянала”, “Варшвянкі,” “Марсельезы”, але над усім дамінуе гімн СССР. Пражэктары выхопліваюць партрэты Леніна, Сталіна, Мао Цзэдуна, Кім Ір Сэна, Фідэля Кастра. Час ад часу чуюцца залпы з вінтовак, адзіночныя стрэлы. Пасля іх – цемра, мёртвая цішыня, потым зноў музыка – узнёслая, амаль бравурная.

З а с л о н а .



Тамаш Мельцарэк



...Вакол вострыя аскепкі святла.
Заплюшчваю вочы...

# Прысутнасць

### *НАРАЎ*

Пагоркі маршчыністыя ад ветру,
як старыя жанчыны,
загружаныя кошыкамі з бялізнай.

Вада замярзае ў вёдрах,
і каромысел
цяжэйшы чым хамут.

Сабака кульгаючы
абыходзіць раку вакол;
пейзаж сыры, як сухі кавалак хлеба.

### *ЗІМА*

*Пераклад
з польскай мовы
Міры ЛУКШЫ*

Зіма канцэнтруе ўздыхі.
Згорбіўшыся ідзем гужам

стаптанай у снезе вузкай дарожкай.
Перад намі мігаценне святла пастырскіх хацін.
Шчыльны снегапад ціхі –
закрывае вусны.

### ПРАЦАЁМКАСЦЬ

Выразная яшчэ некалькі гадзін таму мяжа
паміж сёння і заўтра ўжо амаль размытая.
Дом аціх – яго гудзенні і патрэскванні
хаваюцца ў расколінах, з якіх выпаўзлі.

Тут і там да гэтага часу можна ўбачыць абрысы мэблі
і плямы рэчаў, якіх не пазнаць.
Цішыня. Толькі чутно хаатычнае святло ліхтара,
што спявае праз вуліцу.

Ідучы незаўважаным ад акна да акна, спатыкаюся
аб стары гадзіннік. Адчыняю дзверцы
і выпадкова знаходжу ў іх высушанае цела павука.
У павуцінні, якое ён развесіў акуратна ўнутры,

няма шанцу злавіць што-небудзь,
яно можа ператварыцца ў ледзь прыкметны туман –
дзіравы вэлюм, на якім не сядзе нават пыл.
Я знішчыў яго адным рухам пальца. Гэта было ўчора.

### АБРЭЗКА ТРАВЫ

Пах скошанай травы змяшаўся з пахам
выхлапных газаў і поту рабочых.
Сагнутыя напалам жанчыны падмяталі ходнік,
кідаючы рэшткі пустазелля на трактарны прычэп.

Спалоханыя конікі ўцякалі ад лопасцяў газонакасілак
на гарачую збочыну. Хлопчыкі з суседняй школы
лавілі іх і палохалі сваіх сябровак або кідалі
з усёй сілы на асфальт.

### ПЕРАД НАВАЛЬНІЦАЙ

Бяроза змагаецца з ветрам,
і палі кукурузы заліваюць няроўныя бакі
выбоістай дарогі.
Рык кароў губляецца ў аблоках пяску;

капыты слізгаюць на камянях
і быдла кожную хвіліну ламае шыхт.
Пастухоў сабака брэша з захапленнем
і бегае сярод жывёлаў.

Хлопчык, які ахоўвае статак
з трывогай азіраецца назад;
неба змяніла свой колер.
Сухавей сее першыя кроплі дажджу.

### *ЧАКАННЕ*

Я вельмі добра памятаю інерцыю яго асобы,
калі хвароба змяніла ўсе мышцы
ў тонкія, зношаныя валокны, якія
не ў стане справіцца нават з глытаннем сліны.

Гэта ён, на павадку рэспіратара;
адказваючы на пытанні ледзь улоўным
трапятаннем павек.
Пагружаны ў прыцемках. У чаканні.

### *СУХІ КУСТ*

Пасля ўсяго гэтага яна месяцамі лячылася ад адзіноты.
Захоўвала ў шафах яго старыя рэчы. Баялася ўспамінаў.
Ніколі не брала ў далоні іх агульныя фатаграфіі;
старыя людзі маюць больш таямніц, чым старыя дамы.
Сёння глядзіць у вакно; вечар шуміць ляніва.
Святло знікае і сціскаецца, як кулак, сціснуты ад болю.
Яе заўсёды было занадта шмат у словах, жэстах, у справе;
цяпер яна толькі сухі куст, што чакае іскры.

### *ВЕЧАР*

Вечар трэснуў і зламаўся, як сухая палка;
высокія часткі неба пачарнелі ўжо і вычарпаліся.
На драцяной сетцы паблізу шэрага будынка кацельні
сусед увесь дзень сушыў свежадубленыя скуры,
да якіх ліплі тоўстыя мухі.

Пад гарачым падваконнем выпараецца кокан начнога матыля,
кукалка якога была занадта слабая, каб прабіцца
праз шаўковую сценку.
Цішыню перапыняе толькі жалобная песня; у тэлевізары шэсце
засяроджаных асоб, затым доўгая прамова –
смерць, што скланяе слова *жыццё* па ўсіх склонах.

### *ЛІХАМАНКА*

Ліхаманка прыціснула мяне
ўсёй сваёй вагой.
Адняла дыханне.
Вакол вострыя аскепкі святла.
Заплюшчваю вочы.

### *З КАНІКУЛ*

Я адчуваў, як быццам раптам уся кроў кінулася да параненай нагі,
Пальцы распухлі і змянілі свой колер.
Цяжкая частка стала, што ўпала са стала цесляра,
скацілася па крутым схіле.
Хтосьці пабег да майго бацьку, іншыя глядзелі, як я рыдаючы
ўзвіваюся ад болю.

Пазней лекар які накладаў мне гіпс, сказаў,
што мне пашанцавала, *быццам бы нешта*. Я не вельмі разумеў,
пра што ён казаў.
Памятаю, у медсястры была кароткая спаднічка
і блузка з вялікім дэкальтэ. Яна ўсміхалася мне.
На імгненне я забыўся пра боль.

### *ІНТЭР'ЕР*

Стэрыльны інтэр'ер кандыцыянаванага аўтамабіля.
Насупраць мяне дзяўчына-Барбі,
побач з ёй элегантная пажылая дама
корміць сабаку сухімі каўбаскамі з каніны.

За вакном цяпло ў сорак градусаў.
Велізарнае поле жыта паглынае ўсё святло.
Слепіць. Лес цёмны і душны.

Я хацеў бы быць там цяпер. Прабірацца
праз тлусты гушчар і, лаячыся пад нос,
адганяцца ад назойлівых мух.

### *ПЯСОК І СОЛЬ*

Пах рыбін і адкрытых ракавак.
Людзі ляжаць занадта блізка адно да аднаго, на зважай.
Сонца штурхаецца ўверх, цярпліва напаўняючы прастору.
Выходзіш з мора і схаладнелая вяртаешся на ручнік.
У тваіх валасах сопелькі солі.

### ПАЖАР

Пад нагамі храбусцяць пустыя абалонкі жукоў,
якім не ўдалося пазбегнуць агню.
Пажар, які пачаўся ад далікатнай купкі травы,
накрыў луг і спыніўся ў старым драўляным касцёле.
Гук аргана патухаў усю ноч.

### АПОЎДНІ

Гарачае паветра падымае дзень усё вышэй і вышэй
і гуляе са святлом. Купка дзяцей
шырокай дугой абыходзіць палову яблыка,
якую абселі восы, а вар'ятка з першага паверха
зноў спускаецца ў склеп, каб накарміць пацукоў.

Даходзіць поўдзень, і вуліца сухая, як костка;
тратуарная плітка лушчыцца, як старая фарба.
Мы сядзім на даху, у ценю комінаў;
крадзем уласны час.

### ЧАРВЯК

Усе смяяліся з яе.
У яе былі доўгія тлустыя валасы і артапедычны абутак.
Час ад часу яна заўсёды кудысьці знікала.

Відавочна, у яе не было маці і спала з бацькам у адным ложку.
Выйшла замуж за селяніна. Голымі рукамі
капае з зямлі бульбу, ламаючы пазногці.

### АПОШНІ ПАЧАСТУНАК

Яна магла б хоць што-небудзь паесці,
досыць адкрыць халадзільнік.
Ты ж казала.

Але яна сышла, пакуль ты паспела вярнуцца;
як і кожную пятніцу пабегла праз гай
у вёску. Заўсёды любіла пах жывіцы.

Цяпер распавядаеш усім,
што прайшоў амаль тыдзень
пакуль яе знайшлі пад грудай сухога галля.

## *ПУСТЫННАЕ ДРЭВА*

Старая жанчына замярзае,
яна як знявечанае дрэва.
Дранцвее ў нерухомасці;
трунар закапаў яе карані занадта глыбока.

Малы хлопчык дрыготкімі пальцамі
шукае слядоў больш цёплых успамінаў.

## *ПАВОДКА*

Час ціснe горла, скарачае дыханне.
Укладка валоў заняла ўвесь тыдзень,
і цяпер мяшкі ў імгненне вока
брыняюць, як гарошыны.

Частка з нас застаецца, глядзець на раку,
астатнія вяртаюцца пераносіць усё, што можна, на верхнія паверхі.
Выціраю пот з твару.
Пад пазногцямі некалькі кропель пяску.

## *ВЕРАСЕНЬ*

Верасень адкрыты для пераменаў;
лета выпарылася, сыходзіць.
Воблакі з шыпеннем труцца аб зямлю. Іскрыцца.

Піск ластавак згасае пад першымі кроплямі дажджу.
Мы праслізгваемся паміж блокамі.
З завулкаў пад’ездаў сочаць за намі дзіцячыя вочы, далятае смех.

## *ДЗЕНЬ ПАМЕРЛЫХ*

У ноч бадзяжныя сабакі разарвалі чалавека,
які быў занадта п’яны, каб паклікаць на дапамогу.
Мы сядзім ля каміна. Агонь вяртае да жыцця
кавалкі мёртвай драўніны;

пні рыпяць і трэскаюцца, як саспелае зерне.
Цяпло прарастае, расце, як плюшч.
На сценах нашыя цені, варушацца, як паперкі,
якімі на пустой вуліцы гуляе вецер.

### ТАЯМНІЦА

Мы адрываем кавалкі моху
і закопваем у мяккай зямлі
малую кардонку з напісаным лістом.

Далёка можна пачуць гук бензапілы.
Выраўноўваем зямлю
і вяртаемся вузкай сцежкай да дарогі.

У пластыкавыя кубачкі
павешаныя на хваёвых ствалах
пазам цячэ жывіца. Час нахіляе галіны.

### ЭПІТАФІЯ

Час рассек гару. Вытрыбушыў.
Тым не менш друз яшчэ рухаецца,
цячэ ўніз па нахіле, павольна пераварваючы паляну.
У яго булькатлівых вантробах
клубяцца каўтуны суркоў і пух землярыек.
У высушаным ствале захрасла аўдотка;
звівае сабе магілу.

### ЗАПАМЯТАЙ

Гэта ўсё важна, важная кожная дэталь:
гэтая бліскучая ўдалечыні форма, якая раптоўна
змяніла свой колер, ператвараючыся
ў бліскучую кропку; і гэты нечаканы сполах,

а потым ужо толькі дрэва, фаршаванае
святлом, і тысячы дзікіх пчол у пастцы
ў палаючым вуллі, што гучна клічуць,
харкаюць уласным целам; і людзі з вёдрамі,
і плынь вады што згасае пад сцяной агню;
цішыня, калі чуеш цяжкое дыханне,
а вецер падымае попел і нясе яго высока,
як ліхтар, як вестка пра чыюсьці смерць.

### ПРЫСУТНАСЦЬ

Гэтыя месцы – я быў там;
глядзеў на іх, і яны змяняліся,
пакуль аднойчы не сталі чужымі.

Я адкрываў дзверы, праслізгваў
ціха, затаіўшы дыханне.
Хадзіў на пальчыках.

Я пачуў голас, які ішоў з-за сцяны,
але не мог пазнаць яго.
Я слухаў. Гэты голас быў мой.

Гэта я быў у гэтым доме.
Я пайшоў адзін,
хаваючыся за дрэвамі.

Я знайшоў шар, поўны святла.
Пахаваў яго ў садзе. З тых часоў
пастаянна адчуваю на сабе чыйсьці позірк.



анталогія

## Лявон Гвозд



Рэдакцыі Нашае Нівы.

Пры гэтым пасылаю 5 руб. і прашу высылаць Нашу Ніву у 1911 годзе па першым адрасам: у Владівосток Раз'езднаму Чыноўніку Гвозду і у Крестовле, с. Котолово вучіцелю Гвозду.

Віншую Рэдакцыю з Новым Годам! Дай Божухна усяго лепшага!

Л. Гвозд

…з нячысцікамі не так страшна…
бо яны, калі і рабілі якую шпэтную справу,
дык усё неяк жартуючы….

# Праклёнышы

***Занядбаны шэдэўр***

*На жаль, рэдакцыя «Дзеяслова» не мае фотаздымка Лявона Гвазда. У якасці ілюстрацыі да гэтай публікацыі выкарыстаны віншавальны ліст, дасланы ім у рэдакцыю газеты «Наша Ніва», ад 30 снежня 1910 года.*

### З-пад цёмнай зоркі

Міфалагічная спадчына беларусаў такая самая багатая, як і песенная. Пасля публікацыі зборніка А. Сержпутоўскага рускі фалькларыст С. Саўчанка заўважыў: “У беларусаў найлепшыя казкі”. Праца М. Нікіфароўскага “Нячысцікі”, своеасаблівы кампендыум беларускай дэманалогіі, дагэтуль улучаецца ў рускія анталогіі “страшных” апавяданняў. На жаль, усё гэта не вылілася ў сталую літаратурную традыцыю, як у англамоўным свеце, дзе готыка, хорар, фэнтэзі ўтвараюць цэлы архіпелаг субкультур. Праўда, з XIX да пачатку XX стст., у рамантычную пару, калі адбывалася станаўленне новай беларускай літаратуры, мы мелі нямала парасткаў такога гатунку, якія абяцалі багаты плён. Але... увесь час нешта перашкаджала. Найудзячнейшым грунтам для дэманалагічнай фантазіі была маладая беларуская паэзія – ёй дазвалялася тое, чаго не дазвалялася прозе, досыць успомніць міфалагічныя цыклы М. Багдановіча, Я. Купалы. Яшчэ бліжэй да прозы стаялі “страшныя” апавяданні ў вершах

Ф. Багушэвіча, Старога Уласа, Л. Лобіка, А. Зязюлі, Я. Коласа, А. Гаруна, Н. Арсенневай, пачынаючы з “Нячысціка” А. Рыпінскага.

Што ж тады замінала? Рэч у тым, што готыка і хорар, як і дэтэктыў – гэта гульнёвая літаратура. Якія б шэдэўры тут ні ўзнікалі, яна не выйдзе па-за межы гульні, прыгожай забаўкі. Падобная літаратура не ставіць перад сабою дыдактычных і пазнавальных заданняў і таму для прагматыкаў ад эстэтыкі заўжды будзе здавацца лёгкай, павярхоўнай, несур’ёзнай. Той жа дэтэктыў ягоныя прыхільнікі часам не разумеюць больш, чым праціўнікі, калі маняцца давесці, быццам ён можа быць “сур’ёзным”. Не могуць быць “сур’ёзнымі” (г. зн. мець пазнавальна-дыдактычныя ды чалавеказнаўчыя мэты) ні готыка, ні хорар, ні дэтэктыў, бо маюць у сабе іншую мэту: стварыць атмасферу жаху, абысці на старце злачынцу і г. д. Чаму яны лічацца “пустымі”? Бо пакуль мы чытаем, скажам, дэтэктыў, здаецца, няма нічога важнейшага, чым раскрыць злачынства, але раскрытае злачынства становіцца ўжо нецікавым. Інакш і быць не можа. Зробім аналогію: каб мужчына мог нараджаць, ён мусіць змяніць увесь арганізм, нават гарманальна – г.зн. перастаць быць мужчынам, стаць жанчынай. Тое самае і з жанрамі, калі ў гульнёвай літаратуры гульня не галоўнае, то гэта не гульнёвая літаратура, а нешта іншае. Або – ні тое ні сёе.

*Тытул кнігі Лявона ГВАЗДА.*

Дык вось, гульнёвая літаратура не ўхвалялася беларускай культурнай грамадскасцю пачатку XX ст. Успомнім, як Багдановіча абзывалі “лесавіком” (хоць да названай катэгорыі ягоныя міфалагічныя вершы мала якім бокам адносяцца). А пачынаючы з 1930-х гг. гульнёвы і сур’ёзны містычны кірунак у нашай культуры практычна быў пад забаронаю. На момант развалу СССР у паэзіі “выжылі” толькі русалкі, іншыя нячысцікі вымерлі, як дыназаўры. З адпаведнай прозы сяк-так ліпеў міліцэйскі дэтэктыў, і то – як адгалінаванне вытворчага раману. Дарэчы, і суседняя нам руская літаратура таксама не можа пахваліцца, нягледзячы на імперскі размах, гульнёвай традыцыяй – усе спробы ў гэтай галіне, і дарэвалюцыйныя і постсавецкія, мала калі дасягаюць англамоўнага стандарту. Мы міжволі апынуліся ў магутным полі ўздзеяння рускай рэалістычнай традыцыі, шматгадовай атмасферы антымаскультавай рыторыкі, дзе ні для містыкі, ні для гульні ўжо не заставалася месца. І ўсё ж, насуперак неспрыяльным умовам, беларуская літаратура паспела стварыць некалькі шэдэўраў, якія можна ўлучаць у найлепшыя анталогіі свету, адзін з якіх і хацелася б прапанаваць сучаснаму чытачу. Гаворка пра апавяданне **Лявона Гвазда “Праклёнышы”**.

Гэтае апавяданне выйшла асобнаю брашуркаю ў 1913 годзе ў Санкт-Пецярбургу стараннямі А. Грыневіча. Але не патрапіла нават у агляд “За тры гады” М. Багдановіча, дзе падрабязна разбіраліся творы якраз названага года, праўда, пазней у “Матэрыялах для слоўніка астатніх беларускіх пісьменнікаў апошняга часу” яго мімаходзь успамянуў Я. Карскі. Вядома, знаўцы ведалі і цанілі гэты твор. Прыкладам, паводле вуснага сведчання А. Ліса, захапляўся Гваздовым апавяданнем фальклярыст І. Цішчанка, дый ці ён адзін...

Чаму Гвазда не заўважыў Багдановіч, хоць іншыя творы, выдадзеныя асобнымі брашуркамі, як “Амерыканец” А. Новіча, нават хваліў? Можа, не трапіла выданне на вочы, а можа... не ўпадабаў паэт чыстай красы гэты, здавалася б, блізкі яму па духу твор, не ўспрыняў як дасягненне, вартае ўвагі. Калі меркаваць паводле ўласнай Багдановічавай прозы, то не такія і блізкія яму Гваздовы “Праклёнышы”. Усе чыста апавяданні аўтара “Вянка” маюць пазнавальны пачатак: ці то характэрны для рэалізму сацыяльна-псіхалагічны аналіз, ці нават – маскіруюць сабою філасофскія трактаты і прыпавесці. Хіба што з усіх нашаніўцаў наймацнейшы смак

да інфернальнага меў М. Гарэцкі. Народны містыцызм не даваў яму спакою, аднак і Гарэцкі браўся за дзівоснае, нібы апраўдваючыся. Ён, як ніхто іншы, апаэтызаваў міфалагічныя ўяўленні беларусаў, але далей паэтызацыі не пайшоў. Гарэцкі не пашырыў, а паглыбіў тэму. Эпоха пазітывізму ды ўстаноўка на асветніцтва бралі верх. Таму пачын Л. Гвазда, можна сказаць, адзіны ў сваім родзе. І невыпадкова, што менавіта "Праклёнышы" цалкам выпалі з літаратурнага працэсу.

Пра аўтара апавядання, Лявона Гвазда, нам мала чаго вядома. Відаць, паходзіў ён з Дзвінскага павета (гістарычнай Латгаліі) з мястэчка Краслаўка (цяпер – тэрыторыя Латвіі), працаваў на чыгунцы і паступова асеў ва Уладзівастоку. Вядомая ягоная апрацоўка народнай легенды "Цмок", якая друкавалася ў "Нашай Ніве" і перадрукоўвалася ў анталогіі "Беларуская дакастрычніцкая проза" (1965), дзе сярод звестак пра аўтара ўспамінаюцца – з памылкаю – і "Праклёнышы". Менш вядомая яшчэ адна публікацыя ў "Нашай Ніве" за 1914 г. – "Зязюлька (Народная казка)".

Скупыя звесткі пра Гвазда, якія ўдалося знайсці з дапамогаю калег, думаю, варта падаць цалкам. Гэта допісы ў "Нашу Ніву" і некалькі згадак у друку:

*[30.12.1910]*

*Рэдакцыі "Нашае Нівы"*

*Пры гэтым пасылаю 5 руб. і прашу высылаць "Нашую Ніву" ў 1911 гаду па першым адрасам: у Владівосток Разъездному чиновнику Гвозду і ў Креславле, с. Кополово вучіцелю Гвозду.*

*Віншую Рэдакцію з Новым Годам!*
*Дай Божухна ўсяго лепшага!*

*Л. Гвозд*

(БДАМЛМ. Ф. 3. Воп. 1. Адз. зах. 77. Арк. 28)

*Редакціи газэты*
*Нашыя Нива.*

*Кали ласка прышлитя Вашыю*
*газэту [за гэтотъ годъ] одинъ экземпляръ на адрасъ:*
*<u>Владивостокъ</u>, Разъѣздному Чиновнику*
*Л. Гвозду.*
*а другій:*
*м. <u>Креславль</u>, Витебск губ*
*с. Кополово. вучицилю*
*Ив. Ив. Гвозду*
*При гэтом прикладаваю купонами на*
*5 руб. и почт марками 25 к*
*/подпіс/*

*[1909? 1912?]*

(ЛІЦДА. Ф. 368. Воп. 1. Спр.–? Арк. 40)

*Беларускі пісьменьнік, аўтор апавяданьня "Праклёнашы" і супрацоўнік "Нашай Нівы" Л. Гвозд жыве зараз у Ўладывастоку, маючы каля 55 год. У яго на руках знаходзіцца болей шасьцёх п'есаў і шмат апавяданьняў. Сярод п'есаў ёсьць рэволюцыйныя, бытавыя і гістарычныя.*

(Хроніка // Полымя. 1923. № 7–8. С. 133–134.)

*«Вядомы дзеяч нашаніўскай эпохі Лявон Гвозд, які зараз знаходзіцца ва Уладывастоку, прыслаў у «Маладняк» сваю драму ў 4-х частках, абгрунтаваную на гістарычных матэрыялах. Гэты твор выдатны сваім соцыяльна-рэволюцыйным зьместам; перадany ў ІБК».*

(Хроніка беларускае культуры: Сярод пісьменьнікаў, поэтаў і літаратараў // Полымя. 1928. № 6. С. 200)

*ЦБ Краязнаўства зьвярнулася да старога беларускага дзеяча з нашанiўскай эпохi, Лявона Гвозда, якi зараз знаходзiцца ва Ўладывастоку, напiсаць свае ўспамiны аб сваёй дзейнасьцi i аб усiх тых беларускiх культурнiках, з якiмi яму даводзiлася сустракацца.*

(Хронiка беларускае культуры: Сярод пiсьменьнiкаў, поэтаў i лiтаратараў // Полымя. 1928. № 7. С. 207)

У мове, у паасобных вобразах Гваздовы творы маюць шмат паралеляў з творамі ягонага земляка з недалёкай Дзісеншчыны Пётры Беларуса (Пятра Яленскага), так, што адразу можа падацца, быццам пісаў іх адзін чалавек, але тэматычна і эстэтычна яны ўсё ж істотна адрозніваюцца. Творы Яленскага – сацыяльна арыентаваныя, ім бракуе сюжэтнага майстэрства, якое мы бачым у Гвазда.

Вось урывак з апавядання Пётры Беларуса "У кузні":

*"Раскажа [Бэрнусь], як былі даўней "ізавіты" і чарнакніжнікі, як яны падзямельныя лёхі капалі і з нячыстай сілай зналіся... Раскажа, як з петуховага яйца высядзець і выгадаваць змея, каторы грошы носіць. Раскажа, дзе і колькі грошы схавана, раскажа, калі і як трэба рабіць шчуп, і колькі і якіх на наклад нада іголак, каб гэты шчуп вярней паказваў, дзе капаць грошы..."*

Падабенства з "Праклёнышамі" яўнае, а калі зазірнуць углыб традыцыі, то можна гаварыць пра школу Яна Баршчэўскага і зародак міжаўтарскага цыклу, накшталт міфаў Ктулху ў паслядоўнікаў Говарда Лаўкрафта.

Лявон Гвозд быў сучаснікам аўстрыйца Густава Майрынка, бельгійца Жана Рэя, немца Ганса Гейнца Эверса, паляка Стэфана Грабіньскага, якія працавалі ў стылі готыкі, містыкі, хорару. І ягоныя "Праклёнышы" паводле мастацкіх вартасцяў стаяць упоравень з найлепшымі ўзорамі жанру, на жаль, у іх не было працягу. Дарэчы, Гваздова апавяданне выйшла ў свет якраз у той год, калі без вестак прапаў у Мексіцы амерыканец Амброз Бірс, яшчэ адзін класік жанру.

Вышэй гаварылася пра тое, што ад гульнёвай літаратуры нельга чакаць пазнавальнага эфекту, таго, што мы маем ад класічных старажытных твораў, ад сучасных рэалістычных. Узнікае пытанне, а ці можа такая літаратура станавіцца ў шэрагі той "высокай" традыцыі, хоць нейкім спосабам рабіцца "сур'ёзнай", ці ёй наканавана марнець у якасці масавага чытва? Вядома, можа, калі гульнёвае апавяданне становіць сабою шэдэўр архітэктанічнага майстэрства, калі яно адкрывае новы свет у літаратуры. Гульнёвымі ж былі навэлы Эдгара По, гульнёвым, як ні круці, застаецца раман Умбэрта Эка "Імя ружы", але ў той жа час гэта высокая традыцыя. Містычныя рамантычныя творы, дзе раскрываецца дух народа, нацыянальныя характары, паэтызуецца дзівоснае, – улучаюць і пазнавальны элемент, этнаграфію ў вобразах, таму яны ўдвая каштоўнейшыя, як прыгожая забаўка і як адкрыццё экзатычных асобаў у экзатычных абставінах. Тут ужо гаворка не пра штучны гібрыд, а пра пэўны сінкрэтызм, калі гульнёвае і сур'ёзнае яшчэ трываюць у адзінстве. Да такіх твораў падвоенай каштоўнасці і адносяцца "Праклёнышы".

Пад канец варта пару слоў сказаць пра мову Лявона Гвазда. Безумоўна, ёсць у ёй і пэўныя хібы, русіцызмы, але не гэта галоўнае. Каштоўнае ў ёй тое, што назаўсёды страціла сучасная літаратурная мова, што нельга паўтарыць, як нельга двойчы перажыць маленства. Гэта і дыялектныя формы знаёмай лексікі, характэрныя для Віцебшчыны: *робіў, робіла* (замест *рабіў, рабіла*), і безэквівалентныя *туравіцца* 'спяшацца', *шакалі́* 'шалупіннe', і спецыяльнае карчомнае *ка́рба* 'уліковая дошка', і тыпова гваздоўскае *шпэць* 'нечысць', і сам лад моўнага мыслення, які не паддаецца рацыяналізацыі.

*Аўтар прадмовы выказвае падзяку Віктару Жыбулю, Вячаславу Мартысюку і Ціхану Чарнякевічу за дапамогу ў зборы матэрыялаў да біяграфіі Л. Гвазда.*

**Юры ПАЦЮПА**

## Праклёнышы

### *Адгалосак старыны*

Было першае лістапада. Пагода стаяла дужа дрэнная – снег, дождж і вецер. Дарогі былі гразкі. Хто плёўся ў гэты дзень з мястэчка Краслаўкі з кірмашу ці так адкуль, той мок і калеў на сцюжы і рад быў скарэй забрацца да якой-нібудзь хаты, каб пагрэцца і абсушыцца крошку. Адным такім прыстанішчам для падарожных была вялікая карчма Стырблі, што стаяла недалёка ад мястэчка.

Змяркалася. Каля карчмы сабралася многа калёс з запрэжанымі, заморанымі конямі, хрупаўшымі з кашалёў ці проста кінутае на зямлю сена.

У карчме ішоў гоман на ўсе лады. Чалавекаў з дваццаць, седзячы за доўгім сталом кучкамі па тры, па чатыры, вялі гутарку аб сёлетнім ураджаі, аб пагодзе і іншае, і шчыра частаваліся «простай». Бабы, развязаўшы хустачкі і дастаўшы з іх кавалачкі цвёрдага, як цагліна, сыру, ці варонай пячонкі, частавалі мужыкоў. Прыйшоўшыя здалёку, пасядзеўшы з гадзіну, тураваліся дахаты; на іх месца прыхадзілі другія.

Прыйшлі і суседнія мужыкі, маладзіцы, мальцы і дзяўчаты. Не доўга чакаючы, зайграла скрыпка цагельніцкага Антона, і моладзь пусцілася ў скокі. Усе аж да поту скакалі лявоніху, круцёлку, мяцеліцу і ставілі карагоды. Гульня ішла, як іншыя кажуць, з «коптарам».

Якуб Курачка, мужык пад пяцьдзясят гадоў, не крэпкага злажэння, з бледна-жоўтым ад галадухі, як відаць, тварам, з чорнымі валасамі, праміж каторымі дзенідзе пракідвалася сівізна, стаяў, падпёршы вушак дзвярэй каморкі, і прыслухваўся да людскога гоману. Яго чорныя, глыбока запаўшыя вочы, перабягалі ад аднэй кучкі балюючых да другой. У адным кутку ішла гутарка пра нячысцікаў, змеяў, ведзьмаў, праклёнышаў і т.п. Якуб дужа любіў слухаць такія казкі. Каб не прапусціць ніводнага слова, ён падняў навушнікі сваёй аўчыннай шапкі і стаў слухаць уважна гэтыя вельмі цікавыя для яго рэчы.

Неўзабаве ў карчму ўвайшоў і астанавіўся каля парогу Донька Баханоўскі; ён усімі лічыўся найлепшым краснабаем; у яго кажны раз быў новы запас баек і навін, асабліва тагды, калі варочаўся з мястэчка. Не паспеў ён добра яшчэ абтрасці снег з шапкі і з сярмагі, як яго ўжо абступілі з усіх бакоў і сталі прасіць расказаць што-колечы з навін. Перш Донька пачаў адказвацца, што не маець часу дый нічога не чуў новага, але сербануўшы паднесеную кімсь чарку гарэлкі і закусіўшы баранкам, ён паласкавеў і байкі адна аднэй цікавей пасыпаліся ў яго з языка. Якуб штораз блі́жай і блі́жай праціскаўся да Донькі. Гоман мужыкоў і стук скакаўшых зразу сціх. Антон перастаў іграць і паклаў скрыпку на калені.

Асабліва ўсіх зацікавіла вестка пра слабодскага Янкеля. Усе яго добра зналі як здаровага, крэпкага чалавека, а тут Донька кажаць, што ў страшную ноч яго «хапун» хапіў і ўтапіў у рэчцы, дзе брат яго Шмэрка і найшоў. Стыдаючыся і баючыся выдаць гэту вялікую тайну хрысціянам, Шмэрка схаваў брата ў хляве і толькі праз месяц пусціў чуткі, што брат, быццам, сваёй смерцю памёр.

Усе слухаўшыя шчыра верылі ў гэта здарэнне, як верылі ў тое, што кажны год у Страшную ноч каго-нібудзь з жыдоў задушваець хапун.

Другой навіной быў расказ пра тое, як у аднаго мужыка ў Аглоні памёрла маладая яшчо жонка, каторую пры жыцці ўсе лічылі за чараўніцу і дужа баяліся. Праўда, тры разы хавалі яе на магільніку і кажны раз на другі дзень знахадзілі труну з нябожчыцай наверху магілкі. Мужык з гэтай бяды навет чуць не памёр: ні малітвы, ні асвяшчэння святой вадой не памагалі, аж пакуль на чацвёрты дзень не прыйшоў якійсь жабрак і не парадзіў удаўцу паставіць на веку труны тры крыжы той крэйдай, каторай на Кшчэнне ставяць крыжы на дзвярах. Удавец усё зробіў, як было яму казана, і ў тую хвілю, калі ён чыркнуў астатнюю крэсачку,

зямля з шумам расступілася і труна з нябошчыцай праваліласяскрозьдонна са страшэнным грукатам і сіпеннем, а зямля сама сабой зраўнялася на тым месцы. Удавец чуць-чуць паспеў адскочыць убок ад таго месца і не праваліўся разам з труной.

І чаго толькі Донька ні набаяў? Ад іншай казкі ў слухачоў дрыжака па ўсяму целу перабягала, а валасы дубам станавіліся, асабліва, калі казка была пра мерцвяцоў. З нячысцікамі не так страшна выхадзіла, бо яны, калі і рабілі якую шпэтную справу, дык усё неяк жартуючы, смешна, а з нябожчыкамі саўсім не жарты былі, бо тыя сваім смяротным духам адразу забівалі сваю ахвяру.

Ужо каля трох гадзін Донька баяў такія байкі.

Далёкія ліцвякі, што мала разумелі беларускую гутарку, і тыя сядзелі ў карчме на гэты раз доўга, стараючыся паняць расказы. Усе, што пілі ў карчме, не скупіліся пачаставаць краснабая чаркай за яго цікавыя байкі.

Але ж бываець усяму канец – кончыліся расказы Донькі, і ён, развітаўшыся з большай часткай засядзеўшыхся, пакінуў карчму.

Для шынкаркі Рохі Донька быў чысты скарб, бо, слухаючы яго казкі, многа каторы лішнюю гадзіну сядзеў у карчме, а ўжо вядома, што сядзець у карчме, не ўзяўшы водкі, мала хто будзець.

Больш людзі не прыхадзілі; было позна, пяялі першыя пятухі. Якуб Курачка доўга яшчэ стаяў не кратаючыся і перабіраў у думках усё тое, што чуў. Увідзеўшы, што апошні чалавек стаў прашчацца з Рохай, ён падышоў да застойкі і папрасіў сабе кручок водкі. Роха перш не паслухала яго, бо Якуб даўно быў вінен ёй за дзве кварты, але калі ён выкінуў на стол колькі належала грошы, яна зразу нацадзіла з бачонка мерку і падала яму. Якуб памалу, не туравяся, выпіў водку, закусіў кавалачкам баранка і выцер вусы палой сярмягі. Крошку пачакаўшы, ён папрасіў яшчо паўкручка. На гэты раз Роха, ні слова не гаворачы, падала водку, але ашукалася, бо Якуб не заплаціў за яе, а папрасіў адмеціць гэты доўг на ка́рбе.

Жыў Якуб у засценку таго ж названня, што і карчма. Ісці да хаты яму было блізка з вярсту. На дварэ троху ўспакоілася, але так цёмна было, што хоць у вока калі, дык нічога не ўвідзіш. Добра ведаючы месца, Якуб нацянькі пайшоў дахаты. Па дарозе цікавыя расказы Донькі кружылі яму галаву. Даўно ён чуў пра чырвонага воўка, што пад Пескаваткай ля сасны вартуець схаваныя грошы, але вачыма яго мала хто відзеў. Па расказам яго мог відзець толькі той, хто адважваўся шукаць грошы і падхадзіў апоўначы са шчупам да гэтай сасны. У гэту пару воўк зразу яўляўся і так страшна выў, ляскаў зубамі, што ніхто не мог паканаць страх і з усіх ног уцякаў.

– Добра было б дастаць гэтыя грошы, але дужа ўжо страшна, – думаў Якуб.

Знаў ён многа месцаў, дзе схаваны грошы: вот хоць бы сабе пад Баярскім Мастом, ці пад Шалтуп'ямі каля Залатога Каменя, або на магільніку каля Дзвіны, дый так многа дзе, але як іх дастаць, калі ўсюдых нячыстая моц вартуець іх?

– Добра было б вынасіць змея, падумаў сабе Якуб, але і тут бяда, бо для гэтага трэба дастаць яйка, знесенае чорным пятухом, катораму было б не менш сямі гадоў. Яйка тое трэба насіць цэлы год пад пахай і праз гэты тэрмін ні часацца, ні мыцца, ні сморкацца і Богу ні маліцца, а гэта ж вялікі грэх.

Якуб быў пэўны, што гэткі змей ёсць у ружапольскага пана з таго, што ідучы раз з карчмы вечарам, ён сам відзеў, як агністы змей праляцеў ад бору над Шалтуп'ямі да Ружаполя. Гэткі змей, думаў ён, носіць свайму гаспадару ўсякае дабро: збожжа, лён, сена, грошы. Фантазія ў яго галаве расла і расла, і ён, задумаўшыся, ішоў дзе папала, аж пакуль левая нага не паслізнулася і ён з размаху не боўтнуў у ваду. Перш не мог разабраць, што сталася, але ўжо як вылез з вады, тады толькі сцяміў, што, збіўшыся з мэты, трафіў у мачулішча. Мачулішча было неглыбокае, толькі ж выкупацца ў смярдзючай вадзе, дый яшчэ ў сцюжу, было не ўсмак.

– Ах каб цябе трасца трасла на гарачай печцы, – вылаяўся Якуб, і зараз жа перахрысціўся. – Як жа мяне ліха занясло сюды, ужо ці не нячысцікава гэта справа? – са страхам падумаў ён і, звярнуўшы ў старану сваёй вёскі, пайшоў болей асцярожна.

Кажны куст ці курганок, каторыя пападаліся цяпер, пужалі яго. Часам яму здавалася, што недзе хтось стогнець або зноў енчыць, і страх такі агарнаў Якуба, што ён і хрысціўся, і маліўся, аж пакуль усё не прахадзіла і ён не варочаўся зноў да сваіх першых думак.

Нядаўна чуў Якуб ад жабрака, што ў аднаго мужыка каля Друі пасяліліся праклёнышы, і мужык з беднага праз тры гады зрабіўся багатыром. Праклёнышы, казаў жабрак, усю працу каля хаты і ў полі робяць самі і з такім стараннем і знаннем, што ў пяць, а можа і ў дзесяць разоў больш ёсць вызвалкі, як з людской працы. Праклёнышы, тлумачыў ён да́лей, гэта тыя няшчасныя дзеці, каторых бацькі ў ракавую хвілю праклялі. Такія хвілі рэдка бываюць, можа раз у год, але ўсё ж бываюць. І вось незнарокам зляцеўшае з вуст бацькоў пракляцце абарачываець дзіцёнка ў праклёныша, зразу робіць яго невідзімым і дзіцёнак на векі вечныя знікаець. Праклёнышы гэтыя збіраюцца ў гурткі і невідзіма пасяляюцца ў якога-колечы спадабаўшагася ім мужыка і ўсё робяць за яго ў хаце і ў полі. Такому мужыку і ўміраць не трэба.

– Во каб у мяне пасяліліся праклёнышы, тут і граху ніякага няма, – прашаптаў Якуб, узышоўшы на гару, а яму, як бы ў адказ, невядома скуль, ці то з неба, ці то з-пад зямлі, як адгалосак невыразны пракаціўся:

– На ж табе!

І ў гэту ж хвілю Якуб з усіх чатырох валіўся на зямлю, зачапіўшыся за курганок, каторы неспадзеўкі трафіўся пад нагамі.

– А хварэй твая галава! – вылаяўся ён і, сілячыся ўстаць, глянуў уверх і абамлеў: перад ім быў крыж, пастаўлены вісельніку, што летась павесіўся, спужаўшыся кары за нейкія нядобрыя справы.

На Якуба ўжо такі цяпер напаў страх, што ён проста акасцянеў: не мог ні нагой, ні рукой крануць і, як дурны, доўга глядзеў на чуць-чуць прасвятлеўшым небе крыж. Пяялі ўжо другія пятухі ў вёсцы Кавальках, калі ён, апамятаваўшыся хрысціўся і шаптаў:

– Божухна, ты мой Божухна, будзь міласціў!

Пот вялізнымі каплямі выступаў на лбе, валасы, чуваць было, паднімалі шапку, сэрца білася, а сам увесь калаціўся, быццам трасца прыстала. Болі ён ужо не сумляваўся, што выкупаў яго і завёў саўсім у другі бок ніхто другі, як нячысцік.

Магільнік знахадзіўся якраз на другім баку вялікай лагчыны проці Стырбляў, і Якубу адсюль трэба было ісці дахаты не меней, як паўтары вярсты. Якуб так ужо быў настрашан, што ўвесь хмель у яго прайшоў, і ён пёрся дамоў не чуючы пад сабой ног. Не зважаў ужо цяпер на тое, што разоў з дзесяць паваліўся ў гразь і з усіх бакоў абкачаўся ў ёй.

Аднак, калі дабраўся дахаты і калі страх крошку пакінуў, ён рашыў, што не варта ісці ў хату і гэтым будзіць спаўшых. Дый куды ж я такім пакажуся ў хату, падумаў сабе, усе скажуць, што п’яны валяўся, і ніхто не паверыць, што нячысцік усё гэта нарабіў. Пра нячысцікаў жа не дужа-то можна было гаварыць, бо людзі абсмяюць і абгавораць, – скажуць што хэўру з нячыстай моцай звёў. Падумаў, падумаў Якуб, стоячы каля хаты, ды завярнуў у восець.

Ад сцюжы ён ужо дрыжаў, а цяпло восеці так і цягнула да сябе.

Восець Якубу паказалася крошку дымнай і вельмі цёплай, а сноп аўса, узяты палажыць пад галаву, зазімным, але на гэта ён не звярнуў увагі і заваліўся на глінянай гладзі. Праз мінуту ён ужо храпеў і так крэпка, што не чуў, як пасля трэціх пятухоў прышлі Янка і Ганула малаціць авёс.

Дзеці Якуба, прыйшоўшы ў ток, перш усяго запалілі агонь у пячурцы і, агледзеўшыся з усіх бакоў, толькі рукамі ўсплёснулі: авёс, што павінны яны былі малаціць, быў змалочан, звеян, змецен у кучу, а салома і вотрына прыпарадкавана як трэба. Увідзеўшы, што восець насаджана і вытаплена, а бацька крэпка спіць, рашылі, што пэўне ён учора ў карчме за кварту водкі наняў мальцаў і тыя змалацілі. Думаючы так, яны не будзілі бацьку, дый самі паваліліся спаць. Раніцай першым прачнуўся Якуб. Абачыўшы, што дзеці спяць і што восець змалочана і насаджана, здзівіўся і не мог разгадаць, як гэта дзеці ўмудрыліся ўсю работу зрабіць няўзнаку, а глаўнае, вытапіць печ восеці. Але, не ламаючы доўга над гэтым сваёй галавы, ён падзякаваў ім у душэ за працу і ўвагу на яго старасць і пайшоў дахаты.

Увесь дзень прайшоў спакойна, як бы нічога не здарылася.

На другую ноч Якуб з дзяцьмі, як і раней, пайшлі ў ток малаціць. Сам ён стаў раздмухваць прынесеныя з хаты ў гаршку вугалля, і толькі што загарэлася першая трэсачка, як Янка і Гануля ў адзін голас крыкнулі:

– Татка, татка, глядзі, авёс змалочан!

Якуб адвярнуўся і ўвідзеў, што дапраўды авёс змалочан. Бліскавіцай у галаве яго бліснула: ці не праклёнышаў гэта работа, але думку сваю ён затаіў.

У хаце, абедаючы, усе парашылі, што над імі нехта смяецца, і наракалі больш усяго на прыстанскіх мальцаў, бо тыя часта любілі пасмяяцца над кім-нібудзь, толькі жарты іх ані не пахадзілі на малацьбу, а былі дужа ўжо дрэнныя. Але калі зразу тры начы невядомыя малацьбіты малацілі авёс, Якуб стаў думаць, што больш няма каму гэта рабіць, як толькі праклёнышам. Але аб гэтакай дагадцы ён нікому ні слова не гаварыў, яму хацелася ўпярод самому добра ў гэтым праканацца.

Вось на чацвёрты дзень Якуб сказаў сваім хатнім, што ідзець у пушчу, дзе сякуць лес, каб дагаманіцца вазіць бэлькі ў падрадчыка, і што вернецца назад позна ноччу, а можа і раніцай. Прыладзіўшыся нібыццам у дарогу, Якуб забраўся няўзнаку ў восець і праляжаў у ёй цэлы дзень. Як сцямнела, Якуб узлез на страху тока і зробіў у ёй дзюру, каб было відаць усё ўнізу. Хоць страх дужа забіраў, але ён пастанавіў сабе, што будзець чакаць на страсе, пакуль усё не ўвідзіць. Да поўначы аставалася не больш гадзіны. Ціханька прытаіўшыся, Якуб стаў прыслухацца праз зробленую ім у страсе дзюрку. Праз некалькі мінут ён пачуў, быццам ціхі вецярок працягнуў па таку. Якуб зразу абамлеў і ўжо хацеў ціханька спаўзці са страхі і ўцячы, але цікавасць перамагла яго, і ён прылёг галавой да самай дзюры, затаіў дух і стаў глядзець уніз.

А барані Божа, праклёнышы ўвідзяць мяне, гэта ж яны віламі ці цапаўём вочы могуць выкалаць, падумаў ён і ад страху аж крошку адхіліўся ад дзюры. Праз хвілю ўнізу забліскаў агонь. Якуб стаў прыглядацца і ўвідзеў, што ў тым месцы, дзе стаяла лямпачка, хтось раздмухваець вугалля і запаляець яе. Ток скора асвяціўся і Якуб ясна разлічыў мальчыка гадоў дзесяці, прынёсшага з сабой шакалі́, а другіх дзяцей у яго веку, хлопчыкоў і дзевачак, збіраўшыхся на ток. Яўляліся ўсе яны з разных мейсц: з-пад страхі, з пуні, з застаронку, з восеці і проста з усіх куткоў току. Як ні стараўся Якуб увідзець самы мамэнт яўлення праклёныша, яму ўсё не ўдавалася, а што гэта яны былі, ён гатоў быў пабажыцца. Праклёнышы, як відаць было, не хадзілі па гліняным таку, не карабкаліся па сцяне, калі яўляліся зверху, не робілі ніякага шуму, а быццам плавалі ў паветры. Не чуваць было ніякага гоману; выглядалі ўсе яны бледна, як папера. Сабраўшыся каля сарака̀, яны дружна ўзяліся за працу: адны вынасілі з восеці снапы, другія слалі іх на таку, трэція малацілі, і так у паўгадзіны восець была змалочана і ўсё, што трэба, зроблена: і авёс звеен, і салома зложана ў пуню, а вотрына ў застаронак, і восець насаджана, і печ затоплена.

Калі з усёй працай пакончылі, адзін хлопчык сеў на бэльку застаронка, дастаў з-за пазухі нейкі маленькі карчок, пагладзіў яго беленькай, як снег, ручкай, узяў

у губу адзін каранёк і зайграў. Ігра была так чароўна і прыгожа, што Якуб хоць ужо чуць не пяцьдзясят гадоў жывець на свеце, а ніколі не чуў такой музыкі. Дзе з ёй зраўняцца цагельніцкаму Антону з сваёй скрыпкай, ці Юрку з дудой, або Боруху з цымбаламі, навет каб яны ўмясцёх зайгралі, дык і то – куды ім. Ігра перш ціхая, маркотная, чым да́лей, тым весялей рабілася і перайшла на танцы. Хлопчыкі і дзевачкі, пабраўшыся ў пары, пусціліся ў скокі. Скакалі тыя ж танцы, што і жывыя людзі, але ў іх неяк складаней і прыгажэй выхадзіла. Толькі скокі гэтыя не былі чутны, як не чутна была і гаворка іх праміж сябе, а толькі відаць было, як раскрывалі вусны ды часам смяяліся. Пад паследак музыкальны хлопчык зайграў казачка, і маленькія скакуны дробненька пачалі перабіраць ножкамі. Але не доўга прышлося Якубу любавацца скокамі праклёнышаў, скора запяяў першы пятух і яны, як з’явіліся, так і зніклі таемна, а за гэтым і агонь сам сабой загас. Якубу больш нечага было рабіць, і ён, ціханька злезшы са страхі, пайшоў дахаты.

Прыйшоўшы ў хату і запаліўшы лучыну, Якуб разбудзіў усіх хатніх, дастаў з бажніцы крыжок, паставіў яго на стол і запаліў грамнічную свечку. Жонка з дзяцьмі спрасоння нічога не разумелі і думалі, што бацька пэўне сербануў лішнюю чарку – аж розум у яго памуціўся, але зараз абачылі, што той саўсём быў цвярозы, бо вось што прамовіў да ўсіх:

– Прысягніце ўсе, што ніхто з вас нікому ніколі не скажаць пра тое, што ўчуець ад мяне.

– Што ты, Якуб, здурнеў, ці што? Ці ж можна бажыцца не знаючы, што ты скажаш? – адказала жонка.

– А ўсё ж такі ты павінна прысягнуць, што не размелеш сваім бабскім языком пра вялізнае шчасце, што да нас прыйшло, бо ніхто не павінен ведаць пра яго.

Цікавы на ўсё Янка падышоў да стала першым і сказаў:

– Бажуся нікому нічога не гаварыць пра тое, што ўчую ад бацькі, – перахрысціўся і пацалаваў крыжык.

То ж зробіла і Гануля.

Старуха, бачачы, што адна засталася, дый бабская цікавасць пачала забіраць, што скажаць стары, тож пабажылася.

– Ну дык во, слухайце, – сказаў Якуб, – малоцяць у нас праклёнышы.

Пры апошніх словах Янка і Гануля здзіўлена паказелілі вочы, а потым ад радасці чуць не падскочылі, а матка, як стаяла, так і бухнулася на лаўку.

– Ах, Якуб, Якуб! Што ты мелеш? Гэта ж вялікі грэх! – сказала яна.

– Во, дурная, дык дурная! Які тут грэх! Што ты, прасіла іх, ці што?

– Не, мамка, здаецца, тут граху ніякага няма, бо праклёнышы самі да нас прыйшлі, – адазваўся Янка.

Завераная мужам і сынам старуха скора згадзілася на тое, што і дапраўды няма ніякага граху з таго, што праклёнышы малоцяць.

– Татачка, а як жа ты даведаўся пра гэта? – спыталася Гануля.

Бацька стаў расказваць, як ён абмануў іх, сказаўшы, што пойдзець у пушчу, дзе сякуць лес, а сам прасядзеў увесь дзень у восеці, а затым, узлезшы на страху, падгледзеў праклёнышаў праз дзюрку. Усе дужа былі рады, што ўпярод жыццё іх не будзець болей цяжкім і бедным.

Да Каляд праклёнышы скончылі малацьбу, змялі лён і патрошку пачалі памагаць у хатняй працы, бачыш, то дроў насякуць, то вады наносяць, то мукі на жорнах намелюць.

Працаваць не трэба было. Каб не звярнуць на гэта ўвагі суседзяў, Якуб з сынам толькі дзеля прылікі хадзілі ў поле ці ў гумно на работу, бо ўсё за іх рабілі праклёнышы.

Гаспадарства ў Якуба ішло рукой. Дастатак год ад году ўсё павялічваўся. Найбольшы даход Якубу давала зямля, бо збожжа з яе ён сабіраў блізка ў чатыры

разы болей, нічым даўней. Суседзі проста дзіваваліся, за што гэта Бог пасылаець Якубу Курачцы такое шчасце. Здаецца, ён не шчырэй працаваў за іх і зямля тая самая, але бач, саўсём у яго інакш выхадзіла. Яму неяк удавалася і пасеяць у добрую пару, і зямлю падхадзячую выбраць пад усякае зерне, што ні спякоты ні дажджы не псулі росту збожжа.

Прадаўшы раз вясной збожжа, калі яно ўздаражала, і зарабіўшы гэткім спосабам вялікія грошы, Якуб справіў сабе новую маляваную карафашку, дугу і колы каваныя, купіў жонцы і дачцэ чаравікі і рожнай матэрыі на сукенкі, а сабе боты з доўгімі, аж за калені, халявамі, таксама і сыну. Зажыў Якуб, па-праўдзе кажучы, саўсём па-панску.

Цяпер, калі Якуб захадзіў у карчму, Роха ўжо болі не пыталася ў яго грошы, але прасіла садзіцца, як дарагога гасця́.

У Донькі Бахаsucceeded — У Донькі Баханоўскага даўно ўжо свярбеў язык сказаць пра Якуба, што той быццам знайшоў грошы ў крыніцы пад магільнікам і т. п., ды баяўся праз гэта страціць у Якуба ласку, бо траплялася не раз каштаваць яго гарэлку.

Прайшоў яшчо год. Якуб проста козырам хадзіў. Дакупіў яшчо каня і дзвёх кароў, а пра дробную жывёлу і казаць няма чаго.

Увосені заручыў Ганулю за добрага мальца, дый і Янку збіраўся ўжо жаніць, бо што ж, дастатак быў. Але якраз у гэты час няшчасце неўспадзеўкі зусім сапсавала інтарэсы.

Здарылася так.

Якуб часта падглядаў праз дзюру ў страсе за малацьбой праклёнышаў, і вось раз яму дужа захацелася злавіць хоць аднаго з іх, але, думаючы, што жывога не ўдасца злавіць, яму знянацку прыйшла ў галаву шалёная думка забіць аднаго праклёныша. Вядома, што такая думка не магла быць ад Бога, Якуб гэта і сам ведаў, але, як не пярэчыўся ёй, нічога не мог зрабіць, кажную мінуту нешта яго паддзыгвала на гэту зброднюю. Колькі разоў ён навет маліўся Богу, каб згінула гэта думка, але і малітва не памагала.

Паказваючы раз від, што папраўляець страху тока, Якуб прадзёр у ёй вялікую дзюру, якраз проці дзвярэй восеці, усцягнуў туды агромны камень і так прыладзіў, што яго можна было ў адну хвілю скінуць уніз. Крадучыся ад хатніх, Якуб ноччу ўзлез на страху і стаў чакаць. Скора з'явіліся праклёнышы і, змалаціўшы восець, пачалі яе насаджваць. Работа бліжылася к канцу, а Якубу ніяк не ўдавалася споўніць сваю шалёную думку, усё ніяк ніводзін з праклёнышаў не астанаўліваўся пад каменям. Але вось адзін хлопчык, нёсшы сноп жыта, заплутаўся ў саломе якраз пад дзюрой і астанавіўся, каб выплутаць нагу. У гэты мамэнт Якуб, відаць падтоўхнуты нячысцікам, скінуў камень. Камень валячыся чуць-чуць крануў плячо праклёныша і з нейкім глухім грукам, як змёрзшы ком зямлі па веку труны, стукнуўся аб гліняны ток. Не паспела яшчэ гэта стацца, як ужо Якуба аглушыў страшны грокат перуна.

– Дурань! Ха-ха-ха! – засмяяўся нехта падземным голасам.

Скрыўджаны праклёныш падняў галаву, глянуў уверх, і ўзгляд яго спаткаўся з узглядам Якуба. У вачах праклёныша відзець можна было ў гэту пару такую вялікую крыўду і разам пагарду, што Якуб не вытрымаў і са стыду адхіліўся ад дзюркі. Скора стыд змяніўся страхам, валасы дубам сталі, а па ўсяму целу забегалі мурашкі. У гэты час праклёныш з усяго размаху кінуў сноп жыта ў тапіўшуюся ўжо печ. Плач і жаласны стогн усёй грамады дзяцей патрос ток і далёка аддаўся за яго сценамі. Усё знікла, толькі полымя ад гарэўшага снапа з іскрамі вырвалася з печкі і запаліла насаджаныя на жордках снапы. Не паспеў Якуб спаўзці са страхі, як заняло ўжо ўвесь ток. На бяду ўзняўся яшчэ і вецер і перакінуў агонь на другія будынкі.

Злезшы са страхі, Якуб доўга стаяў, як адурнеўшы, і не ведаў, што дзеецца

і што рабіць. Крыкі ад хаты збудзілі яго, ён азірнуўся і ўбачыў, як яго жонка, звар'яцеўшы з супуду, крычала і кідалася ў разныя бакі. Сын і дачка праставалосыя стаялі і плакалі з гора. Не прайшло і гадзіны, як увесь дастатак Якуба пайшоў дымам.

Што рабіць? Куды ісці? Не было рады.

Відзячы такое гора, мужыкі з вёскі Кавалькоў зжаліліся над няшчаснымі і далі Якубу і яго сям'і тымчасовы прытулак.

Але нічога не памагала, усё ішло да астатняга ўпадку: жонка з супуду захварэла і праз тыдзень памёрла, Янка пайшоў у салдаты і там як бы згінуў, не даўшы аб сябе ніякай весці, а Ганулі, пра вяселле каторай цяпер і думаць нечага было, пайшла ў горад шукаць службы, дый тож не вярнулася да бацькі. Хадзілі чуткі, быццам яна трапіла ў вясёлы дом, дзе навекі згінула.

Ішлі гады. Якуб тужачы па прошлым жыцці, многа разоў хадзіў на тое месца, дзе была яго сяліба, маліўся, плакаў, убіваўся, прасіў праклёнышаў даравацьяму віну, але нішто не памагала, ніхто не адзываўся на яго стогны. З вялікай бяды ён саўсём асунуўся і зап'янстваваў.

На запусты крэпкі стаяў мароз. Якуб, добра пагрэўшыся гарэлкай, вельмі сумрачны выйшаў з карчмы. Якімі думкамі ў гэту пару была занята галава Якуба, што задумаў рабіць і куды ісці, ніхто не цікавіўся. Толькі назаўтра пайшлі ўсякія гаворкі, калі знайшлі яго прымёрзшым праміж двух каменняў на ляду тэй самай крыніцы, пры якой ён, як думаў Донька, знайшоў грошы. Галава яго была апушчана над цёкшай вадой, а сам, здавалася, быццам жаліўся крыніцы на сваю долю.

Так кончылася незавіднае жыццё Якуба Курачкі.

* * *

На месцы згарэўшых Стырбляў ніхто не будаваўся, стаяць тут толькі сталетнія вязы ды ліпа, пажар каторым не зашкодзіў. З другога боку тож адмянілася: карчму пярун спаліў, а на месцы вёскі Кавалькоў нейкі пан пабудаваў двор. Толькі адна крыніца, месца смерці Якуба Курачкі, не змяняець выгляд; зімой і летам, як і раней, ціха шэпчаць яна сваімі светлымі, як крышталь, струямі, быццам расказваючы астатнюю жальбу збеджанага горам Якуба.

*Падрыхтоўка тэксту да друку Юрася ПАЦЮПЫ*

юбілей

## Міхась Кавыль



...Я – жабрак, беспрытульны бадзяга,
З роднай хаты прышэльцам прагнаны.
Як жа піць бестурботнасці брагу,
Калі стогне мой край зрабаваны?..

# Жыцця няўтоленая смага

***Выбраныя вершы***

### Кавыль – сімвал нязломнасці

Даволі дзіўнае адчуванне ўзнікае, калі набіраеш на кампутары верш 1932 года і ў той жа час ведаеш, што аўтарава дыханне яшчэ грэе свет жывых. У далёкім ад Беларусі Саўт-Рыверы збярэцца грамада да аднаго дому невядомай мне канструкцыі і пабудовы – каб павіншаваць свайго паэта: Міхась Кавыль, Язэп Казіміравіч Лешчанка адзначае свой 100-гадовы юбілей. Нарадзіўся ён, адпаведна, у 1915 годзе, у першы дзень першага месяцу зімы, у адной з сялянскіх хатаў случанскай вёскі Покаршаў. Хадзіў вучыцца ў школкі большых за родную вёсак – у Грэск і Грозава. У тым самым славутым Грозаве, за які год да таго як выправіцца будучы паэт на вучобу, арганізуецца Грозаўскі полк слуцкіх паўстанцаў.

1930 год стане для беларускай гісторыі чорным часам – разгорнецца справа “Саюза вызвалення Беларусі”, будзе арыштаваная і зацяганая на допыты фактычна ўся нацыянальная інтэлігенцыя: дзясяткі й дзясяткі паэтаў, празаікаў, крытыкаў,

*Укладальнік падборкі – Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ.*

навукоўцаў атрымаюць неўзабаве першыя тэрміны высылкі і лагероў. Для случака Язэпа Лешчанкі гэты год стане шчаслівым; пазней, у сваіх успамінах, будзе ён прыгадваць, як маліўся, укленчыўшы перад абразом Багародзіцы, пра тое, каб паступіць у менскі Белпедтэхнікум, і як мара ягоная спраўдзілася. Вучыцца ён разам з беларускімі літаратарамі Сяргеем Астрэйкам, Уладзімірам Гуцькам (Дудзіцкім), Францам Гінтаўтам, Лукашом Калюгам, Уладзімірам Сядурам. Уступае ў літаратурна-мастацкае аб'яднанне "Маладняк" і друкуе ў аднайменным часопісе першыя свае вершы. Разам з тым, надыходзяць і дні смутку: недзе зусім побач адбываюцца арышты, ходзяць чуткі пра тэхнікумаўскіх сэксотаў, урэшце яго самога заводзяць у дом ГПУ і змушаюць да вярбоўкі і стукацтва на сваіх сяброў. Пасля адмовы Кавыля станавіцца сэксотам праходзіць зусім няшмат часу, і аднойчы, а менавіта 23 лютага 1933 года на святочных танцах у клубе, да яго звяртаецца вайсковец і патрабуе выйсці на двор. Паэт нават не збіраецца браць паліто, але "дабрачы" чэкіст пераконвае яго апрануцца, бо "можна прастудзіцца". За гэтым – агаламшальнае паведамленне пра арышт, сухая галадоўка, "амерыканка", камера, поўная напаўзвар'яцелых смяротнікаў, падступнае ілжывае следства і – тры гады канцэнтрацыйных лагероў.

Збылося прароцтва цыганкі, якая зайшлася ў хату Лешчанак перад ад'ездам Язэпа ў Менск, сапраўды чакалі на яго "казённы дом і далёкая дарога". 30 дзён у прадзіманым вятрамі і дарэшты запоўненым вагоне, без дроваў для печкі, з пайкай селядцоў, але без вады. Урал, Сібір, Новасібірск, Нікольск-Усурыйск, Сядан. Далёкі Усход, дзе, дзякуючы малаадукаванай сакратарцы ГУЛАГа, не разабраліся: 74 артыкул крымінальнага кодэксу БССР азначаў "контррэвалюцыю", а Кавыля запісалі па ўсесаюзным 74 артыкуле – "хуліганства".

Амаль тры гады "маладняковец" Язэп Маёвы валіў лес, рабіў дошкі на пілараме, будаваў дамбы на рэках Далёкага Усходу, вывозіў тачкамі зямлю, вырабляў цэглу для ваданапорных вежаў, якую даводзілася выцягваць з пякельных лагерных печаў проста рукамі, абернутымі ў старыя рукавіцы; закладаў аманал ва ўладзівастоцкія сопкі, вісячы ў паветры на чэсным слове турэмнай вяроўкі. Аднойчы ж нават змушаны быў намаляваць тушшу 18 партрэтаў наркама ўнутраных спраў Генрыха Ягоды. Урэшце, не адбыўшы да канца свайго тэрміну, быў вызвалены.

Далей чакала кароткае падарожжа на Радзіму, адзін дзень у роднай вёсцы і пасяленне ў Варонежы, далей ад Беларусі. Адным вокам убачыў Кавыль на сцэне варонежскага тэатра ў 1936 годзе ссыльнага Восіпа Мандэльштама. Паслухаць выступ расійскага класіка не ўдалося: зала была запоўненая цалкам. У Варонежы вучыўся на настаўніка, працаваў на заводзе, а неўзабаве быў прызваны на фронт, дзе трапіў у палон і вярнуўся ў Беларусь працаваць у беларускіх арганізацыях пад нямецкай акупацыяй. Як і тысячы іншых беларусаў, з веданнем, што яго чакае пасля вайны, вырашыў не заставацца ў Беларусі і паехаў у эміграцыю. Дзе, зрэшты, і нарадзіўся нанова як паэт.

Блуканне па пакутах, вечнае вандраванне, цяжкая фізічная праца ўспрымаліся ўжо як этапы паэтычнага шляху. Першая кніжка вершаў "Ростань" (1947) выйшла ў лагеры для перамешчаных асобаў у Рэгензбургу. Другая, "Пад зорамі белымі" (1954), у Нью-Ёрку, трэцяя, "Першая рана" (1960), у Манчэстэры. Чацвёрты тамок вершаў, "Цяжкія думы" (1961), складзены з цвёрдых паэтычных формаў, пабачыў свет у Саўт-Рыверы. У сярэдзіне 1950-х крытык і ідэолаг амерыканскай эміграцыі Антон Адамовіч намаўляе Кавыля на складаную паэтычную форму, нечуваную для беларускай паэзіі – вянок санетаў. У 1956 годзе Міхась Кавыль, у супрацы і пад шчыльнай рэдактурай Адамовіча, заканчвае свой першы вопыт у гэтай форме – твор "Цяжкія думы", спаборнічаючы ў гэтым з Алесем Салаўём, які дасылае з Аўстраліі фрагменты свайго "вянка". Але і без увагі на класічныя вершаваныя памеры Кавыль стаецца адным з самых цікавых паэтаў на эміграцыі,

што выразна засведчыў аднатомны збор яго твораў “Міжагнёўе”, выпушчаны Беларускім Інстытуам Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку ў 1990 годзе.

100 гадоў Язэпу Лешчанку, Язэпу Маёваму, Міхасю Кавылю! Шчыра віншуем беларускага чытача і беларускую літаратуру з гэтай сапраўды знакавай датай. Ніжэй прапануем выбраныя вершы апошняга беларускага “маладнякоўца”, праўдзівага патрыярха беларускай паэзіі.

**Ціхан ЧАРНЯКЕВІЧ**

### *ІДЗІ, ІДЗІ…*

Упала ноч.
Як эдэльвайсы, зоры
цвітуць над Альпамі.
Аскепак-маладзік
у неба ўрэзаўся.
Блакітнае на горы
імжыць святло.
А ты ідзі, ідзі...
Якая ноч!
Як у святыні, ціха
і урачыста.
На калені упадзі.
Вунь там агонь міргае...
Шчасце з ліхам
Кладуцца спаць...
А ты ідзі, ідзі...
Трывожыць ноч,
як смерці жах мінулы,
і прышласць мроіцца,
як недабіты дзік.
Нібы агонь,
няўсподзеў шуганула
жаданне жыць.
Каб жыць,
ідзі, ідзі...
Разбілась ноч,
і зазвінелі зоры.
Прамень, як штых, бліснуў...
І маладзік
збляднеў,
самлеў.
Ружовае на горы
імжыць святло.
А ты ідзі, ідзі...

*1944-1952*

## З ПРАСТОРАЎ

Белыя, белыя
вішняў пялёсткі
ціха апалі,
упалі на хвалі.
Пенна успенены
срэбныя ўсплёскі
далі хапалі,
хвалі імчалі.
Ціха, панадна
мятнуўся вятрыска,
У вуха дзьмухнулі мне
песні.
Прынеслі іх
ветры суладна з прастораў,
дзе пырскаюць
смешкі уцешныя
пышнай машыны.
Тонкімі ценямі
тэнар цягнуў,
яго воласам голас
увысь узвіваўся.
Альтамі сталь там
у далі прапела,
свежая свежасць
у бязмежжа лілася.
Посля кагосьці
магутныя грудзі
бурай рванулі,
гукнулі угруні.
Далей...
Апалі,
на хвалі упалі
вішняў пялёсткі.
Хвалі імчалі...

*1932*

## ПАДЗЯМЕЛЬНАЯ ПЕСНЯ

На зямлі мне і душна, і цесна;
Пад зямлёю душней, ды прасторней.
Падзямельная ціхая песня
Супакоем мне сэрца агорне.

Лямпы-znічкі, падземныя зоры,
Ў сутарэнні паблісквають здрадна.

Даламітныя рушацца горы,
Мне насустрач ідзе непрагляднасць.

Не праспекты суворыя штрэкі,
Не на йгрышча іду я у ручу –
Нада мною вазёры і рэкі,
Пада мною агонь неўміручы.

Патаёмнасць і веліч тварэння,
Даламіты і вугальны камень...
Не, не час, а магутнейшы геній –
Бог стварыў усё зямное рукамі.

Гэтай думцы было калісь цесна
Ў галаве маёй, зараз – прасторней.
Падзямельная ціхая песня
Супакоем мне сэрца агорне.

*1947, Бельгія*

* * *

Дзень замкнуў залатую браму
І ключы захаваў у хмарах;
У суцішна-трывожную гаму
Уключаюцца сэрца ўдары.

Невідомыя граюць музыкі
Непісаныя псальмы прэлюдый.
Падымаецца месяц вялікі,
Спаць кладуцца малыя людзі.

Гэтак проста ўсё і складана,
Даўніну пазнаём мы па скрыптах,
Ды стаяць, не плывуць ў акіяны
Караблі ў пірамідах Егіпту...

*1954 г.*

* * *

Я ішоў па краі прадоння,
Я ступаў на збутлелыя скалы;
Здані з радасці білі ў далоні,
Злыдзень зубы нячыстыя скаліў.

Не баяўся я смерці, а неяк
Затрымаўся ля самай магілы...

Над прадоннем, мярлогаю змея,
Матылёк праляцеў белакрылы.

### СОН

Такое часам страшнае прысніцца:
Нясуць труну нябожчыкі маю,
І сам сябе я суправоджу, быццам;
Пяю і плачу, плачу і пяю.

І грымнуў перун. Палыхцяць пажары.
Стаю адзін руйновішчаў паміж.
А нада мной на сіне-чорнай хмары
І блісне меч, і зазіяе крыж.

*28 сакавіка 1955 г.*

### МАЎКЛІНЯ

Баюся ў моўкны мой пакой заходзіць,
Хто скажа – трус... А я прайшоў агні.
І супакой – знаходзіў у прыгодзе,
Чакаў, бы вязень волі, маўкліні.

Тады, як неба на зямлю йшло ў наступ,
Хрысцілі высь пражэктараў нажы, –
Я прабіраўся, што вужака, пластам
У тыл варожы... Вось тады я жыў.

Тады затоеным я жыў дыханнем
І прагна піў маўклівасць зораў, ніў.
Ды перажыў раз маўкліню канання...
Маўклівіць ноч. Баюся маўкліні.

*21 траўня 1955 г.*

### У СВЯТЫНІ

У Невадзе дыміцца трава,
Лёд кіпіць у паўночнай стыні...
Дзе дрыготнае цела схаваць,
Дзе душу адагрэць? У святыні.

Славіць Бога суладны хор...
Я прыпомніў далёкія сіні,
Раскулачванне, арышты, мор
Ды гульню басаты ў святыні.

Прападзі ты, разбойны род.
Дзякуй Богу за кут на чужыне.
Выдавалі нас гіцлям на звод.
Ратаваліся мы ў святыні...

«Знойдзем вас пад зямлёю», – крычаць.
Кроў у сэрцы часамі стыне.
Крыжа злыдзень баіцца. Мяча
Не падыме нясмелы. А ў сіні
Свішча «спутнік»... Трывога, адчай.
Сходзіць свет перуновым клінам...
Дзе Адама нашчадкам спынак?
– У імя Айца і Сына...

*1957 г.*

## ВІЛАНЭЛЬ

З табою быў я справядлівы.
Прайшоў па сэрцы дзідай час,
Цяпер я грэшны, нешчаслівы.

Ці раз я чуў твой смех глумлівы
І дакараў сябе ці раз.
З табою быў я справядлівы.

Мяне вялі душы прылівы,
Святых надзей агонь не гас.
Цяпер я грэшны, нешчаслівы.

Пад'юджваў юны дух гуллівы,
Ў прарокаў багне часта граз.
З табою быў я справядлівы.

У сне лавіў твой цень трымслівы,
Насіў партрэт твой на паказ.
Цяпер я грэшны, нешчаслівы.

Паблытаў сцежкі век імклівы,
Кахання слодыч – не для нас.
З табою быў я справядлівы,

Цяпер я грэшны, нешчаслівы.

*1957 г.*

* * *

Варожыць ноч, смуглявая цыганка,
На трэфах зор сівых вякоў спакон.
Не спіцца мне. Блакітная фіранка
Казыча скроні. Звонкамі вакон
Глядзяць дамы трывожна, таямніча,
Палошча вецер ночы чорны шаль;
Мільгае ў небе срэбра і крышталь,
Мільгнеш і ты ў вечнасць зоркай – знічам.

*1959 г.*

## МЭТА

Гараць агні. Зацьміла сонца згага,
Губляецца ў тумане небасхіл,
А мы ідзём, трымаем раўнавагу,
Ды падаюць знямоглыя без сіл.

А мы ідзём, імпэтам гоім раны,
Утолім спрагу горкую расой.
О, цудаў свет! О, край укрыжаваны!
Хто вас спавіў пакутай і красой?

Далёкі шлях, а мэта бліжай, бліжай,
Гараць агні, знаёмыя агні...
Няхай маланка нашы слёзы ніжа
І зорамі рассыпле ў вышыні.

## НЕ СТЫГНЕ ВОЙНАЯ АДВАГА

*Уладзіміру Пелясу*

Не стыгне войная адвага,
Паходаў дальніх сняцца сны;
Жыцця няўтоленая смага
Прыгодаў гойдае чаўны.

Вятры сустрэчныя скуголяць,
Грымотны блізіцца уздых...
Ці шторму буйная сваволя
Спраможа поступ маладых?

Ад смелых рызыкі, натугі
Скрыгочуць крыкі леднікоў...
Крывёй абмытыя ратугі
Пад ногі вымасцім вякоў.

Паходні жужлай не сатлелі,
Наш гарт змагарны не асмяг;
Шрапнэллю шытыя шынэлі
Не кінем з ганьбай у кустах.

Мы не шукаем Тропік Рака –
На штурм уснадзім караблі
І кінем зноў вандроўны якар
У бухце Сонечнай Зямлі.

### *У АКІЯНЕ*

Вецер-смык на струнах-тросах
Грае дзікія факстроты.
Як дазоры, альбатросы,
Нібы здані, шчоглы-гроты.

Акіяну й неба шэрасць,
Маракі наўкол паселі.
Дзень і ноч калоціць, мэрам
На шалёнай карузэлі.

Раптам кіне, нібы з кручы,
Скрыгане, як сталь у жорнах.
Як у пекле тым кіпучым,
Круціць, верціць, бела, чорна...

Паўтарацьмеш безупынна,
Як вар'ят той загайданы –
Ўсе пяскі збяру з пустыняў
І засыплю акіяны...

*27 лютага 1950 г. Атлантычны акіян.*

### *ПРЫСТАНЬ*

Палахліва у вады люстэрцы
З неба сіняга глядзяцца зоры.
Карабель стаіць. Стальное сэрца
Б'ецца ціха. У тумане горад,
Нібы здань. І вецер не скіголіць.
Абнялося з прышласцю сягоння.
Я і мары. Ды Статуя Волі
Насупроць з запаленай паходняй.

*1950*

## НЮ-ЁРК

Ботам каменным упёрся ў воду,
У зямлю другім, стаіць і марыць,
Голаў узняўшы за хмары,
Горад няўзгодаў, горад прыгодаў.

Прыстань вятроў, акіяну хваляў,
Сімфонія фарбаў, бетону, сталі...
Горад мільённагаловы, мільённавокі
Грудзі падставіў ветрам шырокім.

*1950*

## ШЧАСЦЕ

Я за шчасцем па ўхабах зямлі
І цвярозы бадзяўся, і п’яны...
Залатых міражоў караблі
Адплылі, адплылі ў акіяны.

Да апошняе прыстані крок,
Не ў кішэні душа і жаданні.
Тваё мейсца, паэт і прарок, –
Пад платамі з галотай буяніць.

Не табе, не табе сумаваць,
Не усё і ў палацах суцешна.
Мяне будуць вятры адпяваць –
Мне й тады будзе крыху смешна.

## НОЖ

Не з нягнуткай сталі, з серабра
Ён адліты. Год яму ці мала.
Колькі раз яго у рукі браў,
Над сталом схіліўшыся, Купала.

Разразаў пяшчотна «Кабзара»,
Вершы Гётэ, томікі Лангфэла...
За вакном крывавая зара
Над зямлёй спалоханай зырэла.

Здрыгануўся. Смерць у тыя дні
І касой махала, і сякерай.
Але нож не можам мы вініць:
Ён не быў і сведкам харакіры.

Зазвінеў і змоўкнуў на стале.
Шуганулі шэрыя шынелі...
Як паэт скрываўлены самлеў,
Серабра усхліпы патускнелі.

З той пары лагодная рука
Яго доўга, доўга не кранала.
На ліхую долю наракаў,
Над сталом схіліўшыся, Купала.

Серабро свяцілася зырчэй,
Як, бывала, моладзь завітае
І віно ў кілішкі пацячэ...
О, бурштыну песня залатая!

Толькі ў тую чэрвеньскую ноч,
Як пярун быў джвагнуў перад раннем,
І Купала выбіраўся ўпроч, –
Не прыйшоў ніхто на развітанне.

Кінуў дом паэт і серабро
І пайшоў ад смерці ў рукі смерці.
Толькі нож мо й бачыў, як дабро
Узнялося ў неба чорным смерчам.

Шмат чаго ён бачыў. Не прасем –
Ні аб чым не здрадзіць да скanання;
Таямніцы ў неведзь панясе
У сваім сярэбраным маўчанні.

*1953*

## *НІРВАНА*

Я ніколі не буду Будам:
Просяць помсты балючыя раны.
Па зямлі маёй блудзяць прыблуды –
Як жа мне спачываць у нірване?

Я – жабрак, беспрытульны бадзяга,
З роднай хаты прышэльцам прагнаны.
Як жа піць бестурботнасці брагу,
Калі стогне мой край зрабаваны?

Мне палацаў, ні славы не трэба.
Я й пад плотам сабе нагарода.
Але бачу насупленасць неба,
Чую енкі майго народу...

І пакуль не адпомшчу прыблудам,
Не ўтаймую балючыя раны, –
Я ніколі не буду Будам,
На зямлі не знайду нірваны.

* * *

Усе як людзі: спяць, нахлыне змрок,
істужкай сноў ружовых вяжуць з светам
нялёгкай прошласці і прышласці прыкметы,
а ў ціхаце зашарахціць ледзь крок

цяжкога дня – ў бурлівасці заток
ідуць лавіць запал, дарунак лета,
і дыхаць водарам духмяных кветак,
плясці надзей вузорчаты вянок.

Ды толькі ты, бядак – палонны ночы.
У тваім сэрцы шасцярні грукочуць,
бяссонне нервы круціць, бы той дрот.

Адна уцеха – дзіўныя прывіды:
удаву чорнаму шпурляе ў рот
на золку сонца агнявыя дзіды...

*1959*

* * *

Яшчэ снягоў не выкіпела пена,
вятры ільдзінак зорных не змялі,
а ўжо бруіцца па бярэзін венах
прыглушаная музыка зямлі.

Шпурнуўшы ў сінь праменне-камертоны,
гарыць агнём няўрымсным дырыжор.
Яшчэ часіна – перуноў трамбоны
удараць марш вясновы з рэ-мажор.

Лясы спрасоння зашумяць: «Дзе лісце?»
Зямля нап’ецца сонца і вады.
Паймчацца рэчкі ў эстафетны высціг,
у белай радасці закружацца сады...

*1963*

### *СЯСТРЫ*

Далёкая каханая сястра!
Ці помніш ты, як змеі-бліскавіцы
саджалі джалы ў жыта ды пшаніцу,
хвастамі росы абсякалі з траў?

Як неба ніву гром-пярун араў,
і я ў спалосе долу падаў ніцам?
А ты не ўмела «Айчанаш» маліцца,
дык ціхай песняй адганяла страх?

З тае пары колькі разоў грымела.
Мо не паверыш, але стаў я смелы:
ўжо не дрыжу, бы ўзімку верабей.

Ды вось, як толькі блісне, загрукоча,
замкнуцца самі неяк хутка вочы,
і ўбачу поле, гурт авец, цябе...

*1969*



Ціхан Чарнякевіч



...як літаратарка Святалана Алексіевіч, безумоўна, пакліканая да жыцця беларускай літаратурнай традыцыяй...

# Галасы Утопіі эпохі second-hand

***Творчы партрэт Святланы Алексіевіч***

***8 кастрычніка ўвесь свет абмяркоўваў гэтую навіну: лаўрэатам Нобелеўскай прэміі па літаратуры ў 2015 годзе названая беларуская пісьменніца Святлана Алексіевіч "for her polyphonic writings, a monument to suffering and courage in our time" ("за яе паліфанічную творчасць, помнік пакутам і мужнасці ў наш час"). Сама фармулёўка і цяпер спараджае нямала пытанняў, у першую чаргу – што маецца на ўвазе пад "polyphonic writings" і як гэты тэрмін суадносіцца з паняццямі "вербацім", "вусная гісторыя", "кампіляцыя інтэрв'ю" (так характарызуюцца кнігі Алексіевіч у англійскай Вікіпедыі), "рэпартаж" і наагул "нон-фікшн".***

З часоў Уінстана Чэрчыля, уганараванага прэміяй (1953) за свае мемуары, аўтар нон-фікшн упершыню атрымлівае гэтую прэстыжную ўзнагароду. Для Беларусі ж найбольш важна тое, што нашая краіна становіцца "нобелеўскай", паў-



*Святлана АЛЕКСІЕВІЧ.*

напраўна трапляе на сусветную літаратурную мапу. Размовы аб прыналежнасці ці непрыналежнасці Алексіевіч да беларускай літаратуры мусяць скончыцца, раз шведскія акадэмікі атэставалі яе менавіта так. Поспех Алексіевіч, бясспрэчна, працягвае і завяршае "набеліяду" Васіля Быкава, які прэміі не прычакаў.

Сёння метад Алексіевіч дастаткова трывалы і завершаны. Ягоная прыгажосць – у паслядоўнай жанравай сінтэтычнасці, вельмі характэрнай для літаратуры постсавецкіх краін наогул і, мабыць, не вельмі зразумелай у Еўразвязе. Гэта звязана з даўнішняй традыцыяй некамерцыйнасці літаратуры. 25 год пасля распаду Савецкага Саюза пісанне і выданне кніг у Беларусі адбываецца па-за рынкавымі правіламі попыту і прапановы. Адпаведна, аўтары арыентуюцца толькі на ўласны ўнутраны досвед, не прыстасоўваюць свой метад і свае літаратурныя праекты да вымогаў чытача, крытыка ці выдаўца.

Як літаратарка Святалана Алексіевіч, безумоўна, пакліканая да жыцця беларускай літаратурнай традыцыяй эпохі БССР. Найважнейшым імпульсам для яе сталася творчасць беларускага пісьменніка, літаратурнага крытыка, вельмі актыўнага грамадскага дзеяча 1980-х Алеся Адамовіча. Эксперыментуючы з інкарпарацыяй рэальных дакументаў ва ўласную мастацкую прозу, ён прыходзіць да важнасці фіксацыі літаратарамі рэальнага жыццёвага досведу іншых людзей, важнасці так званай "магнітафоннай літаратуры". У знакавым эсэ "Дык рабіце звышлітаратуру!" Адамовіч сцвярджаў, што час мастацкай літаратуры заканчваецца, наступае перыяд гісторыі, калі чалавека, закасцянелага ў спажывецтве, будзе ўражваць толькі звыштрагічная дакументальная праўда. Разам з Янкам Брылём і Уладзімірам Калеснікам Алесь Адамовіч у 1970-1973 гг. ствараe рэпартаж-фотаальбом "Я з вогненнай вёскі...", для якой аўтары апытваюць жыхароў 147 спаленых у ІІ-ю сусветную вайну беларускіх вёсак, непасрэдных сведкаў, цудам ацалелых ад масавага знішчэння нацыстамі. У 1977-1981 Адамовіч задумаў і ажыццявіў разам з рускім пісьменнікам Даніілам Граніным яшчэ адзін праект "магнітафоннай літаратуры" – кнігу сведчанняў пра блакадны Ленінград (цяпер Санкт-Пецярбург). Абедзве кнігі зазналі жорсткі прэсінг з боку партыйных ідэолагаў. "Я з вогненнай вёскі..." цэнзуравалася і рэдагавалася вышэйшым партыйным кіраўніцтвам Беларусі, а "Блакадная кніга" была дазволена да выдання толькі ў 1984 годзе, калі ў Ленінградзе змянілася партыйная "вярхушка". Прычына цэнзу-

равання і забароны палягала ў пасяганні Адамовіча і яго суаўтараў на ідэалагічны канструкт "усеагульны гераізм савецкага народа" ў час вайны. "Магнітафонная літаратура" спускалася да канкрэтнага чалавека, прыватных выпадкаў, да эмоцый і перажыванняў простых людзей. Тым не менш, змагаючыся з ідэалагічнымі штампамі, праекты Адамовіча не былі ў сутнасці сваёй антысавецкімі.

Святлана Алексіевіч пачынае сваю дзейнасць як журналіст-рэпарцёр. Тут варта адзначыць яе працу пасля заканчэння ў 1972 годзе факультэта журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. У 1973-1976 гг. яна працуе ў агульнарэспубліканскай «Сельскай газеце», а ў 1976-1984 гг. – у аддзеле нарыса і публіцыстыкі прэстыжнага літаратурнага часопіса «Нёман». За гэтыя адзінаццаць год яна авалодвае жанрам нарысу, вельмі распаўсюджаным у савецкі час і практычна зніклым у Беларусі сёння. Гэты жанр можна параўнаць з традыцыяй польскага рэпартажу XX стагоддзя, не забываючы аднак, што савецкі нарысіст мусіў дзейнічаць у межах дазволенага ідэалагічнымі службамі – значна больш вузкіх, чым у Польскай Народнай Рэспубліцы. Далёка не ўсе тэксты Алексіевіч 1970-х гадоў могуць сёння перадрукоўвацца без падрабязнага каментарыя гісторыкаў-саветолагаў. Тым не менш, нарысы і рэпартажы Алексіевіч з вёсак маюць у сабе адзнакі яе будучага пісьма: трывалая ўвага да дакладнай перадачы індывідуальнага маўлення, падкрэсліванне дробязяў, адштурхоўванне ад рыторыкі «адзіна магчымага пункту погляду», стварэнне эфекту прысутнасці.

Першая кніга Святланы Алексіевіч, якая так і не выйшла, называлася "Я з'ехаў з вёскі". Ужо з гэтай кнігай будучая лаўрэатка Нобелеўскай прэміі трапляе ў цэнтр скандалу і зарабляе сабе статус "нядобранадзейнай". Рэпартаж "Я з'ехаў з вёскі", звярстаны для публікацыі ў мінскім часопісе "Нёман" і маскоўскім часопісе "Новый мир", так і не з'яўляецца ў друку: на яго накладае забарону асабіста сакратар Цэнтральнага Камітэта беларускай кампартыі Савелій Паўлаў. Рэпартажы Алексіевіч карэлявалі з тагачаснай беларускай мастацкай прозай, дзе актыўна абмяркоўвалася праблема міграцыі вясковага насельніцтва ў горад. Для вяскоўца ў Савецкім Саюзе гэта была сапраўды праблема, бо жыхар вёскі меў толькі фармальнае права на выезд і на змену працы. Дэ факта, каб атрымаць пашпарт і выехаць, ён мусіў атрымаць дазвол мясцовай улады. Толькі моладзь, якая ішла на абавязковую службу ў армію, атрымлівала пашпарт на рукі і такім чынам абыходзіла забарону на выезд з вёскі – імкнулася пасля службы ў арміі застацца ў горадзе на якой заўгодна працы. Святлана Алексіевіч нарадзілася ва ўкраінскім Івана-Франкоўску ў сям'і чырвонаармейца – удзельніка II-й сусветнай вайны, што чакаў дэмабілізацыі – аднак ужо на другім годзе жыцця сям'я Алексіевічаў пераехала на радзіму бацькі, у глыбінку балацвянага беларускага Палесся. Рэпарцёрка правяла ў невялікай вёсцы ўсё сваё дзяцінства і юнацтва, таму вельмі добра ведала тэму, якой прысвяціла сваю першую кнігу. Тым не менш – была абвінавачана ў скажэнні рэальнасці і "неразуменні аграрнай палітыкі Савецкага Саюза". Пазней, калі ў часе кіравання Гарбачова была абвешчана дэмакратызацыя, Алексіевіч вырашыла не выдаваць сваю першую кнігу, бо за гэты час вырасла як мастак і рэпартаж "Я з'ехаў з вёскі" не задавальняў яе эстэтычна.

Ад самага пачатку ў прозе Алексіевіч намацвалася непрыманне ідэалагічных дыёптрыяў. Вычувалася глухое і патаемнае супрацьстаянне "навабранца" наяўнаму складу і ладу падкантрольнай літаратуры і ейнай міфалогіі. Гэта вельмі моцна праявілася ў першых трох кнігах Алексіевіч, выдадзеных яшчэ за савецкім часам: "У вайны не жаночы твар" (1985), "Апошнія сведкі" (1985) і "Цынкавыя хлопчыкі" (1989).

Вайна трактавалася афіцыйным савецкім мастацтвам (і літаратурай як складовай часткай) перадусім як маскулінная дзея: вусатыя і бязвусыя мужчыны бясконца ваявалі на тэлеэкранах, падымалі чырвоны сцяг па-над Рэйхстагам у

жывапісных карцінах, скульптурах і манументальных мазаіках. Літаратары таксама не заставаліся ўбаку: тэма Другой сусветнай вайны сталася асноўнай у афіцыйнай прозе 1940-х – 1980-х. Каб выйсці ў верхнія шэрагі літаратурнай іерархіі, празаік мусіў напісаць абавязковы "раман пра подзвіг савецкага салдата". Менавіта "салдата", бо жанчыны на ўзроўні гераінь у гэтых раманах прысутнічалі нячаста і, як правіла, на другіх ролях. Кніга Алексіевіч ракурс змяніла кардынальна, адсекшы Окамавым лязом, амаль у фемінісцкім ключы (наколькі гэта было магчыма), усё датычнае мужчын: "У кнізе жанчыны распавядаюць пра вайну, якой мужчыны нам не паказалі. Такой вайны мы не ведалі. Мужчыны распавядалі пра подзвіг, перамяшчэнне франтоў, а жанчыны гаварылі пра іншае – як страшна забіваць у першы раз... альбо ісці полем, дзе ляжаць забітыя. Яны ляжаць рассыпаныя, як бульба. Усе маладыя, і шкада ўсіх – і немцаў, і сваіх рускіх салдат. Пасля вайны ў жанчын была яшчэ адна вайна. Яны хавалі свае вайсковыя кніжкі, свае даведкі пра раненні – бо ім трэба было наноў вучыцца ўсміхацца, хадзіць на высокіх абцасах і выходзіць замуж. А мужчыны пазабываліся на сваіх баявых сяброўак, здрадзілі ім. Скралі ў іх Перамогу. Не падзяліліся". Так напісала Святлана Алексіевіч у прадмове да перавыдання кнігі "У вайны не жаночы твар" з узноўленымі споведзямі жанчын-франтавічак, якія ў 1980-я гады купіравала савецкая цэнзура. 800 запісаных Алексіевіч інтэрв'ю ўпершыню далі выступіць мільёну ўдзельніц і сведкаў вайны. Вайна праз іх апавяданні паўстала згусткам антычалавечных учынкаў і пакутаў, якія, бадай, абсалютна нічога не мелі супольнага з падручнікам па гісторыі – з класічным указаннем месцаў бітваў, статыстыкі па забітых, параненых і ўзятых у палон.

Кніга "Я з вогненнай вёскі", праект Алеся Адамовіча, акцэнтавала ўвагу на лакальным беларускім кантэксце, на зверствах і спаленні нацысцкімі атрадамі СС беларускіх вёсак, вельмі часта – разам з жыхарамі. Праца Алексіевіч "У вайны не жаночы твар" выводзіла жанр магнітафоннай літаратуры на ўніверсальны кантэкст. Занураючыся ў пакуты і боль сваіх гераіняў, апісваючы першае сутыкненне з смерцю, аўтарка цяпер можа закрануць за жывое не толькі відавочцаў ці ветэранак Другой сусветнай, але і кожнага, хто судакрануўся з вайной дзе б там ні было – на жаль, утапічныя і імперскія ідэі працягваюць разносіць атруту, войны не спыняюцца і закранаюць, як і ў 1930-я – 1940-я і мужчынаў, і жанчын.

Следам за дэканструкцыяй маскуліннага міфа, Алексіевіч звяртаецца да яшчэ адной "святарнай каровы" савецкай ідэалогіі – да піянераў-герояў. Афіцыйная прапаганда паказвала дзяцей на вайне збольшага як маленькіх салдатаў, якія дапамагаюць дарослым у змаганні з нацысцкімі акупантамі. Тут шанавалася самаахвярнасць – аж да ахвяравання жыццём, калі ёсць на тое патрэба фронту. Мастацтва апявала такіх герояў, як Марат Казей, які адстрэльваецца ад немцаў да апошняга патрону, а потым, падпусціўшы ворагаў ушчыльную, падрывае сябе і некалькіх нямецкіх салдат гранатай. Другая кніга Алексіевіч "Апошнія сведкі" запісваецца (і гэта адзіны выпадак) выключна на беларускім матэрыяле – гэта апавяданні 100 "дзяцей вайны", вось толькі гераічнага ў вачах ідэолагаў тут вельмі мала. Дзеці апавядаюць найбольш пра развітанне і страту сваіх бацькоў, блуканне і ўцёкі, голад, бежанства, пра сваё амаль неверагоднае ўратаванне ад смерці – наагул пра смерць, убачаную ўпершыню. "Не палітыкі, не салдаты і не гісторыкі. Зусім бесстаронныя сведкі. Вайна, убачаная дзіцячымі вачыма, яшчэ больш жахлівая...", – кажа пра герояў сваёй кнігі Алексіевіч.

Новы ўдар па ідэалогіі – Афганістан, "інтэрнацыянальны абавязак", які нават найлепшымі журналістамі-рэпартажнікамі Савецкага Саюза ў той час рамантызаваўся. Алексіевіч зрэзала з тэмы ўвесь рамантычны флёр, паказаўшы тыя самыя жахлівыя пакуты, кроў і смерць тысяч людзей у імя богведама чаго. "Цынкавыя хлопчыкі" выходзяць неўзабаве пасля вываду савецкіх войскаў з Афганістану,

у час гарбачоўскай палітыкі "перабудовы", якая фактычна абвяшчае афганскую вайну "непатрэбнай". Беспрытульнымі і пакінутымі на маргінэсе апынаюцца і ўдзельнікі той вайны, самая сутнасць змагання ў якой расплываецца ў тумане. Зрэшты, абрынаецца не толькі мэтазгоднасць ваяваць у Афганістане "за перамогу камунізму" – абрынаецца і самая ідэалогія, якою 70 гадоў кармілі пакаленні савецкіх людзей. У час найбольшага крызісу XX стагоддзя Алексіевіч зазнае ўціск: героі кнігі "Цынкавыя хлопчыкі" – ветэраны афганскай вайны і маці загінулых салдат – падаюць у суд на аўтарку, якая, на іх думку, тэндэнцыйна выклала факты, сканцэнтравалася не на гераізме вайны, а на яе трагізме і абсурднасці. Суд над кнігай Алексіевіч выклікае дыскусію нацыянальнага маштабу, за права аўтаркі на ўласны погляд выказваюцца найлепшыя беларускія пісьменнікі, экспертызы Акадэміі Навук пацвярджаюць права аўтараў дакументальных аповесцяў на свабоду арганізацыі факталагічнага матэрыялу. Але суд не прыняў да разгляду экспертныя заключэнні. Алексіевіч пакінула залу суда са словамі: "Як чалавек, я прашу прабачэння за тое, што прынесла боль, за гэты недасканалы свет, у якім часта немагчыма прайсці па вуліцы, каб не зачапіць іншага чалавека. Але як пісьменніца я не магу, не маю права прасіць прабачэння за кнігу, за праўду!". У Алексіевіч не было сумневу, што за позвамі герояў кнігі стаялі генералы КДБ.

Чацверты ўдар па савецкай міфалогіі Алексіевіч наносіць кнігай "Чарнобыльская малітва". Па сутнасці, гэта ўдар па ідэі навуковай магутнасці Савецкага Саюза, па самой ідэі вяршэнства навукова-тэхнічнага прагрэсу. Выбух на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі 26 красавіка 1986 года пераносіць каласальную колькасць радыёнуклідаў на тэрыторыю Беларусі, і большая іх частка асядае на Гомельскай вобласці, бацькаўшчыне Святланы Алексіевіч. Аўтарка праз магнітафонныя маналогі герояў апісвае высяленне і бульдозерную ліквідацыю вёсак; працу ліквідатараў катастрофы – не ведаючы асаблівасцяў пажараў і выбухаў на рэактары, у Чарнобыль заганялі салдат з рыдлёўкамі і мінімумам хімічнай абароны, мноства іх неўзабаве загінула ад выпраменьвання. "Чарнобыльская малітва" падае сацыялагічны зрэз тагачаснага грамадства, дзе, пры поўнай адсутнасці ведаў пра радыяцыю, і партыйныя кіраўнікі, і навукоўцы, і генералы, і жыхары забруджаных тэрыторыяў павінны былі імгненна рэагаваць на катастрофу, да якой ніводны з іх не быў падрыхтаваны. Алексіевіч паказвае іх поўную разгубленасць.

І – як заканчэнне – "Час сэканд-хэнд": сам Савецкі Саюз у гэтай апошняй кнізе паміраe, імкнецца да скону, але ніяк не дасць сабе рады і канвульсіўна гаціць перад сабою ўсё целамі тысяч расчараваных.

Пачынаючы ад "У вайны не жаночы твар", кнігі дрэйфуюць да большай ускладненасці, структураванасці мовы. Першая кніга не мела, бадай, жорсткай структуры, а вось астатнія былі прывязаныя да маналогаў "саўдзельнікаў" – маналогі, зрэшты, і ўтваралі змест кнігі. Што да "Часу сэканд-хэнд", то ў ім сама ідэя кнігі аўтаркай мысліцца крыху больш глабальна: вядома, сам змест па-ранейшаму дыктуе структуру, аднак адбываецца і, так бы мовіць, самаарганізацыя кнігі. Паасобныя часткі і нават тэмы становяцца лейтматывамі, пранікаюць на найніжэйшыя ўзроўні расповеду, з'яўляюцца словы, якія будуць трапляцца на ўсім працягу кнігі, усплываць у тым ці іншым маналогу, не паходзячы з самога зместу.

Можна сказаць, што "Час сэканд-хэнд" – своеасаблівы энцыклапедычны даведнік па ўсёй творчасці Алексіевіч. Тэматыка, якая закраналася ў мінулых кнігах – "У вайны не жаночы твар", "Апошнія сведкі", "Цынкавыя хлопчыкі", "Чарнобыльская малітва" паўсюль выплывае то з той, то з іншай гісторыі. Больш за тое, у паасобных фрагментах выходзіць задума наступных дзвюх кніг, пра якія Алексіевіч даўно гаворыць – пра каханне і пра старасць. Такім чынам, тэмы гэтыя, пераплятаючыся ў маналогах, утвараюць дзіўны калейдаскоп, зусім адцяняючы

аснову – аповесць пра самагубцаў “Зачараваныя смерцю”, якую сама аўтарка дагэтуль лічыла недасканалай спробай выказвання.

Для знаёмства з творчасцю Святаланы Алексіевіч “Час сэканд-хэнд” з’яўляецца, бадай, найлепшым падручнікам. З адлюстравання агіднага і страшнага ў чалавечым існаванні Алексіевіч у новай кнізе пераходзіць да таго, што было ёй забаронена ў кнігах савецкага часу – да наўпроставага асэнсавання палітычных праблем, гаворыць пра адцягненыя рэчы і паняцці – такія, як “чырвоны чалавек”, ягоная свядомасць і характар; распавядае пра людзей у часе перабудовы і ў першыя гады пасля знікнення Савецкага Саюза.

У інтэрв’ю Яну Максімюку з Беларускай службы “Радыё Свабода” Святлана Алексіевіч згадвала, што Алесь Адамовіч называў ейны жанр “раманам галасоў” альбо “саборным раманам”. Тут відавочнае перагуканне Адамовіча з кнігай рускага філосафа Міхаіла Бахціна “Праблемы паэтыкі Дастаеўскага” і бахцінскай тэорыяй “паліфанічнага раману”. Для Алексіевіч прынцып паліфанічнасці ад пачатку зададзены жанрам суплёту “чужых” маналогаў, якія ў працэсе распавядання робяцца “сваімі” для слухача-аўтаркі, для чытача і для самой кнігі. Прынцып зададзены, але для творцы кожная зададзенасць – зло, таму Алексіевіч спрабуе яго развіваць. Так і ў “Час сэканд-хэнд” аповеды-маналогі перамяжоўваюцца сапраўднымі “галасамі”, часам яны ўжо нават не аўтарызуюцца, гэта прадстаўляецца як безыменная, але не безаблічная вулічная гамана. Гэты хор галасоў, цытатаў, фрагментаў падслуханых размоў напоўніцу праяўляецца менавіта ў апошняй кнізе.

Але ўжываючы словы “маналог”, “інтэрв’ю”, “запіс”, варта ясна сабе ўсведамляць, што гэта не зусім той жанр, у якім працуе Алексіевіч. Аб’яднаныя ў цыкл “Галасы Утопіі”, ейныя кнігі – не навуковыя манаграфіі па “oral history”, а музычна аформлены цэльны аўтарскі тэкст, які хутчэй можна назваць філасофскім трактатам пра “чырвонага чалавека”. Рэч тут не ў дакладнасці запісанага і не ў каштоўнасці фактлогіі, а ў тым, што выкладзеныя адзінкавыя, кропкавыя сутыкненні людзей са зманлівай безданню чалавечай прыроды перасцерагаюць чытача ад спакусы чарговай “адзіна правільнай ідэі”. Спакусы страціць свабоду.

---

***“Дзеяслоўцы” шчыра віншуюць шаноўную***
***Святлану Аляксандраўну Алексіевіч***
***і ўсіх прыхільнікаў яе творчасці –***
***з атрыманнем Нобелеўскай прэміі!***

Наталля Гардзіенка



...лісты Смаршчкоў –
добрая крыніца інфармацыі
пра дасюль маладаследаваны асяродак
беларусаў у Бельгіі...

# "Усё прыходзіць па заслугах"

***Хроніка аднае сям'і ў Бельгіі (1958-1992)***

Хай будуць благаславёныя тыя часы, калі людзі ліставаліся! Калі адныя ашчаджалі час – ад працы ды сям'і, гарадскіх праходак і выцечак у паркі, ад музеяў ці, можа, спартовых гульняў – каб сесці і накрэмзаць асадкаю або (і толькі значна пазней, дый тое – не ўсе) настукаць на друкарцы колькі словаў сябрукам-землякам пра хатнія навіны ды грамадскія падзеі. А другія – ім дзякуем не меней – таксама ашчаджалі, толькі ўжо прастору, якая мусіла, на шкоду старым анучам і нераспакаваным сервізам, даць месца і хатняму архіву.

І няхай сувязі паміж сем'ямі былі не настолькі блізкія, каб ліставацца штомесяц, расказваючы пра кожнае здарэнне, вялікае і малое. Хіба падобная фрагментарнасць, урыўкавасць замінае нам па летапісах аднаўляць гісторыю?!

*"У год 1680. Месяца верасьня, 6 дня па старым календары згарэў горад, ратуша, крамы й касьцёлы.*

*У год 1688. Месяца чэрвеня, 17 дня была вялікая вада, якая ўсё пазатапляла.*

*У год 1708. Месяца верасьня, сямнаццатага дня цар Пётр Аляксеевіч выпаліў Віцебск"*, – занатавана ў Віцебскім летапісе[1].

Тыя сем'і на чужыне не мелі адмысловага летапісца; яны самі былі летапісцамі. І праз зразумелую пункцірнасць тых захаваных лістоў мы можам сёння аднавіць, як жылі яны, чым займаліся, якія перажывалі ўласныя пажары і нядолі.

Разгорнем скруткі хронікі сям'і Смаршчкоў. Не тых Смаршчкоў, што пасяліліся ў амерыканскім штаце Мінесота і род якіх там запачаткаваў Мітрафан Рэпкаў-Смаршчок (вядомы як паэт Анатоль Бярозка), а іншых, бельгійскіх, якія пайшлі ад Аўгена Смаршчка і Зоі з дому Жэлязоўскіх.

Як яны трапілі туды і кім былі, чым займаліся раней? Аўген Смаршчок нарадзіўся 25 верасня 1914 г. у Зэльве. У 1934 г. скончыў Свіслацкую настаўніцкую семінарыю, настаўнічаў. У 1939 г. быў мабілізаваны ў войска, браў удзел у абароне Варшавы, трапіў у палон. У 1940 г. вызвалены, працаваў на фабрыцы ў Берліне, вучыўся ў Берлінскім універсітэце на аддзяленні псіхалогіі. Пасля вайны, у 1950 г. усё ж атрымаў вышэйшую адукацыю, скончыў факультэт псіхалогіі і філасофіі ўніверсітэта Філіпа ў Марбургу. Хутка пасля таго, 3 верасня 1950 г. Аўген Смаршчок стаў святаром Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы і пераехаў у Лювен (Бельгія) для абслугоўвання рэлігійных патрэбаў мясцовых беларусаў, У Лювенскім універсітэце было багата беларускіх студэнтаў, тут і стварылася парафія БАПЦ. Аднак айцец Аўген абслугоўваў не толькі беларусаў, але і ўкраінцаў, грэкаў, сербаў, расіян, адведваў праваслаўныя парафіі вугальных капальняў у Лімбургу, выязджаў у Францыю. У 1955 г. ён таксама скончыў Лювенскі ўніверсітэт са ступенню магістра псіхалогіі і філасофіі. Пазней – зрабіў дактарат.

Зоя Жэлязоўская-Смаршчок нарадзілася 15 снежня 1922 г. у вёсцы Стараельня Наваградскага ваяводства ў сям'і войта. Скончыла польскую гімназію ў Наваградку, у часе нямецкай акупацыі працавала тэлефаністкай, была сябрам СБМ. Пасля Другой сусветнай вайны апынулася ў Нямеччыне, дзе і пазнаёмілася з будучым мужам. Паступіла ў Лювенскі ўніверсітэт, які скончыла з дыпломам фармацэўта, і праз усё жыццё працавала ў гэтай галіне. Была сябрам Беларускага студэнцкага згуртавання, Саюза беларусаў Бельгіі.

Першы з лістоў (а ўсе яны дасланыя Янку і Олі Запруднікам, дзе і захоўваліся праз гады) датуецца 1958 годам. Час, калі студэнты-лювенцы раз'язджаліся па свеце, уладкоўваліся на новых месцах, калі ірваліся сувязі, гэтак цёпла апісаныя ў кнігах Барыса Рагулі[2] і самога Янкі Запрудніка[3]. Смаршчыкі, застаўшыся ў Бельгіі, таксама намацвалі глебу. Напэўна, і сучасным эмігрантам у розных краінах знаёмыя тыя самыя натуральныя складанасці і штучныя перашкоды, асабліва з працаўладкаваннем.

*Бэльгія, Mechelen, 20.2.58*

*Даражэнькія,*

*Вельмі ўсьцешыліся Вашым лістом, хоць і невясёлым, поўным эміграцыйных клопатаў, за які шчыра дзякуем; гнеў наш пачаў на Вас расьці, тымболяй, што ліст ад Вас да мяне залягае аж з Мюнхэну. Зьбіраўся Вам пісаць на адрас Кушэляў[4], але так і засталося на добрых інтэнцыях, як гэта часта бывае, тымболяй, што нашыя зьмены спрыялі карэспандэнцыі, якая ў мяне таксама яшчэ чакае чаргі. Аб Вас прасякала нешта ад а. Чарняўскага[5], быць можа й праз Рагуляў[6], хоць яны самыя таксама рэдкавата "публікуюцца", за гэта, як прачытаў у "Бацькаўшчыне", пачынаюць іх публікаваць... Саладуха[7], нічога ня зробіш. Спадзяюся, што Вам памаглі на цяжкі час "карантыну".*

*Мы, як бачыце, пад новым адрасам, мо ўжо й чулі. Зараз пасьля майго дактарату пачаў шукаць gеranc'у[8] для Зоі. Аптэкі знаходзіліся, але недзе аж у заходняй Фляндрыі або Антвэрпэне, ці бяз кватэры, нічога бліжэй Лювэну ці з добрай ка-*

*мунікацыяй на мае выезды сьвятарскія. У канцы прыйшла мне ідэя, яе падтрымаў Зоін прафэсар, зьвярнуцца да хрысьцій, чытай каталіцкага мутуалітэту[9] ў Любэне, які мае свае аптэкі, паралельна да сацыялістычных, як Вам ведама, тут усё дзеліцца на каталікоў і некаталікоў паводле іх спэцыфічнае тупалобасьці, а як пабачыце, нат не апраўдваючы ні назову, ні імя, якім прыкрываюцца. Стараццa пачаў я сам, потым Зоя, потым "цяжкая" пратэкцыя ў асобах Япіскапа, Рэктара, прафэсараў і г. д. Патрабавалі яны 2 аптэкараў, аднаго ў Любэн, у аптэку Сьв. Пятра каля касьцёла Сьв. Пятра, месца другога аптэкара, а потым пэрспэктыва на самастойную аптэку ў Tienen. Карысьць з кандыдата чужынца відавочная, бо Бэльгійцы астаюцца толькі да часу змантаваньня свае ўласнае аптэкі. Заяву прынялі і пачалі па-езуіцку загульваць. Напачатку заўважыў я, што мая асоба, юрысдыкцыя, Царква боляй іх цікавяць, як сама кандыдатка, але ў наіўнасьці верылі мы ўсё-ж у людзей, што рэпрэзэнтуюць хрысьціянскую арганізацыю й публікуюцца голасна высокімі прынцыпамі. Гулялі з намі болей як 3 месяцы: лгалі, абвінялі невінаватых, паклікалі, праверылі, і гэта ўсё з езуіцкай пэрфідыяй, у канцы адмовілі холадна бяз паданьня прычыны, на гэта не хапіла іхнай цывільнай адвагі, бо ўсё-ж устыд, як ні скажы. Зрабіў гэта "aumonier"[10], тупалобы стары прык[11] і старшыня CVP[12] на рэгіён Любэн, burhemeistar[13] Heverlee Eerdekens, які супрацоўнічае ў "Het Volk"[14], а а. Робэрта[15] ў нашай справе нат не згадзіўся прыняць у сябе. Вось якая гэта "каналія" ў хрысьціянска-каталіцкай шкурцы. А. Робэрта гэта заела. Ён проста напісаў мне й сказаў, каб мы не задумваліся, а прынялі кантракт нат і ў сацыялістых, бо з "хрысьціянамі" такога роду няма чаго далей пертрактаваць. Выабражаеце, які камень спаў нам з сэрца, калі мы гэтую акцэптацыю такога кроку пачулі ад а. Робэрта. Дайно ўжо адзін з інспэктараў аптэкаў прапаноўваў Зоі ставіць кандыдатуру на аптэку ў Kessel-lo[16], на вялікім пляцу, але адміністрацый сацыяліст. Мы ў нашай наіўнасьці "прынцыпаў" ўжаснуліся, другія нас у цьвёрдасьці прынцыпаў падтрымалі, праўда, гэтыя апошнія сядзелі на мяккім фатэлі прафэсарскай катэдры. Цяпер дарога была вольная. Я хутка змантаваў тут у Kessel-lo пратэкцыю шэфа кабінэту міністэрства здароўя і заяву злажыў у Malines[17]. На жаль, месца ў Kessel-lo было ўжо прадбачанае для другога, болей выслужанага аптэкара, родам з Kessel-lo, але нашую заяву прынялі пазытыўна й запрапанавалі на месца 2-ой аптэкі ў самым Mechelen, у цэнтральнай аптэцы гэтай-жа кааператывы, дзе на 2 паверсе і скромнае памешканьне службовае, да гэтага платня добрая. Пабачыўшы паважных людзей і паважную арганізацыю, мы акцэптавалі, бо ўмовы адказвалі шуканым: праца на месцы, палажаньне камунікацыйнае вельмі добрае, гарадок сымпатычны і рухлівы. 27.9.58 пераехалі мы ў Mechelen; месяцы з паўтара пацярпелі, праўда, для нашай выгады, майстроў у хаце, а гэта ўсё скрупілася на мне "гаспадыні". У маёй наіўнасьці пусьціў я ўсю карэспандэнцыю на дом, нашпікованы ўрадамі і партыямі ўсялякага калібру і ўзроўню. Пасьля 5 тыдняў дырэктар паклікаў Зою і выразіў ягонае "незахапленьне" адносна майго сьвятарства. Мы папалі ў канстэрнацыю, бо Зоя адбывала 3-месячны пробны кантракт, і выабражаеце, як чакалі мы з дня на дзень непрыемных вестак для нас, ды 1.1.58, каб ведаць наш лёс. Зою боляй дырэктар не паклікаў, мяне таксама, хоць абяцаў Зоі гэта зрабіць, усё заціхла і, здаецца, наступнымі днямі Зоя атрымае сталую намінацыю ў састаў аптэкаў іхняй кааператывы, званай "De Voorzorg", бо Зоя прадстаўляе аптэкара спэцыяльнай вартасьці дзеля гэтай цэнтральнай аптэкі зогляду на начныя службы ці Sonntagsdienst. Да гэтага ў цэлым камплексе ніхто не астаецца на нач, як толькі мы; перад інспэктарам яны заўсёды крытыя, заўсёды аптэкар ёсьць у доме, нат калі прыйдзецца самых асыстэнтаў пакінуць у аптэцы. Апрача Зоі яшчэ адзін стары аптэкар, Geschaeftsfuehrer, 3 асыстэнты, Pilendreher, касерка і пасыльны. Пасварыцца ёсьць з кім, а работы хоць адбаўляй, дзённыя касы даходзяць да 26.000 fr., а аптэчка, здаецца, кафеечка, малая. Яна*

*за гэта аптэка-матка ўсіх філіялаў. Зоя мучыцца, але атмасфэра працы здаецца непаганаю, хоць Зоя спэцыяльна да дыпляматаў не залічваецца, хутчэй, наадварот. Пабачым, як будзя далей.*

*Справа эвэнтуальнага майго супрацоўніцтва на ўнівэрсытэце ў Лювэне, што была асьвяжылася пасьля дактарату, сам рэктар пісаў у маёй справе да прафэсара, заціхла, а я знайшоўшыся ў абліцэ нашых зьменаў, тымчасам яе ня вырашыў, мая сутана "схізматыцкая" не застаецца й тут бяз дзеяньня, нат каб і ўсе другія ўмовы адказвалі. Працаваць над францускаю моваю гэта маё першае заданьне, бяз гэтага нідзе ня ўлезіш. Тут мне падаў адзін знаёмы вельмі цікавую ідэю, каб выкарыстаць тытул і дасьведчаньні ў адным з інстытутаў карэспандэцыйнага навучаньня. Яшчэ ня пробваў, але, зноў-жа, справа мовы, бо зрэдагаваць курс, а нат і карыгаваць працы студэнтаў, ня проста так, як гэта можа здавацца Бэльгійцу. З тэалёгіяй я як на пасьлядавіковым полі. Вось заданьняў і пляноў нямала; цяжкая лямка выездаў, да гэтага клопаты грамадзкія з'ядаюць час і энэргію. Але калі затрымаюся тут боляй пэўна, тады можна будзя нешта заплянаваць і рэалізаваць боляй сыстэматычна.*

*Андрэй наш вялікі, ходзіць у садок; цяпер схапіў ветраную воспу і сядзіць у хаце ды вымучвае бацьку. Ніяк ня мог зразумець, як гэта можа быць "паненка" на Вашым здымку. Калі паддалі пад выбар, ён здэцыдаваўся на "вялікага хлопчыка" – Ніну[18]; гадуй, Мамка, хутчэй косы і ратуй гонар дачушкі. У нас памешканьне цеснаватае, не хапае аднаго пакою, пад намі бюры, Андрэю тупнуць па-беларуску забараняецца; аграваньне газам, паветра цяжкое, улетку, пэўна, гарачыня, бо ў цэнтры гораду, хоць гарадок ня Ню-Іоркам. Хвалім за пляны дактарату, Бог дасьць, "Alles kommt zu recht"[19], шчыра жадаю, каб так сталася, і сардэчна вітаю. Ваш а. Аўген з сямейкаю.*

Пасля ўладкавання на працу жонкі, наладжвання побыту, з'яўлення яшчэ аднаго сына айцец Аўген вырашыў працягнуць уласнае навучанне. Ідэя зрабіць дактарат, звязаны з беларускай праблематыкай, выклікала пытанні і з выбарам тэмы, і з пошукам патрэбнай літаратуры. Кантакты з сябрам-навукоўцам вельмі прыдаліся.

*Віллебрук, 25.10.64.*

*Дарагі Янка й Сямейка!*

*Вось толькі сяньня ліст, пасьля Вашага з дня 11.2.64 і атрыманьня Найдзюка[20]. Вы ўжо аб экзамінах забыліся, я 1-ы ліц[энцыят] здаў у другой сэсыі, 6.10, ды цяпер пачаў апошні год філялягічна-гістарычнага Інстытуту ў Бруксэлі, славянскага аддзелу.*

*У маім папярэднім лісьце пісаў я Вам адносна парады тэмы "Мэмуару"[21] на ліц[энцыят], а цяпер стала гэта пякуча актуальна. Безумоўна, я хацеў-бы пісаць на беларускую тэму. Цяпершані рэдактар, філялёг, нат радзіў мне пасьля экзамену ў яго, але чыста філялягічнай тэмы баюся дзеля слабасьці ў клясычных старых мовах: лаціне й грэцэ. Астаюцца тэмы літэратуры ды гісторыі, эвэнтуальна на тэму пытаньня рэлігійнага. Барысевіч[22] некалі пісаў на тэму Брацтваў у Вялікім Княстве Літоўскім, а. Робэрт радзіў мне пераэкзаменаваць пытаньне апазыцыі да Берасьцейскае Вуніі з пункту гледжаньня беларускага. Ён мне нат даў кнігу праф. Галецкага: Фром Флеранс то Брест[23]. З зацемкі а. Робэрта даведаўся я, што Галецкі Ваш прафэсар.*

*Зварочваюся да Вас як эскпэрта зь Беларусікі ды сьведамага аб магчымасьцях бібліяграфічных, каб парадзілі мне пару тэмаў, пагутарылі аб гэтым з нашымі навукоўцамі ў Інстытуце[24]. Справа гэта даволі тэрміновая, бо прафэсар будзя націскаць, каб здэцыдавацца. Ён сам (праф. Кл. Баквіс) палянафіл і бязумоўна будзе мне пхаць тэму польскае літэратуры, ужо нат спамінаў аб Стрыйкоўскім[25], пэўня польскім калянісьце В[ялікага] Кн[яства] або Ўкраіны.*

*Артыкул Глыбіннага[26] з "Бацькаўшчыны"[27] падсунуў мне думку таксама напісаць да іх у Цэнтар. Думаю таксама напісаць да а. Гарошкі[28].*

*Найдзюка я бязумоўна яшчэ не перагледзяў, але спаткаў там ляпсусы, якія мяне ўстрымалі часова ад дэцызыі рабіць мікрафільм. Вось пытаюся Вашае думкі, ці варта? Фактычна рэдкі гэта экзэмпляр на чужыне і няма другіх апрацаваньняў ды няведама, калі нехта адважыцца саставіць другі.*

*Як пасоўваецца праца над беларускім слоўнікам у Ню-Іорку?*

*Сядзімо мы, як бачыце, яшчэ ў Віллебруку. Пэрспэктываў на зьмену тымчасам няма. Пятрусь, аб якім мы Вам ужо пэўня пісалі, гадуецца добра. Вось мінула 11 месяцаў. Скамплікаваў ён вельмі нашае жыцьцё, бо вельмі цяжка знайсьці дапамогу хатнюю, нат дзяўчыну няньку. Але хлопчык удачны, дык церпім і цешымся надзеяй, што нейк выгадуем ды будзе пацехай для нас, калі Андрэй пойдзя па розных школах. Андрэйка і надалей добра вучыцца. Затрымалі мы яго яшчэ ў Віллебруку зогляду на Петрыка. Цяпер ён ужо ў 6-й пачатковай або ў першай прыгатаваўчай да сярэдняе. Пойдзе на лаціну з грэкай ці на лаціну з навуковым напрамкам, ня ведаем. Ён часова, але моцна заеўся на астраномію й пляныe адстудыяваць у Бэльгіі й потым, бязумоўна, пераехаць у Штаты, бо там, кажа, толькі магчымасьць сапраўдна працаваць у астраноміі.*

*Зоя худзенькая і запрацованая. Прыйходзіцца ёй цяжка, перадусім у часе экзаменаў маіх, і часам траціць цярпеньне ўжо дзеля маіх студыяў. Цягнем аднак лямку супольна, сама важна зь перамогамі!*

*Шчыра вітаем і прашу адказаць мне хутка і парадзіць з дэталямі.*

*Добрага здароўя і ўсіх ласкаў Божых Вам абаім і Дзеткам.*

*Вашы а. Аўген, Зоя і хлапцы.*

*Бэльгія, 6.3.64*[29]

*Даражэнькі Янка!*

*Доўга Вам не адпісваў ды не падзякаваў яшчэ за ліста з 3.02.64, бо чакаў выбару тэмы, а справа апынулася аж у рэктара. Яшчэ адзін студэнт, др. гіст[орыі] Венскага Ўнівэрсытэту, і я дагаварыліся пераканаць прафэсара, што фактычна пасьля абароненай доктарскай працы няма сэнсу даказваць магістэркай умеласьць навуковай апрацоўкі пастаўленага пытаньня. Я сам вёў атаку, і нам удалося, у нашага прафэсара. Ён-жа прадставіў пытаньне рэктару, у якога мы слухаем параўнаўчую індэ-эўрапэйскую граматыку. Рэктар згадзіўся ў прынцыпе з нашай матывацыяй, аднак затрымаўся на фармальным пункце, менавіта: мэмуар трэба ўпісаць у дыплём, заспакоіць вымаганьні факультэту. Дзеля гэтага згадзіўся ён на мінімальную працу, нат на адну тэзу да нашых дысэртацыяў і на вынятковы дазвол здаваць экзамены без прадастаўленьня найперад мэмуару, што вымагаецца факультэтам. Гэта неафіцыяльна, але будзям рабіць. Практычна, для нас толькі апошняя далёгка мае вартасьць. Мэмуар, як ні круці, трэба пісаць! Але што? Апрача Вашай прапановы атрымаў я пару тэмаў ад а. Гарошкі і ад др. Сядуры.*

*Аднойчы ноччу прыйшла мне думка прадставіць прафэсару прапазыку пісаць "Бібліяграфічны праваднік беларускай мовы, літаратуры й гісторыі". Прафэсар згадзіўся адразу! Гэта было нядаўна. Не знайшоў нічога з апошняга кангрэсу славістаў у Софіі чыста беларускай тэматыкі, але даў мне цікавы даклад савецкай дэлегацыі: И. Н. Голенищев-Кутузов. Гуманизм у восточных Словян (Украина и Белоруссия). Изд. Акад. Наук СССР, 1963, М-ва, 93 стар.*

*Запрапанаваная мною тэма карысная, думаю, дзеля ўсіх. Такім чынам увойдзе ў інстытуты славістыкі, трэба будзе адбіць болей прымернікаў і разаслаць. Але бяручы гэтую тэму, разьлічваў я на салідарную дапамогу хоць некалькіх асобаў, цікавячыхся беларусікай, а перадусім на Вас, бо і на маю просьбу першую Ваш адказ быў найсаліднейшы.*

*Скамплектаваў я некалькі кніжак: у Найдзюка даволі багатая бібліяграфія з гісторыі, таму дазвольце мне яе яшчэ затрымаць дзеля гэтай мэты. Мікрафільм зь яе я ўжо зрабіў. Маю Энгельгардта*[30]*, Смоліча*[31]*, Хрэстаматыю па Старажытнай Беларускай Літаратуры, выд. БССР*[32]*, некалькі зацемак з другіх кнігаў і ранейшыя запіскі праз цікавасьць падчас мае пэдагаг[ічнай] дысэртацыі, розных бібліятэкаў, дзе прыйшлося працаваць і шукаць.*

*Мне здавалася, што бачыў у а. Робэрта Вакара*[33]*, але памыліўся. У яго знайшоў толькі Дэ Брая, Гід ту дзе Славонік Ленгвідж*[34]*. Вакара яшчэ ня маю, а ягоны "Гід" мне здаецца неабходны, ці кніга аб Беларусі таксама*[35]*, яшчэ ня ведаю. Было-б добра, каб Вы мне проста набылі ягоны "Гід", каб мець у сябе гэту, дагэтуль адзіную друкованую кнігу беларускай бібліяграфіі. Сядура падае мне кошт яе 2 дал. На гэтыя мэты ў мяне "замарожаныя" даляры ў а. Аляксандра*[36] *і Станкевіча*[37] *з Аб'едн[аньня] за высланьне карткі беларускіх лялек з Фонду Сакавіка. Зрахуемся. Дарэчы, на кошты не глядзеце ў выпадку патрэбаў фотакопіяў ці мікрафільмаў. Фактычна я пачынаю кантакты на гэтую тэму і яшчэ не пераглядзеў з пункту гледжаньня мае тэмы тутэйшыя бібліятэкі. Але, як Вам ведама, нічога цудоўнага яны не абяцаюць!*

*Вось прашу Вас прыватна і ў імя Беларусікі, як і ў чым Вы мне дапаможаце? Да каго яшчэ зьвярнуцца? Думаю аб Урбану*[38] *і працаўнікох радыя*[39]*, а. Гарошку, Інстытуце вашым, А. Лашуку*[40]*, др. Я. Станкевічу*[41]*, толькі ці адкажа? Адамовіч*[42] *як зрэагуе? З гісторыяй будзе лягчэй, горш з мовай і літаратурай.*

*Што Вы на ідэю, каб зьвярнуцца на філялёгію ў Варшаву, а яшчэ ладней у Менск, толькі на які адрыс, да каго?*

*Вось мае клопаты, спадзяюся, карысныя нам усім. Чакаю ад Вас Вашых думак і канкрэтных парадаў ды матарыялу з Вашага напэўна багатага скарбу бібліяграфічнага. Чакаю на Гід Вакара. Буду інфармаваць аб поступе пошукаў.*

*Цяпер паралельна з выкладамі шыкуюся і да экзаменаў. Буду здаваць што змагу ў першай сэсыі, рэшту ў другой, і так неафіцыяльна, аж да зданьня мэмуару. Экзаменаў, як ведаеце, у Бэльгіі не бракуе. На гэты апошні год накінулі нам новы курс з факультэту права, менавіта: Увод да права СССР і Народных Рэспублікаў. На шчасьце, ёсьць друкованы курс, але ўсё-ж. Як бачыце, і я ня выкруціўся ад савецкай канстытуцыі!!!*

*У нас нічога спэцыяльнага. Пятручок расьце. Каля 15 месяца пачаў хадзіць, нядаўна, яшчэ падае праз парогі. Дзяўчына, Украінка з Золдэру, яшчэ ў нас. Бяз яе мае пляны слабаваты, уся надзея, што застанецца ў нас яшчэ некалькі месяцаў. Фактычна нідзе ёй ня будзе так добра, але нудзіцца ў сваёй маладой дурнаце. Дзяўчо на ўсём гатовым зарабляе ў нас 2000 фр. у месяц.*

*Андрэй у школе працуе добра, але ўдома часта канфлікты, варта было-б аддаць у інтэрнат, але шмат про і контра*[43]*! Перадусім сфлямачыцца яшчэ болей. Зоя цягне лямку, час ад часу пакрэхча ды зноў у баразну. Чакае на абяцаны ліст ад Олі!*

*Шчыра вітаем усю сямейку ад нас усіх. Вашы а. Аўген, Зоя і хлапцы.*

Ліставанне жонак далучылася да карэспандэнцыі мужоў. Супольныя знаёмыя з студэнцкіх часоў у Лювене былі ва ўсіх чатырох удзельнікаў ліставання.

*4.5.66.*

*[Пачатак ліста адсутнічае]*

*Цяпер-жа разкажу Табе трохі аб нашых былых калегах. Пачну з майго калегі па фаху Клыбіка*[44]*. Ён працуе ў гэтай самай арганізацыі, што і я. Да гэтай арганізацыі належыць 15 аптэкаў, 3 клінікі, некалькі магазынаў аптэчных. Ёсьць свая mutualite (каса хворых), свае бюры. Клыбік працуе ў Мэхэлен і Ліеж. Пэўне, ведаеш, што ён жанаты з Бэльгійкай. Яна ціхая, маладзенькая, даволі сымпатычная*

*жанчынка. Маюць дзьве дзяўчынкі. Так як Клыбік ня мае яшчэ сваёй сталай аптэкі пад свой нагляд, то часамі прыяжджае мяне заступіць, калі маю вольны дзень. Такім чынам, бачымся зь ім найчасьцей. Другіх спатыкаем вельмі рэдка. Арэшка[45] наш кум, бывае часамі з сямейкай, альбо мы ў іх. У іх дзяўчынка й два хлопчыкі, мілыя прыгожыя дзеткі. Жонка полька з Францыі, вельмі тоненькая, але зграбная, элегантная такая, тыпічная парыжанка. Жучок наш[46] працуе інжынерам і, здаецца, добра зарабляе. Жонка настаўніца з Антвэрпэн, флямандка.*

*Прыпомнілася мне, што Ты, напэўна, спатыкаешся з Людмілай Войтанка-Бакуновіч[47], і яна Табе, напэўна, шмат чаго расказала, як мы тут усе жывем, так што ня буду я Табе паўтараць знаёмых вестак. Калі Цябе, аднак, яшчэ хто цікавіць, ты пытай, ахвотна напішу ў наступным лісьце. Як бачыш, спадзяюся, Олечка, што на адным пісьме ня кончыцца, я вельмі хацела-б навязаць з Табою сталую карэспандэнцыю.*

*Олечка, дарагая, пачала я гэта пісьмо два тыдні таму, пасьля як палажыла, нясканчыўшы, у шафу, так і праляжала яно да сёньня. Выбачай, дарагая.*

*Мы тымчасам мелі першыя ў гэтым годзе некалькі дзён цяпла. Так як з нагоды 1 мая былі два дні вольныя ад працы, то мы зь [іх] добра скарысталі й пабывалі на сонцы. Было так горача, што многія людзі ўжо купаліся. У нядзелю Аўген меў Божую Службу ў Лювэне. З нашых быў толькі Барысік[48] з сямьёй. Ён купіў аўта і цяпер прыяжджае рэгулярна на кожную Службу. У наступную нядзельку едзем у Лімбіршчыну. Там нашых людзей вельмі мала, больш украінцаў.*

*Буду канчаць, бо айцец таксама просіць яшчэ дапісацца.*

*Олечка, жадаю ўсяго найлепшага й моцна Цябе цалую, вітаю ўсю сямейку.*

*Твая Зоя.*

*Хрыстос Уваскрос!*

*Даражэнькія!*

*Да грунтоўнага рапорту дакідаю актуальнасьці. Перадусім мы страшэнна перажылі вестку аб сьмерці др. Стася Грынкевіча[49]. Гэта мой вельмі добры сябра з палону і Бэрліна. Ягоную жонку Кацю знаю таксама асабіста. Я ёй ужо напісаў. Што сталася? Выпадак? Хвароба? Ён яшчэ даволі малады, амаль мой равесьнік.*

*Таму, што Зоя акурат канчала перапісваць бібліяграфію з Найдзюка, я напісаў Сенкевічу[50] аб існаваньні другога экзэмпляру Найдзюка ў а. Гарошкі, абяцаючы выслаць яму Ваш экзэмпляр за пару дзён. Адказу яшчэ няма.*

*З маім мэмуарам, як Вам ведама, бібліяграфія — гэта песьня без канца. Думаў рэдагаваць у красавіку, не ўдалося. Пастанавіў на травень, ды ўсё не магу паперачытваць М-Ф. Усё нешта прыбывае. Менск адклікнуўся на мой ліст і прыслалі на інстытут у парадку замены экзэмпляр Збралевічыхі[51]. Коратка матарыялу маю шмат, бязумоўна, на камплектнасьць ня можна прэтэндаваць ніколі ў галіне бібліяграфіі ды яшчэ ў нашых абставінах.*

*Заадрасаваны ліст да Паўлюка Урбана ляжыць ад восені. Сяньня, здаецца, урэшце напішу. Спадзяюся ад яго вартасных парадаў, сама мала адносна гісторыі. Адносна самаходу жадаем шчасьця і перадусім: не сьпяшайцеся ніколі, прапускайце другіх, хутчэй і пэўней даедзеце куды трэба. Наш Таўнус 12[52] прабег ужо 47000 км. Зразумела, пацалавалі мяне (яго) у Бруксэлі разоў тры, як ведама, Бруксэльцы тэмпэрамэнтныя, але легенька, праўда, боляй цяжэй на маю кішэнь. Аставайцеся здаровы. Ваш а. Аўген.*

Лісты Смаршчкоў — добрая крыніца інфармацыі пра дасюль маладаследаваны асяродак беларусаў у Бельгіі, дзе засталіся пасля навучання ў Лювене некаторыя беларусы. Асаблівасці міжасабовых дачыненняў суайчыннікаў, супольныя грамадскія праблемы з апекай над магілаю стваральніка Беларускага студэнцкага

хора Міколы Равенскага... Да таго ж айцец Аўген падтрымліваў шчыльныя кантакты з суродзічамі ў Францыі, і найбольш — з сям'ёй Прэзідэнта БНР Міколы Абрамчыка (1903–1970).

*Бэльгія, у чэрвені 1969*

*В. П. Янка і Оля.*[53]

*Выкліканы сьпешна, дня 10 чэрвеня прыгатаваў я духоўна Сп. Прэзыдэнта Міколу Абрамчыка да вельмі паважнай апэрацыі жывата. Зогляду на перавязеньне хворага ў вялікую больніцу Сьв. Людовіка ў Парыжы, апэрацыя адбылася толькі 19 чэрвеня.*

*Цяпер ведама, што хворы пасьля выпісаньня з больніцы мусіць прайсьці месячную курацыю ў доме дзеля рэконвалесцэнтаў.*

*Спадар Прэзыдэнт Абрамчык прасіў мяне зьвярнуцца да Вас з просьбай уключыцца актыўна ў дапамогу ў цяжкой сытуацыі сямьі, ніяк не прыгатаванай да так вялікіх коштаў лячэньня.*

*Крытычны стан хваробы насьпеў за час апошніх 10 месяцаў пасьля нешчасьлівага выпадку злому нагі пры будове ў жнійні прошлага году. Выпадак гэты спрычыніў ня толькі вялікія выдаткі клінічныя, але перадусім спыніў працу й стараньні дзеля занясьпечаньня матэрыяльнага: прадажу будаванага дому.*

*Прашу Вас адклікнуцца максымальнай дапамогай (уключна з пазыкай) ды зрабіць магчымы ўплыў у асяродзьдзі беларускай эміграцыі на водгук салідарнасьці ў няшчасьці чалавека, катораму ўся беларуская палітычная эміграцыя нацыянальна й маральна забавязана ў высокай меры.*

*Прашу прабачэньня за эвэнтуальна памылковую транскрыпцыю Вашага прозьвішча ці недакладнасьці адрэсы, атрыманай ад сп. Н. Абрамчык*[54] *у хвіліны цяжкіх перажываньняў.*

*Хрысьціянскае й беларускае дзякуй за Ваш чулы водгук і за ўдзел у гэтай дапамаговай акцыі беларускай салідарнасьці.*

*З глыбокай пашанай і любоўю ў Хрысьце Госпадзе, Ваш а. Аўген Смаршчок.*

*Новы Год, 1970*
*Каляды*

*Дарагі Янка, Оля й Дзеткі,*

*Шчыра Вам жадаем добрага здароўя, усялякіх удачаў ды Ласкаў Божых, у Новым Годзе. Вітаем таксама з надыходзячымі сьвятамі Ражства Хрыстовага. Як Вы маецеся? Якія Вашыя клопаты й радасьці?*

*Мы кідаемся, дзякаваць Богу, нязгорш, нат яшчэ баронімся пазытыўна ад грыпы, якая тут скаліць зубы ды кусаецца. Зоі прыпала начная служба на пэрыяд Каляд і Новага Году, дык яна, бедная, ужо ледзь нагамі цягае, так яе заганялі за апошні тыдзень. Улады галосяць, што грыпа асягнула кульмінацыйны пункт, будзя ўцякаць з Бэльгіі, але яна мае свае пляны й капрысы. Калі Зоя ня зьляжа, хлапцы не прынясуць са школы ды не прывязем яе зь Лімбуршчыны, то абыдзецца гэтым разам бяз нас.*

*Пятрусь наш пайшоў у першую клясу; апошняя зіма была яму цяжкая, але пасьля апэрацыі міглалкаў у чэрвяні цяпер трымаецца добра.*

*Андрэй перадапошні год у гімназіі, на сэкцыі грэкі й лаціны, да гэтага вучаць таксама апрача францускай мовы ангельскую й нямецкую. Мовы яму даюцца найлягчэй, а куды ён здэцыдуе са студыямі, яшчэ ня ведаем. Працаваць ён ня вельмі любіць, але лямку школьную цягне нязгорш; "пораху" аднак мае на лепшыя вынікі, даказвае, калі папрацуе.*

*Перада мною 2 Вашыя апошнія лісты. Пачну ад дробных інфармацыяў: вось ужо год часу, як неспадзявана дзеля нас усіх у Саўкаў наладзілася, яны зышліся, і*

*гэта так добра дзеля дзяцей ды, пэўня, дзеля іх саміх. Міхась[55] здэмаралізаваўся за пэрыяд разлукі (так кажуць языкі, я зь ім не спатыкаўся). Мы даведаліся тэлефанічна, калі я тэлефанаваў да Іны, потым наведалі іх, спаткаўшыся на Беларускім балеце БССР у Бруксэлі. Яны да нас "прыімкнулі" ў выніку татальнага канфлікту з Арэшкамі, раней найлепшымі сябрамі. Пасьля канікулаў прыехалі на службы ў Лювэне, былі разам на грыбах у Гэвэрле; да маіх заклікаў грамадзкіх Саўка адносіцца цяпер ляяльна, злажыў дапамогу сям'і Абрамчыкаў, пераслаў складку на аднаўленьне Крыжа й магілы праф. Равенскага[56]. На жаль, мы зь імі кантактуемся вельмі рэдка.*

*За гэта ўсе другія "дыплямованыя" нашы ў Бруксэлі распусьціліся страшэнна. На пасьвячэньне адноўленага Крыжа-помніка на магіле праф. Равенскага міма мае акцыі й заклікаў не зьявіўся ні адзін з былых харыстых, паніхіду адсьпявалі расейцы, сямья Канаваловых (Сяргей, старэйшы, стаў дыяканам, Саша нядаўна паехаў у Маскву як супрацоўнік бэльгійскае дыпляматычнае місіі). Зразумела, былі работнікі: як заўсёды, Пятро Барысік і Занкоўскі зь Льежу, боляй ніхто. Жучку ўжо не памятаю, калі бачыў. Вы, здаецца, перапісваецеся зь ім, дайце яму наганяя. Цяпер ён выкручваецца будовай, але й раней, як нявольнік, нідзе ня вырваўся ад сямейкі. Аб Клыбіку што й казаць, забагацеў, нашто мы яму. На Арэшку я найболей спадзяваўся, і калі былі справы з а. Робэртам, у дыскусіях над гэтым ён мяне найболей падтрымоўваў. Праўда, Арэшка з Янкам [Жучкам] на маю прапанову прыступілі да клюбу "Пагоня" ў Канадзе, яны таксама выслалі па 1000 фр. (самыя), зразумела, на маю просьбу, сп. Абрамчыкам, калі быў выпадак са зломам нагі. Цяпер адносяцца нэгатыўна, я зноў напісаў ліст, ня ведаю, якая будзе рэакцыя, магчыма, ніякай; жоначкі, здаецца, бурчаць, хаця Арэшка паказаў сябе пры нагодзе вельмі незалежным.*

*З магілай праф. Равенскага будзям мець клопат. Гэты ўчастак мае быць ачышчаны, зраўнаны да далейшага ўжываньня (хаваньня) да 1.5.70! Я яшчэ ня быў у адміністрацыі ў гэтай справе, але паўстае пытаньне, куды падзець Крыж-скульптуру? Буду старацца, мо дадуць дзе "прыюціць", аднак мала надзеі. Закупіць зямлю немагчыма, перанос страшэнна каштоўны, а нашы "патрыёты" агранічваюцца да чытаньня менскіх газэтаў, боляй ня пытай.*

*Айцец Робэрт пісаў мне 21.7.69. Буду яму пісаць заўтра. Вось ягоны адрыс. Калі Вы хочаце яму зрабіць прыемнасьць і дапамогу, пашлеце яму на конто й падахвоцьце другіх, ён вучыць у цяжкіх абставінах, без падручнікаў. Я ўжо выслаў, ці другія зрабілі, ня ведаю.*

*Рагулянка Рагнеда[57] была ў нас 12—14 чэрвеня. З Францыі чыркнула пару словаў й на гэтым канец. Нат не дапамінаецца фатаграфіяў. Спадзяемся традыцыйнага навагодняга й сьвяточнага ліста ад Барыса [Рагулі].*

*Ніна Абрамчык пісала нам 12.12. Лекарская камісія дала добрыя вынікі й надзею на будучыню. Наступная кантроля за 3 месяцы.*

*Улетку даведаўся я ад Ніны, што Вы зьбіраліся прыехаць на нейкі час да сп-ва Абрамчыкаў, каб на месцы сабраць дакумэнтацыю дзеля гісторыі БНР і біяграфіі сп. Прэзыдэнта. Гэта мяне вельмі парадавала, бо і архіў, аб якім апошня так многа пачалі клапаціцца, знайшоўся-б у Вашых, самых адказных і давераных руках. Праўда, Ніне ў той час ня было да гэтага пытаньня, цяпер, магчыма, справа выглядае боляй актуальна, хаця Ніна разчаравана страшэнна, але я там быў, і рэакцыя яе часта была неаблічальная, падобная да гэтай, каб др. Набагез[58] або Вы або ўсе другія прыяжджалі й памагалі. Вось я кінуў усё й паехаў, але апрача спаўненьня сьвятарскага абавязку, з чаго я задаволяны, ды, зразумела, з гутарак са сп. Прэзыдэнтам, я нічога не памог, я проста дубляваў яе ўсюды , бо безь яе нідзе нічога немагчыма было ладзіць. Памагаць і радзіць ёй немагчыма, бо яна нікому ня верыць і ўсіх прыблізна падазрае.*

*Калі Вы сапраўды плянуеце зрабіць гэту пільну работу? Як здэцыдована з архівам БНР, які гадамі ляжыць, каб не сказаць "валяецца", у Парыжы? Сп. Абрамчыку нагвалт патрэбны магнітафон, каб нагаворваць дакумэнты і эпізоды зь дзейнасьці й спатканьняў гістарычных. Ніна ў крытычныя дні, калі маліла Бога не за гады, а за месяцы й тыдні, бо лекары вельмі напалохалі, яна загаварыла аб гэтай патрэбе, і гэта сапраўды вельмі разумная работа, карысная на будучыню. Каб мае бруксэльскія былі меншыя эгаісты, а боляй актыўныя патрыёты, мы змаглі-б гэта пытаньне заладзіць тутака на месцы, але дзе-ж там, яны нат лісты на "Дар Сакавіка" не зварочваюць Барысіку, ня плацяць складак, з зубоў франка ня выдзярэш. Можа, Вы зьвярнуліся-б да Мюнхэнскіх сяброў на тэму магнітафону.*

*Нажаль, у Парыжы сп-ня Ніна перасварана саўсімі, нат з суседам Наўмовічам*[59]*, які на маю просьбу прыходзіў масаваць і рады памагчы. Сп. Прэзыдэнт церпіць над гэтым, сам мне казаў аб цяжкасьці яе кантакту зь людзьмі. Вы маеце зрэштай асабістыя дасьведчаньні. Буду рад і ўдзячны за вестку ад Вас. Няхай Бог Вам памагае, а добрыя людзі радуюць. Вашы а. Аўген з сямьёй.*

Прэзідэнт Мікола Абрамчык менш як праз паўгады пасля гэтага ліста памёр, справа з архівамі залагоджаная не была і пасля яго смерці. Айцец Аўген быў удзельнікам камісіі, якая мелася пераняць архівы, аднак нічога не атрымалася. Праўда, лістоў ад яго да Запруднікаў ад таго часу не захавалася. Далей у карэспандэнцыі — вялікі прагал. Напэўна, чым глыбей сем'і ўваходзілі ў свае новыя жыцці — бельгійскае, амерыканскае — тым болей часу забіралі штодзённыя клопаты, сямейныя абавязкі, грамадскія справы. Побыт усталёваўся, а кантакты слабелі. Так заўсёды здараецца. Аж покуль не прыходзіць гора.

5 кастрычніка 1984 года айцец Аўген Смаршчок памёр.

*3.4.85*

*Даражэнькія Оля і Янка!*

*Нарэшце сабралася напісаць Вам пару слоў. Як Вы маецеся, як Вам жывецца? Олечка, як Тваё здароўе? Спадзяюся, што той кашаль, што Цябе так мучыў, ужо даўно скончыўся, і Ты пра яго забылася. Так, даражэнькая, нялёгка жыць са слабым здароўем. Ня трэба, аднак, паддавацца злым настроям, трэба цешыцца сёньняшнім днём, цешыцца, што маеш каля сябе дзеткаў, мужа.*

*Ёсьць людзі, якія ня маюць ні сям'і, ні блізкіх, і як-жа цяжка бывае тым людзям, калі яны захварэюць! У мяне таксама справы невясёлыя. З Канады вярнулася добра папраўіўшысь, поўная аптымізму і энэргіі. Узялася адразу за парадкі, зьліквідаваць трэба было Аўгенаву адзежу і перадусім перагледзіць ягоны архіў. Ня ведаю, як іншай назваць ягоную карэспандэнцыю, царкоўную й сьвецкую, усякія дакуманты, часопісы. Страшэнна гэтага ўсяго шмат, ня ведаю, калі кончу. 13 сакавіка я паддалася апэрацыі жоўці, каб дэфінітыўна скончыць з каменямі, зь якімі ўжо ваюю гадоў тры. З трох апэрацыяў, якія я ў сваім жыцьці перажыла, гэта была самая непрыемная. Можа, не сама апэрацыя, але тое ўсё, што было пасьля апэрацыі. Пасьля дзесяці дзён я вярнулася са шпіталя. Рана яшчэ не зусім зносная, даглядаў яе трохі мой дамашні доктар, цяпер даглядаю сама. Толькі прыехала да хаты, як пачалі мне балець ногі, крыж. Нешта як артроз ці ішыяс. Не магу левай нагі падняць, ці сесьці, ці ўстаць, страшны боль. Добра, што гэты тыдзень Петрык мае Вялікодныя вакацыі, то памагае, прошлы тыдзень адной было вельмі цяжка.*

*А тут ужо вясна, пацяплела, трэба брацца за работу ў агародзе, ідуць сьвяты, трэба таксама ў хаце шмат чаго зрабіць, а я да нічога няздольная. Вось бачыш, Олечка, і я наракаю. Але нічога, я заўсёды пацяшала сябе: неяк будзе.*

*Янка, дзякую за кніжачку “Агляд” да 100 годзьдзя народзінаў Я. Купалы і Я. Коласа*[60]*. Два разы яе прачытала й па сакавіковым спатканьні аддала Арэшку з тым, каб прачытаўшы перадаў другім.*

*Перасылаю справаздачу з нашага сакавіковага сьвяткаваньня. Калі яна магчыма напісана, то прашу памясьціць у “Беларусе”*[61]*. Можа, патрэбныя будуць якія папраўкі. Не пакрыўджуся, калі выкінеш яе ў кошык на сьмецьце, гэта першы раз, што я нешта такое напісала. Перасылаю таксама тэкст верша Міхася Саўкі.*

*Вітаю Вас абаіх з надыходзячымі Вялікаднёвымі сьвятамі й жадаю ўсяго найлепшага. Хрыстос Уваскрос!*

*Ваша Зоя.*

Невясёлыя весткі прыходзілі і з амерыканскага боку. Вольга Запруднік цяжка захварэла.

*22.4.85*

*Даражэнькая Олечка!*

*Шчыра дзякую за Тваё пісьмо і добрыя пажаданьні. Олечка! Я так уцешылася, пабачыўшы Тваё пісьмо, але радасьць мая пры чытаньні хутка зьнікла, гарачымі сьлязьмі я яго абліла. Ні парадзіць, ні памагчы я Табе нічога не магу. Магу толькі маліцца да Ўсявышняга, каб Ён Табе памог. Гэта ўсё, што мы ўсе можам цяпер зрабіць. Я цешуся, Олечка, што Ты ня страціла веры ў Бога, што молішся і надзеешся на Яго. Толькі, Дарагая, помні, што праўдзівай, добрай хрысьціянцы трэба заўсёды мірыцца з Богам, з Яго воляю. Бязумоўна, надзееца заўсёды трэба, але калі яно іначай выйдзе, ня трэба падаць духам, трэба сказаць: Госпадзе, хай будзе Воля Твая! Жыцьцё наша на гэтай зямлі кароткае, і яно не даннае нам на ўцехі й радасьці, наабарот, чым больш тут хто пацярпеў на зямлі, тым большая ўзнагарода чакае яго ў Небе. Так сказаў Хрыстос, і ў гэта мы верым, у гэта мы павінны верыць, калі мы называем сябе хрысьціянамі.*

*Олечка, дарагая, напісала Табе сваё “Credo”, якім і сама трымаюся. Ці прымеш Ты яго ад мяне? Ці паможа яно Табе хоць трохі? Так-бы хацела хоць частку свае веры перадаць Табе!*

*Цяпер трохі аб сабе. Па Вялікодных Сьвятах астаўся толькі ўспамін, успамін перадусім прыгожых Службаў. У Вялікую Пятніцу вечарам на “Погребении” я перажыла паховіны Аўгена яшчэ раз. Сьпявалі тую самую песьню, як на яго паховінах. Сумны гэта быў Вялікдзень, але нічога не парадзіш, на ўсё Воля Гасподня. Старалася, каб дзеці мелі Сьвяткаваньне як кожны год, сьпякла й бабкі і кумпяка, на разгаўленьне запрасіла Занкоўскіх — яны былі разам з намі на Ўсяночнай. На каву прыехалі Арэшкі. Па абедзе хадзілі на могілкі засьпявалі і Аўгену Хрыстос Воскресе і занесьлі яму малёванае яечка.*

*Цяпер ужо даўно па сьвятах, на дварэ трохі пацяплела, бяруся за работу каля хаты і агароду. Добра, што хоць артроз ня так ужо дакучае. Сілачка ня тая, што ў прошлым годзе, але нічога, з Божай дапамогай усё пойдзе.*

*Хачу яшчэ сказаць, што ліст Твой вельмі хутка прыйшоў. Высланы быў 15.4, а я атрымала 19.4. Спадзяюся, што й мой так хутка да Цябе дойдзе.*

*На гэтым канчаю, Дарагая Олечка, ад душы жадаю Табе паправы здароўя, моцнай веры й хрысьціянскай цярплівасьці. Буду і далей за Цябе маліцца.*

*Моцна Цябе абдымаю й цалую.*

*Зоя.*

Праз два гады пасля гэтага ліста, 30 верасня 1987 года, Вольга Запруднік памерла.

*12.7.88*

*Дарагі Янка!*

*Шчыра дзякую за ліст і за весткі. Прыемна было пачуць, што добра даеш сабе рады. Ды я ў гэтым ніколі й ня сумнявалася. Ты ідэйны, дзейны чалавек, не ўпадзеш пад ударам асабістага гора, сваю працу і абавязак не пакінеш, а што душа баліць... гэтага людзі хай лепш ня бачаць. Добра, што Вера[62] пры Табе, маладзец, што робіць кар'еру, а замуж калі й ня выйдзе, не няшчасьце. Ня ўсе замужам шчасьлівыя.*

*У мяне ў жыцьці нічога не зьмянілася, жыву ў сваёй хатцы летам, агарод дае даволі занятку і прыемнасьці (гадую шмат кветак), зімою шмат чытаю. Старэйшы сын Андрэй працуе настаўнікам нямецкай мовы і робіць пераклады для опэры ў Бруксэлі. Цяпер ён на вакацыях, лазіць па горах у Швайцарыі, альпінізм яго хобby.*

*Петрык скончыў перадапошні год славянскай філялёгіі. Як гэта часта з маладымі хлапцамі бывае, маю зь ім шмат клопатаў.*

*З нашымі сябрамі бачуся нячаста. Найбольшы кантакт маю з Інай, Жучкамі і Занкоўскімі. Найчасьцей запрашаю іх да сябе, бо-ж яны мабільныя, а я аўтам ня еджу. Вось дзён дзесяць таму гасьцілі яны ў мяне.*

*Агульнаведама, што сын Саўкаў Марк загінуў гэтай зімой трагічнай сьмерцю. У яго была няшлюбная жонка, якая чакала ад яго дзіцятка. На днях Іна мяне паведаміла, што нарадзіўся хлопчык, і яму далі на імя Марк. Саўкі цешацца, што ўсё-ж будзе насьледнік.*

*Перасылаю фатаграфію студэнцкай царквы, выпаўняючы Тваю просьбу. Магчыма, будзе завялікая, але меншай ня маю.*

*Адначасна перасылаю артыкул з беластоцкага праваслаўнага часопісу. У ім шмат даных аб актуальным стане гістарычных памяткаў у Полацку. Магчыма, скарыстаеш што для "Беларуса".*

*За пару тыдняў зьбіраюся паехаць у Беласток. Маю намер пабываць у рэдакцыі "Нівы", наведаць Беларускі Музэй у Гайнаўцы, таксама спаткацца з некаторымі журналістамі, перадусім з Сакратам Яновічам[63], зь якім вяду карэспандэнцыю. Сядзець на месцы ў Беластоку ня буду, хачу пабачыць чым больш цікавых вёсак і цэркваў. Можа ўдасца пасьля склеіць нейкі рэпартаж для "Беларуса", але ня ведаю, ці дам рады, з мяне невялікі пісака.*

*На сьвяткаваньне 1000-лецьця Хрысьціянства на Беларусі ў Лёндане выбіраюся ўсёй сямейкай.*

*Янка, выбачай, што пісьмо высылаю шмат пазьней, як паданая дата ў загалоўку. Вінаваты гэтаму розныя абставіны, ня буду аб іх пісаць, сьпяшаю, каб скарэй выслаць пісьмо.*

*Шчыра Цябе вітаю й жадаю ўсяго найлепшага.*

*Зоя*

Праз нейкі час пасля смерці мужа Зоя Смаршчок перабралася ў прыгарад Антверпена Вільрайк. Пры канцы 1980-х гадоў у жыцці не толькі метрапольных беларусаў, але і эмігрантаў распачаўся новы этап. Усё большыя кантакты наладжваліся з суродзічамі на Беласточчыне, а з часам з'явіліся і магчымасці адведаць Беларусь. Зоя Смаршчок пабывала на радзіме ўлетку 1991 года, напярэдадні путча...

*19.8.91*

*Дарагі Янка!*

*Два дні таму вярнуліся мы з Андрэем з падарожжа па Беларусі. Колькі перажываньняў, колькі ўражаньняў. Ня буду, аднак, усяго апісваць, на Беларусі Ты таксама быў нядаўна і ўсё бачыў. Пастараюся абмежавацца да некаторых фактаў, аб якіх хацела-б Цябе паведаміць.*

*Перад Беларусяй былі мы ў Беласточчыне. У рэдакцыі "Нівы" спаткаліся з Янінай Чарнякевіч, якая вядзе ў радыё ў Беластоку беларускія перадачы для дзяцей. Пазьней у самым будынку Польскага Радыё пазнаёмілася бліжэй з працаўнікамі беларускай сэкцыі. Гэта маладыя людзі, якія аддана працуюць, каб утрымаць у Беластоку беларускія перадачы. Нажаль, ім бракуе грошай. Дырэкцыі Польскага Радыё, якая вельмі пазытыўна да беларусаў адносіцца, яны нічога ня плоцяць, але самым трэба з нечага жыць. Тое, што яны дастаюць, далёка не дастаткова. Я абяцала ім дапамогу, спадзяюся, што мае сябры ў Бэльгіі мяне падтрымаюць.*

*У Стараельні, маёй роднай вёсцы, мы доўга не прабывалі. Найперш наведалі Наваградак. Вельмі ён мяне расчараваў. Я спадзявалася, што пасьля вайны адбудаваны горад павінен выглядаць яшчэ новым. Нажаль, будынкі паабіваныя, старыя, агульны від нейкай запушчанасьці. Старыя могілкі здэваставаныя нейкімі жулікамі, парытыя магілкі, паломаныя, панішчаныя памятнікі.*

*Адзіны добра ўтрыманы будынак гэта музэй Адама Міцкевіча, акружаны паркам чуць не на самым рынку. Праваслаўны сабор яшчэ ў добрым стане, каталіцкі касьцёл рэстаўруецца.*

*Дзеля поўнага вобразу трэба яшчэ ўспомніць вялікі комплекс высокіх жыльлёвых блёкаў, якія бачацца пры кожным горадзе. Пасьля былі ў Зэльве, наведвалі сваякоў а. Аўгена, па дарозе заглянулі ў Жыровіцкі манастыр.*

*У Мінску прабылі мы чатыры дні. Маем там сваякоў, так што жылося нам добра. Мінск нам падабаўся, толькі робіць уражаньне вельмі раскіданага. У нядзелю былі ў двох цэрквах. Усюды вялікі натоўп народу. У адной царкве ішлі без канца хрышчэньні, у другой шлюбы.*

*Былі адзін дзень у Вільні. Захопленыя горадам. У адрозьненьні ад Мінску, у Вільні кіпіць работа, усюды працуюць, усюды ідзе адбудова.*

*Праз пляменьніка Арэшкі навязалі мы кантакты з БНФ. Былі ў рэдакцыі "Навінаў", дзе з намі зроблена інтэрв'ю. Пазнаёміліся з кіраўніком Нацыянал-Дэмакратычнай Партыі, які прасіў пераслаць Табе яго артыкул. Вечарам былі ў "Хатцы беларускай". Сапраўдная малая хатка на фоне шматпавярховага будынку — музэй Максіма Багдановіча. Праваднік, малады чалавек, ня помню прозьвішча, аб'ясьніўшы нам музэй, паказаў пакой, у якім жыў М. Багдановіч. Тымчасам сабралася трохі людзей, і гэты самы праваднік заграў нам лялькамі цудоўную вясёлую "Батлейку". Там у іх пачынае арганізоўвацца народны лялечны тэатар.*

*Пасьля спэктакля прыйшло яшчэ больш людзей, і пачалося паседжаньне Ўправы БНФ. Нас прадставілі як гасьцей, але так як мы сьпяшаліся на дамоўленую вячэру, то мы адразу ўручылі падарунак у рукі сп. Пазьняка*[64]*. І тут мне прышлося сказаць прамову, да якой я ня была абсалютна прыгатаванай. Неяк пайшло. Былі яшчэ таксама ў Музэі Янкі Купалы, мелі добрую маладую праваднічку, якая прыгожа расказала аб жыцьці паэта. Не хацелася мне выяжджаць зь Мінску, не хацелася пакідаць Беларусі.*

*А сёньня а 7-й раніцы з радыя я даведалася аб адстаўцы Гарбачова*[65]*.*

*Што будзе далей? Што будзе з нашымі роднымі, з БНФ?*

*Шчырыя прывітаньні і пажаданьні ўсяго найлепшага.*

*Зоя.*

Пра далейшыя кантакты з Янкам Запруднікам звестак не засталося. Затое ад 1990-х бельгійскімі беларусамі сталі больш актыўна цікавіцца суродзічы з метраполіі. Пра сям'ю Смаршчкоў на пачатку 2000-х пісала Вольга Іпатава[66], невялікае інтэрв'ю Зоі ёсць таксама ў кнізе Аляксандра Адзінца "Паваенная эміграцыя: скрыжаванні лёсаў" (Мінск, 2006).

Зоя Смаршчок адышла ў лепшы свет 3 красавіка 2010 года. Скончыўся скрутак і яе жыцця. Але ж хроніка сям'і Смаршчкоў працягваецца надалей...

Каментары:

[1] Беларускія летапісы і хронікі. Мінск. Беларускі кнігазбор, 1997. С. 271.

[2] Рагуля, Барыс. Беларускае студэнцтва на чужыне. Выд. 2, выпраўленае й дапоўненае. Мінск, Беларускі кнігазбор, 2006. — 181 с.

[3] Запруднік, Янка. Дванаццатка: дакумэнтальная аповесьць пра дванаццацёх беларускіх хлапцоў у Нямеччыне, Вялікабрытаніі й Бэльгіі, 1946-1954. Jamaica, N.Y.: Belaruski instytut navuki ĭ mastatstva, 2002. — 510 c.

[4] Маюцца на ўвазе грамадскі і вайсковы дзеяч **Франц Кушаль** (1895—1968) і яго жонка, паэтка **Наталля Арсеннева** (1903—1997), якія ў той час жылі ў Нью-Ёрку.

[5] Маецца на ўвазе айцец **Францішак Чарняўскі** (1893—1979).

[6] Маюцца на ўвазе грамадскі дзеяч, арганізатар беларускага студэнцкага жыцця ў Бельгіі **Барыс Рагуля** (1920—2005) і яго жонка **Людміла Рагуля** (1925—2014), якія ў той час перабраліся з Бельгіі ў Канаду.

[7] У 1957 г. на старонках газеты "Бацькаўшчына" (№№ 22—26) друкавалася п'еса Кастуся Акулы "Тараканы ў саладусе", што была скіраваная супраць суродзічаў-эмігрантаў, што сталі больш дбаць пра ўласны дабрабыт, чым пра грамадскія патрэбы.

[8] *Gürance* (фр.) — адміністратар, загадчык.

[9] *Mutualiteit* (галандск.) — тут маецца на ўвазе медыцынскі страхавы фонд — інстытуцыя, якая забяспечвае сябрам частковае ці поўнае фінансаванне медыцынскіх паслугаў, кампенсацыю кошту лекаў і інш. У Бельгіі такі каталіцкі фонд з'яўляецца адным з пяці найбуйнейшых.

[10] *Aumonier* (фр.) — зборшчык ахвяраў на дабрачыннасць.

[11] *Prick* (анг.) — у англійскай мове мае некалькі значэнняў, тут можа ўжывацца ў дачыненні да злога, нядобрага чалавека

[12] *Christelijke Volkspartij* — назва да 2001 г. партыі, якая сёння мянуецца "Хрысціянскія Дэмакраты і Фламандцы".

[13] *Burgemeister* — бургамістар, мэр.

[14] *"Het Volk"* — назва бельгійскай газеты, кантраляванай хрысціянскімі прафсаюзнымі арганізацыямі.

[15] **Роберт ван Кавэлярт дэ Уілс** (1906—?), апякун беларускіх студэнтаў у Любвэне.

[16] *Kessel-lo* — горад у Бельгіі.

[17] *Malines* — французская назва горада *Mechelen*.

[18] Маецца на ўвазе дачка Янкі і Вольгі Запруднікаў

[19] *"Усё прыходзіць па заслугах"* (ням.).

[20] Відаць, маецца на ўвазе папулярны нарыс беларускай гісторыі Язэпа Найдзюка "Беларусь учора і сяньня" (1-е выданне — 1940 г., 2-е — 1944 г.).

[21] *Mйmoire* (фр.) — тут маецца на ўвазе пісьмовая праца ва ўніверсітэце, што прадстаўляе вынікі праведзенагага даследавання і падаецца для атрымання навуковай ступені, звычайна, магістра.

[22] Маецца на ўвазе адзін з беларускіх студэнтаў у Любвэне **Васіль Барысевіч**, які студыі не скончыў.

[23] Halecki, Oscar. From Florence to Brest (1439—1596). New York, Fordham University Press; Rome, Sacrum Poloniae Millenium, 1958. — 444 p.

[24] Відаць, маецца на ўвазе Беларускі інстытут навукі і мастацтва.

[25] **Мацей Стрыйкоўскі** (1547—1593), польскі гісторык, пісьменнік, дыпламат, аўтар вядомай "Хронікі Польскай, Літоўскай, Жамойцкай і ўсёй Русі" (1582).

[26] Маецца на ўвазе пісьменнік і навуковец, што ўзначальваў кафедру сучасных моў і рускай літаратуры ў Школе гуманітарных навук Рэнсэлерскага політэхнічнага інстытута ў Троі (штат Нью-Ёрк), **Уладзімір Сядура** (Глыбінны, 1910—1995).

[27] У пошуках сьвету вечнае красы. Інтэрвію з прафэсарам і пісьменьнікам Уладзімерам Глыбінным у сувязі з 30-годзьдзем літаратурнай дзейнасьці й выхадам кнігі мастацкае прозы "На берагох пад сонцам" // Бацькаўшчына. №11—12 (625—626). Верасень 1964. С. 4—5.

[28] Айцец **Леў Гарошка** (1911—1977), рэлігійны дзеяч, пісьменнік.

[29] У лістах блытаніна з датамі. Гэты ліст напісаны выразна пазней за папярэдні, хоць даты ў ім ранейшыя.

[30] Engelhartd, Eugen. Weissruthenien : Volk und Land. Berlin : Volk und Reich, 1943. — 358 p.

[31] Смоліч, Аркадзь. Географія Беларусі. Вільня: Віленскае выдавецтва, 1923. Выд. 3, значна перапрацаванае і дапоўненае. — 367 с.

[32] Хрэстаматыя па старажытнай беларускай літаратуры: вучэбны дапаможнік для філалагічных факультэтаў вышэйшых установаў. Склаў А. Ф. Коршунаў. Мінск: Дзяржаўнае вучэбна-педагагічнае выдавецтва Міністэрства асветы БССР, 1959. — 468 с.

[33] Vakar, Nicholas P. A bibliographical guide to Belorussia. Cambridge, Harvard Univ. Press, 1956. — XII+63 p.

[34] De Bray, R. G. A. (Reginald George Arthur). Guide to the Slavonic languages. London: Dent, [1951]. — XXVI+797 p.

[35] Vakar, Nicholas. Belorussia: the making of a nation, a case study. Cambridge, Harvard University Press, 1956. —XII+297 p., maps.

[36] Відаць, маецца на ўвазе айцец **Аляксандр Надсан** (1926—2015).

[37] Магчыма, маецца на ўвазе грамадскі дзеяч, літаратуразнаўца і выдавец **Станіслаў Станкевіч** (1907—1980).

[38] Маецца на ўвазе гісторык, супрацоўнік Інстытута вывучэння СССР у Мюнхене **Паўла Урбан** (1924—2011).

[39] Маецца на ўвазе беларуская рэдакцыя Радыё "Вызваленне / Свабода" ў Мюнхене.

[40] **Аляксандр Лашук** (1909—1997), грамадскі дзеяч, што жыў у Лондане і займаўся распаўсюдам беларускіх кніг і перыёдыкаў.

[41] **Янка Станкевіч** (1891—1976), грамадскі дзеяч, навуковец-мовазнаўца, журналіст, кіраўнік Крывіцкага навуковага таварыства імя Пранціша Скарыны.

[42] **Антон Адамовіч** (1908—1998), грамадскі дзеяч, літаратуразнавец, гісторык, публіцыст, літаратар.

[43] *Pro et contra* (лац.) — за і супраць.

[44] Маецца на ўвазе адзін з сябраў "Дванаццаткі" **Лаўрын Клыбік** (1928—2005). Пра яго можна прачытаць у адпаведнай кнізе Янкі Запрудніка.

[45] Маецца на ўвазе навуковец-хімік **Аляксей Арэшка** (нар. 1923).

[46] Маецца на ўвазе інжынер **Янка Жучка** (1928—2010).

[47] **Людміла Войтанка**, жонка Уладзіміра Бакуновіча, была адной са студэнтак Лювенскага ўніверсітэта, але навучанне не скончыла.

[48] Маецца на ўвазе бельгійскі беларус **Пётра Барысік**, радны БНР.

[49] Маецца на ўвазе грамадскі дзеяч **Станіслаў Грынкевіч** (1912—1966), які жыў у Кліўлендзе (ЗША).

[50] Маецца на ўвазе гісторык і журналіст **Віктар Сенкевіч** (1926—?).

[51] Библиография белорусской советской библиографии, 1922—1961: указатель библиографических материалов, изданных в БССР. [Укл. Лідзіі Збралевіч і Святланы Фядулавай]. Мінск: изд-во Академии наук БССР, 1963. — 268 с.

[52] *Ford Taunus 12M*, невялікі сямейны аўтамабіль, выпускаўся паміж вераснем 1962 і жніўнем 1966 гг.

[53] Ліст надрукаваны, упісваліся толькі прозвішчы адрасатаў.

[54] **Ніна Абрамчык** (1916—2003), жонка Міколы Абрамчыка.

[55] **Міхась Саўка** (1927—1990), мастак, рэстаўратар.

[56] **Мікола Равенскі** (1886—1953), кампазітар, аўтар музыкі гімна "Магутны Божа", стваральнік Беларускага студэнцкага хора ў Лювене.

[57] Маецца на ўвазе дачка Барыса і Людмілы Рагуляў.

[58] **Уладзімір Набагез** (1919—2011), грамадскі дзеяч, лекар.

[59] Маецца на ўвазе мастак, скульптар **Міхась Наўмовіч** (1922—2004).

[60] Запруднік, Ян. Спадчына бацькоў: "Агледзіны": да 100 годзьдзя ад нараджэньня Я. Купалы й Я. Коласа. Нью Ёрк: Выдавецтва газэты "Беларус", 1982. — 31 с.

[61] У гэты час Янка Запруднік быў рэдактарам газеты "Беларус".

[62] Дачка Запруднікаў.

[63] **Сакрат Яновіч** (1936—2013), беларускі пісьменнік у Польшчы.

[64] **Зянон Пазняк** (нар. 1944), палітычны дзеяч, лідар Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне".

[65] Маюцца на ўвазе падзеі жнівеньскага путчу 1991 г., калі Прэзідэнт СССР Міхаіл Гарбачоў (нар. 1931) быў заблакаваны ў сваёй рэзідэнцыі ў Фаросе.

[66] Іпатава, Вольга. Беларуская эміграцыя ў Бельгіі (сям'я Смаршчкоў) // Беларусь—Бельгія: Грамадска-культурнае ўзаемадзеянне: Матэрыялы Міжнароднага "Круглага стала", Мінск, 18—19 мая 2001 г. — Мінск: Беларускі кнігазбор, 2002. – С. 176—181.

Сяргей Шапран



...два шляхі маю –

мастацтва і вера...

# Уладзімір Някляеў. Незавершаная аўтабіяграфія

***Старонкі новай кнігі***

## ДЫСІДЭНТ

*Працяг. Пачатак у №№6 (73), 1-5 (74-78).*

Карлас Шэрман, у той час 1-ы віцэ-прэзідэнт Беларускага ПЭН-цэнтра, прыгадваў: «Улетку 1999 году да мяне ў ПЭН-цэнтар завітаў рэдкі госьць – Уладзімер Някляеў (калі бачу яго, прыгадваю крыху ўсьмешлівую мянушку, якую надала яму незабыўная Жэня Янішчыц, – Вальдэмар). [...]

Апошнім часам я бачыў Някляева выключна па тэлевізіі, – ён удзельнічаў у адрозных фэстывалях і базарах эстраднае песьні, якія фінансаваліся дзяржавай ды падаваліся як найвышэйшыя ды адзіна вартыя праявы культуры [...].

Адразу я ўважыў, што Някляева нібыта падмянілі, бо таленавіты паэт і аматар вясёлых прыгодаў быў засмучаны, быццам бы на душы лёг непамерны цяжар. Ён спытаў, ці можа пагаманіць са мною канфідэнцыйна [...]. Упершыню ў жыцці ён прыйшоў параіцца, і гэта было крыху дзіўна, бо даверлівыя адносіны ён падтрымліваў пераважна ў сваім, тагачасным коле.

Аднак я ўважліва слухаў яго і пачуў першую вэрсію (бо потым нечакана ўзьніклі іншыя) пра тое, што пад тыя дні здарылася зь ім. На яго, маўляў, наўмысна наслалі правяральшчыкаў, і яны мелі за мэту найменш пасадзіць, а пэўныя асобы маглі нават “заказаць” яго [...].

Мо памылкова, але мне падалося, што Някляеў крыху перабольшваў. Навошта забіваць, калі нямашака ні сапраўднае патрэбы, ні рэальнай матывацыі? [...].

Знішчыць сучаснага паэта – задача вельмі простая: яна дасягаецца забаронаю на публічнасьць, калі чалавек ёсьць, а нібыта яго няма. Гэта – бальшавіцкі вопыт. Апрача таго, наіўна было думаць, што нядобры палкоўнік не выконваў загады найвышэйшых асобаў.

Таксама нельга было ня ведаць, што на кожнага чалавека з бліжняга дый ня надта блізкага кола вяліся дасье і пошук кампрамату на ўсялякі выпадак, і гэта ўжо тады сталася агульнавядомым і нават было агучана афіцыйна. Іншая справа, ці трэба ўваходзіць у заганае кола, зь якога проста так ня выйсьці, і адтуль трэба весьці адлік часу бедам, і вінаваціць мусіш сябе, бо паэту наканавана толькі паэтава, а намэнклятурныя гульні гуляюцца выключна ў адныя вароты.

Упэўніцца ў слушнасьці ягоных меркаваньняў і аргумэнтаў было ня толькі абсалютна немажліва, але і наагул бязглузда, бессэнсоўна. Я давёў яму, што калі справы насамрэч складваліся такім чынам, рэальна ацэніўшы абставіны, дык трэба хоць на час з’ехаць з краіны, пабыць недзе ды паглядзець, як будуць разьвівацца падзеі, але я настойваў на тым, што ён папярэдне мусіў даведацца, ці сапраўды надумалі пазбавіцца ад яго, альбо гэта шараговы блеф.

Паэт паведаміў, што надта высокі прыяцель пацьвердзіў інфармацыю, і ён яму цалкам давярае»[1].

6 чэрвеня 1999 г. Някляеў выехаў за мяжу. 8 чэрвеня ў газеце «Народная воля» з’явіўся ягоны, згаданы вышэй, артыкул «Антиподы и эфиопы» – пра ролю віцэ-прэм’ера Замяталіна ў лёсе СБП, рэдакцый беларускіх выданняў і ў асабістым лёсе аўтара артыкула. Газета «Свободные новости» пісала ў гэтай сувязі:

«Публичные откровения становятся излюбленным приёмом отечественных светил от политики, литературы, бизнеса и пр. Критическая масса накопленных обид приводит к закономерному результату: не доверяя в индивидуальном порядке практически никому, люди апеллируют к общественному мнению. Газетные страницы негосударственных изданий постепенно превращаются в единственный полигон для выражения крайней формы протеста. [...]

Послание вице-премьеру Заметалину, курирующему вопросы культуры, [...] зрело достаточно долго, – если судить по глубине исторического экскурса. Сам факт касания непотопляемого идеолога свидетельствует о том, что планка идеологического терпения оказалась неберущейся даже для видавшего виды комсомольского пропагандиста и склонного к компромиссам поэта-песенника.

По сути, до этого лаврами нарушителей официального спокойствия заочно были “награждены” Быков, Бородулин да Гилевич. Намедни список нелояльных по отношению к власти пополнил и сам председатель в массе своей однородного объединения. То, что тестирование на профпригодность может оказаться архисложным, можно не сомневаться. Равно как и то, что отношения с Центром испорчены всерьёз и надолго. Каплей, переполнившей чашу терпения, оказалась встреча президента с творческой интеллигенцией.

Официальные СМИ подали событие как акт полного соития на творческой ниве. Демтечения обозвали интеллигентов коллаборационистами и фактически продажными элементами, Некляев не согласился ни с теми, ни с другими, что и нашло своё отражение в последнем адресном послании на имя человека, который, по мнению Некляева, на дух не переносит всё белорусское. Но, как правило, оправдания воспринимаются с трудом, и положение шефа белорусских литераторов

так и осталось в положении “меж двух огней”. Сразу же после публикации скандально-обличительной статьи в среде разномастной интеллигенции пошёл гулять слух о якобы уже решённом вопросе эмиграции Владимира Некляева за пределы страны, в частности, в США. Причина не конкретизировалась, но мотивы как бы и без того лежали на поверхности. Подтвердить или опровергнуть народные домыслы оказалось непросто, поскольку Владимир Прокопович воспользовался правом на законный отдых и покинул пределы Минска»[2].

Някляеў выехаў з Беларусі 6 чэрвеня. 17 чэрвеня, знаходзячыся ў Варшаве, ён нібыта прыняў рашэнне ў Беларусь не вяртацца: «Я не мог себе позволить попасть в полное дерьмо. А я уже был близок к этому, и выхода не было. Не мог я себе представить, что окажусь в этой компашке и стану зарабатывать деньги, как мне предлагали, власть буду иметь такую, при которой, как мне говорили, “эти сраные националисты жопу тебе лизать будут, на брюхе приползут!” Цитирую дословно, поверьте. Мне говорили: “Вот тебе власть, бери! У тебя же батька русский, чего ты вообще связался с этими белорусами, одумайся!”»[3] «Я понял: надо принимать кардинальное решение, – тлумачыў Някляеў іншым разам. – Никакие полуходы и мелкие хитрости не помогут. Или ты рвёшь, или не рвёшь. Не рвать... Это с моим характером означало в какой-нибудь день намылить верёвку»[4].

Пра гэтае яго рашэнне ведала толькі жонка; спачатку, як кажа Някляеў, была супраць, а пасля, дазнаўшыся пра ўсе акалічнасці, пагадзілася[5]. Прэса ж пра нечаканы ад’езд старшыні СБП паведамляла па-рознаму:

*«Белорусская деловая газета»:* «“Диалог с Лукашенко невозможен”, – так выразился в приватной беседе с журналистами Владимир Прокопович, имея в виду взаимоотношение власти и национальной интеллигенции. Некляев также заявил, что источник из Администрации президента сообщил ему, что в отношении его в ближайшее время будет предпринята акция “просвещения в наручниках”. Судя по всему, не желая становиться очередным узником режима, поэт предпочёл свободу на Западе.

В последнее время на главу писательской организации оказывалось давление, связанное с его принципиальной позицией по проблемам возрождения белорусской культуры. Несколько месяцев назад у Некляева случился инсульт. [...]

До сих пор белорусскими невозвращенцами по политическим мотивам были только политики и бизнесмены, имевшие весомые основания находиться вдали от Родины, пока у власти там находится Александр Лукашенко. Все они в разной степени имели в глазах президента стойкую репутацию оппозиционеров. Однако Владимир Некляев – совершенно иная фигура. Поэт, всегда остававшийся успешным и в советский период, и после обретения Беларусью независимости, сознательно сторонился политики и умел ладить, казалось, с любой властью. Свидетельство чему – премия Ленинского комсомола и недавно полученная Государственная премия Беларуси. Трудно было придумать более лояльного для нынешнего режима руководителя писательской организации, который бы при этом обладал несомненным талантом и авторитетом среди коллег по цеху. И вот теперь он оказался в стане открытых противников режима. [...]

Владимир Некляев стал первым деятелем белорусской культуры, решившим эмигрировать по политическим мотивам. Отъезд патриарха белорусской литературы Василя Быкова год назад в Финляндию не был формально политической акцией, поскольку Василь Владимирович официально выехал из Беларуси по приглашению ПЕН-центра Финляндии отдохнуть и поработать.

Показательно, что в качестве основного противника деятелей белорусской культуры уже не в первый раз выступает г-н Заметалин. Проводимая не без его участия политика национального нигилизма приводит к нарастанию противостояния между интеллигенцией и властью. Достаточно вспомнить характеристику, данную вице-

премьеру на съезде Союза белорусских писателей Геннадием Буравкиным: "Для него это – очередное место службы, а нам здесь жить". Отъезд сверхлояльного и сверхосторожного Некляева, призванного в своё время коллегами по Союзу к власти во многом благодаря его внутренней склонности к компромиссам, демонстрирует очевидное: там, где служит Заметалин, интеллигентам жить становится всё труднее.

Впрочем, президенту всё равно. Писателей много, Заметалин – один»[6].

*«Навіны»:* «Уладзімір Някляеў выехаў у Варшаву для ўдзелу ў міжнародным семінары ПЭН-клуба. Паводле ягоных словаў, на мінулым тыдні па-сяброўску настроены да яго чалавек з прэзідэнцкай адміністрацыі паведаміў, што супраць яго рыхтуецца правакацыя, якая можа закончыцца ўзяццем пад варту. Гэты чалавек, у прыватнасці, удакладніў, што Някляева "маглі падаць як горкага п'яніцу, які не ведае, што робіць", альбо навесіць на яго фінансавыя абвінавачванні. [...]

Аднак, па словах Някляева, не гэта стала галоўным штуршком для яго рашэння аб невяртанні на радзіму. У гутарцы з журналістамі 20 чэрвеня ён сказаў, што пасля пяці гадоў ілюзіяў адносна сённяшняй улады ён, нарэшце, зразумеў: дыялог з прэзідэнтам Аляксандрам Лукашэнкам немагчымы. Паводле ягоных словаў, прэзідэнцкае атачэнне складаюць людзі, для якіх абсалютна абыякавы лёс беларускай мовы, культуры, літаратуры»[7].

*«Имя»:* «Пока похоже на то, что в современной белорусской литературе возникает совершенно новый жанр – жанр эмиграционного творчества эпохи торжествующего рыночного социализма. Родоначальником жанра стал Владимир Некляев – первый в истории не только СНГ, но и СССР руководитель творческого союза, ставший невозвращенцем. [...]

Вот почему можно легко предвидеть, что официальной версией побега Владимира Некляева оглашающие властные структуры СМИ двинут результат финансовой проверки редакции журнала "Крыніца". Возразить против этого вроде бы и нечего: проверка указала на целый букет нарушений, следствием чего должны были стать сразу несколько статей Уголовного кодекса. Но на самом деле эти "злоупотребления властью" главного редактора – не причина, а только следствие. Ибо причиной является острая неприязнь полковника [Ул. Замяталіна. – *С. Ш.*] ко всему белорусскому и к поэту Некляеву, как к одной из весьма весомых и существенных составляющих национальной культуры, как к одному из ярких её лидеров.

Только вряд ли об этом будут рассуждать на официальном уровне. Все будут повторять: Некляев проворовался. Но говорить так – значит говорить полуправду. Поскольку все знают, что такое сегодня проверяющие службы и как они работают. И совершенно не случайно тотальной проверке подверглась редакция именно "Крыніцы" – журнала, на который уже неоднократно "наезжали" по поводу того, что на его страницах печатают "не то" и "не про тех". И если перед проверяющими была поставлена цель найти упущения прежде всего в финансовой деятельности, значит, такие упущения должны были обнаружиться. Что и случилось.

При этом операция была проведена действительно тонко. Оказалось, что против главного редактора – нарушителя трудовой и финансовой деятельности – восстало большинство сотрудников редакции. Всё вроде бы правильно: злоупотребления властью не должны оставаться без внимания. Но компромат был брошен в точно рассчитанное время, и, таким образом, внешне именно редакция взбунтовалась против главного, тем самым, не зная наверняка всего (а мы все и сейчас всего не знаем!), оказав помощь полковнику в погонах вице-премьера.

В ответ на всё это могу сказать одно: если бы такая проверка пришла с таким заданием в редакцию любого другого журнала, итог наверняка был бы точно таким же. Главное ведь для сегодняшней власти – цель. Пути её достижения не имеют значения.

Вот почему в основе всего случившегося следует видеть прежде всего продолжение линии части президентского окружения на подавление любых проявлений национального самосознания, а причину эмиграции Владимира Некляева – не в финансовых злоупотреблениях, а в том, что быть поэтом в этой стране становится всё труднее. Легче быть пиитом, воспевающим власть. [...]

Можно припомнить ещё и заявление группы белорусских писателей против союза с Россией, и резкое неприятие большинством писателей попыток объединения нашего Союза с одним из российских, известным своим стремлением к великодержавности. И в такой ситуации Владимиру Некляеву действительно приходилось лавировать, и он наверняка всякий раз пытался найти золотую середину, чтобы и Союз писателей сохранить, и не потерять уважение тех действительно авторитетных коллег по цеху, которые благословили его на председательское кресло.

Да не так просто это оказалось. Не выдержал, высказал в прессе всё, что он думает. И был вынужден бежать. Не от Уголовного кодекса – за это в другой ситуации и при иной власти он наверянка смог бы ответить. Бежал от тех, кто готов убить его морально. А это иногда пострашнее смерти физической бывает. Особенно – для поэта»[8].

*«Наша Ніва»:* «Уладзімер Някляеў не вярнуўся ў Беларусь. Апошнія надзеі “дзяржаўнай” інтэлігенцыі на перавыхаваньне прэзыдэнта разьвейваюцца. Улада застаецца пры сваім імкненьні выправіць “гістарычную памылку бальшавікоў” і ліквідаваць беларускае пытаньне. Дзяржаўная інтэлігенцыя застаецца перад выбарам: устаць разам з усім народам ці працягваць удаваць вялікую хітрасьць, трымаючы хвігу ў кішэні.

Эміграцыя Някляева, дэкляраваны крах спробаў недалучанага чалавека “цярпець уладу моўчкі”, можа стаць вялікай справай для Беларусі, для дасягненьня нацыянальнага адзінства. Гэта знакавы ўчынак [...]. Выходзіць, ніякі чалавек ня можа больш трываць. Лепш ужо няволя, лепш эміграцыя, чым маўчаньне.

Саюзу пісьменьнікаў Някляеў дае адзіны шанец ператварыцца з савецкага бюракратычнага фантому, зь якім ужо даўно ніхто ня лічыцца і якога ніхто не заўважае, у нешта сапраўднае, з прынцыпамі і пазыцыяй. [...]

Валянцін Акудовіч, сябар рэдакцыі “Крыніцы”, пацьвярджае: “Някляеў, як ніхто, умее трымаць паўзу”. Карэспандэнт “Белорусской газеты” Сямён Букчын абураецца ў слухаўку: “Нічога ня ведаю. Я вам не літсакратар Някляева, я не затым у Варшаве”. Віктар Шніп, які працаваў адказным сакратаром “ЛіМу” і за Някляева, усьміхаецца ў вусы: “Някляеў паехаў па Нобэлеўскую прэмію. Шымборская не атрымала, польская паэтка не атрымала ж гэтую прэмію”.

“У беларускай літаратуры была адна энігма – Максім Танк. Мас-мэдыя за тыдзень зьляпілі другую.

Згадваюцца даўнія кадры з БТ: калі Лукашэнка ўрачыста адкрываў Тэатар эстрады, ён абыходзіў прысутную “творчую інтэлігенцыю”, вітаючы і цiснучы рукі. Падышоў і да Някляева. Той застаўся стаяць рукі ў кішэнях. Лукашэнку скрывіла»[9].

*«Свободные новости»:* «Можно ли обвинять Некляева в том, что свободу он поставил выше ореола мученика? Пугает, пожалуй, то, что политический исход из Беларуси становится приметой времени. Вчерашний лауреат госпремии стал первым “культурным перебежчиком”, попросившим убежища на Западе. И сие при том, что до этого Некляев сознательно избегал политических баталий и слыл едва ли не олицетворением лояльности по отношению к власти. [...]

Коллеги по цеху поступок Некляева восприняли неоднозначно.

Анатолий Козлович [...] констатирует:

– Некляев поставил себя в ситуацию, из которой было два выхода: или

сотрудничать с режимом, или бежать. Люди творческой профессии – писатели, журналисты, художники, – прежде чем идти даже на минимальный контакт с властью, должны крепко обдумать своё решение. Когда Некляева избирали председателем союза, все завуалированно – не прямо – говорили о том, что это человек "гнуткі", контактный, лояльный, способный обеспечить хорошие отношения Союза с Лукашенко, власти с интеллигенцией. Однако сами серьёзные люди от "хлебного места" отказались категорически. [...]

Геннадий Буравкин, фактически уговоривший литературную братию поддержать кандидатуру Некляева, [...] предполагает, что заявление Некляева является эмоциональным взрывом, поскольку никогда подобная вероятность ранее не обсуждалась. "Я люблю Володю как человека, поэта". И не исключено, что ход делу "об эмиграции" дают не друзья, а враги. Таково приватное мнение Геннадия Буравкина»[10].

*«Рэгіянальная газета»*: «Смаргонь у лёгкім здранцвенні. Ураджэнец Крэва, "галоўны пісьменнік" краіны Уладзімір Някляеў заявіў у Варшаве, што вырашыў застацца ў Польшчы. Мы звязаліся па тэлефоне з першым беларускім эмігрантам, які атрымаў пасля 1996 года палітычнае прыстанішча ў Польшчы, Янкам Чурыловічам, журналістам і сёлетнім студэнтам-выпускніком факультэта эканомікі Варшаўскага ўніверсітэта.

Янка Чурыловіч пацвердзіў інфармацыю аб Някляеве [...]: – Гэта так. Новае тут тое, што Някляеў ніколі, па вялікім рахунку, не прыналежаў да апазіцыі. Польскія ўлады стаяць перад праблемай, ці даваць прыстанішча не толькі прадстаўнікам апазіцыі, але і людзям больш талерантным да афіцыйных уладаў.

– У першапачатковай інфармацыі не гаварылася прама аб тым, што Някляеў просіць прытулыку. Кажуць толькі пра нежаданне вяртацца ў Беларусь.

– А як не вяртацца? У такім разе можа наступіць экстрадыцыя. У Польшчы нельга жыць без дазволу на працу, па беларускіх паперах...»[11]

*«Trybuna»:* «Уладзімір Някляеў тры тыдні таму ўцёк з Беларусі ў Польшчу. Да сённяшняга дня знаходзіцца ў нашай краіне, чакаючы дапамогі польскай улады. Гэта чарговая асоба, якая хаваецца за мяжой ад помсты Лукашэнкі.

Някляеў не з'яўляецца шараговай асобай – гэта вядомы беларускі паэт, які спачатку года кіруе Саюзам беларускіх пісьменнікаў. Доўгі час ён спрабаваў паяднаць інтарэсы культуры і незалежнасці сваёй краіны з палітыкай мясцовага рэжыму. У апазіцыі ён не ўдзельнічаў, нават пазбягаў палітыкі. Але ўрэшце трыванне скончылася. [...]

Не жадаючы быць чарговым вязнем беларускага прэзідэнта, ён вырашыў шукаць паратунку за мяжой»[12].

*«Ніва»:* «Да гэтага часу Уладзімір Някляеў быў ці не адзіным беларускім паэтам, вершы якога вядомыя сваёй літаратурнай вартасцю, які спрабаваў паразумецца з існуючай на Беларусі ўладай. Ён удзельнічаў у рознага кшталту афіцыйных культурных мерапрыемствах, выступаў у прэзідэнцкім "парламенце". Абранне Някляева старшынёй пісьменніцкай арганізацыі ў не апошнюю чаргу было звязана са спадзяваннямі літаратараў на тое, што ён знойдзе кампраміс з рэжымам і не дапусціць да знішчэння Саюза пісьменнікаў.

За "гульні" з уладамі, якія мэтанакіравана знішчаюць у Беларусі ўсё беларускае, да Някляева з падазронасцю адносіліся некаторыя прадстаўнікі нацыянальнай апазіцыі. Аднак, як высветлілася, старшыня Саюза пісьменнікаў апынуўся паміж двума агнямі. [...]

Відаць, урэшце Някляеў не вытрымаў. [...] ...старшыня Саюза пісьменнікаў вырашыў стаць палітычным эмігрантам»[13].

Выказаў сваё меркаванне і Рыгор Барадулін: «В этом деле много загадок. Я знаю Некляева как человека, преданного Беларуси и любящего ее. Это талант-

ливый человек. Но он стал играть с властью. А с его лирическим характером играть с властью очень опасно. И если уж Некляев уехал, надо задуматься над тем, что ситуация абсолютно неблагоприятная и непредсказуемая для творческой интеллигенции. От власти надо держатся подальше, как и от огня. И прав был Мандельштам, когда говорил, что власть омерзительна, как руки брадобрея...»[14]

Святлана Алексіевіч называла невяртанне Някляева трагедыяй: «Многие сегодня достаточно жёстко говорят о том, как Володя в последние годы вёл себя, что он делал. Конечно, говорить об этом можно много[15]. Но главное, что следует признать, – за свои ошибки приходится дорого платить. И особенно интеллигенту. К сожалению, так уж сложилось в нашей истории, культуре, что надо быть не только поэтом или писателем, но и ещё кем-то.

Но, с другой стороны, я считаю это мужественным поступком. Потому что когда я вижу по телевизору, как седовласые мужи из Совмина, понурившись, смотрят вниз в то время, когда на них кричат, я думаю о том, что ни у кого из них не хватает мужества не позволить так с собой обращаться. А Некляев совершил как раз мужественный поступок. Это и поступок и вызов одновременно. Я увидела хотя бы одного мужчину, который в ситуации унижения повёл себя по-мужски»[16].

У сваю чаргу Адам Глобус пісаў: «У яго жыцьці наступіў крызыс. Той Някляеў, якога я ведаў, быў чалавек экстэр’ерны, эстрадны, пасадны. Ён заўсёды быў навідавоку. Гэта чалавек, які мог чытаць вершы на стадыёне або выступаць на зьезьдзе камуністаў. Яго заўсёды цікавіла зьнешняя праява мастацтва. І разам з тым гэты чалавек валодаў вялікай здатнасьцю дамаўляцца з усімі. Цяпер, мусіць, гэта першы выпадак, калі ён не дамовіўся з уладамі.

На маю думку, чалавек такога складу здольны да суіцыдальных жэстаў. Ён захварэў. А як не захварэць, калі цябе прадалі, прычым прадалі ня тыя людзі, што лічыліся ворагамі, а людзі, калегі, зь якімі ты прапрацаваў усе лепшыя гады. Яны не зразумелі, што часопіс “Крыніца”, і тая старая, і новая – гэта вяршыня творчасьці Някляева, ягоная вялікая заслуга. Тыя, хто хацеў выгнаць Някляева з “Крыніцы”, пралічыліся. Някляеў зробіць – у Польшчы, у Парыжы, дзе заўгодна, – новую, будучую “Крыніцу”, нармальны літаратурна-мастацкі часопіс. Я ўпэўнены, што ён зробіць такі часопіс. Гэта адзінае, што можа вывесьці яго і з дэпрэсіі, і зь нняснага палітычнага стану. Тым больш што за межамі Беларусі жыве дастаткова творчых асобаў, якія маглі б удзельнічаць у такім часопісе – Быкаў, Дубавец, Мінкін, Шупа, Максімюк, Лукашук, Сокалаў-Воюш, амэрыканская й ангельская эміграцыя. Някляеў – таленавіты арганізіатар. [...]

Ніводзін з тых людзей, што прэтэндавалі і прэтэндуюць на пасаду галоўнага рэдактара “Крыніцы”, ня маюць маральнага права так рабіць ды й ніводзін зь іх проста ня здатны рабіць часопіс. Яны могуць стварыць добры верш, напісаць добры артыкул, зрабіць добры пераклад, але кіраваць працэсам ні адзін зь іх ня здатны.

Жэст Някляева – гэта жэст не палітыка, а чалавека і паэта»[17].

Драматург Аляксей Дудараў, які ў чэрвені 1999 г. катэгарычна заяўляў: «Некляев – мой друг, моим другом он был вчера, является им сейчас, другом будет и завтра. Что бы с ним не случилось»[18], нават і праз год пасля яго ад’езду прызнаваўся, што быў здзіўлены ўчынкам сябра: «Но если поэты уезжают из Датского королевства, значит, в королевстве не всё в порядке. И плохо, если власти не прислушиваются к тому, что говорят творческие люди. Дело вовсе не в том, чтобы власти сразу бросались исполнять то, что мы посоветуем. А в том, что к нам просто следует прислушиваться. У творческих людей ведь хорошо развита интуиция...» І дадаваў: «Но ему не позавидуешь! Я ведь хорошо знаю его – мы были друзьями многие годы. Причём он остаётся моим другом и сейчас – я никогда не откажусь от него. И поэтому кто-кто, а я-то знаю, каково теперь его душе!»[19]

Заставалася ў разгубленасці і Вольга Іпатава, якая была намесніцай Някляева

ў СБП: «Пакуль, да 6 ліпеня, афіцыйна ён знаходзіцца ў адпачынку. [...] Ён і ў адпачынак сышоў неяк раптоўна [...]. Хаця, з другога боку, чалавека, які перанёс інсульт, можна зразумець»[20].

Калегі Някляева па СБП сапраўды не разумелі яго. Невыпадкова занатаваў у хуткім часе Карлас Шэрман: «Ужо тады знаўцы нашага жыцця сумняваліся ў палітычных чыньніках уцёкаў Някляева, ім нават не падабалася, што часьцяком за ім цягнуўся гарэлачны шлейф, хоць розум заставаўся сьветлым, а ўчэпістыя вочы выдавалі слыннага аматара жаночых сэрцаў, але я даводзіў ім, што паэтавы паводзіны здольныя мець больш вольны, трошкі багемны антураж, ды насамрэч немажліва гэтак ставіцца да яго, ня ведаючы падводных плыняў і абставінаў, якія змусілі чалавека ўцячы [...].

Трэба прызнацца, мне не ўдалося разьвеяць мроіва сумневаў нават сярод пісьменьнікаў, якія заўжды паважалі яго, і іхная пазіцыя грунтавалася на тым, што ён ня стаўся ахвярай сапраўдных перасьледаў, а становішча мела іншыя, зусім пазалітаратурныя карані. Гэтак, дарэчы, меркаваў і Васіль Быкаў, які аднойчы цьвёрда выказаў яму гэта пры сустрэчы ў ПЭН-цэнтры.

Хіба што двое паэтаў, што і раней сябравалі зь ім, падтрымлівалі яго без ваганьняў і гаварылі мне асабіста, што па мажлівасьці трэба неяк дапамагчы яму, і гэта былі шаноўныя Генадзь Бураўкін і Сяргей Законьнікаў. [...]

...У вачох грамадзтва ён сам – раней – улез у лайно, и цяперака доўга застанецца трошкі штучнаватым лібералам, бо хто паверыць, што ён стаўся відушчым, якраз калі страціў апору ва ўладных структурах? Вядома, услых пра гэта ня скажуць, але ўсё адно падумаюць»[21].

У сваю чаргу намеснік старшыні Палаты прадстаўнікоў Уладзімір Канаплёў абвінавачваў ужо журналістаў – за тое, што яны быццам раздзьмулі з мухі слана: «То, что я сейчас скажу, некоторые ваши коллеги квалифицировали, как “жареный” факт. Хотя они-то и постарались с огоньком. Впрочем, ничего удивительного – профессия такая. Как это говорится: делать из мухи слона и торговать слоновой костью? Я имею в виду историю с поэтом, председателем Союза белорусских писателей Владимиром Некляевым. Чего только ни накрутили: и поиск “политического убежища”, и некая “особая политическая позиция”! Некоторые любители сенсации от азарта просто руки потирали. А ведь всё не так просто: человек заболел. Причём довольно тяжело. Выехал на лечение. Поскольку он фигура немалого масштаба, то имеет свой взгляд на всё происходящее. К тому же не привык пользоваться эвфемизмами. Вот и стали его обыгрывать комментаторы.

На днях разговаривал с ним по телефону и в очередной раз услышал подтверждение – как только он поправит здоровье физически и духовно (а это произойдёт в течение месяца), Владимир Прокопович вернётся домой. Ему предстоит ещё один курс лечения в Минске. Что же касается шумихи вокруг его имени, к которой он сам не имеет отношения, то выскажу своё мнение.

Хочу ещё раз подчеркнуть для особо ретивых с обеих сторон: Владимир Некляев никогда не искал политического убежища. Некляев же – не политик, он человек творческий, лирик, поэт. Полагаю, в некоторых циничных вопросах ему порой разобраться было непросто. Думаю, не без помощи коллег был создана и запущена ситуация по журналу “Крыніца”. К сожалению, не на высоте оказались и некоторые начальники, которые не разобрались в обстановке, а начали привычно рубить. Есть у нас ещё и бездушие, и формализм... Поэтому мне понятны мотивы, по которым Владимир Прокопович решил разобраться в некоторых возникших проблемах сам, без посторонней помощи – и лукавых друзей, и откровенных недоброжелателей, и подстрекателей. В итоге выяснилось, что вся эта история не стоит ломаного гроша. И те, кто хотел бы получить свои дивиденды, просчитались.

А вообще, тема отношений “власть и интеллигенция” во все времена и во всех

странах – это очень деликтная сфера. Интеллигенция, в основном творческая, это тонкий камертон, она обострённо чувствует ситуацию, всегда готова оппонировать власти, если видит несправедливость, конъюктуру и т. д. И это нужно понимать правильно! Вспомните, как терпеливо, последовательно и продуманно ведёт диалог с интеллигенцией президент. Но, к сожалению, есть и обратные примеры. С одной стороны, оппозиционные политики толкают творцов на конфликт с властью, с другой – некоторые чиновники, в том числе высокопоставленные, ведут себя как слон в посудной лавке. Они не принимают национальную интеллигенцию, не прислушиваются к ней, не желают сознавать, что, проживая в Беларуси, нельзя быть нигилистом по отношению к нашей культуре и её творцам. История с Некляевым в этом смысле подтверждает, что в этом вопросе необходимо наводить порядок в духе требований президента: системно, тонко, но принципиально»[22].

Акцэнтацыю на хваробу Някляева рабіў і старшыня Дзяржкамітэта па друку Міхаіл Падгайны: «Валодзя вельмі дрэнна сябе адчувае і таму лечыцца ў Варшаве. У мінулы аўторак ён мне тэлефанаваў, і я яму сказаў: “Валодзя, лячыся і не думай ні аб чым, акрамя свайго здароўя”. Так, сапраўды, нашае ведамства праводзіла ў рэдакцыі часопіса “Крыніца”, якім кіраваў Някляеў, планавую штоквартальную рэвізію, і былі выяўленыя некаторыя парушэнні ў фінансавай дзейнасці. Кшталту неапрыходаваных матэрыялаў, недахопаў бухгалтэрыі, няправільнае налічэнне ганарараў. Дык такія ж парушэнні ёсць і ў іншых рэдакцыях, і нікога за гэта ў турму не саджаюць – выносім вымовы, і рэдактары выпраўляюць недахопы. Зразумейце, Някляеў паэт, а не гаспадарнік, і нельга патрабаваць ад яго ідэальнага гаспадарання. Хутчэй за ўсё, Някляеў зараз знаходзіцца ў вельмі ўзрушаным эмацыйным стане, што ўласціва для чалавека такой цяжкай хваробы, як у яго. Таму я вельмі хачу, каб ён мне патэлефанаваў, і мы б вырашылі ўсе пытанні. Мы сябруем з Валодзем ужо больш за 20 гадоў, і я хачу яму сказаць, каб ён хутчэй папраўляўся, перастаў маяцца дур'ю і прыязджаў на радзіму»[23].

Але ўсё ж не дурасцю маяўся Някляеў – яго ўчынак не выглядае такім ужо дзіўным і незразумелым, калі не вырываць яго з гістарычнага кантэксту, а прыгадаць гэты самы кантэкст.

30 сакавіка 1999 года быў арыштаваны былы прэм'ер-міністр беларускага ўраду Міхаіл Чыгір, які вылучыў сябе кандыдатам у прэзідэнты на альтэрнатыўных прэзідэнцкіх выбарах, што павінны былі адбыцца ў маі.

6 красавіка 1999 г., роўна за два месяцы да эміграцыі Някляева, калі ён з інсультам ляжаў у шпіталі, нечакана ад інсульту памёр кіраўнік створанага апазіцыяй ценявога ўраду Генадзь Карпенка. Гэты чалавек выглядаў волатам, і мала хто верыў, што памёр ён сваёй смерцю.

7 мая бясследна знік былы міністр унутраных спраў Юрый Захаранка, які не толькі падтрымаў ідэю альтэрнатыўных прэзідэнцкіх выбараў і ўвайшоў у каманду экс-прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра, але і стварыў Саюз афіцэраў.

У тым жа месяцы былы віцэ-прэм'ер Віктар Ганчар пачаў альтэрнатыўную кампанію па выбарах прэзідэнта, па завяршэнні якой абвясціў пра заканчэнне тэрміну легітымнага кіравання Лукашэнкі. У верасні Віктар Ганчар і ягоны сябра бізнэсовец Анатоль Красоўскі таксама бясследна зніклі.

Да таго ж у красавіку таямніча знікла з-пад хатняга арышта экс-старшыня Нацыянальнага банка Тамара Віннікава, якую ўлада быццам бы рыхтавалася судзіць па абвінавачванні ў фінансавых злачынствах[24]...

З усімі гэтымі людзьмі Уладзімір Някляеў быў звязаны асабістымі адносінамі. З кімсьці менш, з кімсьці больш блізкімі (як з Генадзем Карпенкам, які быў ягоным сябрам). Усе гэтыя падзеі адбываліся адна за адной у тым самым 1999-м – адным з самых трагічных у найноўшай гісторыі Беларусі. З пункту гледжання такой рэтраспекцыі ці магла існаваць рэальная пагроза свабодзе Някляева? Свядома ці

падсвядома, але ён, думаецца, не мог не браць у разлік тое, што свабода і жыццё чалавека для цяперашняй улады ў Беларусі наўрад ці чаго вартыя.

Тым часам у Варшаву накіраваўся міністр замежных спраў Урал Латыпаў, а затым і галоўны рэдактар прэзідэнцкай газеты «Советская Белоруссия» Павел Якубовіч, былы паплечнік Някляева па часопісу «Крыніца». Абодва ехалі па даручэнні Лукашэнкі з прапановай да “блуднага сына” вярнуцца дамоў. Везлі гарантыі бяспекі. Абяцанні перагляду палітыкі ў сферы культуры. Але вярнуліся – без Някляева. Сам ён пасля скажа: «З палітыкай у мяне выйшла, як з нялюбай, але страснай жанчынай: чым мацней я ад яе адпіхваўся, тым мацней яна мяне абдымала...»[25]

## ПАННА ВАРШАВА

24 чэрвеня Някляеў даў вялікае інтэрв’ю Сямёну Букчыну[26], падчас якога распавёў, што на працягу апошніх чатырох месяцаў яго запалохвалі: «мол, погоди, ещё немного – и тебя накроют». «Наконец, перед моим отпуском очередные проверяющие обнаружили, что в редакции на двери специальной комнаты, где хранились документы, сорвана пломба, а бумаги исчезли, – казаў Някляеў. – Встал вопрос: кому нужно было похищать уже отработанные, скопированные и вошедшие в материалы проверки документы? Я поинтересовался у компетентных людей по поводу того, что бы это могло означать. Мне сказали: вот тебя-то сейчас и обвинят в хищении этих документов. Соответственно, могут теперь обвинить и в каких угодно злоупотреблениях. Такая модель, оказывается, уже давно отработана на практике. Это случилось около месяца назад. Нет, о бегстве из Беларуси я вообще не думал. И когда уезжал в Польшу, не думал об эмиграции».

Ён не збіраўся пакідаць Беларусь – паехаў у Варшаву проста дзеля таго, каб, апынуўшыся ў бяспечным месцы, усё абдумаць. «...Было трудно поверить в то, что мне грозит арест, – тлумачыў Някляеў. – В Минске я был в таком состоянии, что уже не мог реально оценивать происходящее. Я человек не политической биографии и свыкнуться с мыслью, что политика ворвалась в мою жизнь и переломила её, мне до сих пор невероятно сложно. Осознание того, что это всё-таки случилось, пришло здесь, в Варшаве, когда я получил подтверждение информации, что мой арест предопределен».

Такую інфармацыю ён атрымаў праз тыдзень пасля таго, як апынуўся ў Варшаве. І хоць спачатку не збіраўся станавіцца палітуцекачом (расійскае агенцтва ІТАР-ТАСС паспяшалася распаўсюдзіць інфармацыю пра тое, нібыта Някляеў папрасіў у Польшчы палітычнага прытулку), аднак ужо напрыканцы чэрвеня канстатаваў: «Сейчас это неизбежно. [...] Нет, торги уже кончились, я сейчас плачу по собственным счетам. Разлукой с родными, с друзьями... Плачу за приближённость к власти, за иллюзии или за что-то другое, как бы оно ни называлось... Дорогой всевозможных компромиссов – больших, малых – я подошёл к тому нравственному рубежу, переступить который невозможно»[27].

Тым часам штотыднёвік «Имя» пісаў: «До сих пор непонятно, стал ли политэмигрантом председатель Союза писателей Владимир Некляев, заявив ещё в середине июня в Варшаве о своём намерении не возвращаться... [...]

Приказом за собственной подписью председатель Союза писателей Некляев позволил самому себе в связи с плохим состоянием здоровья продлить срок отпуска, но уже за свой счёт, до 6 августа. [...]

...среди литераторов настойчиво ходят слухи о том, что месяц за свой счёт понадобился Владимиру Прокоповичу как раз для того, чтобы сторговаться с Владимиром Петровичем. Якобы, если полковник пообещает, что по финансовым нарушениям в “Крыніце” не будет возбуждено уголовное дело, поэт вернётся на Родину»[28].

Але паэт не вяртаўся на Радзіму яшчэ доўгі час. Першыя тры варшаўскія месяцы ён жыў у студэнцкіх сяброў, у аднапакаёвай кватэры: сябры, іх сын, сабака і кот, Някляеў – шосты. У кішэні – семдзесят даляраў. Пазней дапамаглі палякі: спачатку рэдактар «Gazety Wyborczaj» Адам Міхнік уладкаваў беларускага палітуцекача ў рэдакцыйную кватэру, затым сацыял-дэмакраты знялі для яго нумар у гатэлі[29].

У гэты ж час Някляеў зноў апынуўся ў эпіцэнтры палітычнага скандала – «Народная воля» пісала: «Политические страсти вокруг имени Владимира Некляева начинают разгораться и в Польше. В номере за 26 июля газета "Trybuna", выражающая политику левых сил, обвинила стоящую на правом политическом фланге "Gazeta Wyborcza" и её главного редактора Адама Михника в информационной блокаде в отношении Некляева. Эту якобы блокаду со стороны правых "Trybuna" связывает с тем, что на пресс-конференции в Сейме Некляева представлял депутат Тадеуш Ивиньский, известный левый политический деятель [...]. "Gazeta Wyborcza", трижды представлявшая белорусского поэта, не заставила себя долго ждать и уже на следующий день назвала эти обвинения "трижды враньём". Она инкриминировала левым использование имени Некляева в целях межпартийной борьбы и прозрачно посоветовала поэту держаться в стороне от, как выразилась газета, левого "политического гетто".

Владимир Некляев отказался комментировать эту полемику, заявив, что он никем не был политически заангажирован в Беларуси, а тем более – это не допустимо для него в Польше. "Моя партия – Беларусь", – сказал Владимир Некляев. Тем не менее объективно он оказался в точке пересечения интересов двух главных политических сил. [...] Естественно, что Некляев, не примкнувший здесь ни к одному лагерю и публично демонстрирующий самостоятельность, представляет интерес для обеих сторон, чего они в пылу борьбы и не стали скрывать. Для Некляева, таким образом, возникает очевидная опасность оказаться между молотом и наковальней. [...]

В сложившихся обстоятельствах логичным выглядело бы взаимодействие Некляева с лидерами белорусской политической оппозиции, с белорусской диаспорой, но он пока этого или не делает, или такие контакты не афиширует. Похоже на то, что трудный путь "одного в поле" избрал для себя поэт. Для поэта это очень эффектно, но для политика в перспективе достаточно опасно»[30].

Аднак для Някляева было страшна не толькі тое, што ён згубіў практычна ўсё, дзеля чаго жыў і працаваў мінулыя паўстагоддзя: сям'ю, сяброў, працу, славу, урэшце рэшт грамадскі статус, – «найстрашнейшае, што на тым попеле і на тых руінах нібыта не стала самога мяне, – напіша ён. – Вось толькі што быў Уладзімір Някляеў – і няма яго. Таму што не стала імені, на якое спачатку ты працуеш, а пасля яно працуе на цябе. Яно было, але засталося на Ўсходзе. На Захадзе яно нічога і нікому не казала.

Усё пачыналася з нуля.

Я быў ашаломлены. Гэта была драма, якая працягвалася каля года, пакуль я выбіраўся з-пад руін і попелу»[31].

І іншым разам: «У першыя дні майго жыцця ў Варшаве раптам апанаваў мяне адчай. Я страціў разуменне ўсіх прычын, па якіх апынуўся за мяжой, якія, здавалася, дарэшты разумеў ад'язджаючы – і не было сіл на тое, каб паспрабаваць зноўку ўцяміць: як яно ўсё так сталася?.. Я не жадаў ні чуць нікога, ні бачыць, не хацеў ведаць ні таго, што пра мяне кажуць, ні казаць нешта, што пра іншых ведаў.

Цяпер, па часе, я разумею, што псіхалагічны стан быў абумоўлены фізічным пачуваннем, тым, што я не ачомаўся ад інсульту, але тады душа, нутро маё знемагала – і пры чым тут інсультныя мазгі?..

Я не ведаў, куды сябе падзець. Мяне прадалі тыя, каго любіў. Значыць, трэба іх і ўсё з імі звязанае адкінуць, адпрэчыць. Забыць. Як не маё, як чужое.

У адпакаёўцы маіх даўніх, яшчэ студэнцкіх сяброў, дзе мясціліся мы ўшасцёх з коткай і сабакам, не было ніякіх беларускіх кніг, апроч маёй кнігі "Выбранае", некалі сябрам маім надпісанай, і я пачаў перачытваць самога сябе і ўпершыню прачытаў сябе самога як некага іншага, чужога, і шпульнуў кнігу ў акно. Праз пяць хвілін мне здалося гэтага мала, я выйшаў на вуліцу, дзе каля дзіцячага шпіталя два мужыкі калупаліся ў зямлі, папрасіў у іх лапату, знайшоў метраў за трыста закінуты двор, выкапаў яму і пахаваў кнігу, прытаптаўшы зямлю... Так яна там, мусібыць, і ляжыць – непадалёк ад беларускай амбасады.

Мне захацелася пахаваць мінулае – гэтак я ў ім усё ўзненавідзеў!..

Нічога і нікога пахаваць я не здолеў. Усё і ўсе ўва мне. Як тая, якую не перапісаць, закапаная кніга»[32].

Але нягледзячы на цяжкія абставіны, Някляеў заўважаў: «Эміграцыя – без магчымасці вяртання дамоў – была выключана для мяне ад самага пачатку»[33]. І трохі раней: «Тым не менш, назаўсёды з Беларусі, са свайго дому, я нікуды і ніколі не з'язджаў. Я з Нальшы, са Смаргоншчыны, з Крэва – і тут мае крэўныя... Нават ніякавата казаць банальныя словы пра родныя магілы. Да іх я некалі назаўсёды й вярнуся»[34].

Па першым часе жыцця ў замежжы яго запрашаюць выступаць у Германіі, Англіі, Швецыі – «говорить речи про это всё – диктатуру, режим. А мне это всё было поперёк, – распавядаў Някляеў. – Это только кажется, что на Западе интересуются тем, как мы тут в Беларуси живём. На самом деле там живут своей жизнью и всё им по барабану. Просто интересно посмотреть, как на обезьяну, на этого белоруса, который может существовать в таких условиях... Я почувствовал, что говорю, надрываюсь, ведь действительно это болезненно воспринимаю, а они слушают и ничего не понимают. Для них, для большинства – это шоу. Конечно, есть те, кого Беларусь действительно интересует, но это, по большей части, люди, которые за свой интерес получают деньги. Представители фондов, организаций. И где-то через год я сказал: извините, но больше этим заниматься не хочу. Грант дали писателю?. Так вот, я – писатель, и буду заниматься непосредственно своим делом. Буду писать. И меня отпустили»[35].

Праўда, яшчэ 20 ліпеня ён выступіў у польскім Сейме з наступнай заявай:

«20 июля 1999 года в соответствии с Конституцией Республики Беларусь заканчивается срок полномочий президента Беларуси А. Лукашенко. Внесённые в Конституцию по результатам непризнанного международным демократическим сообществом антибелорусского референдума 1996 года изменения, продляющие президентские полномочия на два года, не имели и не имеют никаких причин, которые можно было бы объяснить национальными интересами страны. Из этого следует, что изменения в Конституцию внесены волей А. Лукашенко, инициатора референдума, исключительно в личных, корыстных целях.

Демократия – не универсальная модель государственного устройства, но для Беларуси, со времён Великого Княжества Литовского европейской страны, она наиболее органична и оптимальна. Поэтому демократическому сообществу, в том числе России и прежде всего демократической России, следовало бы без колебаний не только высказать, но и действительно обозначить неприятие диктаторских тенденций в Беларуси, оказать реальную поддержку её демократическим силам. Подписывать какие бы то ни было политические соглашения с нелегитимной властью цивилизованным странам просто не к лицу.

А. Лукашенко использовал демократию, традиции которой были возобновлены в Беларуси движением национального Возрождения, для установления режима личной власти. Режим личной власти он использует для установления диктатуры. С 21 июля 1999 года есть все правовые основания для того, чтобы утверждать, что в Беларуси существует диктатура и властвует диктатор – нелегитимный президент.

Национальная особенность варианта белорусской диктатуры в том, что она не осознаёт себя диктатурой, недоумённо разводит руками перед всем миром: ну где вы здесь диктатуру видите? Президент А. Лукашенко демонстрирует при этом величайшую способность политика: быть предельно неискренним и не осознавать этого. В том как раз и заключается особенная опасность его политического таланта и установленного им режима.

Пять лет назад А. Лукашенко был избран президентом Республики Беларусь действительно демократическим путём. Но народ голосовал за демократию, а не за диктатуру. Народ отказывался от тоталитаризма, отвергал несвободу, избирал президента независимой страны. Сегодня эта страна на грани потери суверенитета, которым президент постыдно торгует. Независимость он готов принести в жертву власти и расправиться со всеми, кто в этом ему противостоит. Именно поэтому я и вынужден был временно покинуть Беларусь.

"Пусть найдёт в себе мужество вернуться, у него в Беларуси нет проблем", – передали мне слова президента. Это не так, в Беларуси есть проблема общая для всех. Эта проблема – диктатура. Это Александр Лукашенко должен найти в себе мужество признать реалии, снять с себя президентские полномочия, передать парламенту власть, которая ему больше не принадлежит, исполнить закон, Конституцию, на которой присягал он верой и правдой служить Беларуси.

У меня нет запасной Родины, я был и остаюсь гражданином своей страны, во всём готовым разделить её судьбу, кроме несвободы»[36].

У Варшаве Някляеў спрабаваў стварыць Інстытут Беларусі ў Польшчы – па аналогіі з Інстытутам Польшчы ў Беларусі, але з іншымі задачамі – падмурак задумы быў палітычны. Палякі ўсяляк у тым садзейнічалі, але да «моманту казытлівага пытання пра сродкі. "Пане Владэку, скуль у бедным польскім паньстве грошы?.. Проша пана да амерыканцаў"»[37].

Да таго ж не абышлося без «рэкамендацыі» Васіля Быкава, якому палякі патэлефанавалі ў Хельсінкі, і Васіль Уладзіміравіч сказаў, нібы Някляеў мае ў Польшчы нейкія прыватная інтарэсы, таму і з'ехаў з Беларусі. «Супакоіўшыся, разважыў: што і як у Фінляндыі мог ведаць Быкаў пра мае прыватная інтарэсы ў Польшчы? – задаваўся пытаннем Някляеў. – Калі б нават яны былі... Выходзіла, што, як раней нас рупліва разводзілі, так стараюцца і цяпер. Ці дома, ці тут... Бо калі палякі – хто горача, хто прахалодней – мне ўсё ж дапамагалі, дык беларусы ў большасці сваёй замінали. Асцерагаючыся, каб не заняў чыю-небудзь нішу, накапаную норку»[38]. Сам ён, каб нешта высветліць, Быкаву не патэлефанаваў, але, не стрываўшы, выклаў усё блізкаму быкаўскаму сябру – рускаму крытыку Валянціну Аскоцкаму, які ў гэты час завітаў у Варшаву. Той паабяцаў паведаміць пра ўсё Быкаву[39] і сваё слова стрымаў, надрукаваўшы ў маскоўскай газеце «Литературные вести», якую ён рэдагаваў, не толькі заяву Някляева, але і ягоны каментар да яе:

«Последнее время мне часто задают один и тот же вопрос: зачем тебе, поэту, понадобилось осложнять себе жизнь, выступать с политическим заявлением, ставящим под сомнение легитимность президента Беларуси? Только по одной причине: я не мог и не могу признать результаты референдума, продлившего президентские полномочия А. Лукашенко. Этим референдумом одновременно отменена национальная символика – флаг и герб, а национальный язык поставлен ещё в более сложные условия выживания, чем это было в советское время. Такой активной политики русификации, подготавливающей "объединительную почву", в нынешнем веке Беларусь не знала. И прискорбно, что такая политика благосклонно поддерживается частью российской интеллигенции, в том числе литераторами. Во всяком случае, их "творческие десанты" в Беларусь существенно этому способствуют.

Участник одного из них, уважаемый мною автор "Прощания с Матёрой"[40], заявил, например, что увидел в Беларуси не политику русификации, а стихию русинизации: всё, мол, не сверху направляется, а идёт снизу, от народа. Полноте, Валентин Григорьевич! Где и когда это было видано, чтобы народ по своей воле переводил себя в другой язык, в иную веру или культуру? Такое может привидеться, если только не считать народ народом, а язык языком. И что это за мессианство новейшее в конце XX столетия в центре Европы? Простите уж, но если вам, русскому писателю, невыносимо было расставаться с одной Матёрой, то каково же мне, белорусскому поэту, расставаться со всей Беларусью?.. Невозможно представить, будто вы не понимаете того, что русификация Беларусь затопит? Стало быть, она нужна вам лишь как территория. Вода схлынет, всё сметёт – а земля останется?

Я люблю Россию не меньше, чем Беларусь, могилы моих предков на берегу Волги, под искусственными разливами которой также скрылась не одна Матёра. И ни я, ни любой другой белорусский литератор в здравом уме не скажет вам, что он против России. Это нам приписывают те, кто против Беларуси. И не против я союза с Россией, а против его объединительного либретто, написанного по мотивам политической конъюнктуры. Ну какой ещё вариант, какое ещё условие, кроме отказа от независимости, могут быть предложены Беларуси, если речь идёт о едином государстве? Никакого другого – это очевидно. [...] ...одна страна-сторона готова сдать свою независимость, а другая страна-сторона, что выглядит не краше, готова эту сдачу принять. Если не позор, то что это такое? Чтобы не участвовать в нём и даже не быть ему свидетелем, я и уехал – мне за такую цену не нужно ни дружбы, ни братства, ни единства»[41].

Гэты нумар газеты Аскоцкі ў кастрычніку даслаў Быкаву, праўда, у суправаджальным лісце пісаў: «Дошёл слух, что Некляев уже помирился с президентом и вернулся на Родину. Если так, то его заявления имеют чисто исторический характер. Тем более: пусть останется как память о зигзагах судьбы...»[42] Але гэта зноў жа былі чуткі, насамрэч Някляеў не мірыўся з Лукашэнкам і не вяртаўся на Радзіму.

Палітыкай у Польшчы ён больш не займаўся. Зноў стаў пісаць – недзе пад гэты час узніклі першыя радкі паэмы "Паланэз", якімі ён развітваўся ("Бывай, Яблонская, бывай!..") не толькі са сваёй лірычнай гераіняй. «Два шляхі маю – мастацтва і вера. Чалавек не закон, не падлягае перагляду. Я б хацеў зьмяніць сябе. Я ўсё жыцьцё сабой незадаволены»[43].

Што ж тычыцца Інстытута Беларусі, дык ён усё-ткі будзе створаны, але пад назвай «Беларускі дом» і – толькі праз дзесяць гадоў. Створаны ў самой Беларусі.

*(Працяг будзе.)*

---

[1] Шэрман К. Блуканец. 2002—2004. Машынапіс.

[2] Корней И. Шеф писателей просит убежища // Свободные новости. 1999. 25 июня — 2 июля.

[3] Беляцкая М. Без вины виноватый В. Некляев // Свободные новости. 2001. 1—8 июня.

[4] Шарай Н. Владимир Некляев: Поэт больше не пророк // Снплюс. Свободные новости плюс. 2003. 9—16 окт.

[5] Паводле: Беляцкая М. Без вины виноватый В. Некляев // Свободные новости. 2001. 1—8 июня.

[6] Дорохов В. Владимир Некляев сделал свой выбор: председатель правления Союза белорусских писателей решил остаться на Западе // Белорусская деловая газета. 1999. 21 июня.

[7] Ягораў М. Яшчэ адзін палітэмігрант? // Навіны. 1999. 22 чэрв.

[8] Подберезский Д. Новый жанр белорусской литературы // Имя. 1999. 24 июня.

[9] Някляеў — загадка // Наша Ніва. 1999. 28 чэрв.

[10] Корней И. Шеф писателей просит убежища // Свободные новости. 1999. 25 июня — 2 июля.

[11] Манцэвіч А. Пакінуты бераг: наш зямляк Уладзімір Някляеў не хоча вяртацца ў Беларусь // Рэгіянальная газета. 1999. 25 чэрв. — 1 ліп.

[12] Пер. з польскай: Дэнбскі В. Палітычны прытулак ад Лукашэнкі // Trybuna (Варшава, Польшча). 1999. 30 чэрв.

[13] Кісель З. Някляеў вызначыўся // Ніва (Беласток, Польшча). 1999. 4 ліп.

[14] Шапран С. Некляев заговорил и обвиняет во всём «антибелоруса» Заметалина // Имя. 1999. 1 июля.

[15] Дарэчы прыгадаць выказванне Някляева: «Адна з сур'ёзных праблем нашага быцця заключаецца ў тым, што чалавек заўсёды не той, хто ёсць на самай справе, чалавек ёсць тое, што пра яго думаюць іншыя. Справіцца з гэтым практычна немагчыма. І чым больш будзеш даказваць, што ты не той, тым больш будзе атрымлівацца, што ты ўсё ж менавіта той і толькі хочаш некага надурыць. Таму я, змірыўшыся, імкнуся не звяртаць увагі на такія рэчы. Тут бы з самім сабой паспець разабрацца!» (З гутаркі аўтара кнігі з У. Някляевым. Кастрычнік 2000 г.)

[16] Шапран С. Некляев заговорил... // Имя. 1999. 1 июля.

[17] Глёбус А. Някляеў будзе выдаваць «Крыніцу» за мяжой // Наша ніва. 1999. 28 чэрв. Праўда, праз адзінаццаць гадоў Глобус напіша інакш: «Безумоўна, наш Някляеў, як быў так і застаўся імітатарам. Усё, за што ён калісь браўся, было развалена, разбурана і паншчана. Ён развалiў самы ўплывовы часопіс "Крыніца"...» (Глобус А. 2011. Іларыёнаў і Някляеў // Электронны рэсурс: http://adam-hlobus.livejournal.com/2011/02/20.) Ці іншым разам: «Працаваў я ў часопісе "Крыніца-Родник", дзе за галоўнага лічыўся паэт-песеньнік Някляеў» (Глёбус А. Сучасьнікі // Наша ніва. 2005. 22 крас.). Але разам з тым Глобус не зможа не аддаць належнае Някляеву: рыхтуючы ў пачатку 2000-х хрэстаматыю па беларускай літаратуры для вучняў агульнаадукацыйных школ паводле наступнай градацыі: старажытная літаратура Русі; адраджэнне; барока, класіцызм, асветніцтва; рамантызм; літаратура «Нашай нівы»; літаратура «Узвышша»; літаратура «Полымя»; літаратура «Маладосці»; філалагічнае пакаленне, апошнім раздзелам Глобус пазначыць — «Літаратары "Крыніцы"», куды ўключыць, праўда, не заўсёды матывавана, Н. Мацяш, Г. Далідовіча, Я. Янішчыц, А. Жука, А. Дударава, У. Арлова, У. Някляева, А. Разанава, А. Сыса і, вядома, самога сябе (гл.: Беларуская літаратура / склад. У. В. Адамчык, М. В. Адамчык. Мінск: Сучасны літаратар, 2004). Такім чынам, нават Глобус прызнае той вялікі ўплыў, які аказаў рэдагаваны Някляевым часопіс на развіццё сучаснай беларускай літаратуры.

[18] Алексей Дударев: Раньше я был молод и богат, а сейчас — просто молод / инт. Е. Данейко с А. Дударевым // Белорусская деловая газета. 1999. 30 июня.

[19] Алексей Дударев: Седые волосы иногда засчитываются / инт. с А. Дударевым подгот. С. Шапран // Белорусская деловая газета. 2000. 5 окт.

[20] Невяроўскі А. Калегі і сябры Някляева ў разгубленасці // Навіны. 1999. 23 чэрв.

[21] Шэрман К. Блуканец. 2002—2004. Машынапіс.

[22] Живёшь в Беларуси — уважай её народ, культуру и творцов / инт. Л. Раковской с В. Коноплёвым // Советская Белоруссия. 1999. 14 авг.

[23] Невяроўскі А. Калегі і сябры Някляева ў разгубленасці // Навіны. 1999. 23 чэрв.

[24] Дарэчы, Віннікаву прыгадваў і сам Някляеў падчас яшчэ першага «эмігранцкага» інтэрв'ю: «О возвращении домой пока не может быть и речи. Я хотя и болен, но не на голову. Винникова находилась за границей, когда было принято решение об её аресте. Ей передали весточку: ну что ты, Тамара, мы тебя любим, ценим, ждём не дождёмся, ты у нас тут кандидат в премьер-министры. Она вернулась, и теперь её нет нигде» (Букчин С. Каждый платит по своим счетам // Народная воля. 1999. 29 чэрв.)

[25] Коктыш М. Пустыя нябёсы Уладзіміра Някляева // Народная воля. 2000. 28 студз.

[26] Букчин С. Каждый платит по своим счетам // Народная воля. 1999. 29 чэрв.

[27] Букчин С. Каждый платит по своим счетам // Народная воля. 1999. 29 чэрв.

[28] Дунцева М. А был ли политэмигрант? // Имя. 1999. 15 июля.

[29] Паводле гутаркі аўтара кнігі з У. Някляевым. Ліпень 2004 г.

[30] Поберий В. Некляев не делится, хотя его пытаются поделить как минимум на два // Народная воля. 1999. 30 ліп.

[31] Някляеў У. Знакі прыпынку. С. 26. Упершыню: Некляев В. Технология ухода // Белорусская деловая газета. 2004. 4 июня. Іншым разам Някляеў скажа: «Я много пережил, передумал. Действительно, страшно тяжёлое переходное состояние. Когда ты — всё, когда у тебя есть имя, ты сделал свою судьбу, вся страна тебя знает... А там ты вдруг становишься никем. Что Некляев, что Сидоров, что Иванов — одна холера...» (Шарай Н. Владимир Некляев: Поэт больше не пророк // Снплюс. Свободные новости плюс. 2003. 9—16 окт.)

[32] Някляеў У. Знакі прыпынку. С. 63—64.

[33] З гутаркі аўтара кнігі з У. Някляевым. Ліпень 2004 г.

[34] Пісьмянкоў А. «Я там, дзе сам...» // Літаратура і мастацтва. 2000. 17 лістап.

[35] Шарай Н. Владимир Некляев: Поэт больше не пророк // Снплюс. Свободные новости плюс. 2003. 9—16 окт.

[36] Некляев В. Остаюсь гражданином Белоруссии // Литературные вести. 1999. № 38. Часткова надрукавана: Мы і на волі нявольныя / інт. В. Гарадзейчык // Ніва (Беласток, Польшча). 1999. 15 жн. Іншым разам Някляеў скажа: «Исполнил роль законопослушного человека. Дождался того момента, когда Лукашенко утратил право называться президентом и стал паханом, который захватил в этой стране власть. Пошёл в польский Сейм и сделал заявление» (Беляцкая М. Без вины виноватый В. Некляев // Свободные новости. 2001. 1—8 июня.)

[37] Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў. С. 460.

[38] Някляеў У. Стрэмкі // Наш Быкаў. С. 461.

[39] Ведаючы пра намер Аскоцкага наведаць Варшаву і знайсці там Някляева (паводле ліста В. Аскоцкага да В. Быкава ад 20 ліп. 1999 г. Аўтограф. Арыгінал. Архіў В. Быкава), Быкаў напіша: «Увидел ли ты там Некляева — если не удалось, не горюй...» (З ліста ад 5 жн. 1999 г. Аўтограф. Копія. Архіў В. Быкава).

[40] Расійскі пісьменнік Валянцін Распуцін.

[41] [Некляев В.] Беларусь для Беларуси: комментарий к заявлению // Литературные вести. 1999. № 38.

[42] З ліста ад 21 кастр. 1999 г. Аўтограф. Арыгінал. Архіў В. Быкава.

[43] Караткевіч В. Уладзімер Някляеў: Я вельмі люблю Менск // Наша Ніва. 1999. 26 ліп.

СЛОВЫ

Ілля Лапато



...што ў свеце можа быць даражэй
за размову родных душ?..

## Алег Вінярскі:
# «Без беларускага радыё – няма беларускай культуры»

«З легендаў і казак былых пакаленняў...» Памятаеце знакаміты радок з верша Максіма Танка? Не першы год гэты верш у ліку іншых можна пачуць і на хвалях Першага канала Беларускага радыё, які дае творам беларускіх класікаў новае жыццё.

А чытае верш Алег Вінярскі, адзін з радыйных «галасоў», які можна пазнаць, нават заплюшчыўшы вочы.

На радыё Алег Вінярскі працуе з 1986 года. Калісьці, будучы выпускніком тэатральна-мастацкага інстытута, ён трапіў сюды, прайшоўшы адбор у дыктары.

Усе гэтыя гады яго голас гучыць у радыёпрыёмніках на хвалі Першага нацыянальнага канала, радыёстанцыі «Беларусь», канала «Культура», у спектаклях, літаратурных чытаннях, музычных праграмах. І слухачы гэты голас заўсёды пазнаюць і чакаюць.

Як прызнаецца дыктар, на радыё ў яго няма непрачытаных



*Алег* ВІНЯРСКІ.

старонак: акрамя дыктарскай працы Алег Вінярскі рэалізаваў сябе і як рэжысёр. А сёння яго ўсё часцей можна бачыць і на тэатральнай сцэне.

Працоўны кабінет Алега Вінярскага можна вывучаць гадзінамі. Безліч радыёкасет з запісанымі на іх праграмамі, шмат слоўнікаў, мастацкія кнігі, календары, газетныя выразкі...

Дзівосным чынам гэты кабінет захаваў у сабе атмасферу творчасці і былой эпохі. На кніжных паліцах, застаўленых рознымі кнігамі і дыскамі, ёсць шмат і іншых рэчаў. У кожнага прадмета тут сваё месца. Вось выробленая з паперы фігура птушкі – падарунак слухачкі, а вунь там – вырабы з саломкі, яшчэ далей – прыгожае пано.

Гісторыю кожнага прадмета Алег Аляксандравіч Вінярскі ведае ў падрабязнасцях, называючы імя і прозвішча таго, хто іх падарыў.

Пра сваю калег і працу, радыёспектаклі і гісторыю радыё Алег Вінярскі распавёў у інтэрв'ю з нагоды 90-годдзя Беларускага радыё.

## Частка І: Беларускае радыё. Гісторыя і асобы

***– Ваш радыйны стаж хутка дасягне трэцяга дзясятка гадоў. Прыгадайце, як змянялася радыё са зменай пакаленняў?***

– У апошнія 15 гадоў на Беларускім радыё адбылося шмат зменаў і зрухаў. На пачатку XXI стагоддзя мы адчувалі, што, безумоўна, прыйдуць новыя людзі, тэмы, ідэі, тэхналогіі. Толькі не маглі прадугледзіць, як у гэта ўпішамся мы.

Сёння я разумею, што таго радыё, якое існавала да 2000-га года, ужо не будзе. Калі раней радыё размаўляла з людзьмі на мове ўзаемаразумення і ўзаемапавагі, адчувалася адраснасць і клопат пра кожнага слухача, то цяпер радыё паступова змяняе сваю мову. Яно стала больш набліжаным да вуліцы, яго тон адчувальна знізіўся і ўжо не накіроўваецца да сэрца так, як гэта было раней.

На жаль, былі зліквідаваны некаторыя рэдакцыі. Да нас прыйшлі новыя тэхналогіі, мы адмовіліся ад плёначнага вяшчання і перайшлі на лічбу.

Першы час было складана, бо ўсё запаланіла музыка, лёгкая інфармацыя.

Тут жа не вельмі цікавыя гутаркі прамога эфіру, калі можна гаварыць аб чым хочаш. І многія з нас на пэўны час сышлі ў сваё гэткае ўнутранае падполле. З 2000 па 2006 год мы не стваралі на радыё ніякіх спектакляў. Гэты жанр забываўся. Цудоўны, вялікі, унікальны жанр амаль не гучаў у эфіры: толькі паўторы 1970-80-90-х...

І вось у 2006-м годзе справа пачала рухацца. Першы з пастаўленых намі радыёспектакляў датычыў гадавіны Чарнобыльскай трагедыі. Трэба сказаць, што наша кіраўніцтва само адчула ў гэтым патрэбу.

П'еса, напісаная Васілём Ткачовым і адаптаваная пад радыёпастаноўку, стала асновай радыёспектакля, зробленага пасля шасцігадовага перапынку самім Домам радыё. З гэтага спектакля пайшоў новы адлік літаратурна-мастацкага жанру, ён як бы наноў нарадзіўся.

Галоўны персанаж п'есы Ігнат, які прайшоў Вялікую Айчынную вайну, пытаўся: ці магу я быць нармальным чалавекам, калі застаюся на забруджанай тэрыторыі і нікуды не хачу з'язджаць? Бо для мяне – гэта мая зямля, на іншую я не паеду. І на працягу ўсёй п'есы прасочваецца гэтая яго думка: я тут нарадзіўся, вырас і, відаць, тут і памру.

Усе спробы раённага кіраўніцтва высяліць яго з роднага селішча прыводзяць да таго, што ён бярэ стрэльбу, забівае дошкамі вокны сваёй хаты і адбудоўвае з яе крэпасць. Непрыступную крэпасць, якую нельга ўзяць.

Заўважце: у такой абароне няма слабасці, наадварот, у ёй моцнае лютараўскае супраціўленне: «на гэтым стаю і не магу іначай».

Гэта было сімвалічна: кожны беларус заўсёды ад чагосьці абараняецца. Гэтая метафара дала мне надзею на тое, што калі ёсць такія людзі, асобы, як Ігнат, – значыць мы жывыя, моцныя. Значыць, ёсць патэнцыял у нацыі – ёсць з кім працаваць і на каго спадзявацца.

Мне заўжды прыемна, калі нашая праца знаходзіць водклік у слухачоў. Так адбываецца і сёння. Праз лісты, праз тэлефонныя званкі, у музеях, у бібліятэках. Калі сустракаешся там з людзьмі, яны заўсёды кажуць, вось гэтая перадача запомнілася, а гэты спектакль спадабаўся. Значыць, людзі настроеныя яшчэ на хвалю Беларускага радыё і слухаюць яго. І я думаю, што заслуга мастацкага вяшчання ў гэтай справе неацэнная.

***– З чаго пачыналася Вашая праца на радыё?***

– З асваення прафесіі дыктара. Па адукацыі я акцёр, а дыктарскаму майстэрству не вучаць ні ў адной навучальнай установе. Толькі перадача жывога вопыту. Значыць, трэба перавучвацца? Першыя гады ў мяне была даволі жорсткая «прыцірка». Я спачатку не да канца разумеў, што гэта значыць: «чытаць па-дыктарску»? А потым паціху, з дапамогай старэйшых калег дайшоў да разумення. І вельмі даражу гэтай школай: яна навучыла не толькі логіцы ў чытанні, але і ўменню, лічу, самаму галоўнаму – зрабіць слухача тваім субяседнікам. Амаль усе рэдакцыі для дыктараў былі даступныя, дзе яны працавалі ў якасці вядучых. Штат людзей, задзейнічаных у гэтых перадачах, быў вялікі. Гэта і рэдактары, дыктары, акцёры, рэжысёры, гукарэжысёры і гукааператары. І кожны з іх быў майстрам сваёй справы.

Я нядаўна зразумеў, што радыё без слова «Дом» было б ужо не тым. Дом для радыё азначае атмасферу на гэтых паверхах. Людзей, якія яе ствараюць у кабінетах і ў эфіры. Мы шануем гэтую атмасферу і стараемся захоўваць, нягледзячы на тое, што многіх майстроў слова з намі ўжо няма.

***– Ці часта Вы ўзгадваеце калег, з якімі працавалі разам, тых, хто прайшоў праз радыё?***

– Успамінаюцца многія людзі, якія нам дапамагалі і якія хацелі зрабіць нас, па сутнасці, сваімі паслядоўнікамі. Іх саграваала думка, што яны працуюць дзеля

дабра. Іх самаахвярнасць, працаздольнасць, адказнасць і стварылі тую асаблівую атмасферу нашага Дома радыё, якой мы карыстаемся дагэтуль. Найперш гэта былі артысты Купалаўскага тэатра, тэатра імя М. Горкага, Тэатра юнага гледача... Прыходзячы да нас, яны рабілі з радыё таксама і свой дом.

Хацеу бы ўзгадаць знакамітага купалаўца Аляксандра Уладамірскага. Ён быў з тых незаменных людзей, тых акцёраў, якія ішлі на радыё не па ганарар, а па зову душы. Саша Уладамірскі — мы яго так называлі. Вельмі просты, адкрыты і сціплы. Ён валодаў найдасканалейшай галасавой тэхнікай, якая заўсёды была ў суладдзі з яго розумам і сэрцам. У яго цёплай гаворцы, адразу пазнавальнай, адчуваўся тонкі густ, чалавечая прыхільнасць і дабрыня. Незабыўны голас Сашы, інтэлігентнага расказчыка, захаваўся ў шматлікіх радыёпастаноўках, музычных і літаратурных праграмах. А я ніколі не забуду нашую сумесную працу над Дзюрэнматам і Говардам у «Беларускай маладзёжнай», дзе многаму ад яго навучыўся.

Сярод іншых прозвішчаў узгадваюцца тыя, хто ўласна і ствараў Беларускаму радыё імідж. Гэта перш за ўсё галасы, якія кожны дзень уваходзілі ў твой дом і стваралі хатні настрой.

Не магу не ўзгадаць дарагіх майму сэрцу калег-дыктараў, з якімі злучыў лёс і якія доўгія гады стваралі славу Беларускаму радыё: гэта заслужаныя артысты Беларусі Лілія Стасевіч, Ілля Курган, Галіна Сідзельнікава, Мікалай Чырык, Галіна Яроменка, майстры радыйнага слова Леў Валодзін, Ларыса Гарбунова, Эдуард Данчанка, Святлана Гілеўская, Алесь Свістуновіч, Лілія Пількевіч, Валерый Дзягілеў, Святлана Шушакова, Уладзімір Баклейчаў, Тамара Лонская, Ірына Маісеева, Ларыса Грынько, Маргарыта Захарыя...

Галасы былі розныя і падыходы да чытання тэкстаў таксама. Усе матэрыялы, якія чыталіся ў эфіры, спачатку прыносіліся ў дыктарскую. Галасы былі адметныя і фактурна вельмі розныя, што дазваляла ствараць у эфіры зменлівую і выразную гукавую карціну. Адным больш удаваліся афіцыйныя паведамленні, другія шукалі сябе ў мастацкіх праграмах.

А вось Леў Ісакавіч Валодзін быў дыктарам-універсалам. На жаль, сёння яго рэдка прыгадваюць. Ён не меў ніякіх званняў, не быў адзначаны ўзнагародамі. Прайшоў фронт, быў лётчыкам, а потым лёс прывёў яго на радыё. Памятаю, перад эфірам заўсёды чытаў свой выпуск услых, шукаючы дакладных інтанацый. І гэта было настолькі артыстычна, настолькі абаяльна ў яго інтэрпрэтацыі!

Гэта быў чалавек, які рабіў слова больш аб'ёмным, мастацкім і, як не дзіўна, больш простым. «Беларусьфільм» ставіўся да яго вельмі прыязна. Сёння, калі даюць савецкую хроніку, згадваючы былыя часы, то заўсёды ў гэтых хроніках чутны яго голас: аповеды пра дзяржаўныя святы, знакамітых беларусаў, замежных гасцей Мінска – гэта голас Льва Ісакавіча Валодзіна. У яго не было, можа, такіх педагагічных якасцяў, але само назіранне за ім было для нас школай. Што ён такога выключнага робіць з тэкстам і ў чым сакрэт яго дыктарскага майстэрства?

Сёння, здаецца, я зразумеў яго. Ён быў прыроджаны імправізатар. Словы і тэкст для яго былі толькі знешнімі складнікамі, праз якія прасвечвала шматгранная і яркая асоба.

Яшчэ я згадаў бы Галіну Феліксаўну Сідзельнікаву. Яна была першай, ад каго я пачуў мелодыку дыктарскай мовы. Яе цярпенне і вопыт дадалі мне надзею, што я змагу авалодаць зусім невядомай мне прафесіяй.

Многіх хочацца назваць. А найперш майго галоўнага настаўніка Ігара Васільевіча Лапцінскага, які прыкмеціў ува мне рэжысёрскія здольнасці. Ён заўсёды гаварыў: «Акцёр, які не хоча сябе рэалізаваць праз мастацтва – гэта не акцёр». Тое самае з рэжысёрам. Ён павінен адчуваць, што адбываецца ў грамадстве, не баючыся ў сваіх пастаноўках размаўляць са слухачом на самыя вострыя тэмы.

І таму рэжысура для мяне – самы аптымальны спосаб мыслення, надзённая патрэба праявіць сябе па-аўтарску.

Ігар Лапцінскі – постаць вельмі знакавая для Беларускага радыё.

Але ўсё адно, калі працуеш – стараешся рабіць так, каб не пакрыўдзіць адчуванне слова сваіх настаўнікаў і апраўдаць іх надзеі. Мне падаецца, гэта пераемнасць, перадача вопыту – сэрцавіна нашага Дома.

## Частка ІІ. Па-за працай: унутраны свет Алега Вінярскага

***– Чуючы, наколькі Вы захопленыя сваёй працай, не магу не спытацца: ці бераце Вы ўвогуле адпачынак?***

– У мінулыя гады адпачынкавы час даваўся мне цяжка, бо я не ведаў, чым сябе заняць. Праца на радыё дысцыплінуе і прывучае да адказнасці. Калі ў чалавека эфір ці запіс, ён належыць ужо не самому сабе, ён падпарадкоўваецца ўмовам радыё. Гэта значыць, што мабілізуючы свой псіха-фізічны стан, волю, пры любых умовах ён павінен гаварыць, гаварыць, гаварыць... Раніцай, удзень, увечары і нават ноччу.

Калі я ішоў у адпачынак, мне здавалася, што я проста закісну і страчу свае прафесійныя напрацоўкі. Мне не хапала атмасферы радыё: хвалявання, разметкі тэксту, завучвання нейкіх урыўкаў на памяць. Але з часам я зразумеў, што адпачынак неабходны, як лекі хранічна хвораму.

Для мяне адпачынак зараз – гэта разняволенне, адмаўленне ад усіх прафесійных абавязкаў, доўгачаканае вызваленне ад рабочага карсету і, калі хочаце, поўная анархія. У адпачынку я дазваляю сабе змоўкнуць і растварыцца ў прасторы, стаць нічым і нікім.

Яшчэ шкадую, што закінуў адно са сваіх хобі – маляванне. Раней, калі вольнага часу было больш – маляваў часцей. У студэнцкія гады, і ў першыя дыктарскія гады. Маляваў алоўкам, пастэллю, акварэллю, вуглём і сангінай. А потым радыйная праца так апанавала, што стала не да сузірання...

Мне па душы жанр партрэту. Ёсць як зусім рэалістычныя, так і шаржаваныя накіды. Некаторыя партрэты захаваліся, але многія раздарыў. Тым не менш, аловак – мой нязменны спадарожнік, без яго да тэксту не саджуся.

***– Як Вы ставіцеся да ўтварэння сям'і, дзе абое – прадстаўнікі адной прафесіі?***

– Не думаю, што прафесія павінна быць галоўнай пры выбары сваёй суджанай. Для мяне галоўнае – сама асоба, яе ўнутраны свет. Чалавек – гэта натура процілегласцяў і супярэчнасцяў. Гэта такі вузел, у якім сканцэнтраваны і добрыя, і дрэнныя якасці. Калі ж чалавек разумее, што ідзе да ўдасканальвання і хоча быць лепшым, то з такім чалавекам хочацца жыць, працаваць і ісці па жыцці.

***– Якія рысы ў характары чалавека Вы не прымаеце?***

– Я не прымаю сквапнасці. Лічу яе самай адмоўнай чалавечай рысай. Гэта няўменне і нежаданне паклапаціцца аб бліжнім, падзяліцца хоць бы дробяззю. «Спачатку задавольце мяне, а потым я пагляджу», – вось крэда сквапнага чалавека. Ён лічыць, што валодае правам вырашаць лёс іншых. Такі чалавек не можа адгукнуцца на прыгажосць – яна яму не належыць. Ён нават баіцца быць удзячным, бо ўдзячнасць для яго – праява слабасці.

Хацелася б, каб час, у які мы жывём, рабіў людзей больш роднаснымі і блізкімі. Бо сёння кожны з нас, як асобны незаселены востраў. І кожны прагне, каб яго адкрылі.

Мне здаецца, што культура магла б зрабіць у гэтай сітуацыі больш, чым робіць зараз. Культура — гэта той схаваны дыямент, які трэба знайсці і апрацаваць. Ніва культуры не менш пладаносная, чым узаранае поле. Трэба пра яго толькі як след

паклапаціцца. І тады нафтаваму багаццю знойдзецца альтэрнатыва — культурнае багацце, таксама якасны экспартны прадукт. Наш час — час не культуры, а нейкага эканамічнага і палітычнага ўплыву за лідарства. Але ніякага эканамічнага прыросту не будзе без веры народа ў сваіх продкаў, без памяці пра іх і духоўнай падтрымкі. «Не пакідайце мовы, каб не ўмёрлі». Мы павінны адраджаць сваю самасвядомасць. Духоўны хлеб патрэбны не менш за штодзённы. Нельга яго таптаць. А зараз ён топчацца псеўдакультурай — масавым спажываннем. Хтосьці задавальняе сябе «прыхлопам і прытопам», але ж не агулам, не манапольна.

Я за тое, каб людзі ганарыліся не толькі чысцінёй вуліц, але і тым, што кожны месяц са свайго бюджэту набываюць свайму школьніку добрую кнігу.

***– Сёння не рэдкія выпадкі, калі муж ці жонка прыводзяць у сваю прафесійную сферу і сваё дзіця, дапамагаючы яму па першым часе. Як Вы ставіцеся да дынастый?***

– Я вораг дынастый. Абсалютна не дапускаю думкі, што мне прыйдзецца прасіць за дзяцей ці ўнукаў-праўнукаў-пляменніц... Я супраць дынастычнага размеркавання ільгот. Кожны павінен сам здабыць сваё прызванне і дастойна пранесці яго.

## Частка III: Тэатральная туга, або дыктар, акцёр і рэжысёр

***– Апошнія гады Вы пачалі ўсё часцей зноў выходзіць на тэатральныя падмосткі. Што падштурхнула Вас зноў вярнуцца ў тэатр?***

– Раней мне было камфортна «хавацца» за голасам, каб ніхто мяне не бачыў. І, прызнаюся, я трохі саромеўся выходзіць на публіку. Але паступова здранцвенне прайшло.

І дапамаглі гэтаму нашы музеі. Склалася глыбіннае сяброўства з музеямі Якуба Коласа, Янкі Купалы, Максіма Багдановіча, гісторыі беларускай літаратуры і іншымі. Там я праводзіў вечарыны, чытаў творы нашых класікаў, ладзіў сцэнічныя кампазіцыі.

Увогуле, я назваў бы сябе «музейным артыстам», настолькі гэтае асяроддзе блізкае мне. І потым, я таксама аматар-калекцыянер, збіраю кнігі, паштоўкі, газетныя выразкі, праграмкі, скульптурныя фігуркі — усё, звязанае з мінулым, «с отшумевшей жизнью».

Мая мара – стварыць у Беларусі музейны тэатр і адрадзіць тэатральную традыцыю музеяў. Каб людзі, якія прыйшлі ў музей, маглі пабачыць, якое жыццё было ў тых рэчаў, якія сёння захоўваюцца там.

Музейныя рэчы ажывалі б у пастаноўках – сталы, крэслы, кандэлябры – усё тое, чым карысталіся беларускія пісьменнікі. Тэатральную студыю я хацеў адкрыць на базе музея гісторыі беларускай літаратуры. У свеце існуюць такія аб'яднанні, напрыклад, музей Булгакава ў Маскве, Чэхава ў Меліхаве са сваёй тэатральнай студыяй, чаму падобную студыю не мець і нам?

Мы нават падрыхтавалі на базе беларускага музея літаратурны спектакль. Аднак у Міністэрстве культуры патлумачылі, што ўсё не так проста і музей у такім выпадку трэба пераводзіць у тэатральна-музейную ўстанову, змяняючы яго статут.

Праект, які мог бы прыносіць даход і развіваць беларускую культуру ў новых формах, «дзякуючы» чыноўнікам быў загублены на самым пачатку.

Але рукі мы не апусцілі і сыгралі прэм'еру спектакля ў тым жа музеі беларускай літаратуры, і гледачы выказалі нам падтрымку. Сёння наша каманда называецца «Кніжыца» – тэатральнае аб'яднанне, мэта якога ў даследаванні класічнай літаратуры з дапамогай тэатру.

***– Як адчуванні на сцэне пасля такога вялікага перапынку?***

– Я быў шчаслівы! Рэалізавалася даўняя задума: стварыць непадобны ні

на што драматургічны твор і сыграць яго на невялічкай сцэне. У 2011 годзе, 18 мая — у Дзень музеяў, мы паказалі свой эксперымент. Гэта быў сцэнічны арабеск-эсэ «Паміж двух партрэтау: М.Гогаль-С.Ясенін». Па аўдыторыі я адчуў: людзі зацікавіліся. Потым пайшоў такі ланцужок: музейная спроба прывяла на філарманічную сцэну. Узнавілася нашае даўняе сяброўства з Таццянай Старчанка, цудоўнай піяністкай, гаспадыняй непаўторнай «Музычнай гасцёўні». Дзякуючы Танінай энергіі, упершыню ў Беларусі быў паказаны «Антыфармалістычны раёк» Дзмітрыя Шастаковіча, а потым мы сумесна падрыхтавалі праграму: «Паэзія і музыка Сярэбранага веку» і літаратурны канцэрт «А.Пушкін-Д.Самойлаў».

Радуюся, што мастацкае слова гучыць з падмосткаў і што ў філармоніі ёсць яго верны абаронца.

## Частка IV: Радыйныя «прамудрасці» ад Алега Вінярскага

***– Ці часта Вы самі слухаеце радыё?***

– Раней, канешне, слухаў часцей. Першы канал, канал «Культуру» і замежнае вяшчанне – «Радыё Беларусь». Гэта для мяне як прафесійнае заданне: чым жыве краіна і на якім узроўні працуюць калегі.

Калі ж я чую памылкі ці хібы, мне адразу хочацца чалавека паправіць. Дарэчы, так і раблю – кажу прама ў вочы.

Часта маладыя вядучыя пачынаюць капіраваць неўласцівае іх голасу гучанне. Гэта прыводзіць да манернасці і штучнасці ў вымаўленні. Я называю гэта «галасавым вывіхам». Канцоўкі фраз падымаюцца ці, калі казаць прафесійнай мовай, «падвешваюцца». Склады, якія не маюць націску, у такіх вядучых становяцца націскнымі...

Школа! Мы забыліся, што навучыцца пісаць – адна рэч, а вось навучыцца чытаць ясна, проста, дбаючы не пра свой голас, а пра думку ў тэксце, значна цяжэй. Вось дзе спатрэбілася б дыктарская вывучка! Каб голас арганічна спалучаўся б з разуменнем прачытанага.

Многія журналісты, карэспандэнты і вядучыя спасцігглі сутнасць не свайго голасу, а сутнасць «галасавога сурагату». І гэты сурагат, на жаль, сёння запаўняе эфір.

***– Ці не крыўдзяцца калегі на Вашыя заўвагі?***

– Некаторыя кажуць, што іх манера – гэта тэндэнцыя часу. Што гэта непазбежна і паўплываць на яе немагчыма. А я кажу: манеры як прыходзяць, так і сыходзяць, а вось праўда і высокае мастацтва — вечныя. Яны вынік няспыннай, самаахвярнай працы.

Упэўнены, што правільнасць і чысціня вымаўлення – неабходныя ўмовы для радыё як почырк у пісьме. Спашлюся на выказванне выдатнага антычнага прамоўцы Квінтыліяна, які казаў: «Вуха – гэта гасцёўня. Калі словы туды ўваходзяць бязладна і абы-як, – яны ніколі не патрапяць у далейшыя пакоі, а менавіта ў розум і сэрца». Сказана лаканічна, але на ўсе часы.

***– Ці задумваліся Вы над тым, што багаты радыйны досвед прыйшоў час каму-небудзь перадаць?***

– Можа, я быў бы і не самым дрэнным настаўнікам, але прапаноў ад кіраўнікоў нашых творчых ВНУ не прыходзіла.

Досвед выкладчыка, хай сабе і невялікі, я здабыў у першыя гады пасля заканчэння Акадэміі мастацтваў, калі адпрацаваў адзін сезон у драмтэатры Віцебска. Тады якраз я вярнуўся ў сталіцу і хадзіў на пробы ў розныя тэатры, бо хацеў замацавацца ў Мінску.

З пробамі зацягвалася і я вырашыў адгукнуцца на прапанову студэнцкага таварыша Сашы Памазанава (на той час ужо дыктара-стажора) і прайсці творчы конкурс. Атрымалася. А праз год мяне запрасіў выкладаць у сваёй студыі вядомы




*Алег ВІНЯРСКІ.*

рэжысёр Рыд Таліпаў. На той момант я ўжо працаваў на радыё як дыктар, а ў тэатральнай студыі выкладаў сцэнічную мову.

Той досвед прыйшоўся дарэчы праз шмат гадоў, калі я ўжо стала працаваў на радыё. Маё кіраўніцтва арганізавала адмысловыя курсы сцэнічнай мовы, каб удасканаліць вымаўленне журналістаў. Курсы доўжыліся чатыры месяцы, а ўдзел у іх узялі журналісты розных рэдакцый і аддзелаў нашага радыё – 10-12 чалавек. Мне было прыемна працаваць з імі, бо яны разумелі мае патрабаванні.

Радыё – гэта стварэнне атмасферы, якая б падыходзіла да твайго голасу. А гэтаму садзейнічае і твой унутраны змест, і твая ўвага да чужога чалавека, і твая ўнутраная грамадзянская пазіцыя, якую займаеш у жыцці, і твой жыццёвы досвед. І, канешне ж, прафесійныя якасці, якія ты маеш.

Калі чалавек умее прыслухацца да крытыкі і зрабіць правільныя высновы, то з ім можна працаваць.

Многія з тых, хто хадзіў на мае курсы, развіваюцца ў сваёй справе далей, што не можа не радаваць.

***– Ці часта сустракаюцца галасы, якія валодаюць патэнцыялам, але не паддаюцца навучанню?***

– Такія галасы сапраўды ёсць. Як ты чалавека ні паварочвай і не змушай да таго, каб яго голас гучаў натуральна, нічога не зробіш – настолькі ён увабраў у сябе штучную інтанацыю. З такімі людзьмі цяжка, бо яны не хочуць слухаць.

Патрэбна адчуванне свайго голасу, каб адрозніць фальшывую інтанацыю ад натуральнай. Чалавек, які працуе з голасам на радыё і тэлебачанні, павінен мець «слых на галасавую недарэчнасць».

***– А ці бываюць выпадкі, калі голас найлепш гучыць у нейкай пэўнай мове?***

– Гэтае пытанне я задаваў сабе шмат разоў і прыйшоў да такой высновы: у гучанні кожнай з моў ёсць пэўная мелодыка, якую чалавек ад кагосьці запазычвае. Гэта могуць быць бацькі ці настаўнікі, у якіх пераймаў мову або проста тыя, хто даваў прыклады добрапрыстойнасці і эстэтыкі.

Наша мова – вельмі лірычная, меладычная, пяшчотная. Яна захавала сваю адметнасць са старажытных часоў. І зараз ёсць патрэба адрадзіць яе ў поўнай

чысціні. І носьбіты правільнага літаратурнага вымаўлення ёсць у кожным асяроддзі. Трэба не саромецца паказваць сваіх лепшых і давяраць ім.

Прывяду адзін павучальны прыклад. Быў такі знакаміты расійскі акцёр Раман Філіпаў. Лёс распарадзіўся так, што ён стаў зяцем нашай вядомай дыктарскай пары Ліліі Стасевіч і Уладзіміра Шаліхіна.

Пераехаўшы ў Мінск, Раман Філіпаў для працы выбраў Купалаўскі тэатр. Уявіце: расійскі акцёр ідзе ў нацыянальны тэатр, дзе трэба дасканала валодаць беларускай мовай. І што вы думаеце? Дзякуючы падтрымцы і майстэрству Ліліі Яфрэмаўны Стасевіч, выдатнага дыктара, ён авалодвае мовай і становіцца за кароткі час адным з вядомых майстроў купалаўскай сцэны. Тут усё сышлося: і павага да культуры братэрскага народа, і таленавітая праца над сабой.

Калі зараз я слухаю фондавыя запісы з удзелам Філіпава, у мяне не застаецца сумненняў, што чую голас сапраўднага беларуса.

Прайшоў час, Раман Філіпаў вярнуўся ў Расію ў Малы тэатр. Стаў народным артыстам Расійскай Федэрацыі. Аднойчы яму ў Маскву напісаў наш выдатны пісьменнік Янка Брыль, які любіў творчасць акцёра. І што самае дзіўнае —Філіпаў адказаў пісьменніку на чысцюткай беларускай мове. Вось які быў узровень чалавечых адносін!

***– Ці ёсць сфера, звязаная з радыё, дзе Вы сябе яшчэ не паспрабавалі?***

– Я з радасцю працаваў бы ў музеі радыё. У Мінску на вуліцы Макаёнка ў будынку Белтэлерадыёкампаніі створаны музей тэлебачання. Там жа ў невялікім пакойчыку ёсць маленькі раздзел пра радыё, што зусім не адпавядае яго значэнню. Музей радыё павінен мець асобную экспазіцыю.

І яшчэ. У мяне была калісьці мара: скласці радыёэнцыклапедыю, каб захаваць імёны ўсіх – ад рэдактараў, дыктараў, рэжысёраў, гукарэжысёраў, гукааператараў – да магутных постацяў артыстаў, драматургаў, архівістаў, крытыкаў і пісьменнікаў.

Мне хацелася б стварыць такую кнігу, дзе побач з партрэтамі людзей быў бы змешчаны і спіс таго, што яны зрабілі. І чытач будзе ведаць, колькі радыёспектакляў, перадач створана, як яны называліся, уявіць усю жанравую разнастайнасць гэтага мастацтва, уключыць у культурны кантэкст усіх асобаў, якія прысвяцілі беларускаму радыёвяшчанню сваё жыццё.

Без беларускага радыё – няма беларускай культуры, як няма беларускага пісьменства без беларускіх пісьменнікаў.

Ніводнае іншае СМІ не здольнае захаваць столькі дакументаў эпохі, мастацкіх твораў, партрэтаў нашых сучаснікаў, створаных жывым словам як радыё. Гэта – наша памяць.

***– Нядаўна радыё пазбавілі праваднога вяшчання. Як Вы расцэньваеце гэту сітуацыю?***

– Я абураны! Гэта вельмі небяспечны крок. Мы дабравольна адразаем ад сябе значную, калі не галоўную частку нашых слухачоў. Так не павінна быць...

Абанентамі праваднога вяшчання з'яўляліся мільёны вяскоўцаў. У асноўным гэта не абароненыя слаі насельніцтва: пенсіянеры і людзі з абмежаванымі магчымасцямі. Для іх правадное радыё – неад'емная частка жыцця, нашмат важнейшая за тэлебачанне і інтэрнэт.

І як застацца дзяржаве без нацыянальнага радыё? У самыя няпростыя часы выпрабаванняў і трывог правадное радыё было першым сродкам кансалідацыі грамадства. А нашыя бабулі і дзядулі, якія прывівалі нам любоў да малой радзімы, засталіся без... голасу, які заўсёды быў сувяззю з горадам, з навінамі ў свеце і культурнымі падзеямі. Чым мы можам замяніць іх адзіноту? І што ў свеце можа быць даражэй за размову родных душ?

*Фота Віталія ПАЛІНЕЎСКАГА*



СЛОВЫ

Алесь Паплаўскі



...калі твая праца патрэбная людзям,
дык гэта вельмі натхняе і стымулюе...

# На камянях квітнеюць кветкі...

***Гутарка Алеся Паплаўскага з Леанідам Валасюком***

*Леанід Валасюк – вядомы берасцейскі мастак і літаратар. Па адукацыі архітэктар. На яго рахунку адзінаццаць выдадзеных кніжак паэзіі і прозы, дваццаць персанальных мастацкіх выстаў і больш за трыццаць кніжак калег-пісьменнікаў, якія ён аформіў як дызайнер. Лесвічныя маршы брэсцкага ЦУМа ўпрыгожаныя яго жывапіснымі творамі, якія ўражваюць сваёй манументальнасцю і лірычнасцю адначасова. Сваю першую паэтычную кнігу "Блики дня" выдаў у далёкім 1999 годзе.*

*Напярэдадні 60-гадовага юбілею мы сустрэліся са спадаром Лявонам, сябрам двух творчых саюзаў, у выставачнай зале, дзе ён як мастак выстаўляецца з 1981 года.*

***– Спадар Лявон, у вас за плячыма, як кажуць, багаты жыццёвы досвед, на палічках з дзясятак выдадзеных кніжак, праведзена шмат персанальных выстаў, скажыце, што ў вашым разуменні ёсць Творчасць?***



*Лявон ВАЛАСЮК.*

– Творчасць для мяне ёсць натхненне, памножанае на штодзённую напружаную працу мозгу і рук, душы і сэрца, нервовай сістэмы... Творчасць – гэта паветра, якім дыхаеш, якім наталяешся і не можаш наталіцца, бо гэта сэнс жыцця... Творчасць – гэта сувязь з навакольным жыццём, з сусветам, у якім лічыш сябе патрэбным... Трэба толькі не ленавацца назіраць за тым, што і хто знаходзіцца побач, радавацца жыццю, сустрэчам з роднымі і блізкімі людзьмі, з усім тым, што стварае наша асяроддзе.

У творчасці павінен быць стрыжань, які замацоўвае набыткі і дапамагае рухацца наперад.

***– Усё пачынаецца з дзяцінства, ці не праўда? Раскажыце крыху пра сябе, пра мясціны дзе нарадзіліся, хто вашыя бацькі.***

– Мае бацькі родам з адной вёскі Песцянькі Кобрынскага раёна, якая размясцілася на невялікім пагорку на мяжы з цяперашнім Жабінкаўскім раёнам. Праз балота віднеецца вёска Мацясы (пры Польшчы ў 20-30-х гадах мінулага стагоддзя там была гміна і школа, у якой у адным класе вучыліся мае бацькі).

Маці, Вера Паўлаўна Крэчык, і бацька, Хведар Іванавіч Валасюк, жылі пасярэдзіне вёскі: бацька бліжэй да аднаго краю, а маці – да другога. Тыя хаты захаваліся і да гэтага часу, бо ў адной жывуць далёкія родзічы, а другая, дзедава па бацьку, пустуе. Толькі з вясны да позняй восені там абуджаюць наваколле сваім клёкатам буслы, пабудаваўшы некалі буслянку на бетонным электрычным слупе перад дзедавай хатай.

Я нарадзіўся 13 снежня 1955 года ў вёсцы бацькоў – Песцянькі. Бацька працаваў у той час у Брэсце краўцом у атэлье "Індпашыўадзенне" на рагу вуліц Савецкая і Гогаля, маці жыла ў вёсцы з старэйшым сынам Анатолем (маім братам), працавала ў калгасе, як потым гаварылі і пісалі: паляводам за працадні (дакладней, палачкі-рысачкі).

У пабудаваным бацькамі драўляным доме на краі вёскі маці пражыла з намі да 1962 года. Потым дом бацькі прадалі жыхару вёскі Мацясы за 800 рублёў (на той час гэта былі неблагія грошы). Маці пераехала ў Брэст да бацькі, дзе на Граеўцы на Нізкім завулку дабудоўвалі цагляны дом.

Я са старэйшым братам Анатолем перайшоў жыць да восені 1963 года да дзеда Івана з бабуляю Ефрасінняй, бацькоў нашага бацькі.

У 1963 годзе пайшоў у першы клас 16-й сярэдняй школы (на Граеўцы – стары раён горада – назва ад станцыі ў Польшчы Граева) Брэста па вуліцы Чырвонагвардзейскай, якую скончыў у 1973-м.

***– Даволі працяглы час Вы жывяце ў горадзе. Скажыце шчыра, ці часта наведваеце мясціны, дзе нарадзіліся, дзе прайшло Ваша дзяцінства? А мо ўсё ж, радзіма – там, дзе нам камфортна?***

– Радзіма для мяне адна: там дзе нарадзіўся, там, дзе закапаная мая пупавіна пры нараджэнні. Мяне заўжды кліча мая радзіма – вёска Песцянькі Кобрынскага раёна. І да таго ж мая радзіма не абмежаваная памерамі толькі адной роднай вёскі, бо ёсць вёска Крыўляны Жабінкаўскага раёна, дзе нарадзілася мая бабуля Ефрасіння, ёсць іншыя суседнія вёскі, з якімі звязана маё маленства, дзяцінства і сталыя гады. Там жылі і жывуць людзі, якія былі і ёсць мая радня па крыві і па духу...

Родную вёску наведваю кожны год. Там засталася дзедава хата, за якой я прыглядваю. Я прыязджаю туды за натхненнем, за тым паветрам, якое наталяе мяне, умацоўвае мае сілы і трымае ў рабочым стане.

Жыву ў Берасці і не бачу іншага кутка свету, дзе адчуваў бы сябе больш камфортна, хаця некалькі дзён можна пажыць няблага дзе заўгодна...

***– Спадар Лявон, мы ўзгадвалі ўжо і надалей у нашай гаворцы будзем узгадваць пра культуру, пра мастацтва... Але, як паказвае досвед, для многіх з нас гэта не самае галоўнае ў жыцці. Насамрэч велізарная колькасць людзей зусім не імкнецца да ведаў. Не сакрэт, але той жа паэзіяй у наш час цікавяцца адзінкі. Паэзія больш набытак тых, хто піша. Прабачце, навошта тады Вы займаецеся тым, што не запатрабавана ў грамадстве? Дзеля чаго ўсе гэтыя творчыя пакуты?.. Для каго Вы пішаце?***

– Паэзія заўжды прысутнічала і прысутнічае ў нашым жыцці. Кропелька ранішняй расы на травінцы, клёкат бусла на дзедавай хаце, таямнічы погляд дзяўчыны ў паўзмроку... Паэзія побач з кожным чалавекам у яго рухах, у яго ўчынках... Але заглянуць ў глыб паэтычнага свету дадзена не кожнаму, прачытаць, адчуць асалоду паэтычнага радка немагчыма ўсім... Ад таго, што мала людзей чытаюць вершы, цікавяцца паэзіяй не змяншае яе каштоўнасці ў грамадстве. Для мяне паэзія – магчымасць творча пераасэнсоўваць нашае жыццё-быццё, адчуваць асалоду навакольнага свету ў тэкстах, у словах, у літарах...

На камянях квітнеюць кветкі, праз асфальт прабіваюцца парасткі... Можна задаць сабе пытанне: “Дзеля чаго?” І адказаць: “Дзеля жыцця і прыгажосці!” Пішу вершы і прозу найперш для сябе, для сваіх родных і блізкіх, для тых, хто мяне чуе.



*Лявон ВАЛАСЮК. “Цырюльня”. Папера, акварэль (2004).*

***– Спадар Лявон, Вы працяглы час з’яўляецеся сябрам грамадскага аб’яднання “Беларускі саюз мастакоў”. Вы аўтар шматлікіх жывапісных работ. З чаго пачыналася ўсё? Што было напачатку: нататнік з вершамі ці ўсё ж мальберт?***

– Маляваць я пачаў рана,



*Лявон ВАЛАСЮК. “Межавы крыж”. Папера, акварэль (2004).*

таксама як і пісаць. Яшчэ да школы (дзіця пасляваенных гадоў) маляваў самалёты, танкі, гарматы, баявыя падзеі. Адным словам, маляваў шмат вайну, праз дзесяць гадоў пасля заканчэння якой я нарадзіўся, з якой пераможна вярнуўся мой бацька, дзядзька Павел... Старэйшы брат Анатоль таксама шмат маляваў, асабліва ў школьных сшытках. Мне было з каго браць прыклад, вучыцца самому. На ўроках у школе я маляваў настаўнікаў, асабліва аднакласніц і аднакласнікаў, на “прамакатках”, на чыстых аркушах паперы ў кніжках. З тых накідаў пазней у хатніх умовах я рабіў партрэты алеем на грунтаваным кардоне.

Першым настаўнікам малявання была настаўніца пачатковых класаў Людміла Кліменцьеўна Федарук, якая ў свой час мяне падтрымала, прыахвоціўшы да малявання ў сшытках па гісторыі, дзе я напачатку зрабіў першы малюнак Сафійскага сабору ў Кіеве, а потым з кніжкі перамалёўваў і іншае... З пятага класа ўрокі малявання пачала весці Надзея Фамінічна Ваўранюк (шмат пазней даведаўся, што яна была маёй зямлячкай – родам з Кобрына). Неяк у шостым класе восенню яна папрасіла нас прынесці на ўрок малявання прыгожае лісце для заняткаў. Кляновы і дубовы ліст я паспяхова змаляваў і расфарбаваў каляровымі алоўкамі, за што атрымаў адзнаку “добра”. На пытанне: “Чаму не “выдатна”? – настаўніца адказала: “А ты прыклаў лісце да паперы і абвёў па контуры!”

Пазней я пачаў займацца ў студыі выяўленчага мастацтва ў выдатнага мастака-графіка, педагога – заслужанага настаўніка БССР – Міхаіла Сяргеевіча Талмачова. Некалькі гадоў я з задавальненнем хадзіў на заняткі вечарамі, якія праходзілі ў добрай сяброўскай атмасферы. Атрымалася шмат цікавых знаёмстваў, сустрэч.

Сур’ёзна пачаў займацца малюнкам і жывапісам з чатырнаццаці гадоў. Памятаю, як аднойчы сябар старэйшага брата, наш аднавяскоовец, Міхась Більцэвіч прынёс мне штук пятнаццаць цюбікаў мастакоўскіх алейных фарбаў. Былі яны ўжо раней у працы: памятыя, запэцканыя, але такія патрэбныя, такія незвычайныя тады для мяне. Я ўпершыню ўзяў іх у рукі, адчуў цудоўны прыемны пах ільнянога алею, мяккасць свінцовых цюбікаў пры выдаўліванні фарбы... Так вось патрапіла да мяне каштоўнасць, без якой мастаку аніяк, як і без пэндзляў. Тады ж я пачаў рабіць і невялічкія копіі з твораў вядомых майстроў жывапісу І. Левітана, І. Рэпіна, А. Кіпрэнскага і іншых, пісаць эцюды на прыродзе, нацюрморты, спрабаваць рабіць партрэты родных і блізкіх мне людзей.

У школьныя гады (на пачатку 70-х мінулага стагоддзя) пашчасціла пазнаёміцца з мастаком Маратам Клімавым, Віктарам Чарнышовым (яго дачка Зоя Віктараўна працавала ў нашай 16-й школе настаўніцай фізікі), майстэрні якіх знаходзіліся на той час па вуліцы Гогаля ў Брэсце. Тады я атрымаў ад іх патрэбныя пажаданні па мастакоўскай творчай працы. У час вучобы ў 9-10-класах пасябраваў з маладым настаўнікам школы Сяргеем Міхайлавічам Сікачам, які даў мне пачытаць некалькі кніжак пра мастакоў (асабліва даспадобы прыйшлася кніжка пра французскіх імпрэсіяністаў!).

У старэйшых класах школы шмат маляваў алоўкам, рабіў жывапісныя пейзажы,

партрэты. Асабліва шмат часу было на гэта ў школьныя канікулы, калі ездзіў у вёску Песцянькі да дзеда Івана і бабулі Ефрасінні.

У 1972 годзе зрабіў серыю пейзажаў, якія сталі асновай для першай персанальнай мастацкай выставы ў жыцці (выстава праходзіла ў маёй 16-й брэсцкай школе на Граеўцы). А падрыхтавала тую экспазіцыю лабарантка кабінета хіміі Раіса Пятроўна Буланда, якая сама працавала ў школе яшчэ і мастаком-афарміцелем...

***– Наколькі я ведаю, Вы працяглы час працавалі дызайнерам у Брэсцкім ЦУМе. Вашыя працы ўпрыгожваюць сцены ўздоўж лесвічных маршў цэнтральнага ўнівермага горада. Праект ужо завершаны ці Вы ўсё яшчэ працуеце над ім?***

– Праект ужо завершаны тры гады таму, калі былы генеральны дырэктар перайшоў на іншую працу, а новым дырэктарам стаў яго сын, які не выказаў жадання працягваць гэты цікавы творчы праект.

Нешта можна было б яшчэ зрабіць для інтэр'ераў прадпрыемства, але ў маладога кіраўніка іншыя погляды на жыццё, на выяўленчае мастацтва, на культуру ўвогуле. Гэта, канечне, сумна. Але галоўнае было зроблена: створана экспазіцыя жывапісных твораў па гісторыі Брэста і Брэсцкай вобласці да 1000-годдзя нашага горада (1019-2019). Тысячы наведвальнікаў універмага кожны дзень маюць магчымасць пазнаёміцца з нагляднай гісторыяй Брэста і вобласці па тых творах, якія размешчаны ў ЦУМе.

Першыя чатыры творы, якія былі выкананы ў 2000 годзе, маюць наступныя назвы: "Старажытная Беларусь", "Дзяцінец старажытнага (XIII ст.) Бярэсця", "Горад Бярэсце ў XVII стагоддзі", "Размяшчэнне храмаў і пабудоў у Бярэсці на перыяд 1835 года". І на іншых васьмі творах паказаны знакамітыя архітэктурныя помнікі Берасцейшчыны, якія нясуць пазнавальны характар.

Тэма старажытнасці даўно запала мне ў душу... І яна не дае мне спакою: трымае мяне ў сваіх моцных абдымках, хвалюе. За гэтым стаіць мая любоў да Бацькаўшчыны, да роднай зямлі, да людзей, якія тут жылі і жывуць і ўзбагачаюць сваёй плённай працай родны край.

Пэўна, моцны штуршок да гістарычнай свядомасці атрымаў восенню 1976 года, калі студэнтам-першакурснікам са сваімі сябрамі ўдзельнічалі ў раскопках старажытнага Бярэсця пасля інстытуцкіх заняткаў у вядомага археолага Пятра Фёдаравіча Лысенкі.

***– Наведваючы Вашыя выставы, звярнуў увагу, што ў апошні час сярод вашых жывапісных работ з'явілася і шмат партрэтаў. Болей таго, у мінулым годзе ўбачыла свет Ваша кніжка эсэ "Непрыдуманыя партрэты", якую крытыкі паспелі назваць ужо своеасаблівай энцыклапедыяй культурнага жыцця Берасцейшчыны. Што натхніла Вас на гэтую ўнікальную працу? Раскажыце крыху пра гэты праект.***

– Натхніла на працу па напісанні кніжкі эсэ пра берасцейскіх мастакоў і літаратараў найперш любоў да выяўленчага мастацтва, да літаратуры, якую нясу ў сабе з маленства. У школьныя гады перачытаў усе кніжкі ў гарадскіх бібліятэках пра мастакоў, але іх было мала.



*Лявон ВАЛАСЮК. "Старыя дамы ў прадмесці" (2004).*


Лявон ВАЛАСЮК. “Вераснёўскі настрой”. Папера, акварэль (2008).

Пазней з’явілася большая магчымасць знаёміцца з творчасцю мастакоў, графікаў, скульптараў па тых выданнях, што ўжо трапілі на паліцы кніжных крамаў... З цяжкасцямі, прызнацца, траплялі ў мае рукі цікавыя кнігі па мастацтву, каб узбагаціць патрэбнымі ведамі.

Па жыцці сустракаў і сустракаю шмат цікавых людзей-творцаў. Здарылася так, што напачатку 2000-х гадоў зрабіў вялікі партрэт вядомага паэта Алеся Каско, потым – пісьменніка Леаніда Філатава, паэткі Ярыны Дашынай... Так паступова збіралася партрэтная галерэя землякоў-літаратараў. Да гэтага ж у кожнага партрэта была свая маленькая гісторыя. Для брэсцкай абласной газеты “Народная трыбуна” пісаў матэрыялы да юбілеяў мастакоў і літаратараў. З цягам часу назбіралася шмат тэкстаў, тады і надумаў пакласці ўсё пад адну вокладку кніжкі. Больш за год займаўся яе макетам. А ўвесну 2014 года нарэшце наважыўся надрукаваць кніжку ў Брэсцкай друкарні. Да таго ж так атрымалася, што адбыліся юбілеі Саюза мастакоў напрыканцы 2013-га і Саюза беларускіх пісьменнікаў летам 2014-га. Але кніжку я не рыхтаваў менавіта да гэтых юбілеяў. Проста так склалася выпадкова па жыцці... Супадзенне.

***– Спадар Лявон, не сакрэт, і, той, хто Вас ведае, пацвердзіць гэта, што Вы чалавек вельмі актыўны. Ваш унёсак у культурнае і грамадскае жыццё горада заўважны, Вы шмат гадоў запар з’яўляецеся таксама намеснікам старшыні філіі Саюзу беларускіх пісьменнікаў, Вы рэдактар штогадовага альманаха “Жырандоля”. Як у Вас атрымліваецца паспяваць за часам? У чым сакрэт Вашай такой актыўнасці?***

– Па жыцці, каб нешта сур’ёзнае зрабіць, трэба, вядома, умела распараджацца сваім часам, правільна арганізоўваць свой працоўны дзень.

Для мяне школай жыцця былі праца на заводзе слесарам, служба ў войску, вучоба ў інстытуце на архітэктурным факультэце, праца на розных прадпрыемствах горада, калі трэба было заўжды своечасова рабіць задуманае... Да таго ж цікавасць да жыцця, патрэба заўжды над нечым працаваць, рэалізоўваць творчыя ідэі ў матэрыяле...

Сакрэт маёй актыўнасці ў тым, што я люблю сваю працу, люблю з маленства працаваць. Ну а калі твая праца патрэбная людзям, дык гэта вельмі натхняе і стымулюе. Мне цікава жыць, цікава працаваць і сустракацца з калегамі і сябрамі. У гэтым і сэнс жыцця.

***– Некалі ў Бродскага спыталі: “Над чым Вы цяпер працуеце?”, на што паэт іранічна пажартаваў: “Над сабой…” Спадар Лявон, над чым Вы цяпер працуеце? Раскажыце нам крыху пра свае бліжэйшыя планы.***

– Творчых планаў шмат. Найперш рыхтую творы для сваёй юбілейнай мастацкай выставы ў родным Берасці, якая павінна адбыцца ў сярэдзіне снежня гэтага года. Экспазіцыю складуць як новыя жывапісныя творы, так і лепшыя творы мінулых гадоў. Хочацца выставіць самае цікавае і якаснае. Было жаданне

да адкрыцця выставы зрабіць каталог, але фінансавыя магчымасці абмежаваныя, таму з каталогам прыйдзецца крыху пачакаць...

Як літаратар спадзяюся выдаць у наступным годзе новы зборнік вершаў (апошні пабачыў свет у 2010 годзе). Таксама мару выдаць новую кніжку прозы, якую складуць творы, напісаныя ў апошнія гады (некаторыя яшчэ нідзе не друкаваліся). Літаратура трымае мяне моцна як і жывапіс, а я трымаюся іх. Па жыцці мне з імі хаця і няпроста, але затое цікава. Яны мае блізкія сябры...

***– "Пісьменнікі – адчайныя людзі, – сцвярджаў Чарльз Букоўскі, – і, калі ў іх з'яўляецца надзея, яны перастаюць быць пісьменнікамі..." Няўжо ўсё так кепска? Вы таксама так лічыце?***

– Кепскага шмат. У сучасным жыцці даводзіцца абурацца кожны дзень тымі ці іншымі падзеямі, паводзінамі асобных людзей... Кожны дзень прачынаешся з думкаю на лепшае, на працу, на магчымасць станоўчага вырашэння розных праблемаў... Але іх не меншае з часам: проста адны саступаюць другім. І па жыцці немагчыма ісці без існуючых праблемаў у грамадстве, у асабістым жыцці. Пісьменнік перастае быць пісьменнікам, калі робіцца абыякавым да навакольнага жыцця, да сябе... А рухацца наперад без знешняга супраціву немагчыма ні ў творчасці, ні ў якой іншай галіне жыцця. Супраціў загартоўвае матэрыял і прымушае працаваць мозг больш напружана ў патрэбным накірунку.

***– І на развітанне, што б Вы пажадалі сваім патэнцыяльным чытачам.***

– Найперш жадаю ім моцнага здароўя і добрага настрою. Жадаю па магчымасці набываць новыя кніжкі беларускіх аўтараў, уважліва чытаць тэксты, маральна і матэрыяльна падтрымліваць творцаў.

Нашае жыццё такое хуткаплыннае, такое вірлівае, хаця часам здаецца, што час спыніўся... Хочацца большай увагі і павагі да роднай мовы і літаратуры з боку чытачоў, але для гэтага трэба мяняць дзяржаўную палітыку ў адносінах да роднай мовы, да адукацыі, да нашай беларускай культуры. Пакуль маем тое, што маем. Але наша Беларусь не без апантаных людзей, якія намагаюцца несці роднае слова, культуру ў грамадства... Галоўнае – заўжды па жыцці рабіць правільны сумленны выбар.

*Фота Алеся ПАПЛАЎСКАГА*



Ірына Масляніцына, Мікола Багадзяж



...не хачу быць каралём, бо кажуць, што вы вельмі нешчаслівыя...



# Паланэз Агінскага

Гэта была яго апошняя ноч на радзіме. Паўстанне, у якім ён прымаў удзел, было разгромлена. Яго паплечнікі – хто загінуў, хто захоплены ў палон. Змагацца за Рэч Паспалітую тут ужо не было з кім і не было як. Граф Агінскі загадаў падрыхтаваць коней і хутка сабраў усё самае неабходнае для далёкага вандравання. “На жаль, давядзецца пакінуць тут фартэпіяна, – падумаў ён. – Каму дастанецца любімы інструмент, калі сюды прыйдуць расійскія войскі?” Рукі міжволі пацягнулася да клавіятуры, каб аблашчыць у апошні раз гэтыя знаёмыя з дзяцінства клавішы. І тут у галаве загучала мелодыя. Высакародна-стрыманая, але шчымліва-самотная. Як прыгадванне аб няспраўджаных марах. Граф адпусціў мелодыю на волю, праіграўшы яе на любімым інструменце. А потым, баючыся штосьці забыць, баючыся наогул страціць той настрой, тое натхненне, той кантакт з нябёсамі, які дарує шэдэўры, паспешліва стаў запісваць яе ў нотным сшытку. “Паланэз” – значыць, “польскі”. Гэта быў сумны паланэз. Своеасаблівы рэквіем загінулым сябрам і змарнаванай “польскай” ідэі. Коні ўжо пырхалі, запрэжаныя, пад вокнамі.

Агінскі вывеў апошнюю ноту і, падпісаўшыся пад творам, паставіў назву: “Развітанне з Радзімай”...

Якая прыгожая і рамантычная гісторыя! І як жа шкада, што ў рэальнасці гэтага не было. І славуты паланэз Агінскага ўзнік зусім у іншы час і пры іншых абставінах. І зусім не кампазітар даў яму летуценную назву “Развітанне з Радзімай”. Пра Міхала Клеафаса Агінскага, дарэчы, складзена нямала легенд. Ён сам ужо легенда беларускай гісторыі. А для шанавання легенд, безумоўна, трэба ведаць і праўду. Паўстанец, палітык і кампазітар Агінскі заслугоўвае гэта. Бо і рэальная яго біяграфія не менш яркая, чым выдуманая ўдзячнымі нашчадкамі.

Агінскія былі адным з буйнейшых і найбагацейшых магнацкіх родаў на Беларусі. Свой радавод яны вялі ажно ад Уладзіміра Кіеўскага. На нашай жа зямлі пасяліліся ў пачатку XV ст. Менавіта тады Дзмітрый Глушчонак перабраўся з Казельска ў атрыманы ім маёнтак Агінты. Бацькам будучага кампазітара толькі на Беларусі належалі дзясяткі маёнткаў, у тым ліку Ракаў, Іўе, Гаўя, Бялынічы. Аднак, была нерухомая маёмасць і ў Польшчы. У адным з такіх польскіх маёнткаў, Гузаве, непадалёк ад Варшавы, і нарадзіўся 25 верасня 1765 года Міхал Клеафас Агінскі. Сын Андрэя Агінскага, палітыка і дыпламата апошняга караля Рэчы Паспалітай Панятоўскага.

Міхал Клеафас быў другім дзіцем у сям’і пасля сястры Юзэфы. Зрэшты, у маці яго, Паўліны Шэмет, ад двух першых шлюбаў былі яшчэ сыны, Фелікс Лубенскі і Прот Патоцкі, з якімі потым у Міхала Клеафаса склаліся даволі добрыя адносіны.

“Я з’явіўся на свет у эпоху, якая прадказвала маёй Радзіме змрочную будучыню, – пісаў Агінскі ў сталым узросце ў сваіх мемуарах. – Грамадзянскія войны ўжо разбурылі Польшчу, і я добра памятаю, што калі мне было каля чатырох гадоў, ужо бачыў у нашым доме ў вёсцы, як з’яўляліся па чарзе то расійскія, то канфедэрацкія атрады, шукаючы адзін аднаго; яны трывожылі мае дзіцячыя гульні, наводзілі страх на жыхароў і разбуралі нашыя вёскі...”

Андрэй Агінскі быў сапраўдным патрыётам і з маленства прышчапляў патрыятычныя памкненні сыну. У 1769 годзе на адным з велікасвецкіх прыёмаў, уганараваных прысутнасцю караля, Панятоўскі падышоў да хлопчыка і запытаўся, чым ён намераны займацца, калі вырасце?

“Я адказаў, што хацеў бы служыць маёй Радзіме і майму каралю, але дадаў, што не хачу быць каралём, бо кажуць, што вы вельмі нешчаслівыя. Гэты адказ выклікаў слязу ў Станіслава Панятоўскага”.

Праз два гады хлопчык атрымаў магчымасць выправіцца разам з бацькам у сваё першае ў жыцці дыпламатычнае падарожжа. Кароль накіраваў Андрэя Агінскага ў Вену, спадзеючыся на тое, што Аўстрыя дапаможа яму знайсці паразуменне з Барскімі канфедэратамі. Місія была надта важная. Дзве тысячы ўланаў суправаджалі каралеўскага пасла. Каля Кракава да эскорта далучыліся таксама 500 рускіх салдат, якімі кіраваў Сувораў, тады яшчэ не генералісімус, а палкоўнік. Гэты чалавек уразіў шасцігадовага Міхала Клеафаса сваёй знешнасцю і паводзінамі. Падобна, нам усё ж такі дадзена здольнасць адчуваць вяршыцеляў свайго лёсу пры першай жа сустрэчы з імі. Ва ўспамінах сваіх Агінскі прызнаваўся, што сэрца яго замірала, калі ён глядзеў на гэтага не вельмі прыгожага, не надта ахайнага чалавека. І гэта пры тым, што палкоўнік быў цалкам добразычліва настроены і нават частаваў хлопчыка яблыкамі, падаючы іх праз акенца ў карэце.

Каб пайсці па шляху бацькі і таксама стаць дыпламатам, Міхал Клеафас мусіў атрымаць грунтоўныя веды па розных прадметах. І падчас гэтай, самай першай вандроўкі маленькага Агінскага, бацька яго паклапаціўся пра навучанне сына. Выхавальнік эрцгерцага Леапольда, будучага імператара Аўстрыйскага, Жан Ралей, стаў гувернёрам Міхала Клеафаса. Французская мова і літаратура, батаніка, гісторыя, геаграфія, геаметрыя, алгебра, эканоміка, права, паэзія, красамоўства, заканадаўства,

камерцыя, кіраванне, – вось далёка не поўны спіс навук, якія энцыклапедыст Ралей выкладаў свайму вучню. Міхал Клеафас вельмі лёгка паддаваўся навучанню. Ён, сапраўды, быў створаны для палітычнай кар’еры. І гэта задавальняла ўсіх. Зрэшты, ужо ў раннім юнацтве выявіўся і яшчэ адзін талент. Да кампазітарства. Здольнасці дыпламацкага сына заўважыў шаснаццацігадовы Юзаф Казлоўскі, арганіст і скрыпач (у далейшым прыдворны кампазітар Кацярыны II, аўтар першага расійскага дзяржаўнага гімну: ”Гром победы, раздавайся!”), запрошаны выкладаць музыку Міхалу Клеафасу і яго сястры. Аднак, кар’ера музыканта ў тыя часіны не была прэстыжнай, і таму на музычны талент маладога Агінскага вялікай увагі яго родныя не звярнулі.



*Міхал Клеафас АГІНСКІ (карціна Ф.К. Фабра, 1805 г.)*

Палітычную ж кар’еру Міхал Клеафас распачаў у дваццаць адзін год. Бацька рэкамендаваў трокскай шляхце абраць свайго сына дэпутатам ад Трокскага ваяводства на сейм. На сейме ж гэтым, у 1786 годзе маладога Агінскага абралі сябрам Камісіі скарбу. Гэта аказаўся вельмі старанны, суровы і непахісны выканаўца. Выпраўлены на праверку мытных пастоў на мяжы Літвы і Расіі ад Палангі да Берасця, ён выявіў шмат злоўжыванняў і нават вызначыў недакладнасці ў геаграфічных картах гэтай мясцовасці, якія паспяшаўся выправіць.

Пазней у Гародні падчас працы Камісіі скарбу Міхал Клеафас публічна выкрыў дзейнасць расійскага пасла, які спрыяў таемнаму адбіццю фальшывых медных манет у Рэчы Паспалітай, каб гэтым падарваць эканамічную самастойнасць дзяржавы. У гэтую справу было замяшана нямала чыноўнікаў. Яны спрабавалі прымусіць Міхала Клеафаса замаўчаць, і нават звярталіся з такімі просьбамі да яго бацькі. Але Андрэй Агінскі цалкам падтрымліваў сына. “Не адступай ад шляху гонару і цноты, – пісаў ён Міхалу Клеафасу. – Палажыся на Бога, паважай законы, кіруйся ў дзеяннях сваім сумленнем”. Словы гэтыя сталі своеасаблівым запаветам. Бо хутка Андрэя Агінскага не стала.

Зорка ж маладога дыпламата Міхала Клеафаса Агінскага найбольш ярка заззяла падчас гэтак званага Чатырохгадовага (бо працягваўся ён з 1788 па 1792 год) сейма. Гэты сейм прыняў шэраг рэформ, а 3 мая 1791 года зацвердзіў Канстытуцыю, створаную, без сумнення, пад уплывам ідэй Вялікай французскай рэвалюцыі. Канстытуцыя абяцала спадчыннасць праўлення краінай (а не выбарнасць каралёў, як было раней), свабоду веравызнання, адмену права “ліберум вета”. Была абвешчана роўнасць перад законам усіх саслоўяў, у тым ліку і сялянства. Больш

таго, мяшчане – прадстаўнікі гарадоў – уводзіліся ў склад сейма. Задаволены дзейснасцю, эрудыцыяй, замілаваны шчырай адданасцю Міхала Клеафаса свайму каралю і свайму народу, Станіслаў Аўгуст Панятоўскі ўзнагародзіў Агінскага ордэнамі Святога Станіслава і Белага Арла.

У жніўні 1789-га Міхал Клеафас атрымаў званне мечніка літоўскага. А ў 1790-м быў пасланы з дыпламатычнымі даручэннямі спачатку ў Галандыю, пасля ў Англію. У паездкі гэтыя, галоўнай місіяй якіх былі таемныя перамовы з кіроўнымі вярхамі гэтых краін, Агінскі, дзеля надання вандроўкам прыватнага выгляду, едзе з маладзенькай жонкай, Ізабэлай Лясоцкай, з якой паўстаў ля алтару ў маі 1789 года. Справаздача аб выніках паездак усеагульным дастаяннем не стала, таму мы не можам нават сказаць, наколькі ўдалася місія Агінскага. Мабыць, яна сталася не надта паспяховай, таму што ніякай падтрымкі з боку Галандыі і Англіі ў далейшых драматычных падзеях Рэч Паспалітая не атрымала.

Змест прынятай на сейме Канстытуцыі выклікаў вялікае незадавальненне як у краіне, так і за мяжой. Шляхта не была гатовая да ўраўнавання ніжэйшых саслоўяў з сабою ў правах. Гэтаксама, як і ўраўнавання ў правах католікаў і прадстаўнікоў іншых веравызнанняў. У мястэчку Таргавіцы ( цяпер Украіна) была створана шляхецкая канфедэрацыя (узброенае аб'яднанне). Кіраўнікі канфедэрацыі, магнаты Патоцкі, Браніцкі і Ржэвускі, звярнуліся па дапамогу да расійскай імператрыцы Кацярыны II. Выкарыстаўшы зварот Таргавіцкай канфедэрацыі, імператрыца ў маі 1792 года накіравала на Беларусь, Украіну і Польшчу войскі. У гэты ж час на Польшчу напала Прусія. Спробы прыхільнікаў Канстытуцыі аказаць супраціўленне захопнікам былі беспаспяховыя. Тым больш, што кароль Панятоўскі, спалохаўшыся настойлівасці і рашучасці канфедэратаў, здрадзіў сваім ідэалам і перайшоў на іх бок. Аказалася, што тыя, хто разам з каралём прадумваў рэформы, цяпер аказаліся ворагамі караля. У верасні 1792 года і рэформы, прынятыя Чатырохгадовым сеймам, і Канстытуцыя 3 мая былі адмененыя. Пачаліся рэпрэсіі. Маёнткі Міхала Клеафаса былі канфіскаваныя. А сам ён, ратуючы жыццё, выехаў у Прусію.

З "вальнадумствам" Рэчы Паспалітай было скончана. Але Кацярына II і кароль Прусіі Фрыдрых II выкарысталі прысутнасць сваіх войскаў для новага падзелу Рэчы Паспалітай (першы адбыўся ў 1772 годзе). У 1793 годзе Расія атрымала Мінскае ваяводства, Падолле, Валынь, а Прусія – Торунь і Гданьск.

На землях, адарваных ад Рэчы Паспалітай, зацвярджаліся нацыянальны і рэлігійны ўціск, анямечванне і русіфікацыя. Канфіскацыя маёнткаў суправаджалася раздачай зямель і прыгонных сялян рускаму дваранству. Усё гэта, як і ўспаміны аб страце велізарных тэрыторый, выклікала ў краіне незадаволенасць. Вясной 1794-га выбухнула паўстанне пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касцюшкі. 24 сакавіка ў Кракаве быў абвешчаны "Акт паўстання".

Вестка пра тое заспявае Агінскага ў Навагрудку. Ён неадкладна піша ліст жонцы, у якім просіць прыбыць у Вільню, дзе яны сустрэнуцца. У стане разгубленасці пасля адмовы караля ад Канстытуцыі, Міхал Клеафас, урэшце, зразумеў, што мусіць рабіць.

"Я не ашукваў сябе дарэмнымі надзеямі і не ліслівіў сабе, што вынік будзе адпавядаць чаканням патрыётаў, але, нягледзячы на гэта, катэгарычна вырашыў не пакідаць краіну, падзяліць небяспеку з маімі суграмадзянамі і хутчэй загінуць са зброяй у руках, чым зганьбіцца, старонячыся ад удзелу ў патрыятычным запале", – пісаў ён у гэтыя дні ў сваім дзённіку.

4 красавіка паўстанцы ўшчэнт разбілі войска генерала Тармасава пад Рапалавіцамі. Праз два тыдні пасля гэтага гараджане Вільні вызвалілі свой горад. Пажар паўстання ахопліваў усё новыя тэрыторыі. Міхал Клеафас стаў адным з яго кіраўнікоў, увайшоўшы ў склад Вышэйшай Літоўскай рады, часовага

ўраду паўстання. Агінскі заявіў, што прыносіць у дар справе маёмасць, працу і жыццё. За свае грошы ўзброіў атрад колькасцю 480 чалавек і сам узначаліў яго. Выправіўшы жонку да маёнтка бліжэйшага сваяка, Міхала Казіміра Агінскага, у Седльцы, Міхал Клеафас накіраваўся з атрадам на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Пазней у сваіх мемуарах Агінскі гэтак тлумачыў свой план: "Калі б мне ўдалося бесперашкодна дабрацца туды, я наважыўся б глыбей ўварвацца на Белую Русь, каб там узняць на паўстанне 12 тысяч сялянаў, якія знаходзіліся ва ўладаннях маёй сям'і, і даць ім свабоду".

Першыя сутычкі з рускімі войскамі адбыліся каля Сола і Ашмянаў. Затым, абыходзячы варожыя атрады пад кіраўніцтвам Цацыянава і Кнорына, паўстанцы рушылі на Валожын. Тут яны амаль без бою захапілі вялікую колькасць трафеяў, якія раздалі мясцоваму насельніцтву. Праз некалькі дзён атрад увайшоў у Івянец. Але тут паўстанцам паведамілі, што ў Мінску шмат войскаў і што горад добра ўмацаваны. Агінскі вырашыў вяртацца назад. Ля вёскі Сакаўшчына яго атрад быў атакаваны рускімі войскамі пад кіраўніцтвам барона Бенігсэна і графа Мікалая Зубава, брата фаварыта Кацярыны II.

Міхал Клеафас пісаў: "Калі я залішне неразважліва высунуўся наперад, кулі прашылі мой капялюш, і я немінуема загінуў бы, калі б афіцэр, па прозвішчу Паўловіч, не ўхапіў майго каня за цуглі і не прымусіў мяне павярнуць назад... Дванаццаць чалавек з кавалерыі, каля дваццаці добраахвотнікаў, 25 стральцоў і ўсе людзі з маёй прыслугі былі забітыя... Мне ўдалося правесці з сабой каля 150 чалавек..., мае стральцы адступілі ў лясы, а непрыяцельская конніца ішла ўвесь час па баках у нас, каб акружыць і перашкодзіць нашаму адступленню..."

А вось рускія былі ўпэўненыя, што камандзір атрада паўстанцаў забіты, аб чым і пісалі ў сваіх данясеннях. Агінскі ж адступіў у Ашмяны, дзе ў гэты час знаходзіўся чатырохтысячны атрад Якуба Ясінскага.

Блізкасць небяспекі, пастаянная рызыка, экзальтаванасць і ахвярнасць нечакана паспрыялі з'яўленню натхнення. У перапынках паміж бітвамі Агінскі піша музыку. Паўстанцкія песні і маршы з'яўляюцца адзін за адным. Многія даследчыкі лічаць, што песня, якая пачынаецца словамі: "Ешчэ Польска не згінэла..." і стала пазней дзяржаўным гімнам Польшчы, была напісана таксама Міхалам Клеафасам.

Паўстанцы дапусцілі шэраг памылак. Іх сілы складалі рэгулярнае войска Княства Літоўскага, шляхетнае апалчэнне і невялікі атрад касінераў. Але кожны з паўстанцкіх камандзіраў дзейнічаў самастойна. Дысцыпліна ў атрадах, асабліва сярод шляхетнага апалчэння, была дрэнная. Больш за тое, утвораная Касцюшкам Цэнтральная Рада Вялікага Княства баялася ўзброіць сялянаў. Гэта пазбавіла паўстанне галоўнай сілы, якая магла б прывесці да перамогі.

Супраць паўстанцаў было кінутае велізарнае войска пад кіраўніцтвам Суворава і Ферзена. Рэгулярныя палкі з цвёрдай дысцыплінай, напрактыкаваныя падчас толькі што скончанай руска-турэцкай вайны. Паўстанцы цярпелі паразу за паразай. Агінскі ўзначальваў некалькі паходаў да берагоў Дзвіны, на Браслаўшчыну. Але ў чэрвені яго атрад быў разбіты. З рэшткамі паўстанцаў Міхал Клеафас далучыўся да корпуса Дамброўскага, разам з якім пасля паражэння паўстання перайшоў прускую граніцу.

Сем гадоў доўжыўся перыяд вандроўкі па чужых краінах і гарадах. Выгнанец спачатку нават не адважваўся жыць пад уласным імем. Каб сустрэцца з мужам Ізабэла Агінская выязджае ў Вену. Тамтэйшая знаць пачынае ганіць яе добрае імя, даказваючы, што Агінская завяла любоўную сувязь з нейкім Міхалоўскім (менавіта пад такім імем жыве тут Міхал Клеафас). Сужэнцы былі вымушаныя цярпець, каб не выдаць паўстанца на расправу. Зрэшты, яны хутка збягаюць у Італію.

Аднак, як аказалася, нехта ўсё ж апазнаў у Міхалоўскім Агінскага. 7 снежня

ў Венецыю прыбывае пасланне для Міхала Клеафаса. Суvotraў уласна напісаў Агінскаму ліст, у якім прапаноўваў звярнуцца да Кацярыны II з пакаяннем і высылаў пашпарт. Агінскі з абурэннем адмовіўся ад даравання коштам ганьбы. І з-за гэтага пазбавіўся ўсіх сваіх маёнткаў, якія імператрыца канфіскавала. Міхал Клеафас прынёс Айчыне такую ахвяру.

Але не пакутнікам, а змагаром да канца жадае заставацца Агінскі. За мяжой ён шукае сувязі з іншымі паўстанцамі. У жніўні 1795 года Міхала Клеафаса прызначаюць прадстаўніком польскай эміграцыі ў Стамбул. Ён мусіць прымяніць усе свае дыпламатычныя здольнасці, каб схіліць турак на новую вайну з Расіяй. Дзеля выканання гэтай сакрэтнай місіі яму зноў даводзіцца развітацца з жонкай, якая вяртаецца ў Польшчу.

Аднак, дабраўшыся да Турцыі, Агінскі зразумеў усю марнасць намаганняў. Вайна з Расіяй бачылася туркам справай надта сур'ёзнай, каб раздаваць абяцанкі нейкім там эмігрантам. Тым не менш, Агінскі мае новыя спадзяванні. На Францыю. На Банапарта і Талейрана. Ён пачынае перамовы з імі. Аднак, памірае Кацярына, яе змяняе Павел I, і Францыі становіцца выгадна наладзіць сувязі з новым імператарам.

З вялікімі цяжкасцямі жонцы Ізабэле ўдаецца выпрасіць у прускага караля дазвол на прыезд яе мужа ў маёнтак Лясоцкіх Бжэзіны, які стаўся пасля Трэцяга, канчатковага падзелу Рэчы Паспалітай прускай тэрыторыяй. У 1798 годзе сужэнцы аб'ядноўваюцца. У гэтым жа годзе нараджаецца іх першае дзіця, сын Тадэвуш Антоній, якога называюць у гонар Касцюшкі і бацькі Ізабэлы, які даў прыстанак сям'і. У 1801 годзе з'яўляецца на свет другі сын, Францішак Ксаверый, названы ў гонар добрага дзядзькі Агінскага, які жыў у Маладзечне і марыў зрабіць пляменніка сваім спадчыннікам.

Даведаўшыся, што імператар Павел адпусціў на волю ўсіх паланёных паўстанцаў, Агінскі прасіў аб дазволе вярнуцца на Беларусь. Павел адмовіў, бо лічыў Міхала Клеафаса больш небяспечным чалавекам для яго імперыі, чым Касцюшка. Толькі Аляксандр I, які замяніў Паўла, падпісаў паперы, неабходныя для вяртання выгнанца на радзіму. Мала таго, імператар, які мог бачыць і шанаваць гераізм, асабіста садзейнічаў, каб Агінскі бесперашкодна атрымаў абяцаны дзядзькам маёнтак Залессе ля Смаргоні, на які, дарэчы, прэтэндавалі манахі-кармеліты. “Агінскі нешчаслівы, – выказаў Аляксандр у сваім акружэнні, – трэба падумаць, як выправіць яго справы. Праўда, ён быў у супрацьлеглым нам лагеры, але выконваў свой абавязак і служыў сваёй Радзіме”.

Агінскі вярнуўся на Беларусь. Аднак, насуперак чаканням яго знаёмых, пані Ізабэла не прыехала за ім у Залессе. Паміж сужэнцамі нечакана ўзнікла сцяна неразумення. Здаецца, шматгадовыя пакуты спапялілі каханне. Ім холадна было побач. Затое сэрца Міхала Клеафаса адкрылася для новага пачуцця. Вядомая віленская прыгажуня, удава былога паплечніка, Нагурскага, Марыя, скарыла Агінскага.

Гэтая Марыя была незвычайнай асобай. Нарадзілася яна ў Італіі, у сям'і карчмара па прозвішчы Нэры. У 1794 годзе ў бацькоўскай карчме за стойкай яе пабачыў немалады ўжо граф Каэтан Нагурскі, які, як і Агінскі, эміграваў за мяжу, каб уратавацца ад кары за ўдзел у паўстанні. Закахаўшыся з першага погляду ў шаснаццацігадовую Марыю, Нагурскі прапанаваў ёй шлюб і тытул графіні. Марыя Нэры згадзілася і неўзабаве выехала з Нагурскім у Варшаву, а пасля і ў Вільню, дзе іх абвянчалі. У 1802-м Нагурскі памёр, пакінуўшы Марыю заможнай удавой з капіталам 400 тысячаў залатых дукатаў. Аб шлюбе з ёю марыў 59-гадовы генерал-губернатар Вільні Бенігсен, супрацiўнік Нагурскага і Агінскага падчас паўстання. Аднак, абранцам удавы стаў 36-гадовы Міхал Клеафас, які пабачыў у Марыі талент спявачкі і абяцаў даць ёй магчымасць развіць яго.

Міхал Клеафас развёўся са сваёй першай жонкай, і ажаніўся з прыгажуняй Марыяй. Пасля вяселля Агінскія пасяліліся ў Залессі, дзе заняліся перабудовай маёнтка і стварэннем палаца-паркавага комплексу. Муж і жонка неўзабаве адкрылі тут музычна-літаратурны салон, дзе наладжваліся дамашнія канцэрты і оперныя паказы. У якасці спявачкі ў іх прымала ўдзел сама гаспадыня. У гэты, новы і незвычайна шчаслівы перыяд свайго жыцця Агінскі і стварыў славуты паланэз, названы нашчадкамі "Развітанне з Радзімай". І яшчэ дваццаць іншых паланэзаў, а таксама вальсы, мазуркі, маршы, менуэты, рамансы, аднаактовую оперу "Банапарт у Каіры". Страсная Марыя нарадзіла Агінскаму пяцёх дзяцей, чатырох дачок і сына Ірэніўша.

У 1810 годзе Агінскі атрымаў ад Аляксандра I пасаду сенатара. Гэта абнадзеіла яго. Усяго праз некалькі месяцаў пасля прызначэння Міхал Клеафас падаў імператару праект заснавання Вялікага Княства Літоўскага ў складзе Віленскай, Ковенскай, Мінскай, Віцебскай, Магілёўскай, Кіеўскай і Падольскай губерняў, Беластоцкай вобласці і Цярнопальскай акругі. Княства гэтае планавалася як аўтаномнае ў Расійскай імперыі. Кіраваць ім мусіў намеснік імператара. А сталіцу зрабіць планавалася ў Вільні. На жаль, Аляксандру I не хапіла мудрасці прыняць гэты праект. Таму многія літвіны падчас вайны 1812 года выступілі са сваімі атрадамі на баку Банапарта.

Агінскі яшчэ спрабаваў палепшыць лёс беларускага сялянства, прапануючы імператару пасля вайны зменшыць падаткі абрабаваным французамі жыхарам вёсак. І гэтая прапанова засталася непачутай. Зразумеўшы, што сваёй дзейнасцю ён больш нічога не зможа зрабіць на карысць радзіме, Агінскі назаўжды пакінуў Залессе. Ён паехаў у Італію, робячы выгляд, што ад'язджае ненадоўга, каб падлячыцца, і застаўся там назаўжды. Памёр Агінскі ў Фларэнцыі 15 кастрычніка 1833 года. І быў пахаваны ў пантэоне Санта Крочэ, дзе знаходзяцца труны найбольш знакамітых італьянцаў — Галілея, Макіявэлі, Мікеланджэла. Керубіні, Расіні... Як герой. Роўны сярод роўных...

Дзіўна, але з усяго створанага Агінскім на радзіме памятаюць у першую чаргу тое, чаму ён ніколі не надаваў вялікага значэння, тое, што сам ён лічыў дробяззю, бо амаль нідзе не нагадваў аб гэтым у сваім дзённіку, – памятаюць музыку. Паланэз стаў своеасаблівай эпітафіяй і рэквіемам дыпламата, палітычнага дзеяча, паўстанца, патрыёта.



Пятро Васючэнка



...самаіронія для беларусаў –
рэч даўняя, барочнае, можна сказаць,
вынаходніцтва...

# I тут падышоў Уладзя і сказаў...

## *Рэцэнзія на кнігу Уладзіміра Сіўчыкава*

***Уладзімір Сіўчыкаў. Уладзевы гісторыі. – Мінск: Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2015. – 224 с.***

У нашую найноўшую літаратуру ўвайшоў найноўшы герой – Уладзя, які час ад часу трапляе ў гісторыі, але часцей сам назірае гісторыі, якімі поўніцца гэты свет, з цікавасцю і лёгкай іроніяй, часам смуткам назірае іх, даволі часта падыходзіць да ўдзельнікаў той або іншай гісторыі і ўстаўляе сваё слоўка, але, самае галоўнае, даволі педантычна занатоўвае здарэнне і, з той самай паслядоўнасцю, выдае падгледжанае, пачутае, пабачанае, суперажытае асобнай кнігай, якая называецца “Уладзевы гісторыі”.

Даверлівы чытач можа падумаць, што гэты Уладзя ёсць не хто іншы, як сам Уладзімір Сіўчыкаў, бо ў творы фігуруюць персанажы, у якіх можна адгадаць жонку і дачок Сіўчыкава, яго блізкіх, сяброў, знаёмых.

Я пазнаю кагосьці знаёмага ў персанажы гісторыі “Мова продкаў”, якога завуць Пятро В. Было, было... Былі і




Асяніны, і традыцыйныя клёцкі з душой, якія так шануюць на Полаччыне, і працяглыя размовы пра жыццё і літаратуру, нават згадка пра чалавека-легенду Анатоля Папанава. "У гайдаеўскай кінакамедыі "Брыльянтавая рука" стварыў ён камічны эфект ад свайго героя-кантрабандыста праз мову сваіх беларускіх продкаў, а хутчэй праз так званую трасянку. Варта згадаць хоць некаторыя ягоныя рэплікі, расцяганыя на цытаты: "Сядзем усе!", "Кутузаў!", "Кліент гатоў!", "Будзе табе там і ванна, будзе і кофа, будзе і какава з чаем!" Нават цютчаўскі раманс гучыць у Папанава з шаржыраваным беларускім акцэнтам: "Я ўстрэціў Вас і ўсё былое..."

Тут рэч не столькі ў Папанаве з яго акцэнтаваным "у нескладовым", а ў тым, што размова тая хоць і мелася, але цяпер пра кінаакцёра размаўляюць не рэальныя асобы, а Пятро В. і Уладзя, бо гэта ўжо літаратура.

У. Сіўчыкаў не першы ў беларускай літаратуры ўжывае псеўданімы, крыптонімы і г. д., каб зашыфраваць шырока вядомых або вядомых толькі яму асобаў. Новае ў тым, што ён робіць гэта не для таго, каб чалавек не пакрыўдзіўся, або, крый Божа, не падаў на аўтара ў суд. Рэч, думаецца, у тым, што ён падкрэсліў адну асаблівасць алітаратуранага свету. У ім рэальнае робіцца літаратурным, а гэта значыць, інакшым, іншасветным.

Калі я тлумачу студэнтам літаратуру, дык часам ужываю даволі простыя мантры ды яшчэ паўтараю іх. Прыкладам: "Літаратура – гэта што? Літаратура – гэта тэксты. А з тэкстамі трэба рабіць што? Тэксты трэба чытаць". Практыка паказвае, што гэта карысна.

Наступную мантру павінны ведаць і студэнты, і чытачы, і літаратурныя крытыкі (бо часам забываюцца). Аўтар і літаратурны "я-герой", ці, як яшчэ кажуць, наратар, – не адно і тое ж. Яны ніколі не супадаюць. Нават калі гэта героі "Споведзяў" Жана Жака Русо або Льва Талстога. Наратары жывуць у іншасвецці і таму інакшыя. Я даволі скептычна стаўлюся да моднага на сёння жанравага вызначэння "нон-фікшн", бо ў літаратуры ўсё ёсць "фікшн".

Таму Уладзя, створаны Уладзімірам Сіўчыкавым, нагадвае мне фальклорнага Кіндзюліса, героя летувіскіх паказак, які неадменна з'яўляецца, нешта кажа і сыходзіць. А ўсе ўсміхаюцца. Толькі беларускі Кіндзюліс не чакае, што нехта нешта запіша, а запісвае сам.

Вядома ж, літаратурны герой можа пераймаць некаторыя рысы свайго стваральніка – як жа інакш? Як і У. Сіўчыкаў, літаратурны Уладзя мае дзве адукацыі – мастака і філолага. У яго назіральнае мастакоўскае вока, здольнасць да эксфразісу (калі мастацкія рэаліі перадаюцца вербальным шляхам). Яго турбуе ўсё, што звязана з мастацтвам, ад класічнага жывапісу да прыдарожнага інсітнага мастацтва (гэта значыць, размаляваныя прыдарожныя валуны), і лёс зніклых металічных цмокаў і жабак у жылым раёне Уручча, дзе ён жыў значны час.

І разам з тым ягоны слых завостраны на слове, філалагічных рэаліях. Чытачу будзе цікава даведацца, што слова "шашлык" паходзіць ад "шашы", што ў мове фарсі азначае "шэсць", і што класічны шашлык – гэта калі на шампур execнанізваюцца шэсць кавалачкаў добра прамарынаванага маркачыка ("Нацыянальная страва"). Або што слова "піжон" паходзіць з французскай і азначае "голуб" ("Піжоны").

Аўтар слушна кажа, што Уладзевы гісторыі шмат у чым нагадваюць паказкі, фацэцыі, легенды. Анекдоты на Беларусі запісваліся ў глыбокай старасвеччыне. Усім вядомая "Торба смеху" Караля Жэры. Раманаў, Сержпутоўскі паназапісвалі мноства такіх анекдотаў, ад якіх у далікатных паненак пачырванелі б вушы.

Але важна не толькі запісаць. У кнізе “Уладзевы гісторыі” анекдоты вылазяць з фальклору, запаўзаюць у сучаснае жыццё, і робіцца цікава.

Я трохі рагатаў, прыгадаўшы дзякуючы Уладзю рыжабарадаты анекдот пра тое, як Мядзведзь, Воўк і Ліса намерыліся гуляць у карты (напэўна, на грошы). Чытайма гісторыю “O sancta simplicitas!”

“У альтанцы на лецішчы рэзаліся ў карты тры дзеўкі-петнастоўкі.

Міма праходзіў Уладзя і працытаваў мядзведзеву рэпліку, канцоўку анекдота пра карцёжнікаў – мядзведзя, ваўка і лісіцу:

– А хто будзе махляваць, таго рыжай мордай аб стол!

Рудавалосая Таццяна П. ускінула на яго свае блакітныя вочы і прастадушна прашаптала:

– А ў мяне не рыжая морда!”

Анекдот сам па сабе смешны, перадусім як лінгвістычны, але Уладзя ўмела злучае яго з жыццём, і атрымліваецца анекдот у анекдоце.

Невыпадкова згадаў тут і легенду. Міфатворчасць ёсць неад’емнай часткаю сучаснага постмадэрну, калі даўніной робіцца найбліжэйшая літаратурная гісторыя. “Уладзевы гісторыі” наладаваныя міфамі такога кшталту, сярод якіх асабліва вылучаецца гісторыя пра Анатоля Сыса, які, напэўна, стварыў міфічны арэол вакол сябе не толькі сваім бясспрэчным талентам, але і заўчасным сыходам з жыцця. Дарэмна хтось імкнецца разабрацца, што ў яго біяграфіі ёсць праўдаю, а што міфам. Усё пераплялося. У такім ракурсе і прачытваю легенду пра Сыса пад назваю “Бюст”. У ёй распавядаецца, як Анатоль у Доме літаратара прыбраў з узвышкі стэлы цяжэразны бюст Леніна, аднёс яго і пяшчотна паставіў носам у кут паміж канферэнц-залаю і прыёмнай старшыні Рады Саюза пісьменнікаў, а пасля цэлая каманда з кіроўцаў ды сантэхнікаў ледзьве здолела ліквідаваць контррэвалюцыю ды паставіць бюст на месца. Сыс выглядае тут Гераклам беларускага літаратурнага жыцця. Так, моцны быў чалавек, і ў вершах таксама.

Кніга споўнена моднай на сёння татальнай іроніяй, якая здатная, паводле маіх ранейшых назіранняў, ратаваць чалавецтва ад страхаў жыцця. Як гэта вядзецца ў беларусаў, Уладзя здатны паіранізаваць і з самога сябе, пра што сведчыць гісторыя “Вот какой рассеянный!..” Яе герой блытае шапкі, акуляры, аўтамабілі, і ў гэтай бясконцай бойцы з рэчамі не баіцца падацца смешным. Самаіронія для беларусаў – рэч даўняя, барочнае, можна сказаць, вынаходніцтва, калі прыгадаць, між іншым, “Прамову Мялешкі”, аўтар якой з уяўнай прастадушнасцю разважае пра тое, якая дурніна ёсць швейцарскія гадзіннікі, і што лепшы за іх певень, “які няхібна апоўначы кукарэкуець”.

Нашай літаратурнай традыцыяй з’яўляецца імкненне спалучаць прыемнае з карысным, як гэта вучыў рабіць барочны паэт Сімяон Полацкі, і што абарочвалася часцяком маралізатраствам. Ах, не судзіце залішне нашых літаратурных суддзяў, бо што нам, беларусам, было рабіць, як не мелі сваёй філасофскай школы і філосафа накшталт украінца Скаварады (пакуль не з’явіўся Ігнат Абдзіраловіч). Мелі Францыска Скарыну ды іншых асветнікаў. Па інерцыі і сёння літаратура час ад часу займаецца асветніцтвам. Не забывайце пра тое, што Андзюліс – не толькі летувіскі фальклорны персанаж, але і знакаміты ў былым футбольны арбітр.

Вось і Уладзя часам падыходзіць і пачынае павучаць перакінчыкаў, хамелеонаў і беларусафобаў, але ён не збіраецца, як той Мядзведзь, рабіць ім мордай аб стол, і не выяўляе той зацятай ксенафобіі, уласцівай памянёнаму Мялешку, які марыў няпрошаных гасцей “па мордзе, па хрыбце і па ліцом, абы кароль, яго мосць, не ведаў”. Уладзя ўжывае практыкі пакеплівання, пацвельвання, пра што сведчаць, прыкладам, гісторыі “Мімікрыя,” “Пікіроўкі”.

Яму не абыходзіць нават змест сучаснага календара і пазначаных у ім псеўдасвятаў (“Прафесійныя святы”). Здавалася б, такая дробязь – каляндар. Але ж гэта занатаваны гадавы цыкл, які нашыя продкі шанавалі здаўна, ствараючы

земляробчы каляндар, шануючы царкоўны. І нават бунтаваліся супраць прыняцця грыгарыянскага, пра што сведчыць падрабязны запіс у “Баркалабаўскім летапісе”. Каляндар – сам па сабе сакральны тэкст. Недарэмна шляхціч Завальня меў дома толькі дзве кнігі: Біблію і Каляндар.

Нават патрапіўшы ў бальніцу, Уладзя не кідае сваёй завядзёнкі пікіравацца з суседзямі, такі ўжо ў яго палемічны склад натуры (“Палата № 13”). Уладзеў настойлівы беларусацэнтрызм падмацаваны дыхтоўнай літаратурнай традыцыяй.

Пад сучасную літаратуру створана тысячагадовая культурніцкая глеба, і “Уладзевы гісторыі” ўзгадаваліся на ёй, асабліва на старадаўняй традыцыі дыярыўшаў, хаджэнняў, фацэцыяў. Майстры новай літаратуры – М. Гарэцкі, З. Бядуля, Ядвігін Ш., Я. Брыль, А. Карпюк, В. Адамчык ды шмат хто іншы стваралі глебу мініяцюрнай прозы, на якой выгадаваліся Уладзя і яго сучаснікі. Шмат хто з нас вучыўся тэхніцы стварэння макрападзеі з мікрападзеі, занатоўвання жыццёвых і літаратурных уражанняў, у тым ліку і я, ствараючы свае “філалагемы” і “пятрогліфы”.

Глеба творыцца для таго, каб угнойваць наватворы, але перадусім – спараджаць мастацкія адкрыцці. Што новага ў параўнанні з ранейшымі літаратурнымі гісторыямі змяшчаюць “Уладзевы гісторыі”, апроч адметнай інтанацыі, аўтарскай усмешкі, унікальнасці ўласных назіранняў за жыццём?

Мне думаецца, эпічнай дамінантай твора, яе падзейным цэнтрам з’яўляюцца лысагорскія рэаліі. Лысая Гара – сапраўдная сталіца краіны, якую стварыў Уладзя. Ён будзе выцягваць свае прыгоды з Франкфурта, Стакгольма, Гётэборга ды іншых далёкіх і блізкіх гарадоў, але Лысая Гара ўсё адно будзе вабіць яго.

Прайшоў значны час пасля таго, як невядомы, а сёння вядомы аўтар склаў паэму “Сказ пра Лысую Гару”, а містычнае і рэальнае жыццё гэтай мясціны працягваецца. Для Уладзі Лысая Гара не проста дачны кааператыў, дзе размяшчаецца і ягоны маёнтак, але прастора, дзе па-ранейшаму адбываецца літаратурнае жыццё. Сённяшнія лысагорцы мала нагадваюць тых савецкіх “піцьменнікаў”, якія змагаліся за дзялянкі, будавалі дамкі і прыбіральні, шукалі ўгнаенняў, пілі гарэлку, лашчылі дзяўчат і маладзіц. Гратэскава-сатырычны свет, створаны класікам, як і побыт беларускіх савецкіх пісьменнікаў, стаў жыццёвым і літаратурным міфам – вось што творыць з рэаліямі час. Лысагорцы сёння вядуць высокаінтэлектуальныя размовы пра літаратуры і мастацтва, замест бульбы і буракоў вырошчваюць экзатычныя кветкі, гуляюць, як мы бачылі вышэй, у карты. Пісьменнікі не адвыклі яшчэ ад сялянскае касы дзеля брутальнага трымара і часам усчынаюць інтэлектуальныя бойкі вакол адкляпанай і добра навостранай “літоўкі” (“Касі, каса, пакуль раса!”). Традыцыйнай засталася чарка і скварка, толькі цяпер персанажы не проста бяруць чарку, але “чаркуюць”, як і належыць насельнікам гары, калісь заселенай чарадзеямі і вядзьмаркамі.

Але і гэты свет, як скрушна заўважае Уладзя, вельмі хутка можа стаць маргінальным і пусціць у сябе новых уладальнікаў, як гэта адбылося ў “Вішнёвым садзе” Антона Чэхава. Са скрухаю ў мініяцюры “Сумная тэндэнцыя” Уладзя пералічвае пісьменнікаў і сваякоў, што прадалі свае лецішчы на Лысай Гары”. “Скрушна, бо на пісьменніцкіх лецішчах саміх літаратараў становіцца ўсё меней”, – заўважае ён.

Не як літаратурны як чалавек, які напалову жыве ў літаратурным свеце, я маю асабістую просьбу да літаратурнага героя: хаця б ты, Уладзя, не прадавай сваю фазэнду, якая ёсць неад’емнай часткаю магічнай, суздром алітаратуранай зоны Лысай Гары.

Як літаратурны крытык канстатую з’яўленне кнігі “Уладзевы гісторыі” як значную падзею ў жанравай прасторы беларускіх дыярыўшаў, бурлескаў, фацэцыяў, іранічнай і мініяцюрнай прозы, хаця нагадваю і пра тое, што літаратура не можа надоўга замыкацца на самой сабе, і таму жадаю Уладзю і таму аўтару, які стаіць па-за ягонай спінай, не толькі праназіраных, але і прыдуманых гісторый, бо іх сучаснай беларускай літаратуры бракуе. Сюжэты павінны спараджаць сюжэты. І я таксама, як і паэт Леанід Д.-М., буду надакучліва пытацца: “Уладзя, а ты пра гэта напісаў?”

кнігапіс

Леанід Галубовіч



...у кожным вершаваным творы – удалым і не вельмі – чытач адчуе жывы пульсуючы нерв паэта...

# З поўняй адзіноты на плячах

***Рэцэнзія на кнігу Васіля Дэбіша***

***Васіль Дэбіш. Чуйнар. Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў "Кнігарня пісьменніка"; выпуск 58). – 224 с.***

*Паэзія не змест, у ёй душа*
*Біблейскага самотніка – паэта.*

Васіль ДЭБІШ

Дзіўнае адчуванне: чым менш паэзіі ў цяперашнім нашым прагматычным жыцці, тым большае да яе прыцягненне. Сітуацыя ў нечым параўнальная з праблемай беларускага бязмоўя: чым радзей чуеш родную гаворку, тым больш любіш яе і захоўваеш надалей у глыбінях сваёй душы. Таму кожнаму творцу і нават шараговаму аўтару вершаў я выказваю свой асабісты піетэт... Паэт, па вялікім рахунку, – чалавек аўтаномны, але залежны, лепш нават сказаць, адчайна чуйны да вонкавага атачэння, якое сваёй жыццядзейнасцю ўплывае на яго ўнутранае светаўспрыманне. Загнаныя ў кут людзі




паводзяць сябе па-рознаму: адны апускаюцца і просяць спагады і літасці, другія наадварот – гартуюцца (у тым ліку і гуртуюцца) ды мужнеюць да небяспечнасці. І толькі сапраўдны паэт намагаецца быць па-над усім, калі ён натхнёны і небяскрылы. Па-над усім – гэта не значыць, абыякавы ці напышлівы, а найперш гэта тое, што ён бачыць сусветную драму жыцця з вышыні палёту свайго творчага натхнення, сузірае не толькі камернае і лакальнае, а – сутнаснае і агульнавызначальнае.

Дрэмле ноч на маім плячы.
Мілавіца цалуе вейкі.
Не зламаць мяне, не змагчы.
Я чуйнар, музы сын.
Навекі.
Мяне цяжка любіць зямным,
Бо, як свет гэты, я – падманны.
Як аблокі, туман ці дым
Шчэ хвіліна – зусім растану.
Я ўсяго толькі голас дрэў,
Толькі думка, што прагне плоці.
Вобраз. Дух. Толькі ціхі спеў
Ветру, спыненага ў палёце.

Гэта верш “Чуйнар” Васіля Дэбіша, прысвечаны памяці вядомай беларускай паэтэсы Ніны Мацяш. Што да яго назова, то ён узяты з творчага набытку паэткі. У Ніны Язэпаўны гэты слоўны наватвор стаўся калісьці назовам аднаго з вершаў (яна ў гэтым накірунку працавала ў апошнія гады вельмі плённа, талент дазваляў ёй адчуваць тонкую грань семантыкі беларускай мовы ў сінтэзе з яе ўласнай словатворчасцю).

Два браты-блізнюкі з Берасцейшчыны Васіль і Анатоль Дэбішы – паэты адной крыві. Перарэзаная мацярынская пупавіна, што адпусціла іх у свет, засталася цэльнай і непарушнай паміж імі самімі. Гэта адчуваецца ў іх творчасці, кніжках і паасобных вершах, хоць жыццё ў іх склалася даволі розна. Бо найперш не фізічная, а духоўная іх повязь засталася неперарванай. Мажліва, гэта ёсць своеасаблівым феноменам не толькі ў айчыннай, але і ў сусветнай паэзіі. Нашым дапытлівым літаратуразнаўцам і навукоўцам ад медыцыны трэба было б звярнуць увагу на гэтую з’яву. Ад пачатку творчага шляху (пасля сканчэння інстытута культуры) браты выдавалі свае вершаваныя зборнікі амаль сінхронна. У іх вершах шмат роднасных адсылаў і перапляценняў. Аднак гэта ўсё ж асобная тэма. Я ж пастараюся патлумачыць сваё вычуванне і стаўленне менавіта да кніжкі Васіля Дэбіша “Чуйнар”.

Уся кніжка (а гэта не зборнік, а менавіта ёмісты, як для сучаснай паэзіі, томік) пранізана і змацавана, нібыта зруб падмуркам, грамадзянска-патрыятычнай тэматыкай. Пераважная большасць вершаў напісана ў трыдцыйна-класічным ключы, і ў іх паўстаюць вобразы малой радзімы, бацькоў, вяскоўцаў і ўсяго таго, што з гэтым звязана. Апраўданне такой творчай скіраванасці зразумелае:

Бо навек пасяліліся ў сэрцы
Дзве святыні – Радзіма і Бог.

Асабліва ярка выяўлены вобраз маці: і той, для якой ты быў вечным дзіцём, і той, дзеля памяці якой ты з’яўляешся спрадвечным ахоўнікам і абаронцам. Ёсць нагэтулькі шчымлівыя радкі, якія сваёй мастацкай пранізлівасцю не даюць табе, як наўзбочнаму чытачу, магчымасці ўнікнуць аўтарскай роспачы, адчаю і спагады. Як у вершы “Пахаванне”:

Без мамы так сцюдзёна ў гэтым свеце,
Як быццам у магіле сам ляжыш.

Альбо калі яе вобраз паўстае з цёплых успамінаў маленства:

Ні мітульгі дзе, ні турбот,
Дзе мама, гожая такая,
Стаіць пачціва ля варот,
З рук сонца ў неба выпускае.

Аднак *"перакуліць час назад"* немагчыма, аўтар гэта разумее і таму, каб зберагчы і захаваць вобраз маці, ён выбудоўвае ёй храм у сваім сэрцы – у сваіх адмысловых вершах. Сёння, чытаючы паэзію маладых, дзівішся, як мала і рэдка ў іх творах з'яўляюцца простыя і мілыя вобразы іх бацькоў і бацькаўшчыны (ці тое яшчэ не прыйшла пара ўсведамлення гэтых каштоўнасцей, ці тое наступіла пара фармальнага прагматызму і ў гэтых кроўных і адухоўленых варунках чалавечага жыцця). Для Васіля Дэбіша тут выбару няма:

Радзімы абраз, нібы мамы,
Мілую я ў сэрцы сваім.

А сама рэчаіснасці, на жаль, такая:

Пафарбаваў лаўку,
вырваў зелле,
пасеяў траву,
пагаварыў з маці...
Нібыта дома
пабываў.

І хоць іншым разам у паэта прарываецца нястрымны адчай – *"адлюстравання марнасці людской"* і *"жменькі пылу, як напаміну, што мы былі"* – аднак спішам тое на кароткія хвіліны душэўнага збою і чалавечай слабасці. Бо ў аснове кніжкі выразна абазначаная тэма хрысціянкай веры (каталіцтва ў прыватнасці), Бога, Ісуса Хрыста ды іх супраціўніка Д'ябла. Вось як выпісаны "Крыж" лёсу паэта:

Два дзясяткі стагоддзяў... А людскі белы свет
Не змяніўся. І сёння шальмуецца Божае слова.
Не спадоблены ўладай, не прызнаны народам паэт
Крыж на спіне нясе, крыж пакутаў нятленны Хрыстовы.
Аслабелы, худы, адзінокі. Ідзе ён ледзь-ледзь.
Сонца плечы без жалю пячэ, вусны высушыў вецер.
Ён нясе праўды крыж і спрабуе душой зразумець
Тое, што зразумець могуць толькі маленькія дзеці.

Асаблівая шчырасць і прастата высновы апошняга радка верша схіляе чытача да непахіснай веры ў паэтычнае слова. Бо тое, "што зразумець могуць толькі маленькія дзеці", сёння, на вялікі жаль, вельмі рэдка разумеюць сталыя людзі. Мабыць адсюль, з гэтай антытэзы зачалася і вырасла невялікая драматычная паэма Васіля Дэбіша "Вяртанне" з дзвюма дзейнымі асобамі – Паэтам і Д'яблам – да ўсяго ж гэта пэўным чынам перагук ці палемічная спроба ўласнага пераасэнсавання братавай (Анатоля Дэбіша) містэрыі "Уваскрэсенне Іуды", эпіграф з якой і стаіць на зачыне вершаванага твора. Вось выбраныя мной пасажы з маналогаў галоўных герояў:

*Д'ябал:*
Што твой народ, калі асоб няма?

Мільён нулёў адзінкаю не будзе.
Нікчэмныя кузуркі, цёмны край...
*Паэт:*
Не радуе душу краса чужая,
Прайшоў і Крым, і Рым, і знаю я:
Няма мілей Радзімы, хай малая,
Хай бедная яна, але свая.

Паэт, разглядаючы працэсы глабалізацыі і тэхналогіі ў развіцці сучаснага свету, філасофскі раздумваецца над простымі біблейскімі пасыламі: барацьбой святога з грахоўным, дабра са злом, духоўнага і матэрыяльнага, вечнай душы і смяротнай плоці, у рэшце рэшт пакідаючы кожны бок пры сваім...

І хоць мройная метафарычная вера і пэўны аптымізм да зямной сутнасці чалавечага жыцця і трактуюцца паэтам на карысць *справядлівасці*, аднак, неўзабаве сам час зноў дае яму падставы для расчаравання:

Страшна ў гэтым краі быць прарокам:
За правіну б'юць і без віны.
Лёс прарока – у халодным змроку
Біцца аб сцяну глухой маны.

Агулам, тэмай *творчага служэння і апостальства* гэтая вершаваная кніга пранізана даволі заўважна. Адчуваецца, што развагі пра месца паэзіі ў чалавечым жыцці і пра ўласнае месца ў паэзіі не пустыя і выпадковыя, яны не рытарычныя і не эгацэнтрычныя, а глыбінныя, з тых, што вызначаюць лінію паводзін канкрэтнага творцы ў сучасным мастацтве.

Мы ведаем, што беларускі па духу чалавек ад маленства пачынае адчуваць сваю нацыянальную ўшчэмленасць, таму ўжо ў сталасці – дэмакрат ён ці кансерватар – яго натура настройваецца на змагарства, калі не яўнае, то ўнутранае, з тым ладам жыцця і з той уладай, якія спрычыняюцца да яго, найперш, моўнага заняволення, ад якога бяруць наступствы і іншых праяў уціску яго беларускага свабодавыяўлення. В. Дэбіш – адзін з духоўных бунтаўшчыкоў і ахвяра гэтага супраціву. Нярэдка такія яго вершы маюць даволі празрыстае і заўважнае рытарычнае адценне:

Лепш галадаць, але на волі.
Без волі і палац – турма.

Народ! Яго ўсё менш – народа.
Не разумею: дзе ён, дзе?

Мне пагражаў ён кулаком: "Пустыя,
Нікчэмныя... Дзе ваша Беларусь?
Ад Брэста да Масквы – Вялікая Расія,
Ад Кіева і да Сібіры – Русь".
Нахабства не сцярпеў і даў з размаху ў грудзі.
У цемені двароў прапаў ягоны след...
А Беларусь была, і сёння ёсць, і будзе,
Пакуль такі, як я, шчэ ёсць паэт.

Магчыма, заява, што сыходзіць з двух апошніх радкоў, падалася б іранічнай, "*когда бы,* – як пісаў Міхаіл Юр'евіч, – *не было так грустно*"... Таму пасыл верша мне зразумелы. Як грамадзяніну і патрыёту. Але не больш за тое...

Аднак, чытаючы радкі паэта пра суперажыванне і спагаду да ўпалых духам, –

Чаму ён так надрыўна плача?
Рыдае ён, а мне – баліць, –

падобная іронія сутаргава сыходзіць з твайго твару. Бо жыццё шматграннае, а жыццё творчага чалавека ўвогуле часта вісне над безданню быцця, нібы чалавек-павук без страхоўкі на шкляной паверхні хмарачоса... І тады пішуцца такія радкі:

Пятля самотнасці... Паэт
Шчэ не адзін у ёй сканае,

хоць іх кроўная роднасць з вядомымі радкамі А. Сыса (*"Перад табою поле бою – тут не адзін паэт сканаў"*) відавочная і аўтарам не прыхаваная. Дарэчы можна зазначыць, што наследаванне вартым паэтычным узорам іншых аўтараў у В. Дэбіша сустракаюцца яшчэ некалькі разоў. Скажам, у вершы *"***Сам жорстка пакараў сябе..."*, дзе рэфрэн кожнай чацвёртай страфы (*"А ты ні ў чым не вінавата"*) вельмі нагадвае радкі нашага рускамоўнага паэта П. Кошаля з амаль тым жа рэфрэнам у кожнай страфе (*"Любимая ни в чем не виновата"*). Альбо верш "Цягнік" – як цьмяна-лаканічнае адлюстраванне ідэйнага зместу вядомага элегічнага верша М. Рубцова "Поезд". Заўважныя і блізкія перагукі з творчых набыткаў любімых аўтарам паэтаў (У. Караткевіча, М. Купрэева, В. Гадулькі...). Усё гэта пацвярджае прыхільнасць В. Дэбіша да сапраўдных класічных набыткаў нашай і замежнай паэзіі. А гэта вартасная адзнака творчасці сапраўднага паэта.

Дастаткова ў кнізе і вершаў лірычнага складу, як кажуць, паэзіі чыстай красы: жывапісных карцін прыроды Беларусі, душэўных захапленняў звычайнымі і незвычайнымі зямнымі з'явамі, відавочнымі і патаемнымі загадкамі жыцця... Уражвае нечаканая метафара ў вершы "Засуш":

Ад самай раніцы спякота.
Ні аваднёў няма, ні мух.
Луг парыжэў і пахне потам,
Бы скінуты з плячэй кажух.

Арыгінальнае, трапнае, жывое, самабытнае, амаль натуральнае параўнанне... Рэдкі выпадак, калі праз мастацкае слова вобраз не толькі ўяўляецца, але і ўспрымаецца ўсімі пяццю (а па Гумілёву – шасцю) органамі чалавечых пачуццяў.

Цудоўныя вершы: *"Ранішні краявід", "***Люблю я адзіноту тую...", "***Нудна цікае гадзіннік...", "***Не да царквы іду, панове!"...*

Асаблівае месца ў кніжцы займаюць вершы пра каханне (і здраду – адпаведна). Да прыкладу, вось гэтымі радкамі (*"Немагчымае"*) аўтар не тое што дзеліцца з чытачом празмернасцю непамыснага пожаду, а як бы падштурхоўвае і яго да спробы падобнага ўчынку:

Нарваць на нябёсах
прыгаршчы зорак.

Засяроджваюць на сабе ўвагу лірычным цнатліва-трапяткім дыханнем выдатны верш *"Пустата"* і класічна-стрыманы трыпціх *"Суседка"*. Як моцна і гарманічна выяўлены ў іх тонкія пачуцці ў сваёй далікатнасці і спакуслівай зняможанасці... Заключная частка яшчэ аднаго безназоўнага трыпціха, прысвечанага Любе, паказвае, як адмыслова валодае аўтар магчымасцямі свайго майстэрства, як выверанымі мазкамі слоў вымалёўвае ён арыгінальную элегічную карціну:

Ты будзеш сніцца мне заўжды:
Завейным лютым, звонкім маем.
Твае забытыя сляды
Дачка напомніць маладая.
Дні праляцяць, мінуць гады.
І зразумею: дагараю.
Ты будзеш сніцца і тады,
Як будзе міг адзін да краю.
І нат калі надыдзе край,
З цялеснага памкнецца бруду

Душа ці ў пекла, а ці ў рай...
І там цябе я помніць буду.

Без асаблівага націску адцемлю, што паэт залішне часта выкарыстоўвае мясцовыя словы-скароты, як і ў працытаваным вершы: *нат, шчэ* і некаторыя іншыя. Часам празмерная адкрытасць і шчырасць у пачуццях, подумках і псіхалагічных надломах уласнага жыцця абарочваюцца вульгарным пустаслоўем і непатрэбшчынай (*"Ты ўся трымціш. Пачырванела,// Бы ў агародзе мак"; "Успыхнеш вось-вось. Зняў твой станік.// Ты грудзі рукой засланіла"; "Я ляжу на пляжы Мухаўца. Побач у бікіні// Шакаладныя дзяўчаткі пасміхаюцца міла.// Прыкрываю рукою трусы, каб не закараціла"*).

Сустракаюцца ў кніжцы В. Дэбіша і наіўныя, быццйна-празічныя вершы (хоць не будзем забываць, што ў паэзіі здараюцца высокія палёты і падчас "неслыханной" аўтарскай прастаты і наіву).

Сярод заключнага цыкла кніжкі, названага *"Жвірынкі"* (міні-вершы), нямала намытых залацінак, такіх, да прыкладу:

Нябачна ўвайшлі
ў мой двор
прыцемкі.

І – як працяг – наступнае:

Старасць прыйшла.
Клічу неба –
адгукаецца
крумкач.

Змрачнавата, тужліва?.. Дык жа і ўзрост такі, і натура адпаведная, і час гнятлівы. Аднак, азірнуўшыся, і ў такім стане схамянешся і па-дабраму пасміхнешся, адгарнуўшы чарговую старонку з такімі радкамі:

У буслянцы
пасялілася
надзея.

Словам, Васіль Дэбіш – паэт таленавіты і сур'ёзны. Не думаю, што мае дробныя дылетанцкія заўвагі сапсуюць уражанне ад гэтай тужліва-трывожнай і глыбока лірычнай кніжкі паэзіі, у лепшых вершах якой выяўлены непадробныя чалавечыя пачуцці, глыбокія думкі і цікавыя філасофскія развагі аўтара над сутнасцю нашага зямнога жыцця. Заўважны і адчувальны драматызм асабістага лёсу аўтара, адслонены вобразным паэтычным мастацтвам, адметнай метафорыкай, стылёвым і фармалістычным пошукам. Ясна і выразна вызначана асоба паэта і яго творчая пазіцыя. У кожным вершаваным творы – удалым і не вельмі – чытач адчуе жывы пульсуючы нерв паэта і яго натхнёнасць і ўзнёсласць.

Пра што пісаў – пустым здалося раптам.
Нікчэмным... Беглі дзеці ля ракі.
Сабака спаў, у одуме на лапу
Паклаўшы пысу, як барон які.
Звінеў у небе жаваранак божы,
І радасна трымцелі матылькі...
Ішоў за плугам я. За мной прыгожа
Раўнюткія ўзыходзілі радкі.

Так самакрытычна можа напісаць толькі сапраўдны паэт, пераважная большасць вершаў якога выклікаюць неспакой і суперажыванне, вымагаючы зваротнай чытацкай рэакцыі.

Думаецца, што гэтая кніжка не застанецца па-за ўвагай прыхільнікаў краснага пісьменства.

Наста Грышчук



...настрой кнігі

застанецца з вамі надоўга...

# Пенелопа сядае ў цягнік

## *Рэцэнзія на кнігу Наталлі Русецкай*

***Наталля Русецкая. Каштаны ў кішэнях. Мінск: Кніга-збор, 2015. — (Бібліятэчка часопіса "Дзеяслоў"; выпуск 15). – 144 с.***

Няма сэнсу размяжоўваць лірычную гераіню і аўтарку: зборнік вершаў "Каштаны ў кішянх" Наталлі Русецкай відавочна аўтабіяграфічны. Дый зборнікам гэтую кнігу назваць цяжка.

Так, фармальна яна сапраўды ўключае вершы розных часоў, "напісаныя ў прасторы паміж Менскам і Люблінам". Але па сутнасці ўсе тэксты – сотня з нечым шчымлівых пасланняў каханаму (збольшага) – адзіны, суцэльны тэкст, які пры аўтарскім жаданні можна б было назваць паэмай – расстання, да прыкладу. Ці сустрэчы, у чаканні якой гераіня нязменна знаходзіцца. Гэтае чаканне – пачуццё адчайнае, якое знясільвае і ў той жа час напаўняе жыццём – не знікае нават падчас доўгачаканай сустрэчы. Справа ў тым, што гераіня дакладна ведае: хутка зноў развітвацца.

я еду
ад цябе
і – да цябе




І калі напачатку мы яшчэ маем спадзеў на шчаслівы зыход, то апошняя старонка надзеі на лепшае не пакідае:

не быў ты ні першым
ні рэшнім
але зноў зацвітуць чарэшні
верыш мне?..

Дарэчы, пра чарэшні. Часам кшталтаванне арыгінальнай рыфмы прыводзіць спадарыню Наталлю да празмернай канкрэтызацыі вобраза, чытай – да памежжа з камічным, калі зіма ўводзіць у зман, а "ў душы прарастае цюльпан". Часам не даецца аўтарцы і пошук яркага вобразу. Зрэшты, вінаваты ў гэтых невялікіх хібах не толькі фармальны пошук, але і адмысловы настрой кнігі, адмысловы рытм, які літаральна загойдвае свядомасць чытача – і самога аўтара. Так і атрымліваецца цыгарэта, якая "дрыжыць і згарае бенгальскім агнём".

Пры тым, што "Каштаны ў кішэнях" – кніга надзвычай асабістая, кніга-летапіс пачуцця (мяркуючы па ўсім – не ўяўнага, а сапраўднага і "незагойнага"), вобразы яе знаёмыя нам, што называецца, да болю. І справа не толькі ў тым, што кожны чытач і чытачка хоць раз ды пачуваліся амуравай мішэнню.

Калі звярнуцца да вобраза гераіні, ён распадаецца адразу на два архетыпы: жанчына-чаканне, увасобленая на досвітку цывілізацыі ў Пенелопе, і жанчына-пошук, жанчына-паляўнічы, жанчына-хаос. Тут можна было б згадаць Ліліт, але па шчырасці – нашая гераіня да Ліліт не дастане. Мы згадаем іншую жанчыну, якая містычным чынам паўтарае прозвішча аўтаркі. Саламея Пільштынова-Русецкая гэтак жа шукала шчасця ў бясконцых падарожжах – і гэтак жа расчароўвалася. Перадусім – па ўласнай віне: Саламеі/Наталлі патрэбнае не самое жаночае шчасце – толькі яго пошук.

Так вобраз ціхай Пенелопы набывае нечаканыя рысы, і між пасіўным сядзеннем за ткацтвам і "актыўным пошукам" гераіня абірае другое. Стукат ткацкага станка саступае грукату колаў цягніка.

займайце месцы
згодна з набытым білетам

Не толькі скразная тэма "чаканне-пошук" дае падставы аб'яднаць разрозненыя вершы ва ўмоўную паэму. Зборнік мае ўнутраную драматургію – і гэта не перабольшанне. Пачуцці герояў (*Ён* актыўнага ўдзелу ў лірычнай драме не прымае, але прысутнічае нязменна) развіваюцца адпаведна змене паравін года. Восень, што пакідае каштаны ў кішэні (як сімвал успамінаў і разам з тым – спадзеву на новае жыццё, абнаўленне, рост), змяняецца зімой.

Зіма быццам бы прыносіць спакой, дае час на роздум, адстароненасць – і нават дазваляе забыцца на любоўныя мітрэнгі. У пэўны момант на першы план выступае рэлігійная тэма, а лепей сказаць – вера ў чысціню. Лагічна, што спалучаецца гэтая вера з дзіцячымі ўспамінамі. І застаецца

толькі
белы-белы
цень
анёла
на пустой
сцяне

Увогуле раздзел “Калядныя выцінанкі” выглядае як часовая перадышка, прыпынак у закальцаваным шляху, з якога выйсця няма. Зімовыя святы тут непарыўна звязаныя з Сям’ёй, Домам, Чысцінёй – тым, што і дае сілы бегчы далей. Між тым, як бы ні наракала гераіня на тое, што патрапіла ў зачараванае кола, вырвацца з яго назусім яна наўрад ці хоча ўсур’ёз.

Зімовыя “рысы” – холад, лёд, нібыта-смерць – перадаюцца і пачуццю, якое, па вялікім рахунку, з’яўляецца асобным героем. Але прыходзіць вясна, *“паўднёвы вецер адліжны вусны ... ліжа”* – і ўсё, бывай спакой. Ваяўнічы дух – наўзамен святой пакоры, замест малітвы – любоўныя заклікі.

Адметна, што лета на мове пачуцця не ператвараецца ў жарсць і гарачыню – гэта час нараджэння, пладнасці і святла. Рамантычная неўпарадкаванасць саступае “фіранкам, кухні і дзецям”. Здавалася б, гераіня супакоілася, каштаны пусцілі карані, хэпі-энд.

Але ёсць адно але.

Той самы *Ён* усё яшчэ гойсае “на сямі вятрах”, бачыць “прылівы і розныя фазы месяца”. А гэта значыць, гераіня хутка выправіцца ў шлях. Тым больш што самое паняцце “год” канца не мае: за летам “пакуе восень манаткі пашкуматаныя”, і зноў паўтараецца “ні разысціся, ні разам трываць”. “Каштаны ў кішэнях” – кніга бясконцая, кніга-кола, у якім жывуць несмяротныя героі, якія рэінкарнуюцца не тое што з пакалення ў пакаленне, але са свету ў свет.

і ніколі
наперад не знала
дзе замкнецца
кола дарог
ці яшчэ:
кірунак з зімы ў лета,
а потым зноў на зіму,
зноў у білетную касу
займаць чаргу

Гэтая “чыгуначная вобразнасць” – рэйкі як жыццёвы шлях, рух цягніка як самое жыццё, грукат колаў як грукат сэрца, межы як, выбачайце за таўталогію, памежныя станы душы гераіні – не проста надаюць кнізе рамантычнае гучанне і прываблівацюць пэўнае кола чытачоў. Такі выбар аўтаркі ледзьве не адразу раскрывае псіхалагічны партрэт гераіні (і яе самой): адчайнай, няўрымслівай, уражлівай, за горкімі, часам іранічнымі словамі якой хаваецца летуценнасць (што па сённяшнім часе жах як небяспечна: усе спрэс графаманы – летуценнікі з цыгарэтай між бледных пальцаў). У партрэце гэтым няцяжка ўгледзець дзіцячыя рысы. І сапраўды, без каханага гераіня пачуваецца разгубленай. Як дзіця, пакінутае Татам. Ці не таму ідылічныя малюнкі, у цэнтры якіх – ранішні стол, дзеці і бытавыя клопаты, – не ўспрымаюцца як рэальнасць ці хоць бы запаветнае жаданне аўтаркі?.. Ці не фантазія гэта, якая дае магчымасць адпачыць ад вечнага палявання? Да слова, менавіта гэты вобраз ужывае спадарыня Наталля.

Між тым, знітаванасць з прыродай выяўляецца ў кнізе не толькі ў паралелі “паравіны года/пачуццё”. Сама гераіня – частка прыроды. Гэтак жа і паасобныя з’явы прыроды атрымліваюць ад Н. Русецкай жаночыя “аксэсуары”.

мы выпадалі снегам
спадалі зорамі
ветрам зрываліся

І ў той жа час “хусты ахрыстыя восень сушыць у парку”, “з пуховай хусткай на плячах” выходзіць зіма, а раніца – “басаногая”, “з кудлатай ад сну галавой”.

Непарыўна звязаная з прыродай і сама паэзія, якая выстрэльвае парасткам; пачуццё прарастае травою.

Калі глядзець на фармальны бок “паэмы”, першае, што кідаецца ў вочы – штучны злом радка, які стварае эфект перастуку колаў і ў той жа час акцэнтуе чытацкую ўвагу літаральна на кожным слове, тым самым дазваляе гуляцца з сэнсамі, пераносячы націск з кожны новым прачытаннем на іншы радок (пунктуацыя ў зборніку амаль цалкам адсутнічае). Разам з тым раздроблены радок не дае вершу рассыпацца: ратуе алітэрацыя, прычым майстэрская – бо нязмушаная. Паасобныя вершы вы можаце не запомніць – але настрой кнігі застанецца з вамі надоўга.

Нягледзячы на падкрэсленую жаноцкасць вершаў і такую лірычную назву, “Каштаны ў кішэнях” спакою не прынясуць. Памежжа, на якім бесперастанна знаходзіцца гераіня, урэшце растрывожыць і чытача – пры ўмове, што ён будзе дастаткова ўважлівы і чуйны.



Яўген Рагін



...на пытанне: «Хто ты па нацыянальнасці?» –
заўжды адказваю:
«Беларус старой веры»...

# Мой жывот

*І павялі мяне расстрэльваць...*

Калі я быў малым... Дарэчы, даўно прыдумаў пачатак для сваіх мемуараў, якія, напэўна, так і не будуць напісаныя: «Калі я быў малым, усе мае равеснікі марылі стаць пажарнікамі і касманаўтамі. А я хацеў стаць габрэем. Не атрымалася». Ну гэта так, да слова... Калі я быў малым, узімку мяне будзіў грукат дроў, абярэмак якіх прыносіў з дрывотні бацька. Потым распальвалася застылая за ноч грубка. І было надзвычай утульна. У маёй першай школе таксама паліліся грубкі. Не зважаючы на тое, што ідзе ўрок, дровы ў клас прыносіў кульгавы дзед-вартаўнік. І калі гэта не быў урок матэматыкі, мяне таксама апаноўвала ўтульнасць. А за вакном на заснежаных галінах спелі яблыкі пульхных снегіроў. Неяк, на дзень савецкай канстытуцыі школа згарэла. Усе загаварылі пра тэракт. Мроіўся кульгавы дзед: вораг ленінскай піянерыі. Утульна не было. Але прыязнасць да прыручанага хатняга агню засталася назаўжды. Як яго не стае ў гарадской кватэры! Мангалы надакучылі. Там жыве нейкі іншы, дзікі свавольны «антыканстытуцыйны» агонь... Аднойчы золкай позняй восенню ў нейкім вясковым выміраючым клубіку

я ўбачыў лядашчую пракураную грубачку, якую толькі што распалілі. Праседзеў ля яе з паўгадзіны. А нясмелае цяпло лашчылася, як малое кацяня. І зноў было ўтульна, як тады, у дзяцінстве. Ці не згарэў той клубік пасля?

Трансфармацыя ўспамінаў пра мінулую вайну. Знаёмая знаёмай падчас акупацыі была падлеткам. І так здарылася, што разам з іншымі вяскоўцамі яе ледзь не расстралялі фашысты. Ужо і да сценкі паставілі, а потым адклалі. Відаць, напалохаць хацелі, і вяскоўцаў, і партызан. А пасля вайны дзеці кабеты: раскажы ды раскажы, як яно было. І расказвала. Спачатку без ахвоты і са слязьмі. А потым, праз гады, прызвычаілася, нават са смехам-жартам пачынала: «І павялі мяне, дзеўкі, расстрэльваць!» Цяпер гэтая іранічная фраза ў той сям'і – крылатая.

Ці яшчэ выпадак, таксама з жыцця. Кабету ў дзеўках фашысты тройчы ў Германію гналі, і тройчы яна ўцякала. Цяпер тым, хто не ўцякаў, немцы выплочваюць немалыя кампенсацыі. І тая кабета сёння дакарае сабе са смехам: «Што ж я, дурніца, выкабеньвалася?! Зараз машыны родным дзецям купіла б».

Але на такую самаіронію, па маім перакананні, права маюць толькі тыя, хто праз ваеннае пекла прайшоў... Нібыта нядаўна Германія афіцыйна папрасіла прабачэння ў Беларусі за тое, што адбылося ў Вялікую Айчынную. Даравалі, па-мойму, яшчэ ранавата... «І павялі мяне, дзеўкі, расстрэльваць...»

«Клопат, – казала цётка Лена, – клопат. Усё яшчэ наладзіцца». Я тады ўжо ведаў, што азначае слова «клопат». Але больш не чуў, каб яго ўжывалі так (для супакаення), як мая родная цётачка. Паспытваў у маладых калегаў. Яны ўвогуле не ў курсе. Параіўся з Дзімам Падбярэзскім. Той такое ўжыванне сустракаў, але таксама не ведае, адкуль ногі растуць. Я тады за слоўнікі. І там – ніякай этымалогіі. Клопат – ён і ёсць клопат. Але ж жыць нам – не па слоўніках. Як родзічы са сваякамі кажуць, так і мне наканавана. Так што клопат, спадарове, наш галоўны слоўнік – дзядуля ды бабуля, мама ды тата, родныя цётка з дзядзькам. Усё астатняе – ад Бога і для Бога.

Што ты зрабіў дзеля таго, каб цябе расстраляў вораг, які захопіць твой горад? Шкада, што не я прыдумаў гэтае пытанне. Зараз ламаю галаву над адказам.

Я не пабудаваў дом. І не захаваў дом, які пабудаваў мой бацька. І няма ўжо той жанчыны, якая без стомы чакае і ў вачах якой заўжды жыве цяпло, прызначанае толькі для мяне... Домам для мяне стала Беларусь. Няма ў гэтым нічога пафаснага. У мяне проста не было іншага выйсця. Так для бадзяжнага сабакі ў прытулак пераўтвараюцца лес, возера і хутарскія пунькі наўкола, дзе час ад часу можна сагрэцца толькі для таго, каб зноў кудысьці бегчы... Снедаю ў Белавежы, апоўдні мыю ногі ў Свіслачы, запальваю цыгарэту на захадзе сонца ля Жыліцкага палаца... У школе я не любіў геаграфію. А гэта, аказваецца, вельмі прыкладная навука. І ўсе беспрытульнікі ведаюць яе на «выдатна». Калі сатрэш ногі аб Беларусь, яе геаграфія пачынае любіць цябе. І ў баранавіцкай прывакзальнай кавярні, дзе заўжды вусцішна і мітуслівa, збузаваная сталая буфетчыца на хвілю паспрабуе ўсміхнуцца: «Штосьці, Мікалаевіч, ты даўно ў нас не быў?»

Дзе мой сябар? Той, які са школы і назаўжды? Той, які хадок, п'яніца і цесля? За вакном ужо лістапад! Час апранаць дажджавікі і весела пырскаць лужынамі позневосеньскіх бясконцых дарог. Час забыцца на сівізну, хворае сэрца і смела ўсміхацца маладым даўгалыгім дзяўчатам. І бачыць у іхніх вачах вабнае чаканне... Дзе ты? Вяртайся са свайго вельмі паўночнага канца свету! Мы пойдзем па тых дамах, ваконнае святло якіх упарта прабіваецца праз залевы, і будзем усім

распавядаць, што Хрыстос таксама быў цесляром, не меў сталага прытулку і стараўся казаць праўду кожнаму.

Штосьці ў нас з беларускай кінавытворчасцю не тое. Як ні напінаемся, а нічога цікавага на выхадзе. Мо не ведаем, што такое нацыянальнае кіно? Я аднойчы запытаўся ў Ступкі: «“Тарас Бульба” – нацыянальны фільм?» «Ды які нацыянальны, калі не мы здымалі», – адказаў Багдан Сільвестравіч. Іншага ад яго і не чакаў. Значыць, «сакрэт» нацыянальнага кіно ўкладаецца ў элементарную формулу: мы пра нас і шчыра. І не абавязкова галоўнымі героямі такога твору павінны стаць Купала з Драздовічам. Можна і пра Кнорына з Суворавым такія серыялы зняць, што ўсе кінуцца родную мову вывучаць.

Ды што ты ведаеш пра закуліссе высокага мастацтва? Слухай сюды! Я для сябе пытанне зняў. Дастаткова было праехацца з аркестрам. На аўтобусе, суткі, праз мяжу, ад сталіцы да сталіцы. Калі дырыжор – паралельна: па чыгунцы і з купэйным квітком. А без дырыжора – зусім іншы метабалізм духавых і шчыпковых, заціснутых у старэнькі ікарусны салон. Таму выпіваць пачалі не разам, а купкамі. Вы б бачылі, як віртуозна гэта рабіла прыма-скрыпка! Калі спераду скончылі і заснулі, ззаду толькі распачалі і кулялі, пакуль не прачнуліся першыя. Натуральна, вельмі востра паўстала пытанне пра папісаць з нацiскам на другі склад. А паколькі пілі не разам... Цягам сарака кіламетраў кіроўца, пастаянна спыняючыся, пазеляне́ў тварам. На перакурах ён любіў толькі мяне, бо я не музыкант і не ўжываў... Але як яны гралі на наступны дзень! Пад прыглядам дырыжора: фракі, гальштукі, белы верх, чорны ніз. Праўда, габой потым прызнаўся: што ён на сцэне і грае, усвядоміў толькі пад канец выступлення. Рукі самі ведаюць, што ім рабіць. Быў бы дырыжор. Публіка ляскала ў далоні стоячы... А ты мне кажаш, што ведаеш пра мастацтва, якое – не для ўсіх. Усё, кода. Вучы ноты, нябога.

Як салодка піць несалодкую каву з чужымі жанчынамі. Дакладней – з нічыімі. Спадарове, такіх, аказваецца, шмат, і мне іх па-шчыраму шкада... А горкая кава кружляе галаву. Не згубіць бы яе ўвогуле.. Піць каву і глядзець у вочы, на донцах якіх – бясконцае неба, то дажджлівае, то пераднавальнічнае, то, як сёння, сонечнае. У бяды вочы – зялёныя, у мары – колеру неба. Толькі ў ім мае крылы мяне трымаюць.

Неяк не па сабе сёння. З’ездзіць хіба ў сваты да каралевы Люксембурга? Наваксаваць боты, кінуць на калёсы свежага сянца (ды каб абавязкова з падвяленымі валошкамі!), паставіць у нагах вядзерца самагону з Дзівіна, пасадзіць побач дзядзьку з Лёзна, цвярозага да непрыстойнасці і з гармонікам, ды па грэблі, па грэблі... І песняка ўрэзаць: «Ой ляцелі гусі з броду...» І пачуць урэшце: «Дзе ж ты блытаўся, любы?!»

Залез у Вікіпедыю. Люксембургам кіруе герцаг. А каралеў больш спрытныя парасхоплівалі. Сядзі дома, ёлупень. Сяджу, гляджу ў начное вакно. Нейкая бабуля шукае ля суседняга пад’езда пустыя бутэлькі. Ведаю, што дзесьці праз гадзіну яе заменіць укленчаны дзяцька з кійком. Калекцыянеры шкляногa шчасця. Каралі і каралевы менскіх сметніц. Ведаў бы герцаг, прыслаў бы ім, гаротным, скарыстаную пляшэнцыю з-пад Inglenook Cabernet Sauvignon Napa Valley ўраджаю 1941 года... Не, сапраўды, неяк не па сабе.

*З журналісцкага дзённіка.* 17 верасня 2009 года. Бабулькі даўно чакалі. А начальнік мяне ўсё па нейкіх палетках вазіў. Але паспелі. Спелі кабеткі пра маладога казачэньку, пра няшчаснае каханне. Потым старэйшая пявуння ў хаце мяне аднога пакінула, каб пра жыццё распавесці. Спачатку выпілі чагосьці моцнага, ячняй з печы закусілі. Бабуля потым і расказала...

...Яна ўжо да дзеўкі дарасла, а пра хлопцаў і не думала, бо сукенкі не было. Так бы на печы ў споднім і правекавала б. А тут вярбоўшчык прапанаваў на лесапавал у Расію ехаць. Паехала, каб хоць нейкую капейчыну на пасаг зарабіць. Ці не з бульбянога меха сукню пашыла і паехала. Там маладога лесаруба сустрэла. Чуб, вочы, рукі моцныя... Каханне? Мо і так. Але нічога ні сабе, ні яму не дазваляла. Людзі ж асудзяць. Так, дурніца, дахаты і вярнулася, з капейчынай, але са слязьмі. Пералетавала так-сяк, а ўзімку мясцовы хлопец прапанаваў шлюбам пабрацца. Не прыгажун, але талковы. Так і сышліся. Як і ўсе. Ужо і дзеці нарадзіліся, а ўсё тая чупрына перад вачыма. Ужо і мужык памёр, сын з дачкой даўно па гарадах атабарыліся, а ўсё тыя моцныя рукі сняцца... А вось учора памелася была на градах пакорпацца, хоць і занядужыла зранку, а з крамы суседка бяжыць: «Тэлефануюць табе!» На ўсю вёску адзіны тэлефон – у краме. Паляцела, а сэрца выскоквае: няўжо той лесаруб тэлефануе. Больш няма каму, бо дзеці толькі пазаўчора з адведак з'ехалі... Не, не лесаруб – сын ягоны. Сказаў, што бацька памёр сёння, але паспеў папрасіць, каб сын з беларускай звязаўся, з той, што з памяці ніяк не выгнаць. І вёску запомніў, і нумар тэлефона неяк знайшоў, а патэлефанаваць усё жыццё баяўся... Ажаніўся тады. Як і ўсе. Але памятаў, памятаў, памятаў...

Я запытаўся ў бабулі, ці ёсць яшчэ. Выпілі. Якія тут словы?! Адно толькі нейкая туга скрушная. Вось табе і казачэнька, вось табе і каханне без шчасця. Во якая гісторыя пра Беларусь. Лепей бы мы з начальнікам па палетках гойсалі.

Віно павінна быць ігрыстым, а дзяўчаты – гуллівымі. Толькі тады жыццё – гульба.

А з «ігрыстым» можна і пагуляцца. Зверыўся з аўтарытэтным слоўнікам Кандрата Крапівы года сталінскай смерці: няма такога слова, толькі «пеністы». Не, хлопцы, пеністае віно няхай чэрці п'юць... Ёсць жа ў нас слова «ігрышча». Значыць, і ігрыстаму віну – быць! За ваша здароўе!

У дзяцінстве бацька назваў мяне падпольшчыкам. А здарылася гэта пасля таго, як... Не, уявіце спачатку маю спальню, дзе ледзь месціліся грубка, ложак ды складзеная швейная машына, якая замяняла пісьмовы стол. Ад другога пакоя спальня аддзялялася фіранкамі на вяровачцы. А ў гэтым другім пакоі, адразу за маімі фіранкамі, быў люк у падпол, дзе захоўваліся бульба, слоікі з грыбамі, варэннем і сокамі. Зранку люк адкрываўся: маці брала для кабана бульбу. Вось у гэты адкрыты люк я знянацку пару разоў і даў нырца. Салдацікам. Толькі галава тырчала. Нічога сабе не зламаў, але адчуванне нечаканага, нядоўгага, але не надта прыемнага палёту захаваў назаўжды. Мо таму і не стаў касманаўтам? Падпольшчык – найменне больш пашанотнае.

Успрыняцце эратызму, як і стандарты жаночай прыгажосці, з часам мяняецца. Банальная аксіёма. Але цікава, як пра гэта казалі нашыя пісьменнікі. Янка Брыль, да прыкладу, згадваў пра свае юнацкія хваляванні, калі ўпершыню прачытаў, як Кацюша Маслава (ці ўсё ж Маслова?), пераскокваючы праз лужыну, крыху прыўзняла доўгую – да пят – спадніцу. Можна было ўбачыць туфлік. Астатняе дарабіла неўтаймоўная хлапечая фантазія. А Алесь Пісьмянкоў у «ЛіМе» неяк задумліва распавёў пра маладых крамніц са славутага «Акіяна»: «*У іх нават сасцы пахнуць рыбай...*» Дадумаў ці пераканаўся? А я пасля такіх прызнанняў уявіў Кацюшу, што скача з лужы ў лужыну, спяшаючыся па селядзец у «Акіян». Ніякага эратызму, спрэс – бытавуха.

Мой жывот – гэта сублімацыя адчутага, перажытага ды незразуметага. Інакш кажучы – нястраўнасць сённяшняй беларускай рэчаіснасці... Дык на які алтар яго пакласці? Тут падказваюць, што класці трэба зусім іншае. І не на алтар.

Косця Антановіч маладзейшы за мяне на добрых гадоў дваццаць. Таленавіты. У пошуках журналісцкай праўды разам з ім аб'ездзілі Беларусь уздоўж і ўпоперак. Чаго толькі не было! Аднойчы ў Жлобіне начавалі ў асобных, але аднолькавых гасцінічных нумарах. Вячэралі па завядзёнцы ў мяне. Косця задумліва даследваў шуфляды пад тэлевізарам і знайшоў пачак бясплатных прэзерватываў. Пабег да сябе і, расчараваны, вярнуўся з Біблiяй. Я цярпліва давёў, што ўсё справядліва: маладосць павінна сілкавацца магутнай тэорыяй, а сталасць – адно толькі аднастайнай практыкай.

Я сумую па тваім голасе. Я пакуль не забыўся на яго. Ён гучыць знянацку: у сне, без сну, з любой нагоды. Але толькі ў памяці. Не, спачатку была ява – ты мне тэлефанавала ў розныя канцы Беларусі: «Я сумую па тваім голасе. Калі вернешся?» Я злаваўся, нерваваў, бо званкі заміналі працаваць. Яны засталіся ў маім дыктафоне, накладзеныя на шматлікія інтэрв'ю. Потым свет перакуліўся. Самае страшэннае – выдаляць з тэлефона нумары тых, хто ўжо ніколі не патэлефануе... Цяпер я сумую па тваім голасе.

Вы ўяўляеце п'янага ўшчэнт Вялікага Вітаўта? Я – таксама. Беларусь – краіна вынішчанай шляхты. Вынішчалі стагоддзямі. І што цяпер? Большасць з тых, хто застаўся, бяздумна п'е. Шматлікія бібліятэкары, з якімі пастаянна стасункуюся па ўсёй Беларусі, сцвярджаюць ці не ў адзін голас: «Адны з асноўных нашых чытачоў – п'янтосы». Выснова жахлівая: Беларусь – краіна, дзе калісь інтэлігентныя людзі не змаглі сябе рэалізаваць і пераўтварыліся ў махровых маргіналаў. Адзін з доказаў таму – састарэлы алкаголік Віця, што на лаве ля нашага пад'езда чытае сёння «Историю государства российского». Падыдзіце, папытайце, ён у ахвотку распавядзе вам пра навуковую дасведчанасць Карамзіна. Толькі не спрачайцеся, бо абмацюкае.

Мая «пісучая» справа ўсяго мяне не займае. Застаецца час на кніжкі, на тое, каб штосьці маляваць і штосьці спяваць пад гітару. Але і гэта – факультатыўна, пахапкам, для сябе і ўжо несур'ёзна па той прычыне, што ў лік лепшых не здолею, не паспею. Ёсць цвёрдая ўпэўненасць у тым, што Бог яшчэ трывае мяне на гэтай зямлі толькі дзеля двух маіх сыноў. Я – з імі. Не побач, не паміж, а – вакол. Гэткім вязьмом, каб не расцерушыла. Пісьмянкоў сваіх сыноў называў самым лепшым з таго, што стварыў – двухтомным поўным зборам твораў. А я сваё ўсё рэдагую, рэдагую...

Ты паміраў, калі ліхаманіла Карабах. А што б ты сказаў пра сённяшнюю вайну на Украіне? Сапраўды, гэта нічым не патлумачыш. «*Всюди буйно квітне черемшина...*» Ты вельмі любіў спяваць з кіеўскімі сябрамі, насіць украінскую вышыванку. Бацька, я пераняў тваю любоў да ўкраінцаў. Слухаю «Океан Ельзи». Ведаю, што такое «*майбутня*». А вышыванкі ў нашай моладзі – цяпер таксама ў модзе. Яе выклікала вайна. Раптам амаль усім захацелася ўвобмірг стаць нацыяй, бо разам лягчэй супрацьстаяць злу. На жаль, народ у нацыю імгненна не ператвараецца. Нацыянальнае мацуецца стагоддзямі. Нас жа вякамі закопвалі ў зямны шар. Нішчылі і штыком, і словам, не беларускім. Засталося тое, што засталося. Але мы ачуняем. Ты сам казаў, што мой клён узбуяў з безнадзейнага кволага саджанца. Проста ты дбайна за ім даглядаў.

Што яшчэ? Я па-ранейшаму палю, хоць урачы і забараняюць. Не хвалюйся, пачуваю сябе добра. Амаль не п'ю. Па-ранейшаму люблю журналісцкія камандзіроўкі і Беларусь. Калі б не гэта, адчуваў бы сябе горш. З сынамі ўсё добра. Яны нядаўна былі ў Ветцы і прыходзілі да тваёй магілы. Я заставаўся тут, у Мінску, але быў шчаслівы. Ты разумееш, пра што я. Мае сыны даўно сталі

мужчынамі, але пакуль – не бацькамі. У іх яшчэ няма той трывалай повязі, што існуе паміж роўнымі – табой і мной. Я – твой працяг. Ты – мая сіла. Яны неўзабаве гэта зразумеюць. Абяцаю, што так усё і будзе.

Пра нацыянальнае пытанне. З самым галоўным беларускім татарынам Ібрагімам Канапацкім я пазнаёміўся ў «Родным слове». Ён спачатку да мяне ўважліва прыглядаўся, а потым упэўнена зазначыў: «Наш! Татарын!» І гэтым нададзеным званнем я ганаруся цяпер незвычайна.

Упершыню з татарынам я пазнаёміўся ў дзевятнаццаць гадоў, пад Архангельскам, у леспрамгасе. Ён быў кіраўніком брыгады па раскражоўцы драўніны, я – шараговым рабочым. Калі ў мяне штосьці не атрымлівалася, брыгадзір крычаў: «Жэнька, білад!» У адказ я лаяўся па-беларуску. Мы не маглі пасябраваць па вызначэнні.

На Валожыншчыне, у мястэчку Вішнева я пазнаёміўся з чарговым прадстаўніком татарскай нацыянальнасці. Ён мяне здзівіў тым, што дзеці ягоныя, аказваецца, вучацца ў беларускай школцы і беларускую мову ведаюць цудоўна. «Але і на сваю родную не забываюцца», – дадаў з гонарам. Было мне тады за трыццаць, і я зразумеў, што беларускі татарын – справа адмысловая і родная.

Праз дзесяць гадоў я пазнаёміўся з Ібрагімам Барысавічам. Так я і стаў «пазаштатным» татарынам... Тут у мяне маленькі лірычны водступ.

У юнацтве зламаў нос. У выніку гэтай ненаўмыснай пластычнай аперацыі мой левы профіль выдае на габрэя. А правы ў нацыянальным плане быў доўгі час неідэнтыфікаваны. Канапацкі, які, напэўна, справа да мяне і падышоў, імгненна расставіў усе кропкі над «ё». Нацыянальных комплексаў стала менш. Паменелі яны і пасля таго, калі я ўрэшце пабываў на радзіме ўсіх Рагіных – у гарпасёлку Церахоўка, што ў Добрушскім раёне. Дарэчы, непадалёк ад Церахоўкі месціцца вёска Карма, дзе нарадзіўся Іван Пятровіч Шамякін. Але гэта так, да слова... Дык вось высветліў я, што сярод церахоўскіх цёзкаў па прозвішчу і дальніх сваякоў габрэяў няма, спрэс – беларусы. Левы профіль хлусіць (на тое ён і левы). Інакш плёскаўся б я цяпер у Іярдане. Але ж не... Да месца сказаць, што дзявочае прозвішча мамы – Дзям'янава. А гэта ўжо ўплыў стараверскай Веткаўшчыны. Так што на пытанне: «Хто ты па нацыянальнасці?» – заўжды адказваю: «Беларус старой веры».

А маё «мангола-татарства» па сумяшчэнні – ад дабрыні душы Ібрагіма Канапацкага. Нічога не маю супраць. Урэшце, хочацца іншым разам адчуць сябе часткай неўтаймоўнай Арды, якая пляваць хацела на нейкую дурнотную беларускую талерантнасць.

Маімі першымі журналісцкімі настаўнікамі ў Ветцы сталі два заімшэлыя пенсіянеры. Цякучка ў рэдакцыі была страшэнная. Вось партыя і кінула на прарыў вольных дзядоў з досведам працы ў «Гомельскай праўдзе». Яны мяне называлі «цаліна», няшчадна палілі махорку, пілі пладова-ягаднае і вучылі журналісцкаму майстэрству. Цаліна ўздымалася няпроста. Адзін настойваў: «Тэлеграфны стыль... Толькі кароткія рубленыя фразы». Другі нудна даводзіў пра вялікую карысць бясконцых складаназалежных і складаназлучаных сказаў. Ці не таму мае тэксты па гучанні нагадваюць сёння перастрэлку адчайнага несупыннага кулямётчыка і скваптнага на патроны стралка з вінтоўкі? Настаўнікаў я слухаўся, бегаў ім па віно, за тры рублі купіў у іх кніжку «Жанры савецкай газеты», якая каштавала, падаецца, капеек сорак... Кнігу я ўрэшце згубіў. І не шкадую. Бо даўно ўжо зразумеў: журналістам я застаюся тады, калі трэба *расказаць*, а ў публіцыста ператвараюся, калі карціць *сказаць*. Калі сумяшчаеш першае з другім і робіш гэта шчыра, атрымліваецца эсэістыка. Вось і ўсе мае газетна-часопісныя жанры. Мне хапае.

# Казкі майго горада

### *Новыя выданні на кніжных паліцах «Дзеяслова»*

**Рыгор Барадулін. Дзённікі і запісы. Выпуск 2. 1970-1978. – Мінск, Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Бацькаўшчыны. Людзі Беларусі: кн. 3). – 416 с.**




У другім выпуску дзённікаў і запісаў народнага паэта Беларусі Рыгора Барадуліна сабраныя рабочыя штодзённікі, запісы шматлікіх паездак па беларускіх гарадах і вёсках, нататкі ў часе вандровак па рэспубліках былога Савецкага Саюза, а таксама зацемкі пра ўбачанае ў Даніі, Фінляндыі і Швецыі.

У кнігу ўвайшлі таксама раней не друкаваныя ў зборніках вершы, сяброўскія эпіграмы, дарчыя рыфмаваныя надпісы на кнігах, а таксама асобныя вершы, прысвечаныя самому дзядзьку Рыгору, у тым ліку фотаздымкі, малюнкі сяброў і новых знаёмцаў.

У кнізе 1970-я для Рыгора Барадуліна, як адзначае ўкладальніца кнігі і аўтарка прадмовы да яе Наталля Давыдзенка, – “гады неўпрыкмет пасталелай маладосці з яе гарачымі жаданнямі, прагай новых уражанняў і сустрэч, душэўных зрываў і напружанай творчай працы”. У 1971 годзе не стала самага роднага і блізкага чалавека для Рыгора Іванавіча — яго маці. У гэты час паэт піша паэму ў памяць пра яе “Бяроза з лістам гаварыла...”

Выданне пабачыла свет дзякуючы супольным намаганням МГА «ЗБС “Бацькаўшчына”» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».

**Васіль Жуковіч. Арабінавая ноч. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 66). – 192 с.**




Васіль Жуковіч, які часцей выступае як паэт, выдаў кнігу прозы. “Арабінавая ноч” заснаваная на жыццёвым досведзе аўтара. Найбольш старонак тут прысвечана апавяданням побытавага характару, але празаік не канцэнтруецца на жыцці пэўнай вёскі альбо на апісанні пэўнага часу: у творах падаюцца эпізоды з даваеннага жыцця заходнебеларускай вёскі, гады нямецкай акупацыі і вывазу беларусаў у Нямеччыну, сталінскія гады ў Мінску, моладзь шасцідзясятых, а таксама і нашыя часы 2000-х.

Жанрава “Арабінавая ноч” вызначаецца разнастайнасцю: у кнізе прадстаўленыя і творы малафарматныя – абразкі і апавяданні, вылучаныя ў асобны раздзел, – і больш аб’ёмная аповесць “Пасланне ў іншасвет, альбо Развагі максімаліста”. Яна пабудаваная як ліст лірычнага героя да памерлага дзядулі, у лісце раскрываецца ўвесь пакручасты лёс беларуса ў час гістарычных выпрабаванняў для краіны: няпростыя сямейныя стасункі, уцёкі з выгнання і працы ў нямецкага баўэра і вяртанне на Радзіму.




**Казкі майго горада: зборнік твораў выпускнікоў Школы маладога пісьменніка (2013-2014). – Мінск: Кнігазбор, 2015. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 65). – 120 с.**

У адрозненне ад паэтычна-празаічнага «Параходзіка сучаснасці» – папярэдняй анталогіі студэнтаў Школы маладога пісьменніка, якая чацвёрты год працуе пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў – «Казкі майго горада» змяшчаюць толькі кароткую прозу. Сярод аўтараў – Артур Камароўскі, Аляксей Карпека, Андрэй Лазуткін, Дар'я Латышава, Антон Рудак, Ксенія Шталенкова ды іншыя (усяго 16 выпускнікоў Школы). Творы пісаліся падчас навучання ў літаратурных майстэрнях Школы.

Штомесяц практычныя заняткі ў Школе праводзілі пісьменніцы Наталка Бабіна, Людміла Рублеўская і літаратуразнаўца Ганна Бутырчык. Таксама ў межах майстар-класаў і лекцыяў навучэнцы сустракаліся з запрошанымі гасцямі – беларускімі і замежнымі пісьменнікамі і навукоўцамі. Каардынавалі працу Школы Юля Цімафеева і Алена Казлова.




**Алесь Пашкевіч. Рух. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 120 с.**

Твор пра вынаходнікаў і нафтамагнатаў, паўстанцаў і цароў, разведчыкаў і здраднікаў, а найперш — пра тых, хто шчыра любіць сваю радзіму. Алесь Пашкевіч прадстаўляе аповесць пра пачатак дызельнай эпохі. Ва ўступным слове да выдання аўтар прызнаецца, што меў намер "*выпісаць рэальнасць, якой, магчыма, і не было, але якая... нараджаецца ва ўяве чытача ці хаця б самога аўтара*". Так, балансуючы паміж гісторыямі рэальных персанажаў, якія жылі сто год таму, і мастацкім вымыслам, пісьменнік стварае ўнікальны свет.

Аповесць, з якой чытачы "Дзеяслова" маглі пазнаёміцца ў 73-м нумары часопіса, па сведчанні крытыкаў, *"зацягвае і не адпускае да самага фіналу"*, бо *"твор напісаны яснай літаратурнай мовай, рухавым незамыленым стылем"* і мае добра распрацаваны індустрыяльны сюжэт з некалькімі паралельнымі лініямі. Зразумела, ёсць сярод іх і гісторыя кахання, і нацыянальная ідэя, блізкая кожнаму беларусу. Дык чытайма!




**Справа: альманах: вып. 2 – 2015 / Гал. рэдактар А. Наварыч. – Мінск: Белпрынт: Смэлтак, 2015. – 248 с.**

Пабачыў свет другі выпуск альманаха "Справа" Таварыства ўкраінскай літаратуры пры Саюзе беларускіх пісьменнікаў. Нумар змяшчае тэксты на беларускай і ўкраінскай мовах, а таксама на заходнепалескіх гаворках. Аўтары "Справы" – беларускія і ўкраінскія пісьменнікі, як прызнаныя класікі, так і маладыя літаратары. Альманах прадстаўляе плён узаемных беларуска-ўкраінскіх перакладаў. Напрыклад, Максім Баравік прапануе на беларускай мове вершы ўкраінца Уладзіміра Калікі, а кіеўскі навуковец Вячаслаў Лявіцкі – пераклады з паэзіі Веры Бурлак, Міхася Скоблы і Андрэя Хадановіча. Цэлую нізку вершаў Антона Рудака па-ўкраінску перастварыў беларускі лінгвіст Алег Жлутка.

У раздзеле "Гісторыя" Генадзь Сагановіч аналізуе мову актавых кніг і паўсядзённых зносін Берасцейшчыны. У кампаратыўным ключы выступаюць Вікторыя Міхнюк (аналізуе сыходжанні турэмна-лагернай прозы Францішка Аляхновіча і Івана Багранага) і Лілія Лаўрыновіч (параўноўвае паэзію Дануты Бічэль-Загнетавай і Галіны Яструбецкай).

Альманах таксама друкуе мовазнаўчыя, мемуарныя, публіцыстычныя артыкулы па тэматыцы заходнепалескага памежжа і сучаснай сітуацыі ва Украіне. Цешымся за калегаў і чытачоў і чакаем працягу!

# ЗМЕСТ часопіса "Дзеяслоў" №1-6 (74-79) за 2015 год

***Дэбют***



***Пераклады***



***Юбілеі. Памяць. Спадчына***



***Дзённікі. Запісы. Згадкі***



***Эсэ***



***Жыццяпіс***

# Нашыя аўтары

**Арлоў Уладзімер** — празаік, паэт, эсэіст, гісторык. Лаўрэат літаратурных прэмій, сярод якіх прэмія імя Францішка Багушэвіча (1996), «Гліняны Вялес» (1998), «Еўрапейскі паэт свабоды» (2010). Аўтар кніг «Добры дзень, мая шыпшына», «Дзень, калі ўпала страла», «Рэквіем для бензапілы», «Фаўна сноў», «Сны імператара», «Краіна Беларусь», «Ордэн Белай мышы», «Адкусі галаву вароне», «Час чумы», «Сланы Ганібала» і інш. Нарадзіўся ў 1953 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Багадзяж Мікола** — гісторык. Аўтар кнігі «Сыны зямлі беларускай». Сумесна з Ірынай Масляніцынай напісаў кнігі «Слава і няслаўе», «Радзівілы — нясвіжскія каралі», «Радзівілы ў эпоху інтрыг і авантур» і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў вёсцы Траянаўка на Барысаўшчыне. Жыве ў Мінску.

**Валасюк Лявон** – паэт, мастак. Аўтар кніг вершаў «Блики дня», «Краски души», «Под знаком Стрельца», «Леаніды», «Чырвоная вежа», «Познія сны». Нарадзіўся ў 1955 годзе ў вёсцы Песцянькі на Кобрыншчыне. Жыве ў Берасці.

**Васючэнка Пятро** – празаік, драматург, літаратуразнаўца. Лаўрэат літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес» (2004).Аўтар кніг «Драматургія і час», «Белы мурашнік», «Прыгоды аднаго губашлёпа», «Драматургічная спадчына Янкі Купалы: Вопыт сучаснага прачытання», «Піраміда Ліннея», «Ад тэксту да хранатопа» і інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Галубовіч Леанід** — паэт, празаік, крытык. Аўтар кніг «Таемнасць агню», «Споведзь бяссоннай душы», «Зацемкі з левай кішэні», «апошнія вершы леаніда галубовіча», «Сыс і кулуары», «З гэтага свету», «Поўня». Нарадзіўся ў 1950 годзе ў вёсцы Вароніна на Клеччыне. Жыве ў Мінску.

**Гардзіенка Наталля** — гісторык. Галоўны рэдактар альманаха «Запісы БІНіМ». Аўтарка кніг «Беларусы ў Аўстраліі», «Беларусы ў Вялікабрытаніі», «Рада БНР 1947–1970. Падзеі. Дакументы. Асобы» (разам з Л. Юрэвічам). Нарадзілася ў 1977 годзе ў Мінску, дзе і жыве.

**Гілевіч Ніл** — народны паэт Беларусі (1991). Заслужаны дзеяч навукі Беларусі (1980). Прафесар. Паэт, драматург, перакладчык, фалькларыст, літаратуразнаўца. Лаўрэат Дзяржаўнай прэміі імя Янкі Купалы (1980). Аўтар кніг «Песня ў дарогу», «Прадвесне ідзе па зямлі», «Перазовы», «Паэтыка беларускай народнай лірыкі», «Святлынь», «Родныя дзеці», «І чую я голас...», «Замова ад страху» і інш. Нарадзіўся ў 1931 годзе ў вёсцы Слабада на Лагойшчыне. Жыве ў Мінску.

**Грышчук Наста** – крытык. Вучылася ў Інстытуце журналістыкі БДУ. Працуе ў штотыднёвіку «Літаратура і мастацтва». Нарадзілася ў вёсцы Стаі Лепельскага раёна. Жыве ў Мінску.

**Данілевіч Валерыя** – паэтка. Скончыла Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт у 2015 годзе. Нарадзілася ў 1992 годзе ў Гарадзенскай вобласці. Жыве ў Мінску.

**Дзмітрыеў Дзмітры** – паэт. Удзельнік выстаў візуальнай паэзіі «Worttandem» (Baden, Швейцарыя) і «Wort» (Aarau, Швейцарыя). Лаўрэат спецпрэміі конкурсу «Дэбют» (Мінск, 2014). Аўтар кніг «Полое собрание сочинений», «Ліра спіралі», «Эффект наблюдателя». Нарадзіўся ў 1978 годзе ў Магілёве, дзе і жыве.

**Дранько-Майсюк Леанід** — паэт, празаік, эсэіст, перакладчык. Аўтар кніг «Вандроўнік», «Тут», «Над пляцам», «Акропаль», «Стомленасць Парыжам», «Гаспода», «Цацачная крама», «Анёлак і я», «Кніга для спадарыні Эл» і інш. Нарадзіўся ў 1957 годзе ў Давыд-Гарадку. Жыве ў Мінску.

**Кавыль Міхась** (сапр. **Лешчанка Язэп)** – паэт. Нарадзіўся ў 1915 годзе ў вёсцы Покаршаў на Случчыне. Аўтар кніг паэзіі «Ростань», «Пад зоркамі белымі», «Першая рана», «Цяжкія думы», «Міжагнёўе»; драматургіі «Лясная казка»; успамінаў «Казённы дом і казённая дарога». Жыве ў Саўт-Рыверы (ЗША).

**Кажадуб Алесь** – празаік. Аўтар кніг «Гарадок», «Размова», «Лесавік», «Дарога на замчышча» і інш. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў Ганцавічах. Жыве ў Маскве.

**Календа Сяргей** – празаік, паэт. Рэдактар часопіса «Макулатура». Аўтар кніг «Помнік атручаным людзям», «Казкі: гісторыі (не) пра нас», «Іржавы пакой з белымі шпалерамі», «Трохлітровая проза», «Кантынентальны сняданак». Лаўрэат конкурсу імя Ларысы Геніюш (2010). Фіналіст літаратурнай прэміі «Экслібрыс» (2012, 2013). Нарадзіўся ў 1985 годзе ў Капылі. Жыве ў Мінску.

**Клімянкоў Іван** — празаік, драматург. Аўтар кнігі «Сеанс гіпнозу», аповесцяў «Званая вячэра», «Паядынак (Фантазія на шахматную тэму)». Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Хляўно на Кармяншчыне. Жыве ў Мінску.

**Ілля Лапато** – журналіст. Скончыў факультэт журналістыкі БДУ, магістр філалогіі. Стажыраваўся ў нямецкім Бундэстагу і выдавецтве Axel Springer. Нарадзіўся ў 1989 годзе на Мядзельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Лапцік Вячаслаў** – празаік, драматург, публіцыст. Закончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Аўтар кніг «Паядынак у ціхай затоцы», «Мой сум, Нарочча...», «Хвалі гамоняць пра легенды», «Нарач горка плача», п'есы «Аўчар» і «Гапон і Кацярына» ішлі на сцэнах драматычных тэатраў краіны. Нарадзіўся ў 1952 годзе ў вёсцы Сіманы на Мядзельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Лукша Міра** – паэтка, празаік. Аўтарка кніг прозы «Дзікі птах верабей», «Выспа», «Гісторыі з белага свету»; паэзіі «Замова», «Ёсьць», «Падарункі» і інш. Нарадзілася ў 1958 годзе ў Гайнаўцы на Беласточчыне. Жыве ў Беластоку.

**Ляхновіч Павел** – празаік, журналіст, перакладчык. Аўтар кніг «Пачатак сезона», «Зялёны дуб». Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Сярэдняя на Міншчыне. Жыве ў Пінску.

**Масляніцына Ірына** — гісторык. Сумесна з Міколам Багадзяжам напісала кнігі «Слава і няслаўе», «Радзівілы – нясвіжскія каралі», «Радзівілы ў эпоху інтрыг і авантур» і інш. Нарадзілася ў 1965 годзе ў горадзе Пачынак на Смаленшчыне (Расія). Жыве ў Мінску.

**Мельцарэк Тамаш** – паэт, перакладчык, Сябра Асацыяцыі польскіх пісьменнікаў на чужыне. Удзельнік Лонданскай мастацкай групы КаМПэ. Лаўрэат літаратурнай прэміі імя Яцка Бэрэзіна (2013), прэміі Залатая Сярэдзіна Паэзіі імя Эндру Фрыза. Нарадзіўся ў 1974 годзе ў Шчэціну (Польшча). Жыве ў Лондане.

**Паплаўскі Алесь** – паэт, празаік. Аўтар кніг «Спынены лістапад», «Тэрыторыя скразнякоў», «Незваротнасць» і інш. Нарадзіўся ў 1958 годзе ў вёсцы Мазуры на Кобрыншчыне. Жыве ў Брэсце.

**Пацюпа Юры** — паэт, філолаг, крытык. Аўтар кніг «Ноч», «Сабака», «Анонс. Квадрат тэкстаў». Нарадзіўся ў 1965 годзе ў Полацку. Жыве ў Мінску.

**Рагін Яўген** — журналіст, публіцыст. Доўгі час быў супрацоўнікам тыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Нарадзіўся ў 1960 годзе ў Ветцы на Гомельшчыне. Жыве ў Мінску.

**Рыжкоў Віталь** — паэт. Аўтар кнігі паэзіі «Дзверы, замкнёныя на ключы», лаўрэат прэміі «Дэбют» імя Максіма Багдановіча (2010), прэміі «Залаты апостраф» часопіса »Дзеяслоў» (2008), конкурсаў беларускага ПЭН-цэнтру да стагоддзя газеты «Наша Ніва» (2006) і імя Карласа Шэрмана (2009). Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Магілёве. Жыве ў Мінску.

**Сіўчыкаў Уладзімір** — празаік, публіцыст, перакладчык, драматург, мастак. Аўтар кніг «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Высакосны год», «Бювар», «Уладзевы гісторыі», а таксама альбомаў «Жодзінцы» і «Рыцары Пагоні і Арла» (сумесна з А. Марачкіным). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

**Тарайкевіч Маргарыта** – паэтка, мастак. Магістр сацыяльна-педагагічных навук. Удзельнічала ў выставах у Мінску і ў Брусэлі. Нарадзілася ў Мінску ў 1984 годзе. Жыве ў Брусэлі.

**Сіўчыкаў Уладзімір** — паэт, празаік, публіцыст, перакладчык, драматург, мастак. Аўтар кніг «Гульня ў тастамант», «Лісты да брата», «Высакосны год», «Бювар», «Уладзевы гісторыі», а таксама альбомаў «Жодзінцы» і «Рыцары Пагоні і Арла» (сумесна з А. Марачкіным). Нарадзіўся ў 1958 годзе ў Жодзіне. Жыве ў Мінску.

**Чарнякевіч Ціхан** – крытык, эсэіст. Аўтар бібліяграфічнага даведніка «Пераклады твораў замежнай літаратуры ў часопісе „Крыніца" (1988-2003)», укладальнік і каментатар кніг «Максім Багдановіч: вядомы і невядомы», «Творы» Лявона Савёнка (разам з Л. Юрэвічам). Нарадзіўся ў 1986 годзе ў Пінску. Жыве ў Радашковічах.

**Шапран Сяргей** — журналіст, публіцыст. Аўтар шматлікіх інтэрв'ю з дзеячамі беларускай культуры, літаратуры, мастацтва, якія друкаваліся ў газетах «Знамя юности», «Советская молодежь» (Рыга), «Белорусская деловая газета» і інш. Аўтар кніг «Васіль Быкаў. Гісторыя жыцця ў дакументах, публікацыях, успамінах, лістах», «Тры мяхі дзядзькі Рыгора, альбо Сам-насам з Барадуліным». Нарадзіўся ў 1968 годзе ў Рызе. Жыве ў Мінску.

# Contents

## Слова ад «Дзеяслова»

***Шаноўныя чытачы!***

На «Дзеяслоў» ***можна падпісацца***
ў любым паштовым аддзяленні Беларусі.

**Наш індэкс – 74813** (для індывідуальных падпісчыкаў),
**– 748132** (для ведамаснай падпіскі).

Чытайце «Дзеяслоў» таксама ў Інтэрнэце: **www.dziejaslou.by**




Да ведама аўтараў:
рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Рэдакцыя не нясе адказнасці
за выкладзеныя ў аўтарскіх тэкстах факты.

Пры перадруку
спасылка на «Дзеяслоў» абавязковая.

У «Дзеяслове» скарыстаныя фотаздымкі:
Юрыя Дзядзінкіна, Анатоля Клешчука, Яўгена Коктыша,
Уладзіміра Крука, Глеба Лабадзенкі, Віктара Стралкоўскага,
Сяргея Шапрана, з інтэрнэт-крыніцаў і архіва рэдакцыі.